Г. Ф. ЮРЧАНКА

# СУЧАСНАЯ НАРОДНАЯ ЛЕКСІКА

## З гаворкі Мсціслаўшчыны

## А — Н




МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1993

ББК 81.2 Бел-4
Ю 83
УДК 808.26-087 (038)

Рэдактар
канд. філал. навук А. А. Крывіцкі

Рэцэнзенты
чл.-кар. АН РБ А. І. Падлужны
канд. філал. навук І. Я. Яшкін

**Юрчанка Г. Ф.**
Ю 83 Сучасная народная лексіка: З гаворкі Мсціслаўшчыны: Слоўн. А—Н.— Мн.: Навука і тэхніка, 1993.— 304 с.

ISBN 5-343-01296-5.

У слоўнік уключана дыялектная лексіка, сабраная ў апошнія дзесяцігоддзі. У кожным слоўнікавым артыкуле даецца тлумачэнне слова, прыводзяцца неабходныя граматычныя і стылістычныя паметы. Шырока паказана слова- і формаўтваральная сістэма гаворкі. Усе словы забяспечаны ілюстрацыйным матэрыялам.

Адрасуецца мовазнаўцам, пісьменнікам, журналістам, выкладчыкам і студэнтам філалагічных факультэтаў ВНУ.

**Ю** $\frac{4602030000-135}{М 316(03)-93}$ **87—93**

**ББК 81.2 Бел-4**

ISBN 5-343-01296-5

*Светлай памяці*
*брата Якава*
*прысвячаецца*

# Прадмова

Слоўнік з'яўляецца працягам збораў дыялектнай лексікі Мсціслаўшчыны, надрукаваных кнігамі і асобнымі падборкамі ў 60—80-х гадах. Змешчаная ў ім лексіка сабрана на працягу апошніх чатырох дзесяцігоддзяў. Спосаб падачы матэрыялу застаецца той жа, што і ў папярэдніх слоўніках,— алфавітна-гнездавы камбінаваны. Асобнымі гнёздамі прыводзяцца адназначныя словы (*глыжжа, глыззе; клібіць, клюбіць, клябіць; надруга, надруганне, надругацельства*), аднакарэнныя назоўнікі мужчынскага і жаночага роду, якія абазначаюць асобу па дзеянню (*адгробшчык, адгробшчыца; мірэннік, мірэнніца*), дзеясловы незаконнага і закончанага трывання, незалежныя і залежныя дзеясловы, а таксама дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі да іх (*абшчычаць, абшчычываць, абшчычацца, абшчычывацца, абшчыціць, абшчыціцца, абшчычаный, абшчычоный, абшчыцёмшы*), назоўнікі, прыметнікі і прыслоўі са значэннем памяншальнасці, узмацняльнасці, павелічальнасці (*барвус, барвусок, барвусіна, барвусюга, барвусішча; веразубый, веразубенькій; метна, метненька*).

Словы ў гняздзе тлумачацца шляхам падбору літаратурных адпаведнікаў або апісальна. Без тлумачэння падаюцца назоўнікі жаночага роду пры адпаведных назоўніках мужчынскага роду, ацэначныя формы назоўнікаў, прыметнікаў, прыслоўяў, а таксама адназначныя дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі да адпаведных дзеясловаў.

Рэестравыя словы даюцца ў літаратурным запісу. У адзінкавых выпадках (*асёл, бык, вымя, лебяда*) у якасці рэестравай пададзена нарматыўная літаратурная форма слова, паколькі ад яе ўзнікла некалькі дыялектных утварэнняў. Прыводзіцца некалькі слоў, зарэгістраваных у ранейшых выпусках. Гэта зроблена ў тых выпадках, калі ў словах выяўлены дадаткова новыя значэнні. Асобныя

словы ў гаворцы маюць іншае значэнне, чым у літаратурнай мове *(аднагодак)*.

У адрозненне ад папярэдніх выданняў, тут часцей раскрываецца метафарычны бок мясцовай лексікі, пераносныя значэнні слоў. Гэта выкарыстанне слоў не па прамому іх прызначэнню, а зыходзячы з пэўнай аналогіі, падабенства таго, што слова абазначае звычайна, з тым, да чаго яно дастасоўваецца. У такіх выпадках прамое значэнне не падаецца, а толькі пераноснае з адпаведнай паметай.

Ілюстрацыйны матэрыял прыводзіцца ў спрошчанай транскрыпцыі. У прыкладах адлюстраваны асноўныя асаблівасці гаворкі. Паказваецца ўжыванне *р* мяккага *(абветрiць, грязь, дренна, заўтря, трілюда)*, досыць частае адпадзенне пачатковага галоснага *а* перад словам, якое заканчваецца на галосны,— *на* (а)*хвіцэра, ні* (а)*д-дыхалі, ні* (а)*стаецца, ні* (а)*тказывай, па* (а)*дном*. Націскі па тэхнічных прычынах у рэестры не пазначаюцца, а толькі ў ілюстрацыйных прыкладах. Не пазначаецца націск над складамі з *о, ё, э, е,* паколькі гэтыя галосныя ў гаворцы бываюць толькі пад націскам.

Слоўнік забяспечан стылістычнымі паметамі.

# Спіс скарачэнняў

*Абразл.*— абразлівае, *асудж.*— асуджальнае, *выкл.*— выклічнік, *выш. ст. пар.*— вышэйшая ступень параўнання, *груб.*— грубае, *гумар.*— гумарыстычнае, *дзеепрым.*— дзеепрыметнік, *дзеепрысл.*— дзеепрыслоўе, *дзіц.*— з дзіцячай лексікі, *ж.*— жаночы род, *жарг.* — жаргоннае, *жарт.*— жартоўнае, *займ.*— займеннік, *зак.*— закончанае трыванне, *зал.-бессуб'ект.*— залежна-бессуб'ектная форма, *зб.*— зборны назоўнік, *звыч.*— звычайна, *зл.*— злучнік, *зневаж.*— зневажальнае, *зніж.*— зніжальнае, *інш.*— іншае, *іран.*— іранічнае, *ласк.*— ласкальнае, *ліч.*— лічэбнік, *м.*— мужчынскі род, *метаф.*— метафарычнае, *мн.*— множны лік, *н.*— ніякі род, *-н.*— небудзь, *неадабр.*— неадабральнае, *незак.*— незакончанае трыванне, *павеліч.*— павелічальнае, *памянш.*— памяншальнае, *перан.*— пераноснае, *прым.*— прыметнік, *прысл.*— прыслоўе, *прыназ.*— прыназоўнік, *рэдкаўж.*— рэдкаўжывальнае, *субст.*— субстантыўны, *узмацн.*— узмацняльнае, *узнёсл.*— узнёслае, *часц.*— часцей, *экспр.*— экспрэсіўнае, *эмац.*— эмацыянальнае.

# А

АБАБРАТЫЙ *дзеепрым.* 1. Абабраны. *Абыбра́тыя яблыкі цэлы, а ны яблынкых падмёрзьлі, ня дужа, ну то там, то там бачок мяккій. Абыбра́тыя квасоля можыць і ў струках пыліжаць. 2 перан.* Абкрадзены, аграблены. *А ты думыіш, ну хутурах мёд быў, вун Сідарёнкывы с хаты выскычылі абыбра́тыя дый кукуюць.*

АБАЗЛЕННЕ, АБАЗЛЕНІЕ, АБАЗЛЯННЕ, АБАЗЛЯНІЕ *н.* Раззлаванасць, раздражненне. *Аткуль у яго столька абазьленьня ны Шаўцовых, яны нічога яму такога ня зьдзелылі. Большы ўсяго у іх було абазьленія ны Грячышкіных. У Зьмітрыка даўно абызьля́ньня, ён толька віду ні пыдывай. Я б ні падумыў, што ў іх такоя абызьля́нія ну Кузьмінят.*

АБАЗЛЯЦЬ *незак.* Уводзіць у злосць, раздражненне. *Калі яго абызьля́іш, ён хужы становіцца, луччы ня трогыць чорта.* АБАЗЛЯЦЦА *незак.* Рабіцца раззлаваным, раздражненым. *Увідзіла, што стаў абызьля́цца, я скарей шашкі ў мяшкі ды аттуліцька.*

АБАЛДЗЯНЕННЕ *н.* Ачмурэнне, затлум. *Усё дно, як на етыга мальца абылдзяненьня найшло: а, а,— нічога ні рызьбярецца.*

АБАЛДЗЯНЕЦЬ, АБАЛДЗЯНЕЦЦА *зак.* Ачмурэць, затлуміцца. *Ён гаворіць пры Хадоску, а я абылдзянеў, ніяк ні рызьбяруся, пры якую Хадоску тріл́юдзіць. У такой тлумішчы ня дзіва абылдзянецца.* АБАЛДЗЯНЕЛЫЙ *дзеепрым. Трахім ходзіць якей-то абылдзянелый, нічога зь ім ні дыгаворісься.*

АБАМШЫЦЬ *зак.* Пракласці мохам. *Крепка абамшыў хату, у такую мароз ня ўлезіць.* АБАМШЫЦЦА *зак.* Пракласціся мохам. *Не, ня дужа ў цябе абамшылыся, і няроўна ты, знаць, мох клаў.* АБАМШОНЫЙ *дзеепрым. У яго клець абамшона, як хата, пы-хызяйску зьдзелына.* АБАМШОМШЫ *дзеепрысл. Ладна абамшомшы, мароз ні прыбярецца, а кылі зьдзелыіш цяп-ляп, будзіць халодна.*

АБАПРАЦЬ *зак. перан.* Пабіць. *Трахім ні пысьцісьняіцца і куму аппярець, дужа злаўредный чылавек.*

АБАРВАННІК *м.* Абадранец. *Апусьціўся, аптріпаўся, абырвáньнікым ходзіць, як толька яму ня стыдна.* АБАРВАННІЦА *ж. Абырвáньніца ты, якей мушчына с табою ужывець!*

АБАРВЫВАННЕ *н.* 1. Зрыванне (пладоў). *Посьлі іх абáрвывыньня ны яблынкі ні яблычка ні астáлыся.* 2. Абтропванне. *Ён і абáрвывыньня ні стыдзіцца, тряпку узапрець на плечы і ходзіць.*

АБАРОТЛІВА *прысл.* Энергічна, спрытна. *Тут нада було абаротліва зьдзелыць, а ў яго такея хваткі німа.*

АБАРОЦІСТАСЦЬ *ж.* Энергічнасць, спрыт. *Каб табе яго абароцістысьць, ато дай пысяджу, пыгляджу, што будуць другея дзелыць.*

АББІБАЦЬ, АББІБКАЦЬ *зак. эмац.* Абысці з цяжкасцю. *Што ж ёй дзелыць, нада сваіх падруг аббібыць, то с адною пыгаворіць, то з другою путурлы́чыцца. Ты сяньня многіх аббібкыла, толька ў Дрызьдзянковых, знаць, ні пыбылá.*

АББІВАННЕ *н.* Абмалочванне снапоў ударамі аб калоду. *А што ж ты думыў, аббівáньня даецца ў знакі, рукі доўга будзіш чýствывыць.*

АББІВАННІК *м.* Той, хто займаецца аббіваннем снапоў. *Стыря́юцца аббівáньнікі, нада ж будзіць ны вічарінку пабежч. Памянш.* АББІВАННІЧАК. *Відзіш, як узя́ліся аббівáньнічкі, ажно сапýць.* АББІВАННІЦА *ж. Зымаріліся аббівáньніцы, аббівоць жыта — ета ні бабскыя работа.*

АББІВАЦЬ *незак.* Абмалочваць снапы ўдарамі аб калоду. *Учора я цэлый дзень аббівáў жыта ну кулі.* АББІВАЦЦА *незак.* Абмалочвацца ўдарамі аб калоду (пра снапы). *Жыта высыхла як порых, хырашо аббівáіцца.*

АББІРАЛАЎКА *ж. эмац.* Ашуканства, беззаконне. *Ці ты думыіш, у нас тута ўжо аббірáлыўка нейкыя.*

АББОЕШНЫЙ *прым.* Ніжэйшага гатунку (пра муку). *Думыла, пырасёнку ёсьць ікая мука аббоішныя — німа, і дывоць яму саўсім нечыга.*

АББОЙКІ *мн.* Пабітая жывёлай ці птушкамі збажына. *Пыстаў аббойкі пыць сьцяну, тама зірнят пасьці ні астáлыся, куры ўсё выбілі. Памянш.* АББОЕЧКІ. *Кладзі ў ряд, нада і аббоічкі папýкыць, можа, якоя зяренца вы́сыпліцца.*

АББРАХЫВАННЕ *н. груб.* Сварка, лаянка. *Чаго, ча-*

*го, а дужа я ні люблю аббря́хывыньня, як ета ны чылавека трілю́ду несьць.*

АББРАХЫВАЦЬ *незак. груб.* Лаяць, узводзіць паклёп. *Прівы́чка тыкая ўелыся: нада абізацільна аббря́хывыць чылавека.* АББРАХЫВАЦЦА *незак.* Сварыцца. *Нашто табе аббря́хывыцца, як кылакольчык якей.* АББРАХАЦЬ *зак.* Аблаяць, узвесці паклёп. *Хуць нічога ня відзілі і ні знаюць, а ўсё роўна аббрешуць, ета ў іх у кысьця́х сядзіць.* АББРАХАЦЦА *зак.* Пасварыцца. *Аббріха́лыся с усёю дзяреўнію, стыдна людзям у вочы пыглядзець.* АББРАХАНЫЙ *дзеепрым. Чаго ня будзіць, а аббріха́ный ат іх пойдзіш, етыга ў іх ні пытаць.*

АБВАДЗІЦЦА 1 *зак.* Шмат дзе павадзіць. *Позна павёў, а пастух зыгнаў за сьвет, дык я чуць ні да беда абвадзі́ўся с каровыю.* 2 *незак. перан.* Абціраецца, ахутвацца. *Во так во нейкыю травою абвадзіліся, як грячы́шка, гыварілі, ета палезныя трыва.* АБВЕСЦА *зак.* Абцерціся, ахутацца. *Схадзі ў баню, ні ляніся, хуць цёплым венікым абвядзесься.*

АБВЕТРЫВАЦЬ *незак.* Крыху падсыхаць на паветры. *Вун твыя куртычка абветрівыіць ны вярёўкі. Такей дождж атліў, ну зімля стала абветрівыць.* АБВЕТРЫЦЬ *зак.* Крыху падсохнуць на паветры. *Не, рубашку ішчэ нілізя ныдзіваць, іна чутычку абветріла.* АБВЕТРАНЫЙ *дзеепрым. Трошку абветріна куртычка, ну сыра, надзень серінькій пінжачок.*

АБГАДЖЫВАННЕ *н.* 1. Забруджванне. *Нашто вам ны сьцяну грязь ляпіць, пупадзець зы такоя абга́джывыньня.* 2 *перан. эмац.* Знеслаўленне, ганьбаванне. *Посьлі еткыга абга́джывыньня, канешня, ніхто ня будзіць хырашо чуствывыць.*

АБГАЛАГАНІВАННЕ *н. жарт.* Абстрыганне дагала. *Гляджу я ны тваё абґылыґа́нівыньня: як месікі будуць бегыць етыя бусурма́ны.*

АБГАЛАГАНІВАЦЬ *незак. жарт.* Абстрыгаць дагала. *Ні нада ўжо на́гыла абґылыґа́нівыць, кінь хуць малінькій чубчык.* АБГАЛАГАНІВАЦЦА *незак.* Абстрыгацца дагала. *Ні даецца абґылыґа́нівыцца, пішчыць, ладна ўжо, ладна, кіну трошку сьперіду.* АБГАЛАГАНЕНЫЙ *дзеепрым. Пабегыіць абґылыґа́ніный і атрасьцець валосься, цэл будзіць.*

АБГУЛЯНЫЙ *дзеепрым.* Пераможаны ў гульні. *Ета ніважна, што сяньня абгуля́ный, заўтря я цябе ні так абгуля́ю.*

АБДЗВІГАННЕ *н.* Абсоўванне, ссоўванне. *Такоя абдзьвіга́ньня на пользу ня пойдзіць, можна толька хужы надзелыць.*

АБДЗВІГАЦЬ *незак.* 1. Абсоўваць, ссоўваць. *Нізка ні абдзьвіга́й наскі, ніхай вышы, пыт каленкі, цяплей будзіць.* 2. Абкладаць (пра хмары). *Са ўсіх бакоў абдзьвіга́іць, пойдзіць дождж.* АБДЗВІГАЦЦА *незак.* 1. Абсоўвацца, ссоўвацца. *Як жа ты лечыш яблынку, што кыра абдзьвіга́іцца.* 2. Абкладацца (хмарамі). *Пычало кругом абдзьвіга́цца, нада сена прібірáць.* АБДЗВІНУЦЬ *зак.* 1. Абсунуць, ссунуць. *Гыляні́шчы абдзьвінуў, штаны нупусьціў і пашоў ны вічарінку, любу́йціся ны яго.* 2. Абкласці (хмарамі). *Учора було дужа абдзьвінула, а тады веціp пыдняўся, рызыгнаў.* АБДЗВІНУЦЦА *зак.* 1. Абсунуцца, ссунуцца. *Луччы ня трогый аппечыныга, кожа абдзьві́ніцца, зыгнаіцца, і большы намучыісься.* 2. Абкласціся (хмарамі). *Буваіць, і дужа абдзьві́ніцца, а дождж ня пойдзіць.* АБДЗВІНУТЫЙ *дзеепрым.* 1. Абсунуты, ссунуты. *Я ні рызьбяру, длі чаго тут абдзьві́нута бумага, неік бяс толку.* 2. Абкладзены (хмарамі). *Канешня, затопіць, так було абдзьві́нута кругом.*

АБДЗЕЛЫВАННЕ *н.* 1. Абпэцкванне, забруджванне. *Ныдаела ваша абдзелывыньня апчышча́ць, як за што ўзяліся, у грязі́шчы пріходзюць.* 2 *перан. эмац.* Падман. *Ні баіцца ён ніякыга абдзелывыньня, у іх голывы ні зварюць Кысьцінка́ абдзелыць.*

АБДЗЕЛЫВАННІК *м.* 1. Той, хто абпэцквае, забруджвае. *Гані мятлою етых абдзелывыньні́кыў, відзіш, як у дзёгыць калёсы вы́мызылі.* 2 *эмац.* Той, хто адштукоўвае. *Губарёнык — ныстыя́шчый абдзелывыньнік, апшулюваў хату, як ляльку.* 3 *метаф.* Спецыяліст па ўладкоўванню спраў. *Люлік такей быў абдзелывыньнік, у яго многа знакомых було, мог любоя дзела прывярну́ць, як хочыш.* АБДЗЕЛЫВАННІЦА *ж.* 1. Тая, што абпэцквае, забруджвае. *Ну кылі яшчэ пупаду ў лужы тую абдзелывыньніцу, зысяку пруціныю.* 2. Тая, што адштукоўвае. *Ікая ні абдзелывыньніца, а ў хаці прібрана, сьцены сталі на сьцены паходжы.* 3. Спецыялістка па ўладкоўванню спраў. *Мала што гаворюць, ікая с Хвенькі абдзелывыньніца, нічога іна ня зьдзелыла і ня зьдзелыіць.*

АБДЗЁЎБЫШ *м.* Абдзяўбаны птушкамі сноп збожжа. *Прібярі абдзёўбыш с-пад ног, ні двынаццыць у етых курях, штоб ны жардзінкі ляцець.*

АБДЗЯЎБУЛІВАННЕ *н.* Няўмелае абсяканне, абчэс-

ванне. *Кынчай абдзяўбýлівыньня, ідзі зы канём, зыпрігай ды паедзім у Віхряны.*

АБДЗЯЎБУЛІВАЦЬ *незак.* Няўмела абсякаць, абчэсваць. *Тапор у яго нічога ні сякець, туп, патрошку абдзяўбýлівыіць сучкі зь вербы.* АБДЗЯЎБУЛІВАЦЦА *незак.* Няўмела абсякацца, абчэсвацца. *Як яно тута ў цябе абдзяўбýлівыіцца?* АБДЗЯЎБУЛІЦЬ *зак.* Няўмела абсячы, абчасаць. *Трошку адзін бок у бірьвяне абдзяўбýліў, пыправіць нада.* АБДЗЯЎБУЛІЦЦА *зак.* Няўмела абсячыся, абчасацца. *Так у цябе няскора абдзяўбýліцца, тута нада ўмела рукі прілажыць.* АБДЗЯЎБУЛІВАНЫЙ, АБДЗЯЎБУЛЕНЫЙ *дзеепрым. Толька што абдзяўбýлівына, як ні сваімі рукамі дзелына. Абдзяўбýліныя піліця, а вышы я сам пыцьсяку.*

АБДУМАННЕ *н.* Абдзьмухванне, абвяванне. *Якоя ета абдумáньня, ты хырашэнька дуні.*

АБДУМАЦЬ *незак.* Абдзьмухваць, абвяваць. *Ты хуць з залою бульбу ня еж, абдумáй. А хырашо, як віцярок абдумáіць, ато дужа жарка.* АБДУМАЦЦА *незак.* Абдзьмухвацца, абвявацца. *Бяльлё ны віцярку абдумáіцца і скарей сохніць.*

АБДУМЫВАЦЦА *незак. перан.* Абжывацца. *Цяперішнім мыладым нічога стырікі пымыгаюць, а як нам було абдýмывыцца: ні кыла ні двыра, на чыстым полі.* АБДУМАЦЦА *зак.* Абжыцца. *Бясь цёлычкі мы ні разу ня бдýмыімся, а ён ні хацеў кідаць, душу клаў у калхозі.*

АБДУРАННІК, АБДУРЫВАННІК *м.* Падманшчык. *Я даўно знаў, што ты абдурáньнік, я табе большы ня верю. Яны ізьвесныя абдýрівыньнікі, у чым хочыш апкрýцюць.* АБДУРАННІЦА, АБДУРЫВАННІЦА *ж. Я дайжа падумыць ні мыгла, што ты еткыя абдурáньніца, родныю цётку пыдмáніш. А разьві ты ні знаў, што іна ўжо даўно абдýрівыньніцыю стала.*

АБДУРАЦЬ *незак.* Падманваць. *Каго ты надумыўся абдурáць, мяне? — я даўно забыў, што ты ішчэ і ня думыў.*

АБЕДДЗІКА *н. памянш.* Поўдзень (час). *Абедзьдзіка ны дваре, а ты вылежывыісься.*

АБ'ЕХАНЫЙ *дзеепрым.* Праеханы вакол. *Вун сьлед, у тэй бок аб'ехына, а дальшы пряма лі кынаўкі відна, каткі каціліся. Сасоньнічык аб'ехын зь естыга боку.*

АБЖЫНАННЕ *н.* Зжынанне вакол чаго-н. *Тама абжынáньня асталыся на дзесіць мінут, нада б жжаць, ніхай ба калосься ні буўталыся.*

АБІДЖЫВАННЕ *н.* Крыўда. *Што ж ён зьдзелыіць, пірянёс і ета абіджывыньня,— і ат каго, ад блізкыга чылавека.*

АБІДЖЫВАННІК *м.* Крыўдзіцель. *Ні выдўмывыйця вы ны мальца пустога, якей ён абіджывыньнік.* АБІДЖЫВАННІЦА *ж. Абіджывыньніца ні абіджывыньніца, алі ж дурату сытваріла.*

АБІДЖЫВАЦЬ *незак.* Крыўдзіць. *Яго ніхто ні зьбірайся абіджывыць і нечыга пустоя прідумляць.* АБІДЖЫВАЦЦА *незак.* Крыўдзіцца. *Раншы ны сьвякрову крепка абіджывылыся, толька, па-мойму, ныпрасна, іна сыма цаца ладныя.* АБІДЖЫВАНЫЙ *дзеепрым. Ні такей ён абіджывыный, ніхай ні жаліцца.*

АБКАЛУПЫВАННЕ *н.* Абдзіранне калупаннем. *Я ны вычах пызнаю, чыя ета работа, ну дам калі-небудзь ремня зы апкалўпывыньня.*

АБКАЛУПЫВАЦЬ *незак.* Абдзіраць калупаючы. *Я зымáзывыла, зымазывыла, а яны апкалўпывыюць, во й хаці ты зь іх пуця.* АБКАЛУПЫВАЦЦА *незак.* Абдзірацца калупаннем. *Нешта нічога тута ні апкалўпывыіцца, нада якім долытым пыдбіваць.* АБКАЛУПАЦЬ *зак.* Абадраць калупаючы. *Я знаю, хто апкулупáў сьцяну, нада пу руках ныдываць кулупáньніцы.* АБКАЛУПАЦЦА *зак.* Абадрацца калупаннем. *Ні сыма ета печ апкулупáлыся, нехта найшоўся, пыработыў.* АБКАЛУПЫВАНЫЙ, АБКАЛУПАНЫЙ *дзеепрым. Во ж яно відна, што апкалўпывына, а ты гаворіш, што ні кулупана. Увесь вугыл апкулупáный, няўжэлі ім нечым було зыняцца?*

АБКАПЦЕЦЦА *зак.* Пакрыцца копаццю. *Вокыркі капціў, сам апкапцеўся, ажно сажа на ім кымкáмі ляжыць.*

АБКАПЫВАЦЬ *незак. перан.* Прыгортваць, абсыпаць. *Я гаршчонычкі жарком апкáпывыю, тады яны луччы упрівáюць.* АБКАПАЦЬ *зак.* Прыгарнуць, абсыпаць. *Быракі абізацільна жарым апкыпáй, ім нада доўга кіпець.* АБКАПАНЫЙ, АБКОПАНЫЙ *дзеепрым. Ня award*

*апкіпяціўся: цугу́н ва́ру нёс, ныга коўзь, і ён кіпяток на́ бык і ну руку́.* АБКІПЯЧОНЫЙ *дзеепрым. Вот відзіш, апкіпячоныя мыць — саўсім другоя дзела. Апкіпячоныя дужа баліць.* АБКІПЯЦЁМШЫ *дзеепрысл. Апкіпяцёмшы рукі, нічога дзелыць ня будзіш.*

АБКЛАДАЦЦА, АБКЛАДЫВАЦЦА *незак.* Памыляцца пры складанні, перакладванні. *Ня слухый, што яны балбочуць, шчытай, апклыда́цца ні нада, толька ніпріятнысьці тады. Я трі разы апкладывыўся.* АБКЛАСЦА *зак.* Памыліцца пры складанні, перакладванні. *Ты ж глядзі, будзь астарожын, каб ні апкласца айдзе.*

АБКУМЕЧЫВАННЕ *н. жарт.* Абдумванне. *У іх як пычанецца апкумечывыньня, цэлый год будуць кумечыць і ні да чога ні дадумыюцца.*

АБКУМЕЧЫВАЦЬ *незак. жарт.* Абдумваць. *Вун яны, апкумечывыюць, куды сяньня бежч ны вічарінку.* АБКУМЕЧЫЦЬ *зак.* Абдумаць. *Яны ўжо загыдзя апкумечылі ета дзела, ты такіх хітряцоў мала знаіш.* АБКУМЕЧАНЫЙ *дзеепрым. У іх даўно ўсё апкумечына, іначы б свата ні бралі.*

АБЛАКЦІЦЦА *зак.* Абаперціся на локці. *Я зайду к ёй, іна во так аблакціцца і пра ўсё сваё горя рысказывыіць.* АБЛАКЦЁМШЫ *дзеепрысл. Пысяджу аблакцёмшы, неік мне лехчы дзелыіцца.*

АБЛАКЧАННЕ *н.* Абапіранне на локці. *Прівычка тыкая — аблыкча́ньня, яму так зрушней.*

АБЛАПАВУШЫВАЦЬ *незак.* Падманваць, абдурваць. *Яны тады многіх аблыпаву́шывылі, пакуля самі голывы ні паскручывылі.* АБЛАПАВУШЫВАЦЦА *незак.* Паддавацца падману. *Ты ўжо хочыш, каб нійдзе ні аблыпаву́шывыцца.* АБЛАПАВУШЫЦЬ *зак.* Падмануць, абдурыць. *А таго аблыпаву́шылі, што рызівон і думыць нічога ня хочыць.* АБЛАПАВУШЫЦЦА *зак.* Паддацца падману. *Сам ні прідумыю, як я так аблыпаву́шыўся!* АБЛАПАВУШАНЫЙ *дзеепрым. Узноў ты аблыпаву́шыный зыявіўся.*

АБЛАХКАЦЬ *зак.* Аббегаць з карыслівымі мэтамі. *Сяньня тута усё абла́хкыла, а заўтря, хочыш, у Пыстырнакі кытанець.*

АБЛОЖЫНКА *ж.* Невялікая аблога. *Дзьве ладныя абложынкі я нагледзіў у кустах, пашлю мальца, ніхай скосіць, лісывая трыва ядомыя.*

АБЛОМКІ *мн.* Паламаныя парныя рэчы. *Сані абломкі летывылі ны балькых, хлопцы дысталі, троху пызьвязы-*

*выліі, аглоблі прікруцілі і пірівязьлі хвырасток. Памянш.* АБЛОМАЧКІ. *Даў нам абломычкі, абломычкі калёсы, а мы і калёсы зьдзелылі, і скот гадуім.*

АБЛЮБАК *м.* Пакінуты каханак. *Во ныйшла сабе аблю́бка, ніяк ныглядзецца ня можыць. Памянш.* АБЛЮБАЧАК. *Ой, падруга дырыгая, вот табе аблю́бычык.*

АБЛЯНЕЛЫЙ *прым.* Лянівы, гультаяваты. *Такей стаў аблянелый, што яму вядро вады прінесьць і то цяжола.*

АБМАНДЗУРЫВАННЕ *н. эмац.* Абшукванне. *Посьлі яе абмандзу́рівыньня ты ні днаго гріба ні найдзіш, Праскоўя с-пыдзь зямлі усё вы́пырыць.*

АБМАНДЗУРЫВАЦЬ *незак. эмац.* Абшукваць. *Прідуць у хату, усюдых абмандзу́ріюць, былі маліцькія нажэнцы — узялі.* АБМАНДЗУРЫЦЬ *зак.* Абшукаць. *Яе бірягіся ды бірягіся, зайдзіць у хату і пышла пароць, усе вуглы абмандзу́ріць.* АБМАНДЗУРАНЫЙ *дзеепрым. Етыя кусьцікі ні сяньня абмандзу́ріны.*

АБМАНІВАННІК *м.* Падманшчык. *Большы я такім абма́нівыньнікым веріць ні ў чом ня буду.* АБМАНІВАННІЦА *ж. Каб ты ні была абма́нівыньніца, можа б я і рыскызала табе казку.*

АБМАНЯННЕ, АБМАНІВАННЕ *н.* Падман. *Ці мала мы ўсякыга абмыня́ньня наслухыліся. Цяперя тваайму абма́нівыньню ніхто ні паверіць.*

АБМАТЫВАЦЬ, АБМАТЫВАЦЦА *незак. перан.* Аббегваць хутка. *У молыдысьці яны за́ ныч усю акругу абма́тывылі. Мне ні так лёхка абма́тывыцца, як вам, мыладым, вам што, пабеглі — і ўсё зы вамі пабегла.* АБМАТАЦЬ, АБМАТАЦЦА, АБМАТНУЦЬ, АБМАТНУЦЦА *зак.* Аббегаць хутка. *Сколька вы зы сянішнію ноч абмыта́лі, ці пасьпелі пубуваць у Жавінкі? Іна як вы́прывіцца, дык, верна, у дзісяці дзіріўнях абмыта́іцца, усіх нывясьціць за дзень. Дойга ім абматну́ць етыя кусты, прыбігаць туды-ызад і ўзноў ґ быльшаку выскычуць. Так скора яны ні пасьпеюць за судкі абматну́цца.*

АБМАЦЮКАЦЬ *зак.* Аблаяць матам. *Што й абмуцюка́лі, дык стоіла, такей пастылый чылавек.* АБМАЦЮКАНЫЙ *дзеепрым. Троху стыдна абмуцюка́ныму, ды сам вінуват кругом.*

АБМАШЧЫВАННЕ, АБМОШЧЫВАННЕ *н.* 1. Замошчванне. *Ты ўжо кынчаіш, а я і ні пычынаў абма́шчывыньня. Ны абмошчывыньня харошый сьпіцыяліст нада, абы-каго ня возьміш.* 2. Матэрыял для падлогі. *Абма́шчы-*

*выньня ў мяне ёсьць, толька браццa зы яго некылі. Калі абмошчывыньня прігатовіў, то як-небудзь жа мост насьцеліцца.*

АБМАШЧЫВАЦЬ, АБМОШЧЫВАЦЬ *незак.* Замошчваць. *Я думыў, у цябе ўсё гатова, а ты і ні браўся абмашчывыць. З заўтрішніга дня пычынаім хату абмошчывыць, некуды дальшы цягнуць.* АБМАШЧЫВАЦЦА, АБМОШЧЫВАЦЦА *незак.* 1. Замошчваць. *Мы возьмімся с тае нядзелі абмашчывыцца. Нада абмошчывыцца, у халодныя ўремя зыцягывыць нілізя.* 2. Замошчвацца. *Нешта ў цябе медлінна абмашчывыіцца, так ты да сьнегу дыцягніш. Халодный майсьцір, так у яго і абмошчывыіцца, дужа медлінна работа йдзець.* АБМАСЦІЦЬ *зак.* Замасціць. *Я ўжо дыгывариўся з зысыжанімі, яны на той нядзелі усё мне абмосьцюць.* АБМАСЦІЦЦА *зак.* 1. Замасціць. *Ён сам абмасьціўся, с хлыпцамі досткі стругаў, ні ныймаў нікога.* 2. Замасціцца. *Ай, як абмосьціцца, так і ладна, некылі мне да цўґу дывадзіць.* АБМОШЧАНЫЙ, АБМАШЧОНЫЙ *дзеепрым. Хырашо хаты абмошчыны і сенцы, і ў клеці новый мост, пы-хызяйску зьдзелына. У абмашчоныю хату пярёйдзіш, а бяз мосту зукукўісься.*

АБМЁТКІ *мн.* Адыходы пры ачыстцы мятлою намалочанага зерня. *Абмёткі у кучку адзьдзельна згарні, тады яны упыряччуцца. Памянш.* АБМЁТАЧКІ. *Куры толька дыбяруцца, уміг твае абмётычкі разгорнуць.*

АБМІНАННЕ *н.* Абгон, абмін. *С такім абмінаньнім зы каток людзям зачэпісься.*

АБМУЧАНІВАННЕ *н.* Абсыпанне мукой. *Ну няўжэлі табе абмучанівыньня ныравіцца, што ты лезіш сюда іс сваім носым.*

АБМУЧАНІВАЦЬ *незак.* Абсыпаць мукой. *Рукі ты абмучанівыіш, а тады зы касьцюм бяресься, ён будзіць грязный.* АБМУЧАНІВАЦЦА *незак.* Абсыпацца мукой. *Ты мяшкоў ня трогый, ні нада абмучанівыцца, я сам пірінясу, с калёс брацъ ні цяжола.* АБМУЧАНІЦЬ *зак.* Абсыпаць мукой. *Усю куртку ны сьпіне абмучаніў, зьдзівай ды аптрісай, мука ня дужа аччышчаіцца.* АБМУЧАНІЦЦА *зак.* Абсыпацца мукой. *Увесь абмучаніўся, сь цябе хуць мятлою муку зьмітай.* АБМУЧАНЕНЫЙ *дзеепрым. Пакуля рукі ні абмучаніныя, сыбярі адзежу ды павесь дальшы.*

АБМЯТЛЯЦЬ *зак.* Абкідаць ніткамі. *Нада абмітляць рукаўкі, ні так ба абнашывыліся.* АБМЯТЛЯЦЦА *зак.* Абкідацца ніткамі. *Абмітляюцца краі, тады зысьцілай*

*скацірсьць на стол.* АБМЯТЛЯНЫЙ *дзеепрым. Прарезкі ў пінжачку абмітляныя, ныдзівай, сяньня ў рубашкі застыніш.*

АБНАЧАВАЦЦА *зак.* Заначаваць. *Кошку выкінь, ато абначўіцца ў хаці і пойдзіць ноччы мушурувáць усюдых.*

АБОРАЧАК *м.* Невялікі аборак — паніжэнне на полі, дзе вясной збіраецца вада. *У аборычкых харошыя трыва рысла, бувала, вазок накосіш, карова зімою есьць як зы сябе.*

АБОРВЫШАК *м. памянш.* Абадранец. *Ходзіць аборвышык маліменькій, некылі маткі даглядзіць зу пустым брізкытáньнім.*

АБОСЕНЬКІЙ, АБОСЕНЕЧКІЙ *прым. памянш.* Босы. *Выскычыш абосінькій і прастудзісься, нада бацінычкі набуць. Ідзём мы, стаіць ета дзяўчонычка галюсінькыя, абосінічкыя, плачыць, а матку пыліцэйскія пыгналі.*

АБПАЛАСКЫВАЦЬ *незак. метаф.* Абдзёўбваць. *Віряб'і аппыляскывыюць просу, сыдзяцца ны мяцёлку і ні дзяўбуць, а пряма п'юць.* АБПАЛАСКАЦЬ *зак.* Абдзяўбці. *Куры ячмень аппылыскáлі, нада мылаціць, ато саўсім ні зяренца ні станіцца.* АБПАЛАСКАНЫЙ *дзеепрым. Пышаніца ат усядзіб аппылыскáна, куры зь яе ні вылазілі цэлымі днямі.*

АБПАЛІЦЦА *зак. перан.* Празмерна загарэць. *Дзень пыкасіў біз рубашкі, дык ні зыгарей, а аппаліўся, кожа злазіць мяшком.*

АБПАСКУДЖЫВАННЕ *н. эмац.* Забруджванне. *Мне такоя аппаскýджывыньня ні ныравіцца, хто йта зы табою прібірăць далжон.*

АБПЛЫСЦЬ *зак. метаф.* Вельмі распаўнець. *Нада ж яму так апплысьць, разьдзелыўся, як кормліный ваперь.*

АБПЛЯСКАЦЬ *зак. перан.* Абгаварыць. *Верна, ні найдзіш такога чылавека, каго б яны ні апплıскáлі, во ізыкі у баб дык ізыкі. Каго ж вы сяньня апплáскылі?* АБПЛЯСКАНЫЙ *дзеепрым. Во й Хвёдырька апплıскáный. Зы каго ні вазьміся, у вас усе апплáскыныя.*

АБПРАТЫВАЦЬ *незак. эмац.* Біць. *Ета вы малыга яго аппрáтывылі, папробыйця цяперя зь ім справіцца.* АБПРАТАЦЬ *зак.* Пабіць. *Калі ні аппрáтылі яшчэ, дык аппрáтыюць, так ты ат іх ня вывірнісься.* АБПРАТАНЫЙ *дзеепрым. Дружылі, дружылі і на табе: ужо Стыльмашоным пашоў аппрáтыный.*

АБПЫТЫВАЦЬ *незак.* Апытваць. *Аппы́тывыў ён усіх кругом, ня відзіў Трахіма ніхто нійдзе.*

АБПЯСЧАНІВАННЕ *н.* Наношванне пяску. *Ныдаела ета аппішча́нівыньня, пясок усё цігаіцца і ў хату, і ў сенцы зы ныгамі.*

АБПЯСЧАНІВАЦЬ *незак.* Наношваць пяску. *Пясок носіцца з вобуўю, ты мост аппішча́нівыіш, ні спруўляюся пыдмітаць.* АБПЯСЧАНІВАЦЦА *незак.* Наношвацца (пра пясок). *Кылы рякі пясок, і зімля троху-патроху аппішча́нівыіцца.* АБПЯСЧАНІЦЬ *зак.* Нанесці пяску. *Ты аппішча́ніў усе сенцы, стала ні зайціць у іх.* АБПЯСЧАНІЦЦА *зак.* Нанесціся (пра пясок). *Я помню, хлыпца́мі мы пыхалі ету палоску, харошыя зімля была, а во за столька гадоў аппішча́нілыся.* АБПЯСЧАНЕНЫЙ *дзеепрым. Настолька ґанкі аппішча́ніны, што ні ступіць.*

АБРАБОТЫВАННЕ *н.* Апрацоўка. *Зімля любіць абработывыньня, а кылі зьдзелыіш як-зря, на ёй нічога ня вырысьціць.*

АБРАГОЛЬ *м.* Ашуканец. *Во абраґоль, топчыцца лі двыра, рыскрасьнеўся, некыга пыдмыня́ць. Памянш.* АБРАГОЛІК. *Пыдрыстаіць абраґолік, увесь як тата будзіць, на ім вока гаріць. Узмацн.* АБРАГОЛІНА. *Прыкапёнык ні такей быў абраґоліна, зь ім гывaріць дайжа апысаліся. Павеліч.* АБРАГОЛІШЧА. *Ух, рызыйшоўся абраґолішча, сымаго надулі, ды, відна, крепка.*

АБРАДЖАЦЬ *незак.* Падводзіць. *Калі ні знаіш, ці ты будзіш свабодзін у скрысеньня, дык ні абріджа́й чылавека.* АБРАДЗІЦЬ *зак.* Падвесці. *Дужа ня верь Мікіту, ён можыць пыбішча́ць, а тады абрядзіць.* АБРАДЖОНЫЙ *дзеепрым. Я пыняў ужо, што абряджоный, ды позна було што дзелыць.*

АБРАЗОВЫВАЦЬ *незак. перан.* Правучваць. *Перш чым ка́го абразовывыць, ны сваіх воґіріў пыглядзі, іх абразу́й.* АБРАЗОВЫВАЦЦА *незак.* Правучвацца. *Ну чужых ашыбках абразовывыюцца.* АБРАЗАВАЦЬ *зак.* Правучыць. *Іш ты яго, ён мяне абразу́іць, ты сваю жонку абразу́й ці сам абразу́йся.* АБРАЗАВАЦЦА *зак.* Правучыцца. *Зы пасьледнія ўремя трошку абрузува́йся.* АБРАЗАВАНЫЙ, АБРАЗОВАНЫЙ *дзеепрым. Будзіць абрузува́ный, як пупадзецца ў рукі астрейкыўцым. Відзіш, як ён і дзелыіць, і гаворіць абразовыный, саўсім іначы стаў.*

АБРАШЭЦІЦЦА *зак.* Прымацавацца (пра паплёт). *Хто яе знаіць, урем'я німа, ну як-небудзь і пунька абряшэціцца.* АБРАШЭЧАНЫЙ *дзеепрым. У яго усё абряшэчына, цігай кулі і крый.*

АБРОЦЬКА *ж.* Невялікая аброць. *Па-мойму, ці ні*

*пуд вуглом ліжала нейкыя аброцька ряменныя. Памянш.* АБРОЦІЧКА. *Аброцічку во такенічкыю зьвізаў.*

АБРЭМЕНЕЦЬ *незак.* Цяжарыць. *Сыпіць і сыпіць чуць ні кажный год, хваціць ба ўжо ёй абремініць.*

АБРЭМЕННАСЦЬ *ж.* Цяжарнасць. *Ці було ж уремя глядзець ны абреміннысьць, пакуль змыга́, ішлі і дзелылі.*

АБСАД *м.* Абсада. *У яго дом красівый быў, кругом апса́д, вісокія дзерівы, у рівалюцыю усё уністожылі.*

АБСЕМЯНЁНЫЙ *дзеепрым.* Засеяны. *Усядзьба ў мяне апсімянёна. Ну, гряды апсімянёны, можна і пірідыхнуць.*

АБСЕЯЦЦА *зак. метаф.* Нажыць шмат дзяцей у сям'і. *Ён рана жаніўся, апсеіўся дзіцямі, цяперя ўжо ні да гўліў.*

АБСКРОБКІ *мн.* Абскрэбеныя рэшткі. *Апскрёбкі нада уськінуць на воз, падж жэрдзь увяжуцца, двору зывязеш. Памянш.* АБСКРОБАЧКІ. *Апскрёбычкі пыдбіваюцца пыт капу нагою кругом.*

АБСЛУХЫВАЦЦА *незак.* Успрымаць не так, як гучала. *Ні нада апслу́хывыцца, ато табе другей раз ніізьвесна што пыкажыцца.* АБСЛУХАЦЦА *зак.* Успрыняць не так, як прагучала. *Каб раз, можа б апслу́хыўся, а мне ж разоў пяць пыкызалыся, што ў том баку цялёнычык мікыіць.*

АБСТОЛІВАННЕ *н.* Насціланне столі. *Аддыхаюць посьлі апстолівыньня, сяньня яны крепка пыработылі.*

АБСТОЛІВАЦЬ *незак.* Насцілаць столь. *Нада ўсё кругом апстолівыць, і абея хаты, і сенцы, і на клець, я думыю, хваціць достык.* АБСТОЛІВАЦЦА *незак.* 1. Насцілаць столь. *Яны і ня думылі апстолівыцца.* 2. Насцілацца (пра столь). *Як тута ў вас апстолівыіцца?* АБСТОЛІЦЬ *зак.* Наслаць столь. *Хаты я пасьпею апстоліць, а клець ніхай так зімуіць, ды вясны пыдажджэць.* АБСТОЛІЦЦА *зак.* 1. Наслаць столь. *Кулажонык ужо апстоліўся кругом, яму цяперя і чорт ні брат.* 2. Наслацца (пра столь). *Як апстоліцца, так і ладна,— еткія работы я ні хачу.* АБСТОЛЕНЫЙ *дзеепрым.* *Апстоліныя дайжа халодныя пастройка куды лучны, зьверьху ня сыпіцца нічога.*

АБСТРУГЫВАЦЬ *незак. перан.* Прабіраць, ушчуваць. *Ні завідый, ні завідый, яго часта апстру́гывыюць крепінька.* АБСТРУГАЦЬ *зак.* Прабраць, паўшчуваць. *Як апструга́лі сёстры, другей дзень на вуліцу ні пыказывыіцца.*

АБСТРУЖКА *ж. перан.* Праборка, ушчуванне. *Крепкыю апстру́жку пулучыў учора, сяньня яшчэ будзіць.*

АБСУД *м.* Абгавор. *Доўга у іх апсу́д цягнуўся, па костычкых Тымару рызьбіралі.*

АБСУНУВАЦЬ *незак.* 1. Ссоўваць. *Мальцы езьдзіюць са стога і апсу́нувыюць бакі, зьбіваюць.* 2. Абкладаць (хмарамі). *Пычынаіць апсу́нувыць, відна, зьбярецца дождж.* АБСУНУВАЦЦА *незак.* 1. Ссоўвацца. *Вы зыіжджа́іця, дык копкі апсу́нувыюцца, дождж пойдзіць і прымя́кнуць наскрозь.* 2. Падаць. *Верьх пычаў апсу́нувыцца, мы чуць ацскачылі.* 3. Абкладацца хмарамі. *Ня зьдзержыць: усё неба апсу́нувыіцца.* АБСУНУЦЬ *зак.* Абкласці (хмарамі). *Кругом апсу́нула, відна, надоўга дождж зыкладзець.* АБСУНУЦЦА *зак.* 1. Упасці асеўшы. *Стыяў кылы плітня, за грудзі схваціўся, апсу́нуўся і ня жыў.* 2. Абкласціся хмарамі. *Неба апсу́нулыся чорнымі тучымі.* АБСУНУТЫЙ *дзеепрым.* 1. Ссунуты. *Відзіш, якея копы апсу́нутыя.* 2. Абкладзены хмарамі. *Ух, апсу́нута, над лесым туча як грыдыва́я.*

АБТАРКЫВАННЕ *н.* 1. Абтыканне, затыканне. *Длі апта́ркывыньня бальшэя грамыты ні нада.* 2. Матэрыял для абтыкання. *Апта́ркывыньня ляжыць с таго боку, ат кынапель, січас я туды лесьвічку зынясу.*

АБТАРКЫВАННІК *м.* Той, хто абторквае, затыкае. *Сяньня апта́ркывыньнікі няплоха пыстыря́ліся, усе сьценкі у пуні крепка абаткну́лі.* АБТАРКЫВАННІЦА *ж. Воікая зь мяне апта́ркывыньніца, чуць-чуць ні пыляцела зь лесьвічкі тыршма носым.*

АБТРАСАЦЦА *незак. метаф.* Абжывацца. *Калі з розумым пычану́ць апріса́цца, то жызьню можна ныладзіць.* АБТРЭСЦА *зак.* Абжыцца. *Ім нялёхка було апресца, помышчы ніякія, а глядзі, як пыдняліся скора.*

АБТРАСКАТАЦЬ *зак. перан. неадабр.* Аббалбатаць. *Каго яны за дзень ні аптряскочуць, дзелыць нечыга, урем-я нада у́біць.* АБТРАСКАТАЦЦА *зак.* Перастарацца ў балбатні. *Ты глядзі ні апріскачы́ся, ато можыць што ніпріятныя случыцца.*

АБТРАХАЦЬ *незак.* Страсаць. *Ні апріха́й ны мяшкі сьнегу, ідзі ны ґанкых трясіся.* АБТРАХАЦЦА *незак.* Страсацца. *Старэй пыт павецьцю апріха́іцца, на ём сьнегу хуць згрібай.*

АБУРАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Абрушаны. *Тэй двор ці ні пятый год пусту́іць, хата сь сенцымі троху ліпяць, а пуня с абу́рінью крышыю стаіць.* 2. Брудны, забруджаны. *Ру-*



*башка ў жыніха тыкая абўрініыя, што яе ні дамыісься, толька пад ногі пыдыслаць.*

АБХАДЗІЦЬ *зак. метаф.* Моцна пабіць. *Стала ета Верычка тоўсьцінька, матка апхадзіла качўлкыю і Машку, і Польку, пувучыла дачок.*

АБХАРАШЫВАННЕ *н.* Прыхарошванне. *Пыглядзіця, посьлі апхырáшывыньня саўсім другая дзяўчонка зьдзелылыся.*

АБХАРАШЫВАННІК *м.* Той, хто прыхарошваецца. *Вун ён стаіць апхырáшывыньнік пірядзь зеркылым.* АБХАРАШЫВАННІЦА *ж. Ну ладна ўжо, ладна, апхырáшывыньніцы, ідзіця скарей.*

АБХАРАШЫВАЦЬ *незак.* Прыхарошваць. *Доўга нявесту апхырáшывылі, як кукылку зьдзелылі.* АБХАРАШЫВАЦЦА *незак.* Прыхарошвацца. *Ці ні хваціць вам апхырáшывыцца, мáзылыўцы вас і так пызнаюць.* АБХАРОШАНЫЙ, АБХАРАШОНЫЙ *дзеепрым. Ідуць ныряднныя, апхарошыныя, куды к ім пытыкацца. Во ікая ты апхырашоныя!* АБХАРАШОМШЫ *дзеепрысл. Апхырашомшы і пўжыла можна замуж аддаць.*

АБЦЯГЫВАЦЬ *незак.* Пакрываць (пра хмары). *Стаўці-ка вы снапы ў бабкі, відзіця, неба са ўсіх бакоў апцягывыіць.* АБЦЯГЫВАЦЦА *незак.* Пакрывацца хмарамі. *Стала апцягывыцца, відна, дождж узноў сыбярецца, а ён ба ўжо ні нада.* АБЦЯГНУЦЬ *зак.* Пакрыць (пра хмары). *Було дужа апцягнўла, а тады вецір пыдняўся, рызыгнаў тучы.* АБЦЯГНУЦЦА *зак.* Пакрыцца хмарамі. *Другей раз апцягніцца усё кругом, а дажджу — ні дажджынкі.* АБЦЯГНУТЫЙ *дзеепрым. Кругом неба апцягнута, пойдзіць дождж, сяньня ня зьдзержыць.*

АБЦЯПЫВАЦЬ *незак. перан.* Уладкоўваць (справы). *Ніхто так ня ўмеў апцяпывыць дзела, як Іванёнык, ён быў дужа прайдошлівый.*

АБЧМЫХЫВАННЕ, АБЧМЫХКЫВАННЕ *н.* Гучнае абнюхванне. *Атыйдзі с апчмыхывыньнім, нічога я табе ні прінёс, ідзі траву скусьць. Відзіш, якоя ў цілятык знакомства — апчмыхкывыньня, знакомюцца, толька рызгыварівыць ня ўмеюць.*

АБЧМЫХЫВАЦЬ, АБЧМЫХКЫВАЦЬ *незак.* Гучна абнюхваць. *Як пытхаджу к тубуну, карова ляціць наўстречу і апчмыхывыіць, што ёй прінёс, ці прінёс хлеба. Вун Хорцік твой ірьмяк апчмыхкывыіць, можа, там у кырманых што ёсьць.* АБЧМЫХЫВАЦЦА, АБЧМЫХКЫВАЦЦА *незак.* Гучна абнюхвацца. *Сыбакі апчмыхывыюцца,*

*ета яны знакомюцца так. Ну ніхай апчмыхкывыюцца каровы, каб толька ні баліся.* АБЧМЫХАЦЬ, АБЧМЫХКАЦЬ *зак.* Гучна абнюхаць. *Я ліжаў, бычок пыдыйшоў, апчмыхыў мяне ўсяго, апчмыхыў, доўга чмыхыў, а тады пашоў скусьць. Сыбака малыга апчмыхкыў, апчмыхкыў, хацеў лізаць, ды я атыгнаў.* АБЧМЫХАЦЦА, АБЧМЫХКАЦЦА *зак.* Гучна абнюхацца. *Каровы апчмыхыліся, босца ні сталі, рызыйшліся. Ціляткі апчмыхкыліся і разым пабеглі зу кусты.* АБЧМЫХАНЫЙ, АБЧМЫХКАНЫЙ *дзеепрым. Цёлка дужа любапытныя, січас у яе будзіш апчмыхын. Ну ніхай ужо апчмыхкыный, ніхай.*

АБЧЫКРЫЖЫВАННЕ *н. жарт.* 1. Абразанне. *Я гляджу, якоя ў цябе апчыкрыжывыньня, сустругаў пылавіну бруквіны.* 2. Абстрыганне. *Во ета апчыкрыжывыньня, блішчыць гылыва як месік.*

АБЧЫШЧАННЕ, АБЧЫШЧЫВАННЕ *н.* Счышчанне, чыстка. *Якоя апчышча́ньня тряпкыю, венік вазьмі ды шырхані пы мішках, сьнег апсыпліцца. Ні паможыць тут апчышчывыньня, мыць нада, ды ў харошым шчолыку.*

АБШАВАЛІВАЦЬ, АБШАВЕЛІВАЦЬ *незак. метаф.* Аббіраць, спусташаць. *Умеюць сады апшыва́лівыць, што ты будзіш гывaріць. Што там було апшавелівыць, пріхадзі і шчыпі, сколька душэ ўгодна.* АБШАВЯЛІЦЬ *зак.* Абабраць, спустошыць. *У Сахрона за́ ныч апшывялілі сад, іс суччым вынісьлі.* АБШАВЕЛЕНЫЙ *дзеепрым. Ну што, і ў цябе садок апшавеліный? — во німа ўніму мальцым дык німа.* АБШАВЯЛЁМШЫ *дзеепрысл. Апшывялёмшы сад, знаіш, айдзе яны хуваюць? — на Хролывый бані.*

АБШАЛУШАННЕ *н.* 1. Ачыстка ад шалупіння. *Ат такога апшулуша́ньня пыл стаўбом па ўсёй хаці.* 2. Шалупінне. *Усё апшулуша́ньня у лубкі пуд услоным, нада вынісьць у гной.*

АБШЛЫНДАЦЬ *зак. неадабр.* Абхадзіць без мэты. *Усе кусьцікі абгледзіць, усе лашчынкі апшлындыіць, нечыга ж дзелыць чылавеку.* АБШЛЫНДАНЫЙ *дзеепрым. У яго тама ўсё апшлындына.*

АБШМУЛЯЦЬ *зак.* Зацерці. *Рукаўкі апшмуляіш лі етыга жалезьзя, грязныя будуць.* АБШМУЛЯНЫЙ *дзеепрым. Пінжак зь левыга боку апшмуляный, яго ні дачысьцісься.*

АБШЧАПЕНІВАННЕ, АБШЧАЛЕПЛІВАННЕ *н. жарт.* Абдыманне, абдымкі. *Дос ужо ну чужоя апшчапенівыньня любувацца. Пыдзівісь на іхныя апшчалеплі-*

*выньня, столька радысьці ат устречы, што ні прідумыць.*

АБШЧАПЕНІВАЦЬ *незак. жарт.* Абдымаць. *Ці крепка ж цябе Томычка апшчапенівыла?* АБШЧАПЕНІВАЦЦА *незак.* Абдымацца. *Яны ды самыга раньня апшчапенівыліся ны Мікілаіхіный лавычкі.* АБШЧАПЕНІЦЬ *зак.* Абняць. *Апшчапеніла куму, атырвацца ня можыць,— во радысьці айдзе.* АБШЧАПЕНІЦЦА *зак.* Абняцца. *Ах, як апшчапеніліся, усё дно як пяць гадоў ня відзіліся.* АБШЧАПЕНЕНЫЙ, АБШЧАПЕНЕТЫЙ *дзеепрым. Стыяць апшчапеніныя зы Дзянісывым дубым. Ты б на іх ны апшчапенітых пыглядзеў — жывая указэя.*

АБШЧЫЧАННЕ, АБШЧЫЧЫВАННЕ *н.* 1. Дзеянні па ўцяпленню і ахове ад ветру. *Калі ж вы возьміціся зы апшчыча́ньня, вот-вот мароз ударіць. Гляджу я ны яго апшчы́чывыньня: як ні сваімі рукамі дзелыіць.* 2. Матэрыял для ўцяплення і аховы ад ветру. *Троху апшчыча́ньня ў мяне ёсьць, нада толька прівезьць вазок кольля. Апшчы́чывыньня я прігатовіў: і калы́ прівёз, і сыка сухая ляжыць.*

АБШЧЫЧАЦЬ, АБШЧЫЧЫВАЦЬ *незак.* Рабіць уцяпленне, ахову ад ветру. *Сяньня думыю ўзяцца пунькі свае апшчыча́ць, ато запрець, задмець, аць сьнегу ні адбяресься. Старэй пунькі апшчы́чывыіць, ідзі туды, там яго ўвідзіш.* АБШЧЫЧАЦЦА, АБШЧЫЧЫВАЦЦА *незак.* Уцяпляцца, ахоўвацца ад ветру. *Раншы кажный год мы крепка апшчыча́ліся, ні знаю, як сёліта апшчыціцца. Кароткыя салома, дык хужы апшчы́чывыіцца.* АБШЧЫЦІЦЬ *зак.* Зрабіць уцяпленне, ахову ад ветру. *Дужа ладна апшчыціў увесь двор, нійдзе ні прадмець.* АБШЧЫЦІЦЦА *зак.* Уцяпліцца, ахавацца ад ветру. *Апшчыціліся луччы некуды, зімуваць можна сьмела.* АБШЧЫЧЫВАНЫЙ, АБШЧЫЧАНЫЙ, АБШЧЫЧОНЫЙ *дзеепрым. Відна, што троху апшчы́чывына, толька ніважна зьдзелына. У апшчы́чыныя пунькі як зайдзіш, тама ажно ціплыта чуствыіцца. У мяне кароўнік апшчычон крепка, карові цёпла будзіць стыяць.* АБШЧЫЦЁМШЫ *дзеепрысл. Як апшчыцёмшы двор, усігда ныдзяжней, за скот біспакоіцца ні нада.*

АБШЫБЦЬ, АБШЫБНУЦЬ *зак.* Памыліцца. *Глядзі, купляй, каб на етый раз ні апшы́бць. С пацьцёлкым Ільлёвы крепка апшыбну́лі, нілізя було няведымныга брацьь.*

АБШЭРПЫВАННЕ *н.* 1. Абношванне. *Чаму ня будзіць апшэрпывыньня, кылі к рабоці рукі ляніцца прілажыць.* 2. Лахманы, рыззё. *Сыма няру́пытлівыя, вун пы-*

*глядзі ны дзяцінью пасьцель: куча апшэрпывыньня.*

АБЯЗВЕЧЫВАННЕ *н.* Калечанне, давядзенне да калецтва. *С такімі дурáмі і абязьвечывыньня будзіць, і ўсё, што хочыш.*

АБЯЗВЕЧЫВАННІК *м.* Той, хто калечыць або пагражае давесці да калецтва. *Не, будзіць твайму абязьвечывыньніку ні тыкая лупка, як Пыдгайскій дыбярецца ды яго.* АБЯЗВЕЧЫВАННІЦА *ж. Дзяржыця, дзяржыця ету абязьвечывыньніцу, ато йна ўсіх пірікалечыць.*

АБЯЗЛЮДЗЯНЕЦЬ *зак.* Абязлюдзець. *Нада ж так вашый дзяреўні абязьлю́дзініць, як вымірла ўсё ўсюдых, нійдзе ні жывэя душы.*

АБЯЗНОЖЫВАЦЬ *незак.* Хварэць на ногі. *Яе сьвякрова стала абязножывыць, чуць хату пярёйдзіць, а іна ж грузныя баба.*

АБЯССТЫЖЫВАЦЬ *незак.* Траціць сорам. *Віджу, што пычынаіць абясстыжывыць, я зы тряхольля ды двору.* АБЯССТЫЖЫЦЬ *зак.* Страціць сорам. *Больши ні нада, як абясстыжый Мікілаій, дыбраўся ды ўласьці — і стыд, і совісьць пыціряў.*

АГЛАБІШЧА *ж. павеліч.* Аглобля. *Прікруцій к сыням аглабішчы, што туды нада ставіць ні кыня, а слына.*

АГЛАМАЗДАЧЫВАННЕ *н. эмац.* Ачмуранне. *Ні пыныравіцца Пёклі аглымыздáчывыньня, доўга іна ня высідзіць, можа нядзелю прадўріцца.*

АГЛАМАЗДАЧЫВАЦЬ *незак. эмац.* Ачмураць. *Відзілі мы: нейкія гырадзкея хлюсты вашых дзевык аглымыздáчывылі.* АГЛАМАЗДАЧЫВАЦЦА *незак.* Ачмурацца. *Ні пайду я туды аглымыздáчывыцца, ідзі сыма, кылі табе ўсякія трілю́ды нырáвюцца.* АГЛАМАЗДАЧЫЦЬ, АГЛАМАЗДАЦЬ, АГЛАМАЗДЗІЦЬ *зак.* Ачмурыць. *Ніхай ня думыіць, што ён такей атлёт, нарьвецца ны сваіх, аглымыздáчуць, будзіць толька вычамі лыпыць. Адным крікым аглымыздáюць, ня будзіш знаць, айдзе дзівацца. Аглымазьдзіў ты мне гылаву, я й ня помню, айдзе тэя ключы клала.* АГЛАМАЗДАЧЫЦЦА, АГЛАМАЗДАЦЦА *зак.* Ачмурыцца. *Ды адуренія аглымыздáчысься ат аднаго віску. Ня дзень, а пуўдня ўсяго пысядзі — і аглымыздáісься, пойдзіш аттуля як біз гылавы.* АГЛАМАЗДАЧАНЫЙ *дзеепрым. Выйшыў я са сходу аглымыздáчыный, ажно гылыва тряшчэла.*

АГЛОБІШЧА *ж.* Цабэрак. *Здаровыя аглобішча, нівісокыя, зь дзежку, як лазобка, толька с клёпык зьдзелына і абручы ыгнáты.*

АГОЙТАВАЦЬ *незак.* Супакойваць, сунімаць. *А разьві ты ні знаіш, як яго агойтывыць? — пымяні Кацю Пынасёнкыву.* АГОЙТАВАЦЦА *незак.* Супакойвацца, сунімацца. *Як нашы мушчыны пыдыйшлі, пычаў агойтывыцца.* АГОЙТАЦЬ *зак.* Супакоіць, суняць. *Быў рызвышапрўдзіўся, яго хлопцы нашы быйстра агойтылі.* АГОЙТАЦЦА *зак.* Супакоіцца, суняцца. *А пыдажджы трошку, агойтыіцца, што чутна яго ня будзіць.* АГОЙТАНЫЙ *дзеепрым. Січас ён будзіць сядзець агойтыный і ні пыварўшыцца.*

АДАЛІЦЬ *зак.* Адолець. *Адаліла сёліта травішча, я яе з бульбы вынісла, верна, вазоў пяць, а іна ўсё прець і прець.*

АДБАВІЦЦА *зак.* Зменшыцца. *Думыю сыма сабе: чаго йта вады стольна адбáвілыся, а ета дзірічка ў вядре, кáпыіць паціху і капыіць.*

АДБАГАВАЦЬ *зак. эмац.* Пажыць у раскошы. *Мінулыся вам урем,я адбугувáлі, цяперя прідзіцца сваімі рукамі кусок хлеба зырыбляць.* АДБАГАВАЦЦА *зак.* Нажыцца ў раскошы. *Вот-вот адбагўюцца, нісмашна ім будзіць жыць адзьдзельна.*

АДБАРАНІВАННЕ *н.* Абарона ад нападу. *Ні пымагло і Аўсейчыкыва адбырáнівыньня, ладна ім накíдылі.*

АДБАРАНІВАЦЬ *незак.* Адбараняць ад нападу. *Сколька раз нашы хлопцы цябе адбырáнівылі, усё ты ні каісься.* АДБАРАНІВАЦЦА *незак.* Адбараняцца ад нападу. *Другей раз будзіш сам адбырáнівыцца, ніхто ў тваю зашчыту ня пойдзіць.*

АДБАЯКЫВАННЕ *н.* Адмаўленне. *Яго такоя адбыя́кывыньня, ня ўмеіць ён цьвёрда скызаць: аччапіціся вы ат мяне, ну вас ґ богу.*

АДБАЯКЫВАЦЦА *незак.* Адмаўляцца. *Доўга ён адбыя́кывыўся ат етыя должнысьці, ні хацеў ні ш чым зьвязывыцца.* АДБАЯКАЦЦА *зак.* Адмовіцца. *Прістаў ка мне і прістаў: бяры,— я ні знаў, як адбыя́кыцца.*

АДБАЯРЫВАННЕ *н. эмац.* Адмаўленне. *Нічога зь яго адбыя́рівыньня ні палучыцца, паедзіць ён у лес як мілінькій.*

АДБАЯРЫВАЦЬ *незак. эмац.* Адбываць, выконваць, рабіць. *Адбыя́рівыў адзін за ўсіх, усюдых яго піхалі і піхалі.*

АДБІБАЦЬ, АДБІБКАЦЬ, АДБІБАЦЦА, АДБІБКАЦЦА *зак.* Перастаць хадзіць, зваліцца з ног. *Не ўжо, Сільчыха сваё адбíбыла, ляжыць і ні пыдымаіцца, ня-*

*вестка узьвярнуцца пымыгаіць. Адбібкыла я сваё, во сяджу ды ў вакно пыгляджу, хто па вуліцы пройдзіць. Кончылыся наша ўремя, адбібыліся, ляжы ды кынца дыжыдай. Адбібкылыся ці не, алі ж пакуля што ны сваіх ныгах.*

АДБЛАГАСЛАВІЦЬ *зак. перан. іран.* Аблаяць, збэсціць. *Пёкла стреніць і яшчэ адблыгыславіць, нашто ты Зьмітрыка трогыіш.* АДБЛАГАСЛАВІЦЦА *зак.* Выслухаць лаянку. *Ці ні другей раз ты сяньня адблыгыславіўся?* АДБЛАГАСЛАЎЛЕНЫЙ *дзеепрым. Як зыявіцца адблыгыслаўлёный, ты ны яго пыглядзіш.*

АДБРАХЫВАЦЬ *незак.* 1 *жарт.* Адплочваць брэхам. *Бряшы, бряшы, кармлёту нада адбря́хывыць.* 2 *перан. груб.* Перадаваць хлусню. *Якую лухту ні пупадуць, усё ім адбря́хывыюць і яшчэ аць сябе прібуўляюць.* АДБРАХАЦЬ *зак.* 1. Адплаціць брэхам. *Лезь ужо ў будку, ты свае косьці адбріха́ў, пыстыряўся.* 2. Перадаць хлусню. *Луччы прімоўчы, ні зьвязывыйся ш чырцямі, яны што хочыш туды адбрешуць.* АДБРАХАНЫЙ *дзеепрым.* Перададзены (пра хлусню). *Во пыглідзіцё, што заўтря будзіць адбріха́на.*

АДБРЫГАДЗІРЫЦЬ, АДБРЫГАДЗІРНІЧАЦЬ, АДБРЫГАДЗІРСТВАВАЦЬ, АДБРЫГАДЗІРЫЦЦА, АДБРЫГАДЗІРНІЧАЦЦА, АДБРЫГАДЗІРСТВАВАЦЦА *зак.* Скончыць працу за брыгадзіра. *Я сваё адбрігадзіріў, ніхай мыладыя пабегыюць, пызыка́зыюць. Доўга быў, гадоў дзьвінаццыць адбрігадзірнічыў. Ня думыю, што ён скора адбрігадзірствыіць, ён і ня думыіць здываць. Пырхімёнык пакуля ні адбрігадзіріўся, толька хочыць кідаць. Ета Пахомчыкыў маліц кызаў, што тэй ужо адбрігадзірнічыўся. Пасьледнія ўремя я нічога ня чуў, можа і Сенька адбрігадзірствывыўся.*

АДБРЫДЗЕЦЬ, АДБРЫДЗЕЦЦА *зак.* Моцна апрыкраць. *Ну й адбрыдзелі яны, аж глядзець ні магу, як па вуліцы ідуць, ета ж пряма нелюдзі жывэя. Адбрыдзеўся ён мне большы некуды.* АДБРЫДЗЕЛЫЙ *дзеепрым. Водз за што адбрыдзелый чылавек, дык ета зы язык: што ні пупала нясець, як ікая дурная баба.*

АДБУЙТАВАЦЦА *зак.* 1. Намучыцца. *Ну й адбуйтува́ліся мы ныт пнямі, ніхай ба яны пыгарелі на месьці.* 2. Скончыць пакуты. *Зы нядзелю я адбуйтува́ўся, цяперя вы пойдзіця кыпаць.*

АДБУЯННІЧАЦЬ, АДБУЯННІЧАЦЦА *зак.* Перастаць бушаваць, бу́яніць. *Я знаю, калі ён адбуя́ньнічыіць:*

*як за́грудкі хырашэнька тріхануць. Адбуя́ньнічыўся, цяперя ціхінька сядзіць у хаці і ня пікніць.*

АДГАДОВЫВАННЕ *н.* Загадоўванне (звыч. валасоў). *Нашто такоя адгадовывыньня валосься, яно мішаіць, у вочы лезіць.*

АДГАДЧЫВЫЙ, АДГАДЧЫВАТЫЙ *прым.* Такі, які хутка адгадвае. *Во Сашка быў адга́ччывый, бувала, любую зыгадку адга́дыіць. Ня быў ты ні разу адга́ччывытым, ты ні аднае мае зыгадкі ні адгыдаў.*

АДГАЛАДАЦЬ, АДГАЛАДАЦЦА *зак.* Нагаладавацца. *Дзень пысядзеў бяс хлеба — ета ня голыд, во Сярьгей адгылыда́ў пы-ныстыяшчыму. Кызалі, адгылыда́ліся крепка, асобінна на Віцібшчыні ныцярьпеліся.*

АДГАЛДАМАЧЫЦЬ *зак.* Намарнатравіцца, натранжырыцца. *Адгылдыма́чыў дык адгылдыма́чыў, етыга яму на ўсю жысьць хваціць.*

АДГАРАШЫЦЬ *зак.* Адкрышыць. *Крашынычку хлеба адгыраша́ла, у рот узіла, мне нічагенічка есьць нілізя.* АДГАРАШЫЦЦА *зак.* Адкрышыцца. *Во адгыраша́лыся нескылька крошык, нада нажом акуратна резыць.* АДГАРАШОНЫЙ *дзеепрым. Ці етым пыд'ясі, сколька ў цябе адгырашона.* АДГАРАШОМШЫ *дзеепрысл. Што йта дробнінькія кусочыкі адгырашомшы, ты акуратнінька атреж ножыкым.*

АДГВАЗДЗЯЧЫЦЬ *зак.* 1. Адлупцаваць моцна, са злосцю. *Іх тады абаіх у Рывах адгвызьдзя́чылі, крепка бакі нулупілі.* 2. Моцна запэцкаць. *Так адгвызьдзя́чыў новый пінжак, і ў грязішчы быў, і ў дзёгыць айдзе-то вы́квыцыў — страшна глядзець було.* АДГВАЗДЗЯЧЫЦЦА *зак.* Моцна запэцкацца. *Ну й адгвызьдзя́чыліся ж вы, ні пызнаць, што адзежына ны вас нейкыя.* АДГВАЗДЗЯЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Адлупцаваны моцна, са злосцю. *Можа й адгвызьдзя́чыныя, ні знаю, муўчаць, ні хвалюцца.* 2. Моцна запэцканы. *Дзень нейдзі поўзыў, явіўся — штанёнкі адгвызьдзя́чыныя, іх дайжа ні атмыіш.*

АДГІМОРНІЧАЦЬ, АДГІМОРНІЧАЦЦА *зак. экспр.* Навычварацца. *Як ні зварю есьць дзень-другей, тады адґіморнічыіш, піріstаніш круціць носым. Ажно ня веріцца, што Шпычанок адґіморнічыўся.*

АДГЛАМАЗДАЦЬ, АДГЛАМАЗДЗІЦЬ *зак.* 1. Вызваліць ад загрувашчвання. *Адглымызда́ў ба двор хут трохy, ны яго ні пыкызацца. Дзьвері я адглымазьдзіў, можна зыхадзіць у анба́рчык.* 2. Зрабіць няўмела. *Ну й адглымызда́ў пуньку,— каб ат ветру ні зывалілыся. Бярец-*

*ца за ўсё, адглымазьдзіць што хочыш.* 3 *эмац.* Пабіць. *Каб адглымыздаў яму бакі, ён ба троху за розум узяўся. Ну, думыю, адглымажджу, дык ён уцёк ґ бані на хутырі на рыжый кабылі.* АДГЛАМАЗДАЦЦА, АДГЛАМАЗДЗІЦЦА *зак.* 1. Вызваліцца ад загрувашчвання. *Калі ў цябе етый праход адглымыздаіцца? Во чуць-нячуць вароты адглымазьдзіліся, ато ні аччыніць було.* 2. Пабіцца. *Такім ветріным нядоўга і адглымыздацца. Яны такея, што січас рызгыварівыюць, дружуць, а ціріс пуўчыса адглымазьдзіліся.* АДГЛАМАЗДАНЫЙ, АДГЛАМАЗДЖОНЫЙ, АДГЛАМОЗДЖАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Вызвалены ад загрувашчвання. *Ны праходзі, відзіш, адглымыздана, пралезьць можна. Там жа ішчэ дзьвері ні адглымажджоны. Іду, гляджу — і праўда, адгламожджына.* 2. Зроблены няўмела. *Адглымыздана — толька любуваццa. Вы каб глянулі, якоя ў яго прясла адглымажджона. Як ні адгламожджына, алі ж ні цякець.* 3. Пабіты. *Муўчаць, нічога ні гаворюць, можа і адглымыздаиы. Пашоў ён ісь Сільца адглымажджоный. Пырядышна адгламожджыны, спрасі, ніхай рыскажуць, як було.* АДГЛАМАЗДЗЁМШЫ *дзеепрысл.* 1. Вызваліўшы ад загрувашчвання. *Не, дайжа ня думый, ні адглымазьдзёмшы тута ні пад'едзіш.* 2. Зрабіўшы няўмела. *Адглымазьдзёмшы такую хату, можна хваліцца: калі крепка патперць, іна ні зываліцца.* 3. Пабіўшы. *Адглымазьдзёмшы яго, можа троху уніміцца адурюваць.*

АДГЛУЗДЗІЦЬ, АДГЛУЗДЗІЦЦА *зак. неадабр.* Перастаць гаварыць пустое. *Калі ён сваe басьні адглузьдзіць,— што ўжо ныдаеў з лухтою зь естыю. Адзін адглузьдзіцца — другей пычынаіць, во так во ныпіряменку дурюць гылаву.* АДГЛУЗДЖОНЫЙ *дзеепрым. Ці ўсё ў вас адглужджона ай ныздаўтріга трошку кінулі?* АДГЛУЗДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Рысьцягнуліся, слава богу, пуўдня адглузьдзёмшы.*

АДГРОБКІ *мн.* Адгрэбеныя рэшткі (звыч. саломы). *Адгрёбкі у цэлыю салому ня сунь, яны сыбяруцца ды ў пуню пад ногі кінуцца. Памянш.* АДГРОБАЧКІ. *Там адгрёбычык трошку астáлыся, нада було б прібраць, ніхай ба ні мяклі.*

АДГРОБШЧЫК *м.* Той, хто адграбае. *Ня дужа лёхка з грыблямі стыяць, зымаріліся адгрёбшчыкі, ды пыльна яшчэ.* АДГРОБШЧЫЦА *ж. Ікая ні адгрёбшчыца, а патроху адгáрнывыла ячмень.*

АДГРОХАНЫЙ *дзеепрым.* Пабудаваны (пра вяліз-

нае збудаванне). *Ета пыдзівіцца толька, якей дамю́га ў Гурчынка адгрохын, як у горыдзі.*

АДДАДЖАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Аддадзены, вернуты. *Ягор быў царькоўный старыста, ён дывав кнігі і штоб аддáджына було.* 2. Адданы, верны. *Такей аддáджыный стыря́ціль, днював ба і нучував у калхозі.*

АДДАЛДОНІЦЬ, АДДАЛДОНІЦЦА *зак. неадабр.* Скончыць пустыя размовы. *Вам каб судкі даў, можа б тады як-небудзь аддалдонілі. Як жа яны так скора аддалдоніліся, паверіць нілізя.*

АДДЗЕНЧЫЦЦА *зак.* Аддзякаваць. *Я ні прідумыю, як ім адзьдзенчыцца зы такія пыдаркі, яны многа чаго прівязьлі.*

АДДЕРЖАЦЬ, АДДЗЯРЖАЦЬ *зак.* Пратрымацца (пра надвор'е). *Крепка зіма адзьдзержыла, такея пікуны́ былі ды самыя масьлінкі. Хырашо адзьдзіржáла пагода, людзі і сь сеным, і сы жнівом управіліся.* АДДЗЕРЖАЦЦА, АДДЗЯРЖАЦЦА *зак.* 1. Пратрымацца (пра надвор'е). *Каб нядзельку яшчэ адзьдзержылыся пагода, прібралі б усё. Ні нада богу гряшыць, сёлітнія восінь адзьдзіржáлыся як нада.* 2 *метаф.* Пражыць. *А во так пірібіваліся з быка ны індыка, так і адзьдзержыліся. Трудна було, дужа трудна, мы чуць-чуць адзьдзіржáліся, блыгыдыря ішчэ карова была малошныя, хуць шчавіль зыбяліць хвытала.*

АДДЗІКАВАЦЬ, АДДЗІКАВАЦЦА *зак.* Надзівавацца. *Пыдажджыця, адзьдзіку́іця ня столька, яшчэ ня ета пірявідзіця. Ну што яны жывуць — людзей сьмешуць, учора ці мала адзьдзікувáліся, як тря́пкі пірякідывылі ціріс парог.*

АДДЗЯНДЗЮЛІЦЬ, АДДЗЯНДЗЮРЫЦЬ, АДДЗЮНДЗЮЛІЦЬ, АДДЗЮНДЗЮРЫЦЬ, АДДЗЮНДЗІЦЬ, АДДЗЯНДЗЮЛІЦЦА, АДДЗЯНДЗЮРЫЦЦА, АДДЗЮНДЗЮЛІЦЦА, АДДЗЮНДЗЮРЫЦЦА, АДДЗЮНДЗІЦЦА *зак. эмац.* Спыніць балбатню. *Во німа зыняція бабым, ніяк ні адзьдзяньдзю́люць свае трілюды. Я і ня чула, калі яны адзьдзяньдзю́рілі ўчора. Ня думыю, каб яны так скора адзьдзюньдзю́лілі. Ім нада многа ўремя, каб адзьдзюньдзю́ріць. Пріхадзіла сяньня Алёна, во адзьдзю́ньдзіла, у мяне аж гылыва зыбалела. Сколька ім нада ўремя адзьдзяньдзю́ліцца, ці хваціла б дзьвеюх нядзель? Во тыкі чуць-нячуць адзьдзяньдзю́риліся, пірісталі ныдыідаць. Слава табе госпыдзі, дзьве кумы адзьдзюнь-

*дзюліліся, рызыйшліся. Можа к вечыру адзьдзюньдзюрюцца, а можа й не, троху цёмныга пріхвацюць. Калі вы адзьдзюньдзіціся, ці ні пыра двору рысхадзіцца.*

АДДЗЯЎБУЛІВАННЕ *н.* Адбіванне дзяўбаннем. *Нічога ў яго с адзьдзяўбулівыньня ні палучыцца, нада крепкыю сілу прілажыць.*

АДДЗЯЎБУЛІВАЦЬ *незак.* 1. Няўмела адсякаць, адбіваць. *Пу суку ў час адзьдзяўбулівыіць тэй масьціp хваліный.* 2. Аддзяляць дзяўбаннем. *Зразу пупылáм я ні рызаб'ю ету калоду, кускамі з бакоў адзьдзяўбулівыю.* АДДЗЯЎБУЛІВАЦЦА *незак.* 1. Няўмела адсякацца, адбівацца. *Нада дальшы сеч, патроху адзьдзяўбулівыіцца усё рыгацьцё.* 2. Аддзяляцца дзяўбаннем. *Лі дзьвярей намёрзла, аччыніць нілізя, пу кусках лёд адзьдзяўбулівыіцца.* АДДЗЯЎБУЛІЦЬ *зак.* 1. Няўмела адсячы, адбіць. *Во відзіш, і Сярёжка сук адзьдзяўбуліў.* 2. Аддзяліць дзяўбаннем. *Нічога ты ат етыга камня ні адзьдзяўбуліш, ён дужа крепкій.* 3 *перан.* Адчувальна пабіць. *Дужа зь ім ні цацкыіцца, кычарьгою адзьдзяўбуліць, адзьдзяўбуліць,— а што с п'яніцыю дзелыць, кылі капейкі двору ні пріносіць.* АДДЗЯЎБУЛІЦЦА *зак.* 1. Няўмела адсячыся, адбіцца. *Сякі, сякі, як адзьдзяўбуліцца, так і ладна будзіць.* 2. Аддзяліцца дзяўбаннем. *Адзін кусок адзьдзяўбуліўся, а большы ні пыддаецца.* АДДЗЯЎБУЛІВАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Няўмела адсяканы, адбіваны. *Нейкыю тупіцыю адзьдзяўбулівына суччa.* 2. Аддзяляны дзяўбаннем. *Відна, што зь естыга боку адзьдзяўбулівына ломым.* АДДЗЯЎБУЛЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Няўмела адсечаны, адбіты. *Большыя адзьдзяўбуліныя шчэпкі зынясі ў хату, а меншыя пызьбірай у карзіну.* 2. Аддзелены дзяўбаннем. *Адзін кусок адзьдзяўбулін, а большы хуць зубамі ірьві.* 3. Адчувальна пабіты. *Ён і адзьдзяўбуліный цябе нісколька ні паслухыіць.*

АДДЗЯЎБЫВАЦЬ, АДДЗЁЎБЫВАЦЬ *незак. перан.* Адколваць кавалкамі. *Во кускамі адзьдзяўбывыю ат калодкі і кідаю ў грубычку. Кускамі дренна адзьдзёўбывыць, нада нáпыл біць.* АДДЗЯЎБЫВАЦЦА, АДДЗЁЎБЫВАЦЦА *незак.* Адколвацца кавалкамі. *Якей ні калоньнік, алі ж патроху адзьдзяўбывыіцца. Сьпірва адзьдзёўбывылыся, а цяперя нічога ні магу зьдзелыць.* АДДЗЯЎБАЦЬ, АДДЗЁЎБЦЬ *зак.* Адкалоць кавалкамі. *Ікая ні сукуватыя калода, а во нескылька кускоў адзьдзіўбаў. Ну пыказывый, што ты тут адзьдзёўб.* АДДЗЯЎБАЦЦА, АДДЗЁЎБЦЦА *зак.* Адкалоцца кавалкамі. *Па-*

*мойму, зь естыга боку скарей адзьдзіўбаіцца, тута меншы сукоў. Адзьдзяўбецца ні адзьдзяўбецца, а паспробывыць нада.* АДДЗЯЎБАНЫЙ *дзеепрым. Нешта мала ў цябе адзьдзюўбана, с такім стыряньнім можна большы аткалоць.*

АДДРЫНКАЦЦА *зак. эмац.* Перастаць швэндацца, бадзяцца. *Ета с такога пріродзьдзя, што няскора аддрынкыіцца, ці помніш, як бацька яго сойдзіць ны нядзелю і ніізьвесна айдзе блукуняіцца.*

АДДУБЕЧЫЦЬ *зак. эмац.* Пабіць. *Цябе б ішчэ зы Пынасывы мідунічкі нада було аддубечыць.* АДДУБЕЧАНЫЙ *дзеепрым. Калі сяньня ні аддубечын, то заўтря пупадзесься ім у рукі.*

АДДУБІЧЫЦЬ *зак. эмац.* 1. Прайсці, адолець у хадзе. *Як с плена ішоў, раз за ноч вёрст підзьдзісят аддубічыў.* 2. Адлупцаваць. *Цябе даўно нада було аддубічыць зы твае дуры.* АДДУБІЧАНЫЙ *дзеепрым.* Адлупцаваны. *Ну дык што, кылі я аддубічыный, табе ж мае бакі ні быляць.*

АДДУБЫРЫВАЦЬ *незак. перан.* Адвучваць. *Аддубырівый малыга ац спадніцы, прівучыўся усьлед цігацца, ні ны шаг ні астаецца.* АДДУБЫРЫВАЦЦА *незак.* Адвучвацца. *Ніяк ні аддубырівыіцца ац соскі.* АДДУБЫРЫЦЬ *зак.* Адвучыць. *Аддубырь малыга етык балывыцца, ён нікрасіва дзелыіць.* АДДУБЫРЫЦЦА *зак.* Адвучыцца. *Ніяк ні аддубыріцца брацьь ложку ў левыю руку.*

АДДУДОЛІЦЬ *зак. эмац.* Адпіць. *Ён пупадзець у цябе ету пыўлітроўку і пылавіну аддудоліць.* АДДУДОЛЕНЫЙ *дзеепрым. Куды ж ты пынясеш аддудоліныю бутылычку?*

АДДУМАННЕ *н.* Аддзьмухванне. *Сяньня слабыя аддуманьня, ветру пасьці саўсім німа.*

АДДУМАЦЬ *зак.* Шмат перадумаць. *Што аддумыла я пры сваіх, як доўга пісём ні було, лягу спаць — усё яны ў вычах роюцца.* АДДУМАЦЦА *зак.* Шмат перадумацца. *Усяго аддумылыся, ці мала чаго магло случыцца.*

АДДУМАЦЬ *незак.* Аддзьмухваць. *Веціp сюда, дык ён аддуміць мякіну.* АДДУМАЦЦА *незак.* Аддзьмухвацца. *Хырашо, што пыл віцярком аддуміцца, ато ні прыдыхнуў ба тут.*

АДЖУЛЬНІЧАЦЬ *зак.* Пазаймацца махлярствам. *З намі б ён столька ні аджжульнічыў, а яны, выранкі, ні пынімаюць, што ён круціць.*

АДЗВАНІЦЦА *зак. перан. іран.* Скончыць балбатню.

*Ідзі, пакуль яны адззвонюцца, ты пасьпеіш у горыд зьезьдзіць і вярнуцца.*

АДЗВЯЗДЗІЦЬ, АДЗВЯЗДЗЯЧЫЦЬ *зак. эмац.* Пабіць. *Як адзьзьвізьдзя́ць ладна, другей раз будзіш знаць, ці мішацца куды ні нада. Сам ныкысáўся, яго й адзьзьвізьдзя́чылі.* АДЗВЯЗДЖОНЫЙ, АДЗВЯЗДЗЯЧАНЫЙ *дзеепрым. А хто вам гыварій, што яны адзьзьвяжджоныя пабеглі? Нягож ня будзіць адзьзьвізьдзя́чыный, раз у гылаве німа ні радзімца.*

АДЗЕРЖЫВАЦЦА *незак.* Устрымліваццa. *Ня буду гыварíць, пасьледнія ўремя пыцішэў, адзержывыіцца, ні гырчыць як раншы.* АДЗЕРЖАЦЦА, АДЗЯРЖАЦЦА *зак.* Устрымацца. *Троху адзержыўся, ня п'ець, сколька ета пабýдзіць, ні знаю. Яму трудна було адзіржáцца.*

АДЗУДЗЕЦЬ, АДЗУДЗЕЦЦА *зак. эмац.* Надакучыць размовамі. *Ікая ныдыядлыя стырáя, пакуля ні адззудзíць, нізашто ні ўспакоіцца. Дай ты ёй урёмя адззудзецца, душу атвесьць.*

АДЗЯЯЛКА *н.* Невялікая коўдра. *Уськінь ны вярёўку дзіцёнкыва адзія́лка, на ветрі яно мігым прасохніць.*

АДКАЛАМСАЦЬ, АДКАЛАМСІЦЬ, АДКАЛАМСОЛІЦЬ *зак. эмац.* 1. Памясіць, патаптаць. *Аткылымсáла грязь, хваціць, палезу на печ грецца. Нада ж було вам столька із-зы ірунды аткыламсíць пы грязішчы. Ладна мы сяньня аткыламсолілі, усё рызьмякла, саўсім нілізя іціць.* 2 *перан.* Павычвараць. *Як толька пы чаркі айдзе пупадуць, тады аткылымсáюць. Нам рысказывылі, сколька яны аткыламсілі ў Валоўнікых. Аткыламсолілі вашы хлопцы, цяперя нікога ня чутна ў дзярейні.* АДКАЛАМСАЦЦА, АДКАЛАМСІЦЦА, АДКАЛАМСОЛІЦЦА *зак.* 1. Намясіцца. *Каб ты столька аткылымсáўся пы такой дарогі, ты б ня ета гыварíў. Аткыламсíліся, хваціць з нас, прішлі — ногі мокрыя, вобуў хуць выкруць. Як аткыламсолісься на етым дваре, дык нічога ні захочыш.* 2. Навычварацца. *Ну, Сільчанок аткылымсáіцца, вы ны яго нулюбýіціся. Ня трогыйця чорта, аткыламсíцца і сам успакоіцца. Учора яны аткыламсоліліся кылы Мяцёлкіных, усяго ўсякыга зь іх нывытвыря́лыся.*

АДКАЛУПЫВАННЕ *н.* Аддзяленне калупаннем. *Пупадзець яму зы аткалýпывыньня, іш, малютычка, зыняція сабе ні найдзіць.*

АДКАМІСАРЫЦЬ, АДКАМІСАРНІЧАЦЬ, АДКАМІСАРСТВАВАЦЬ, АДКАМІСАРЫЦЦА, АДКАМІСАРНІЧАЦЦА, АДКАМІСАРСТВАВАЦЦА *зак.* Папрацаваць

на кіруючай пасадзе. *Міхалка тады ладна аткымісáрiў, уго якім нычальнікым быў. Пыдажджы, скора ён аткымісáрнічыіць, спадзець зь яго карона, станіць, як усе. А што ты хочыш, і Максім троху аткымісáрствывыў. Вот аткымісáрюцца, нячутна і нявідна станіць, ніхто на іх унімання ні абраціць. Як аткымісáрнічыўся, стаіць раз пысярёд двыра і ны калёсы глядзіць: пычыняць нада і брацца мýтырна дужа. Яму аткымісáрствывыцца многа ўремя нада.*

АДКАНЦЫЛЯРЫЦЬ, АДКАНЦЫЛЯРНІЧАЦЬ, АДКАНЦЫЛЯРСТВАВАЦЬ, АДКАНЦЫЛЯРЫЦЦА, АДКАНЦЫЛЯРНІЧАЦЦА, АДКАНЦЫЛЯРСТВАВАЦЦА *зак.* Адпрацаваць у канцылярыі. *Высімнаццыць гадоў аткынцылярiў, наседзіўся з разнымі старшынымі. Скора мой аткынцылярнічыіць, пойдзіць на пеньсію. Як аткынцылярствыю, тады я свабодна буду. Ці ты іщчэ ні аткынцылярiўся? — я думыў, ты ўжо кінуў свае бумагі. Не, ён пакуль ні аткынцылярнічыўся, сядзіць, шчытаіць. Гады ціріз два аткынцылярствыіцца.*

АДКАПАРЫЦЬ, АДКАПАРЫЦЦА *зак.* Напоркацца. *Ну, ці аткыпарілі вы тута? — урема німа столька кулупацца. Ім аткыпаріцца многа ўремя нада, каб цэлый дзень атвёў.* АДКАПАРОМШЫ *дзеепрысл.* *Аткыпарёмшы можа пыдвылакуцца табе паможч.*

АДКАРАСКЫВАННЕ *н.* Пазбаўленне з намаганнямі. *Мы доўга глядзелі ны Ільлёва аткыраскывыньня: і пайціць хацелыся, і дзелыў від, што ўпіраіцца, а яго сілыю вылакуць.*

АДКАРСТВАВАЦЬ, АДКАРСТВАВАЦЦА *зак.* Напакутавацца, адпакутаваць. *Што намучылыся Прося, пакуля яе бог прібраў, што аткáрствывыла, адна я толька знаю. Аткáрствывыўся тады, як ногі кіпятком апшapiў, с пайгода мучыўся.*

АДКАТЛЕЦЬ *зак.* Намерзнуцца, накалецца. *Аткатлеюць яны ны такой хыладзіні, на ветрі дык цярьпець нілізя.* АДКАТЛЕЛЫЙ *дзеепрым.* *Пріскочуць аткатлелыя, я ім гырячыя капусты увальлю сагрецца.*

АДКІМАРЫЦЬ, АДКІМАРЫЦЦА *зак.* Надрамацца. *Ён і на сходзі пыдладзіцца аткімáріць. Ты ўжо аткімáріўся, хваціць, схадзі пыкáшывый.*

АДКЛЁВЫВАЦЬ, АДКЛЁВЫВАЦЦА *незак.* Пакрысе папраўляцца пасля цяжкай хваробы. *Высілёнык пычаў ужо атклёвывыць патрошку. Гыварілі, што Цімох атклёвывыіцца.* АДКЛЁВАЦЬ, АДКЛЁВАЦЦА, АДКЛЯЯЦ-

ЦА *зак.* Пакрысе паправіцца пасля цяжкай хваробы. *Ні знаю, ці атклёвыіць ён, дужа цяжола ляжыць. Ужо ніхто ні надзеійся, што толк будзіць, а во атклёвыйся. Дужа крепка ліжаў Гыпанёнык, усю зіму пралежыў, а к вясьне атклійўся.*

АДКРАДАЦЬ *незак.* Адкрадваць. *Па пуніх шныхырілі і яйцы зьбіралі, хувалі к субоці, а ма́лыя пыдглядывылі за імі і аткрыда́лі.*

АДКРАСАВАЦЬ, АДКРАСАВАЦЦА *зак.* Пажыць у выгодзе, дастатку. *Айдзе іна аткрасу́іць, кылі мужык — аторьвіна пасьледнія, праўда, бутылычку найціць ні ляніцца. Стыхван — чылавек быў харошый, ты аткрусува́лыся за ім, табе завідывылі.*

АДКРЫВАЦЬ *незак.* Праганяць плугам баразну, у якую садзяць пры сяўбе бульбу. *Бульбу пасеілі у быразну, прісы́пыў плугым, а тады аткрыва́й быразну, каб узноў сеіць грядку.* АДКРЫВАЦЦА *незак.* Праганяцца (пра баразну, у якую садзяць пры сяўбе бульбу). *Во ета бырызна аткрыва́іцца, сейця.* АДКРЫЦЬ *зак.* Прагнаць плугам баразну, у якую садзяць пры сяўбе бульбу. *Вы ня спутыйця, ета я прісы́пыў, а буду ехыць — аткры́ю быразну, ато вы насеіця: спорціця борызны.* АДКРЫЦЦА *зак.* Прагнацца (пра баразну, у якую садзяць пры сяўбе бульбу). *Сьледуішчыя бырызна аткры́іцца, будзіця сеіць.* АДКРЫТЫЙ *дзеепрым. Во ета бырызна аткры́та, сеіць нада, а прікрыта была тэй раз.*

АДКРЭМСАЦЬ, АДКРАМСАЦЬ *зак.* Адрэзаць ці адламаць з цяжкасцю, неакуратна. *Хлеба аткремсыіць кусок, схваціць і пабег ну пуўдня лётыць па вуліцы. Дзьве палкі аткрімса́лі, яны гнілуватыя, ня хочуць гарэць.* АДКРЭМСАЦЦА, АДКРАМСАЦЦА *зак.* Адрэзацца ці адламацца з цяжкасцю, неакуратна. *Чуць ні пайбулкі аткремсылыся, усяго ні бярі, ты ні зьясі. Што тут аткрімса́іцца ат етыга вокырка, адны косьці аста́ліся.* АДКРЭМСАНЫЙ, АДКРАМСАНЫЙ *дзеепрым. Вун твае аткремсыныя кускі выляюцца, бярі іх і ня трогый булкі. Тама нескылька аткрімса́ных палык, рыскалі пупылам.*

АДКСЦІЦЬ *зак. перан. іран.* Аблаяць, збэсціць. *Пыглядзіш, што атксьціць цябе Андряёўна, так ні абойдзіцца.* АДКСЦІЦЦА *зак.* Выслухаць лаянку. *Во атксьцісься у Зыхаріхі, і табе зразу палехчыіць.* АДКШЧОНЫЙ *дзеепрым. Ты ўжо яго ні чыпай, як аткшчоный прідзіць.*

АДКУКАВАЦЬ *зак. перан.* Наплакацца ўголас. *Што*

*ўжо аткукувáла Нінка, як пулучыла ціліграм,— Васіль жа пріехыў і скызаў, што Аніс пупруўляіцца і скора выпішыцца.*

АДКУМЕЧЫЦЬ, АДКУМЕЧЫЦЦА *зак. жарт.* Скончыць роздум. *Пастой, пастой мінутку, скора яны аткумечуць, тады будзіць ляхчэй рызгыварівыць. Ня трогый, можа яны ґ заўтріку і аткумечуцца, а пымішаіш — яшчэ нядзелю будуць думыць.*

АДКУТЫВАННЕ *н.* Адкрыванне. *Во маё аткýтывыньня: юшку дыстала, а нызад зылажыць забыла, увесь дух сыйшоў.*

АДНАВЕРНА *прысл.* Сумленна. *Водз за тоя хвалю, што так аднаверна зьдзелыў, ні падвёў.*

АДНАВЕРНАСЦЬ *ж.* Сумленнасць. *Не, ня столька ў яго аднавернысьці, як ты гаворіш, успомні-ка, як ён Пылагеіных падвёў.*

АДНАВЕРНЫЙ *прым.* Сумленны. *Хто-хто, а Кузьма быў аднаверный чылавек, калі ўжо што пыбішчаіць, усігда выпыўніць. Памянш.* АДНАВЕРНЕНЬКІЙ. *Мы знаім, што твой зяць аднаверніцькій, толька чыйго ета сынка Томка нянчыць.*

АДНАГОДАК *м.* Аднагадовая расліна. *Вык — аднагодык, ну другей год ён ня будзіць росьць, узноў сеіць нада.*

АДНАЛІШНА *прысл.* Аднаасобна. *У нас адзін толька Пынас жыў ды вайны адналішна.*

АДПАЛЫВАННЕ *н.* Дапамога ў праполцы як вяртанне доўгу за зробленае. *Атпáлывыньня — ні тыкая ўжо быльшая работа, а ўсё зынята, ні за што другоя ня возьміcься.*

АДПАЛЫВАЦЬ *незак.* 1. Палоць ад пэўнай мяжы. *Я пычыла атпáлывыць ат лашчынкі.* 2. Дапамагаць у праполцы, вяртаючы доўг за зробленае. *Што ж ты зьдзелыіш, прідзіцца атпáлывыць, іна пымыгала, прітна дзень работыла.* АДПАЛЫВАЦЦА *незак.* Дапамагаць у праполцы, вяртаючы доўг за зробленае. *Заўтря я пайду атпáлывыцца.* АДПАЛОЦЬ *зак.* 1. Прапалоць ад пэўнай мяжы. *Пы ячменю зысідаіць трыва, у первыю вочырідзь атпалі ат кынаўкі, тама зябір аж гудзіць.* 2. Дапамагчы ў праполцы, вяртаючы доўг за зробленае. *Сяньня схадзі ты пыпалывый, а я атпалю другім разым.* АДПАЛОЦЦА *зак.* Прапалоцца ад пэўнай мяжы. *Як ат'етуль атполіцца, пычысьцеіць, і ячмень скарей пойдзіць росьць.* АДПОЛАТЫЙ *дзеепрым.* 1. Праполаны ад пэўнай мяжы. *Ат кусь-*

*цікыў усьцяж атполыта, чысьцінькыя пышанічка, пысярёд нада прырваць.* 2. Прапаланы як доўг за зробленае. *За вочырідзь зы карoў у мяне атполыта.*

АДПЕЦЬ *зак.* 1. Наспявацца. *Ны атправіцільный дзеўкі што атпелі ўжо!* 2 *перан.* Выказацца гучна і рэзка. *Іна атпяець, што слухыць ні захочыш, баба ішчэ тая.* АДПЕЦЦА *зак.* Наспявацца. *Скора свадзьба ў Мыксімёнка, там вы атпііцёся, быльшая гульня будзіць.*

АДПЕЧ *зак. перан.* Спыніцца (пра пякучы боль). *Во атпіклá мыя сярэдзіна, круціўся я, круціўся, ніяк ні пыдбяру места лежч.*

АДПЛАКЫВАЦЬ *незак.* Выплакваць. *Я сыбрала сваё горя і стала атплáкывыць.*

АДПРАВА *ж.* Праводзіны. *Па-мойму, ну суботу у іх намечына атпрáва, хадзілі у Бяліпчына зваць сваіх.*

АДПРАЎЛЯНЫЙ *дзеепрым.* Пасвечаны ў царкве. *Сістра пріхадзіла, прінісла атпруўляныя вады, я ліцо памыла і пы хаці пабрызкыла.*

АДСАВЕТАЦЬ *зак.* Адраіць. *Хырашо, што Ныталка ацсаветыла ёй такога зяця, во нугурювaліся б, каб узялі.* АДСАВЕТАНЫЙ *дзеепрым. Мы зразу зьмікіцілі, што ім ацсаветына с Колію з Рыжычонкывым.*

АДСАМІЦЦА *зак.* Знікнуць (пра апетыт). *У мяне так: адзін раз пысáміцца, другей раз ацсáміцца, ні прідумыю, што зьела б.*

АДСВАДЗЬДЗІЦЦА *зак. жарт.* Скончыцца (пра вяселле). *Ну во, ацсвáдзьбіцца, тады трошку ўремя пысвыбаднеіць.*

АДСЕДЖЫВАЦЬ, АДСЕДЖЫВАЦЦА *незак. перан.* Жыць, абыходзіцца. *Мы дроў ні купляли, сваімі ацьседжывылі, буйнейшыя бярёзычкі атклыдáлі к марозым, а паціпнікым тапіліся. Усяк пріхадзілыся, калі нічога жылі, а калі біс куска хлеба ацьседжывыліся.* АДСЕДЗЕЦЬ, АДСЕДЗЕЦЦА *зак.* Пражыць, абысціся. *С адною бульбыю ацьседзілі пасьці трі гады, трудна було, дужа трудна. Мы тады ацьседзіліся з выкым ды семім альляным.*

АДСЕЧ *зак.* Ссячы. *Будзіш ехыць ціріз Радкеўшчыну, ацьсякі дзьве алешыны вісокія на лесьвіцу.*

АДСКУЧАЦЬ *зак.* Насумавацца. *Ацскучáў ён пы сваёй Надзічкі, устреціў сяньня, пріехыла з Воршы.*

АДСЛАНЯННЕ *н.* Адыманне засланкі. *Ні балыйціся с ацслынянньнім, ня трогыйця заслонкі, ішчэ пулумаіця.*

АДСПАСІБКАЦЬ, АДСПАСІБКАЦЦА *зак.* Надзя-

каваццa. *Што ўжо ацспасібкыў Толік: я яго дачок падвёз да горыда. Ці ацспасібкылыся ж Наста куме сваёй?*

АДСТАРАСТВАВАЦЬ, АДСТАРАСТВАВАЦЦА *зак.* Папрацаваць старастам. *Ну што ён ацстáрыствывыў: згніў нейдзі і ніводзін чылавек добрым словым ня ўспомніць. Тэй ладна ацстáрыствывыўся, сколька уріда людзям тваріў.*

АДСТОЛІВАННЕ *н.* Разбіранне столі. *Ня хочыцца яму у суботу брацца зы ацстолівыньня.*

АДСТОЛІВАЦЬ *незак.* Разбіраць столь. *Я заўтря вазьмуся ацстолівыць, сяньня у пыль ні палезу.* АДСТОЛІВАЦЦА *незак.* Разбірацца (пра столь). *Патроху ацстолівыіцца, нялоўка выбіраць досткі.* АДСТОЛІЦЬ *зак.* Разабраць столь. *Адну кватэрку памог, ацстоліў, дальшы ніхай самі лезуць.* АДСТОЛІЦЦА *зак.* Разабрацца (пра столь). *Пыльныя работа, грязныя, алі ж само ні ацстоліцца.* АДСТОЛЕНЫЙ *дзеепрым. Хата ацстоліна і ў клеці рызыбраў, сь сянец нада сьkінуць.*

АДСТРАПАЛІВАЦЬ *незак.* Рабіць надзвычайнае. *Ого, якей прайдошлівый быў маліц, якіх толькa штук ён ні ацстрыпáлівыў.*

АДСУНУВАЦЬ *незак.* Адсоўваць. *Я яго ні дзіржала ў руках, ацсýнувыла, яно мне ні нада, тваё семя.* АДСУНУВАЦЦА *незак.* Адсоўвацца. *Ацсýнувыйся к сьцяне, я ны крайку пыляжу мінутычку, у мяне нічога ня дзелына.*

АДСЯВАННІК *м.* Той, хто адсявае. *Ацьсівáньнікі трошку пыкыпаліся і ліжаць ны саломі.* АДСЯВАННІЦА *ж. Ідзець наша ацьсівáньніца с пустым вядзерцым, кончыла работу.*

АДСЯКАЦЬ *незак. метаф.* Адпрэчваць. *Ацьсікáць ад двыра балыўнікыў нада, нашто яны тута.* АДСЕЧ *зак.* Адпрэчыць. *А таго ацьсеклі, што зладу ніякыга зь ім ні було.*

АДТАРКЫВАННІК, АДТОРКЫВАННІК *м.* Той, хто вынімае затычку, корак. *Пыдзяржы лесьвічку, іна слабінька стаіць, хісьнецца — і пыляціць твой аттáркывыньнік. Во атторкывыньнік, пылавіну саломы зь дзірькі выцігнуў і зьлез.* АДТАРКЫВАННІЦА, АДТОРКЫВАННІЦА *ж. Крепка ваюіцца аттáркывыньніца, ні на сьмех узілася. Ідзі пымагі атторкывыньніцы, іна ні дыстаець ды вакенца.*

АДТАРКЫВАЦЬ, АДТОРКЫВАЦЬ *незак.* Вынімаць затычку, корак. *Па-мойму, ні нада сяньня вакенцы ат-*

*та́ркывыць, веціp с таго боку прама ў пуню. Атторкывый-ка ты сваe тряпкі, тута нічога ня віднa.* АДТАРКЫВАЦЦА, АДТОРКЫВАЦЦА *незак.* Вынімацца (пра затычку, корак). *Што там у цябе ніяк ні аттáркывыіцца? Пыдажджы, пычынаіць атторкывыцца, січас пысьвятлеіць.* АДТОРНУЦЬ *зак.* Выняць затычку, корак. *Верна, ці ня тхорь пріхадзіў, усю салому атторнуў.* АДТОРНУЦЦА *зак.* Выняцца (пра затычку, корак). *Пастой, атторніцца, і ўвідзіш, айдзе тэя граблі стыяць.* АДТАРКЫВАНЫЙ, АДТОРКЫВАНЫЙ, АДТОРНУТЫЙ *дзеепрым. Ці аттáркывын ета вяршок, нешта дужа дымна ў бані. Меншыя вакенца ні атторкывына, я туды дайжа ні зыхадзіў. У атторнутыя шчэлкі дужа дмець, нада узной хырашэнька папторкыць.*

АДТАПІЦЬ *зак.* Затапіць (вадой). *Кыла лугу бальшэй кусок аттапіла, усю нізіну, няскора высыхніць.* АДТОПЛЕНЫЙ *дзеепрым. Айдзе було аттопліна, нічога німа, кой-айдзе ячменіны сідзяць.*

АДТРАСКАТАЦЬ, АДТРАСКАТАЦЦА *зак. перан. неадабр.* Спыніць балбатню, лаянку. *Ну й язык у Лявоніхі, усё б тріскытáла і тріскытала, калі іна аттряскочыць, калі яе духі нарьвець. Адна аттріскытáлыся, сьціхла, во бог дасьць мінуту ны дваре спакойна пабудзіць.*

АДТРЫВУШАНЫЙ *дзеепрым.* Пабіты ўдарамі ў вуха. *Ён калі ні ўгамýіцца, пойдзіць аттрівýшыный, хлопцы зь яго дурачыньня выгынюць.*

АДТРЭНЧЫЦЬ *зак.* 1 *эмац.* Супакоіцца пасля турбот. *Калі вы ўсядзіціся ны мінутку, ніяк вас ні аттрэнчыць.* 2 *перан. іран.* Пабудаваць няўмела. *Аттрэнчыў хату зь дзірькымі, што вайкі ўлезуць.* АДТРЭНЧЫЦЦА *зак.* Супакоіцца пасля турбот. *Во калі яны аттрэнчыліся, уціхамірі́ліся, ато ўходу ні було.* АДТРЭНЧАНЫЙ *дзеепрым.* Супакоены пасля турбот. *Кажыцца, пышла двору аттрэнчыныя, можа асядзіцца ну пуўдня.*

АДТУРЫВАЦЬ *незак.* Адганяць бесцырымонна, рашуча. *Аттýрівый скот сюда, к кустам, ато каровы січас ачынуцца ў жыці.*

АДТУШЫВАННЕ *н.* Тушэнне. *Ты іс такім аттýшывыньнім можыш куды-небудзь жарінку ўкінуць і пыжару надзелыіш.*

АДУРАВАННІК *м.* Свавольнік. *Нійдзе места сабе ні найдуць вашы адурювáньнікі, усё гылыгыля́ць і гылыгыляць.* АДУРАВАННІЦА *ж. Як вам ня стыдна, адурювáньніцы, етык ірзаць, бабі спакою ні дыіцё.*

АДУРЫВАЦЬ *незак.* Адурманьваць. *З мáлымі ні так лёхка, як ты гаворіш, яны адýрівыюць балыýствым.* АДУРЫВАЦЦА *незак.* Адурманьвацца. *Не, ні паеду я к ім адýрівыцца.* АДУРЫЦЬ *зак.* Адурманіць. *Адуріла яе хызяйства, скыта повін двор: куры, гусі, вуткі,— ёй прыдыхнуць некылі.* АДУРЫЦЦА *зак.* Адурманіцца. *Я адуріўся і ні знаю, куды йціць, выйшыў ґ дарогі — віджу: між магілык ляжыць Далецкій, п'яный, п'яный, тулька маркочыць,— ён дужа гарелку піў.*

АДУРЭННЕ *н.* 1. Ненармальнасць у паводзінах. *Адуреньня ны цябе нывалілыся ці што, ня можыш па-людзку атвеціць.* 2. Немагчымасць уявіць. *Адуреньня, ікая твань, дакуль іна будзіць дзіржацца.*

АДХАДЗІЦЬ *незак. перан.* 1. Рабіцца сырым (пра высахлыя рэчы). *К вечыру сена атходзіць, яго прібіраць луччы, ні так трецца.* 2. Быць падобным (па характары, уласцівасцях). *А разьві атхадзіў ат яго Іванька, ня меншы у чарку зыглядывыў.* АТАЙЦІЦЬ *зак.* Зрабіцца падобным (па характары, уласцівасцях). *Ні атыйшоў і твой ат Пуўлючонка, точ у точ такей самый атряха. А разьві далёка атыйшлі Сірьгяёнчыхіны хлопцы ац свайго дзядзькі?*

АДХВАЧАНЫЙ *дзеепрым. перан.* Адрэзаны, аддзелены імгненна. *Пачулі: зыікытаў, ускачылі ў пуню — ён стаіць кылы рязьніцы, руку дзяржыць, а кроў кап-кап-кап, паліц ныўскысічок атхвáчын.*

АДХІСНУЦЬ *зак.* 1. Расхінуць. *Куст я во так атхіснýў, а тама гнязьдзечка, птушуняты голывы зыдзіраюць.* 2 *перан.* Адштурхнуць. *Посьлі тае вічарінкі Івана пряма атхіснýла ат Верычкі.*

АДХЛЕХАТАЦЬ *зак. перан.* 1. Перастаць злавацца. *Ці атхліхытáла тваё пячэньня, ай усё яшчэ двынаццыць хвытаіць?* 2. Перастаць быць у ахвоце (пра свінню). *Сьвіньня як атхляхочыць, тады есьць, а так нюхнець і пойдзіць.* АДХЛЕХАТАЦЦА *зак.* Перастаць злавацца. *А ніхай пыкіпяціцца, атхляхочыцца і ўніміцца, ці яму упірьвіну.*

АДХЛУПЛЫЙ *дзеепрым.* Адліплы. *Ны атхлýплыю кару скобля ні нада, тыпаром пыткывірнеш — і йна ат'іжджаіць.*

АДХЛЯБТЫВАННЕ, АДХЛЁБТЫВАННЕ *н.* 1. Хлябтанне. *Прыгані сыбаку зь яго атхляптывыньнім. Січас ты ў мяне палучыш зы атхлёптывыньня.* 2 *перан. іран.* Адпіванне. *А што ты яму зьдзелыіш зы атхляптывыньня?*

*Я б ны такоя атхлёптывыньня ні глядзела, узіла б венік ды венікым с хаты шурнула.*

АДХЛЯБТЫВАЦЬ, АДХЛЁБТЫВАЦЬ *незак.* 1. Адпіваць хлябтаючы. *Я гляджу, чаго йта поіла меншыіць, а ета сыбака ускакыіць і атхляптывыіць. Мы відзілі, нейкій жоўцінькій сыбачка бегыў, ён і атхлёптывыў.* 2 *перан. іран.* Адпіваць. *Антонька патрошку атхляптывыіць з бутылычкі. Чаго ні наўчыцца, а атхлёптывыць скора паймецца.* АДХЛЯБТАЦЬ *зак.* 1. Адпіць хлябтаючы. *Гырлачык поўнінькій ныліла, пыставіла на ўслоні, атвярнулыся ны мінуту к Хрісьціні, а кошка ладна атхліптáла і ляжыць на печы, мурлычыць.* 2. Адпіць. *Няпоўнінькыя бутылычка, ужо атхліптáў, і што йта зы чылавек: аж прягніць зы гарелкыю.* АДХЛЯБТАЦЦА *зак.* Напіцца хлябтаючы. *Кот атхліптáўся, пашоў і лёг, дайжа ня зьеў усяго.* АДХЛЯБТАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Адпіты хлябтаннем. *Тута пырядышна атхліптáна, вядзерца чуць ня поўныя було.* 2. Адпіты. *З грахвінчыка атхліптáна, тута ня столька астывалыся.*

АДХНЫКАЦЬ *зак.* 1. Перастаць усхліпваць. *Ні ацішыцца, дык я яе атхныкыю: тыкая хыладзіна і вязі яе ў горыд, каб ныкалелыся і зыбалела.* 2 *эмац.* Наблукацца. *Атхныкыў Пятрок, на печы ляжыць, усю восінь хадзіў па кусьцікых, наглєдзіць травы і шмыг с касою.*

АДХОДЧЫВАТЫЙ *прым.* Адыходлівы. *Ён можыць ух як успыліць, ну ў яго хракцір атхоччывытый.*

АДХРЫСТЫВАЦЬ *незак.* Расшпільваць і расхінаць. *Ён усігда каўнерь атхрістывыіць.* АДХРЫСТЫВАЦЦА *незак.* Расшпільвацца і расхінацца. *Такім холыдым нільзя атхрістывыцца, зразу прастуды пытхваціш, тады кукобся с табою.* АДХРЫСТАЦЬ *зак.* 1. Расшпіліць і расхінуць. *Дужа яму жарка, атхрістáў грудзі і ходзіць, вогірь.* 2 *перан.* Моцна пабіць. *Дрюкым як атхрістáюць, тады ён пойміць, а йначы ды яго ні даходзіць.* АДХРЫСТАЦЦА *зак.* Расшпіліцца і расхінуцца. *Гузікі пывырываліся, каўнерь атхрістáўся, і ходзіць як ні ў чом ні бувала.* АДХРЫСТАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Расшпілены і расхінуты. *Бегыюць атхрістáныя, пыпрастуджывыюцца, тады лячы іх. Ідуць, кыўнярі атхрістыны, думыюць, ета дужа красіва.* 2. Моцна пабіты. *Мы знаім, за што яны атхрістáны, ніхай самі пыхвалюцца.*

АДХРЫСЦІЦЬ *зак.* Перастаць прымаць удзел у хрышчэнні. *Куды мне кумою йіціць, я сваё атхрісьціла, мае хресьніцы замуж выходзюць.* 2 *перан. іран.* Аблаяць,

збэсціць. *Так твыя сьвякрова атхрісьціла Прыкапёнычка, нынісла ны яго чаго зря.* 3 *перан.* Пабіць. *Як атхрісьцюць ладна, пачэшуць бакі, тады троху абрузумісься.* АДХРЫШЧАНЫЙ, АДХРЫШЧОНЫЙ *дзеепрым.* 1. Аблаяны, збэшчаны. *Ат Матруны любэй пойдзіць атхрішчыный. Есьлі к Вольгі на вочы пупаў, будзіць атхрішчоный.* 2. Пабіты. *Яны абоя пырядкым атхрішчыныя уцікалі, нам рысказывылі, ікая ім чэсьць была. Ка мне ён забег ужо атхрішчоный, яму ладна бакі нымялі.* АДХРЫСЦЁМШЫ *дзеепрысл.* 1. Аблаяўшы, збэсціўшы. *Атхрісьцёмшы Пылагу, у тэй канец пышла, там сь кім-то зрезылыся.* 2. Пабіўшы. *Атхрісьцёмшы, здароўя вынілі.*

АДХУРХУЛЕЦЬ, АДХУРХУЛЕЦЦА *зак.* 1. Адкіпець. *Я пыставіла чугунок і забыла пры яго, столька ён атхурхулеў, пылавіна вады выкіпіла. Цягні-ка ты чугун, ён даўно атхурхулеўся.* 2 *перан. жарт.* Набурчацца. *Ого сколька ён атхурхулеў за тую свадзьбу: чаго йшла. Дужа мне бальшэй страх, кылі Сенька атхурхуліцца, пубурчыць і ўніміцца.* АДХУРХУЛЁМШЫ *дзеепрысл.* Набурчаўшыся. *Ні атхурхулёмшы, яго ня дужа куды выпріш.*

АДЦАРАПЫВАННЕ *н.* Аддрапванне. *Ты дзірік ны плашчыку ні надзелый іс сваім аццыра́пывыньнім.*

АДЦАРАПЫВАЦЬ *незак.* Аддрапваць. *Пыглядзі, што ён тамыцька аццыра́пывыіць.* АДЦАРАПЫВАЦЦА *незак.* Аддрапвацца. *Прікарела цеста, нісколічка ні аццыра́пывыіцца.* АДЦАРАПАЦЬ *зак.* Аддрапаць. *Нічога ты ні аццыра́пыіш, дайжа ні бяріся.* АДЦАРАПАЦЦА *зак.* Аддрапацца. *Можа і аццыра́пыіцца, паспробый.* АДЦАРАПАНЫЙ *дзеепрым.* *Прімяці ґ загнету аццыра́пыныя кусочыкі, ніхай пы хаці ні выляюцца.*

АДЦАЦКАЦЦА *зак. эмац.* Навазіцца. *Столька зь ім аццацкыліся, а чылавекым ня зьдзелылі.*

АДЦЕРАБІЦЬ *зак. перан.* Выказаць усё. *Ацьцірябіла ім, ацьцірябіла, што думыла, і пышла, а вы рызьбірайціся.*

АДЦЕРПЕЦЬ, АДЦЕРПЕЦЦА *зак.* Нацярпецца. *Усяго мы аецерьпілі у сваёй жызьні, войны еткія пірі-жылі, пыжары, хваціла нам. Дужа нісызнацільный быў Андрей, што аьцерьпілыся жонка ат яго.*

АДЦІНЦІЦЦА *зак. эмац.* Нагаварыцца, наплявузгацца. *Сяньня вы, наверна, ны нядзелю аьціньціліся, адз заўтріка як селі, дык сонца с абедыў зьвярнула.*

АДЦІРАННЕ *н.* Мыццё бялізны. *Ніхай тваё аьці-*

*ра́ньня пуйдня пыдажджэць, ічмянёк абізацільна дырваць нада, каб ні вісей.*

АДЦІРАННІК *м.* Той, хто мые бялізну. *З мушчыны ня тэй ацьціра́ньнік, у яго рукі ні туды служуць.* АДЦІРАННІЦА *ж. Рышчыла́ся наша ацьціра́ньніца, ны нядзелю работы хва́ціць.*

АДЦІРАЦЬ *незак.* Мыць бялізну. *Пасьці цэлый дзень ацьціра́ла ўчора, многа ўсякыга бырыхла сыбралыся.* АДЦІРАЦЦА *незак.* Мыцца (пра бялізну). *Само ацьціра́цца ня будзіць, рызьвілася, дык кынчай, сколька яму ў шайкі мякнуць.* АДЦІРНУЦЬ *зак.* Памыць бялізну ў спешцы. *Дзьве рубашкі ацьцірну́ла, некылі було рышчынацца на большыя.* АДЦЕРЦЦА *зак.* Памыцца (пра бялізну). *Сяньня зьдзелыю шчолык, судкі пымікаіць плацьця, а заўтря ататрецца.* АДЦІРНУЦЦА *зак.* Памыцца ў спешцы (пра бялізну). *Табе ж ня ету мінуту нада, цэла будзіць сарочка, калі і заўтря ацьцірнецца.* АДЦІРАНЫЙ, АДЦЁРТЫЙ, АДЦІРНУТЫЙ *дзеепрым. Аьціра́ныя нада на вуліцы ны вярёвычку павесіць, ніхай сохніць, пакуля пагода. У аьцёртый рубашкі крысівей іціць. Усё аьцірну́тыя я пусушыла, ну сундуку скла́джына.*

АДЦОКАЦЬ *зак. жарт.* Нацалаваць. *Ну й аццокыла ж ты сваю куму!* АДЦОКАЦЦА *зак.* Нацалавацца. *Бягі скарей, ато ні пасьпеіця аццокыцца.* АДЦОКАНЫЙ *дзеепрым. Блішчыць аццокыный як медный сумувар.*

АДЦУРБОЛІЦЬ, АДЦУРБОНІЦЬ, АДЦУРБЭНІЦЬ, АДЦУРБОЛІЦЦА, АДЦУРБОНІЦЦА, АДЦУРБЭНІЦЦА *зак. эмац.* Нацячы, наліцца струменем. *Увесь погріб паточын, аццурболіць выда вясною па норкых, хочыш — поўный будзіць стыяць, уся бульба лясьніць. Дзірічка ў крышы, ці камнім шыбнулі, дождж спорный, дык ладна аццурбоніла ў клеці. Пыпраў вільчык, абізацільна пыпраў, ета да первыга дажджу, аццурбэніць у пуню, што ні пыкажысься. Січас ужо ня трогый, як аццурболіцца с крышы, тады пыправіш снапкі. Ну й ныдаеў сёліта дождж, кажный дзень ільлець і ільлець, ніяк ні аццурбоніцца. Ладна ў вуглу аццурбэнілыся, горька нада крышу ріманьцірывыць.*

АДЦЭЛІВАЦЬ, АДЦЭЛІВАЦЦА *незак.* Пагаджацца. *Аццэлівыіць даць сала брату, у таго куча дзяцей, а дзіржаць нічога ні дзяржыць. Ці аццэлівыісься ты паможч Хурсянку?* АДЦЭЛІЦЬ, АДЦЭЛІЦЦА *зак.* Пага-

дзіцца. *Нешта ні аццэліў Дзімідзёнык пайціць у лісьнікі. Што-то ў лесі здохніць, што ён аццэліўся пыкашывыць у Лістраціхі.*

АДЦЮКЫВАННЕ *н.* Адсяканне лёгкімі ўдарамі сякеры. *Бірягіся с аццюкывыньнім, заглядзісься і цяпніш пы пальцых, будзіць тады.*

АДЦЮКЫВАЦЬ *незак.* Адсякаць лёгкімі ўдарамі сякеры. *Пычаў сучок аццюкывыць, а тапор сьлізь ды ны нагу, ладна, хуць ніглубока пасек.* АДЦЮКЫВАЦЦА *незак.* Адсякацца лёгкімі ўдарамі сякеры. *Ня дужа яно аццюкывыіцца, тапор езьдзіць пы быках і ўсё.* АДЦЮКАЦЬ, АДЦЮКНУЦЬ *зак.* Адсячы лёгкімі ўдарамі сякеры. *Канцы аццюкый, каб ні буўталіся, ні мішалі, ато прішчэміш у дзьвірях. Пылажы ны калодку, Васіль аццюкніць, будзіш час мурыжыцца с тупым нажом.* АДЦЮКАЦЦА, АДЦЮКНУЦЦА *зак.* Адсячыся лёгкімі ўдарамі сякеры. *Рызмахнуцца тута ні рызмахнесься, а паціхіньку аццюкыіцца, зыклыдай сюда тапор і цюкый. Кладзі, як аццюкніцца, так і ладна, дужа будзіш абмасьлівыць.* АДЦЮКАНЫЙ, АДЦЮКНУТЫЙ *дзеепрым. Не, тута ня піліна, тута аццюкына, сьпецна сечына, чуць відны зарубычкі. Выкінь етыя кончыкі аццюкнутыя, яны нікуды ня пойдуць, ці пыдз загнет пылажы.*

АДЦЯРАБЛІВАЦЬ, АДЦЯРЭБЛІВАЦЬ, АДЦЕРАБЛЯЦЬ *незак.* Церабіць ад пэўнага месца. *Я помню, як ета ўсё було, мы тую вясну ацціряблівылі кусок ляда кылы Аблог. Нечыга тут аццяреблівыць, ніхай ён, етый кусочык, так астаецца. Снычала думылі аццірібляць, а тады махнулі рукою: хваціць і етыга.* АДЦЯРАБЛІВАЦЦА, АДЦЯРЭБЛІВАЦЦА, АДЦЕРАБЛЯЦЦА *незак.* 1. Церабіцца ад пэўнага месца. *Што ў вас тут ацціряблівыіцца? Мы тама доўга вазіліся, медлінна аццяреблівылыся ац сасоньніка. Можа патрошку будзіць аццірібляцца, а можа й так астаніцца.* 2 *перан.* Атрасацца. *Ета ж ён так ат мурашык ацціряблівыіцца. Дывай яны ат етых мошык аццяреблівыцца. Сколька тута віряб'ёў, глядзі, ны гылаву сядуць, хут ты ат іх аццірібляйся.* 3 *перан.* Адчэплівацца. *Ат такога ныв'яжчывыга нялёхка ацціряблівыцца. Во ўказэя была, як Мікіцёнык ат Полькі аццяреблівыўся. Сьпірва думылі: шуціць, ажно, відзім, ныпраўду чыпляіцца, дывай мы аццірібляцца.* АДЦЕРАБІЦЬ *зак.* 1. Выцерабіць ад пэўнага месца. *Мы самыя первыя ны Зыбыльшаччы аццірябілі сабе кусок і пасеілі лён.* 2 *перан.* Выказацца рашуча. *Аццірябіў, аццірябіў,*

*што думыў, сеў і сядзіць, а вы што хочыця гываріця.* 3 *перан.* Адпрэчыць. *Яго нада було даўно аьцірябіць ат хаты.* 4 *перан.* Пабіць. *Яго, знаць, і ў Віхряных ладна аьцірябілі, гываріллі дзеўкі, што пупала.* АДЦЕРАБІЦЦА *зак.* 1. Выцерабіцца ад пэўнага месца. *Каб аьцірябілыся ад дубовых кустоў, хужы ні було б, лён ба ладна вырыс.* 2. Выказацца рашуча. *Аьцірябіўся і глядзіць гогылім: што вы мне зьдзелыіця?* 3. Адчапіцца. *Чуць мы аьцірябіліся адзь зічычáнь.* АДЦЯРАБЛІВАНЫЙ, АДЦЯРЭБЛІВАНЫЙ *дзеепрым.* Цярэблены ад пэўнага месца. *Ныўдáку, каб зы шыряёўскыю дарогыю було аьціря́блівына. Аттуля, ат кынайкі зы аборычкым, нямнога аьцяреблівына.* АДЦЯРЭБЛЁНЫЙ, АДЦЕРАБЛЁНЫЙ *дзеепрым.* 1. Выцераблены ад пэўнага месца. *Аьцяреблін пырядышный кусок, толька калі хто рыспахывыць будзіць. Трошку було аьціряблёна, так яно і асталыся.* 2. Пабіты. *Стыдна троху було, самі чыпляліся к хлыпцáм, аьцярэбліныя пашлі зь вічарінкі. Відна, і сяньня хочуць аьціряблёныя пабежч.*

АДЧАБУРДЭХАЦЬ *зак. эмац.* 1. Наліць. *Во ета аччубурдэхылі: і бочка поўна, і кругом бочкі хуць плавый.* 2. Наплёскацца з шумам. *Аччубурдэхылі хлопцы ў Вяхре, часы два ні вылазілі.* АДЧАБУРДЭХАЦЦА *зак.* Наплёскацца з шумам. *Аччубурдэхыліся мальцы, вылазюць, січас прідуць абедыць.*

АДЧАДЗІЦЬ *зак.* Адкапцець. *Лучынкі ўжо даўно аччадзілі, хуць у вайну ськіпалі яшчэ, сьвяціліся.*

АДЧАЕННЕ *н.* Адчайнасць. *Ну й аччáіньня у хлопцыў: с такея вісычыны прыгыюць у нізнакомыю ваду,— а як там корч якей?*

АДЧАПЛІВАННЕ *н.* 1. Адчэпліванне. *Ты сы сваім аччáплівыньнім толька большы запутыў вярёўку, цяперя хуць піпірізай яе.* 2 *перан.* Пазбаўленне. *Такога аччáплівыньня ён ні паслухыіць.*

АДЧАПНОЕ *н.* Адчэпнае. *Пулучыў аччапноя і рад. Ну сунулі б аччапнога, ніхай ба ні візаўся.*

АДЧАРОВЫВАННЕ *н.* Зняцце чаравання. *А ні дуріця вы гылавы ш чуруваньнім і аччаровывыньнім, лухту сапруць, а тады пухтыряюць.*

АДЧАРОВЫВАЦЬ *незак.* Знімаць чараванне. *Можа, ён і ўмеў аччаровывыць, хто яго знаіць.* АДЧАРОВЫВАЦЦА *незак.* Знімацца (пра чараванне). *Ты самыя луччыя чыраўніца, у цябе хырашо чаруіцца і ладна аччаровывыіцца.* АДЧАРАВАЦЬ *зак.* Зняць чараванне. *Зу-*

*чурувала цябе Танічка, і ніхто цяперіцька ні аччару́іць, будзіш зы яе хвастом бегыць, сколька іна захочыць.* АДЧАРАВАЦЦА *зак.* 1. Зняцца (пра чараванне). *Каб пышыптала старыя Юста, можа б і аччурува́лыся.* 2. Скончыць чараваць. *Іна ўжо аччурува́лыся, большы ня хочыць чуруваць.* АДЧАРАВАНЫЙ *дзеепрым. Прінасіла мне нейкія вады, гываріла: аччурува́ныя,— я выліла.*

АДЧАТНІЦЬ, АДЧАТНІЦЦА *зак.* Намарнецца. *Сколька ён уремя аччатніў, ня меншы як дзесіць гадоў усё хы́рліў і хырліў. Пакуля аччатнііцца чылавек, ныгарюіцца, мук прімiць.*

АДЧУБАСІЦЬ *зак. жарт.* Паўшчуваць. *Цябе Аріна толька устреціць, крепка аччуба́сіць, гываріла, каб толька дыбрацца.* АДЧУБАШАНЫЙ *дзеепрым. Дай-ка, дай ны цябе пыглядзець, якей ты стаў аччуба́шыный.*

АДЧЫКРЫЖЫВАННЕ *н. жарт.* Хуткае, лёгкае адразанне. *Канешня, у цябе красівыя пулучаіцца аччыкры́жывыньня.*

АДШАПТЫВАННЕ, АДШЭПТЫВАННЕ *н.* Лячэнне замовамі. *Ні знаю, ці пымыгаіць каму ачша́птывыньня, я бабкым ніскол ька ня верю. Гаворюць, рожа посьлі ачшэптывыньня праходзіць.*

АДШАПТЫВАННІК, АДШЭПТЫВАННІК *м.* Той, хто лечыць замовамі. *Раншы часта ачша́птывыньнікыў шукалі, хадзілі, прасілі, дыктароў жа ні було. У Кузьмы дзед быў ачшэптывыньнік, старухі к яму часта пріхадзілі.* АДШАПТЫВАННІЦА, АДШЭПТЫВАННІЦА *ж. С Куліны ікраз тыкая ачша́птывыньніца, як зь мяне: ці йна пашэпчыць, ці веціp вяйнець — адзін толк. Цяперя ачшэптывыньніцым мала хто веріць, раншы к ім часта бегылі.*

АДШАПТЫВАЦЬ, АДШЭПТЫВАЦЬ *незак.* Лячыць замовамі. *Адзь зьмяі, бувала, ачша́птывыла Куліна, іна ўмела адзь зьмяі. Нічога яны ачшэптывыць ня ўмеюць, усё ета трілюды.* АДШАПТАЦЬ *зак.* 1. Нашаптацца. *Ну й ачшыпта́лі вы сяньня, відна, усіх хлопцыў пірібралі.* 2. Вылечыць замовамі. *Ці паверіш ты, ці не, ну рожу мне ачшыпта́ла Антоніха.* АДШАПТАЦЦА *зак.* Нашаптацца. *Ні піряжджэш ты, пакуля яны ачшэпчуцца, зыпрігай, дык скарей кончуць.* АДШАПТАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Скончаны (пра шэпт). *Ці ўсё ў вас ачшыпта́на ай на вечыр троху кінулі?* 2. Вылечаны замовамі. *Можа ачшыпта́на, а можа сваё ўремя прішло тваёй гылаве пыправіцца.*

АДШАРАБАНІЦЬ *зак. метаф.* Адшумець. *Крепкій*

*дождж ачшырыбániў ноччы, глубока прымачыў зямлю.*

АДШАРАХЫВАЦЬ *незак. перан.* Адпілоўваць, адразаць. *Ці такою пілою ат кымля ачшыра́хывыць?* АДШАРАХЫВАЦЦА *незак.* Адпілоўвацца, адразацца. *Патрошку ж ачшыра́хывыіцца.* АДШАРАХАЦЬ *зак.* Адпілаваць, адрэзаць. *Етыю пілою пакуля ачшыра́хыіш, духу дасіся.* АДШАРАХАЦЦА *зак.* Адпілавацца, адрэзацца. *Ох, зь якім трудом штындарка ачшыра́хылыся.* АДШАРАХАНЫЙ *дзеепрым. Ого, якоя ў цябе палена ачшыра́хына!*

АДШАСТЫВАЦЦА *незак.* Адхінацца. *Іна ўсігда во так крутка ачша́стывылыся, як пытхадзіў Арьхіпёнык.*

АДШЛЁПКАЦЬ *зак.* 1. Адшлёпаць, пабіць. *Некыму цябе ачшлёпкыць хырашэнька, каб ты ўняўся.* 2. Натупацца па гразі. *На етым дваре пакуля ачшлёпкыіш, ногі прымякнуць.* АДШЛЁПКАНЫЙ *дзеепрым. Трошку пыпішчэў ачшлёпкыный, а тады ўзноў зы сваё ўзяўся.*

АДШЧЫКАТУРЫВАЦЬ *незак.* 1. Атынкоўваць. *Хырашо хату ачшчыкату́рівыіць, у пазы зыбіваў кылячкі, каб гліна дзіржалыся.* 2 *перан. жарт.* Мазаць, фарбаваць. *Дзеўкі адна адну ачшчыкату́рівыюць, пынаўчыліся мазыцца.* АДШЧЫКАТУРЫВАЦЦА *незак.* 1. Атынкоўвацца. *Як у цябе тут ачшчыкату́рівыіцца, я хачу пыглядзець.* 2. Мазацца, фарбавацца. *Ета Сімчанкова крысавіца усё ачшчыкату́рівылыся.* АДШЧЫКАТУРЫЦЬ *зак.* 1. Атынкаваць. *Абея хаты ачшчыкату́рілі, і пяреднію, і заднію.* 2. Намазаць, пафарбаваць. *Ты яе ачшчыкату́ріла, зьдзелыла як мыладую.* АДШЧЫКАТУРЫЦЦА *зак.* 1. Атынкавацца. *Ачшчыкату́ріцца, дык у хаці хуць якей утул будзіць.* 2. Намазацца, пафарбавацца. *Січас пыглядзім, як нашы крысавіцы ачшчыкату́ріліся.* АДШЧЫКАТУРАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Атынкаваны. *Хырашо сьцены ачшчыкату́ріны, відна, што сьпіцыяліст дзелыў.* 2. Намазаны, пафарбаваны. *Так ачшчыкату́ріна, што яе ніхто і ні пызнаіць.*

АДШЫБ *м.* Аддаленасць. *Тама ў іх ачшы́б, ніхто ні заходзіць, ніхто ні буваіць, я кылі зыбягу ны мінутку.*

АДШЫБАННЕ *н.* Адпрэчванне. *Мне многа ўремя ны ачшыба́ньня етых знакомцыў ні нада, два словы скажу і хваціць.*

АДШЫБАННІК *м.* Той, хто адпрэчвае. *Ета ўсё там Ныза́рёнкыў ачшыба́ньнік ваюіцца.* АДШЫБАННІЦА *ж. Так выстрымлю Анікыныву ачшыба́ньніцу, што іна зырякецца і дзісятыму зыкажыць дурату тваріць.*

АДШЫБАЦЬ *незак.* Адпрэчваць. *Нада ачшыба́ць та-*

*кую дыбрадзейку ат хаты, каб яе нагі тута ні було.* АДШЫБІЦЬ, АДШЫБЦЬ, АДШЫБНУЦЬ *зак.* Адпрэчыць. *Я знаю, як Кыбзінка ат'етуля ачшыбіць. Яго нада ачшыбць, каб ні цігайся тута бязь дзела, госьць-то такей. Як ты яго ачшыбнеш, прівылакецца і сядзіць, станіш пірякусывыць — глядзіць у рот.* АДШЫБЛЕНЫЙ *дзеепрым. Ачшыбліный ні ачшыбліный, а большы тута ні пыійляіцца.*

АДШЫВАННЕ *н.* Адпрэчванне. *Дужа важна яму ваша ачшываньня, ён адзін куды сыбярецца, туды й пойдзіць.*

АЖЫВАННЕ *н.* Абжыванне. *У Стыхвана цяжолыя було ажываньня: куча дзяцей, пакуля узьбіліся ны карову, нугурюваліся.*

АЖЫВАЦЦА *незак.* Абжывацца. *Трудна нам було ажывацца, выскычылі толька з душою, помышчы ніаткуля ніякінькія.* АЖЫЦЦА *зак.* Абжыцца. *Як ужо ні було, патроху ажыліся, пірямучыліся сколька гадоў.*

АЗОРНА *прысл.* Прыкметна на выгляд. *Якей ён пы натурі, ні знаім, ну як увідзіш, выглідаіць азорна, ладный хлопіц. Выш. ст. пар.* АЗАРНЕЙ. *Быбарёнык быў азарней, алі іна выбрыла сабе другога.*

АЗОРНАСЦЬ *ж.* Прыкметнасць на выгляд. *Хракцірым ладный мушчына і рыбыцяшчый, толька азорнысьці яму ні хвытаіць.*

АЗОРНЫЙ *прым.* Прыкметны на выгляд. *Чубук азорный быў мушчына, ну і п'яніца ні пасьледній, ета тожа праўда. Памянш.* АЗОРНЕНЬКІЙ. *У Мыланкі азорнінькія дзяўчонкі, скора пывыскакыюць замуж. Выш. ст. пар.* АЗАРНЕЙШЫЙ, АЗАРНЕЙШАНЬКІЙ. *Ну што вы гаворіця, Кірей быў азарнейшый, чым Піліп. Ну канешня, Адаркін азарнейшынькій хлапчынка.*

· АКАЗАЦЦА *зак. метаф.* Выявіцца. *Есьлі будзіць якей паднос, ты зынясі ны кріжавую дарогу і зыпалі, ета ім тады акажыцца,— Мільлян раз так зьдзелыў, дык тэя больши зырякліся.*

АКАЛАЧЫВАЦЬ *незак. перан.* 1. Атрымліваць. *Во й ня ўчыўся дужа, а грошы бальшэя акылачывыіць.* 2 *неадабр.* Насіць. *Айдзе іх акылачывыіць цэлый дзень, столька работы ў дваре, а ім нічога ня рупіць.* 3 *неадабр.* Аббягаць. *Ужо ж ба стыдна так усю дзяреўню акылачывыць, дык у яе стыда і ні нучувала.*

АКАЛЕЧЫВАЦЬ *незак.* Рабіць калекам. *Не, ня думый, ня будзіш ты мне дзяцей акалечывыць.* АКАЛЕЧЫ-

ВАЦЦА *незак.* Рабіцца калекам. *Чаго яны скрябуцца на ету ліпу, акалечывыцца, знаць, лезуць.* АКАЛЕЧЫЦЦА *зак.* Зрабіцца калекам. *Акалечыцца нядоўга, а тады і яму біда, і зь ім другая.*

АКАПІРОЎКА *ж.* Абжыванне. *У іх ны акыпіроўку многа ўремя ня пойдзіць.*

АКАПІРОЎШЧЫК *м.* Той, хто дапамагае абжывацца. *Ім нада харошый акыпіроўшчык, каб було за што зычапіцца.* АКАПІРОЎШЧЫЦА *ж. Зь яе тыкая акыпіроўшчыца, што пасьледнія паможыць руспусьціць.*

АКАЯННІЦА *ж.* Нягодніца. *Во тут быў сірень, дык іна падойдзіць, публумáіць, публумаіць,— во акыя́ньніца!*

АКРАПЛЯЦЬ *незак.* Падлечваць, падмацоўваць. *Нюшка як возьміцца акрімля́ць, дык саўсім на тэй сьвет загоніць.* АКРАПЛЯЦЦА *незак.* Падлечвацца, падмацоўвацца. *Гывapiлi, што Маўріна старуха патрошку акрiпля́іцца.* АКРАПІЦЬ *зак.* Падлячыць, падмацаваць. *Як ты яго акрепіш, кылі пыдзь дзівяноста пыдбіраіцца.* АКРАПІЦЦА *зак.* Падлячыцца, падмацавацца. *Дужа цяжола зіму ліжаў, а к вясьне акряпіўся.* АКРЭПЛЕНЫЙ *дзеепрым. Айдзе ты будзіш акрепліный, кылі пыліжаць мінуткі некылі.* АКРАПЁМШЫ *дзеепрысл. Мы відзілі, што ён ходзіць акряпёмшы.*

АКУПІРЫЦЬ *зак.* Дапамагчы абжыцца. *Дачок ты акýпіріў, сын твой ладна устроіўся, чаго бідуваць.* АКУПІРЫЦЦА *зак.* Абжыцца. *Клімчанковы хлопцы хырашо акýпірiлiся, хаты крепкія пыстыўлялі, скыта памнога дзіржаць.* АКУПІРАНЫЙ *дзеепрым. Ежылі дзеці акýпіріны, то якей табе клопыт, крошка хлеба ёсьць і затыўка вядзецца патроху.*

АКУРАТНЕЙШЫЙ *прым.* Больш акуратны. *Анька была куды акуратнейшыя зы цябе, іна б так ня дзелыла. Памянш.* АКУРАТНЕЙШАНЬКІЙ. *Рысказывый ты, акуратнейшынькій,— такей самый ніряха, як бацька.*

АКУРАТСТВА *н.* Акуратнасць. *Якоя акурáства у атрахі? Біз акурáства на сьвеці ні прыжывеш.*

АКУРАЦІСТЫЙ *прым.* Акуратны. *Сумусёнык быў акурáцістый мужык, ні такей апушчэніц, як ты.*

АЛЕШЫНІНА *ж.* Асобная алешына. *Пару вісокіх алешынін зреж, будзіць харошыя лесьвіца. Памянш.* АЛЕШЫНІНКА. *Ніплахея алешынінкі бяруцца, гадоў за дзесіць ладныя вырыстуць.*

АЛЁ *выкл.* Заклік да руху. *Алё ў Каробчына! Сыбраліся і алё, ці ні ў Мазылыва кытанулі.*

АЛЛЯНЕНЬКІЙ *прым. памянш.* Ільняны. *Бувала, выйдуць касцы, рубашкі бялюсінькія альляненькія, аж глядзець хочыцца.*

АЛЯГАЦЬ, АЛЯГАЦЦА *незак.* Змяншацца, сыходзіць (пра ўздуцце, пухліну). *Разым нешта як пыдапрець пад грудзі, уздуіць, а тады троху-патроху жывот алігáіць. Рука кыла локця распухла і ні алігáіцца.* АЛЕЖЧ, АЛЕЖЧЦА *зак.* Зменшыцца, сысці (пра ўздуцце, пухліну). *Ныўряд ці аля́гуць калі такея ногі. У мяне толька ны чацьвёртый дзень шчыка аліглáся, адз зубоў распухшы была.*

АМАЦЬ, АМКАЦЬ *незак.* Есці (у размове з дзецьмі). *Коля áмыць будзіць, кашка сяньня смашінькыя. Анічка áмкыіць, я яшчэ пыдальлю крупенькі.* АМАЦЦА, АМКАЦЦА *незак.* Есціся (у размове з дзецьмі). *Як табе, дзетычка, áмыіцца, можа яшчэ бульбычкі пыткласьць? Выпі напітычку салодзінькыга, дужа смашінька будзіць áмкыцца.*

АМІНАЦЬ *незак.* Абмінаць. *Тута астарожна амінáй, каб зы каток чый-небудзь ні зычапіцца.* АМІНУЦЬ *зак.* Абмінуць. *Кажыцца, хырашо аптыкаў і неік дзірьку амінýў, пыляджу, пыляджу — дзірька сь сянец відна.* АМІНУТЫЙ *дзеепрым. Ай-я-яй, амінýтыя быразёнка, як мы прагледзілі, ні рыспыхалі.*

АНБАР *м.* Свіран. *Посьлі вайны у наш калхоз анбáр ісь Пірядніна пірівязьлі. Памянш.* АНБАРЫК, АНБАРЧЫК. *Трошку збоку аць сянец анбáрік стыяў. У нашый дзяреўні адзьдзельна анбáрчыкі ня строілі. Павеліч.* АНБАРЫШЧА. *Рызьвялі анбáрішча як канюшню.*

АНБАРНЫЙ *прым.* Свірнавы. *Ета анбáрныя завесы, такея зыказывылі, каб ніхто ні ўламіўся.*

АНІМАЦЬ *незак.* Ахопліваць. *Дужа часта гультайства цябе анімáіць, ат етыга й біда.*

АНЦЕРАСАВАНЫЙ, АНЦЕРАСОВАНЫЙ *прым.* Зацікаўлены. *Етымі гысьцямі Алёна ня дужа аньцірісувáныя, нашто ёй лішній клопыт у хаці. Каб Сьвірід быў аньцірісовыный, ён ба сам ні адзін раз прібег.*

АПАДАЦЬ *незак. перан.* Навальвацца. *Буваіць, што ні ш чога ні зь якыга нішчасьця апыдáіць, яго ня жджэш ніаткуля.* АПАСЦЬ *зак.* Наваліцца. *Дужа грех чуруваць, што-небудзь ападзець ці на скот, ці ны чылавека.*

АПАРОК *м.* Парок (сэрца). *У яе даўно прізнаюць*

*апарок серца. Апарокым серца балела, ат етыга і памёрла.*

АПАРЫВАЦЬ *незак.* Знаходзіць, адшукваць. *Куды ні схуваю канхветкі, усюдых ма́лыя апа́рывыюць, ат іх хувайся і ні схуваісься.*

АПАСЛЯ 1 *прысл.* Пасля. *Не, яго сьпірва на сходзі ні було, ён апысьля́ пыдыйшоў.* 2 *прыназ.* Пасля. *Хымчанок позна пріцягнуўся, ён апысьля́ Хведзькі вячэріў, саўсім упацёмкых.*

АПЛЯВУШАНЫЙ *дзеепрым.* Ударапы аплявухай. *То ўходу сабе ні знаў, вогірім хадзіў, а з Мазылыва пашоў аплявўшыный.*

АПРАСТАЦЬ *зак. метаф.* Вызваліць. *Нешта раз ішоў ны магільнік Грішка, гаворіць, як іна мяне апрыста́іць, паеду к сыну.* АПРАСТАЦЦА *зак.* Вызваліцца. *Во калі Ныларіха апрыста́лыся, цяпнула горя дык цяпнула.* АПРАСТАНЫЙ *дзеепрым. Цяперя яны свабодныя, апрыста́ныя, к ім на дзікій казе ні пад'едзіш.*

АПРАТСТВА *н.* Акуратнасць. *Якоя у атряхі апряцтва будзіць, апряцтва у акуратныга чылавека буваіць.*

АПРАЎЛЯЦЬ *незак. метаф.* Апраўдваць. *Анішчонык усё іх пиріц стыршыною апруўля́іць: яны ні ў чом ні вінуваты.* АПРАЎЛЯЦЦА *незак.* Апраўдвацца. *Доўга Сызанёнык піряд імі апруўля́ўся.* АПРАВІЦЬ *зак.* Апраўдаць. *Каб ён думыў апра́віць Стыляровыга, дык ба ні цягнуў різіну.* АПРАВІЦЦА *зак.* Апраўдацца. *Ён ужо сам ні знаіць, як піряд імі апра́віцца.* АПРАЎЛЕНЫЙ *дзеепрым. Ці будзіць, ці ня будзіць апра́ўліный, ну слова закінуць ба нада.*

АПРАЦІЎНЕЦЬ *зак.* Стаць агідным, апрацівець. *Свой чылавек можыць апраціўніць, што глядзець ны яго ні захочыцца.*

АПСА *ж.* Задышка, астма. *Тріхоніха доўга балела а́псыю, дыхыць ні мыгла, пасьледнія ўремя с хаты пасьці ні выхадзіла.*

АПУСЦІЦЕЛЬ, АПУСЦІЦЕЛЬНІК, АПУШЧЭННІК *м.* Неахайнік, нядбайнік, гультай. *Раз апусьціцілім зьдзелыўся, ніякыга толку зь яго ні дажджэсься. Ета ён пасьледнія ўремя такім апусьціцільнікым зьдзелыўся, раншы глядзеў зы сабою. Калі апушчэньнік, ніякія жызьні ня жджы.* АПУСЦІЦЕЛЬНІЦА, АПУШЧЭННІЦА *ж. Апусьціцільніца ні ў чом пырядку ні нывядзець. І бацька ні гультай, і матка — прыцыўная баба, а ўрадзілыся апушчэньніца чышчы некуды.*

АПУСЦІЦЕЛЬСТВА, АПУШЧЭЛЬСТВА *н.* Неахайнасць, нядбальства, гультайства. *Ці мала я чаго ў жызьні сустрюкала, ну такога апусьціцільства відзіць ні тріхадзілыся. Ты папробый-ка прідумыць, каб у нырмальныга чылавека столька було апушчэльства.*

АРАВІШЧА *ж. павеліч.* Вялікі гурт, мноства. *У іх людзей арáвішча, за дзень нівісь сколька зьдзелыюць.*

АРГАНІЗМА *ж.* Арганізм. *Мыя арганізма жырныга ні прінімаіць, я толька пы малошныму цягну.*

АСВЯЖАННЕ *н.* Қананне (звыч. жывёлы). *Атвядзіця, ніхай дзеці ны асьвіжáньня ні глідзяць.*

АСВЯЖАЦЦА *незак.* Қанаць (звыч. пра жывёлу). *Дужа нялоўка калоў, мучыўся, мучыўся кыбанчык, пакуля стаў асьвіжáцца.* АСВЯЖЫЦЦА *зак.* Сканаць (звыч. пра жывёлу). *У серца шылым як пупадзеш, зразу асьвяжы́цца. Глянь-ка ны старога, каб ён там ні асьвяжы́ўся.*

АСЕТНЫЙ *прым.* Асецевы. *Асетныя жордычкі стыялі у вугалку, дык некыму спынáдыбіліся, ужо німа на месьці.*

АСЁЛ *м. перан. асудж.* Тупы, упарты чалавек. *Памянш.* АСЁЛЬЧЫК. *Скора другей асёльчык пыдрасьцець. Узмацн.* АСЛІНА, АСЛЮГА. *Як ён, такей асьлíна, урадзіўся, зь ім жа зы нядзелю серца парьвеш. Асьлю́га ты, асьлюга, хто йта ўжывець с табою. Павеліч.* АСЛІШЧА. *Я Антона помню: такей быў асьлішча, што ні прідумыць якей.* АСЛІЦА *ж.* *Ня дужа ету асьліцу піряпреш у чом-нібудзь.*

АСІЛІВАЦЬ *незак. перан.* Паланіць (пра траву). *Сьвірепка асілівыіць, ні прідумыіш, сколька я яе вынісла с поля, а йна ўсё прець і прець.* АСІЛІЦЬ *зак.* Запаланіць (пра траву). *Макріца мудрей асоту, як асіліць, паўлета будзіш палоць.*

АСІРАЧАЦЬ *незак.* Рабіць сіратой. *Нашто яму асірычáць дзяцей, якей толк зь естыга.* АСІРАЧАЦЦА *незак.* Рабіцца сіратой. *Во так і асірычáюцца мáлыя, тады гарюють ды гурюваць большы некуды.*

АСКРОТАЧАҚ *м. памянш.* Трэска. *Сек дровы, аскрётычык ацскачыў ды ў вока, чуць ня выбіў.*

АСЛАБАДЖАЦЬ, АСЛАБАЖДАЦЬ *незак.* Вызваляць. *У Вольгі сы здароўім ніважна, як пойдзіць у бальніцу, яе аслыбыджáюць ат работы. Я нібыльшая была, ну хырашо помню, як нас аслыбыждáлі.* АСЛАБАДЖАЦЦА, АСЛАБАЖДАЦЦА *незак.* Вызваляцца. *Я на той нядзелі аслыбыджáюся і магу табе паможч кыла пуні,*

*нада сьпяшыць, зіма ніўзадыўзі. Ты аслыбыждайся скарей ды пыбягім, пакуля ні так жарка, печ сам ніхай дытапліiць.* АСЛАБОДЖАНЫЙ, АСЛАБАДЖОНЫЙ, АСЛАБАЖДЖОНЫЙ *дзеепрым. Каб я так была ат усяго аслабоджына, як Наста, я б ніякыга горя ні знала. Цімох прісылаў пісьмо, як наша меснысьць ужо была аслыбаджона. Іна аць цяжолых работ аслыбажджоныя.*

АСЛАБАДЖЭННЕ, АСЛАБАДЖЭНІЕ, АСЛАБАЖДЗЕННЕ, АСЛАБАЖДЗЕНІЕ *н.* Вызваленне. *Майму далі аслыбаджэньня на трі дні, выпісылі нейкіх таблетык і скызалі узноў пад'ехыць. Што ўжо радывыліся усе, як прішло аслыбаджэнія. Якоя яму аслыбаждзеньня, здароў, як бык. Посьлі апірацыі далі аслыбаждзенія ны пяць дней, як выпісылі.*

АСЛАЎЛЯЦЬ *незак.* Праслаўляць. *Ух, як яны сваіх аслыўляюць, кажыцца, луччы людзей на ўсім сьвецi німа.* АСЛАЎЛЯЦЦА *незак.* Праслаўляцца. *Пушкоў, як прішоў сюда сікрітарём, скора стаў аслыўляцца.* АСЛАВІЦЬ *зак.* Праславіць. *Так аславілі мальца, узьнясьлі чуць ні да неба.* АСЛАВІЦЦА *зак.* Праславіцца. *Аславіўся Міхалка на ўсю акругу, у акрузі ж ні було такога чылавека: чужую сям'ю гудуваў.*

АСПІРЫНІНА *ж.* Таблетка аспірыну. *А ты прыглыці наныч асьпіріну, а то й дзьве, далжно прайціць, ты прістыў ны балоці. Памянш.* АСПІРЫНІНКА. *Прі прастудзі асьпірінікі пымыгаюць.*

АСТАНАЎЛЯЦЬ *незак.* Спыняць. *Вязём мы суччa, лісьнікі нас астыныўляюць, пыглядзелі, пыглядзелі, нічога ні скызалі.* АСТАНАЎЛЯЦЦА *незак.* 1. Спыняцца. *Мы й ня думылі астыныўляцца.* 2. Застойвацца. *Тама нізіна, дык астыныўлялысь выда, бацька парыў кынавы, як пальлём тою вадою, у падойму бруквіна.*

АСТАРАНЯЦЬ *незак.* Адхіляць ад удзелу. *Пакуля хлопцы ні пыдрасьлі, ён нас ат усяго астырыняў.* АСТАРАНЯЦЦА *незак.* 1. Ухіляцца ад удзелу. *Ён сам ня хочыць умешывыцца, астырыняіцца ат усяго.* 2. Саступаць убок. *Астырыняйся ім з дарогі, відзіш, якея воґірі сідзяць.* АСТАРАНІЦЬ *зак.* Адхіліць ад удзелу. *Хацеў астыраніць нас ад гумна, а мы зывязьлі сваё жыта і склалі.* АСТАРАНІЦЦА *зак.* 1. Ухіліцца ад удзелу. *Калі якей ґвалт спруўляюць, я ўсігда астыранюся.* 2. Саступіць убок. *Ніхай прыіжджаюць, астыраніся ґ боку.*

АСТРУЖКА *ж.* Стружка. *Пыдмітай астружкі ґ загнету, я печ заўтря рыстаплю, яны сухенічкія. Памянш.*

АСТРУЖАЧКА. *Ну што, ці мякка кычацца ў астру́жычкых?*

АСТУДЖАЦЬ *незак.* 1. Ахалоджваць. *Чугуны у сенцы пыстаў астуджа́ць.* 2 *перан.* Супакойваць. *Бувала, як рыськіпіцца, гатоў ударіць, а Варычка яго астуджа́ла.* АСТУДЖАЦЦА *незак.* 1. Ахалоджвацца. *У пыліваных міскых іда няскора астуджа́іцца.* 2. Супакойвацца. *Як успыхніць, як усхваціцца, кажыцца, гатоў горла пірягрызьць, а тады астуджаіцца.* АСТУДЗЁМШЫ *дзеепрысл.* 1. Ахаладзіўшы. *Студзі, ні астудзёмшы есьць ня будзіш.* 2. Супакоіўшы, супакоіўшыся. *Рузуверь яго астудзёмшы. К нам ён прібег ужо астудзёмшы.*

АСУЖДЖОНЫЙ *дзеепрым.* Асуджаны. *Ці ты ня чула, Мікілаіў жа сын асужджоный, трі гады пулучыў.*

АСЦЕРВЯНЕННЕ *н.* Раззлаванасць да страты самавалодання. *Як найдзіць асьціРьвяненьня, тады ні знаіць і ня помніць, што тваріць.*

АСЦЕРВЯНЕЦЬ, АСЦЕРВЯНЕЦЦА *зак.* Раззлавацца да страты самавалодання. *Як пымянулі Аўдзея, дык ён ні расьсердзіўся, а пряма асьціРьвянеў, чуць біцца ня кінуўся к нам. Мне ён ня дужа страшын, кылі й асьціРьвянеіцца, я ні такіх вотіріў відзіў.* АСЦЕРВЯНЕЛЫЙ *дзеепрым. Убег у хату асьціРьвянелый: айдзе тэй кыра́ндыш?*

АСЫПАЦЬ *незак. перан.* Нападаць у мностве (пра насякомых, птушак). *Вадні сталі асыпа́ць скот, каровы места нійдзе ні находзюць, у ваду зылазіюць.* АСЫПАЦЬ *зак.* Напасці ў мностве (пра насякомых, птушак). *Як асы́плюць куры ячмень, спасэнія німа.* АСЫПАНЫЙ *дзеепрым. Што хрушчоў сёліта, маліңкыя бярёзычка стаіць асы́пыныя.*

АСЯВАННЕ *н.* Вялікія пасевы. *Пряма бязьмерныя асіва́ньня, хырашо, калі пагода пыдладзіць убірацъ.*

АСЯВАЦЬ *незак.* Займаць пад пасевы. *Наш кылгас дужа бальшэя плошчыдзі асіва́іць.* АСЯВАЦЦА *незак.* Займацца пад пасевы. *Вы б толька увідзілі, сколька у іх пышаніцы асіва́іцца.* АСЕЯЦЬ *зак.* Заняць пад пасевы. *Сёліта кругом асеілі ячменю, і ўрыжай харошый, куды яго дзівацъ будуць.* АСЕЯЦЦА *зак.* Заняцца пад пасевы. *Асеілыся на трі гряды гуркоў, яны зырадзілі, хуцъ азяліся ат іх.* АСЕЯНЫЙ *дзеепрым. Столька поля асеіна жытым, што ня згледзіцца.*

АСЯДАЦЦА *незак. перан.* Сунімацца, супакойвацца.

*Ці яны думыюць асідáцца, етыя балыýнікі, ці на іх узноў бізунчык нада?*

АТАБРАТЫЙ *дзеепрым.* 1. Адабраны, забраны сілай. *Атыбрáтым ножычкым ні папользыісься, січаж жа аддай.* 2. Адабраны, выбраны. *У мяне вун карзінка атыбрáтых яблык стаіць, сып у мех.*

АТАПРЭЛЫЙ *прым.* Адсталы пад уздзеяннем вільгаці. *Атапрелыя кыра атвалііцца, такоя дзеріва слабыя, хата доўга ні прыстаіць.*

АТАРВЫВАЦЬ *незак. метаф.* 1. Выбіраць (час). *Сістра цяжола ліжала, а тута свыя работа азіляіць, ну я атáрвывыла ўремя, бегыла туды.* 2. Убіраць урыўкамі (ураджай). *То ўраньні, то ўвечырі атáрвывыю ічмянёк.* АТАРВАЦЬ *зак.* 1. Выбраць (час). *Ты як-небудзь атарьві ўремя, зьбегый пыглядзі, як яны тама.* 2. Убраць урыўкамі (ураджай). *Як ранінька выйдзіш сь сярпом, вун сколька атарьвеш.*

АТАТКАЦЬ *зак.* Наткаць. *Мы сы Даркыю разым ткалі, іна пымыгла нырядзіць, а ўжо Хведзьку я атыткáла сы свайго.* АТАТКАЦЦА *зак.* 1. Скончыць ткаць. *Няскора ты ататкесься іс такою работыю.* 2. Наткацца. *Як ладна ататкецца, я атрежу кусок пылытна.* АТАТКАНЫЙ *дзеепрым. Снувала я восім губык, пылавіна атыткáна, а калі кончу — ні знаю.*

АТАТУРЫВАННЕ *н.* Суцішанне. *Ня дужа яны хочуць пынімаць тваё ататýрівыньня.*

АТАТУРЫВАЦЬ *незак.* Суцішаць. *Ты малых патроху ататýрівый, ні дывай руспускáцца.* АТАТУРЫВАЦЦА *незак.* Суцішацца. *Некылі мне ататýрівыцца, усюдых адна, усё дагледзіць нада, прібраць.* АТАТУРЫЦЬ *зак.* Суцішыць. *Жарою у ваду ці к вадзе скот нада сыбраць, ататýріць.* АТАТУРЫЦЦА *зак.* Суцішыцца. *Села, ататýрілыся і сяджу, ня думыю, сколька нядзелыныга.* АТАТУРАНЫЙ *дзеепрым. Сядзіць ататýріныя, рызвыжаіць: посьлізаўтріга мае пад'едуць, у горыд зьбегыюць.*

АТАХОЦІЦЦА *зак.* Перастаць хацець. *Еў, пакуліцька атахоціўся, пыныравіўся кулеш.*

АТВАДЗЯНЕЦЬ *зак.* Стаць вадзяністым. *Дыстаў бульбу і пыставіў ны загнеці, іна атвыдзяніла, у рот ні ўзяць: нісмашненныя стала.*

АТВАШАПРУДНІЧАЦЬ, АТВАШАПРУДНІЧАЦЦА *зак.* Перастаць выхваляцца, вычвараць. *Во пыглядзіш, як яны скора атвышапрýднічыюць, што іх ня чутна ста-*

*ніць. А пастой, пройдзіць трошку ўремя, і Сільчанёнык атвышапрўднічыіцца.*

АТВЕСІСТЫЙ *прым. эмац.* Цяжкі. *Ішоў па вуліцы Гыпанёнык сагнуўшы, атвесістыя торба зы плічамі, нечыга цяжолыга ныкладжына.*

АТВЕШЫВАЦЦА *незак.* Адвісаць. *Во як суччa зь яблыкымі атвешывыіцца, патпоркі нада ставіць.* АТВЕСІЦЦА *зак.* Адвіснуць. *Пацсоніцы атвесіліся пы ўсяму гароду, кружэлкі бальшэя-бальшэя.*

АТВІЛІНА *ж.* Развіліна. *Нада було б атвіліну ат крышы атпіліць, ато буря ўсходзіцца, рашчэпіць, і йна грохніцца, паб'ець шыхвір. Памяниш.* АТВІЛІНКА. *Падреж ніжнія сучкі ды атвілінык, а вышы ніхай растуць, красівыя макушка палучыцца.*

АТ'ЕЗДЖЫЙ *м.* Той, хто ад'язджае. *Айдзе твой ат'ежджый, я хацела пірідаць сваім у горыд нібальшэй вузялок.*

АТ'ЕЗДЗІЦЬ *зак. метаф.* Адчувальна адлупцаваць. *Яго каб вожкымі ладна ат'езьдзіў, тады б ён пыняў і бацькыва, і маткіна слова.*

АТЛАЛАХАЦЬ, АТЛАЛАХКАЦЬ, АТЛАЛАХАЦЦА, АТЛАЛАХКАЦЦА *зак. эмац.* Спыніць балбатню. *Атлыла́хылі за дзень дык атлыла́хылі, зь ізыкамі ны мінутку ні сьціхалі. Няскора яны атлыла́хкыюць, усяго два часы як сыйшліся. Во слава богу атлыла́хыліся, рызыйшліся. Пыдажджы ўжо, можа, як-небудзь атлыла́хкыюцца.*

АТЛАНДЗЕРКА *ж.* Гультайка. *Прідумыць нілізя, у каго іна такою атла́ндзіркыю урадзілыся.*

АТЛАНКА *ж.* Здаровая гультаяватая жанчына. *Во ходзіць атла́нка, пад ёю зімля дрыжыць.*

АТЛЕЖАЦЬ, АТЛЯЖАЦЬ *зак.* 1. Праляжаць доўгі час, наляжацца. *Быракі цьвёрдыя, цьвёрдыя, сваё яны атлежылі; ніхай варюцца, рызва́ріюцца — і цьвёрдыя. Атліжа́ў мой хворыст у лашчынкі, аж пычарнеў.* 2. Пашкодзіць з прычыны ляжання. *Хвырасьціны паськідывый с травы, ато яны атлежуць атаву. Зельля було ываліна кучымі, атліжа́ла клевір.*

АТЛЕСКАТАЦЬ, АТЛЕСКАТАЦЦА *зак. перан. асудж.* Адбалбатаць. *Ай-я-яй, што йна атліскыта́ла, усім слухыць ныдаела. Мутруноўніна няскора атляскочыцца, ішчэ нідаўна зывілася.* АТЛЕСКАТАНЫЙ *дзеепрым. Ці ўсё атліскыта́на?*

АТЛЁТКА *ж.* Прайдзісветка. *Якея яны абея атлёткі —*

*ні прівядзі бог, на іх пряма вока гаріць і ўсё хыдаром ходзіць.*

АТЛІШАННЕ *н.* Пазбаўленне права. *Прішлі і гаворюць: вот вам запісына атлішáньня ат усяго хызяйства і высылка, сыбірайціся.*

АТЛІШАЦЬ *незак.* Пазбаўляць права. *Ікая ў яе жызьня, кылі нявестка атлішáіць ат усяго.* АТЛІШАЦЦА *незак.* Пазбаўляцца права. *Я ўжо сыма атлішáюся ат хызяйства, ніхай рыспырíджаюцца, як хочуць.* АТЛІШЫЦЬ *зак.* Пазбавіць права. *Дзядзька нас атлішы́ў, адну кладýшычку даў ну гумне.* АТЛІШЫЦЦА *зак.* Пазбавіцца права. *Ну яе, с такою жызьнію, тута скора ат хаты атлішы́сься.* АТЛІШОНЫЙ *дзеепрым.* *Што ты ходзіш усё рыўна як атлішоный ат усяго на сьвеці.* АТЛІШОМШЫ *дзеепрысл.* *Я ўжо атлішомшы і ат печы, і ат скыта, яны самі са ўсім рыспырядык вядуць.*

АТЛЫН *м.* Увільванне. *Ета ж во такей атлы́н, каб нічога ня дзелыць у дваре.*

АТЛЮБАВАЦЦА *зак.* Налюбавацца. *Атлюбувáўся сваёю ухажоркыю, большы ня бегыіць. Хату пыставілі — атлюбувáцца.*

АТЛЯПІЦЬ *зак. метаф.* Пабіць без жалю. *Пу вушах як атлепюць, тады будзіш знаць, ці нада пыдлізаць к чужой кынпаніі, ці не.*

АТЛЯЧЫЦЬ *зак.* 1. Доўга палячыць. *Што ўжо атлячы́лі свайго мальца, куды толька ня кідыліся.* 2. Спыніць лячэнне. *Атлячы́ў, дос, большы нікуды ні пывязу.* АТЛЯЧЫЦЦА *зак.* Спыніць лячэнне сябе. *Атлячы́ліся, ужо ня езьдзюць пы бальніцых.* АТЛЕЧАНЫЙ *дзеепрым.* *Калі й атлечыныя, дык што, хваціць зь яе, наезьдзілыся.* АТЛЯЧОМШЫ *дзеепрысл.* *Бальшэя расходы пынясьлі, атлячомшы Сьцёпычку.*

АТМАДЗЕЦЬ, АТМАДЗЕЦЦА *зак.* Скончыць пражыванне, жыццё ў неспрыяльных умовах. *Ну во, атмадзела тут стáрыя Праскоўя, зыбраў сын к сабе, учора ны машыні прііжджаў. Сыма іна ні знаіць, як ёй і айдзе прідзіцца атмадзецца.*

АТМАЛАЦІЦЬ *зак. метаф.* Моцна пабіць. *Рысказывылі, што ўчора Пылагеіхіныга мальца ладна атмылацілі кылы рякі.* АТМАЛАЦІЦЦА *зак.* Моцна пабіцца. *Зы нішто зы ніякыя так атмылаціліся!* АТМАЛОЧАНЫЙ *дзеепрым.* *Сяньня яны так ня бойдуцца, пойдуць атмалочычыя, у іх на ета ажно плечы чэшуцца.* АТМАЛАЦЁМШЫ

*дзеепрысл. Ныўрад, каб яны ні атмылацёмшы вывірнуліся.*

АТМАЦЮГАЦЬ *зак.* Налаяць матам. *Будзіць улазіць ні ў сваё дзела, яго ні так атмуцюгаюць.* АТМАЦЮГАЦЦА *зак.* Налаяцца матам. *Пріскачыў, атмуцюгаўся і пабег нызад, ні знаю, што ён тама вытвыряў.* АТМАЦЮГАНЫЙ *дзеепрым. Стыяў атмуцюганый спусьціўшы гылаву, стыдна було як цюціку.*

АТМАЯЧЫВАННЕ *н.* Адмаўленне. *А чуў я Міхеіва атмыячывыньня, па ём у ступі туўкачом ні пупадзеш.*

АТМАЯЧЫВАЦЦА *незак.* Адмаўляцца. *Я прасіў, ён усё атмыячывыўся: німа, німа,— а я знаю, што грошы ў яго хуць лупатыю грябі.* АТМАЯЧЫЦЦА *зак.* Адмовіцца. *Ета цьвёрда, што ён тріпануў, а скажы — атмыячыцца: я нікомінькy нічога ні гывapiў.*

АТМУЗДЫЧЫЦЬ *зак. метаф.* 1. Закончыць размову, не дасягнуўшы ўзаемаразумення. *Пат пойныч толька атмуздычылі, усё пры вайну пра тую гываpiлі.* 2. Моцна пабіць. *Як атмуздычуць хырашэнька, тады будзіця знаць, ці лезьць у чужоя дзела, ці ні нада.* АТМУЗДЫЧЫЦЦА *зак.* 1. Закончыць размову, не дасягнуўшы ўзаемаразумення. *Ні знаю, калі яны атмуздычыліся, я пашоў зы каровымі.* 2. Моцна пабіцца. *За што йта суседзі атмуздычыліся так?* АТМУЗДЫЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Закончаны (пра размову без узаемаразумення). *Ні прідумыць, калі ў іх усё будзіць атмуздычына.* 2. Моцна пабіты. *Пойдзіць атмуздычыный ізь яго хвабрысьцю, будзіць знаць, як дуракой рызбыранівыць.*

АТМУШТРАВАЦЬ *зак.* Вымуштраваць. *Ты яго як атмуштрўіш, ён зразу наўчыцца усё дзелыць.* АТМУШТРАВАЦЦА *зак.* Вымуштравацца. *Паедзь, зьезьдзі, атмуштрўісься, дык скора нызад прікоціш.* АТМУШТРАВАНЫЙ *дзеепрым. Крепка Пілipёнык атмуштруваный, будзіць знаць, як у іхныя рукі пупыдацца.*

АТМЯЖДЖУРЫЦЬ *зак. эмац.* Надаваць моцных кухталёў. *Самі зыдраліся, дык іх, як дуракоў якіх, атмяжджўрілі, а тады пусьцілі.* АТМЯЖДЖУРАНЫЙ *дзеепрым. Доўга сьміяліся, як Цімошка бег атмяжджўріный і крічаў: будзіць вам, будзіць вам!*

АТМЯКАННЕ *н.* Адмочванне. *Пылажыла плацьця у атміканьня, яно зынасілыся, зынасілыся, ніхай хырашэнька пытмікаіць.*

АТМЯКНУЦЬ *зак.* Вымакнуць. *Плыхая зіма, то аттаніць, то замерзьніць, жыта містамі атмякла.*

АТМЯТЛЯЦЬ *зак.* Абкідаць ніткамі. *Во зь естыга краю атмітля́й, а там пыглядзім.* АТМЯТЛЯЦЦА *зак.* Абкідацца ніткамі. *Скарей кынчай, ждаць некылі, як атмітля́іцца, так і ладна.* АТМЯТЛЯНЫЙ *дзеепрым.* *Ня дужа сьпецна атмітля́на, можна б акуратней зьдзелыць.*

АТНАШЫВАЦЬ *незак.* Адносіць. *Я іх у лесі відзіў: Трахім сек хворысьця, а іна атна́шывыла ґ дарогі, у кучу склыдала.* АТНАШЫВАЦЦА *незак.* Адносіцца. *Нешта ў цябе слаба паплецінкі атна́шывыюцца, можа ты дренна пызаўтрікыў.* АТНАШЫВАНЫЙ *дзеепрым.* *Вун куча атна́шывыныя саломы.*

АТНЕЖНІЧАЦЬ, АТНЕЖНІЧАЦЦА *зак.* Перастаць выяўляць пяшчоты, песціцца. *Яе мыладэя атнежнічылі, пашлі рызвадзіцца,— усё хвастылыся: зяць, зяць, а ён і ны быгаства ні пыглядзеў. А скора атнежнічыюцца, раздругей ні ўладзіць зваріць — і зубурчыць, як старэй ны Марью бубнеў.* АТНЕЖЫЦЬ *зак.* Напялегаваць. *Кусьцючыха атнежыла сваіх дзяўчонык большы некуды.* АТНЕЖЫЦЦА *зак.* Напялегавацца. *Атнежыліся, хва́цііць, ідзіця сена рыськідаць.*

АТНЕКУЛЯ, АТНЕКУЛІЦЬКА *прысл.* Аднекуль. *Прівязьлі атнекуля рябых кароў у калхоз, ні знаю, атку́ліцька. Явіліся ўчора атнекуліцька грязныя, зыляпыныя, доўга чысьціліся пыт павецьцю.*

АТО *зл.* Бо, іначай. *Ня лезь, ато зваліська, гнітанесься. Успакойся, ато палучыш. Прібірай сянцо, ато нымякніць.*

АТОПАЧАК *м. памянш.* Зношаны лапаць. *Бувала, атопычкі найдзіш, пыткывірза́іш як-небудзь і бірягеш, каб на вуліцу выскычыць.*

АТРАЗАРАЦЦА *зак. метаф.* Перастаць бушаваць, вычвараць. *Сьпіць твой Дрызьдзянок, атрузуря́ўся ўчора у Жыріцяне ны вічарінкі.*

АТРАЎЛІВАЦЬ *незак. метаф.* Прыводзіць ва ўзбуджаны стан. *Як возьміцца верзьць, усіх атра́ўлівыў, німала пра што трілюдзіў.*

АТРАШЛІВЫЙ *прым.* Неахайны. *Айдзе ў яго акуратнысьць, атря́шлівый чылавек, зы сабою ні прібярець. Памянш.* А́ТРАШЛІВЕНЬКІЙ. *Дзевычка нічога, трошку атря́шлівінькыя, ні пріўчыла матка к пырядку з ма́льства.*

АТРАШЫШЧА *м.* і *ж. павеліч.* Нядбайная, неахайная асоба. *Якей жа ён атря́шышча, у баню — і то вупруўляй, ня хочыць сьцігацца.*

АТРУБЛІВАЦЬ *незак. метаф.* Затлумліваць. *Пуду-*

*рісь-ка нядзелю ў нядзелю, калі ён за дзень цябе атрўб-лівыіць.* АТРУБІЦЬ *зак.* Затлуміць. *Яны мяне атрубілі сяньня: тоя дай, етыга ні хачу, адзін б'ецца, другей шчып-ліцца,— а ніхай іх, ніхай.* АТРУБЛЕНЫЙ *дзеепрым. Нікуды я ні пайду, у мяне гылыва атрўбліна.* АТРУБЁМ-ШЫ *дзеепрысл. У мяне ўжо духі атрубёмшы ат вашыга зыку.*

АТРУМЗАЦЬ *зак.* Наплакацца. *І столька ён атрюм-зыў пы цітрадкі, а ніхай ба йна згарела!* АТРУМЗАЦЦА *зак.* Перастаць плакаць. *Ці ты атрюмзылыся ай яшчэ трошку пахныкыіш?*

АТРУТНІК *м. эмац.* Дакучлівая асоба. *Атрўтнікі мальцы, яны табе такога ныпяюць, што вушы пывянуць. Памянш.* АТРУТНІЧАК. *Ах, атрўтнічык, ты як бальшэй пычынаіш заігрывыць.* АТРУТНІЦА *ж. Ну й атрўтніца, ну й атлётка, чаго іна толька ні ныпрідўмывыіць.*

АТРУТНЯЦЬ *незак. эмац.* Дакучліва дапякаць. *Ён сваімі дурáмі атрутняіць ёй жызьню.* АТРУТНІЦЬ *зак.* Дакучліва дапячы. *Ета нячыстыя сіла, ён каго хочыш атрўтніць, да вумапымрачэнія дывядзець.*

АТРУХАЦЬ *зак.* 1. Перастаць рохкаць. *Атрюхыў мой пырасёнычык, німа ўжо, усё мяне сустрюкаў, як іду: рюх-рюх-рюх.* 2 *перан.* Перастаць грубіяніць. *Атрюхыіш, яй-богу, атрюхыіш, як дрючына пы сьпіне паходзіць.* АТ-РУХАЦЦА *зак.* Перастаць грубіяніць. *Я знаю, што дзе-лыць, у мяне атрюхыіцца, зылатэй маліц станіць.*

АТРУЦІШЧА *м.* і *ж. перан.* Невыносная асоба. *Ну й атрўціішча Цімох, чаго толька зь яго ні вытвыряіцца. Ой, атрўцішча дзеўка, пупадзецца каму-то цаца.*

АТРЫГ *м. метаф.* Успамін. *Як пашлі ны вайну, худзь ба якей атрыг быў, ні слуху ні духу ні пры аднаго. Ніхай ім атрыгу ня будзіць, такім харошым.*

АТРЭЎЦЬ *зак.* 1. Нарыкацца. *Пашлі на свадзьбу, зугуляліся, атріўлá карова нядоіныя.* 2 *перан.* Наплакац-ца ўголас. *Як паехыў, яны атряўлі, а што дытвырялі ны яго кажнінькій дзень, ніхай успомнюць.*

АТ'ЮШЫВАЦЦА *незак.* Пазбаўляцца турбот, супа-койвацца. *Пычынаіць Хоўрін сын ат'юшывыцца.* АТ'Ю-ШЫЦЦА *зак.* Пазбавіцца турбот, супакоіцца. *Ну хваліць богу, і быгацькыўцы ат'юшыліся, ато ўсё бегылі зыхáкы-ныя.* АТ'ЮШАНЫЙ *дзеепрым. Ішоў ён нідаўна ат'юшы-ный.*

АТ'ЯЗДЖАННЕ *н.* 1. Ад'езд. *Яны ніяк ні даждуцца Сямёнывыга ат'іжджáньня.* 2. Адсоўванне. *Ныдаела мне*

*ета ат'іжджáньня, нада доўгім гваздом прібіць планку.*

АЎСЯННІК *м.* Аўсянішча. *Пыхалі пыдряд і аўсяньнік, і пшэнішча. Памяниш.* АЎСЯННІЧАК. *Во як аўсяньнічык мінеш, варочый трошку ўлева і йдзі пряма.*

АЎЦЮШКА *ж.* Трава на корм. *Тута сеілі нейкыю аўцюшку, далі ўсім пы палоскі.*

АХАЙНА *прысл.* Акуратна, чыста. *У Домніных дачок ахáйна ў хаці. Іна ахáйна вядзець хызяйства.*

АХАЙСТВА *н.* Акуратнасць, чысціня. *Ахáйства тады, калі кажный сьлядзіць зы пырядкым і сам зы сабою глядзіць як нада.*

АХАПЛІВАЦЬ *незак.* Ахопліваць. *Зайдзіш у тэя кусты — ні пралезьць, сонца ня відна, ажно страх ахáплівыіць.* АХАПЛІВАЦЦА *незак.* Ахоплівацца. *Як хырашо ў цябе ў хаці, грубычка топіцца, зразу ціплатою ахáплівыісься.*

АХВАТЫВАЦЬ *незак. перан.* Здабываць, атрымліваць. *Такей прайдоха, што сьвет ня відзіў, у любом дзелі умеіць ахвáтывыць рублі.* АХВАТЫВАЦЦА *незак.* Здабывацца, атрымлівацца. *Ня бойся, ён ні ў чом ні зіваіць, ня тоя, дык другоя у яго ўсігда ахвáтывыіцца.* АХВАЦІЦЬ *зак.* Здабыць, атрымаць. *Ні прымінаіць, каб ахваціць капейку, нійдзе ня ўпусьціць.* АХВАЦІЦЦА *зак.* 1. Спахапіцца. *Ны адну мінутычку атыйшла, падбегла к калёсым, ахвацілыся — німа кашолычкі.* 2. Здабыцца, атрымацца. *Ні так многа, ну па сотні ў іх ахвацілыся.* АХВАЧАНЫЙ *дзеепрым. Ня дужа ў іх многа ахвáчына.* АХВАЦЁМШЫ *дзеепрысл. Чаго ні зыдывацца, ахвацёмшы кучу грошы.*

АХВІЦЭРША, АХВІЦЭРШАЯ *ж.* Жонка афіцэра. *Пріехыла іх ахвіцэрша зь дзіцямі, усё лета тут будуць аддыхаць. Я дзяўчонкыю была, подрысьнім, матка пашлець мылако прыдываць у горыд, патходзіць ахвіцэршыя су служанкыю і купляюць.*

АХВІЦЭРЫЦЬ *незак. жарт.* Служыць афіцэрам. *Чулі, чулі, што твае абоя ахвіцэрюць.* АХВІЦЭРЫЦЦА *незак.* Служыцца афіцэрам. *Як табе ахвіцэріцца, можа скора па зьвёздычкі дыбавюць?*

АХОЦІЦЦА *незак.* Мець ахвоту. *У сылдаты ён іціць ахоціцца, ато ні бяруць і ні бяруць, гаворіць, ацслужу, тады будзіць відней.*

АЦАНЯЦЬ *незак.* Цаніць, ацэньваць. *Ня ўмела іна Шуріка ацынáць, такей чылавек, і хызяйлівый, і уважыцільный, ці ён калі зláіўся, ці слова плахоя скызаў.*

АЦЕЧАСТВА *н.* Імя па бацьку. *Ён дужа культурный, усігда пы ацечыству завець Праскоўіну дачку.*

АЧУМАЧЫВАННЕ *н.* Адурманьванне, затлумліванне. *Кажный дзень адно і тоя, тлум і тлум, хваціла зь мяне ачума́чывыньня.*

АЧУМАЧЫВАННІК *м.* Той, хто адурманьвае, затлумлівае. *Са ўсіх бакоў як возьмуцца ачума́чывыньнікі, зы мінуту задурюць.* АЧУМАЧЫВАННІЦА *ж.* *Як нылаю бакі етым ачума́чывыньніцым, яны зырякуцца дурату сыпысаць.*

АЧУМАЧЫВАЦЬ *незак.* Адурманьваць, затлумліваць. *Як узяліся яго ачума́чывыць, ні знаў, у якей бок круціцца.* АЧУМАЧЫВАЦЦА *незак.* Адурманьвацца, затлумлівацца. *Ці ты ац сваіх унукыў ні ачума́чывыісься яшчэ?* АЧУМАЧЫЦЬ *зак.* Адурманіць, затлуміць. *Дуратою сваёю ачума́чылі мяне, ажно ня помню, што куды пылажыла.* АЧУМАЧЫЦЦА *зак.* Адурманіцца, затлуміцца. *Каб ты пыбыла зь імі, сколька я, ты б ні так ачума́чылыся.* АЧУМАЧАНЫЙ *дзеепрым.* *Выйшла аттуля во с такою ачума́чыныю гылавою, ні прідумыю, куды кінуцца.*

АЧУМЛЯННЕ, АЧУМЛІВАННЕ *н.* Ачмуранне. *Як ёй ні ныдаесьць кажный дзень ачумля́ньня, я дык ба цірізь нядзелю пыгнала ету кантору с хаты. Ныцярьпелыся іна ачу́млівыньня, усяго ёй хваціла.*

АЧУМЛЯЦЬ, АЧУМЛІВАЦЬ *незак.* Ачмураць. *Крікым адным за дзень ачумля́юць, а папробый-ка месіц выцірьпіць. Каб яны етык ні ачу́млівылі, я б сыгласілыся сколька дней пабыць.* АЧУМЛЯЦЦА, АЧУМЛІВАЦЦА *незак.* Ачмурацца. *Ты ні ачумля́йся, цьвёрда гывары, што так ні далжно быць. Ні пайду я к ім ачу́млівыцца.* АЧУМІЦЦА *зак.* Ачмурэць. *Ачумі́лыся Ганна іс хызяйствым, мінутычкі пірядыху німа.*

АЧУНЕЦЬ *зак.* Акрыяць, паправіцца. *Прідзіцца Ірмачонку пывыляцца, пакуля троху ачунеіць.* АЧУНЕЛЫЙ *дзеепрым.* *Як цяжола кычаўся, а глядзі-ка, выйшыў ачунелый.*

АЧХНУЦЦА *зак.* 1. Прыйсці ў сябе, ачуцца. *Комін рана зычынілі і прілеглі пыліжаць, відна, заснулі, угар пашоў, яны хвацілі і ні ачхну́ліся.* 2. Прачуцца. *Ці помніш, як пурузгуляліся красьць ну хутурах — нашы ма́хырі, кырыбчані, Заіка, а тады як пыдладзіліся, пыдыбралі і на Новыю Зямлю, і ні адзін ні ачхну́ўся.*

АЧЫСТАЦЬ *ж.* Праборка, нaганяй. *Мы з Домныю*

*раз Сідырíхіну цубулю да кусьціка вырвылі і пыклалі, матка мне дыла ачыстáць.*

АШАЛЯВАННЕ *н.* Дурнота, шаленства. *Хлопцы тріханцуь зáгрудкі, айдзе яго ашылівáньня дзеніцца, рузмудрей дужа.*

АШАЛЯВАЦЬ *незак.* Дурнець, шалець. *Яму пріказывыюць у рот ні брацъ, а ён п'ецъ ды п'ецъ, ашылівáіць.* АШАЛЯВАЦЦА *незак. Зал.-бессуб'ект.* ад ашаляваць. *Каб хто ў руках дзіржаў, меншы б яму так ашылівáлыся.*

АШЫБНУЦЬ, АШЫБЦЬ *зак.* Памыліцца, вымусіць да памылкі. *Ашыбнýў ты, што ўзяў Кыласкову карову, іна і стурувата, і ялывіла часта. Ніхто мяне ні ў чом ні абшыб, а ў жанідзьбі ашы́блі.*

АШЫЦЦА *зак. эмац.* Схавацца, затаіцца. *Тады іх былі крепка пріжалі, Лялікыў ашы́ўся ны Бальшой Слыбадзе, яго дайжа чутна ні було.*

# Б

БАБАК *м. эмац.* Гультаяваты сыты чалавек. *Вылежывыюцца быбакі на сені, што ім біспакоіцца, кылі і пыдáджына, і прібрáджына воўрімя. Памянш.* БАБАЧОК. *Ці твой быбачок ішчэ ны пасьцелі кычаіцца? Узмацн.* БАБАЧЫНА. *Разьеўся быбачы́на гульма гуляючы.*

БАБКА *ж.* Кучка скошанай грэчкі, вікі. *У бáбкі кычалі вык і грячыху. Бувала, ны гряцкоўі многа бáбык. Памянш.* БАБАЧКА. *Як у нібальшэнькія бáбычкі пыкычаць, яны скора сохнуць.*

БАГАВАННЕ *н.* Прывольнае, бестурботнае жыццё. *А што ты хацела, каб табе усё ўремя бугувáньня було?*

БАГАВАЦЬ, БАГАВАЦЦА *незак.* Жыць прывольна, бестурботна. *Людзі багýюць, а ці мы худжы, нам тожа хочыцца жыць, як другея. Вы столька ўремя бугувáліся, а цяпер троху іначы пыжывіця.*

БАГАЎНІЦА *ж.* Бажніца. *Раншы у Тріхона была быгаўніца, там усё грошы ліжалі, там была тыкая шкурацíныя, ён пыцягніць, іна расходзіцца, і прі ўсіх клаў, і ніхто ня трогыў. Памянш.* БАГАЎНІЧКА. *У нашый старый хаці была быгаўнічка.*

БАКАВІНКА *ж.* Бакавая частка чаго-н. *Нада быкавінку скасіць ны аборычку. Зьеж во, быкавінка харошыя. Памянш.* БАКАВІНАЧКА. *Нідайна тута ліжала быкавíнычка як аполык, айдзе йна — ні прідумыю.*

БАКАВУШАЧКА *ж.* Маленькая бакавушка. *У быкавушычкі усякій громызд, што пад рукі дужа ні нада.*

БАЛАМУЧАННЕ *н.* Баламуцтва. *Усякыга быламучыньня аць Сіўчынка начуліся і нагледзіліся ні прідумыць сколька.*

БАЛЕЗНЯ *ж.* Хвароба. *Посьлі балезьні ён ныдбірігаіцца, абы-чаго ні хвытаіць есьць.* ПЛАХАЯ БАЛЕЗНЯ, ДРЭННАЯ БАЛЕЗНЯ, НЕХАРОШАЯ БАЛЕЗНЯ. Падучка. *А ні дай бог, у яго плыхáя балезьня. Хужы німа, калі ў каго дренныя балезьня. Прібег к нам, гаворіць, баюся двору йціць, у яе ніхарошыя балезьня,— во жаніўся.*

БАЛМАТУН *м.* Балбатун. *Ці веціp вяйнець, ці етый былматýн скажыць — усё адно.* БАЛМАТУХА *ж. Ад былматýхі нічога разумныга ні пачуіш, адны трілюды.*

БАМБІЗЗЕ *н. зб.* Гультаі. *Во айдзе бамбізьзя сыбралыся, работыць — паліц ап паліц ударіць ня хочуць, а елі б дужа смашна.*

БАМБІЗКА *ж.* Гультайка. *Корміць матка бамбізку, пыглядзіш, як іна матку накорміць.*

БАНЦІКІ *мн. перан. іран.* Губы. *Бáньцікі ныкрашыны красіва, толька мызалькі на ручкі баіцца пысадзіць.*

БАРАЗНА, БАРАЗЁНКА *ж.* Градка (бульбы, буракоў і інш.). *Пяць быразён абыйшоў і пабег некуды, во якей зь яго памошнік. Нескылька быразёнык ат краю ішчэ ні пярёйдзіны. Памянш.* БАРАЗЁНАЧКА. *Кароцінькія быразёнычкі я пуд лупатку скыпаў, а доўгія рызгыняў.*

БАРАКОВЫЙ *прым.* Бурачны. *Залоўка прінісла расолу быраковыга, я выпіла, дык, кажыцца, ну душэ атлігнула.*

БАРАКОЎЕ *н.* Поле з-пад буракоў. *Скот пы быракоўю ходзіць, каровы наўчыліся мордыю рыць, кой-айдзе бырачкі пупыдаюцца.*

БАРАНОК *м.* Невялікі баран. *Сёліта ня дужа зыдашліва: абея кацілі пы парі і ў абеіх быранкі. Памянш.* БАРАНОЧАК. *Быраночык ні пыціряіцца, ат маткі ні астанецца.*

БАРАХЛАВАТЫЙ, БАРАХЛАВАЦІСТЫЙ *прым.* 1. Нізкай вартасці, якасці. *Бырыхлывáтыя сыпагі, надзень у грязь і пыглядзіш, што яны рызвалюцца. Куртычкі прыдаюцца, ну бырыхлывáцістыя, нада пыдыждаць, можа, луччыя пыявюцца.* 2 *перан.* Маланадзейны. *Не, Зыхар — бырыхлывáтый ныпарнік, ён зразу можыць пад-*

*весьць. Ну дык што, кылі рослый і красівый, чылавек ён бырыхлываціістый. Памянш.* БАРАХЛАВАЦЕНЬКІЙ. Нізкай вартасці, якасці. *Асінывінькыя хатка бырыхлываціінькыя, нада б луччыю пушукаць.*

БАРАХЛЕЦЬ, БАРАХЛІЦЬ, БАРАХОЛІЦЬ, БАРАХОЛЬНІЧАЦЬ, БАРАХЛЕЦЦА, БАРАХЛІЦЦА, БАРАХОЛІЦЦА, БАРАХОЛЬНІЧАЦЦА *незак. метаф. неадабр.* Балбатаць. *Нашто ж бырахлець, калі ня быў там, ня відзіў, нехта тріпануў, а ты ўсьлед пухтыряіш. Уместа сойдуцца і пашлі бырахліць абы пра што. Іх ні разгонь, будуць цэлыю ноч бырахоліць і пры работу забудуць. Сойдуцца кучыю і пычынаюць бырахольнічыць, пакуля кажныга ні пірібяруць, ні рызвылакуцца. Столька ўремя мы зь імі бырахлеліся — то аддаець, плаціця грошы, то нызад: дзёшыва,— сам ні знаіць, чаго хочыць. Дос табе, баба, бырахліцца, ты ж ня відзіла, як там було і хто што дзелыў. Сідзяць, бырахолюцца, а што ім большы дзелыць. Пра што яны тама бырахольнічыліся,— хуць ім ні нада выбіраць, любую пустату пірілівадь будуць.*

БАРАЧЫНА *ж.* 1. Адна расліна буракоў. *Во між морквы бырачы́на пупалыся. Памянш.* БАРАЧЫНКА. *Ета ці ні бырачы́нкі усходзюць.* 2. Буракі наогул. *Ікая бырачы́на была, ні прібралі толкым, мароз пріхваціў у пуні.*

БАРБАСНЯ *ж. зб. асудж.* Злодзеі, нягоднікі. *Німала бырбасьні рызьвялося. Бырбысьня́ ішчэ тая, што хочыш утворюць.*

БАРВУС *м.* Распуснік. *Хліманёнкывы барвýсы саўсім рысьпірізаліся. Памянш.* БАРВУСОК. *Падрос бурвусок, увесь чыста як большый, дайжа узгляд адзінакывый. Узмацн.* БАРВУСІНА, БАРВУСЮГА. *Што йта ты ні ўгамýіш ніяк свайго бурвусіну, ён чылавеку ні даець прайціць спакойна. Рузгудуваўся бурвусю́га, маткі ні каплі ні пымыгаіць. Павеліч.* БАРВУСІШЧА. *Быў ціхій, спакойный, а цяпера такей бурвусішча стаў, што ні прівядзі бог.*

БАСАТОРЫЯ *ж. асудж.* Басата, басякі. *Некыму найціцца ды хырашэнька ету бысаторію пыгыняць.*

БАЎТАЦЦА, БОЎТАЦЦА *незак. метаф.* Заставацца непрыбраным (пра пасевы, луг). *У зыда́х ішчэ кусочыкі лёну буўта́юцца. Сарьві ты етый ічмянёк, каб ня боўтыўся, вачэй ні мазоліў.*

БАХКАННЕ *н.* Груканне, стрэлы. *Ці чуў ты ба́хкыньня у тым баку? Пры якоя ты ба́хкыньня гылаву дуріш?*

БАХКАННІК *м.* Той, хто грукае, страляе. *Рызыйшлі-*

*ся бáхкыньнікі, чым яны тама стукочыць.* БАХКАННІЦА *ж. Нечыга бáхкыньніцы дзелыць, пушукай ты ёй якоя-небудзь зыняція.*

БАХКАЦЬ *незак.* Грукаць, страляць. *Ета ён дровы коліць, пні, дык так бáхкыіць. Пы балоту ходзюць ахотнікі, бáхкыюць.* БАХКАЦЦА *незак.* Падаць. *Ты мáлый с полу ні раз бáхкыўся, трошку пыпішчыш і сьціхніш.*

БАЧКАВЭЙ *прым.* Такі, які мае адносіны да бочкі. *У клеці вісяць бычкавэя абручы, яны цяперя ні нада.*

БЕЗЛЮДЗЬ *м.* і *ж. асудж.* Нягоднік. *Ён безьлюдзь і іна тыкая самыя, ікраз пара пыдыбралыся. Што ўжо безьлюдзь баба, сьвет такея ня відзіў.*

БЕЗУВАЖЫЦЕЛЬНА *прысл.* Непаважна, ганебна. *Ён ка ўсім так бізуважы́цільна атносіцца, нікога пынімаць ня хочыць.*

БЕЗУВАЖЫЦЕЛЬНАСЦЬ *ж.* Непавага, ганебнасць. *Што ат яго Хрісьціна відзіла?—кромі бізуважы́цільнысьці нічога.*

БЕЗУВАЖЫЦЕЛЬНЫЙ *прым.* Такі, які адносіцца без павагі. *Такея бізуважы́цільныя, бяссовісныя, як ета можна гывáріць пустату ны чылавека, ні знаўшы, ня ведыўшы.*

БЕЗУРОДЗІЦА *ж.* Адсутнасць сваякоў. *У каго ёсьць і дваюрыдныя, і траюрыдныя, а ў мяне нікога, бізуродзіца, адзін як пень.*

БЕЗУРОДНІК *м.* Чалавек, які не мае родных. *Ні знаю, аткуля Масеівіч, нейкій бізуроднік, неткуль прібіўся і акыпірувáўся тута.* БЕЗУРОДНІЦА *ж. Ні аднае душы сваіх німа ў яе, іна бізуродніца.*

БЕЛАВЭЙ, БЕЛАВЫЙ *прым.* Белаваты. *Білавэй такей пінжачок ліжаў, айдзе ён мог дзецца. Куртка на сонцы выгыріла, білывая стала, усё дно як пірікрашыныя.*

БЕЛАГОРЛЫЙ *прым.* З белым горлам. *Нечый бальшэй білагорлый кот ходзіць, яйцы паесьць, яго нада хырашо нупужаць. Памянш.* БЕЛАГОРЛЕНЬКІЙ. *У Стыхвынка была білагорлінькыя сучычка, красівінькыя.*

БЕРАЗНЯЧОК, БЯРЭЗНІЧАК *м.* Невялікі бярэзнік. *Помню, зу Глубокыю кынавыю бірізьнячок засеў як чачотка, тады яго рыспыхалі. У Чуміковым бярезьнічку грібы ні расьлі, ён дужа гўстый быў.*

БЕСЧУСТВІЦЕЛЬНЫЙ *прым.* Няўважлівы, абыякавы. *Бішчуствіцільный ты чылавек, разьві ня відзіш: іна б'ецца, як рыба аб лёд.*

БІБАННЕ, БІБКАННЕ *н. эмац.* Хадзьба з цяжкасцю.

*Ай, ні гывbooрі ты, маё бібыньня с палкыю — ета мучэньня. Ліжала б ужо і ліжала на печы, ішчэ бібкыньня табе нада.*

БІБАЦЬ, БІБКАЦЬ *незак. эмац.* Хадзіць з цяжкасцю. *Што іна будзіць дзелыць, бібыіць с палкыю лі двыра, калі грядку бульбы абойдзіць. Еткія гады, канешня будзіш бібкыць.*

БІКАМ *прысл.* Поўнасцю, бітком. *Аўтобус бікым быў набіт, мы чуць-чуць уціснуліся у задні дзьвері.*

БІЛЯБЕНЕННЕ, БІЛЯБЕННЕ *н. неадабр.* Балбатня. *Ныдаела мне слухыць білябеніньня, пайду луччы высплюся як чылавек. Білябеньня ета ня ў модзі, ніхай іна гылавы ня дуріць, а рыскажыць, як було.*

БІНДЗІЦЦА *незак. зніж.* Углядацца, прыглядацца. *Чаго ты біньдзісься ны чылавека, усё дно як у пустыні век пражыў, нікога ніўдзе ні сустрюкаў.*

БІНДЗЮГАННЕ *н.* Бязмэтнае блуканне. *А каму тваё біньдзюгáньня пыныравіцца, у дзяреўні ўсігда работа находзіцца, нада пымыгаць.*

БІНДЗЮГАННІК *м.* Той, хто бязмэтна блукае. *Каб Ісаівых біньдзюгáньнікыў у касу пыставіў, яны б на хверму сена ныкасілі.* БІНДЗЮГАННІЦА *ж. Сыма выгыдывыла біньдзюгáньніцу, а цяперіцька рукі лумаіць: справіцца ні магу.*

БІНДЫ *мн. зніж.* Вочы. *Бінды свае пратрі, разьві ты ні пынімаіш, што скот пыра карміць.*

БІРКАЎСКІЙ *прым.* Вышэйшай якасці (пра від селядцоў у дарэвалюцыйны час). *Віктыр як найміць жаць, нукупляіць нам рыбы харошыя, сялёдык біркыўскіх, нукупляіць сахыру,— хырашо карміў.*

БІЦЦА *незак.* Калоцца. *Ня будуць етыя дровы біцца, намучыісься ты зь імі, тут сук ну суку.*

БЛЕЙ *м.*: ЯК У БЛЕЙ. Як у звон. *Як у блей брізкыталі: хадзіла, хадзіла зь Яшкыю. Во дзень пройдзіць — як у блей зазвонюць.*

БЛІЗЬ *ж.* Блізкасць. *Блізь ня блізь, а вёрст пітнаццыць у адзін канец будзіць.*

БЛУКУНЯННІК *м.* Бадзяка. *Вешныя блукуня́ньнікі, рук ні к чому пріложыць ня хочуць.* БЛУКУНЯННІЦА *ж. Якей толк з блукуня́ньніцы, расінку у дваре ні паможыць.*

БЛУТУНЯННЕ *н.* Бадзянне. *Яму пыныравілыся блутуня́ньня, у дваре накормюць, напоюць, чаго ні цігацца.*

БЛУТУНЯЦЬ, БЛУТУНЯЦЦА *незак.* Бадзяцца.

*Троху тут блутуняў, у Машкі прічыляўся, а тады зьехыў. Даніла так блутуняіцца, ён тут жаніўся, тады іна памёрла ў Лінінградзі, ён другей раз жаніўся.*

БЛЫНДАННІК *м.* Той, хто блукае. *Айт, вырысьлі блы́ндыньнікі, якога толку ат іх хацець.* БЛЫНДАННІЦА *ж. Папробый зыстаў блы́ндыньніц работыць, увідзіш, як скрівюць нос.*

БОЙ *м.* Біццё. *Што іна бою пыцярьпела, што горя пірігурювала — закрый бог і замілый, урагу свайму ні пыжылаіш.*

БОЛЬНЫЙ *прым. перан.* Дарагі, блізкі. *Кажный маткі свой дзіцёнык больный. Каб ты знала, як ён мне болін і дорыг.*

БРАЗКАЦЬ, БРАЗКАТАЦЬ, БРАЗКАЦЕЦЬ *незак.* 1. Бразгаць. *Ніпріятна, як што бря́зкыіць, ідзеш, а яно ляп, ляп. Ні люблю я, каб жалезьзя брізкытáла. Ішчэ нехта брізкаціць вёдрымі лі калодзіжа, а цемінь — шагу ступіць ня відна.* 2 *неадабр.* Балбатаць, плявузгаць. *Як ні бря́зкыюць якея-небудзь лухты, тады ім аж мутырна. Ні знаю, пра што яны тама брізкытáлі, стыяўшы кучыю. Ніхай яны сколька хочуць брізкыця́ць, мне яны ня дужа важны.* БРАЗКАЦЦА, БРАЗКАТАЦЦА, БРАЗКАЦЕЦЦА *незак.* 1. Бразгацца. *Пірілажы саломыю вёдры, бря́зкыюцца і бря́зкыюцца, ныдаелі. Нада пыдвязывыць, каб ні брізкытáлыся. Сена клок заторні і пірістаніць брізкацецца.* 2. Балбатаць, плявузгаць. *Ці кончуць яны сяньня бря́зкыцца? Верна, два часы лі калодзіжа брізкытáліся, ніяк рызыйціцца ні маглі. Не, я ні даждуся, пакуля яны кончуць брізкацецца.*

БРАХЛІВЕНЬКІЙ *прым. памянш.* Такі, які любіць хлусіць. *Нічога дзяўчонкі, трошку бряхлівінькія, ну што ж ты зьдзелыіш, ізычкі ні падрежыш.*

БРУДДЗЕ *н. зб.* 1. Бруднае адзенне. *Бру́дзьдзя нызьбіралыся, некылі шчолыку прупусьціць.* 2 *перан.* Раслінасць на твары, шчэць. *Хуць бру́дзьдзя збрый, як ты на людзі пойдзіш.*

БРУЗЛАСЦЬ *ж.* Хваравітая паўната. *Ат пріродзьдзя тыкая брю́злысьць у Лёніка была, пы пріродзі яны ўсе такея.*

БРУЗЛЫЙ *прым.* Хваравіта поўны. *Прівізла сабе нейкыга брю́злыга-брю́злыга мужука гадоў пач шэзьдзісят, хваліцца: во зяць мой. Памянш.* БРУЗЛЕНЬКІЙ. *Мульчуган брю́зьлінькій, як сам.*

БРУЗЛЯК, БРУЗЛЮК *м.* Празмерна поўны чалавек.

*Во брюзьляк ходзіць, дрыжыць увесь, як кісель. Ціріс таго брюзьлюка етыя айтыріцетым пользыюцца, усё туды едуць і едуць лячыцца. Памяниш.* БРУЗЛЯЧОК, БРУЗЛЮЧОК. *Увесь, як тата, брюзьлячок. У яе пара хлапчынык брюзьлючкой.* БРУЗЛЯЧКА, БРУЗЛЮЧКА *ж. Ніхай ба тая брюзьлячка пумуўчала, яе ніхто ня трогыіць. Нісмашна стала брюзьлючкі, як зу мужука пірісталі плаціць.*

БРУСКАВЭЙ *прым.* У форме брусоў. *Брускавэй лес, куруткуватый, ну харошый, яго дайжа жалка на дровы пускаць.*

БРУШНІЦЫ *мн.* Брусніцы. *Брушніц у лясу нямнога, кой-айдзе прыкідаюцца. Памяниш.* БРУШНІЧКІ. *Брушнічкі як хырашо пасьпеюць, тады смашныя становюцца.*

БРУШНІЧЫНА *ж.* Адна ягада брусніц. *Пупыдаюцца буйныя брушнічыны, як ладныя гарошыны. Памяниш.* БРУШНІЧЫНКА. *Вазьмі ў горсьць брушнічынык.*

БРУШНІШНІК *м.* Бруснічнік. *У нас брушнішнік ат праступы п'юць. Памяниш.* БРУШНІШНІЧАК. *Я гляджу, што йта йна нясець у хвуртуку, а ета брушнішнічык.*

БРУШЫШЧА *н.* Вялікае бруха. *Такея брюшышчы уліяюць, гаворюць, як пад'ём, дык цяжола дыхыць.*

БРЫГАДЗІРАННЕ, БРЫГАДЗІРНІЧАННЕ, БРЫГАДЗІРСТВАВАННЕ *н.* Брыгадзірства. *Мутырна яму посьлі брігадзіріньня іціць умесьці са ўсімі. Брігадзірнічыньня ні кажным патходзіць. Брігадзірствывыньня яму ішчэ бокым вылізіць, ці можна так зь людзямі абрышчацца.*

БРЫГАДЗІРЫЦЬ, БРЫГАДЗІРНІЧАЦЬ, БРЫГАДЗІРСТВАВАЦЬ *незак.* Працаваць брыгадзірам. *Брігадзіріць — ета як каму ныравіцца. Брігадзірнічыць — нада зь людзямі хырашо абрышчацца, а ты так ня ўмеіш. Ён доўга брігадзірствывый, ня меншы як гадоў дваццыць.* БРЫГАДЗІРЫЦЦА, БРЫГАДЗІРНІЧАЦЦА, БРЫГАДЗІРСТВАВАЦЦА *незак.* Працавацца брыгадзірам. *Як табе цяперя брігадзіріцца? Пыглядзіш, як сымаму будзіць брігадзірнічыцца. Яму нядренна брігадзірствывылыся.*

БРЫГАДНІК *м.* Калгаснік, які не мае сталай пасады. *Хто ны сталый рабоці, тэя пулучаюць, а брігаднікі многа ні зырыбатывыюць.* БРЫГАДНІЦА *ж. Брігадніцыю нявыгыдна, нада іціць у дыяркі.*

БРЫДЗІНА *м.* і *ж. эмац.* Нягоднік. *Брыдзіна-брыдзі-*

*на шытаіцца па сьвету, ня будзіць зь яго ніякінькыга толку. Ні пасьледнія брыдзіна была твыя Пыраска.*

БРЫЗЬ *выкл. перан.* Пра імгненнае знікненне. *Як пыгнаў, іна брызь у хату і схувалысь. За сьценку брызь, сталі і стыяць.*

БРЫКСА *ж. эмац.* 1. Гуллівая жывёліна. *Во брыкса цёлычка, цэлый дзень прыгыіць.* 2. Гуллівая дзяўчынка, капрызная дзяўчына. *Носіцца брыкса цэлый дзень кругом двыра. С такою брыксыю доўга ні пыгаворіш, жыва ацьсякець.*

БРЫЛЬ *м.* Лопух. *Каб мыладэя брылі, скасіў ба касою, а еткія нада высікаць тыпаром.*

БРЫНДАВУСЕННЕ *н.* Бадзянне. *Зы брындавўсіньня цябе ніхто ні пыхваліць, як ета, каб паліц ап паліц ні ўдаріць у дваре.*

БРЫНДАННЕ *н.* Бязмэтнае блуканне. *Доўга тваё брындыньня цярьпець ня будуць, папруць ны работу.*

БРЫНДАННІК *м.* Той, хто бязмэтна блукае. *Што етыму брындыньніку атходзіць, нажрецца і пашоў ну пуўдня, а тады і ночы пріхваціць.* БРЫНДАННІЦА *ж.* *Як толька ня стыдна етым брындыньніцым зу кусок хлеба браццa.*

БРЫНДАЦЦА *незак.* 1. Бязмэтна блукаць. *Брындыіцца днямі, рук ні за вошта зычапіць ня хочыць.* 2. *Зал.-бессуб'ект.* ад брындаць. *Табе ўсё яшчэ брындыіцца, к рабоці ні цягніць?*

БРЫСЮГА *м. узмацн.* Здаровы гультаяваты чалавек. *Просін меншый брысюга разьдзелыўся, ёй ні пымыгаіць, нажрецца і сьпіць.*

БРЭЗКАННЕ *н.* Выражэнне незадаволенасці, грэбаванне. *Я на іх брезкыньня ні абрышчаю ўніманія, ішчэ могуць мутузоў пулучыць.*

БРЭЗКАННІК *м.* Той, хто выражае незадаволенасць, грэбуе. *Як ні зварю есьць, етыя брезкыньнікі рады будуць сухую корку глыдануць.* БРЭЗКАННІЦА *ж.* *Штоб с такога возрысту брезкыньніцыю стынавіцца!*

БРЭЗКАЦЬ *незак.* Выражаць незадаволенасць, грэбаваць. *Глядзі, глядзі брезкыць, ішчэ ны бацькіный шыі сядзіш.* БРЭЗКАЦЦА *незак.* 1. Выражаць незадаволенасць, грэбаваць. *Пычынаіць брезкыцца, як мама, зразу відна парода.* 2. *Зал.-бессуб'ект.* ад брэзкаць. *Чаго ёй узноў брезкыіцца?* БРЭЗНУЦЬ *зак.* Выразіць незадаволенасць, пагрэбаваць. *Ён длі мяне душу аддываў, ён ужо ня брезьніць, што яму ні скажы.* БРЭЗНУЦЦА *зак.* 1. Вы-

разіць незадаволенасць, пагрэбаваць. *Думыла, спакойна ўсё абойдзіцца, не, Мархвіна большыя брезнулыся, ні па ёй нешта пыкызалыся.* 2. *Зал.-бессуб'ект. ад* брэзнуць. *Ці ты прідумыіш, чаго ім брезнулыся?*

БУГРЫНКА, БУГРЫНАЧКА *ж.* Невялікі пагорак. *Помніш Мірёныву хату, ну бугрінкі стыяла, бліжы ґ дарогі? Нібыльшая бугрінычка, а бірьвяно пузым лягло, намучылісья, пакуль сьцягнулі.*

БУДКА *ж. перан. іран.* Твар. *Яго цесьць пріїжджаў раз, во такенныя бу́дка, красныя.*

БУЗГОР *м.*, БУЗГОРЫНА, БУЗГОРЧЫНА *ж.* Невялікі пагорак. *Вісока ну бузгор на хутырі хату пыставіў, гываріў: я ўсё кругом віджу. Ат лесу ладныя бузгоріна, раншы збоку ні пыхалі, бярезьнічык быў засеў. Некытырыя дзярэўні ну бузгорчыных строіліся, а некытырыя — у лашчыных. Памянш.* БУЗГОРЧЫК, БУЗГОРЫНКА, БУЗГОРЧЫНКА. *Ні аб'іжджай, тута бузгорчык нібальшэнькій, конь здаровый, лёхка возьміць. На лешчынскый бузгорінкі ладный сасоньнік, ны баню можна выбрыць. Ны лядых усе бузгорчынкі рыспыхалі, нічога ні асталыся. Луччы аб'едзь бузгорчынку, бярно каб ні лягло ны яе пузым.*

БУЙТАВАННЕ *н.* Знясільваючая праца. *Я й сам ні прідумыю, калі ета буйтува́ньня кончыцца, пірястройка мяне зумурдувала.*

БУЙТАВАННІК *м.* Той, хто да знясілення працуе. *Ідуць буйтува́ньнікі двору, крепка ныт пнямі намучыліся.* БУЙТАВАННІЦА *ж. Ну што вы, буйтува́ньніцы, кынчаць сваё быразёнкі ні зьбіраіціся?*

БУЛДЫХАЦЬ, БУЛДЫХАЦЦА *незак.* З шумам плёскацца, падаць у ваду. *Як яны сьмела булды́хыюць у ряку! Ні знаю, айдзе яны, ужо цямнела, а ішчэ булды́хылісья ў сажылкі.*

БУЛЬБА *ж., мн.* БУЛЬБЫ. Бульба. *Пакуля бу́льбы ні скыпаюць, ета ня ўборка. Як аьсеюцца з бу́льбымі, тады ўремя свыбаднеіць.*

БУЛЬБАВЭЙ, БУЛЬБАВЫЙ, БУЛЬБОВЫЙ *прым.* Бульбяны. *Тама ат Амшары бульбавэй участычык, хырашо удобріный, гною многа укрятына. Бульбавы́й мяшок ні трясі тута, ідзі ў сенцы зь ім. Я часта пяку бульбовыя ладкі, мае ўсе іх любюць, асобінна дзеці. Ета бульбовыя пасьцілкі, што бульбу ныкрывалі. Памянш.* БУЛЬБОВЕНЬКІЙ. *Можа табе сьпеч бульбовіhькіх бліноў іс сальцым, такіх, як учора?*

БУЛЬБОВІШЧА *н.* Бульбянішча. *Як кажный сам сабе хызяін быў, бульбовішчы скырадзілі, піріпахывылі, а цяперя пылавіна бульбы ў зямле астаецца.*

БУЛЬВАР *м.* Гарадскі парк. *Мы былі нібальшэя пудуросткі, прідзім у горыд, аньціресна пыглядзець, як у бульвáрі гырадзкея гуляюць. Памяниш.* БУЛЬВАРЫК, БУЛЬВАРЧЫК. *Хацеў ба ты пу бульвáріку пугуляць. Знаім, знаім, чаго іх у бульвáрчык цягніць.*

БУРГОН *м.* Невялікі курган, купіна. *Ахрем адзь Зьмітрыка адз Зыбалоцкыга ішоў п'яный, ну бургон зываліўся і памёр. Памяниш.* БУРГОНЧЫК. *Пы чысьцінкі пряма ні праедзіш, усьцяж бургончыкі, нада аб'іжджаць.* БУРГОННЕ *н. зб. Тут бургоньня, бургоньня було, а айдзе дзелыся, раншы касілі, а січас саўсім рыспыхалі.*

БУРДОВЫЙ *прым.* Бардовы. *Ныбрала сабе ны плацьця бурдовыга мыцірііялу, красівыя будзіць плацьця. Памяниш.* БУРДОВЕНЬКІЙ. *Удзьвюх пашылі сабе бурдовінькія спаднічкі.*

БУРДЫЛЛЕ *н. зб.* Бурбалкі, пухіры. *Будзіць узноў дождж, відзіш, якоя бурдыльля пы вадзе. Пыўскáкывыла пы ўсяму целу бурдыльля, ці ўкусіла што, ці што йта такоя.*

БУРКАТЛІВАСЦЬ *ж.* Бурклівасць. *Нічога старік, толька ты ні знаіш, сколька ў ём буркатлíвысьці.*

БУРХАННЕ *н. эмац.* 1. Накладанне звыш меры. *А ну цябе с тваім бýрхыньнім, ці я столька дапру ды быльшыка.* 2. Паданне з шумам. *Будзіць табе бýрхыньня, як пытаб'еш усё ў сярёдку.*

БУРХАЦЬ *незак. эмац.* 1. Класці звыш меры. *Ня бýрхый столька многа ў мех, ты ні падніміш.* 2. Падаць з шумам. *Нешта бýрхыла ў пуні, я ўжо думыла, ці ні сьвірепка мыя абвалілыся з балік.* БУРХАЦЦА *незак.* 1. Класціся звыш меры. *Кажный раз у цябе лішніга бýрхыіцца.* 2. Падаць з шумам. *Сколька разоў ён бýрхыўся зь дзеріў, алі нічога ні пулумаў.* БУРХНУЦЬ *зак.* 1. Пакласці, сыпнуць звыш меры. *Бýрхнуў с карзінкі бульбу ў бочычку, а тама выда.* 2. Упасці з шумам. *Глядзі, будзь астарожын, ато дылазісься, бýрхніш с такея вісычыны.* БУРХНУЦЦА *зак.* 1. Сыпнуцца звыш меры. *Сьміцьця з нысьцілáньня бýрхнулыся ны яго.* 2. Упасці з шумам. *Гырадзіў, гырадзіў я столь ныт каровыю, каб цяплей було зімою, толька прігырадзіў, а яно ўсё бýрхнулыся.*

БУРЫЦЬ *незак.* Фарбаваць у буры колер. *Тута ці бурі, ці чарні, як была чупуха, так і астаніцца.*

БУШАВАЛКА, БУШАВАЦЕЛЬ, БУШАВАННІК, БУШАВАЛЬНІК, БУШАВАЦЕЛЬНІК *м. асудж.* Буян, скандаліст. *Некыму ўняць етыга бушувáлку, ну хто-небудзь найдзіцца, унімiць. Я скора ўніму бушувáціля, дам яму места. Ох, рызыйшоўся бушувáньнік, ні пытхадзі к яму ніхто. Знаім, што тута ізьвесныя бушувáльнікі пыхадзілі. Аніс ба тому бушувáцільніку быйстра мазкі на места пыставіў. Памянш.* БУШАВАННІЧАК, БУШАВАЛЬНІЧАК. *Ну што, бушувáньнічык, ці ўспыкаівыісься ты патроху? І ты ўжо становісься ладным бушувáльнічкым.* БУШАВАННІЦА, БУШАВАЛЬНІЦА, БУШАВАЦЕЛЬНІЦА *ж. Вядзі-ка ты двору сваю бушувáньніцу. Хто ж ні знаіць такую бушувáльніцу. Ты іквраз тыкая бушувáцільніца, як Хадосычкіна дычка.*

БЫДЛЫ *мн.* Вытаптаная паша. *Ні ганіця вы на бы́длы, тама разу скубнуць нечыга.*

БЫК *м.* Бык. *Узмацн.* БЫЧЫНА, БЫЧУГА. *Нейкій зывадзкей бычы́на, ці ні зь ірыслаўскіх кароў, ціляты ат яго дужа харошыя. На хвермі здыравушчый бычу́га. Павеліч.* БЫЧЫШЧА. *Ды вайны у нас бальшэнный бычы́шча быў, як ряўнець, дык уцікай. Узмацн.-павеліч.* БЫЧЫНІШЧА. *Ты каб толька глянуў, якей там бычынішча, самлець можна.*

БЫТ *м.* Становішча. ДЗЯВОЦКІМ БЫТАМ. *Дзявоцкім бы́тым і тоя нада справіць, і другоя, каб ня быць хужы каго.* БАБСКІМ БЫТАМ. *Ці мы ні знаім, як бáбскім бы́тым жыць, жывеш, як гарох прі дарогі: хто ня йдзець, тэй скубанець.* МУЖЧЫНСКІМ БЫТАМ. *Ну ні гываріця, мушчы́нскім бы́тым усігда ляхчэй.* ХЛАПЕЦКІМ БЫТАМ. *Хлапецкім бы́тым гылыва дужа ні пра што ні баліць.* УДОЎСКІМ БЫТАМ. *Удоўскім бы́тым пызнаіш і горя, і бяды, і чаго хочыш.* СІРОЦКІМ БЫТАМ. *І пыгылыдаіш сіроцкім бы́тым, і голый-босый набегыісься.*

БЫЧАНЁНАК *м.* Цялё-бычок. *Ні прідумыю, што дзелыць з бычанёнкым, к восіні грошы былі б і вазіцца зь ім некыму. Памянш.* БЫЧАНЁНАЧАК. *Нашто вам бычанёнычык, зыкынтрактуйця і ніхай бяруць.*

БЫЧАНКОЎ, БЫЧКОЎ *прым.* Такі, які мае адносіны да бычка. *Ці ня відзіў ты бычанкову абротку? Бычкова піцьцё у вядзерцы бяз дужкі, як прібягіць с поля, вынісь яму, ніхай п'ець.*

БЫЧАЧЧЫЙ *прым.* Бычыны. *Бычáччыя кожа выляіцца пыд ныгамі, ніяк ні прібяруць.*

БЭЙСАННІК *м. эмац.* Той, хто гойсае, топча. *Унімі*

*бэйсыньнікыў, пыглядзі, што яны с капою дзелыюць.* БЭЙСАННІЦА *ж. Ах ты, бэйсыньніца малыя, сядзь, і каб я большы цябе ня чуў.*

БЭРЛАЧКА *м.* Хлапчук з вялікай галавою. *Скажы свайму бэрлычку з бальшою гылавою, каб у мае яблыкі ні лазіў.*

БЭХАН *м.* Удар кулаком. *Пулучыў ладныга бэхына і ўспакоіўся, ціхінька сядзіць.*

БЯЗЖАЛАСЛІВА *прысл.* Бязлітасна. *Якоя серца нада ймець ка́мінныя, штоб так біжжа́лысьліва губіць чылавека.*

БЯЗЖАЛАСЛІВАСЦЬ *ж.* Бязлітаснасць. *Усяго буваіць, і жалысьлівысьці, і біжжа́лысьлівысьці,— сьвет вялікій.*

БЯЗЖАЛАСЛІВЫЙ *прым.* Бязлітасны. *У іх уся прірода біжжа́лысьлівыя, яе дзед бабу дугою забіў, пы гылаве біў, пакуля дабіў.*

БЯНТЭЖАННІК, БЯНЦЕЖАННІК *м.* Той, хто пялегуе, песціць. *Чаму ж ня будзіць балыўнікым, калі бянтэжыньнікыў дужа многа. Вы, бяньцежыньнікі, зба́лыіця ма́лых, што яны нікога пынімаць ня будуць.* БЯНТЭЖАННІЦА, БЯНЦЕЖАННІЦА *ж. Я такою бянтэжыньніцыю, як ты, ня буду, я ўмею строга прікызаць. Бяньцежыньніц стала ціряшчур, паетыму і дзяўчонка тыкая распушчыныя.*

БЯНЦЕЖАННЕ *н.* Пялегаванне, песты. *Яны збалыюць дзіцёнка бяньцежыньнім, прівыкніць і прівыкніць, каб з рук ні спускалі.*

БЯНЦЕЖЫЦЬ *незак.* Пялегаваць, песціць. *Бяньцежыла свайго маліһькыга, пакуля нявестку у хату прівёў.* БЯНЦЕЖЫЦЦА *незак.* Песціцца. *Дужа ўжо бяньцежыўся, ён і абніміць, і пыцалуіць, а ніхай цябе, ніхай, каб ты здаровінік быў.* БЯНЦЕЖАНЫЙ *дзеепрым. Зь бяньцежыных дзяцей неслухі пулучаюцца, во хто.*

БЯРОЗЗЕ *н. зб.* Бярозы. *Бувала, бярёзьзя нывалочуць мушчыны, яно за лета высыхніць, зіму бяз горя сядзіш.*

БЯССТРАМНЫЙ *прым.* Бессаромны. *Бісстра́мныя яны людзі, як ета можна цётку с хаты выгыняць, каб нейкыю паўсотню зы халупіну пулучыць.*

БЯССТЫЖАСЦЬ *ж.* Бессаромнасць. *А во хвытаіць бясстыжысьці хадзіць пы хатых пыбірацца, свыя усядзьба пустуіць ніапсімянёныя.*

# В

ВАБРАЗІЦЕЛЬНА *прысл.* Ганарыста. *Яны ўсігда дужа выбразіцільна сябе вядуць.*

ВАГА *ж.* Павольнасць, няспешнасць. *У яго, знаіш, тыкая ва́га, усё медлінна — і йцiць, і дзелыць, і гываріць, усё падумыўшы.*

ВАДЗЕНЬКА, ВАДЗЕНЕЧКА *прысл. памянш.* Вадка. *Бальшымі булкымі я печ ні люблю, ва́дзінька рышчыню і чатырі штучкі ўкіну. Ці ты сыма ва́дзінічка зьдзелыла, ці яно пулучылыся так?*

ВАДЗЕНЬКІЙ, ВАДЗЕНЕЧКІЙ *прым. памянш.* Вадкі. *Кажыцца, нырмальна рышчыняла, а цеста пулучылыся ва́дзінькыя, чуць ну лупату ухваціш. Хлеб ва́дзінічкій сяньня, ні прідумыю, як яго у печ укінуць.*

ВАДЗІЦЦА *незак.* Муляць, турбаваць. *Буваіць ікая асьцю́лінка пупадзець пуд рубашку, будзіць доўга ва́дзіцца, пакуль дыстаніш.*

ВАДЗІЦЦА *незак.* Вадзіць доўгі час. *Вясною вадзілісь с каровымі у лес, далёка, пакуля туды зыпляцесься, тады прідзіш двору.*

ВАДЗІШЧА *ж. павеліч.* Вада. *Тыкая вадзі́шча кругом, мы йшлі чуць ні пы калена.*

ВАЗВЫШ 1 *прысл.* Звыш. *Аддаў дзісятку вазвы́ш, дык мне ўсё прівязьлі ґ двару.* 2 *прыназ.* Акрамя, апрача. *Вазвыш платы яшчэ мяшок яблык насыпылі.*

ВАЗЬБА *ж.* Перавозка, вывазка. *Зы вазьбу́ як узяліся, дык мінуты дыхнуць некылі.*

ВАЙНОЮ *прысл.* У час вайны. *Гываріліi, вайною відзілі яго тута, бытты бы у Рудню пріiжджаў.*

ВАЙСТРАЛІЦЫЙ *прым.* З вострым, выцягнутым тварам. *У Сямёна выйстралі́цыя мальцы, на Пёклу паходжыя. Памянш.* ВАЙСТРАЛІЦАНЬКІЙ. *Пріiжджаў Зьмітракоў меншый іж жонкыю, так сабе бабёнка выйстралі́цынькыя.*

ВАЙСТРЭННЫЙ *прым.* Вельмі востры. *Нож вайстренный, вайстренный, што брытва, ні дывай дзіцёнку, зразу парежыцца.*

ВАЛАЦУГА *звыч. м.* Бадзяга. *Памянш.* ВАЛАЦУЖКА. *Нейкій вылацу́жка прібі́йся, ныўряд ці пріжывецца ён тама. Узмацн.* ВАЛАЦУЖЫНА. *Вылацу́жына ты прыклятыя, я б табе крошкі хлеба ні даў і тряпкі б ны сьпіну ні купіў,— ідзі зароб. Павеліч.* ВАЛАЦУЖЫШЧА.

*Узрасьціла вылацу́жышчу сабе на горя, помышчы ат яго ні ў век ня ўвідзіш.* ВАЛАЦУЖАНКА *ж. Пыцягнулыся вылацу́жынка па белыму сьвету ськітацца.*

ВАЛЁЧАК *м. памянш.* Ворчык. *Я сабе харошый валёчык апстругаў і зарезыў, толька чыпляй гужы.*

ВАЛТУЖАННІК *м.* Той, хто займаецца валтузнёй. *Я мігым етых валту́жыньнікыў рысьцягну, скора ўнімуцца.* ВАЛТУЖАННІЦА *ж. Аччапіся ты, валту́жыньніца, ці ў мяне ёсьць уремя с табою балывыцца.*

ВАНЕЦЬ *незак.* Смярдзець. *Таго ванела, што ніізьвесна калі прібіралыся ў хаці.*

ВАРВУС *м.* Распуснік. *Яны ва́рвусы, глядзі ды глядзі за імі, што хочыш могуць утваріць. Памянш.* ВАРВУСОК. *Думыіш, с тога што луччыя палучыцца, ужо січас вурвусок ладный. Узмацн.* ВАРВУСІНА, ВАРВУСЮГА. *Яму як гадоў пітнаццыць було, такей вурвусіна быў, рыскызаць нілізя. Што будзіць зь естых вурвусю́г, як у перья ўбяруцца, ужо січас пы гылывах ходзюць. Павеліч.* ВАРВУСІШЧА. *Ці можна було падумыць, што сы Льлёвых хлопцыў вырыстуць еткія вурвусі́шчы.* ВАРВУСКА *ж. Ну й ва́рвуска дзяўчонка, чаго зь яе ні тваріцца.*

ВАР'Ё *н. зб. эмац.* Злодзеі. *Вырья́ ўсігда хвытала і цяперя ні пірівялося.*

ВАРЗЁКНУТЫЙ, ВАРЗЁПНУТЫЙ *дзеепрым.* Пэцнуты. *У адном месьці варзёкнута, у другом, яны мысьцяры ізьвесныя. Левыя кылышына́ у нешта варзёпнута, пахожа, дзёгыць, ты ішоў кылы калёс і мызануў.*

ВАРОК *м. памянш.* Кіпень. *Пысядзіця мінутычку, я нальлю бульбу варком, іна у мамент зыкіпіць.*

ВАРОТКІ *мн.* Варотцы. *Каб ны гарод прідзелыў варокті, ні нада було б кажный раз палкі зыклыдаць.*

ВАРУГА *м. узмацн.* Злодзей. *Сядзеў тута варю́га, ніхай яму узныку ня будзіць.*

ВАРЫГ *выкл.* Пра няўклюдную хаду. *Ідзець вары́г, вары́г, ёй цяжола пірідзьвігацца, ногі ня хочуць служыць.*

ВАРЫСТЫЙ *прым.* Такі, у якім добра варыцца. *Што ўжо ва́рістыя печ была ў мяне на хутырі!*

ВАХЛАК *м.* Неахайны чалавек. *Памянш.* ВАХЛАЧОК. *Выхлачок зыдайся, што ты зь ім цяперя зьдзелыіш. Узмацн.* ВАХЛАЧЫНА, ВАХЛАЧУГА. *Разьві іна ні знала, што ета пасьледній выхлачы́на, як було йцідь зы такога. З выхлачу́гыю жыць — крепкія нервы імець нада. Павеліч.* ВАХЛАЧЫШЧА. *Во быў выхлачы́шча, пражыў у грязі увесь век.* ВАХЛАЧКА *ж. Ці ты хочыш, каб у*

*выхла́чкі дзеці пу́тнэя былі.* ВАХЛАЧЧО *н. зб. Адно вых-лаччо, ні хачу я туды дайжа пыказывыцца.*

ВАШАПРУДСТВАВАННЕ *н. іран.* Задаванне, вычва-ранне. *Як увідзіш яго вышапру́дствывыньня, узнаіш, што йта зы чылавек.*

ВАШАПРУДСТВАВАЦЬ, ВАШАПРУДСТВАВАЦЦА *незак. іран.* Задавацца, вычвараць. *Іхныя хлопцы большы некуды вышапру́дствывылі, дужа вісока сябе нясьлі. Хваціць ба ім вышапру́дствывыцца, нудуреліся.*

ВЕДАМНІК *м.* Вядомая жывёліна. *Ета ведымнік пацьсьві́нык, я ў Гырысімёнка брау́, у яго ўсігда рука лёхкыя.* ВЕДАМНІЦА *ж. Ведымніца кароўка, якую ні знаю, я пыбыяўся брацьь.*

ВЕК *прысл.* Ніколі. *Ні была я ў Сашкі дзесіць гадоў, і век мыя ныга к ёй ня ступіць.*

ВЕКАВЭЙ, ВЕКАВЫЙ, ВЕШНЫЙ, ВЕКАВЕШНЫЙ *прым.* Адвечны, пастаянны. *Вікавэй быў злодзій, пакуль ныраваўся ны сваё. Вікавы́й п'яніца, толька і глядзіць, каб айдзе чарка піріпала. Вешный няўрёма, за што ня возьміцца, прібірай усьлед. Ат вікавешныга гультуя ра-боты вы зыхацелі.*

ВЕЛІКАРОДНЫЙ *прым.* Высакародны. *Разьві ты яго ні знаіш, ён глядзіць, каб зь вілікародныга пріродзьдзя была нявестка. Памянш.* ВЕЛІКАРОДНЕНЬКІЙ. *Ты сабе нейдзі выбрыў вілікародніькыю жонычку, ёй толь-ка пы пылывіках хадзіць.*

ВЕРАЗУБ *м.* Чалавек з рэдкімі зубамі. *Ета віряз́уб гырадзкей пашоў, быў у гысьцях у Полькі. Памянш.* ВЕ-РАЗУБІК, ВЕРАЗУБЧЫК. *Ці ні зы тваёю дзеўкыю віря-зу́бік сялецкій улігаіць? Так, бегыіць мальчык вірязу́б-чык. Узмацн.* ВЕРАЗУБІНА. *Во вірязу́біна, ні пу душэ яму скызалі. Павеліч.* ВЕРАЗУБІШЧА. *Расьсердзіўся твой вірязу́бішча ны Хнычынка.* ВЕРАЗУБКА *ж. Мала што вірязубка скызала, я ёй ні на нохыць ня верю. Па-мянш.* ВЕРАЗУБАЧКА. *Тваю вірязу́бычку скора піряд-нінцы атаб'юць.*

ВЕРАЗУБЫЙ *прым.* Рэдказубы. *Нейкыга пупала са-бе мужука, ны хвігуру нічога, толька вірязу́бый. Памянш.* ВЕРАЗУБЕНЬКІЙ. *Двоя вірязу́біднькіх мульчуганыў бе-гыюць кылы хаты.*

ВЕРБНІК *м.* Лаза, падобная да вярбы. *Ат поля пы аборку ладный вербнік засеў, нада б дыбрацца ды пасеч. Памянш.* ВЕРБНІЧАК. *Нывазіў сабе вербнічку, пыся-кецца, высыхніць, ны растопу будзіць.*

ВЕРТАГЛАЗІНА *м. узмацн.* Балаўнік, распуснік. *Сын у яе віртыгла́зіна, бальіцца, ня слухыіць, красьць пробыіць, горя ёй бальшоя.* ВЕРТАГЛАЗКА *ж. Узноў прікаціла Аўдотычкіна віртыгла́зка, ні знаю, што зь яе будзіць. Памянш.* ВЕРТАГЛАЗАЧКА. *Як адна, так і другая ладныя віртыгла́зычкі бяруцца.*

ВЕРТАГЛАЗЫЙ *прым.* Балаўны, распусны. *Дужа рузуратныя хлопцы, віртыгла́зыя, так і глідзяць, каб што утваріць.*

ВЕРТАНУЦЬ *зак.* Крутнуць. *Усё чыпляўся і чыпляўся, тады Пыльчанок як віртану́ў яго аць сябе, ён і пылящеў тыршма носым.* ВЕРТАНУЦЦА *зак.* Крутнуцца. *Нідаўна была тут, віртану́лыся, а куды йна дзелыся — ні пагледзіла.* ВЕРТАНУТЫЙ *дзеепрым. Атляцеў віртану́тый ад Гаўріка як хлапіна.*

ВЕРХАВІЦА *ж.* Верхаводка. *Нілізя ряку пірііжджаць, апасна, вірьхаві́ца пышла па льду.*

ВЕРХНІКІ *мн.* Верхнія штаны. *Верхнікі твае ны шасту нат печчу вісяць, глядзі, ці троху прасохлі.*

ВЕРЦІХВОСТ *м. асудж.* Беспрынцыповы чалавек. *Ты мала яго відзіш, а мы знаім, якей ён вярціхвост.*

ВЕРЦЬ *м.* Верч. *Нашто табе етый верць круціць, дзелыць большы нечыга ці што.*

ВЕСІКІ *мн. памянш.* Вагі. *Пыт паветкыю стыяць бабы зь весікымі, прыдаюць ягыды, яблыкі, пытхадзі купляй.*

ВЕЦЕР *м.* і *ж. метаф. іран.* Легкадумная асоба. *А ні гывары ты пры Пыньцялеівыга, ета вецір, а ні чылавек. Вецір баба, січас у яе адно, а цірізь мінуту другоя.*

ВЕШАННІК *м.* 1. Той, хто вешае, развешвае. *Глядзі, вешыньнік, січас усё бяльлё у грязі ачынецца.* 2. Той, хто ўзважвае. *Ён харошый вешыньнік, толька ў свой бок.* 3 *метаф.* Той, хто пагражае пабіць. *Патходзіць: ці хочыш, я табе навешыю,— ах ты, вешыньнік саплівый!* ВЕШАННІЦА *ж.* 1. Тая, што вешае, развешвае. *Ніяк вешыньніца вярёўку ні закруціць.* 2. Тая, што ўзважвае. *Ня дужа ета вешыньніца пынімаіць ны вісах.*

ВЁРСТКА *ж. памянш.* Вярста. *Вёрстку як-небудзь праклыпыю. Усяе дарогі вёрстка асталыся.*

ВІДАМ *прысл.* Хутка, шпарка. *Цёпла, пасевы відым пыднімаюцца. Чужэя дзеці відым растуць.*

ВІДНАСЦЬ *ж.* 1. Відната. *Усхвацілыся я, глянула — ікая відныысьць ны дваре!* 2 *перан.* Саліднасць. *Ён чыла-*

*век з гылавою, толька віднысьці ні хвытаіць: як зумухрышка якей.*

ВІДЧЭЙ *прысл.* Шпарчэй. *Як узяліся ныстыяшчыя плотнікі, віччэй дзела пашло, зы адзін дзень сколька зрубілі.*

ВІҚ *м.* Піск, крык. *Ці чулі вы, што йта за вік быў у тым баку, зы Лырьяныўскім балотым?*

ВІНІЦЬ *незак. метаф.* Шкодзіць. *Табе і тама ні вініць дульку зьесьць ці яблыка якоя.*

ВІННЫЙ *прым.* Кісла-салодкі. *Ці ўнесьць табе вінных яблык, мне такея дужа ныравюцца. Памянш.* ВІННЕНЬҚІЙ. *Віньнінькыя яблыка зьесьць пряма ґ душэ.*

ВІНОЎҚА, ВІНҚА *ж.* Қарта масці пікі. *Я табе дам січам віноўку, і ты зьніміш. Адных вінык ныдывалі, пыцягнуў.*

ВІС *м.* Вісячае становішча. *Ны вісў дренна піліць, адною рукою дзяржысься ды яшчэ палка с-пыд нагі выіжджаіць.*

ВІСЕЛЬНІҚ *м. асудж.* Грубы распуснік. *Ну й вісільнікі етыя мульчуганы, чаго яны толька ні твыряць.* ВІСЕЛЬНІЦА *ж. Штоб дзяўчонкі такою вісільніцыю быць, настолька руспусьціцца!*

ВІСЕЦЦА *незак.* Знаходзіцца ў вісячым становішчы. *Як табе тама вісіцца? — астыражней, ато сарьвесься.*

ВІСЮЛЬҚА *ж.* Падвешаная цацка. *Пычапі вісюлькі над люлькыю, малый будзіць зубуўляцца, а ты хуць што зьдзелыіш. Памянш.* ВІСЮЛЕЧҚА. *Ах, мой мальчык, ныравюцца табе вісюлічкі, павешу яшчо.*

ВІТАМІНІНА *ж.* Адна таблетка вітамінаў. *Нескылька вітамінін у руку і пабег ґ дзіцям. Памянш.* ВІТАМІНІНҚА. *Ну дай і мне вітамінінку, я папробыю, ці смашныя яны.*

ВОБАДДЗЕ *н. зб.* Абады. *Вобыдзьдзя паськідывылі зу плугі ў саміңькій вугыл.*

ВОГІРСТВАВАННЕ *н.* Задаванне, фанабэрства. *Ныдаела любувацца ны яго воґірствывыньня, жыва путурю яго ат'етуля.*

ВОДАЛЬ *прысл.* Крыху далей, воддаль. *Яны трошку водыль ат нас пыставілі калёсы.*

ВОЗҚА *ж.* Адзін прывоз. *Я ж яму зы кажныю возку рублей тріццыць, двацыць пяць, а меншы ні дывала.*

ВОҚАРАҚ *м.* Қумпяк. *Толька цірязь нескылька гадоў узналі, хто тады вокыркі зьнімаў. Памянш.* ВОҚАРАЧАҚ.

*Ты вазьмі кусочык вокырычка зьеж, ён хырашо на сонцы абветрій.*

ВОЛЬНІЧАННЕ *н.* Залішняя вольнасць. *Не, я вольнічыньня ні люблю, у мяне ты нызайтріга шайковый станіш.*

ВОНКАХ *прысл.* На двары, не ў памяшканні. *Кошка вонкых, німа ў хаці. Дзеці вонкых гуляюць.*

ВОНЯ *ж.* Смурод. *Тыкая дзевішча ня можыць у хаці прібраць, воня стаіць, як у сьвіннарніку.*

ВОСЕМЕРА *ліч.* Васьмёра. *Іх восіміра асталыся ат маткі, цяпнулі горя, на ўсю жысьць запомнюць.*

ВОСЕМКА *ж.* Васьмёрка (у картах). *Ах, якей хітрінькій, восімкыю дзісятку б'ець. Памянш.* ВОСЕМАЧКА. *Ні хваліся, што паткініш, у цябе адны восімычкі асталіся.*

ВУГАЛІНА, ВУГЛІНА *ж.* Асобны вугольчык. *Настолька гыняіцца зу вугáльлім, хваціць вугаліну і зьесьць. Пыглядзі хырашэнька, каб там вугліна айдзе ні асталыся. Памянш.* ВУГАЛІНКА, ВУГЛІНКА, ВУГАЛІНАЧКА, ВУГЛІНАЧКА. *Як хлеб пякеш, чысьцінька вымітаіш, каб вугаліных ны паду ні було. Рана зычыняць комін, ішчэ вуглінкі блішчаць, многа вугліных. Ат малінькія вугалінычкі такей пыжар успыхніць, што дзяреўня дымым пойдзіць. У грубычкі усё патухла, ні адной вуглінычкі ні блішчыць.*

ВУГАЛЛЕ *н. зб.* Вуглі, вугалі. *Мы пяклі на сонцы піражкі із гліны і елі, а Домна вугáльля ела.*

ВУДЗІЦЬ *незак. метаф.* Красці са спрытам. *Днём нагледзюць, а нычамі ходзюць і вýдзюць, махырі былі атпетыя.*

ВУЗКАТА *ж.* Вузкасць. *Палосычка — вузкытá, а Дзёмка, бувала, с тубуном лезіць, ну каровы ў шкоду то с аднаго боку, то з другога.*

ВУЛЛЯК *м.* 1. Вулей. *У Арцёма ну хутурах вульлякі густа стыялі, штук двацдыць було. 2 перан. жарт.* Таўстун. *Во вульля́к ходзіць, ны яго адзежыны ні пыдбяреш у мыгазіні. Памянш.* ВУЛЛЯЧОК. 1. Вулей. *Відзіш, якея вульлячкі ў яго вы́дзілыны, многа пчол рызьвядзець.* 2. Таўстунок. *Юстыныў малый такей вульлячок узяўся, ні па іхный пріродзі.* ВУЛЛЯЧКА *ж.* Таўстуха. *Ета Пітрачкова вульлячка усё песьні заводзіць, каб ён скарей прібег.*

ВУМІЦЬ *незак.* 1. Разумець, думаць. *Вы ж вуміця, каб ладныю кыравёнку ўзяць, якую-зря ні хвытайця.*

2. Вучыць. *Сколька ні вумі, а кылі свайго розыму у гылаве німа, дык дренна дзела.*

ВУМЛЕННЕ, ВУМЛЕНІЕ *н.* Думка, развага. *Було вумленьня, каб у Воршу зьезьдзіць, а тады нешта атлажылі. Маё вумленія — нічога яму ні купляць.*

ВУХНУЦЬ *зак.* 1. Трывожна рохнуць. *Я прошлыю ноч доўга ні спала, чую: сьвіньня вýхнула, выйшла, пыглядзела — нікога німа.* 2 *перан.* Упасці з глухім ударам. *Вýхнуў з балькі як кымяк якей, ні зыплакыў, устаў і пабег.* ВУХНУЦЦА *зак.* Упасці з глухім ударам. *Ладна вýхнуўся, ета шчасьця, што ні рук, ні ног ні пулумаў.*

ВЫБЛЮДАЦЬ *незак.* Прыберагаць. *Як трудна ні було, а мáлым я ўсігда што-небудзь выблюдáла.* ВЫБЛЮДАЦЦА *незак.* Прыберагацца. *Нічога ў іх ні выблюдáіцца.* ВЫБЛЮСЦЬ *зак.* Прыберагчы. *Ня вы́блюдзіш, усё ўсюдых варочыіць, у кажныю дзірьку ўлезіць.* ВЫБЛЮСЦА *зак.* Прыберагчыся. *Дзялі так, каб вы́блюлыся што-небудзь і нызаўтріга.* ВЫБЛЮДЗЕНЫЙ *дзеепрым. Ці вы́блюдзіна у іх што-небудзь к лету?*

ВЫБРАДЖАНЫЙ *дзеепрым.* Пабраны, убраны. *Гляджу, дзьвюх кацелык німа, нызаўтріга кацелык пяць німа, вы́брыджыны. Лён увесь вы́брыджын, учора кончылі.*

ВЫБУРКЫВАННЕ *н. метаф.* Гаворка з намёкам. *Мы зь яго выбýркывыньня пынялі, што ён пры Сьпірідонывы кілбаскі знаіць.*

ВЫВАЛАКЫВАННЕ *н. метаф.* Вялікае выношванне. *Я помню тоя вывылáкывыньня: бігаць у лес с кашолкымі, с карзінымі, а Сямён паехыў у дровы і прівёз ручкі пыдасінывікыў.*

ВЫВАЛАКЫВАЦЬ *незак. метаф.* Шмат выносіць. *Што ўжо вывылáкывылі з Дубровы арехыў, пряма мішкáмі, мішкамі.* ВЫВАЛАКЫВАЦЦА *незак.* Шмат выносіцца. *Столька вывылáкывылыся чарніц, што ні прідумыць.* ВЫВАЛАЧ *зак.* Шмат вынесці. *Нада ж ім було столька дроў вы́зылыч, на тpi зімы хваціць.* ВЫВАЛАЧЦА *зак.* Шмат вынесціся. *Многа хворысьця вы́вылыклыся з Радкеўшчыны.*

ВЫВАЛІВАЦЬ *незак. метаф.* Выпадаць (пра снег). *Ета як якей год, буваіць, кажный дзень пы калена вывáлівыіць, а другей раз сані запрёг ба, а сьнегу німа.* ВЫВАЛІЦЬ *зак.* Выпасці (пра снег). *Сьнег як вы́вылііць зá ныч, чысьціш яго, чысьціш, духу дасіся.*

ВЫВАРАЦЬ *ж.* Вываранень. *Дзьве вы́вырыці було ў*

*лесі, бальшэя бярёзы, мы два вазы харошых дроў прівязьлі.*

ВЫВАРАЧЫВАЦЬ *незак. метаф.* Вызваляць. *Улез у пятлю, а маткі з бацькыю жалка, узяліся вывырачывыць дурука.* ВЫВЕРНУЦЬ *зак.* Вызваліць. *Чуць яго вывірнулі с пролыбкі, хырашо, свой чылавек у горыдзі рыскызаў, што нада дзелыць.*

ВЫГАНКА *ж.* Выгнанне, высяленне пры раскулачванні. *Стыхван пупаў пад выгынку, пріпісалі яму агітацыю проця калхозыў.*

ВЫГАНЯЦЬ *незак. перан.* Хутка ўзводзіць. *Пакуль што сьцены выгыняюць у пуні, а тута і хату століць нада.* ВЫГАНЯЦЦА *незак.* Хутка ўзводзіцца. *Ох, як скора у іх клець выгыняіцца.* ВЫГНАЦЬ *зак.* Хутка ўзвесці. *Зы чатырі дні пуню выгынюць, у іх работа аж гаріць.* ВЫГНАЦЦА *зак.* Хутка ўзвесціся. *Сьцены выгынюцца, тады мы табе паможым, а січас дужа некылі.* ВЫГНАНЫЙ *дзеепрым. Заўчора толька шульцы стыялі, а глянь, сколька сьценык ужо выгнына.*

ВЫГВАЗДЫВАННЕ, ВЫГВЭЗДЫВАННЕ *н.* Моцнае вымазванне, запэцкванне. *Зы такоя выгваздывыньня я ўжо табе дам, ета ж мыць ні нуспруўляісься. Пыглядзіш, што апсяку зы выгвэздывыньня.*

ВЫГВАЗДЫВАЦЬ, ВЫГВЭЗДЫВАЦЬ *незак.* Моцна вымазваць, запэцкваць. *Глядзі, штоб большы ні выгваздывыў штанёнкі. Што ты з малымі хочыш, яны ўсё выгвэздывыюць.* ВЫГВАЗДЫВАЦЦА, ВЫГВЭЗДЫВАЦЦА *незак.* Моцна вымазвацца, запэцквацца. *Ты ці ня ўзноў сыбраўся к тым кыткам выгваздывыцца. Калі будзіш так выгвэздывыцца, саўсім на вуліцу ні пушчу.*

ВЫГРУЖАЦЦА, ВЫГРУЖЫВАЦЦА *незак. метаф.* Выхадзіць, выязджаць гуртам. *Цяперя ўсё машыны і машыны, а мы, бувала, выгружаімся ны жніво дзяреўнію, аж поля цьвіцець адж жней. Пагода неік разым спорцілыся, і бызар стаў выгружывыцца.* ВЫГРУЗІЦЦА *зак.* Выйсці, выехаць гуртам. *Як выгрузюцца дзяреўнію, яны етый луг зы два дні раськінуць, падвернуць, сыгрябуць і ў копы складуць.*

ВЫДАВАННІК *м.* Той, хто выдае, прадае, даносіць. *Выдыванўнікыў хвытала увы ўсякыя ўремя. Памяниш.* ВЫДАВАННІЧАК. *І ты ўжо бяресься, маліںькій выдыванўнічык, прыдаеш брата?* ВЫДАВАННІЦА *ж. Ікая зь яе выдыванўніца, іна знаць нічога ні знаіць.*

ВЫДЗВІНУЦЬ, ВЫДЗВІНУЦЦА *зак. экспр.* Выйсці

гуртам. *Бувала, як вы́дзьвініць дзярейня жней, усё поля рузукрашына, песьні як зыпяюць, нівісь айдзе чутна. Вы́дзьвінуліся на луг дзярейнію, за дзень два стагі пыставілі.*

ВЫДРЫПКА *ж. асудж.* Злая, няўжыўчывая жанчына. *Ні хачу я большы з вы́дріпкыю ні днаго слова гывапіць, язык паскудзіць.*

ВЫЕЗДЗІЦЬ *зак. метаф.* Моцна ўдарыць, пабіць. *Дзіржаў ёмкыю палычку, як вы́ізьдзіў яго цірісь сьпіну, тэй толька зыікытаў.*

ВЫЖЫВАЦЬ *незак. перан.* Нажываць. *Выжыва́ць быга́ства с апстыяцільным чылавекым хырашо, а с паскудыю нічога ня вы́жывіш.* ВЫЖЫЦЬ *зак.* Нажыць. *Так ня б'ець, а труніць над ёю: што ты вы́жывіш тут?* ВЫЖЫЦЦА *зак.* Застацца жывым. *Ні так дайно зэкі двух міліцанерыў парнулі ныжамі, адзін насьмерць, а другей ні знаю, ці вы́жыўся.*

ВЫЗВЕЗДЗІЦЬ *зак.* Стаць ясным, ачысціцца ад хмар (пра начное неба). *Зьвечыра було дужа зыцягнута, дождж пычынаў капыць, а пыд раньня рашчысьціла, вы́зьвізьдзіла.*

ВЫЗНАВАННЕ *н.* Выведванне. *Думыю, нічога іхныя вызныва́ньня ні дасьць, тама дайно ўсё схувана і піріхувана.*

ВЫКАЛАТЫРЫВАЦЬ *незак. эмац.* Абабегваць. *Ты ні прідумыіш, сколька яны за ноч выкылаты́рівыюць,— акругу цэлыю.* ВЫКАЛАТЫРЫВАЦЦА *незак.* Стамляцца бегаючы. *Ахотычка ж ім выкылаты́рівыцца з ночы ў ноч, то-то молыдысьць.* ВЫКАЛАТЫРЫЦЬ *зак.* Абабегаць. *Іна табе зы раньня ніізьвесна сколька вы́кылытыріць.* ВЫКАЛАТЫРЫЦЦА *зак.* Стаміцца бегаючы. *Максім вы́кылытыріўся, яму толька пысядзець ны ґанкых.* ВЫКАЛАТЫРАНЫЙ *дзеепрым. Нечыга туды йціць, тама ўсё вы́кылытыріна.*

ВЫКАЛАЧЫВАЦЬ *незак. перан.* Абабегваць. *Ета толька ўспомніць, сколька мы нычамі выкыла́чывылі.* ВЫКАЛАЦІЦЬ *зак.* Растрэсці, вытрасці (у якасці праклёну). *Ніхай яго вы́кылыціць і свайго такога.* ВЫКАЛАЧАНЫЙ *дзеепрым.* Абабеганы. *Сколька у вас сяньня вы́кылычына, у Восьлінкі пыбылі ці яшчэ туды ні дыбраліся?*

ВЫКАПАЦЬ *зак.* Выцячы капаючы. *Ні пагледзіў, у дзірёвыя вядро нылій вады і пыставіў на ўслоні, за́ ныч вы́кыпыла, у хаці лужа.*

ВЫКАТКА *ж.*, ВЫКАТЫВАННЕ *н.* Спаганянне падаткаў. *Як якей чылавек па выкыткі хадзіў, аднаму ўталкуіш, ён і пыдажджэць, а якей халерный і слухыць нічога ня хочыць. Бувала, увосінь жджэш выка́тывыньня, знаіш, скора прідуць, ну й гатовісься рышшчытацца.*

ВЫКАТЧЫК *м.* Зборшчык падаткаў. *Яго бацька выка́ччыкым быў, нічога чылавек, усігда можна було дыгываріцца.*

ВЫКАТЫВАЦЬ *незак. перан.* Спаганяць падаткі. *Айдзе старыста быў ш чылавечыскім серцым, можна було цярьпець, а айдзе выка́тывылі ды пасьледнія шубёнкі с плеч.* ВЫКАТАЦЬ *зак.* 1. Выкачаць. *Вы́кытыў усяго ў зелінь, чаго ты зь ім, такей слыба́к, бяресься.* 2. Выпарыць. *Як прастудзіцца, баню нытаплю, вы́кытыю веніkым, і прастуда праходзіць.* 3. Пабіць балюча. *Ладна яго вы́кытылі, пулучыў, чаго хацеў.* 4. Спагнаць падаткі. *Як вы́кытыюць усё, тады ўжо знаіш, што на год спакоін.* ВЫКАТАЦЦА *зак.* Выпарыцца. *Так ужо я вы́кытыўся ўчора ў бані, і дыхыць ляхчэй стала.* ВЫКАТАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Выкачаны. *Ета ж ён іс сыбакыю боріўся, дык такей вы́кытыный.* 2. Выпараны. *Крепка ты вы́кытыный, як агурчык, сьвежынькій.* 3. Спагнаны (пра падатак). *Пы нашый дзяреўні усё вы́кытына.*

ВЫКАЦІЦЬ *зак. гумар.* Выставіць (звыч. жывот). *Пуза на сонца вы́кыціў і пыгладжывыіць.*

ВЫКАЧАНЫЙ *дзеепрым. перан.* Такі, над якім праведзены абрад лячэння ад спалоху. *Чаго ён так здры́гыіцца, калі вы́кычыный?*

ВЫКВЭЦЫВАННЕ *н.* Выпэцкванне, вымазванне. *Як ня будзіць у малых выквэцывыньня, калі яны ня ўмеюць бярежца.*

ВЫКВЭЦЫВАЦЬ *незак.* Выпэцкваць, вымазваць. *Чаго ты палезіш туды выквэцывыць адзёжу, там ні праціснуцца.* ВЫКВЭЦЫВАЦЦА *незак.* Выпэцквацца, вымазвацца. *Узноў ма́лыя у грязь выквэцывыюцца, што ты зь імі зьдзелыіш.*

ВЫКЛАДЫВАННЕ *н.* 1. Выкладанне, абкладванне. *Скарей шывяліся з выкла́дывыньнім, пуўчыса цябе нада ждаць. Красівыя выкла́дывыньня, цэлый узор пулучаіцца.* 2. Кастрыраванне. *Кынывал як якей пупадзецца, у аднаго лёхкыя выкла́дывыньня, а ў другога ні такоя.*

ВЫКОВЫЙ *прым.* З вікі. *Нічога ні було, усё зыбралі, мы вык на жорны піріпусьцілі, пяклі выковый хлеб і елі.*

ВЫКОЎЕ *н.* Поле, на якім расла віка. *Ны выкоўі ка-*

*ровым есьць нечыга, можа толька воўцы якую былку нойдуць. Памянш.* ВЫКОЎІКА. *Ад бірізьнічка сьлед пы выкоўіку прыкладжын.*

ВЫКРУЧЫВАЦЬ *незак.* Апрацоўваць скуру для збруі. *Адзін раз мы папробывылі кожу ну хумуты выкру́чывыць, трошку пулучылыся.* ВЫКРУЧЫВАЦЦА *незак.* Апрацоўвацца (пра скуру для збруі). *Я відзіў, як кожы выкру́чывыюцца, а самі мы ні круцілі.* ВЫКРУЦІЦЬ *зак.* Апрацаваць скуру для збруі. *Кожу вы́круціць — нада ўмець, цяп-ляп ня возьмісься дзелыць.* ВЫКРУЦІЦЦА *зак.* Апрацавацца (пра скуру для збруі). *Буваіць, калі хырашо кожа вы́круціцца, а другей раз ніважна.* ВЫКРУЧАНЫЙ *дзеепрым. З вы́кручыныя кожы што хочыш пашыіш.*

ВЫЛАЖЫВАЦЬ I *незак.* 1. Выкладаць. *Гляджу я, стаіць лі лавычкі Кургузёнык, выла́жывыіць сьліўкі.* 2. Пакладаць. *Кынывалы ня ходзюць, некыму пырысят выла́жывыць.*

ВЫЛАЖЫВАЦЬ II *незак.* Вылязаць. *Куры цірізь любую дзірічку выла́жывыюць, дайжа пат крышу умудрілі-ся прашчэмлівыцца.*

ВЫЛІНЯЦЬ *зак. метаф.* Схуднець, змарнець. *Арьхіпёнык зы паўгода вы́лініў, ні пызнаіш, што Арьхіпёнык.* ВЫЛІНЯЛЫЙ *дзеепрым. Хрітанок вы́лінілый, я ўжо стала і гляджу, ці ета ён, ці ня ён.*

ВЫЛУПЛЯ *м.* і *ж. зневаж.* Дурань, тупіца. *Нада Адаркі ваш вылупля́ як сыбаку пятыя ныга. Каму яны толькі ні ныбіваліся сваёю вылуплёю, каму ні сватылі,— нашто іна каму.*

ВЫЛУПЛЯСЦІК *м.* Лупаты хлапчук. *Толька ніхай пупадзецца твой вылупля́сьцік у садку, ладна палучыць. Памянш.* ВЫЛУПЛЯСЦІЧАК. *Сідзяць лі выкна вылупля́сьцічкі утраіх.*

ВЫМАЛІВАЦЬ *незак.* Звяртацца з малітвай. *Я ўжо ні знаю, як ета дзелылыся, вазілі малыга ў горыд, гывырілі, поп выма́лівыў.* ВЫМАЛІЦЬ *зак.* Звярнуцца з малітвай. *Вы́мылюць там ці ня вы́мылюць, а хадзілі ж, прасілі пыпа: вы́мыль.*

ВЫМАРДОВЫВАЦЬ *незак.* Дабівацца поўнага падпарадкавання мардаваннем. *Так вымардовывыіць коні, яны пірядім пішуць.* ВЫМАРДОВЫВАЦЦА *незак.* Мардавацца да страты сіл. *Ні нада крепка вымардовывыцца, ета дайжа на серца ніздарова.* ВЫМАРДАВАЦЬ *зак.* Дабіцца поўнага падпарадкавання мардаваннем. *Як*

*возьміць кыня, любога вымырдыіць, яны яго духу быяцца.* ВЫМАРДАВАЦЦА *зак.* Намардавацца да страты сіл. *Вымырдывыліся мы ладна, пакуля бірьвяно ускацілі с прароўка ну бузгор.* ВЫМАРДАВАНЫЙ *дзеепрым. Вымырдывыныя пріехылі зь лесу: пыд гару коні ні бяруць, рыспрігалі і паркымі пріпрігалі, усьцягывылі.*

ВЫМАТЫВАННЕ *н. метаф.* Праца з апошніх сіл. *Нашто яму так убівацца, работыць, выматывыньня ны здароўя ўліяіць.*

ВЫМАТЫВАЦЬ *незак. перан.* Аббягаць. *Знаіш, сколька мы выматывылі за ныч, на трёх вічарінкых пысьпівалі пабыць.* ВЫМАТАЦЬ *зак.* Аббегчы. *Што за ўредзіна карова, скубануць разу ня хочыць, гылаву зыдзярець і ўсё поля вымытыіць па дзесіць раз туды і нызад.* ВЫМАТАНЫЙ *дзеепрым. Ці ў вас усё вымытына, ці можа айдзе ні пасьпелі пабыць?*

ВЫМЯ *н.* Вымя. *Памянш.* ВЫМЦА, ВЫМЯЧКА. *Кажыцца, столька таго вымца, а мылыка нядренна даець. Сыма с кулачок і вымічка малі166ькыя, ну што ты сь пярвусьцінычкі хочыш. Павеліч.* ВЫМІШЧА. *Карова здаровыя, вымішча — во, мылаком зыліваіць.*

ВЫНАШЫВАЦЬ, ВЫНАСІЦЬ *незак.* Здаваць як падатак. *Сколька ні ныклыдалі яец, мылыка, мы ўсігда вынашывылі. Па восімсот літрыў мылыка вынасілі, бувала, сабе пасьці нічога ні астывалыся.* ВЫНАСІЦЬ, ВЫНЕСЦЬ *зак.* Здаць як падатак. *Нада було раншы столька вынысіць, цяперя ажно ня веріцца. А як жа було: сколька мылыка ныкладжына вынісьць — вынісіш.*

ВЫПІВАК *м.* Спіртны напітак. *Не тыкі, у етым тваём выпіўку трыва ёсьць, мне дужа пыляхчэла.*

ВЫПІННІК *м.* Выпівака. *Ідзі ўжо, ідзі, выпіньнік, ці ты ў Куліноўны ішчэ ні дыбраў свае нормы?*

ВЫПЛЫВАЦЬ *незак. метаф.* З'яўляцца, прарастаць (пра траву). *Во прімецьці-ка, як травіца пряма ны вычах вуплуваіць вясною посьлі цёплыга дождж ыка.*

ВЫПРАМЛІВАННЕ, ВЫПРАМЛЯННЕ *н.* Выпрамленне. *Во табе й выпрямлівыньня: дужа сухая атосіна, рызагнуў — іна й пупылам. Гнутыму гвазду ніякыя выпрімляньня ні паможыць.*

ВЫПРАМЛІВАЦЬ *незак.* Выпрамляць. *Будзіш так выпрямлівыць, і пальцы пыдбіваіш.* ВЫПРАМЛІВАЦЦА *незак.* Выпрамляцца. *Нейкій гвозд як камінный, саўсім ня хочыць выпрямлівыцца.*

ВЫПРАЦЬ *зак.* Паперыць, выперыць. *Я ўсігда плаць-*

*ця выпіру, выпіру ны сажылкі, яно ў мяне чысьцінькыя, беленькыя.*

ВЫПСА *м.* і *ж. абразл.* Састарэлая асоба. *Пры якея яшчэ ныряды выпсу думыць? Чаго такой выпсі ны свадзьбу цягнуцца.*

ВЫРАБАТ *м.* Выпрацоўка. *Пеньсія нылічаіцца з вырыбыту, калі харошый вырыбыт, тады і пеньсія большыя.*

ВЫРАБАТАННЕ *н.* Апрацоўка. *Поля усё ў асоці, ня тоя вырыбытыньня, што сабе. Зімля вырыбытыньня любіць.*

ВЫРАБАТЫВАЦЬ *незак.* Апрацоўваць. *Як свыя была, вырыбатывылі зямлю, а цяпер хто за ёю глядзіць. Шкуры вырыбатывыць нада ўмець.* ВЫРАБАТЫВАЦЦА *незак.* 1. Апрацоўвацца. *Ці так раншы зімля вырыбатывылыся, бувала, ідзеш — ныга тоніць.* 2. Траціць сілу ў цяжкай працы. *Ны якога чорта яму вырыбатывыцца, ці ён у іх якую ласку заслужыць.*

ВЫРВАСНЯ *ж.* Балаўнікі, распуснікі. *Тыкая вырвысьня, што хочыш утворюць: сад аптрясуць, гарод вытруць.*

ВЫРВАСЮГА *м. узмацн.* Балаўнік, распуснік. *Ой, вырвасюгі былі, ніхай іх вылыміць, чаго толькі ні тварілі ў дзяреўні!*

ВЫРУШАЦЦА *незак.* Выпраўляцца ў дарогу. *Ня йдзі, ні вырушайся ноччы йціць, ці мала усякіх случыіў буваіць.* ВЫРУШЫЦЦА *зак.* Выправіцца ў дарогу. *Позна вечыра Сідыріха вырушылыся, зублудзілыся і зьмёрзла пыдзь дзяреўнію.*

ВЫСКАРАСКЫВАЦЦА *незак.* Папраўляцца пасля цяжкай хваробы. *Юлькіна нявестка трошку выскырыскывыцца, іна доўга ліжала.* ВЫСКАРАСКАЦЦА *зак.* Папраўіцца пасля цяжкай хваробы. *Ніяк ня выскырыскыюся, усяго саветывылі, і маць-мачыху піла, іна наўродзі як тріпутнік, і німа луччыньня.*

ВЫСКАТ *м.* Пагорак, схіл. *Па выскыту редкыя трыва, ну нада було б пабрынкыць. Памянш.* ВЫСКАЦІК. *Бігаць каровы на выскыцік, тама ядомыя трыва.*

ВЫСМАЖЫВАЦЦА *незак. метаф.* Моцна выгравацца на соцны. *Дзьве дзяўчонкі к Насьці пріехылі, маглі б што паможч, дык высмажывыюцца ны траве зы садком.* ВЫСМАЖЫЦЦА *зак.* Моцна выграцца на сонцы. *Ладна высмыжылісяза лета зы дзядзькіныю сьпіною.*

ВЫСТАВА *ж.* Паказ жанчынамі голага азадка пры

сварцы. *Во як сьвякрова зыдзярецца, во будзіць выстáва! Ну што, ці пыныравілыся вам суседкіна выстáва?*

ВЫСТРАМЛІВАННЕ *н.* Сарамачанне. *Во-о, проймiш ты такога распусьніка выстрáмлівыньнім, ны яго харошый бізунок нада.*

ВЫСТРАМЛІВАЦЬ *незак.* Сарамаціць. *Пычыла яго выстрáмлівыць, дык што яму, атвярнуўся і сьмяецца.*

ВЫСЦІГАННЕ *н.* Дамаганне. *Ета можна було нысьміяцца зь іхныга высьцігáньня, усё дно як дзеўка ім зразу усё рыскажыць.*

ВЫСЬЦІГАННІК *м.* Той, хто дамагаецца. *Каб тэй высьцігáньнік трошку успакоіўся, ціряшчур рызыйшоўся.* ВЫСЦІГАННІЦА *ж. Вот вам другая высьцігáньніца, і ні атвяжысься, усё будзіць канькыць.*

ВЫСЦІГАЦЬ *незак.* Дамагацца. *Што ты ат яго нейкія праўды высьцігáіш, праўды ён табе ні скызаў і ні скажыць.* ВЫСЦІГНУЦЬ *зак.* Дамагчыся. *Нічога ты ат Мірінка ня высьцігніш.*

ВЫСЦІЛКА *ж. перан.* Праборка. *Крепкыю вы́сьцілку даець свайму за выпіўкі. Памяниш.* ВЫСЦІЛАЧКА. *Ты сяньня тожа палучыш ладныю вы́сьцілычку, так ня бойдзіцца.*

ВЫСЯКАННЕ *н.* Лячэнне спіны народным способам. *Ні дуріця вы мне гылавы з высікáньнім, трілюда трілюду вярзець і ўсё.*

ВЫСЯКАЦЬ *незак.* Лячыць спіну народным способам. *Ета Нінка высікáла уцін ны парогі, як сьпіна баліць.* ВЫСЕЧ *зак.* Вылечыць спіну народным способам. *Як ты вы́сікіш боль, сьпіну нацерць нада.*

ВЫСЯРБЫВАННЕ, ВЫСЁРБЫВАННЕ *н.* З'яданне сёрбаннем. *Пірістаньця балывыцца з высярбывыньнім, нысамі у міску лезіця. Пыдзікуйсь-ка на іх высёрбывыньня, як яны стыряюцца адзін пірід другім.*

ВЫСЯРБЫВАЦЬ *незак.* З'ядаць сёрбаючы. *Ты ні кідай у стыкане нічога, нада ўсё высярбывыць.* ВЫСЯРБЫВАЦЦА *незак.* З'ядацца сёрбаючы. *Нешта ў цябе дренна высярбыіцца, пыглядзі, як чыста у Мішы.*

ВЫТАЛАВАНЫЙ *дзеепрым.* Стаптаны, вытаптаны. *Біряжок ат кустоў увесь вы́тылывыный, тама кышануць нечыга.*

ВЫТАРНУТЫЙ *дзеепрым.* Высунуты, выткнуты. *Вы́тырнута ражэньня ува ўсе бакі, ні прайціць, ні ступіць нілізя.*

ВЫТАЎКЫВАННЕ, ВЫТАЎХЫВАННЕ *н.* 1. Выш-

турхоўванне. *Так зышчаміліся, што ні вытаўкывыньня, ні выцягывыньня ні пымыгаіць. Уніміся з вытаўхывыньнім, ато сам пыляціш.* 2 *перан.* Зняцце з пасады. *Яго вытаўкывыньня я ні баюся, ніхай свайго дзевіря вытаўкывыіць. Нічога ні палучыцца з вашыга вытаўхывыньня, у яго крепкыя зашчыта.*

ВЫТАЎКЫВАННІК, ВЫТАЎХЫВАННІК *м.* Той, хто выштурхоўвае. *Як рызыйшоўся вытаўкывыньнік, ні ўняць, ні ўгыварыць. Ну пымыгайця, вытаўхывыньнікі, вылізаць.* ВЫТАЎКЫВАННІЦА, ВЫТАЎХЫВАННІЦА *ж. Кажыцца б, зубамі хваціла Дзёму ета вытаўкывыньніца. Мала сілы ў твае вытаўхывыньніцы, ён, як ваперь, здаровый, ідзі пымыгаць.*

ВЫТАЎКЫВАЦЬ, ВЫТАЎХЫВАЦЬ, ВЫТОЎХЫВАЦЬ *незак.* 1. Выштурхоўваць. *Нашто вам іх вытаўкывыць? Мы відзілі, іх вытаўхывылі Пілініняты. Што ты мяне вытоўхывыіш, як дам, атляціш, ногі зыдраўшы.* 2 *перан.* Здымаць з пасады. *Пісьліка знаіш хто пычаў вытаўкывыць?— Кірей, во хто. Азарывыга хлыпца вытаўхывыюць, каб свайго брігадзіра пыставіць. Цяперя яго с канторы вытоўхывыюць.* ВЫТАЎКЫВАЦЦА, ВЫТАЎХЫВАЦЦА, ВЫТОЎХЫВАЦЦА *незак.* Выбірацца пры штурханні. *Ці ён вытаўкывыіцца, ці тама рызівоніць? Відзюць, ні пылыса, дывай вытаўхывыцца ґ дзьвірям. Доўга мы с таго бызара вытоўхывыліся.* ВЫТАЎКНУЦЬ, ВЫТАЎХНУЦЬ *зак.* 1. Выштурхнуць. *Узялі зы карык і вытыўкнулі. Тыкая цісныта была ў аўтобусі, нехта мяне вытыўхнуў, сыма б ня вылізла.* 2. Зняць з пасады. *Як вытыўкнулі сь сільсавета, просіць: пыстаўця хуць на месіц брігадзірым. Многа ён ні ныўластвыіць, скора вытыўхнуць каленкым пыдз зад.* ВЫТАЎКНУЦЦА, ВЫТАЎХНУЦЦА *зак.* Выбрацца пры штурханні. *Мы вытыўкнуліся і пашлі. Я ўжо сыма думыю, як ат'етуля вытыўхнуцца.* ВЫТАЎКНУТЫЙ, ВЫТАЎХНУТЫЙ *дзеепрым.* 1. Выштурхнуты. *А пачом ты знаіш, што яны былі вытыўкнуты? Можа вытыўхнутыя, а можа самі пабеглі як цюцікі.* 2. Зняты з пасады. *Тады ён вытыўкнутый доўга круціўся лі нычальства, каб куды ўшчаміцца. Ці ня вытыўхнут с канторы Пітрачок, нешта ён нікуды ня ходзіць.*

ВЫТРАПЫВАННЕ, ВЫТРОПЫВАННЕ *н.* 1. Апрацоўка ільну трапаннем. *Калі лён нідалёжка, ніякыя вытряпывыньня ні пымыгаіць. Знаім мы вытрёпывыньня тваё:шах, шах і кінула.* 2 *перан.* Выказванне таямніцы.

*Зы вытря́пывыньня яе нада пряма біць. Вытрёпывыньня абізацільна дойдзіцца.* 3 *перан.* Знясільванне ў цяжкай працы. *Работыць, канешня, нада, ну вытря́пывыньня, каб біз здароўя астываццa, ні к чаму. Вытрёпывыньня пазьней ны здароўі атразіцца.*

ВЫТРАСАЦЦА *незак. метаф.* Выбаўляцца. *Так-етык вытрісáліся зь нішчасьціў, трудна ім пріхадзілыся ў жызьні.* ВЫТРАСЦА *зак.* Выбавіцца. *Мы толька-толька вы́трісьліся із горя, біда зы бядою ішла.*

ВЫТРЭШЧЫВАННЕ. *н. неадабр.* Празмерна ўважліваe прыгляданне. *Пыглядзі-ка ны яго вытрешчывыньня, як ён ны дзяўчоньк вылупіўся.*

ВЫХАДЖЫВАННЕ, ВЫХОДЖЫВАННЕ *н.* Праходка, прагулка. *Пыдажджыця, пыдажджыця, скора кончыцца ваша выхáджывыньня. Выходжывыньня ім дужа ныравіцца.* 2 *перан.* Праборка, ушчуванне. *Ні быяўся ён і ні спужаіцца ніякыга выхáджывыньня, троху паслухыіць, а тады, хочыш, пашлець пыдальшы. Ну, ты асвыбадзіўся аць цёшчыныга выходжывыньня, іна тыкі ладна цябе гыняла.*

ВЫХАДЖЫВАЦЬ, ВЫХОДЖЫВАЦЬ *незак.* 1. Абходзіць усё. *Я мылыдая ета поля выхáджывыла с плугамі, з бырынамі. Тады мы лясы выходжывылі.* 2. Праходжвацца, прагульвацца. *Ні пра што ня думыюць, выхáджывыюць днямі пад ручку. Хырашо выходжывыць, калі матка і пыднясець, і прібярець.* 3 *перан.* Прабіраць, ушчуваць. *Дурука сколька ні выхáджывый, ні пірявучыш. Выходжывыіць Варычка свайго блыгаверныга, нечым прывініўся.* ВЫХАДЖЫВАЦЦА, ВЫХОДЖЫВАЦЦА *незак.* Праходжвацца, прагульвацца. *Выхáджывыліся б, каб хто смашна карміў ды вінца ставіў. Цэлыя лета выходжывыюцца, помышчы ат такіх ні дажджэсься.* ВЫХАДЗІЦЬ *зак.* Прабраць, паўшчуваць. *Каб быў Аніс, ён ба цябе вы́хыдзіў, ты б яе пальцым ня тронуў.* ВЫХАДЗІЦЦА *зак.* Стаміцца ходзячы. *Мой учора вы́хыдзіўся, чуць жывэй прівалокся.* ВЫХАДЖАНЫЙ *дзеепрым. Стыдна як сыбаку, вы́хыджыный паплёўся двору.*

ВЫХВАТЫВАЦЬ *незак. метаф.* Хутка выкопваць. *Як сіньцябырь прішоў, сьпяшы бульбу выхвáтывыць із зямлі.* ВЫХВАЦІЦЬ *зак.* Хутка выкапаць. *Бульбу нада вы́хвыціць ды замырызкыў, іначы пагініць.*

ВЫЦІСКАЦЬ *незак. перан.* Выцясняць. *Ён пыняў, што пычынаюць выціскáць, кінуў усё, плюнуў і паехыў.* ВЫЦІСНУЦЬ *зак.* Выцесніць. *У рыйсаюзі кім-то быў, яго*

*выцiснулi, нi зыхацеў ны хызяйствi трiпацца, паехыў у Днiпрыпятроўск.*

ВЫЦЯСЫВАННЕ *н.* Вычэсванне. *Стыряўся, стыряўся, i нiчога нi пулучылыся зь яго выця́сывыньня: злумаўся брусок.*

ВЫЦЯСЫВАЦЬ *незак.* Вычэсваць. *Нешта ты дужа мудрёныя выця́сывыiш, я дык i нi прiдумыю, што йта будзiць.* ВЫЦЯСЫВАЦЦА *незак.* Вычэсвацца. *Ета ў яго ны бырану брусочыкi выця́сывылiся.* ВЫЦЯСЫВАНЫЙ *дзеепрым. С аднаго боку нешта выця́сывына i тут цiсанута трошку, нашто ён так дзелыў — нi прiдумыю.*

ВЫШАДЧЫ *дзеепрысл.* Выйшаўшы. *Вы́шыччы зь дзярейнi, кусьцiкi справа будуць, кыла етых кусьцiкыў i бягi па сьцёжычкi.*

ВЫШКI *мн.* Гарышча. *Я ны хацi, на вы́шкых сплю ды самых хыладоў. Памянш.* ВЫШАЧКI. *Усякыга бырыхла на вы́шычкых зьбiраiцца.*

ВЫШМАРАВАЦЦА *зак.* Зашмальцавацца. *Уродзi i дзёхцю нiйдзе нiма, а пупаў жа, вы́шмырывыўся чышчы некуды.*

ВЫШЧАРБЛIВАННЕ, ВЫШЧЭРБЛIВАННЕ *н.* Утварэнне шчарбiн. *Сьцяшы тыпаром вышча́рблiвыньня, каб рук нi абыдраць. Ныдаелi мне вышчэрблiвыньнi, усё састругывый i са́стругывый.*

ВЯДЗЕРНIЦА, ВЯДЗЕРАШНIЦА, ВЯДЗЁРАШНIЦА *ж.* Карова, якая дае па вядры малака. *Што ж ты сваю вядзернiцу збуваiш, iна нi так ста́рыя. Транбойка — зылытая была карова вядзерышнiца, летым кажнiнькiй дзень трi вядзерцы дывала. Рыскармiў сваю вядзёрышнiцу, гладкыя, як iльвiца.*

ВЯДЗЁРАШНЫЙ *прым.* Вядзерны. *У хызяйствi вядзёрышныя чугуны нада, малiнькiмi запы́ркыiсься.*

ВЯЛIЧЫЦЬ *незак.* Узвялiчваць, узносiць. *Вялíчылi, вялíчылi сваю Манiчку, пакуля прiнiсла маткi ляльку ў пыстаньнiку.* ВЯЛIЧЫЦЦА *незак.* Узвялiчвацца, узносiцца. *Любiць вялíчыцца, сам сабе цаны-меры нi знаiць.*

ВЯРНУЦЦА *незак. перан.* Хiнуцца. *Канешня, к сястре будзiць вярнуцца, большы ў яе раднi нiякiя нiма.*

ВЯРТУШАЧКА *ж. перан. памянш.* Непаседа. *Нi прiдумыiш, па ком зыдылася вярту́шычка, большыя дзяўчонкi спакойныя.*

ВЯЧЭРАШНIЙ *прым.* Вячэрнi. *Я вячэрышнiй рызгавор ныўсiгда запомню. Вячэрышнiя мылако ў аббiцiку.*

# Г

ГАВАРУНОК, ГАВАРУНЧЫК *м. памянш.* Гаварун. *Мальчык такей гувурунок, усё зь дзедым шчабечыць і шчабечыць, ны шаг ат яго ні стаецца. Гыварýнчыкі нашы рызгываріліся, як званочыкі зьвіняць.*

ГАВОР *м.* Размова, словы. *Я тожа веріла яго увішчаньню, а як паслухыла, увідзіла, што ета адзін гавор.*

ГАГОЛЬ *м. эмац.* Здаровы, фізічна дужы чалавек. *Ты б відзіла, якей гаголь большый Просін, у два разы здыравей зы бацьку.*

ГАДОЎЛЕНЫЙ, ГАДОЎНЫЙ *прым.* Гадаваны ў сваёй гаспадарцы. *Па трі рублі курычка гадоўліныя, я сабе купіла пяць штук і пітушка. У мяне усігда гадоўныя пырысяты, ні хачу купляць.*

ГАКАННЕ *н.* Удары з грукатам. *Ета мост ны Пячкоўкі дзелыюць, дык аж тута гáкыньня чутна, бабыю б'юць.*

ГАКАННІК *м.* Той, хто ўдарае з грукатам. *Глядзі, гáкыньнік, пупадзеш малыму пы наге.* ГАКАННІЦА *ж. Во ўзілася гáкыньніца: раз пы палену, раз пы калену.*

ГАЛАВІШЧА, ГАЛОВІШЧА *ж. эмац. павеліч.* Галава. *У дзецтві у яго гылавíшча была во еткыя, пýзішча, а ножкі тонінічкія, стыяць ня мог. Ніхармузный чылавек, айдзе йна выпырыла такога: галовішча як чугун, сам як бачонык.*

ГАЛАГАЛЕННІК *м.* Той, хто падымае шум, крык. *Кылі прут возьму, я скора гылыгаленьнікым дам места.* ГАЛАГАЛЕННІЦА *ж. Толька ніхай січас гылыгаленьніцы ні ўспакоюцца, я іх уніму вожкымі.*

ГАЛАДЗІЦЬ *незак.* Рабіць галодным. *Пірікармлівыць дзіцёнка ні нада, і гыладзíць — дужа ні гыладзí, ні дывай лішніга і ўсё.*

ГАЛАМЖЭННЕ *н.* Псаванне, неакуратная работа. *Луччы б мае вочы ны такоя гыламжэньня ні глядзелі.*

ГАЛАМЗА *м.* і *ж.* Неакуратная асоба. *Гылымзá ўсігда цяп-ляп дзелыць, а тады хадзі ўсьлед ды пірядзелывый.*

ГАЛОЎКА *ж.* Хамут без гужоў. *Галоўка ў яго ёсьць, у клеці вісіць, а гужыкі не ш чыга вырізыць.*

ГАЛОШАК *м.*, ГАЛОШКА *ж.* Маленькі галош. *Айдзе ж другей галошык, тута ляжыць толька адзін, левый, правыга нійдзе ня віджу. Што ж адну галошку пыдвязывыць, кылі пыдвязывыць, то абея нада.*

ГАЛУБЯТНІЦА *ж.* Аматарка галубоў. *Ты, як мульчуганы, гулубятніца, разым ба зь імі і лазіла пы балькых.*

ГАЛУЗ *м.* Свавольнік. *Малый галўз быў, матка нічога зь ім зьдзелыць ні мыгла, а падрос — пыцішэў, другей хлопіц стаў.*

ГАЛЮШАНЬКІЙ, ГАЛЮШАНЕЧКІЙ *прым. эмац. памянш.* Голы. *Дзяўчонычка галюшынькыя выскычыла і крічала. Галюшынічкій кырапузік тоўсьцінькій сядзіць у люлькі і сьмяецца.*

ГАМЖЭННІК *м.* Неакуратны, неахайны чалавек. *Нілізя гамжэньнікым быць, на што адзежа твыя пахожа.* ГАМЖЭННІЦА *ж. Каб ты ні была гамжэньніцыю, табе можна було б харошыя плацьця справіць.*

ГАМУРЛІВА *прысл.* Ганарыста, капрызна. *Так гумурліва рызгыварівыіць, што дайжа ні паходжа ну Кулініныга сына.*

ГАМУРЛІВАСЦЬ *ж.* Ганарыстасць, капрызнасць. *У іх ува ўсіх гумурлівысьці многа, так вісока сябе нясуць, як ніхто ні нясець.*

ГАМУРЛІВЫЙ *прым.* Ганарысты, капрызны. *Васіль быў гумурлівый, Бязручыха у дваре і ні жыла, усё пу людзях і пу людзях. Памянш.* ГАМУРЛІВЕНЬКІЙ. *Зь естыю ня дужа пыгаворіш, гумурлівінькыя дзяўчонка, уся ў бабу пышла, дайжа голыс Храсіньнін.*

ГАНДЛЯЧАННЕ *н. гумар.* Гандляванне. *Во папомніця маё слова, што з вашыга гындля́чыньня нічога ні палучыцца.*

ГАНДЛЯЧАННІК *м. гумар.* Гандляр. *Скора іхный гындля́чыньнік прыгындля́чыцца, ні зь яго хракціры́м брацца зы такоя дзела.* ГАНДЛЯЧАННІЦА *ж. Кінула яе гындля́чыньніца мыгазін, нійдзе ні работыіць.*

ГАНДЛЯЧЫЦЬ *незак. гумар.* Гандляваць. *Яны б гындля́чылі, каб було чым, ды ніякія трясцы німа зу душою.* ГАНДЛЯЧЫЦЦА *незак.* 1. Гандляваць. *Ты пычынаішь шурока гындля́чыцца.* 2. Гандлявацца. *Як вам сяньня гындля́чылыся?*

ГАРАЧАСТВА *н.* Моцнае ўзрушэнне, гарачка. *Ён хваціў плуг і тыраніць із двыра плуг — із гыря́чыства: ніхай хуць плуг будзіць.*

ГАРАШЫЦЬ *незак.* Крышыць. *Ні гырашы́ прязнушку, ны абед ні хваціць.* ГАРАШЫЦЦА *незак.* Крышыцца. *Укруці піражок у бумагу, ато ён дужа гырашы́цца, адны крошкі у кырмані будуць.* ГАРАШОНЫЙ *дзеепрым. Усё гырашоныя зьмяці ў вядзерца.* ГАРАШОМШЫ *дзее-*

*прысл. Ціплят карміլі, гырашомшы хлеб, яны аж на плечы ліцяць.*

ГАРАШЭННЕ *н.* Крышэнне. *Нашто табе ета гырашэньня, ціплятым луччы сыпнуць просы.*

ГАРАШЭННІК *м.* Той, хто крышыць. *Січас пупадзець етыму гырашэньніку, ды крепка пупадзець.* ГАРАШЭННІЦА *ж. Унімісь-ка, гырашэньніца, я буду хлеб купляць, ны плічах насіць, а ты га́дзіць?*

ГАРЖАМЫЗДЗІЦЬ *незак. эмац.* Вучыць. *Дурука сколька ні гыржамы́зьдзі, ён дураком аста́ніцца.* ГАРЖАМЫЗДЗІЦЦА *незак.* Вучыцца. *Во-о, твыя дзеўка і прясьць гыржамы́зьдзіцца, хызяйка будзіць.*

ГАРКАННІК *м. неадабр.* Крыкун. *Рызыйшоўся га́ркыньнік, руспусьціў горла, як яму людзей ня стыдна.* ГАРКАННІЦА *ж. Сыма была ня меншыя га́ркыньніца, што там ну другіх гываріць.*

ГАРКНУЦЦА *незак. перан.* Зайсці гуртам. *Га́ркнуліся кучыю ў хату і сьмяюцца, а я гляджу і ні пызна́ю, хто ета такея.*

ГАРЛАНУЦЬ *зак.* Гучна закрычаць, запець. *Як гырлану́ць песьні, уся акруга здріганецца, вясёлыя хлопцы.*

ГАРЛАПІСТЫЙ *прым.* Крыклівы. *Адна гырла́пістыя і другая ёй ні ўступаіць, як зрежуцца, на іх толька дзівіцца.*

ГАРОДЧЫНА *ж.* Агародчык. *Якую гарoччыну зыгрябець, і тая зырасьцець, зуплувець травою, за лежнію глянуць туды некылі.*

ГАРЧЭНІЦЬ *незак.* Гарчыць. *Яблыкі яны красівыя і ліжаць доўга, пыд вясну, толька на ўкус гарчэнюць.*

ГАРЧЭННЫЙ *прым.* Вельмі горкі. *Кыпіліньічку хрену ўзіла ны язык — гарчэнный, ня вытрывыць, ні знаю, як яго ядуць, ды яшчэ й купляюць.*

ГАРШКАШЛЁП *м.* Няўмелы ганчар. *Яго сват нейкій гыршкашлёп быў, так, ніважный майсьцір.*

ГАЎКА *м.* і *ж.* 1. Сабака (у размове з дзецьмі). *Глядзі, га́ўка пабег, можыць маліньқыга ўкусіць.* 2 *перан. іран.* Хлус. *Сколька ты ні хвалі, дык і Пятрок твой га́ўка быў ні пасьледній.*

ГІШЭХТ *м.*, ГІШЭХТАВАННЕ *н.* Цеснае сяброўства. *Такей ґішэхт зывялі Ныпріiняты с Калугінымі, што куды там, вадою ні рызальлеш. Глядзіця, каб зь естыга ґішэхтывыньня ні зыгрімеў ён с трескым.*

ГІШЭХТАВАННІК *м.* Той, хто ўступае ў цеснае сяброўства. *Нешта ў тых ґішэхтывыньнікыў рызладзілыся,*

*пірісталі адзін ґ другому бегыць.* ГІШЭХТАВАННІЦА *ж. У вашых ґішэхтывыньніц дружба доўга ні набудзіць.*

ГІШЭХТАВАЦЬ *незак.* Моцна сябраваць. *Раншы яны ґішэхтывылі крепка, а цяперя іхныя дружба расстроілыся.*

ГЛАМАЗДАЧАННЕ, ГЛАМАЗДЗЯЧАННЕ *н.* Няўмелая работа. *С твайго глымыздáчыньня так палучыцца, як у таго масьціра з лоткі віріцяно. Во відзіш, і зь яго глымызьдзя́чыньня ікая-ніікая карзінка выйшла.*

ГЛАМАЗДАЧЫЦЬ, ГЛАМАЗДЗЯЧЫЦЬ *незак.* Рабіць няўмела. *Глымыздáчыць нейкыю пуньку, калі бірнушкі ні пыпывывырáчывыюцца. Старік пыт павецьцю карзінку глымызьдзя́чыць, ідзі цірясь сенцы.* ГЛАМАЗДАЧЫЦЦА, ГЛАМАЗДЗЯЧЫЦЦА *незак.* 1. Рабіць няўмела. *А ня буду я глымыздáчыцца ш шайкыю, ны бызарі новыю куплю. Доўга глымызьдзя́чыўся з варотымі, нейкія трошку пріпяў як коўрыты.* 2. Рабіцца няўмела. *Што ў цябе тутыцька глымыздáчыцца, ці карзіна палучыцца, ці засік якей-то? Патроху пляцень глымызьдзя́чыцца, худзь жа скот ні так будзіць лезьць у гарод.*

ГЛУЗДЗЯЧАННЕ *н.* Пустыя размовы. *Наслухыліся глузьдзя́чыньня — дос, большы мы туды ня пойдзім.*

ГЛУМАЧКА *ж.* Недалёкая, разумова абмежаваная жанчына. *Глумáчка ты, глумáчка, ні ўзяў ён тваю дачку і ня возьміць, у яго саўсім другоя на ўме. Памянш.* ГЛУМАЧАЧКА. *Абея яны глумáчычкі, ні нада з Гывярушкымі зьвязывыцца.*

ГЛУМАЧЫНА *м.* і *ж.* Недалёкая, разумова абмежаваная асоба. *Не, з глумачы́нью трудна дыгыварівыцца. І ён, і іна абоя глумачы́ны, як толька ім так удалося пыдыбрацца.*

ГЛУПАСНА *прысл.* Неразумна. *Глýпысна зьдзелыў, што хату прыдаў, ні нада було пастройчыну збуваць.*

ГЛУПАСНАСЦЬ *ж.* Глупства. *Із-за глýпыснысьці свадзьба расстроілыся, а ўсё ўжо було дыгаворіна.*

ГЛУПАСНІК *м.* Недалёкі, разумова абмежаваны чалавек. *Глýпысьнік ты, глýпысьнік, чаго мне лезьць у чужыя яблыкі, калі сваіх — еж, ні хачу, гніюць пыдзь дзірівамі. Памянш.* ГЛУПАСНІЧАК. *Глýпысьнічык маліинькій, розыму ішчэ ні ныбраўся, гаворіць што зря.* ГЛУПАСНІЦА *ж. З глýпысьніцыю луччы язык ні мырацьь.*

ГЛУПАСНЫЙ *прым.* 1. Неразумны. *Глýпысный чылавек, паехыў, дык нада було жыць, што ён айдзе луччыя*

*найдзіць.* 2. Неістотны. *Лесу ён купіў па глу́пысный цане, пасьці што дырма.*

ГЛУПАСЦЬ *ж. перан.* Неістотная колькасць. *Кызалі, па тых дзірі́ўнях пыдзіскувалі ўсё чыста, зірнавыя ацьсеілі, глупысьць асталыся — быракі, кукуруза.*

ГЛУТЫРКА, ГЛУТЫРЫНКА *ж. памянш.* Глыба, кавалак. *Нада було б прайціць с палкыю, пырызьбівацьглуты́рькі, а тады з быраною ехыць. Каб ні глуты́рінкі, луччы було б, скырадзілыся б ляхчэй.*

ГЛУХМЕНЬ *ж.* Самы позні час ночы. *У самыю глухмень паехылі, худзь ба ні зублудзіліся ў лесі.*

ГЛУШЭЙ *прысл. выш. ст. пар.* Больш глуха. *Мне ўжо некуды глушэць, я глушэй ні стану, і так нічога ня чую.*

ГЛЫЖЖА, ГЛЫЗЗЕ *н. зб.* Камякі, глыжы. *Глы́жжа пызысыхала, стала цьвёрдыя як камінь, яго бырына ня возьміць. Глы́зьзя ны дарогі замерзла, ехыць нілізя, калёсы прыгыюць і ўсё.*

ГЛЫКАННІК *м.* Той, хто глытае. *Во ўзяліся глыка́ньнікі, ні жваўшы ягыды глы́кыюць. Ого, якей ты сьмелый глы́кыньнік!* *Памянш.* ГЛЫКАННІЧАК. *Глядзі, глыка́ньнічык, так пыдавіцца можна.* ГЛЫКАННІЦА *ж. Пірістаньця, глыка́ньніцы, балывыцца, есьця, як нада. Ні баіцца глы́кыньніца такея ягыды глытаць.*

ГЛЫМЯНУЦЬ *зак.* 1. Моцна ўдарыць. *Як глымянецьяго ціряс плечы кійком, тэй ажно зыікытаў.* 2. Моцна ўдарыцца. *Глымяну́ў з балькі, толька войкнуў.* ГЛЫМЯНУЦЦА *зак.* Моцна ўдарыцца. *Крепка глымяну́ўся с самыга вільчыка, чаго яму там було поўзыць.* ГЛЫМЯНУТЫЙ *дзеепрым. Глымяну́тый ні глымяну́тый, а троху пупала.*

ГЛЯІСТЫЙ *прым.* Глеісты. *Пу бугарку зімля нічога, а туды, к нізу, дужа гляістыя, нічога на ёй ні расьцець.*

ГЛЯНІШЧА *ж.* Халява. *Як начысьціць гляні́шчы, блішчаць, хуць глядзіся ў іх.* *Памянш.* ГЛЯНІШЧЫКА. *Гляні́шчыкі зыкысаіць, штаны напусьціць, ого, якей кывалер!*

ГНЯТОЎЕ *н. зб.* Цяжкія кавалкі дрэва. *Многа іс сажылык пывыцягывылі гнятоўя, як высыхніць за лета, пыгаріць у печы.*

ГНЯТУЧКА *ж.* Даўкасць. *У горлі засела гняту́чка, глытаць стала больна.*

ГОДЖАСЦЬ *ж.* Вартасць. *Яму годжысьць ні нада, абы ныжрацца, як у мех якей.*

ГОДЖЫЙ *прым.* Варты, гожы. *Быў ён калі-то го-*

*джый, а цяперя апусьціўся, ніряха. Мутруноўна — ішчэ баба годжыя.*

ГОНАМ *прысл.* Гонячы. *Тады гоным путурілі скот за Сож. Ніхай толька паткнецца, яго гоным папруць.*

ГОРЛЫШКА *н.* Горла (у пасудзіне). *У бутлі горла, а ў бутылкі горлышка.*

ГОРНІЙ *прым.* Безгаспадарны, нічыйны. *Былі горнія вароты, бувала, возьмім, сколька мы будзім куўзацца, ажно заморімся.*

ГРАБКОМ *прысл.* Грабучы. *Чаго ім ня жыць, грошы грябком за ўсё грябуць.*

ГРАБЛІКІ *мн. памянш.* Граблі. *Можа табе другея грáблікі павесіць, а ты зьніміш?*

ГРАДАВІНА *ж.* Градавая хмара. *Быльшая, быльшая грыдавіна ныйшла жоўтыя, можыць пымясіць усе пасевы.*

ГРАКАННІК *м.* Той, хто кідае на зямлю пры баруканні. *С такім грякыньнікым ні бяріся, ён цябе мігым уложыць,— і сам пыляціць.*

ГРАННЁ *н.* Абаграванне. *Ета ні гряньнё у такей мароз, тута нада бальшэй агонь рыскласьць, многа дроў прінесьць.*

ГРАШОЎКА *ж. метаф. асудж.* 1. Сквапная жанчына. *Стыдна быць такою грашоўкыю, за нейкій палціньнік трі дні лухту нясець ны чылавека.* 2. Распусная жанчына. *У яе совісьці і ні нучувала, зы чарку гарелкі любому мужуку на шыю вісьніць, грашоўка.*

ГРОБКА *ж.* Грабенне. *Кончым грёбку і скупанёмся, выда січас саўсім цёплыя.*

ГРОБШЧЫК *м.* Той, хто грабе. *Грёбшчыкым сяньня далося, у іх рукі атваліюцца.* ГРОБШЧЫЦА *ж. Сь песьнімі ішлі грёбшчыцы з лугу, рана сяньня кончылі работу.*

ГРОХАЦЬ *незак. метаф.* Страляць. *Трі ночы грохыла у том баку, а тады нашы пріішлі.* ГРОХНУЦЬ *зак.* Раздацца (пра выстрал). *Кылы нас дужа сільна грохнула, во тут арудзія стыяла.*

ГРУБЕЦЦА *незак.* 1. Паўнець. *Глянь-ка, як Мішка грубеіцца у мыладэя жонкі, відна, корміць дужа смашна.* 2. Цяжарыць. *Жэнька часта грубеіцца, што год, то ўдод.*

ГРУДНЯК *м.* Грудное дзіця. *Куды Танькі ехыць, у яе трецьцій грудня́к, ды слабінькій мальчык. Памянш.* ГРУДНЯЧОК. *Во ня думыла, што ў яе ужо яшчэ груднячок.*

ГРУДАМ, ГРУДАЮ *прысл.* Кучай. *Нашто ты гру́-*

*дым нывалівыіш як зря, хто зы цябе пірікладывыць должын. Кінула грýдыю мокрыя тряпкі, яны папреюць.*

ГРУЗДЗІЛЬЦА *н. памянш.* Цуглі. *Нада аброць пычыніць, грýзьдзільца зь левыга боку àтырвалыся, а бізь яго Кыштан ськініць.*

ГРУКАТАННІК *м.* Той, хто грукоча. *Во рызыйшліся грюкутáньнікі, гляпуў ба, чым яны тама ў сенцых малоцюць.* ГРУКАТАННІЦА *ж. Ну хваціць ужо, хваціць, грюкутáньніца, лезу, січас аччыню.*

ГРУКАТНУЦЬ *зак.* Грукнуць. *Па-мойму, ета карова у пуні рогым грюкатнýла.* ГРУКАТНУЦЦА *зак.* Упасці, ударыцца. *Як грюкатнецца зь яблыны, акалечыцца, тады лячыся зь ім.*

ГРЫБАЗВОННЕ *н. неадабр.* Балбатня. *Як наслухыісься іхныга грібазвоньня, хут ты уцікай ні знаю куды.*

ГРЫБАЦУЙ *м. абразл.* Няўдаліца. *Прівадзілі к ёй у зяці нейкыга грібацýя, іна скызала, што ёй зяць ні нада. Памянш.* ГРЫБАЦУЙЧЫК. *Ходзіць к Ліпкіный якей-то грібацýйчык, нашто ён ёй. Узмацн.* ГРЫБАЦУІНА. *Во ў Зьмітрыка расьцець грібацýіна, намучыюцца зь ім. Павеліч.* ГРЫБАЦУІШЧА. *Вырыс грібацýішча ні к сялу ні ґ горыду, у армію ні бяруць, гарюй, матка, сколька хочыш.* ГРЫБАЦУЙКА *ж. Ідзі ты луччы грібацýйку сваю цалуй. Памянш.* ГРЫБАЦУЕЧКА. *А ня трогыйця вы яго з грібацýічкыю, ныравіцца яму — ніхай ходзіць.*

ГРЫБІЦЬ *незак. эмац.* 1. Гнуць. *Дужа рана цябе пычало грібіць, рызьгінайсь-ка.* 2 *перан.* Дзьмуцца. *Сяньня дык ні прідумыю, чаго яго стала грібіць.* ГРЫБІЦЦА *незак.* 1. Гнуцца. *Нечыга грібіцца, нада глядзець пітухом.* 2. Дзьмуцца. *Ніхай грібіцца, троху пагрібіцца ды пірістаніць.*

ГРЫБЛЕННЕ *н. эмац.* 1. Згінанне. *Што ты хочыш, такей век жывець, чаму ня будзіць гріблíньня.* 2 *перан.* Надзіманне. *Дужа гадкыя дзяўчонка із ье яе гріблíньнім, усігда грібы руспусьцёмшы ходзіць.*

ГРЫМЯНУЦЬ *зак.* Упасці з вышыні і моцна ўдарыцца. *Ай-я-яй, як ён грімянуў з дуба, ладна, што ні ны кареньня пупаў, ато б абязьвечыўся.*

ГРЫМЯЧ *м.* Удар. *Грімічá ў хрібціну палучыш — во табе і ўсё спакойствія будзіць.*

ГРЭНКА *ж.* Злосць. *За што яны зытаілі гренку ну Куралёнка?— нешта ж було ў іх.*

ГУДНУЦЬ *зак.* 1. Прагусці. *Нешта гуднýла, я дык і*

*ні пыняў, што ета.* 2 *перан.* Горка заплакаць. *Бувала, сяджу адна ў хаці, як гудню, гудню.*

ГУЖЫК *м. зніж.* Гуж. *Гу́жыкі і ў вызавым хумуце, і ў ралейным, толька у вызавым кароткія пуд дугу, а ў ралейным доўгія, ды вылька. Памяниш.* ГУЖЫЧАК. *Ці ні найдзіцца ў цябе якей гу́жычык, у мяне рызырваўся і цяперь каротык.*

ГУЗ *м.* Вузел у перавясле снапа. *Перьвізінь як зьдзелыіш, гу́зым кладзеш уніз, а на перьвізінь ложыш гырсьцямі што жнеш.*

ГУКАННІК *м.* Той, хто кліча, запрашае. *Пабеглі гука́ньнікі бацьку зваць. Ходзюць гука́ньнікі пы хатых, усіх сваіх зьбіраюць на ксьціны. Памяниш.* ГУКАННІЧАК. *Зайшоў гука́ньнічык у хату і ні знаіць, што скызаць.* ГУКАННІЦА *ж. Ні знаю, ці пашлюць гука́ньніцу к цёткі, яны нешта былі ня ў духі.*

ГУЛЁХА *ж.* Ахвотніца пагуляць. *Сяньня нашы гулёхі ці ні ў Чарнілыва сыбіраюцца.*

ГУЛЯЦЬ *незак.* 1. Пакрывацца (пра самку жывёлы). *Ета тыкая прівычка у многіх была: калі карова гуля́ла, запісывыць ну брусе пац стольлю, каб знаць, калі целіцца.* 2 *перан.* Разрастацца (пра траву). *Во хызяіны, трыва па бульбі гуля́іць, ні абыгнаць некыму, ні прайціць з матычкыю пызьбіваць троху.*

ГУНЕНЫЙ *дзеепрым.* Знеслаўляны. *А што, кылі ён гу́ніный, што яму ат етыга стала?*

ГУННЕ *н. рэдкаўж.* Гулянне. *Ну якоя ж гу́ньня, я ні гуляла, у мяне работы було по горла.*

ГУР *выкл.* Пра раўнамернае гурчанне. *Зыбралыся на печ, гарчышнікі пылажыла, чую, трактыр гур за пунію. Селі, гур і паехылі.*

ГУРА *ж.* Вялікія калёсы. *Посьлі асвыбаждзенія нейкыя гу́ра нямецкыя асталыся, і на ёй езьдзілі.*

ГУСЦЕННЫЙ *прым.* Вельмі густы. *Зямлю крепка удабрілі, жыта гусьценныя, салома як трысьнік, кымбай зыстряець, ня можыць пукруціць.*

ГУСЯТНЯ *ж.* Гусятнік. *Гуся́тню мы зьдзелылі цёплінькыю, а курям будзіць халодна, у хату прідзіцца брацьу марозы.*

ГЫРКАТАННЕ *н. перан.* Злоснае бурчанне, сварка. *Ні люблю я гыркыта́ньня, у нашый сям'е усігда було спакойна.*

ГЫРКАТАННІК *м.* Той, хто злосна бурчыць, сварыцца. *Дужа ні хвалі Сьвірідзёнка, ён ладный гыркы-*

*та́ньнік.* ГЫРКАТАННІЦА *ж. Дычка зьдзелылыся гыркыта́ньніца чышчы зы маму, пірішчыґіляла яе.*

ГЫРКАТАЦЬ *незак. перан.* Злосна бурчаць, сварыцца. *Ета ўжо натура тыкая зьмяіныя, усё ўремя гыркочыць ны свайго стыріка.* ГЫРКАТНУЦЬ *зак.* Злосна забурчаць, адазвацца. *Ёй усігда гыркатну́ць хочыцца, мінуту ні пымаўчыць.*

ГЫРЧЭННЕ *н.* 1. Пагрознае вурчанне. *Пачулі нейкыя гырчэньня ў кустах ды ўцікаць аттуліцька.* 2 *перан.* Злоснае бурчанне. *Як устаюць, так і пычынаіцца ў хаці гырчэньня.*

ГЫРЧЭЦЬ *незак.* 1. Пагрозна вурчаць. *Будзіць гырчэць, гырчэць і кініцца, ня верь сыбаку.* 2 *перан.* Злосна бурчаць. *Кылі ні пачуіш, усё гырчы́ць, што ў етый бабі зывіряіцца?* ГЫРЧЭЦЦА *незак. Зал.-бессуб'ект. ад гырчэць* 2. *Ці буваіць такоя ўремя, калі табе ні гырчы́цца?*

ГЭМЗАННЕ *н. неадабр.* Камячанне. *Ні пыгляджу, што бальшун, за гэмзыньня дам баню.*

ГЭМЗАННІК *м. неадабр.* Той, хто камячыць, мне. *Ужо далжон пынімаць, што к чаму, а ты гэмзыньнік, як малютычка, нічога ні бірягеш.* ГЭМЗАННІЦА *ж. Разьві у гэмзыньніцы пабудзіць што-небудзь акуратна?*

# Д

ДААДУРАВАЦЬ, ДААДУРАВАЦЦА *зак.* Дайсці да непрыемнасцей у выніку свавольства. *Дыадурюва́іця, што я вас пруцінью з двыра пыганю. Я віджу, ды чаго яны дыадурюва́юцца: тубурецік дулумаюць, во што зь іхныга адурюваньня будзіць.*

ДАБАЛМАТАЦЬ, ДАБАЛМАТАЦЦА *зак.* Дабалбатаць, даплявузгаць. *Ладна дыбылмыта́ла, такую праборку пулучыла ат Машкі, што чышчы некуды. Дыбалмочысься, прыздравіць цябе Сьціпаніда, як тога воґіря.*

ДАБАРАХЦЕЦЬ, ДАБАРАХЦІЦЬ, ДАБАРАХЦЕЦЦА, ДАБАРАХЦІЦЦА *зак. неадабр.* Дабалбатаць. *А сьціхні с трілюдымі, ато дыбырахціш мне тут, дужа ўзілася новысьці рызнасіць. Ну й прівычка у бабы: якую лухту ні пачуіць, рызьнясець пы дзяреўні, дыбырахціц калі, нылаю дык нылаю. Дыбырахцелыся, што ў печы ўсё пыгасла і гаршчонычкі як пыставіла, так халодны і стыяць. Дыбырахціцца, што прыздравюць за ета быраханьня, язык буўтаіцца, што у сыбакі хвост.*

ДАБЕГАЦЬ *зак.* Многа бегаючы, нашкодзіць сабе. *Дабегыла лета, што ў зіму біс палкі дроў асталыся.*

ДАБІБАЦЦА, ДАБІБКАЦЦА *зак.* Датупацца. *Дабібылыся ды крайнысьці, рукою пышывяліць і то цяжола. Пакуля ногі трошку ходзюць, топчыцца лі двыра, алі йна саўсім дабібкылыся.*

ДАБІВАЦЬ *незак.* Дасылаць пры гульні мяч ударам. *Знаіш, дакуля я дыбіваў?— вун да тэя ліпы, яны бегылі зы маім мячыкым дый бегыць некуды.* ДАБІЦЬ *зак.* Дасылаць пры гульні мяч ударам. *Нідакуля ты ні даб'еш, якей сь цябе гуляньнік.*

ДАБІРАЦЬ *незак. перан.* Набірацца (цярпення, злосці і г. д.). *Я ні знаю, як ты дыбіра́іш цярьпеньня етык зь імі вазіцца.* ДАБРАЦЬ *зак.* Набрацца (цярпення, злосці і г. д.). *Чуць дыбра́ла змагі вы́сідзіць зь імі да вечыра.*

ДАБРАЗКАТАЦЦА *зак.* 1. Дабразгацца. *Ніхай уніміцца, ато жыва дыбрязкочыцца.* 2 *перан.* Дабалбатацца. *Пыглядзіш, дыбрязкочысься, Анюта пупадзець, нылаіць бакі, во тады пыбрязкочыш, калі язык нізыба́рсывыный.*

ДАБРЫГАДЗІРЫЦЬ, ДАБРЫГАДЗІРНІЧАЦЬ, ДАБРЫГАДЗІРСТВАВАЦЬ, ДАБРЫГАДЗІРЫЦЦА, ДАБРЫГАДЗІРНІЧАЦЦА, ДАБРЫГАДЗІРСТВАВАЦЦА *зак.* У выніку працы брыгадзірам атрымаць непрыемнасці. *Дыбрігадзіріць, што турнуць як сыбаку, во будзіць яму брігадзіріньня. Ну што ты, дыбрігадзірнічыў, узноў нада іціць с плугым? Я знаю, як ён дыбрігадзірствыіць, ікраз так, як Хомычкін сын. Яму нядоўга дыбрігадзіріцца. Не, ні пурузумнеіць ён, дыбрігадзірнічыіцца, як у той брігадзі. Нада ж табе етык дыбрігадзірствывыцца!*

ДАБУЙТАВАЦЦА *зак.* Знясілецца ў цяжкай працы. *Мой ужо дубуйтува́ўся, што ляжы́ць, гаворіць, ні рукою, ні нагою ні шывяльнуць.*

ДАБУЛДЫХАЦЬ, ДАБУЛДЫХАЦЦА *зак.* Атрымаць непрыемнасці ў выніку бултыхання. *Глядзі, дубулды́хыюць, што выцягывыць каторыга прідзіцца. Дубулды́хыліся, што адзін чуць ні скруціў сабе гылаву.*

ДАБУШАВАЦЬ, ДАБУШАВАЦЦА *зак.* 1. Сціхнуць (пра буру, навальніцу). *Буря ужо, знаць, дубушува́ла сваё, унілася, толькі ці надоўга. Дубушува́ўся веціp, сьціх.* 2 *перан.* Суняцца, супакоіцца (пра раз'юшанага чалавека). *Я яго дубуш́ую, уніміцца ён і ўспакоіцца.*

*Дубушуваўся Крыцянок, сядзіць, як мыш пад венікым, ня пісьніць.*

ДАБЯНТЭЖЫЦЦА, ДАБЯНЦЕЖЫЦЦА *зак.* Пры пялегаванні, пестах дайсці да пэўных вынікаў. *Дыбянтэжыціся, што карой прагледзіця, яны пойдуць пы гародых. Усё маліцькыю шчыталі, нянчылі, дыбяньцежыліся, пакуля с пузым прішла.*

ДАВАЛАВОДЗІЦЬ, ДАВАЛАВОДЗІЦЦА *зак.* Пры зацягванні вырашэння спраў дайсці да пэўных вынікаў. *Дывылаводзілі яго, што ўремя упусьціў і цяперя сам ні прідумыіць, ці выбірацца, ці сядзець на месьці. Цягнуць і цягнуць, а тады дывылаводзюцца, што ўремя ні астáніцца ні рыспрыдывацца, ні тут акыпіровывыцца.* ДАВАЛАВОДЖАНЫЙ *дзеепрым. Дывылаводжыны ды пасьледніга, відна, ні паедуць.*

ДАВАЛАКІЦІЦЬ, ДАВАЛАКІЦІЦЦА *зак.* Дайсці да непрыемнасцей у выніку валакіты. *Мікілаіў яго тады і дывылакіцій, каб ні зьбіваў, Коля б даўно устроіўся. Ды чаго вы думыіця дывылакіціцца, ці вам хто-небудзь бумажкі на блюдзічкі пыднясець.* ДАВАЛАКІЧАНЫЙ *дзеепрым. Яны дывылакічыныя саўсім рысьціряліся.*

ДАВАЛАЧЫЦЬ *зак.* Дабаранаваць пасеянае. *Сей січас, я ішчэ пасьпею да вечыра дывылачыць.* ДАВАЛАЧЫЦЦА *зак.* Дабаранавацца (пра пасеянае). *Дывалочыцца то дывалочыцца, ды пасеіныя нывярьху нілізя кідаць, нада зямлёю зыгарнуць.* ДАВАЛОЧАНЫЙ *дзеепрым. Ны Пясочыку усё дывалочына, туды ехыць ні нада.*

ДАВАЛІЦЦА *зак. перан.* Дабрацца з вялікімі намаганнямі. *Мне худзь ба ды скамейкі дываліцца, пысядзець мінутычку, я чуць клыпыю.*

ДАВАЛОЧ *зак.* Дацягнуць з цяжкасцю. *Няўжэлі ты такую рыгазіну сыбіраісься дывалоч ды дзяреўні?* ДАВАЛОЧЦА *зак.* 1. Дацягнуцца з цяжкасцю. *Ніхай пыляжыць, як-небудзь і ета калода дывылакецца.* 2. Дайсці з цяжкасцю. *Як мне дывалоцца ды таго Колтыва, саўсім ногі іціць ня хочуць.*

ДАВАЛЫНІЦЦА *зак.* Дайсці да пэўных вынікаў пры валаводжанні. *Ты глядзі, дывалынісься, што яны возьмуць другую карову, калі надумылыся аддываць, дык аддывай.*

ДАВАННЕ *н. перан.* Біццё. *Глядзі, будзіць табе дываньня, сымаму каб ні ўляцела скарей.*

ДАВАННІК *м. перан.* Той, хто пагражае пабіць. *Ты*

*каб відзіў, як тэя дыва́ньнікі ўцікалі, на злом гылавы ляцелі ат нас.* ДАВАННІЦА *ж. Ты ім два гады грозіш, дыва́ньніца, а яны ўсё большы руспускаюцца.*

ДАВАШАПРУДЗІЦЬ, ДАВАШАПРУДНІЧАЦЬ, ДАВАШАПРУДЗІЦЦА, ДАВАШАПРУДНІЧАЦЦА *зак.* Пры вычваранні дайсці да пэўных вынікаў. *Вот відзіш, як дывышапру́дзіў Шыўчанок, далі яму места і сядзіць спакойнінька. Пыглядзіш, дывышапру́днічыюць абоя, найдзіцца ім угамоньня. Ясна, што етыя зыдывакі быйстра дывышапру́дзюцца, унім ім найдуць. Мы кызалі, што Гурчанок скора дывышапру́днічыіцца, так і пулучылыся.*

ДАВЕРЧАТА, ДАВЕРЧЫВАТА *прысл.* Даверліва. *Дужа даверчыта шэпчуцца, толькі ці надоўга етыя дружбы хваціць. Іна ж табе даверчывыта рыскызала, а ты треплісься ўсюдых.*

ДАВЕРЧАТАСЦЬ, ДАВЕРЧЫВАТАСЦЬ *ж.* Даверлівасць. *Даверчытысьць нада імець, ну ні к любому-кажныму. Воч чаго ў цябе нісколька німа — даверчывытысьці.*

ДАВЕРЧАТЫЙ, ДАВЕРЧЫВАТЫЙ *прым.* Даверлівы. *Якей ён даверчытый чылавек, первыму устречныму веріць ва ўсём. Ня будзь такою даверчывытыю, ня ўсе такея чэсныя, як сыма.*

ДАВЕТРАНЫЙ *дзеепрым.* Давеяны ўручную. *Каб жа даветрінья, ато яшчэ ладныю кучку ветріць нада.*

ДАВУЧАЦЦА *незак.* Завяршаць адукацыю. *Матка гаворіць, ніхай ідзець дувуча́іцца, а Шпак ні пускаў, дык ныстаўніца пріхадзіла прасіць.*

ДАВЫСКАКЫВАЦЬ *зак.* Выскокваючы, дайсці да пэўных вынікаў. *Голыя дывыска́кывыіш, прастудзісься, тады вазіся с табою, лячыся.*

ДАВЫСКАЛЯЦЦА *зак.* Выскаляючыся, смеючыся, дайсці да пэўных вынікаў. *Дывыскыля́ісься, што пу зубах схваціш і ўсё тваё выскыля́ньня айдзе дзеніцца.*

ДАВЯДЗІЦЬ *зак.* Дажыць да канца. *Мікіпыріха саўсім слабыя, скора дывя́дзііць.*

ДАГАВОРАНЫЙ *дзеепрым.* Дамоўлены. *Як жа яны падводзюць: усё було дыгаворіна, што пад'едуць ны кані, а тута німа і німа.*

ДАГАДЖЫВАЦЬ I *незак.* Псаваць да канца. *Нашто ж ба табе ў такую грязь баціныччкі дыга́джывыць.* ДАГАДЖЫВАЦЦА *незак.* Псавацца да канца. *Пась-*

*ледній пінжачы́шка дыга́джывыіцца, саўсім маліц ня думыіць, як на сьвеці жыць.*

ДАГАДЖЫВАЦЬ II *незак.* Дагаджаць. *Людзі, спасіба, ні ткызалі, прішлі, а як табе дыга́джывыць, наверна, ніхто на сьвеці ні знаіць.*

ДАГАЛДАМАЧЫЦЬ, ДАГАЛДАМАЧЫЦЦА *зак.* Змарнатравіць. *Гылдыма́чыць — ета ні нубуваць, скора і кыравёнку дыгылдыма́чыць, тады, можа, пунчыну прыдасьць. Кывалёнык дыгылдыма́чыўся, большы нечыга зыгыняць у бутылычку.*

ДАГАНДЛЯЧЫЦЬ, ДАГАНДЛЯЧЫЦЦА *зак.* Гандлюючы, дайсці да пэўных вынікаў. *Яны дыгындля́чуць, што прідзіцца пасьледній хвост з двыра цягнуць. Дыгындля́чыліся ды пасьледніга, большы нечыга прыдываць, сідзяць склаўшы рукі.*

ДАГАНЯНЫЙ, ДАГАНЯТЫЙ *дзеепрым.* Акучаны (пра распашныя культуры). *Ну Вуглах бульба дыгыня́на, асталыся ны Рыгалёвым абыгнаць. Кылі быракі дыгыня́ты, нада за моркву брацца, на ёй травішча, травішча зысідаіць.*

ДАГАРЛАНІЦЬ, ДАГАРЛАПАНІЦЬ, ДАГАРЛАНІЦЦА, ДАГАРЛАПАНІЦЦА *зак. асудж.* Накрычацца. *Дыгырла́ніш — так цябе успакоюць, што задзівісься, думыіш, дуры твае усё цярьпець будуць. Уселіся ны лавычку і зывялі песьні, а Ганна выскачыла ды хлыбазінью іх ат хаты,— во дыгырлыпа́нілі. І ты дыгырла́нісься, што ўнімуць, як Сьціпана ўнялі: і пыцішэў, і пыспыкайнеў. Чаго йта я дыгырлыпа́нюся, што я, ніпраўду скызаў ці што.*

ДАГАСЦЯВАЦЬ, ДАГАСЦІЦЬ, ДАГАСЦЯВАЦЦА, ДАГАСЦІЦЦА *зак.* 1. Пагасціць да пэўнага часу. *Дыгасьцю́іць, што яго папросюць аттуля. Чуць ні ды кыляд дыгасьцілі Лукерыіны сваты. Ладна дугусьцюва́ліся, у Ільлі ні крошкі сала ні асталыся. Яны дыгысьця́цца знаіш дакуля, пакуля цёпла станіць.* 2. Выдаткаваць у выніку частавання. *Ну што вы, дугусьцюва́лі, большы нечым гусьцюваць? С тваёю натурыю дагосьціш, што дзеці будуць галодныя. Дыгасьцю́іціся сы свытамі, што ў лета бізь нічога астаніціся. Не, я ды такога ні дыгашчу́ся.*

ДАГЕРОЙСТВАВАЦЬ, ДАГЕРОЙСТВАВАЦЦА *зак. эмац.* Дайсці да крайняй меры ў балаўстве, свавольстве. *Ты дыгіройствыіш, як пруціну харошыю вазьму ды пы-*

*ганю ў хату. Дыгіройствывыўся, што сядзіць пыт павецьцю і ня пікніць.*

ДАГІМОРНІЧАЦЬ, ДАГІМОРНІЧАЦЦА *зак.* Дакапрызнічаць. *Дыґіморнічыіш, што міску зыбяру і астанісься галодный. Дыґіморнічыўся і пашоў зарёўшы, во што зь ґіморыў буваіць.*

ДАГІШЭХТАВАЦЬ, ДАГІШЭХТАВАЦЦА *зак. эмац.* Дайсці да пэўнай мяжы ў сяброўстве. *Дыґішэхтыіця вы іс сваім Сярёжкыю, што пупыдзіцё, куды Мыкар цілят ні гыняў. Во дыґішэхтывыліся Каця с Тымаркыю: ужо сварюцца.*

ДАГЛАДЗІЦЬ, ДАГЛАДЗІЦЦА *зак. перан. іран.* Скончыць улешчванне, пяшчоты. *Ці помніш ты, як Трыхімёнык Антона дыгла́дзіў: усё угыждаў, паіў, а тэй пупаў яго ў лесі, прытакол сыставіў і ў суд. Ды сваркі яны лёхка дыгла́дзюцца, дабром у іх ня кончыцца.*

ДАГЛУЗДЗІЦЬ *зак. неадабр.* Скончыць балбатню. *Калі ўжо ён свае басьні даглузьдзіць, і язык жа ні зыбаліць ні разу.* ДАГЛУЗДЗІЦЦА *зак.* Дабалбатацца. *Дуглузьдзіўся, што дайжа Дзім'янёнык ня хочыць слухыць.*

ДАГЛЫБІЦЬ, ДАГЛЫБІЦЦА *зак.* Паглыбляючы, дайсці да пэўнай мяжы. *Даглы́біш ты ету ямку, што сьценкі аб'едуць і ўся твыя работа прыпадзець. Даглы́біліся, нывыбіралі торху, што саміх зы адною каплію ні прідушыла.*

ДАГЛЯДЫВАННЕ *н.* Прыгляд. *Якоя ні дыгля́дывыньня, ну біс куска хлеба ні сядзіць і абед усігда зварюць.*

ДАГЛЯДЫВАЦЬ *незак.* Прыглядаць. *Я цябе січас гляджу, а ці будзіш ты мяне дыгля́дывыць, як я стану ста́рыя, ці будзіш ваду пыдывацъ?*

ДАГОДЖАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Задаволены. *У мяне б такей мужык быў і прігледжыный, і дагоджыный, а ў цябе атряхыю ходзіць.* 2. Дагледжаны. *Дужа ты любіш, каб табе кругом було дагоджына.*

ДАГОЦАЦЬ, ДАГОЦАЦЦА *зак. неадабр.* Дагойсацца, дабалавацца. *Січас вы дагоцыіця, вун бацька с пугыю ідзець, ён дасьць вам рызьбіваць сена. Дудуреўся, дагоцыўся, у гіпсі ляжыць: пырьхнуў с капы і на нейкій бугорчык, ныга пыць сябе і крэх.*

ДАГРОБКІ *мн. жарт.* Заканчэнне зграбання. *Можа вам паможч дагрёбкі спруўляць? Памянш.* ДАГРОБАЧ-

КІ. *Ну што, у цябе сяньня дагрёбычкі, сена сваё у резьвіных пынясеш ай сын тачку падгоніць?*

ДАГРЫБІЦЦА *зак. іран.* Дакапрызнічаць. *Дагрібіцца, што ныпраўду складзець грібы і пойдзіць, спакой яму будзіць.*

ДАГУТАТОРЫЦЬ *зак.* Правесці час у павольнай гутарцы. *Да первых пітухоў дугутаторілі, во сколька яны учыцьвярых праседзілі.* ДАГУТАТОРЫЦЦА *зак.* 1. Дамовіцца. *Ныўряд, каб яны дугутаторіліся ды чаго, тэй сапрынывіц нічога ня ўступіць.* 2. Дайсці да пэўных вынікаў у павольнай гутарцы. *Дугутаторіліся, што каровы усім тубуном уваліліся у вык.*

ДАДЗЕЛАЦЦА *зак.* 1. Дарабіцца. *Ні прідумыю, калі мае ночвы дадзелыюцца, ніяк ні пыдбяру ўремя атырваць.* 2 *перан.* Стаміцца робячы. *Так дадзелыўся, што пышывяліцца трудна, печ класьць — цяжолыя работа.*

ДАДЗІКАВАЦЦА *зак.* Надзівавацца. *Дыдзікўіціся, што Сьвірід выйдзіць і мыцірікоў нагнець.*

ДАДРАЖНІЦЬ, ДАДРАЖНІЦЦА *зак.* Дражнячы, дайсці да крайніх вынікаў. *Дыдрáжніця, што ён каторыга паленым луманець. Дыдражніліся, пулучылі сваё, большы ныўряд ці ўздумыюць калі дражніцца.*

ДАДРЫНЧЭЦЬ, ДАДРЫНЧЭЦЦА *зак.* Пры бразганні дайсці да крайніх вынікаў. *Дыдрынчэлі, што я іх аць сянец гоным пыгнала. Аднаго прутуріла, і етый січас дыдрынчыцца ў мяне, палучыць сваё.*

ДАДРЫХНУЦЬ, ДАДРЫХНУЦЦА *зак. груб.* Даспацца да пэўных вынікаў. *Дадрыхніць, што Каця куска хлеба яму ні дасьць. Дадрыхніцца гультай, ета ж нада, лабрэцішча сам у сабе, а палку дроў піріськіваць ня хочыць, ноч цігаіцца, а дзень варочыіцца з боку на бок.*

ДАДУЦЬ *зак. жарг.* Усвядоміць, зразумець. *Ніхай сабе, што рытазей, а кілбаскі дадўў атрезыць: нож прівізаў к паплеціні і ачшмулювáў.*

ДАЁЧЫЦЦА *зак.* 1. Адпакутаваць. *Іна ўжо сыма рада, што даёчылыся, ета закрый і замілый бог так ліжаць.* 2. Даскардзіцца. *Ты дабегыіш і даёчысься, што ён цябе калі-небудзь у хату ня пусьціць.*

ДАЖАДНІЧАЦЬ, ДАЖАДНІЧАЦЦА, ДАЖАДЫВАЦЦА, ДАЖАДАЦЦА *зак.* Праяўляючы сквапнасць, дасягнуць крайніх вынікаў. *Ікраз такей самый Мыксімёнык быў, над усім трёсься, а во дыжáднічыў, нічога ні нада. Пыдажджыця, дыжáднічыіціся, дужа вам ні хвытаіць нічога. Дыжáдывыіцца ён, дыбярецца і дыхвытаіц-*

*ца, ніяк ні нысытаіцца яго горла. Дальшы ўжо і Кычанёнык ня хочыць касіць, дыжáдыўся.*

ДАЖАЛКАВАЦЦА *зак.* Даскардзіцца. *Ета ці казка, ці праўду рысказывылі: дычка дужулкувáлыся, што бацька яе ны вярёвычку і павёў к мужуку.*

ДАЖЫВАННЕ *н.* 1. Пражыванне. *Яе дыжывáньня було нядренным, нявестка ладна глядзела, нечыга богу гряшыць.* 2. Зжыванне. *Што ж вы глідзіцё ны такоя дыжывáньня, худзь ба тýкнулі, усё хіньню ідзець.*

ДАЖЫВАННІК *м.* Той, хто дажывае. *Толька што дыжывáньнікі асталіся ў дзяреўні, сваё аттрудзіліся, зь іх работы ня спросіш.* ДАЖЫВАННІЦА *ж.* *Сідзяць дыжывáньніцы ў халупых, бядуюць, як зіму пірятлець.*

ДАЖЫДАННЕ *н.* Чаканне. *З дыжыдáньня толку ня будзіць, нада самім думыць, як дроў прівезьць.*

ДАЖЫДАЦЬ *незак.* Чакаць. *Нечыга сьнегу дыжыдáць, як выбіріцца мінутка, лезьця на крышу ды пычыняйця.*

ДАЖЫМАЦЬ *незак.* 1. Даціскаць да канца. *Дыжымайця кряпчэй, іначы дзіржацца ня будзіць, разьедзіцца.* 2 *перан.* Дакончваць. *Дыжымáйця, хлопцы, усё сы скыўрады, ніхай нічога ні астаецца.* ДАЖЫМАЦЦА *незак.* Даціскацца да канца. *Круціця яшчэ, дыжымáіцца, саўсім нямнога астаецца дацісnуць.* ДАЖМАЦЬ *зак.* 1. Даціснуць да канца. *Пітля ета крепкыя, ня лопніць, нада ладный крюк закласьць і пацісnуць удваіх, каб дыжмáць ды кынца.* 2. Дакончыць. *Як жа дыжмáць ету тарелку, многа астаецца.* ДАЖМАЦЦА *зак.* Даціснуцца да канца. *Ня бойціся, задоўка крепкыя, ныціскайця, січас дажмецца.* ДАЖМАТЫЙ *дзеепрым.* Даціснуты да канца. *Пакручывыйця, пакручывыйця, як будзіць дыжмата, я скажу.*

ДАЗВЯЗДЗІЦЬ, ДАЗВЯЗДЗЯЧЫЦЬ, ДАЗВЯЗДЗІЦЦА, ДАЗВЯЗДЗЯЧЫЦЦА *зак.* Б'ючы, дайсці да пэўных вынікаў. *Ну во, адзін дызьвязьдзіў, ужо і на вуліцу ні пыказывыіцца. І етый арціст дызьвізьдзячыць, што пыбягіць сам зарёўшы. Дызьвязьдзіцца, што сымаго аткытаюць калі луччы некуды. Во як дызьвізьдзячыўся Лукашонык: ляжыць с прулуманыю гылавою.*

ДАЗЯБНУЦЬ, ДАЗЯБНУЦЦА *зак.* Намерзнуцца да пэўных вынікаў. *Адзін раз халодна, другей халодна, дызябніш, што зыбалеіш. Скажы, ніхай хырашэнька ныдзяецца, ато дызябніцца, што рымацізмы пытхваціць.*

ДАІЦЬ *незак.* Выдойваць з вымені (пра малако). *Як*

*даю мылако, унук стаціь с кружкыю с аднаго боку, а кошка аблізыіцца з другога.* ДОЕНЫЙ *дзеепрым. Ета мылако ўраньні доіна, яно ні магло пракіснуць, можа ты ня с тога гырлыча ліў.*

ДАЙЦІЦЦА *зак.* Дайсці (пра чутку). *Скызала адной Сьвірідзіхі, а цірязь дзень ужо сюда дайшлося.*

ДАҚАВЯРАЦЬ *зак.* 1. Дакапаць, няўмела даараць. *Січас пріду, дыкывіряю грядку. Зь яго пахырь такей, ну дыкывіряў кусочык.* 2. Пры калупанні, капанні дасягнуць пэўных вынікаў. *Ты ў мяне дыкывіряіш: пруціка палучыш і зыпішчыш.* ДАҚАВЯРАЦЦА *зак.* 1. Дакапацца, няўмела даарацца. *Нада як-небудзь да гліны дыкывіряцца, печ абмазыць. Лі кынаўкі ўсё дыкывірялыся.* 2. Пры калупанні, капанні дасягнуць пэўных вынікаў. *Дыкывіряісься, што болька яшчэ большы рызбаліцца; кылі рана засохла, нілізя трогыць.* ДАҚАВЯРАНЫЙ *дзеепрым.* Дакапаны, няўмела даараны. *Ці відзілі вы тэя дыкывіряныя кусочыкі, ці тамыцька троху папорыта, ці не.*

ДАҚАЛАМСАЦЬ, ДАҚАЛАМСІЦЬ *зак.* 1. Дамясіць. *Дыкылымсáіш грязь, што калошы там астануцца. Ці ўвесь вы глей дыкыламсілі?* 2 *перан.* Давычвараць. *Дыкылымсáюць, што Аксюта выйдзіць і нылаіць бакі. Дыкыламсілі, сыгналі ахоту, сідзяць ны бярьвеньні, рузмундыкывыюць.* 3 *перан.* Датузаць. *Дыкылымсáіш ты яго, што ён цябе паб'ець. Ты яго дыкыламсіў ды пасьледніга.* ДАҚАЛАМСАЦЦА, ДАҚАЛАМСІЦЦА *зак.* 1. Дамясіцца. *Чуць мы дыкылымсáліся біз дарогі, іціць саўсім нілізя. Дыкыламсіліся, ногі мокрыя, каб хуць прастуды ні схваціць.* 2. Давычвараць. *Дыкылымсáюцца, што старэй іх прыздравіць. Дыкыламсіліся, сьціхлі, большы ня чутна.* 3 Датузацца. *Дыкылымсáліся, што адзін другому нос чуць ні зьвярнуў. Ды чаго яны дыкылымсяцца, етыя балыўнікі?* ДАҚАЛАМСАНЫЙ, ДАҚАЛАМШОНЫЙ *дзеепрым.* 1. Дамешаны. *Ну, ўся грязь ужо дыкылымсáна, ня толька ныгамі, а й рукамі, знаць, мясілі. Ці ў цябе тута ужо дыкыламшона ай яшчэ лезьць нада?* 2. Датузаны. *Етый маліц саўсім дыкылымсáн. Я віджу, што ты ўжо дыкыламшоный.*

ДАҚАЛАМСОЛІЦЬ, ДАҚАЛАМСОЛІЦЦА *зак. метаф.* Дайсці з цяжкасцю з-за адсутнасці дарогі. *Грязішчыю чуць дыкыламсолілі, ніскολька нілізя іціць. Як ён дыкыламсоліцца ў бацінычкых, кылі ў сыпыгах ня дужа пройдзіш.* 2 *эмац.* Давычвараць. *Дыкыламсолілі, што Пракоп упіхнуў іх у хату і зышчапіў. Яны ў Пітрыка сі-*

*час дыкыламсолюцца, тэй доўга рызгыварівыць ні станіць.* 3 *эмац.* Датузацца. *Дыкыламсолілі, што адзін другому насы пырызьбівалі. Дыкыламсоліліся, аж зыхакыліся, ні прадыхыюць.* ДАКАЛАМСОЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Затузаны. *Сідзяць пыт плятнём дыкыламсоліныя.*

ДАКАНЦЫЛЯРЫЦЬ, ДАКАНЦЫЛЯРНІЧАЦЬ, ДАКАНЦЫЛЯРСТВАВАЦЬ, ДАКАНЦЫЛЯРЫЦЦА, ДАКАНЦЫЛЯРНІЧАЦЦА, ДАКАНЦЫЛЯРСТВАВАЦЦА *зак.* Працуючы ў канцылярыі, дайсці да пэўных вынікаў. *Мылашонык дыкынцыля́рій, што стыршына выгыняіць яго. Абоя дыкынцыля́рнічылі, на пеньсіі цяперя, яны дужа доўга работылі тама. Дыкынцыля́рствывый, што чуць у цюрму ні пупаў, нешта круцілі тама з булгакцірым. Ні знаю, ці дыкынцыля́ріцца ён ды чаго харошыга. Ну во, дыкынцыля́рнічыліся, нада разым са ўсімі у касу стынавіцца. Яны ды чаго хочыш дыкынцыля́рствыюцца, могуць у любую пятлю ўскачыць.*

ДАКАПАРЫЦЦА *зак.* Атрымаць пэўныя вынікі пры кешканні. *Дыкыпаріліся, што машына пышла, цяперя усьлед з вузламі ні пыбягіш.*

ДАКАПАЦЬ *зак.* Атрымаць пэўныя вынікі пры капанні. *Ці ікая трешчынка была, ці мышы пытачылі, капыла ў погріб, сьціна пыдмякла і аб'ехыла, кусок столі уваліўся,— во й дыка́пыла, рый новый погріб.*

ДАКАПАШЫЦЦА *зак.* Варушачыся, дасягнуць пэўных вынікаў. *Пыглядзіш, твае кормнікі дыкапошуцца: достычкі рассунуць і ўцякуць.*

ДАКАПЦЕЦЬ *зак.* 1. Дацьмець, дагарэць. *Тама дзьве гылавешычкі дыкыпця́ць ды зымяту.* 2 *перан. эмац.* Дажыць да скону. *Можа ды зімы як-небудзь дыкапчу. Так я ўжо жыць ні хачу, каб раншы дыкапцець.*

ДАКАРАЦІЦЬ, ДАКАРАЦІЦЦА *зак.* Укараціць да пэўнай меры. *Дыкароціш палку, што і ў шульцых ня будзіць ліжаць, усякій раз меріць нада. Відзіш, ды чаго дыкыраціўся сы штындарікым: ны адну чэцьвірць зыкыпаць можна, дык стыяць ня будзіць.* ДАКАРОЧАНЫЙ *дзеепрым. Реж на дровы свае дыкарочыныя брусочыкі.* ДАКАРАЦЁМШЫ *дзеепрысл. Пыглядзіш, што дыкырацёмшы выкініш.*

ДАКАРМЛІВАЦЬ, ДАКАРМЛІВАЦЦА *незак.* 1. Выдаткоўваць корм. *Лугавоя сена з восіні ні дыка́рмлівыйця, к вясьне пудблюдайцця. Нілізя дыка́рмлівыцца, каб ні клыка ў пуні ні астывалыся.* 2. Карміць да пэўнага тэрміну. *Глядзіця, ня едзьця так шурока, нечым будзіць*

*дыка́рмлівыць ды травы. Ні забувайця, што дыка́рмлівыцца прідзіцца.* ДАҚАРМІЦЦА *зак.* Выдаткаваць корм. *Яны дакормюцца, што ў пылавіну зімы ня будзіць ні клыка.*

ДАҚАРСТВАВАЦЦА *зак.* Дамучыцца, дапакутаваць. *Дыка́рствывылыся Аріна ды кынца, гаворіць, пряма змагі німа цярьпець болій.*

ДАҚАРЫЦЕЛЬНА *прысл.* Вельмі надакучліва. *Ён усігда дыкаріцільна гаворіць, ета с такога пріродзьдзя чылавек.*

ДАҚАРЫЦЕЛЬНАСЦЬ *ж.* Вялікая надакучлівасць. *Як мне ныдаела яго дыкаріцільнысьць, каб хто толька знаў і ведыў!*

ДАҚАРЫЦЬ *зак.* Надакучаць, апрыкраць. *Губыріха так дыкаріла Смыляку, што аблаіў яе і пашоў двору.*

ДАҚАХІҚАЦЬ *зак. эмац.* Дакашляцца. *Дыкахікыіш, што ў лёхкія ікая хвароба уваліцца, тады пойдзіш пылызаретых цігацца,— січас нада лячыцца, ні зупускацца.*

ДАҚІДАЦЦА *зак.* 1. Дашпурляцца. *Дакідыіціся, як пупыдзіцё у вакно, мала вам тады ня будзіць. Дыкіда́ісься, што ні пулучыў хлыбазіны, дык палучыш.* 2 *перан.* Перастарацца. *Дакідылыся Мархва: ляжыць пасьці бізь дзьвіжэнія. Дыкіда́іцца ён, што зваліцца з ног, ні ў яго гады так кіда́цца.*

ДАҚЛАДАЦЬ *незак. перан.* Қласці. *Қылы цябе ўсе хахочуць: нашто ты сілу сваю дыклыда́іш.* ДАҚЛАДАЦЦА *незак.* Қласціся. *А ці падумыў ты, ны каго яе сіла дыклыда́лыся.* ДАҚЛАСЦЬ *зак.* Пакласці. *Дыкладзеш пасьледнію сілу, а тады нікому ні нада будзіш.* ДАҚЛАСЦА *зак.* 1. Дакласціся. *Нымыхалыся на етым сені, ніхай так ляжыць кыпа, дыкладзецца заўтря, на дождж ні пыказыіць.* 2. Навучыцца. *Росту можа чуць-чуць вышы, а то й такей, ну пынятлівый, ны машыных зразу дыкла́ўся.* 3. Паведаміць, паведаміцца. *Ні пасьпеў пріціць, ны дарогі пірінялі, дыкла́ліся,— як іх што парола.* 4. Пакласціся. *На чорта лысыга сіла дыкла́лыся.* ДАҚЛАДЖАНЫЙ, ДАҚЛАДЗЕНЫЙ, ДАҚЛАТЫЙ *дзеепрым.* 1. Даложаны. *Адна кладка дыкла́джына, нада другую пычынаць. Стажкі дыкла́дзіны і завершыны нічога, ні далжно б дажджом прыбраць. Дыкла́тыя копы ні прымякнуць, Хведзька хырашо вяршыў, а нідыкла́тыя прідзіцца рысьцягывыць, пірясушывыць.* 2. Навучаны. *З мылалества дыкла́джыны ды ўсяго. Як дзіцёнык дыкла́дзіный ды работы, тады маткі ня горя. Нада, каб змалку*

*дзеці былі дыкла́тыя да дзела, каб і ў хаці пымаглі, і зы хатыю.* 3. Данесены, паведамлены. *Ні пасьпелі двору пріціць, яму ўжо дыкла́джына, сь кім пыстыяла, сь кім пыгывapiла,— што йта зы народ пашоў! Раз мне дыкла́дзіна, гаворіць, я должын рызьбірацца. Мала што табе дыкла́та, ты сам падумый, ці ета праўда, ці не.* 4. Прыраўнаваны. *У мяне ўжо столька дыкла́джыных ухажорыў, што ні сышчытаць. Мне і Тымарка дыкла́дзіна, і Аксюціна дычка, і каго толька мне ні пріклыдалі. Ты паспробый дыгыдайся, хто мне ўжо дыкла́т.*

ДАКРЫМЗАЗОЛІЦЬ, ДАКРЫМЗАЗУЛІЦЬ, ДАКРЫМЗАЗОЛЬНІЧАЦЬ, ДАКРЫМЗАЗУЛЬНІЧАЦЬ, ДАКРЫМЗАЗОЛІЦЦА, ДАКРЫМЗАЗУЛІЦЦА, ДАКРЫМЗАЗОЛЬНІЧАЦЦА, ДАКРЫМЗАЗУЛЬНІЧАЦЦА *зак. эмац.* Завяршыць справу нязграбна. *Ні знаю, ці дыкрімзазоліць іна етыя свае рубашкі. Дыкрімзазу́ліў карзінку: роіла, што ў рукі ні ўзяць, зь яе бульба пывысыпа́іцца. Дыкрімзазольнічыў крышу, сяньня зьлез, тама ны два дні было работы, а ён пасьці месіц сядзеў. Ці ты дыкрімзазу́льнічыіш етыя кросны, ці яны і ў лета астануцца рысьпяўшы стыяць у хаці? Каб хто другей, за час ба кончыў, а ета варзёпа к вечыру чуць дыкрімзазоліłыся. Ці скора ты тут дыкрімзазу́лісься, абеды ўжо ны дваре. Сядзь ты хуць пару карзінык насып, ато іна к пацёмкым ні дыкрімзазольнічыіцца. А ўжо як дзелыў — ня дзелыў, дыкрімзазу́льнічыўся і ладна.*

ДАКРЫЎЛЯЦЦА *зак. перан.* Дадражніцца, дакапрызнічаць. *Дыкріўля́іцца, што прута палучыць, во што зыработыіць. Сьпі, ато дыкріўля́ісься, можа табе ішчэ сосычку ў зубы даць.*

ДАКТАРЫШКА *м. памянш.-зніж.* Урач. *Пріслалі туды нейкыга дыктарішку, па-мойму, ён ішчэ нічагенічка ні пынімаіць.*

ДАКУЗНЕЧЫЦЬ, ДАКУЗНЕЧЫЦЦА *зак. метаф.* Дайсці да пэўных вынікаў пры няўмелым майстраванні. *Ты ім мылаткоў у рукі ні дывай, ато дукузьнечуць, што пальцы адзін другому пыдбіваюць. Адзін ужо дукузьнечыўся, з зывязыныю рукою ходзіць, і яшчэ каторый пацсуніцца.*

ДАКУМЕКАЦЬ, ДАКУМЕКАЦЦА *зак.* Зразумець. *Ну няўжэлі ён ні дукумекыіць, што Прытасёнык шуціць пра сена. Ты ім дай урэмя дукумекыцца, зразу яны нічога ня поймуць.*

ДАКУРАЛЕСІЦЬ, ДАКУРАЛЕСІЦЦА *зак. эмац.*

Давычвараць. *Дукуралесілі, што іх пызвалі у сільсавет і крепкій ныгыняй далі. Дукуралесіліся, Пылага іх ныстраміла, ныстраміла, стыялі спусьціўшы галовы.*

ДАКУРЫВАЦЬ *незак. метаф.* Дапальваць (у печы). *Скарей дакýрівый печ, нівісь якоя ўремя.* ДАКУРЫВАЦЦА *незак.* Дапальвацца (у печы). *Печ ужо дакýрівылыся, як яны прібеглі.* ДАКУРЫЦЬ *зак.* Дапаліць (у печы). *Печ дукурю і пыбягім, ждаць нікога ня будзім.* ДАКУРЫЦЦА *зак.* Дапаліцца (у печы). *Пыцярьпіця мінутку, січас дакýріцца у печы, там нібальшэя гылавешычкі асталіся.* ДАКУРАНЫЙ *дзеепрым. Печ у мяне дакýріна, толька ні зымітана.*

ДАКЫРХАЦЦА, ДАКЭРХАЦЦА *зак. эмац.* Дажыцца. *Што пры Лявона гываріць, ён дакы́рхыўся, чуць рукамі шавеліць. Як дакэрхыісься ды пасьледніга, тады поймíш, ці нада троху бяресца.*

ДАЛАДЗІЦЬ *зак.* Дайсці да пэўнай мяжы ў дагаджанні. *Ізьвесна, ды чаго яны дыла́дзюць,— ды сваркі.*

ДАЛАЛАКАЦЬ, ДАЛАЛАЛАКАЦЬ, ДАЛАЛАКАЦЦА, ДАЛАЛАЛАКАЦЦА *зак. неадабр.* Дабалбатацца. *Яны тама дылыла́кыюць, што некылі будзіць рыськідаць клевір. Ну што, дылылыла́кыла, ныныва печ зытаплівыць нада? Скажы-ка, ніхай ідуць гресьць, ато дылыла́кыюцца, што дождж зыкапыіць. Дылылыла́кылыся, што й сьвёкыр ня выдзіржыў, зубурчэў, а ён жа дужа ціръпялівый.*

ДАЛАСКАТАЦЬ, ДАЛАСКАЦЕЦЬ, ДАЛАСКАТАЦЦА, ДАЛАСКАЦЕЦЦА *зак. асудж.* Дабалбатацца. *Ты знаіш, ды чаго дыласкочыш: Сярьгей цябе нылаіць і добря чыніць, твой язык даўно урізаць нада. Дылыскацела, што Сільчанок крепка нылаіў, ну й праўда ж, нійдзе спакою сабе найціць ні мыгла. Дыласкочыціся вы, дождж хляніць, сена сухенічкыя як порых і ўсё нымякніць. Во ні було міру, ну дылыскацеліся, муўчаць.*

ДАЛЕЧЫНА *ж.* Далеч. *Айдзе тэя Кымаровічы — дылічынá, з маімі ныгамі пяшком нілізя вупруўляцца.*

ДАЛІКАТНЫЙ *прым. перан.* Кволы. *Іхный увесь род дужа дылікáтный, бацька хырліў і цётка пыстыянна жалілысь. Памянш.* ДАЛІКАТНЕНЬКІЙ. *Ат пріродзьдзя дылікáтнінькія, а яшчэ большы ад гультайства.*

ДАЛІПЕЦЬ *зак. перан.* Дажыць у неспрыяльных умовах або са слабым здароўем. *Як ужо будзіць — ня будзіць, дыліплю у сваёй хаці, ні паеду людзям ныдыідаць.*

ДАЛЫБІЦЦА *зак. груб.* Даўсміхацца. *Стаіць і зубы выскыляіць, ну дальібіцца ён у мяне, усё ўспомню, будуць яму і Машка, і Сашка.*

ДАЛЫСКАЦЬ, ДАЛЫСКАЦЦА *зак.* 1. Дайсці да пэўнай мяжы ў грубым свавольстве. *Глядзі, далыскыіш, эйш ты яго, малыга лупіць і лупіць пы гылаве. Як бацька возьміцца вас успыкаівыць, тады вы далыскыіціся, пызылазіця у цёмныя вугольчыкі і чутна вас ні станіць.* 2. Дапіцца. *Ну што, далыскыў стыканчыкымі,— нада атвучаць, ды позна, було зразу патворы ні дывацць. Далыскыісься, што біз рубашкі двору прібягіш калі-небудзь.*

ДАЛЬШЫ *прысл.* Далей. *Во так ну бугарку наша хата стыяла, а трошку дальшы лі кынавы іхныя.*

ДАЛЯЖАЛЫЙ *прым.* Такі, які набыў патрэбныя якасці, праляжаўшы пэўны час (звыч. пра лён). *Лён нада каб быў дыліжалый, тады ён і мнецца, і трепліцца хырашо.*

ДАЛЯЗАЦЬ *незак.* Лезці, улязаць. *Думыла, хто-небудзь у хату дылізаіць, паслухыла, у вакно глянула — нікога німа і сыбака маўчыць.*

ДАЛЯПКАЦЬ, ДАЛЯПКАЦЦА *зак.* Дайсці да пэўнай мяжы ў выніку ляскання. *Ну й дыляпкыіш, я цябе ўміг путурю хлыбазіныю адзь дзьвярей. Дыляпкыюцца, пыдбіваюць адзін другому пальцы, тады будзіць вазьні.*

ДАМАГАЦЬ *незак.* Асільваць. *Дымыгаю етый аборычык, скора яго паччышчу, усю лазу высіку.* ДАМОЖЧ *зак.* Асілець. *Ні знаю, як даможч сваю бульбу, тама ў мяне дзьве быразны няпоўныя.*

ДАМАДЗЕЦЬ, ДАМАДЗЕЦЦА *зак.* Дажыць у цяжкім становішчы. *Нікуды я ні зьбіраюся ехыць, можа як дымадзею тута. Як жа іна адна дымадзеіцца, нада, каб дочкі бралі к сабе на зіму.*

ДАМАКЫВАЦЬ *незак.* Завяршаць маканне. *Дымакывыйся скарей, бацька пашоў кыня зыпрігаць, складзёмся січас і паедзім.* ДАМАКЫВАЦЦА *незак.* Завяршацца (пра маканне). *Нешта ў цябе дужа медлінна дымакывыіцца, ну ні дыясі — ня пойдзіш, як я скызаў, будзіць.* ДАМАКАЦЬ *зак.* Завяршыць маканне. *Сьмітану ўсю дымыкалі, а ладык трошку асталыся, ніхай, ны абед будуць.* ДАМАКАЦЦА *зак.* Завяршыцца (пра маканне). *Як дымыкаісься ды дна, тады бягі, а так еж, што йта ты будзіш галодный.* ДАМАКАНЫЙ *дзеепрым. Кылі ны*

*скыўрадзе усё сала дымыкáна, аткулупні нажом са слоічка і пылажы кусочык.*

ДАМАМЫЛІЦЦА *зак.* Дасягнуць пэўнага выніку пры надзіманні. *Відзіш ты яго, надуўся, мала яму пячэнінык,— дымамы́лісься, што і етых ні палучыш, зыбяру і ўсё па ўсём будзіць.*

ДАМАМЫРЫЦЦА *зак.* Дасягнуць пэўнага выніку пры моцным надзіманні. *Дымамы́ріцца, што ныпраўду пойдзіць зыплакыный, я дужа такея капрызы унімаць умею,— умею і люблю.*

ДАМАРДАВАЦЬ *зак.* Дамучыць. *Дымардýіць кыня, што аглоблі пулумаіць.* ДАМАРДАВАЦЦА *зак.* Дамучыцца. *Дымардýіцца цялёнык, што вярёўку закруціць і зыдавіцца.*

ДАМАРУДЗІЦЬ, ДАМАРУДЗІЦЦА *зак.* Дасягнуць пэўных вынікаў пры кешканні. *Дымарýдзіця, што ўсе коні зывядуць, будзіця цягнуцца трі вярсты, а тут жа хлопцы могуць завесьць. Сярьгей троху ждаў, ну ці ён два часы будзіць стыяць, сеў і паехыў, во й дымарýдзіліся.*

ДАМАСЛІВАННЕ *н. перан.* 1. Адштукоўванне, давядзенне да бляску. *Як сядзіць за што, ня кініць свайго дымáсьлівыньня, адзін клец будзіць пуўдня масьліць.* 2. Абходжванне. *Нешта ні пымагло Кусьцючонку дымáсьлівыньня, ня зьдзелыў брігадзір яго сторыжым.*

ДАМАСЛІВАЦЬ *незак. перан.* 1. Адштукоўваць, даводзіць да бляску. *Ён тама шкапчык дымáсьлівыіць, дзьверцы усё ні пы яго сыдзяцца, пыдгыняіць.* 2. Абходжваць. *З-зы таго дымáсьлівыюць Піліпёнка, што пыбішчаў нейкыга зяця Машкі прівесьць, а ўжо ці прівядзець, ці так тріпануў, хто яго ведыіць.* ДАМАСЛІВАЦЦА *незак.* 1. Адштукоўваць, даводзіць да бляску. *Хваціць дымáсьлівыцца, заўтрік наліт, стыніць на ўслончыку.* 2. Поркацца, кешкацца. *Нешта сы сваім тряп'ём дымáсьлівыіцца твыя Гашка.* ДАМАСЛІЦЬ *зак.* 1. Адштукаваць, давесці да бляску. *Запечкі дымáсьліў, абгладзіў, што яечка, давёў.* 2. Знішчыць у час апрацоўкі. *Дымáсьлюць кушын, што з рук выпусьцюць, адно шкляньня астаніцца.* 3. Вывесці з сябе празмерным дагаджаннем. *Во ды чаго ён дымáсьліў Платона, тэй ужо ў суд зьбіраіцца пыдываць.* ДАМАСЛІЦЦА *зак.* 1. Адштукаваць, давесці да бляску. *Калі ты зь естымі грыблямі дымáсьлісься?* 2. Дапоркацца, дакешкацца. *Дымáсьліціся зь ірундою, што дождж хляніць і сушэньня ваша прахым пойдзіць.* 3. Дасягнуць пэўных вынікаў пры абыходжанні. *Етыя людзі як веціp,*

*зы нядзелю дымáсьлюцца, што лаіцца будуць.* ДАМАСЛЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Адштукаваны, даведзены да бляску. *Рямы ўжо так дымáсьліны, што луччы і ні прідумыйй давесьць.* 2. Упарадкаваны. *Ён біспырядку ня любіць, у яго ўсё будзіць дагледжына і дымáсьліна.* 3. Дагоджаны. *Ну-у, ат Лявонывых ён пойдзіць дымáсьліный.*

ДАМАСОЛІВАЦЬ *незак.* Дажоўваць, дагрызаць. *Ну ніхай ціха пысядзіць, ён сваю костку дымасолівыіць.* ДАМАСОЛІВАЦЦА *незак.* Заканчваць важданіну, порканне. *Скарей дымасолівыйціся, некылі вас ждаць, конь стаіць запрежыный.* ДАМАСОЛІЦЬ *зак.* Дажаваць, дагрызці. *Аткінь тряпку аць цялёнка, ён яе саўсім дымасоліць, а хочыш — у горла увапрець, тады дыстываць будзіш.* ДАМАСОЛІЦЦА *зак.* 1. Дамасліцца, даквэцацца. *Дыла малыму кусочык сала — сядзеў, муўчаў, а тады глянула: ён так дымасоліўся, хуць у атмочку кладзі.* 2. Закончыць важданіну, порканне. *Ім нада многа ўремя с тряпкымі дымасоліцца.* ДАМАСОЛЕНЫЙ *дзеепрым. Ці ў цябе тута ўсё дымасоліна?*

ДАМАСТАЧЫЦЬ *зак. эмац.* 1. Скончыць майстраваць. *Во калі дымыстáчыў сваё прічындальля, цэлыю нядзелю сядзеў.* 2. Дасягнуць пэўных вынікаў пры майстраванні. *Ты ў мяне січас дымыстáчыш,— усю тубуретычку зымазыў краскымі.* ДАМАСТАЧЫЦЦА *зак.* Дасягнуць пэўных вынікаў пры майстраванні. *Паўлюк дымыстáчыўся: пальцы пірівязыны, рубанкым, знаць, шырхануў.* ДАМАСТАЧАНЫЙ *дзеепрым. Ого, у цябе ўжо ўсё, аказывыіцца, дымыстáчына!*

ДАМАЎЧАЦЬ, ДАМОЎЧАЦЬ *зак.* 1. Сцярпець у маўчанні. *Я чуць-чуць думуўчáла, ні хацелыся серца лішній раз узрываць. Ета блыгыдыря богу Хведзька дамоўчыў, ато б узьнілася быталія на ўсю дзярэўню.* 2. Дасягнуць пэўных вынікаў у маўчанні. *Дымыўчыцё, што яны на голывы вам сядуць. Дамоўчуць, што ён яшчэ большы рузмудреіць.* ДАМАЎЧАЦЦА, ДАМОЎЧАЦЦА *зак.* Дасягнуць пэўных вынікаў у маўчанні. *Думуўчáліся жалысьнікі: залез у хату і апчысьціў, яго пысадзілі, а каб ні муўчалі, быў ба цішэй. І етый дамоўчыцца ікраз так, як Сеньку було.*

ДАМАХЛЯВАЦЬ, ДАМАХЛЯВАЦЦА *зак.* Дайсці да пэўных вынікаў у махлярстве. *Яны дымахлюіюць, што самі пупадуцца як мілінькія. Думухлювáўся, што чуць біш штаноў ні астаўся мухлювáньнік етый.*

ДАМАХЫВАЦЬ *незак.* Дакідваць. *Во як ён прілаўчыўся мыхаць, ды самыя сасны дымáхывыіць.*

ДАМЕЛЬКАВАЦЬ, ДАМЕЛЬКАВАЦЦА *зак.* Дамеркаваць. *Дымялькýіця, што яны хату прыдадуць і ні ш чым астаніціся, тута думыць нечыга, нада брацьу. Дымількувáліся, што асталіся біз мылыка ў лета, а тыкая кыравіца была ў руках.*

ДАМУЗДЫЧЫЦЦА *зак. эмац.* 1. Скончыць бязладную размову. *Во тыкі чуць-нячуць думуздычыліся, рызыйшліся.* 2. Дасягнуць пэўных вынікаў пры біцці. *Так думуздычыцца, што ня будзіць знаць, аткуля сымаму што ўляціць.*

ДАМЭНЧЫЦЬ *зак. эмац.* 1. Замучыць да канца. *Ты свайго зяця скора саўсім дамэнчыш.* 2. Дацягнуць у часе. *Яны дамэнчуць зь естымі бумажкымі, што мы адны тут астанімся, ты лішній раз схадзі ды рысталкуй.* ДАМЭНЧЫЦЦА *зак.* 1. Дамучыцца. *Дамэнчыліся мы сь пірястройкыю ды пасьледніга.* 2. Дакешкацца. *Па мне як хочыця, так і дзелыйця, ну Ліксандра вам цярьпець ня будзіць, дамэнчыціся, што іна адна паедзіць.* ДАМЭНЧАНЫЙ *дзеепрым.* Замучаны. *Коні дамэнчыныя, нада ім пірядых.*

ДАМЮГА *м.* і *ж. эмац.* Вялікі дом. *Дамюгу сабе ацстроіў за ўсю дзярэўню. Быгатыя дамюга, ну й сілы ён многа улажыў.*

ДАМЯЖДЖУРЫЦЬ *зак. эмац.* 1. Даесці. *Дымяжджýрілі усё сала, а там жа було хунты чатырі.* 2. Дасягнуць пэўных вынікаў пры біцці. *Дымяжджýрюць етыга мальца, што самім пупадзець большы некуды.* ДАМЯЖДЖУРЫЦЦА *зак.* 1. Наесціся да пэўнага выніку. *Дымяжджýріўся, што з глоткі палезла.* 2. Дасягнуць пэўных вынікаў пры біцці. *Во дымяжджýріліся, беглі аць Сямёна на злом гылавы.* ДАМЯЖДЖУРАНЫЙ *дзеепрым.* Даедзены. *Нічога там ні асталыся, усё дымяжджýріна.*

ДАМЯКНУЦЬ *зак.* Змокнуць дадаткова да канца. *Сьпірва ныйшла нібыльшая былачына, нам пупала, схувацца нейдзі, а тады ціріш час хлянуў як зь відра, мы дымяклі саўсім.*

ДАМЯКШЫЦЬ *зак. эмац.* Натаўчы да пэўнага выніку. *Ты яго дымякшыш, ён цябе спужаўся: як раскруціць, як пусьціць, будзіш ляцець мячыкым.*

ДАМЯЦЬ *зак. перан.* Даесці. *Тама пасьці цэлыя буханка астывалыся, ён тую буханку дымяў, злазіў у кублік, дыстаў кусок сала, атпылавініў і храпіць на печы.*

ДАМЯЦЦА *зак.* Пераадолець няўпэўненасць, сарамлівасць. *Доўга мы ждалі, пакуля іна дымялыся, відзім, што хочыць нешта скызаць і ўсё ніяк ні асьмеліцца.*

ДАНЕЖНІЧАЦЬ, ДАНЕЖНІЧАЦЦА *зак.* Дасягнуць пэўных вынікаў залішнімі пяшчотамі. *Вы данежнічыіця, што бяз бульбы астаніціся нáныч, упацёмку дрэнна кыпаць, січас ідзіця. Усё лета пад ручку прыхадзілі, ны скамеічкі аццсэджывыліся, данежнічыліся — сена ні сяніны, карову нада цягнуць ны бызар.*

ДАНОСКІ *мн.* Зношанае адзенне. *Ліжалі даноскі у сенцых пыт палічкыю, тама тряпкі адны. Памянш.* ДАНОСАЧКІ. *Піхала мне нейкія даносычкі, усе на дзірькых, я ні ўзіла.*

ДАНУКАЦЬ *зак.* Дасягнуць пэўных вынікаў пры пабуджэнні. *Данýкыіць, што я яго аблаю, сам ніхай возьміць вілкі ды пыварочыіць.*

ДАНУРАЦЬ *незак.* Даводзіць да знясілення. *Нілізя так дунуряць кыня, на ім на выбітым ні прівязеш нічога.* ДАНУРАЦЦА *незак.* Знясільвацца. *Іна с хызяйствым зь еткім дунуряіцца сыма, на чорта ёй столька ўсяго.* ДАНУРЫЦЬ *зак.* Давесці да знясілення. *Зыцігалі кынька, дунурілі, ён толька ногі пірістыўляіць.* ДАНУРЫЦЦА *зак.* Знясілецца. *Ну й сам ён дунуріўся, высых на шчэпку.* ДАНУРАНЫЙ, ДАНУРОНЫЙ *дзеепрым. Коні саўсім данýріныя, ім нада хуць нядзелю хырашо аддыхнуць. Дунурёныя кыбылёнка, некуды яе ў лес зыпрігаць.* ДАНУРОМШЫ *дзеепрысл. Ні паріміна, а бублы, увесь скот дунурёмшы.*

ДАПАДБІРАЦЬ, ДАПАДБІРАЦЦА *зак. перан.* Дасягнуць пэўных вынікаў пры працяглым выбіранні. *Дыпыдбірáў нявесту, кусаіць сам сябе за локці, ды позна цяперіцька кусаць. Дыпыдбірáліся, большы ні захочуць ні пыдбірыць, ні выбірыць.*

ДАПАНАВАЦЬ *зак.* Пажыць у выгодзе да пэўнага часу. *Дупунувáў Шурік, скора зь яго спадзець карона, прідзіцца сымаму за ўсё брацца.*

ДАПАРОЦЦА *зак.* Дапоркацца. *Дапоріціся тут, што баня прастыніць, ідзіця, посьлі будзіця пірібіраць сваё шмоцьця.*

ДАПЕРАБІРАЦЬ *зак.* 1. Скончыць перабіранне. *Штоб ету цыбулю мне сяньня дыпірібірáлі, чаго йна рысьпяўшы будзіць выляцца.* 2. Дасягнуць пэўных вынікаў пры пераборлівасці. *Дыпірібірáіш, што зыбяру міску і сядзі ня еўшы.* 3 *перан.* Паправіць пасля акучвання.

*Калі прітна возьміціся, скора дыпірібіра́іця грядкі.* ДАПЕРАБІРАЦЦА *зак.* 1. Скончыцца (пра перабіранне). *Ужо нямножка асталыся квасолі, атвечыра дыпірібіра́іцца.* 2. Дасягнуць пэўных вынікаў пры пераборлівасці. *Адзін дыпірібіра́ўся, палез із-зы стыла і другому ета будзіць.* 3. Папрaвіцца пасля акучвання. *Што дыпірібіра́іцца,— нільзя аткладывыць, жарка, конь кідыўся, тыптаў, многа кустоў засыпына, нада дайціць сяньня.* ДАПЕРАБІРАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Перабраны да канца. *Дыпірібіра́ный боб у решыці.* 2. Папраўлены пасля акучвання. *Ну, чуць змаглі, уся бульба дыпірібіра́на.*

ДАПЕТУШЫЦЬ *зак. метаф.* Давесці да пэўных вынікаў пры задаванні. *Усё ні знаў уталону, а во дыпітушы́ла яго, што зьдзелыўся цішэй ціхыга.* ДАПЕТУШЫЦЦА *зак.* Дазадавацца. *Тута быў храбір ціряшчур, а ў Мазылыві дыпітушы́ўся, сьціх.*

ДАПЕЧАНЫЙ *прым. перан. іран.* Разумны. *Ідзі пушукай другіх дапечыных, тута табе дзелыць нечыга.*

ДАПІЛІЦЬ *зак. перан. эмац.* Дагрызці, дабэсціць. *Дапіліш, што паслухыіць, паслухыіць, а тады тряхольля ў мяшок ды ў Жавінку, во тады папіліш.*

ДАПЛЮГАВІЦЬ *зак. эмац.* 1. Дабузаваць. *Дуплюга́віў касьцюмчык, што ў рукі стыдна ўзяць, а ня то што надзець на людзі.* 2. Збэсціць. *Так дуплюга́віла нявестку, усё дно як іна нічога ня стоіць.* ДАПЛЮГАВІЦЦА *зак.* 1. Дабузавацца. *У яго нічога ў чыстаце ні задзержыцца, і братыў пінжачок дуплюга́віцца скора.* 2. Дабэсціцца. *Ён дуплюга́віцца, што палучыць, ажно сам задзівіцца.* ДАПЛЮГАЎЛЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Дабузаваны. *Усё ў яго дуплюга́ўліна, нічога ні бірягець як чылавек.* 2. Збэшчаны. *У іх любэй будзіць дуплюга́ўлін, ета ня людзі, а ніізьвесна хто.*

ДАПЛЯТАЦЦА *незак. перан.* Даходзіць павольна, з цяжкасцю. *Ай, толька што дыплітаюся, ні ны мае ногі тыкая дарога.* ДАПЛЕСЦА *зак.* Дайсці павольна, з цяжкасцю. *Пакуль дыпляцесься ды былынька таго, дык ні хадзіць, а толька лежч ды ліжаць ні пыдымаючыся.*

ДАПРАСТУДЖЫВАЦЬ, ДАПРАСТУДЖАЦЬ *зак.* Дасягнуць пэўных вынікаў пры прастуджванні. *Дыпрасту́джывыіш мальца, што ён у цябе зьляжыць с успаленіім. Вот відзіш, як ты нызыкалівыла — дупрустуджа́ла, што ў бальніцу прішлося класьць.* ДАПРАСТУДЖЫВАЦЦА, ДАПРАСТУДЖАЦЦА *зак.* Дасягнуць пэўных вынікаў пры ўласным прастуджванні. *Дыпрасту́джывыў-*

*ся,— ляжыць, ніізьвесна калі падніміцца. Дупрустýджáіціся, хрыбряцы еткія, рымацізмы пытхваціця.*

ДАПРАЦЦА *зак.* 1. Паперыць, даперыць бялізну. *Старік, бувала, як заносіць бяльлё, дык дыпрáцца нілізя.* 2. Перучы дасягнуць пэўных вынікаў. *Даўно дзелыла шчолык, многа тріп'я сыбрала, так дыпрáлыся, што рукою ні шывяльну.*

ДАПРЫМЫЛЬНІЧАЦЬ, ДАПРЫМЫЛЬНІЧАЦЦА *зак. жарт.* Дасядзецца ў прылазніку. *Дыпрымы́льнічыіця, што вас калі-небудзь Сашка пратуріць аттуля. Дыпрымы́льнічыліся, большы яны туды ні пыкажуцца.*

ДАПРЭМІРАВАЦЬ, ДАПРЭМІРАВАЦЦА *зак.* Пры прэміяванні дасягнуць пэўных вынікаў. *Дыпрымірывылі, што цяперя хуць пац суд аддывай такога цірідывіка. Скора дыпрімірыіцца, як ні адной капейкі ў касі ні астаніцца.*

ДАРАБОЧАК *м. памянш.* Слабы ці трэснуты гаршчок, гладыш. *Дырабочык во стаіць, цякець, варіць у ім нільзя, толька ціpрасыпыць што, зьмяніцца.*

ДАРАГУСЯ *ж. гумар.* Каханая, любімая. *Бягі сустрюкай сваю дырагýсю, вун іна ідзець зь мяшком ад быльшыка. Памянш.* ДАРАГУСЬКА, ДАРАГУСЕЧКА. *Нешта твыя дырагýська даўно тута ні пыказывыіцца. Сяньня пыбігаць ны вічарінку, у Пірядніні у іх многа дырагýсічык.*

ДАРАДЖЫВАЦЬ *незак.* Заканчваць падрыхтоўку кроснаў да ткання. *Была села дыря́джывыць кросны — пыдыйшла Ісаіха, зь ёю пуўдня прудуріл ыся.* ДАРАДЗІЦЬ *зак.* Закончыць падрыхтоўку кроснаў да ткання. *Заўтря ўсё дзела кіну і дыряджý, скора ставы прібірацъ нада, а ў мяне тканьнё ні пычыналыся.* ДАРАДЖАНЫЙ *дзеепрым. Гываріла, што кросны ў яе дыря́джыны.*

ДАРАЗБАНДУРЫВАЦЬ *зак. эмац.* Даразбураць. *Дырызбандýрівыіця етыя яшчычкі, што ні ў водзін нілізя будзіць нічога усыпыць.* ДАРАЗБАНДУРЫВАНЫЙ *дзеепрым. Тама ўсё дырызбандýрівына, нечыга пірівазіць.*

ДАРАЗУМЕННЕ *н.* Узаемаразуменне. *Сь кім ты хочыш, с туркым найціць нейкыга дурузуменьня.*

ДАРАЗУМЕЦЬ *зак.* Зразумець. *Ты во паслухый, трудна дурузумець, чаго ён хочыць.* ДАРАЗУМЕЦЦА *зак.* 1. Зразумець. *Я і січас ні дурузумеюся, пра што яны трілюдзілі.* 2. Дамовіцца. *Ці дурузумеліся вы пра што-небудзь з дуччáнімі.*

ДАРАЗУМЛЯЦЬ *незак.* Павучаць, даводзіць да разумення. *Трудна дурузумляць, кылі гылыва пустая.* ДАРАЗУМЛЯЦЦА *незак.* Дадумвацца, даходзіць розумам. *У жызьні нада сымаму ды ўсяго дурузумляцца.* ДАРАЗУМІЦЬ *зак.* Навучыць, давесці да разумення. *Каму ў мінуту уталкуіш усё, што нада, а другога паспробый дурузуміць.* ДАРАЗУМІЦЦА *зак.* Дадумацца, дайсці розумам. *Як ён дурузуміўся ні пабежч усьлед за хлопцымі ны вічарінку!*

ДАРАЗУРАТНІЧАЦЬ, ДАРАЗУРАТНІЧАЦЦА *зак.* Дасягнуць пэўных вынікаў распуснічаючы. *Ды чаго ён у цябе дурузуратнічыіць, як ты ні падумыіш, што саўсім можыць збысятнічыцца. Дурузуратнічыісься, такую баню палучыш, што большы некуды будзіць.*

ДАРАЗУРАЦЬ *зак.* Разбураючы, дайсці да пэўных вынікаў. *Ну што, усё дурузурялі, большы незышта брацца?* ДАРАЗУРАЦЦА *зак.* 1. Разбураючы, дайсці да пэўных вынікаў. *Дурузуряўся, адна хаччына асталыся і тая як у решыта цякець.* 2 *перан.* Давычвараць. *Па шыі палучыць,— во ды чаго ён дурузуряіцца.* ДАРАЗУРАНЫЙ *дзеепрым. Нечыга глядзець, усё дурузуряна.*

ДАРАМАНЦІРАВАЦЬ *зак.* 1. Закончыць незавершаны рамонт. *Калі вы свае сані дыріманьцірыіця?* 2. Рамантуючы, атрымаць пэўныя вынікі. *Ну, дыріманьцірывыў калёсы, не ны чым у горыд зьезьдзіць.* ДАРАМАНЦІРАВАЦЦА *зак.* 1. Закончыцца (пра рамонт). *Вот дыріманьціpыіцца трактыр, і мы будзім свабодны.* 2. Рамантуючы, атрымаць пэўныя вынікі. *Дыріманьцірывыліся ды кынца, большы нечыга рызьбіраць.* ДАРАМАНЦІРАВАНЫЙ *дзеепрым. Якея ні кылясёнкі, а кылі дыріманьцірывыныя, дык ношку хворыста ускладзеш.*

ДАРАСКУРОЧЫВАЦЬ *зак.* 1. Разбурыць, развярнуць да канца. *Усё тама дурускурочывылі, гніпьлё пывывырачывыныя ляжыць кучыю.* 2. Пры разбуранні дасягнуць пэўных вынікаў. *Дурускурочывыіця хворыст, што пугі ад бацькі палучыця.* ДАРАСКУРОЧЫВАЦЦА *зак.* 1. Разбурыцца, развярнуцца да канца. *Во дурускурочывыіцца дзяреўня, жывэя душы ні астаніцца.* 2. Пры разбуранні дасягнуць пэўных вынікаў. *Нываюісься ты, дурускурочывыісься, што пупадзець чышчы некуды.* ДАРАСКУРОЧЫВАНЫЙ *дзеепрым. Ны Зацэрькыўі усё дурускурочывына, дайжа глядзець неныщта.*

ДАРАССЫПАЦЬ *зак.* Рассыпаючы, дасягнуць пэўнай мяжы. *Дырыссыпаіця крупы, што зваріць нечыга бу-*

*дзіць.* ДАРАССЫПАЦЦА *зак.* Рассыпаючыся, прывесці да пэўных вынікаў. *Дырыссыпáюцца капейкі, у шчэлкі пызакоцюцца, што ні днае ні найдзіш.*

ДАРАШЭЧЫВАЦЬ *незак.* Закончваць прымацоўваць паплёт. *Я ўжо дыряшэчывыю, пасьледнію паплеціну прікручу і лезу.* ДАРАШЭЧЫВАЦЦА *незак.* Закончвацца (пра прымацоўванне паплёту). *У вас ужо, я віджу, дыряшэчывыіцца.* ДАРАШЭЦІЦЬ *зак.* Закончыць прымацоўваць паплёт. *Учора дыряшэціў сваю пуню, буду крыць.* ДАРАШЭЦІЦЦА *зак.* Закончыцца (пра прымацоўванне паплёту). *Тута ужо ні страшна, калі дыряшэціцца, тады й ладна.* ДАРАШЭЧАНЫЙ *дзеепрым.* *Хата і сенцы накрыты пыд адну сьвязь і пунька дыряшэчына, у яго пасьці ўсё ў пырядку.*

ДАРВЫВАЦЬ *незак.* Ірваць да канца, даношваючы. *Што ж ты пычаў дáрвывыць пасьледній пінжачок, нечыга будзіць на плечы увосінь уськінуць.* ДАРВЫВАЦЦА *незак.* Ірвацца да канца, даношваючыся. *Усё старьё дáрвыіцца, нада новыю адзёжу купляць.*

ДАРГАЦЭННА *прысл.* Дорага, каштоўна. *Калі табе ні так дыргацэнна абыйшлося, дык ня ўсім жа вязець адзінакыва.*

ДАРГАЦЭННАСЦЬ *ж.* Каштоўнасць. *Усё хуваіць, усё складывыіць, у цябе дыргацэннысьціў, верна, на дзесіць тысіч.*

ДАРГАЦЭННЫЙ *прым.* Дарагі, каштоўны. *Дзеду ні було айдзе хату пыставіць, купіў гарод за трі рублі, грошы былі дыргацэнныя.*

ДАРЖАЦЬ, ДАРЖАЦЦА *зак. асудж.* Дасваволіцца. *Як схвачу хлыбазіну, дыржыцё вы ў мяне, я ўспыкаівыць умею. Адзін дыржáўся, сядзіць і ня пікніць, і табе тоя самыя будзіць.*

ДАРОБАК *м.* Слабая ці трэснутая гліняная пасудзіна. *Нейкій даробык стаіць с трешчынкыю, пірясып у яго квасолю. Памянш.* ДАРОБАЧАК *м.*, ДАРОБАЧКА *ж.* *Даробычык гаршчонык, цякець, у ім нілізя варіць. Во ў ету даробычку можна пірясыпыць гарох іс кыцілка.*

ДАРЫЦЦА *зак.* Дасягнуць пэўнай мяжы, капаючы. *Так ужо сяньня дары́ліся, хуць лажыся у быразёнку і ляжы, сьпіны́ ні рызагнуць.*

ДАСІПЕЦЬ, ДАСІПЕЦЦА *зак. метаф.* Дабурчацца са злосцю. *У яго хракцір дужа харошый, як ёсьць ня ёсьць, будзіць муўчаць, а ў другога б яны дысіпелі, ско-*

*ра б уняў. Дысіпісься, яй-богу, дысіпісься, ныт'ідаіш маё серца.*

ДАСКІТАЦЦА *зак.* Даблукаць, дабадзяцца. *Мог ба жыць, як усе людзі жывуць, а так во дыськітáіцца, што нікому ні нада станіць.*

ДАСКІРДОВЫВАЦЬ *незак.* Закончваць скірдаванне. *Тама нескылька мушчын асталіся дыськірдовывыць, хочуць стог кончыць, ато каб дождж ні пашоў.* ДАСКІРДОВЫВАЦЦА *незак.* Закончвацца (пра скірдаванне). *Во відзіця, етый стог дыськірдовывыіцца, а другей пычанём ну Лугуваткі.* ДАСКІРДАВАЦЬ *зак.* 1. Закончыць скірдаванне. *Хырашо, што да дождж ыка ўдалося дыськірдувáць стог.* 2. Пры скірдаванні дасягнуць пэўных вынікаў. *С такім мысьцярством дыськірдýіця, што ўсё рызваліцца.* ДАСКІРДАВАЦЦА *зак.* 1. Закончыцца (пра скірдаванне). *А чаго ні дыськірдýіцца, тута нямнога работы асталыся.* 2. Пры скірдаванні дасягнуць пэўных вынікаў. *Дыськірдувáліся мальцы: адзін зьляцеў і руку злумаў.* ДАСКІРДАВАНЫЙ, ДАСКІРДОВАНЫЙ *дзеепрым. Бувала, за цэрьквыю дыськірдувáныя стагі стыяць як лялькі. Хуць стог дыськірдовын як нада, і то хырашо, сена сухенічкыя як порых.*

ДАСКРАБАЦЦА, ДАСКРЭСЦЬ *зак. перан. эмац.* Далезці. *Ня дужа пы сахе дыскрáбыісься, іна гладкыя, як сьцякло. Мне каб даскресьць на пуньку, там ба я ныйшла яец, куры на пунькі часта крічаць.* ДАСКРЭСЦА *зак.* 1. Далезці. *Каб як даскресца да коміна, там нада ўсё хырашэнька абмазыць.* 2. Дайсці з цяжкасцю. *Дужа дайно сваіх ня відзіла, калі да іх даскресца, і сыма ні знаю.*

ДАСКУБАНЫЙ *дзеепрым. метаф.* Дапрадзены. *Табе ня чорт бяды, кудзеля ў цябе даскýбына, альлянэя клубкі пу пуду, сколька ні аснуеш, дзеўкі ны піряменку выткуць.*

ДАСЛАНЯЦЦА *зак.* Дабадзяцца. *Ды чаго ты, чылавек, дыслыняісься, ці ты думыіш, цябе дырмавым хлебым карміць усігда будуць?*

ДАСНАВАНЫЙ *дзеепрым.* Аснаваны да канца (пра кросны). *Губык на дзесіць дуснувáна, нада рядзіць ды браца ткаць.*

ДАСОВЕСЦІЦЬ *зак.* Саромячы, дасягнуць пэўных вынікаў. *Тэй самый чылавек, што яго дасовісьціш, у яго тэя совісьці і ні нучувала, а ня то, што ён паслухыіць некыга.* ДАСОВЕСЦІЦЦА *зак.* Саромячыся, дайсці да

пэўных вынікаў. *Я знаю, ды чаго ён дасовісьціцца: пасьледнія капеечкі вымындзырiць, і ўся яго совісьць кончыцца.*

ДАСПАЛАСКЫВАЦЬ, ДАСПАЛАСКЫВАЦЦА *зак.* Спаласкваючы, дайсці да пэўных вынікаў. *Дыспыла́скывыла мыкацёрчык: выпусьціла з рук, адны чыряпкі асталіся. Дыспыла́скывыісься, што і пасьледній гаршчонычык рызаб'еш.*

ДАСПЕЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Даспелы. *Ты ладна дысьпяліў, доўга яблыкі дывіселі, дасьпеліныя зьняў.*

ДАСПІВАЦЦА *зак.* Напіваючыся, дайсці да пэўных вынікаў. *Пу-дурёныму піў, дысьпіва́ўся, чахоткі пытхваціў, біс пары пашоў у зямлю.*

ДАСПІРАЦЦА *зак.* Пры пярэчанні дайсці да пэўных вынікаў. *Дысьпіра́іцца, што мыцірiка палучыць і пойдзіць, яго нехта дужа будзіць угыварівыць.*

ДАСПЯВАЦЦА *зак. перан.* Дамаўляючыся дайсці да пэўных вынікаў. *Дысьпіва́юцца ж Жэнькіным атлётым, зыгрімяць ат'етуля, толька пяткі зыблішчаць.*

ДАСПЯЛЯЦЬ, ДАСПЕЛІВАЦЬ *незак.* Даводзіць да стану спеласці. *Дысьпіля́ў ігрушкі, пакуля нейкія мульчуганы пыцсачылі, як ён пашоў у лес, улезьлі і аптрясьлі. Ты ўсё дасьпелівыіш свае антонывычкі?* ДАСПЯЛЯЦЦА, ДАСПЕЛІВАЦЦА *незак.* Даходзіць да стану спеласці. *Гурбузы кладуць дысьпіля́цца на крышу ці ны якоя жэрдзя, каб на сонца. За пунькыю красівыя ігрушы дасьпелівыюцца, нескылька штук унёс — яны аж у році таюць.* ДАСПЕЛІВАНЫЙ *дзеепрым. Етыя пымідоры ня с корня, дасьпелівыныя, у іх і ўкус трошку ні такей, як з гряды.* ДАСПЯЛЁМШЫ *дзеепрысл. Дысьпялёмшы, семічкі харошыя былі б, дык ці дзітвыра дасьць дысьпяліцца.*

ДАСТАВЫ *мн.* Дастаўка. *Мы у ізвоз езьдзілі, тады зы дыста́вы хырашо плацілі.*

ДАСТАТНА *прысл.* 1. Дастаткова. *Я насекла сабе дыста́тна капусты, ці пыядзім дайжа зы зіму.* 2. Багата, у дастатку. *Дыста́тна жылі, у іх аднаго птушыныга мылыка ні хвытала.*

ДАСТАТНАСЦЬ *ж.* 1. Дастатковасць. *Ня бойся, тута дыста́тнысьці хвытаіць, ішчэ ладный кусок астаніцца.* 2. Багацце. *У іх харошыя дыста́тнысьць, што ім яшчэ нада.*

ДАСТАТНЫЙ *прым.* 1. Дастатковы. *Глядзі, каб ён быў дыста́тный, каб каротык ня быў, у чатыры редзі нада*

*меріць*. 2. Багаты. *Аксюта пышла у дыстáтныя хызяйства, було ў іх усяго-ўсякыга гукым. Памяниш.* ДАСТАТНЕНЬКІЙ. *Яны людзі дыстáтнінькія, ні нада бідуваць.*

ДАСТРОІВАННЕ *н.* Заканчэнне будаўніцтва. *Як мы відзім, пры дастроівыньня Трыхімёнык саўсім ня думыіць.*

ДАСТРОІВАЦЬ *незак.* Закончваць будаўніцтва. *Есьлі рышчаліся, нада дастроівыць баню, іначы нашто було пычынаць.* ДАСТРОІВАЦЦА *незак.* 1. Закончваць будаўніцтва. *Ці думыіць ён дастроівыцца, нешта ўсё кінуў і кінуў.* 2. Закончвацца (пра будаўніцтва). *Ці ета пунчына будзіць дастроівыцца, ці яны ня думыюць зы яе брацца?*

ДАСТРУГАЦЬ *зак. метаф.* Пры праборцы словамі дасягнуць пэўнага выніку. *Дустругáлі Кысьцінка, вывілі сь сябе, аблаіў усіх і пашоў с хаты.* ДАСТРУГАЦЦА *зак.* 1. Стругаючы, дасягнуць пэўных вынікаў. *Дустругáісься, руку раскоціш, во табе й струганьня ўсё будзіць.* 2 *метаф.* Пры праборцы словамі дасягнуць пэўнага фіналу. *Дустругáіціся, што ён кініць усё і паедзіць.*

ДАСТУКАТАЦЬ, ДАСТУКАТАЦЦА *зак.* Пры груканні дасягнуць пэўных вынікаў. *Дустукочыця вы мне, што я вас ні глідаючы буду гнаць ат'етуля, я вам дам стукутáць. Як хваціла Андреіха нейкыю хлыбазіну, як путуріла іх ат пуні, во яны дустукутáліся.*

ДАСТУКАЦЬ *зак.* 1. Пры груканні дасягнуць пэўных вынікаў. *Січас яны ў мяне дастýкыюць.* 2 *перан.* Зрабіць, дасягнуўшы пэўных вынікаў. *Етый масьцір так дастýкыіць, што бочычка саўсім рассыпліцца, ці зь яго дренный сьпіцыяліст.*

ДАТАЛДОНІЦЬ, ДАТАЛДЫЧЫЦЬ *зак. неадабр.* 1. Скончыць пустую размову. *Пысядзі, паслухый, можа к вечыру дыталдоніць свае трілюды. Ні знаю, ды чаго яны дыталдычылі.* 2. Дасягнуць пэўных вынікаў у пустой размове. *Дыталдоніць, што яго зы чылавека весьць ня будуць. Яны дыталдычуць, што печы пывытаплівыюцца.* ДАТАЛДОНІЦЦА, ДАТАЛДЫЧЫЦЦА *зак.* 1. Дамовіцца. *Ні знаю, ды чаго яны дыталдоніліся, ці пойдзіць ён заўтря к Анькі рубіць. С такім хракціры трудна ды якога кынца дыталдычыцца.* 2. Дасягнуць пэўных вынікаў у пустой размове. *Дыталдоніліся, што Мархва іх с хаты пыпрасіла. Ну што, хырашо дыталдычыліся, дзелыйця цяпера гарод наныва.* ДАТАЛДОНЕНЫЙ, ДА-

ТАЛДЫЧАНЫЙ *дзеепрым. Не, ня жджы, скора ў іх дыталдоніна ня будзіць. Ці ўсё ў вас дыталдычына?*

ДАТАПІЦЬ *зак.* 1 *перан.* Давесці да фіналу нагаворамі. *Злаўредныя людзі былі, дытапілі Шмыярёнка.* 2 *перан.* Нагаворваючы, дайсці да пэўнага выніку. *Датопюць яны Аніську, самім калі-небудзь прідзіцца тужэй тўгыга, і што зы пынароўка: абізацільна уністожыць чылавека.* ДАТАПІЦЦА *зак.* 1. Выпаліцца (пра печ). *Куды ж я пайду, кылі печ ні дытапілыся.* 2. Зрасходаваць да канца паліва. *Як жа так ні пра што ня думыць: дытапіліся, што палкі дроў ны дваре ні асталыся.* 3. Топячыся, дайсці да пэўнага выніку. *Дыба́лывыўся, дытапіўся, чуць ныпраўду ні зытапіўся, каб кыпілінычку, ні атрітувалі б.* 4 *перан.* Нагаворваючы, дайсці да пэўнага выніку. *Датопісься другіх, што сам у пятлю якую ўскочыш.*

ДАТАРМАСІЦЬ, ДАТАРМАШЫЦЬ *зак.* 1. Трасучы, дасягнуць пэўных вынікаў. *Дытармосіш, што палучыш ат яго, ніхай ужо ляжыць. Дытармошыш, што ён устаніць і столька табе ўкоціць, ён цябе ныбалыіцца.* 2 *перан.* Разбудзіць. *Айдзе ты яго дытармосіш, ён посьлі дакосык сьпіць як забітый. Калі заснуў, ня дужа ты яго дытармошыш, ён усігда крепка сьпіць.* ДАТАРМАСІЦЦА, ДАТАРМАШЫЦЦА *зак.* 1. Натрэсціся да пэўнага выніку. *Дытырмасіўся, што нічога ні сыбрыжаю. Дытырмашыўся, аж гылыва рызбалелыся.* 2. Разбудзіць. *Ня дужа ты яго дытармосісься посьлі вічарінкі, прішоў — ужо іднецца стала. Неік ты дужа скора дытырмашыўся, я другей раз буджў, буджў, а ніяк ні пыдняць.* ДАТАРМАШОНЫЙ, ДАТАРМОШАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Натрэсены. *У яго дайжа від дытырмашоный. Сядзіць дытармошыный, толька рукамі разводзіць.* 2. Разбуджаны. *Лянь-ка ты, Коля дытырмашон! Ён і дытармошыный зымычыць, піряверніцца ну другей бок і ўзноў сьпіць.* ДАТАРМАСЁМШЫ, ДАТАРМАШОМШЫ *дзеепрысл.* 1. Натросшыся. *Ён саўсім дытырмасёмшы, чуць стаіць. Я так дытырмашомшы, што і есьць ні хачу.* 2. Разбудзіўшы. *Дытырмасёмшы, распытаў ба, дык айдзе ты яго падніміш. Дытырмашомшы хырашэнька, можа і падніміцца.*

ДАТРАНЖЫРЫЦЬ *зак.* Растраціць да канца. *Ці с Антонывыга сына ніплахей хызяін? — зы два гады усё дытранжырій, ужо думыіць, каб халупіну збыць.*

ДАТРАПЫВАЦЬ, ДАТРОПЫВАЦЬ, ДАТРАПЛІВАЦЬ *незак. метаф.* Траціць да канца (сілу, здароўе). *Пасьледнію сілу дытряпывыіць, нашто яму так ірвацца.*

*Ны каго ён датрёпывыіць здароўя, разьві яны стоюць етыга. Ні нада дытря́плівыць сябе, пыбірягіся, хто цябе прігліда́ць будзіць.* ДАТРАПЫВАЦЦА, ДАТРОПЫВАЦЦА, ДАТРАПЛІВАЦЦА *незак.* 1. Траціць да канца (сілу, здароўе). *Ужо мог і аддыхнуць, було каму дзелыць, дык ён сам дытря́пывыўся. Я б так датрёпывыцца ні стаў, каму яно ўсё астаніцца. Дытря́плівыіцца чылавек, усё хочыць, каб большы, каб большы.* 2. Траціцца да канца (пра сілу, здароўе). *Дытря́пывыіцца здароўя ды пасьледніга. Датрёпывыіцца змыга, куды мне сь кім спруўляцца. Канешня, з гыдамі сіла дытря́плівыіцца.* ДАТРАПАЦЬ *зак.* Страціць да канца (сілу, здароўе). *Здароўя дытріпаў большы некуды, аняло бізздароўя саўсім.* ДАТРАПАЦЦА *зак.* Страціцца да канца (пра сілу, здароўе). *Якей ты жыціль, кылі сіла дытріпа́лыся, відра вады ні прінясеш.* ДАТРАПАНЫЙ, ДАТРОПАНЫЙ *дзеепрым. З дытріпа́ным здароўім дренна на сьвеці жыць. Датрёпыныя сілы нызад ня верніш.*

ДАТРУХЛЕЦЬ *зак.* Струхлець да канца. *Ні прібяреш, і етыя паплеціны дутрухлеюць, іх нада у пуню пірянесьць, там места нівісь сколька.* ДАТРУХЛЕЛЫЙ *дзеепрым. Каторыя салома дзяржыцца, складзі пыт паветкыю, а дутрухлелыю укінь у сьвіннарнічык.*

ДАТРЭСКАЦЬ *зак. перан. груб.* Даесці. *Бабы пашлі, а мушчыны асталіся, усё датрескылі пыччыстую, ого, тыкая кынпанія.*

ДАТУЛЯ, ДАТУЛІЦЬКА *прысл.* 1. Да таго месца. *Ты дату́ля нізашто куль ні даб'еш. Дату́ліцька мне дапрыгнуць нечыга дзелыць.* 2. Да таго часу. *Дату́ля дасе́дзіліся, што цямнець стала. Цярьпеньня ў цябе хваціла дату́ліцька ждаць.*

ДАТУЛЯЦЦА *зак.* Дашвэндацца, хаваючыся. *Дутуля́ўся, што ўжо сымаму стыдна людзям на вочы пыказывыцца.*

ДАТУРАЦЬ, ДАТУРАЦЦА *зак.* Ганяючы, дасягнуць пэўных вынікаў. *Дутуря́іш авец, што яны саўсім атаб'юцца ад двыра і ў пуню ня пойдуць. Дутуря́ўся зы ціпляты-мі, што прібег — чуць прыдыхнець.* ДАТУРАНЫЙ *дзеепрым. Дутуря́ныя куры быяцца на двор узыйціць.*

ДАТЫКАЦЬ, ДАТЫКАЦЦА *зак.* 1. Торкаючы, дасягнуць пэўных вынікаў. *Дыба́лыісься, даты́кыіш, наскрозь праб'еш, тады ці будзіш зыляплівыць. Хырашо даты́кыўся, ладна глядзець, што абручы пызыіжджалі.* 2. Звяртаючыся на «ты», дасягнуць пэўнага выніку. *Так*

*яго выстрыміў старэй Зьмітрок, во датыкыў,— ну й добря, нікога ні прізнывай, старый, ні старый — ты і ўсё. Ён жа многа старей цябе, нада хуць якоя уважэнія імець, а ў цябе ніякыга уважэнія, глядзі, датыкыіська.*

ДАЎГАЛЫЧЫЙ *прым.* З доўгім лычам. *Я дыўгалычых сьвіньней ні люблю, яны неік ні аткармлівыюцца. Памянш.* ДАЎГАЛЫЧАНЬКІЙ. *Пятрок завёў сабе нейкыю новыю пароду сьвіньней, пырысяткі дыўгалычынькія бегыюць пы двару.*

ДАЎГАЦЬ, ДАЎГАЦЦА *зак.* Дахлусіцца. *Дыўга́ў, што большы ніхто ня веріць. Дыўга́лыся Аксютка, што сыма ні знаіць, айдзе праўду гаворіць, айдзе не.*

ДАЎЖЭЙ 1 *прым.* Больш доўгі. *Ета бірьвяно ні ляжыць, яно трошку даўжэй, нада кырацiць.* 2 *прысл.* Больш часу. *Ты даўжэй хадзіў, чым Зьмітрок, тэй ціріш час вярнуўся.*

ДАЎЖЭННЫЙ *прым.* Надзвычай доўгі, даўжэзны. *Пашыла куртку, рукавы даўжэнныя,— айдзе ты ныйшла такую мысьцяріцу. Еткій даўжэнный дзень выстыіць сагнутым дужа трудна.*

ДАЎЗНАГАРАДЖЫВАЦЬ, ДАЎЗНАГАРОДЖЫВАЦЬ, ДАЎЗНАГРАЖДАЦЬ *зак.* Узнагароджваючы, заахвочваючы, дасягнуць пэўных вынікаў. *Дыўзныгыра́джывыў стыршына Хвілінка, ужо за нешта судзіць зьбіраіцца. Пыдаждьжы, яны цябе дыўзныгароджывыюць ні так. Во дыўзныгрыжда́ў Антончык Сямёнывыга: ні глідзяць адзін ны днаго.*

ДАЎКА *прысл.* Так, што не праглынуць. *Ёсьць такея ігрушы, што да́ўка глытаць, у горлі зыстряюць.*

ДАЎЛАМЫВАЦЬ *зак. метаф.* Даўлагоджваць угаворамі, абяцаннямі. *І ты так дыўла́мывыіш, як Купреіў, у Пылячонка у косьці як што улезіць, дык няскора вылізіць.*

ДАЎЛАСТВАВАЦЬ, ДАЎЛАСТВАВАЦЦА *зак.* Карыстаючыся ўладай, дасягнуць пэўных вынікаў. *Буржуёнык дыўла́ствывыў: пріціх, прітаіўся, як яго тута ні було ні разу. Сюрдзюкі дыўла́ствывыліся, большы ня хочуць у нычальства.*

ДАЎМІЦЬ *зак.* Дадумацца, здагадацца. *А ці ты даўміла б, што яны ачынуцца зу Пустынкымі.*

ДАХАДЖЫВАННЕ *н.* Заканчэнне агляду барознаў бульбы пасля акучвання. *Якоя ўжо дыха́джывыньня, заўтря даходзіцца, вязі дзіцёнка ў бальніцу.*

ДАХАДЖЫВАЦЬ *незак. перан.* 1. Дабівацца. *Ха-*

*дзіла, хадзіла, усё дыха́джывыла пеньсію, ёй ніскольки ні далі, аткызалі.* 2. Папраўляць барозны бульбы пасля акучвання. *Я ўжо дыха́джывыла упярёшныя канцы, як яны пад'ехылі.* 3. Канчаткова слабець. *Толька што дыха́джывыіць, зы травіну зачэпіцца і валіцца.* ДАХАДЗІЦЬ 1 *незак.* Дасцяляцца. *Жыта даходзіць, скора жаць. Ячмень толька дыхадзіў, а яго скызалі жаць.* 2 *незак.* Папраўляць барозны бульбы пасля акучвання. *Пайду-ка я дыхадзіць бульбу, іна мулуватыя, многа засыпыных кустоў.* 3 *зак.* Паправіць барозны бульбы пасля акучвання. *Нада к вечыру дыхадзіць грядкі, заўтря будзіць некылі.* ДАХАДЗІЦЦА *зак.* Паправіцца пасля акучвання (пра барозны бульбы). *Ні заўтря даходзіцца, а січас ідзіця і дзелыйця.* ДАЙЦІЦЬ *зак.* 1. Даспець. *Пышаніца дыйшла́, хуць сяньня серп зыклыдай.* 2. Паправіць барозны бульбы пасля акучвання. *Во чуць-нячуць удзьвюх дайшлі сваю бульбу, адна б я зыкыпалыся.* ДАЙЦІЦЦА *зак.* Паправіцца пасля акучвання (пра барозны бульбы). *Дойдуцца етыя кончыкі пазьней, пойдзім пірякусім.* ДАХАДЖЫВАНЫЙ, ДАХОДЖЫВАНЫЙ, ДАХОДЖАНЫЙ *дзеепрым.* Папраўлены пасля акучвання (пра барозны бульбы). *Ці дыха́джывыны ета кончыкі кулу кустоў?— тама многа бульбы засыпыныя. Асталыся нямножка, пяць быразёнычык ад дарогі ні даходжывына. Тута ўся бульба даходжына, заўтря пайду ны Кацінын пупруўляць хвосьцік.*

ДАХАЗЯЙНІЧАЦЬ, ДАХАЗЯЙСТВАВАЦЬ, ДАХАЗЯЙСТВАВАЦЦА *зак.* Дагаспадарыцца. *Так пульгаўшы на вецір, дыхызя́йнічыіш, што зубы ны паліцу паложыш і будзіш сядзець сышчыпя рукі. Дыхызя́йствыіш, мой хызяін, і ныпрятка будзіць, і вобуў, і дзяцей накорміш — ізыком усё зьдзелыіш. Ці с Косьцікывыга сына дренный хызяін выйдзіць, дыхызя́йствыіцца, што бяс крошкі хлеба астаніцца.*

ДАХАПАЦЬ, ДАХАПАЦЦА *зак.* Хапаючы, дасягнуць пэўных вынікаў. *Пыдажджы, дыха́пыіць, рад будзіць укусіць сябе за локыць, ды ні дыстаніць. Усё ім ні хвытала, дык во, дыхыпа́лі. Аўсяёнычык дыха́пыўся: павестка прішла на суд зы калхозныя сена. Дыхыпа́юцца, абарвуцца, ня ўсё ім будзіць удывацца.*

ДАХІТРАВАЦЬ, ДАХІТРАВАЦЦА *зак.* Хітруючы, дасягнуць пэўных вынікаў. *Дыхітру́іш, што па шыі ў мяне схваціш, хітруваньнік найшоўся. Дыхітрува́ўся, большы ні захочыць, Кыныстраціха яго крепка вы́стрыміла.*

ДАХЛОПАЦЬ, ДАХЛОПАЦЦА *зак.* Хлопаючы дасягнуць пэўных вынікаў. *Дахлопыіш, што руку парежыіш і захныкыіш. Дахлопылыся, сьцякло разьбіла, цяперя хуць шкляньня пысыбірай.*

ДАХОДЧЫВАТАСЦЬ *ж.* Даходлівасць. *Так ён нідурнэй чылавек, толька дахоччывытысьці німа ніскока.*

ДАХОХЛІВАННЕ *н.* Пялегаванне, песты. *Ета ўсё дахохлівыньня дзелыіць, іна зы маткыю ня ўмеіць паліц ап паліц ударіць.*

ДАХОХЛІВАЦЬ *незак.* Пялегаваць, песціць. *Дахохлівыіць сваіх кўкылык, сыма ні прідумыіць, што на іх пычапіць.* ДАХОХЛІВАЦЦА *незак.* Пялегавацца, песціцца. *Зы маткыю чаму ні дахохлівыцца.* ДАХОХЛІЦЬ *зак.* 1. Напялегаваць, напесціць. *Дахохліла дзевык, хуць сяньня сватоў вядзі.* 2. Пры пялегаванні дайсці да пэўных вынікаў. *Дахохліш, што іна ны цябе ні ўзглянець.* ДАХОХЛІЦЦА *зак.* Напялегавацца, напесціцца. *Дахохліліся Ныпряёнкывы дочкі, паехылі і дайжа пісьма ні напішуць.* ДАХОХЛЕНЫЙ *дзеепрым. Дагледжыныя, дахохліныя дзеўкі як піряпечкі.*

ДАЦАЛАВАЦЦА *зак. перан. іран.* Дасягнуць пэўных вынікаў у пяшчотах. *Дуцулуваліся падругі, глядзець адна ны адну ня хочуць,— што з бальшэя дружбы буваіць.*

ДАЦАПАЦЬ *зак.* 1. Дахапаць апошняе. *Нічога німа, ні днаго ареха, усё дыцапылі малыя.* 2. Пры хапанні дасягнуць пэўных вынікаў. *Дыцапыў, што пу руках пулучыў зь яго цапыньнім.* ДАЦАПАЦЦА *зак.* Пры хапанні дайсці да пэўных вынікаў. *Дыцапыіцца, што я яму рукі пыпірібіваю.* ДАЦАПАНЫЙ *дзеепрым. У решыці ні асталыся ніскалька, усё дыцапына.*

ДАЦАЦКАЦЦА *зак.* Дасягнуць пэўных вынікаў пры патуранні. *Дыцацкыіціся, што гультуя пасьледніга вырысьціця.*

ДАЦЕРЦЬ *зак.* Падавіць і тых, што засталіся (пра парасят). *Сьвіньня дужа нікуратныя, нада глядзець ды глядзець, ато іна датрець пырысят, ні днаго ні станіцца.* ДАЦЕРЦЦА *зак.* Падавіцца (пра парасят, якія яшчэ засталіся). *Сьвіньня мылыдая, ня ўмеіць кылы пырысят, яны датрўцца.* ДАЦЁРТЫЙ *дзеепрым. Дацёрты пырысяткі, ні днаго ні сталыся.*

ДАЦЯМІЦЦА *зак.* Уцяміць, зразумець да канца. *Разьві ты ні дыцяміўся, длі чаго ета ўсё гываріпыся і дзелылыся.*

ДАЧАБУРДЭХАЦЬ *зак. эмац.* 1. Дасягнуць пэўных

вынікаў пры неабачлівым наліванні. *Відзіш, як яны дучубурдэхылі, усё кругом мокра.* 2. Дасягнуць пэўных вынікаў пры кіданні ў ваду. *Дучубурдэхыіця вы з вашым балыўствым, што скруціць гылаву каторый.* ДАЧАБУРДЭХАЦЦА *зак.* Дасягнуць пэўных вынікаў пры кіданні ў ваду. *Вун Ісакый сын дучубурдэхыўся, што цэлый год лячыўся посьлі чубурдэхыньня.*

ДАЧАЁЎНІЧАЦЬ, ДАЧАЁЎНІЧАЦЦА *зак.* Дасягнуць пэўных вынікаў пры чаяванні. *Дычаёўнічылі, увесь чай, нада ехыць у горыд купляць. Дычаёўнічыіціся, што сколька атавы нырасло, і тая пацьсьнег пойдзіць.*

ДАЧКА *ж.* Невялікі ўчастак. *Не, рыстыквашу маць, вы стравілі дачку с аўсом, я пызнаў кыпыты вашыга кыня.*

ДАЧКІН *прым.* Даччын. *Сьпірва сваіх глядзела, нянчыла, а цяперя дычка на рукі ўсьпёрла, дычкінога глядзі.*

ДАЧУМАЧЫЦЬ *зак. эмац.* Датлуміць. *Хваціць ужо, дучумачыця вы яго саўсім.* ДАЧУМАЧЫЦЦА *зак.* Датлуміцца. *А да первых пітухоў дучумачыліся, во калі мы рызыйшліся.* ДАЧУМАЧАНЫЙ *дзеепрым. Ён саўсім дучумачыный пашоў, нічога ні сыбрыжаў.*

ДАЧЫГАНЫЙ *дзеепрым.* Змізарнелы, заняпалы: *Стыяў Дышчанок лі піўнога лырька дачыгыный, абырваный, вочы зыпалыя.*

ДАЧЫНГЕРЫВАЦЬ 1 *незак. эмац.* Прыбіраць. *Ого, як яны дычынгерівыюць сваіх крысавіц.* 2 *зак.* Дапрыбіраць. *Глядзіця, глядзіця, дычынгерівыіця, што ў пыстаньніку прінясецъ.* ДАЧЫНГЕРЫВАЦЦА 1 *незак.* Прыбірацца. *Яны знаіш як прівыклі дычынгерівыцца.* 2 *зак.* Дапрыбірацца. *Сыма дычынгерівыіцца, што нечыга будзіць ны дзяцей усьцягнуць.* ДАЧЫНГЕРЫЦЬ *зак.* Дапрыбіраць. *Дачынгерілі, большы німа за што спруўляць пріборы.* ДАЧЫНГЕРЫЦЦА *зак.* Дапрыбірацца. *С такімі зымашкымі скора дычынгерюцца.*

ДАЧЫСЦІЦЦА *зак. перан.* 1. Дасягнуць пэўных вынікаў пры крадзяжах. *Яны тады былі сьпетыя, шайкыю чысьцілі двары, клеці, дык дачысьціліся: па дным, па дным і пірібралі.* 2. Дасягнуць пэўнага выніку пры аборце. *Дужа распутныя была дзеўка, пы два разы на год бегыла чысьціцца, дык во дачысьцілыся: кроў хлынула і ні спасьлі.*

ДАШАБУЛДЭХАЦЬ, ДАШАБУЛДЭХКАЦЬ, ДАШАБУЛДЭХАЦЦА, ДАШАБУЛДЭХКАЦЦА *зак. эмац.* 1. Наліваючы, дасягнуць пэўнай мяжы. *Душубулдэхыў,*

*што пыцякло ціразь верьх, хату атплавіла. Душубулдэхкыіш, што пойдзіць міма, пыд мяхі пыцякець. Відзіш, як ты душубулдэхыўся, хадзі зы табою ўсьлед с тряпкыю ды пыцьцірай. Душубулдэхкыісься, што пуплувець пы масту.* 2. Кідаючыся ў ваду, дасягнуць пэўных вынікаў. *Крікнуў ба ны мальцыў, каб яны ні душубулдэхылі, што шукаць прідзіцца. Глядзіця, возіра нізнакомыя, можыця так душубулдэхкыць, што ня вылізіць каторый. Душубулдэхыюцца, што ўзаб'юцца ны якую кылячыну. Душубулдэхкыўся — прустудзіўся, ляжыць с успаленіім.*

ДАШВІГІКАЦЬ *зак. эмац.* Дашпурляць. *Дышвігікыіця паленьнім, што вочы адзін аднаму пывыбіваіця.* ДАШВІГІКАЦЦА *зак.* Дашпурляцца. *Дышвігікыліся — палкыю пупалі пы вакну, дзьве балонкі пасыпыліся.*

ДАШНУРАВАЦЬ, ДАШНУРАВАЦЦА *зак. метаф.* Дахадзіцца. *Душнурувáў Сенька лі Мітрыхваныввых, усё любіў прыхаджывыцца,— дык за нешта ўжо лаюць. Душнурувáліся мальцы, прыздраўліныя пашлі.*

ДАШПОКАЦЬ, ДАШПОКАЦЦА *зак. эмац.* 1. Дасягнуць пэўных вынікаў пры паданні. *Сколька разоў ён шпокыў зь дзірявоў, дашпокыіць, што акалечыцца ці саўсім заб'ецца. Дашпокыўся — нагу вывірнуў, пывязьлі ў бальніцу нупруўляць.* 2. Дасягнуць пэўных вынікаў пры шчоўканні. *Дашпокыіш — так пы пальцых схваціш, што павіснуць як граблі. Ты ў мяне дашпокыісься січас: зыряевеш і на печ ціхінька палезіш.*

ДАШУРАЦЦА *зак.* Дасягнуць пэўных вынікаў пры бурным ганянні. *Душуряісься ты сы ўцамі, што піряскочуць ціріс прясла і патопчуць усе гряды.*

ДВАРАВЭЙ, ДВАРАВЫЙ *прым.* 1. Свой, са свайго двара. *Нашто каго прасіць, столька саміх, двыравэя усё выкыпыюць. Ён ні глядзіць двыравога, а толька калхоз і калхоз. Ны яго дзеці і двыравы́я, і пріежджыя,— усе ны яго.* 2. З панскай сядзібы. *Двыравэя коні былі крепкія, раскормліныя. Тады двыравы́я каровы цяліліся, а яе ішчэ ні цялілыся, дык ёй дывалі мылако. Мне дужа пыныравіўся адзін двыравы́й пацьцёлычык, і паня нам прыдыла ня дужа дорга.*

ДВАРОНАК, ДВАРОНКА *м. зніж.* Двор. *Тама дварёнык такей: у хаці дзьвері ні прічыняюцца, а ў пуні вароты ны адной завесі буўтаюцца. Дварёнка во тут стыяў у яго: халупіна была асіныввыя і пунчына с аднаго боку раскрытыя. Памянш.* ДВАРОНАЧАК. *Якей там у гультуя дварёнычык, адно гнільлё.*

ДВАРУГА, ДВАРЫШЧА *м. эмац.* Вялізны двор. *Цяперя такея дварю́гі ніхто ні разводзіць як раншы. Дварішча-дварішча быў, і скоту поўна, хызяйства харошыя рызьвялі, толька мала папользывыліся.*

ДВОРНЯ *ж.* Панская сядзіба. *Баріня пыставіла яго сьцярежч дворню, і ён быў сторыжым, доўга быў. Мы часта бегылі на дворню, зь Нюлію гулялі.*

ДВУХЛІШНЫЙ *прым.* Двудушны. *Мне тыкі гываріў Мысяёнык, што ета двухлішный чылавек, ня верь яму, дык хто ж ба падумыў, што ён такей.*

ДВУХРОЖКІ *мн.* Драўляныя вілы з двума рагамі. *Ёмкінькія двухрожкі былі, струшынку трясьлі імі. Памяниш.* ДВУХРОЖАЧКІ. *Апскабліў, абгладзіў двухрожычкі, што ў руках дайжа ня чутны.*

ДЖГАННЕ *н.* Сцябанне крапівой. *Во як я цябе пыймаю, во ета будзіць ныстыяшчыя джга́ньня.*

ДЖГАННІК *м.* Той, хто пячэ крапівой. *Як злаўлю я тога джга́ньніка, саўсім пысаджу ў крапіву.* ДЖГАННІЦА *ж. Січас ты, джга́ньніца, пупадзесься мне ў рукі, ныджгаісься.*

ДЖЫГНУЦЬ *зак. метаф.* Шпарка, імкліва пабегчы. *Ён схваціць кычарьгу ці вілышнік, яны як джыгну́ць, ці ён дагоніць.*

ДЗВІЖОЧКАМ *прысл.* З цяжкасцю, асцярожна (перамяшчацца, рухацца). *Чуць-чуць дзьвіжочкым піряйду хату, зы парог ні магу піріступіць.*

ДЗЕБЯЛЕННЕ *н. жарт.* Моц, дужасць. *Пры якоя дзібяленьня ты гаворіш, кылі яму даўно за восімдзісят піріваліла.*

ДЗЕБЯЛЕЦЦА *незак. жарт.* Мацнець, дужэць. *Во-о, гывbooрі, што Губарёнык слабый, ён с кажным днём дзібялеіцца.*

ДЗЕВІШЧА *ж. павеліч.* Дзяўчына. *Была сухенькыя, дробнінькыя, а ўчора мы увідзілі яе ў горыдзі: дзевішча рузгудувалыся, ні скажыш, што Тыцяніна дычка.*

ДЗЕВЯР'Ё *н. зб.* Дзеверы. *Як прівядзець дзівярьё ны вічарінку, к яму дужа ні пацступісься. У Сызынка многа дзівірья.*

ДЗЕВЯЦЁРА *ліч.* Дзевяцера. *Я хырашо помню, што нас тады було дзівяцёра, мы троя судык разым ішлі.*

ДЗЕД *м.* Лопух. *Дзядоў нарвуць, а тады мыхаюць у дзевычык і цыляюць у валосься.*

ДЗЕНЬКАННЕ, ДЗЯНЬКАННЕ *н. неадабр.* Пустыя размовы. *Схадзі, ежылі хочыш паслухыць дзенькыньня.*

*Я Стыранёнкывыга дзя́нькыньня наслухылыся — дос.*

ДЗЕНЬКАЦЬ, ДЗЯНЬКАЦЬ, ДЗЕНЬКАЦЦА, ДЗЯНЬКАЦЦА *незак. неадабр.* Весці пустыя размовы. *Дужа б хырашо було, каб іна пірістала дзенькыць хуць ны мінутку. Прідзіць, пуйдня сядзіць і дзя́нькыіць пустоя. А ета Міхасёнык тута сядзеў, дзенькыўся, хут ты яго було прыгыняй. Ну што ты, узноў пойдзіш туды дзя́нькыцца, яны цябе скора пірістануць у хату пускаць.*

ДЗЕРАНУЦЬ *зак. метаф.* Кінуцца наўцёкі. *Кошка баіцца сыбак, як дзірянець на вербу, а тады глядзіць зьверху: айдзе яны.*

ДЗЕРБАЛЫЗКАННЕ *н. эмац.* Выпіванне. *Пыдажджыця, скора дзірбалы́зкыньня вам мінецца, пацьцёлычык у Лівынка ці ні кынчаіцца.*

ДЗЕРБАЛЫЗКАННІК, ДЗЕРБАЛЫЗНІК *м. эмац.* Выпівоха. *Айдзе ў такога дзірбалы́зкыньніка зацэліць капейчына. Знаю, што ён дзірбалы́зьнік ні пасьледній, чаркі ніийдзе ні абойдзіць.* ДЗЕРБАЛЫЗКАННІЦА, ДЗЕРБАЛЫЗНІЦА *ж. Я гляджу, што ты дзірбалы́зкыньніца стала ня хужы Сямёна. Ого дзірбалы́зьніца, як іна кулдыкыіць чарычку!*

ДЗЕРБАЛЫЗКАЦЬ *незак. эмац.* Выпіваць. *Любілі б дзірбалы́зкыць, каб хто купляў ім ды стынавіў.* ДЗЕРБАЛЫЗНУЦЬ *зак.* Выпіць. *Пыхваліціся, ці ладна вы ўчора дзірбалы́знулі ў Каробчыні.*

ДЗЕРВЯНЕЦЦА *незак. метаф.* Нямець, траціць адчувальнасць. *Сыма ні знаю, ач чаго, дзень хаджу нырмальна, а ну другей дзень дзірьвянеіцца ныга, іціць ні-лізя.*

ДЗЕРВЯНЭЙ, ДЗЕРВЯНЫЙ *прым.* 1. Драўляны. *Ці тута дзірьвянэя ручкі, ці різіна тыкая? Ету палку і дзірьвяны́й клін расколіць.* 2 *перан.* Застылы, зацвярдзелы. *Ці ў цябе язык дзірьвянэй, што ты нічога ні рыскажыш. Сталі ногі нейкія дзірьвяны́я, ня хочуць іціць.*

ДЗЕСЯЦЁРА *ліч.* Дзесяцера. *Дзісяцёра мушчын паспробый-ка ныкарміць, іна зы нядзелю з ног зьбілыся, варёмшы і гутувайшы.*

ДЗЕТВАРЫШЧА *ж. зб. павеліч.* Дзетвара, дзеці. *Раншы ў дзярэйні дзітварішчы було, у кажным дваре па нескылька, а цяперя і голысу дзіцёнкывыга ні пачуіш.*

ДЗЕЎБАЧЫНАЮ, ДЗЁЎБАМ *прысл. груб.* Нерухома. *Сядзіць у дваре дзійбачы́ныю, нікуды йціць ня хочыць, думыіць, я яго зы дырма карміць буду. Чаго ён тама*

*дзёўбым выляіцца? Становюцца дзёўбым і стыяць пуўдня, рассуждаюць.*

ДЗЁРЗКІЙ *прым. метаф.* Рэзкі, едкі. *Ух, якей дзёрзкій хрен, аж у нос б'ець і сьлёзы сыплюцца. Дужа дзёрзкій періц, ня сып многа.*

ДЗІМІСТРУЛЯ *ж. іран.* Капрызная жанчына. *Яе дычка ладныя была дзімістрю́ля, мы яе хырашо помнім. Памянш.* ДЗІМІСТРУЛЬКА, ДЗІМІСТРУЛЕЧКА. *Калі січас носым верціць, ікая зь яе дзімістрю́лька выйдзіць, як пыдрасьцець. Нічога будуць дзімістрю́лічкі, дай ім толька у перья увыбрацца. Павеліч.* ДЗІМІСТРУЛІШЧА. *Паводзіць цябе за нос Агяёнкыва дзімістрю́лішча.*

ДЗІРОВЫЙ *прым.* Дзіравы. *Як жа ты будзіш сыпыць бульбу у дзірёвый мяшок?*

ДЗІСЦІПЛІНІСТА *прысл.* Дысцыплінавана. *Ён сьлядзіць, каб усігда дзісьціплініста було.*

ДЗІЦЁНКАЎ *прым.* Такі, які належыць дзіцяці, мае адносіны да яго. *Ніхай тута пыляжыць дзіцёнкыва тряп'ё, я пірямыю. Памянш.* ДЗІЦЁНАЧКАЎ. *Ета дзіцёнычкывы штонікі, ды яны становюцца яму мулувацінькі.*

ДЗІЧ *ж.* Нарасць на целе, барадаўка. *Пы ліцу пышла дзіч. На шыі дзіч вырысла.*

ДЗЮБАННЕ *н.* 1. Дзяўбанне. *Кыш іс тваім дзю́быньнім, ато венікым.* 2 *перан. жарт.* Выпіванне. *Во табе й маліනькыя дзю́быньня, трошку-патрошку дзьве бутылычкі кончылі.*

ДЗЮНДЗЮЛЕННЕ, ДЗЮНДЗЮРАННЕ *н.,* ДЗЮНДЗІ *мн. эмац.* Балбатня. *Пойдзім, етыга дзюньдзю́ліньня ні ў век ні піряслухыіш. Як сойдуцца — і пашло дзюньдзю́ріньня: хто сь кім ішоў, хто к каму зыхадзіў, хто ны каго пыглядзеў. Вашы дзю́ньдзі у мяне у пячонкых сідзяць.*

ДЗЮНДЗЮЛЯ, ДЗЮНДЗЮРА *м.* і *ж. эмац.* Балбатун. *Дзюньдзю́ля ты, дзюньдзю́ля, я ж адну мінутычку пыстыяла з бабымі, а твой язык ні сьціхаіць былмытаць ні днём, ні ўночы. Абея дзюньдзю́ры, ты іх толька большы слухый. Памянш.* ДЗЮНДЗЮЛЬКА, ДЗЮНДЗЮЛІЧКА, ДЗЮНДЗЮРКА, ДЗЮНДЗЮРАЧКА. *Ікраз як мама дзюньдзю́лька пыдрыстаіць. Бярецца дзюньдзю́лічка як быльшая, і гылаву набок, як старшыя. Знаіш, дзюндзю́рка, што я табе скажу: пірістань іс пустазвонствым тваім. Ні знаю, калі Глыдышонкыва дзюньдзю́річка сьціхніць, і ці сьціхніць калі. Павеліч.* ДЗЮНДЗЮЛІШЧА, ДЗЮНДЗЮРЫШЧА. *Ах вы дзюньдзю́лішчы, айдзе*

*вы таго Мылашонка відзілі, ён ужо нядзелю як у Чэрікыві. Дзюньдзю́рішчы нісусьветныя сыбяруцца, пірілапочуць усё на сьвеці і за сьветым ішчэ дыбавюць.*

ДЗЮША *ж. дзіц.* Свіння. *Чуіш, дзю́ша рысьпішчэлыся, есьць хочыць, выпі мылачко і пойдзім яе карміць. Памянш.* ДЗЮШАЧКА. *Дзю́шычка рюхыіць, хочыць, каб яе пычысалі.*

ДЗЯВОШЧЫНА *ж.* Дзявоцтва. *Ета ж ай-я-яй калі што було, дзявошчына тая.*

ДЗЯДЗЕЧКІН *прым. памянш.-ласк.* Дзядзькаў. *І свайго быгаства з горла прець, і ўсё дзя́дзічкіна прібраў,— ніяк ні нысытаіцца.*

ДЗЯДЗІНІН *прым.* Такі, які належыць дзядзіне або мае да яе адносіны. *Ета ўсё дзя́дзініны пыдаркі, іна многа адзёжы нывізла. Памянш.* ДЗЯДЗІНКІН. *Ладныя дзя́дзінкіны шутычкі, што малый пуўдня плачыць.*

ДЗЯРАБАННЕ *н. іран.* Выпіванне. *Ды ладныя дзіря́быньня ў абоіх, адзін аднаму ні ўступаюць.*

ДЗЯРАБАЦЬ *незак. іран.* Выпіваць. *Яны такея, што ўчыць ні нада, і ня ўчомшы ладна дзірябыюць.*

ДЗЯРНОЎЕ *н. зб.* Дзёрн. *Дзярноўя глыбымі ляжыць, трактыр узьвярнуў,— як яго рысскырадзіць. Памянш.* ДЗЯРНОЎІКА. *Пы дзярноўіку нада бырану прікладывыць чым-нібудзь, тады іна пырызьдзярець.*

ДЗЯРНОЎНІК *м.* Дзёрн. *Увесь погріб дзярноўнікым выклыў, выда ня пройдзіць. Памянш.* ДЗЯРНОЎНІЧАК. *А што було дзелыць, дзярноўнічык резылі, насілі і апклыдалі.*

ДЗЯРЭЎНІШЧА *ж.* Вялікая вёска. *Тама дзяреўнішча, пакуля с кынца ў канец пярёйдзіш, дык заморісься.*

ДЗЯТЛІНА *ж.* Дзятлавіна. *Завёў кыня ны дзя́тліну, ён зы час наскубся. Памянш.* ДЗЯТЛІНКА. *Пы біряжку засела дзя́тлінка, цялёнык скубець, аж сапіць.*

ДЗЯЎБАЦЬ *незак. метаф.* Ісці. *Тама ад быльшыка ды Падлужжа кіломітрыў з восім нада дзіўба́ць.*

ДЗЯЎБКОМ *прысл.* Удзёўбваючы, удзёўбваючыся. *Кол дзяўбком усадзіў у зямлю. Як пусьціць тапор, тэй дзяўбком у сьцяну.*

ДЗЯЎБУЛЕННЕ, ДЗЯЎБУНЕННЕ *н.* 1. Дзёўбанне, узбіванне. *Якоя ні дзяўбу́ліньня, а патрошку палка глыбіцца, дні зы два карыцца выбіру. Тупою цяслою якоя дзяўбу́ніньня, яе нада ладна пыттачыць.* 2 *перан.* Няўмелае абсяканне, абчэсванне. *Ідзі ты луччы адзін, ні піряж-*

*джэш ты яго дзяўбуліньня. С такім дзяўбуніньнім тольке палку спорціш.*

ДЗЯЎБУЛЕННІК *м.* 1. Той, хто дзяўбе, узбівае. *Ні на сьмех узяліся дзяўбуліньнікі за лёд.* 2. Той, хто няўмела абсякае, абчэсвае. *Адзін харошый дзяўбуліньнік і другей ладзін, тупымі тыпырамі многа ні ныдзяўбеш.* ДЗЯЎБУЛЕННІЦА *ж.* 1. Тая, што дзяўбе, узбівае. *Стыряіцца дзяўбуліньніца, а тама зімля як камінныя.* 2. Тая, што няўмела абсякае, абчэсвае. *Відзіш, ікая зь мяне дзяўбуліньніца.*

ДЗЯЎБУЛІЦЬ, ДЗЯЎБУНІЦЬ *незак.* 1. Дзяўбці, узбіваць. *Лёд кылы ґанык ломым дзяўбуліла, ня ўстоіць було, так скользка. Пынас пыт павецьцю нешта дзяўбуніў, сходзі, пыталкуй.* 2 *перан.* Няўмела сячы, абчэсваць. *Учора нешта цэлый дзень дзяўбулілі за пунію ныпірименку. Ці доўга ты тут будзіш дзяўбуніць?* 3 *перан.* Ісці нязграбна. *Сьнег пы калені, дзяўбулілі мы, дзяўбулілі, вымытыліся ў былінку. Скыльзыта нілізя стыяць, ну прідзіцца дзяўбуніць, бяс солі многа ні ныясі.* 4 *перан. эмац.* Біць. *Пад мухыю прідзіць, яны як стануць яго утрёх дзяўбуліць,— пупыдаіць яму крепка. Ты, знаць, узноў свайго зяця дзяўбуніла?* 5 *перан. эмац.* Гаварыць, тлумачыць. *Сколька ты ёй ні дзяўбуль, а свайго розыму ні ўкладзеш. Я ня слухыла, пра што яны тама дзяўбунілі.* ДЗЯЎБУЛІЦЦА, ДЗЯЎБУНІЦЦА *незак.* 1. Дзяўбсціся, узбівацца. *Сяджу, аддыхаю, патроху дзяўбуліцца шула, дужа цьвёрдый дуб. Па ўсёй сьцёжкі дзяўбуніцца лёд.* 2. Важдацца, няўмела абсякаючы, абчэсваючы. *Сколька ты будзіш дзяўбуліцца зь естыю палкыю, кідай. Чуць ня дзень с туўкачом дзяўбуніцца.* 3. Ісці нязграбна. *Нада дзяўбуліцца ў горыд, ні скарінкі ны сталє ні асталыся. Куды ты, старыя, дзяўбунісься, сядзела б луччы на печы.* 4. Гаварыць. *Доўга дзяўбуліліся іс сваімі трілюдымі. Пакуля яны дзяўбуніліся, дык ны сталє усё застыла і зыкалела.* ДЗЯЎБУЛЕНЫЙ, ДЗЯЎБУНЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Дзяўбаны, узбіваны. *Відна, што трошку дзяўбуліна, алі усё рыўна коўзка. Дывай етў дзяўбуніныю палку пірялілім.* 2. Тлумачаны. *Сколька разоў табе дзяўбуліна, што нілізя яго кніжык трогыць. А пры гарод разьві табе ні дзяўбуніна?*

ДЗЯЎБУЛЬ *выкл.* Пра няўмелае абсяканне, абчэсванне. *Ай, зь яго работнік такей, сьпіна баліць, стаіць крюкым ныд бірьвяном: дзяўбуль, дзяўбуль.*

ДЗЯШОЎКА 1 *ж.* Таннасць. *Усё лета дзяшоўка ны*

*пырысят, хут ты дырма аддывай.* 2 *м.* і *ж. перан. асудж.* Прадажная асоба. *Ён дзяшоўка, яго і купіць, і прыдаць зы паўлітра можна.* 3 *ж. перан. асудж.* Распусная жанчына. *У яе тэй стыд і ні нучуваў, дзяшоўкыю стала.*

ДЛІННАЛЫЧЫЙ *прым.* З доўгім лычам. *У нас тута ні ў кога длінналы́чых сьвіньней ні було.*

ДЛІННЕННЫЙ, ДЛІННЮШЧЫЙ *прым.* 1. Празмерна доўгі. *Нашто табе такея длíньненныя аглоблі, зь імі як з ражном будзіш круціцца. Бірягіся, ны цябе Коля длíньню́шчыю пугу прігатовіў, гываріў, абізацільна зловіць і пышчады табе ня будзіць.* 2 *гумар.* Вельмі высокі. *Длíньненныя хлопцы вымыхылі у Пыраскі. Длíньню́шчыга мужука сабе пупала.*

ДОБРАЕ *н.* Маёмасць, нажыткі. *Хырашо мушуравацца, імеўшы бацькыва добрыя, а ты сам паспробый зароб.*

ДОДЗІК *м. іран.* Балбатун. *На нохыць што-нібудзь скажы — пірідадуць, етый яе додзік скажыць.*

ДОЗВАЛЬ *м.* Дазвол. *Я ім дам дозвыль, я іх ажаню, ніхай вучуцца, жыніхі саплівыя.*

ДОРГА *прысл.* Дорага. *Прошлыя скрысеньня дорга зы пырысят плацілі. Памянш.* ДОРГЕНЬКА. *Доргінька яму абойдзіцца ета свадзьба.*

ДОРГІЙ *прым.* 1. Дарагі. *Доргіх бацінычык ні выбірай, у грязь і дзішавейшыя ладны будуць.* 2 *перан.* Любімы. *Нешта доргій твой ні пыказыіцца каторый дзень. Памянш.* ДОРГЕНЬКІЙ. *Табе ён доргінькій, ну й нянчыся зь ім.*

ДОРГНУЦЬ *зак.* Рэзка торгнуць. *Як доргніць зы клямку, іна ацскачыла, а дзьвері былі аттуля ну крючок зашчэпліны.* ДОРГНУЦЦА *зак.* Рэзка торгнуцца. *Каток у пень упёрся, конь доргнуўся, і калёсы сыскачылі сь пірідка, мучыліся, пакуль пыднялі.*

ДРАБА *ж. эмац.* Старая жывёліна. *Нада мне сваю дра́бу збуваць, іна дужа старыя, баюся, можыць ні пірізімуваць.*

ДРАБЯЗАЧКА *ж.* Дробная істота, прадмет. *Цёлычка была дрыбя́зычка, а карова разбухылыся як гыра. Сёліта дрыбя́зычка бульба, пасьці саўсім прыпала.*

ДРАБЯЗІНА *ж.* Дробны прадмет, рэч. *Дрыбязіны пыпірісякі, складуцца пыць сьцяну, дык мішаць пыд ныгамі ня будуць. Памянш.* ДРАБЯЗІНКА, ДРАБЯЗІНАЧКА. *Нічога ў лесі ні асталыся, дрыбязінкі сідзяць, ці імі натопісься. Зьбіралі дрыбязінычкі, ны такіх хлеб ні сьпякеш, яны пыхнуць і німа.*

ДРАГА *ж. эмац.* Вялікая пасудзіна. *Во ікая ў мяне дря́га — карові піць выносім.*

ДРАГЛАСЦЬ *ж.* Слабасць, драхласць. *Што ты пры дря́глысць талкуіш, шывяліцца нада. Дря́глысьць нізаметна патходзіць.*

ДРАГЛЫЙ *прым.* Слабы, драхлы. *Куліна стала дря́глыя, ёй і хадзіць цяжола. Памянш.* ДРАГЛЕНЬКІЙ. *Гляджу, ідзець нейкій дря́глінькій стырічок, нізаштычка б ні скызала, што ета Цімох.*

ДРАЕННЕ *н. перан. эмац.* Праборка. *Яму ніякыя дра́іньня ні пымыгаіць, урадзіўся неслух такей.*

ДРАІЦЬ *незак. перан. эмац.* Прабіраць. *Утрёх пысадзілі, так ужо дра́ілі, як уюн круціўся.*

ДРАНЬ *ж.* Гной (у ране). *Як што ныpываіць, дрянь зьбіраіцца, луччы пыдыждаць, пакуля само прарьвець.*

ДРАПАННЕ *н. перан.* Узлязанне. *Пыглядзі ны яго дра́пыньня: гладкыя ліпа, а ён неік ныгамі чыпляіцца і лезіць.*

ДРАПІНКА, ДРАПІНАЧКА *ж. памянш.* Драпіна. *Нічога тама ні рызбаліцца, там нібальшэнькыя дра́пінка. Дра́пінычка тая чуць відна, а ў яе ўжо ай-я-яй, акалечыўся дзіцёнык.*

ДРАЦІНКА, ДРАЦІНАЧКА *ж. памянш.* Невялікі кавалак дроту. *Уцягнуў драці́нку, і крепка цяперь дзяржыцца. Тонінічкыю драці́нычкыю прікруціў кол, кыбан махнуў лычым, дзьверцы й атляцелі.*

ДРАЦЦА *незак. метаф.* Імкнуцца. *Яму надзел зямлі атпісалі, каб у дваре жаніўся, а ён усё ў зяці дра́ўся.*

ДРУЖАСКА *прысл.* Па-сяброўску. *Мой бацька усігда гыварій: нада дру́жыска жыць, ні нада ні сь кім ні біцца, ні сваріцца.*

ДРУЧЫШЧА *м. павеліч.* Друк, вялікі кій. *Як вазьму дрючы́шча, дык тваe зяці будуць ляцець ат хаты і самі ні знаць куды і як.*

ДРУЯ *звыч. ж.* Распаўнелая асоба. *Во друя́ разьдзелылыся, ёй дайжа пы зямле хадзіць цяжола. Павеліч.* ДРУІШЧА. *Тыкая друі́шча стала, верна, цэньціры два, ня меншы.*

ДРЫБАЧКІ *мн. памянш.* Косці, костачкі. *Етый дзіцёнык ці ня хворый, адны дры́бычкі, худэй як шкілет.*

ДРЫЗКАННЕ *н. іран.* Выпіванне. *За што — за што, ну за дры́зкыньня я ім калі-небудзь нылаю бакі.*

ДРЫЗКАЦЬ *незак. іран.* Выпіваць. *Тады іх была сьпетыя хеўра, Пёкла гнала, дык ладна дры́зкылі.*

ДРЫЗКАЦЦА *незак. Зал.-бессуб'ект. ад* дрызкаць. *Ім і цяперя нядренна дрызкыіцца.* ДРЫЗНУЦЦА *зак. Зал.-бессуб'ект. ад* дрызнуць. *Ну як вам, ладна ўчора дрызнулыся, быляць голывы?*

ДРЫНДАННІК *м.* Той, хто блукае, швэндаецца. *Каб ны тваіх дрындыньнікыў бацька з ладныю пугыю, яны б быйстра найшлі зыняція.* ДРЫНДАННІЦА *ж. Якога ты пуця з дрындыньніцы хочыш, няўжэлі тыкая дзявуля маткі ня можыць паможч.*

ДРЫНКАННЕ *н.* Блуканне, швэнданне. *Як ім ні ныдаесьць такоя дрынкыньня, цігаюцца бяс толку і цігаюцца.*

ДРЫНКАННІК *м.* Той, хто блукае, швэндаецца. *Пыцягнуўся дрынкыньнік твой пад Бобырій узгорык.* ДРЫНКАННІЦА *ж. Ты тожа тыкая самыя дрынкыньніца, як пакойныя матка была.*

ДРЫНКАТАННЕ *н.* Бразгат, звон. *Я позна ні спала, чула іхныя дрынкытáньня: сьпірва пад вербымі брязкылі, тады г' бані пашлі.*

ДРЫНКАТАННІК *м.* Той, хто бразгае, звоніць. *Прагонь дрынкытáньнікыў ад бітоныў, ато пагнуць ці зыгадзюць.* ДРЫНКАТАННІЦА *ж. Узілася дрынкытáньніца зы работу, усё кругом зыдрынчэла.*

ДРЫНКАТАЦЬ, ДРЫНКАТАЦЦА *незак.* Барабаніць, бразгаць, званіць. *Зраньня як пычынаюць дрынкытáць, адурюць гылаву. То завуць к карові, то пацьсьвінка пыглядзець, а там дрынкочуць: ацёлы. Зірні, чым яны дрынкочуцца, каб пальцы ні пыдбівалі адзін другому.*

ДРЫНЧЭННЕ *н.* 1. Бразгат. *Якоя ета дрынчэньня ў пуні, ці ня вылізьлі пырысяты з зыгародкі.* 2 *перан. эмац.* Бег. *Калі я вазьму пруціну, ні такоя дрынчэньня будзіць.*

ДРЫПАЛКА *ж. метаф.* Неахайная жанчына. *Ізьвесна, дріпылка, іна ні дзяцей ні даглецзіць, ні ў хаці пырядка ні нывядзець.*

ДРЫПАЛЫ *мн. зніж. іран.* Ногі. *Што ты рысставіў дріпылы, прібярі ат'етуля. Чыпляіцца дріпылымі зы зямлю кывалер етый.*

ДРЫПСІЦЦА *незак. эмац.* Апускацца, рабіцца неахайным. *Мылыдая баба, а етык дріпсіцца, апушчэнка апушчэнкыю ходзіць.*

ДУБАРА *прысл.* 1. Старчаком. *У яго як ац страху валосься дубуря́ стала.* 2. Наросхрыст. *Пытхадзілі мы г'*

*двару, відзілі: вароты дубуря́, чаго б ета, думыім, усё пырызьзяплівына.*

ДУБАРЫНА *ж.* Адна расліна або плод дубары (старога сорту бульбы). *Во тута ны грядкі пыдряд сідзяць дуба́ріны, ты іх прупускай, ні кыпай. Памяниш.* ДУБАРЫНКА. *Я ж віджу, што ета дуба́рінка, яны розывінькія цёмнінькія.*

ДУБ'Е *н. зб.* Дубы. *Ду́б'я ныываліна куча збоку ны дарогі, трі хундамінты можна завесьць.*

ДУБЕННЕ *н. метаф.* Перастыласць. *Посьлі такога дубеньня, хочыш, с успаленьнім лёхкіх зваліська.*

ДУБНІК *м.* Дубняк. *Быў пычаў ніплахей ду́бнік росьць, а тады скот пусьцілі, каровы пыб'ідалі. Памяниш.* ДУБНІЧАК. *Ніхай ба рос ду́бнічык, па ім бырывікі часта прыкідаюцца.*

ДУДА *м.* і *ж. метаф.* Высокая, нязграбная, разумова абмежаваная асоба. *Ду́да ходзіць пы дзярэўні, ікая дзеўка ны яго узгляніць.*

ДУКАВАННІК *м.* Той, хто вучыць, павучае. *Як узялі у абарот дукува́ннікі утраіх, ён і красьнеў, і бляднеў, і гарэў ац стыда.* ДУКАВАННІЦА *ж.* *Хрузычкіна дычка ладныя дукува́ньніца, нудукуіць на пень бріхаць ны калоду тукыць.*

ДУМНАСЦЬ *ж.* Меркаванне. *Кылі ду́мнысьць браць ету кароўку, бяры, я табе саветыю: іна мылыдая і яе матка ны мылако харошыя была.*

ДУМЫ *мн.* Роздум. *У цябе толька і думоў, што пра Вольгічкіну дачку. У нас думоў ні було пры Вяхру.*

ДУНДУК *м. асудж.* Тупы, упарты чалавек. *Ну й дунду́к, як увапрецца, яго ні ў чом ні піряпреш. Памяниш.* ДУНДУЧОК. *Хадзіў нейкій дундучок, глядзеў як вірібянёнык. Узмацн.* ДУНДУЧЫНА. *Не, дундучы́ну і ня думый пірявучывыць, у яго гылыва мяльлім набіта. Павелiч.* ДУНДУЧЫШЧА. *А якей жа ён дундучы́шча, якей упоріна, я такіх зроду ня відзіў.* ДУНДУЧКА *ж.* *Ета Стыхваныва дунду́чка нешта пліла, ныўряд, каб іна праўду скызала. Памяниш.* ДУНДУЧАЧКА. *Што ж ты зьдзелыіш, кылі ўдылася дунду́чычка.*

ДУПЛЯВАЦІСТЫЙ *прым. абразл.* Недалёкі, неразважлівы. *Ну што, ежылі дуплюва́цістый, якога толку ат яго хацець.*

ДУРАКАВАТЫЙ *прым.* Зусім дурны. *Ніякыга толку ні даб'есься ў дурукува́тыга чылавека, зь ім як з радзімцым: ні найціць ні пыціряць.*

ДУРАЧОНАК *м. эмац.* Дакорлівы зварот да хлапчука. *Дурачоньік ты, дурачоньік, такоя дзеріва ні пірясодзіш. Памянш.* ДУРАЧОНАЧАК. *Дурачоньічык малінькій, ны грідах нада знаць, што ірваць.*

ДУРКА *ж. памянш.-ласк.* Дурніца. *Я яе гладзіла, масьліла — большы ні пріпускаіць,— ду́рка ты, чаго ты мылыка ні даеш.*

ДУРЛЁПА *звыч. ж. эмац.* Дурніца. *Чаго ты чыпаісься з дурлёпыю, нашто йна табе, каб апазоріла? Пірідай Аўрамывыму дурлёпу, ніхай успакоіцца і ня трогыіць дзяцей. Памянш.* ДУРЛЁПКА, ДУРЛЁПАЧКА. *Так толька дурлёпка можыць руссуждаць, разумныя дзеўка етык гываріць ні станіць. Ходзіць дурлёпычка пы дзяреўні, трілюдзіць што пупала. Узмацн.* ДУРЛЁПІНА. *Дурлёпіна ты, дурлёпіна, яны цябе нарошня пыдрыжняюць, а ты ўсяму веріш. Памянш.* ДУРЛЁПІНКА. *Ну што ж ты з дурлёпінкыю зьдзелыіш, якей розум, такея й словы. Павеліч.* ДУРЛЁПІШЧА. *Ні нылаіўшы вашу дурлёпішчу, толк ня будзіць, чаго іна ўсякыю лухту ны Кыбанёнка нясець.*

ДУРЛЁПІН *прым.* Такі, які мае адносіны да дурніцы. *Хто дурлёпіны рызгаворы слухыіць, тэй сам ня дужа разумін. Памянш.* ДУРЛЁПКІН. *Ета ні сыма прідумыла, ета дурлёпкіны словы пухтыряіць.*

ДУРНЕННЫЙ *прым.* Зусім дурны. *Ты самый дурненный на ўсём белым сьвеці, хто б ета другей прідумыў такую дурату тваріць.*

ДУРНЯ *ж.* Баламуцтва. *Раншы была дурня́ і цяперя яе хвытаіць. Устроіна дурня́ ніізьвесна длі чаго.*

ДУРНЯК *м.* Хітрыкі, прытворства. *Глядзіця, мудряцы, етый дурня́к можыць вам бокым вылізьць.*

ДУРНЯКОМ *прысл.* Проста, дарэмна, хітруючы. *Бацька пы вадзе прігнаў хату, у Падлужжа езьдзілі, вазілі хату, а Шпаку дысталыся дурняком хызяйства. Памянш.* ДУРНЯЧКОМ. *А во так во дурнячком і век жжыў, усе ны яго рукою мыхалі.*

ДУШАГУБНІК *ж.* Душагуб. *Душагу́бнік ён, а ні чылавек, ета нада толька прідумыць родныга пляменьніка здаць немцым.* ДУШАГУБНІЦА *ж. Што, душагу́бніца, цяперь тваё серца давольна?*

# Е

ЕЗД *м.*, ЕЗДКА *ж.* Паездка. *Учора быльшая вочырідзь была здываць зярно, дык у мяне толька два езды пулучылыся. Зы кажныю ездку пішуць пуўтрудыдня.*

ЕЗУІТКА *ж.* Крывадушная, вераломная жанчына. *Што пру другіх гываріць, ты ны сваю сястру пыглядзі, ізуітка ты нішчасныя. Памянш.* ЕЗУІТАЧКА. *Ізуітычка — во хто твыя пляменьніца, разьві ні йна пыдбріхала ну Куліну.*

ЕЗУІЦІНА *м.* і *ж. узмацн.* Крывадушная, вераломная асоба. *У-у, быў ізуіціна, ніхай іх, такіх, зімля ня носіць. Калі іна еткыю ізуіцінью стала? Павеліч.* ЕЗУІЦІШЧА. *Ізуіцішча, а ні чылавек, у ложкі вады утапіў ба любога.*

ЕЎНЯ *ж.* Асець з дзвярамі. *У нас, па-моему, усяго адна еўня была ў дзяреўні, усё асеці і асеці, у вакенца лазілі. Памянш.* ЕВЕНКА. *Наш старік евінку строіў, я дзяўчонкыю была, помню, усё зь дзьвірямі вазіўся.*

ЕЧЫК *м.* Птушка, лугавы канёк. *Птушычка шчабечыць так: чык-чык, таго яе завуць ечык. Памянш.* ЕЧЫЧАК. *Ечычык сваё гняздо хуваіць, яго нійдзе ні найдзіш, сколька ні шукай.*

# Ё

ЁДКА *прысл.* Вільготна і холадна. *Сяньня ёдка, ныдзівайся цяплей. Рось нейкыя сіціць і сіціць, паетыму і ёдка.*

ЁДКАСЦЬ *ж.* Халодная вільгаць. *Я дужа ёдкысьці баюся, тады мяне і трясецъ, і калоціць усю.*

ЁЖЫЧЫХА *ж.* Самка вожыка. *Хто іх рызьбярецъ, айдзе тэй ёжык, айдзе ёжычыха, ета так, сьмяюцца, што сеў на ёжычыху.*

ЁЧАННЕ *н.* 1. Пакуты. *Старыму астаецца адно ёчыньня, жызьня пражыта, нашто ён каму.* 2. Скарджанне. *А ня слухый ты яго ёчыньня, ён усё прідумывыіць.*

ЁЧЫЦЦА *незак.* 1. Пакутаваць. *Цімох даўно ёчыцца: усё баліць, усё зьнібіць, і летым яму халодна.* 2. Скардзіцца. *Ёчылыся Адарка ны дзяўчонку, што пымыгаць нічога ня хочыць.*

# Ж

ЖАДНЕННЫЙ *прым.* Празмерна сквапны. *Уся прірода жадненныя, такіх людзей на сьвеці большы німа, ня то што каму крошку хлеба дадуць, а с-пыць сябе паелі б.*

ЖАЛЕЗНАДАРОЖНІЦКІЙ *прым.* Чыгуначны. *Ета, помніш, зыхадзіў к Пыраскі маліц у такой жылізнадарожніцкый шапкі, ета Аўсеіў унук.*

ЖАЛКАВАЦЦА *незак.* Скардзіцца, бедаваць. *Ны каго я буду жулкувáцца, калі сваё дзеці ні пыспыгыдаюць, большы не к кыму гылавы прітуліць.*

ЖАРАБЁНКАЎ, ЖАРАБЁНКІН *прым.* Жарабячы. *Тут жырябёнкыва трыва пыкладжына, ня трогый яе. Ці помніш, як ты вязёнкі шукаў у жырябёнкіный пунькі і лаіўся, а яны былі ў цябе за ремнім. Памянш.* ЖАРАБЁНАЧКАЎ, ЖАРАБЁНАЧКІН. *Ні знаю я, айдзе жырябёнычкыва аброткa, я яе ня відзіў. Бувала, што і жырябёнычкіна соска нада была.*

ЖАРАБІЦЬ 1 *незак.* Прыводзіць жарабя. *У нас была вырыная кабылка, усігда жырябіла жырябочыкый, ні разу ні було ат яе жарёбычык.* 2 *зак.* Прывесці жарабя. *Сёліта Зорька жырябіла лысінькыю жарёбычку.* ЖАРАБІЦЦА *зак.* З'явіцца на свет (пра жарабя). *Помню, у нас быў гнядэй з лысінкыю, ён маліңкій жырябіўся, крошышный, а тады каніца рузгудуваўся, зьдзержу ні було.*

ЖАРАБКОЎ *прым.* Прызначаны для жарабка. *Ета жырябкова аброць, бяз грузьдзіла на ім ні паедзіш, рызьнясець ураз.*

ЖАРАБОЧАК *м.* Невялікі жарабок, жарэбчык. *Я сабе Гнядога жырябочыкым купляў, посьлі каніца-каніца вырыс.*

ЖАРАБОЧЫКАЎ, ЖАРЭБЧЫКАЎ *прым.* Прызначаны для жарэбчыка. *Жырябочыкыва нывязывыньня ляжыць ны ґанкых, там разым с клецым, а мылаток у сенцых вазьмі. Пыгладзь ручкыю жаребчыкыву гріўку, ня бойся, маліңкій.*

ЖАРНУЦЦА *зак. метаф.* Моцна ўдарыцца, стукнуцца. *Глядзі, нылазісься, як жáрнісься зьверьху, што косьці зытрішчаць.*

ЖАРОБАЧКА *ж.* Невялікая жаробка. *Каб у хызяйскія рукі, зь естыя жарёбычкі харошыя б кабыла была.*

ЖАРОБАЧКІН *прым.* Прызначаны для жаробачкі.

*Во тута жарёбычкіна трыва, трошку пыгыдзя яе нада будзіць пыкарміць.*

ЖАРОБКІН *прым.* Прызначаны для жаробкі. *Ня відзіў я, айдзе жарёбкіна аброць, ці ня кінуў ты яе зу кустамі.*

ЖАРЧЭЙШЫЙ *прым.* Больш гарачы. *Сёлітнія лета многа жарчэйшыя, усё скарей пасьпела, жнуць пасьці на дзьве нядзелі раншы, як летыся.*

ЖАРЧЭННЫЙ *прым.* Празмерна гарачы. *Тыкая жарчэнныя баня, я ўскачыў — ні прыдыхнуць, чуць жывэй выкыціўся.*

ЖАРЫНА *ж.* Вугаліна. *Вынісі жар, ды астарожын будзь, ато зываліцца жаріна ў сьмяцьцё, і ўсё можыць пыхнуць. Памянш.* ЖАРЫНКА, ЖАРЫНАЧКА. *Во што значыць дубовыя дровы: ныза́йтріга залу кыпанеш, дык ішчэ жарінкі сьвецюцца. Тама ні аднае жарінычкі німа, грубка даўно прастыла.*

ЖАРЫСТЫЙ *прым.* Добра падсмажаны. *Мае дзеці любюць, каб жа́рістыя скваркі, аж пацсохлыя.*

ЖАЎТАВАТА *прысл.* Крыху жоўта. *Ны адным баку пулучылыся жуўтува́та. Памянш.* ЖАЎТАВАЦЕНЬКА. *Я знаю, ач чаго жуўтува́цінька: зымякла, а ты ні спыласнула.*

ЖАЎЦЕННЫЙ *прым.* Надзвычай жоўты. *Стаў жаўценный нейкій, нікрысівенный, луччы у гроб кладуць, чым ён січас.*

ЖАЦЦА, ЖМАЦЦА *незак. перан.* Сквапнічаць. *Нечыга жа́цца, дай ім грошы, ніхай кыравёнку сабе купюць. Каб меншы жма́ўся, к табе б так ні атнасіліся.*

ЖВЯГАННЕ *н. неадабр.* Балбатня. *Што ні люблю я жвя́гыньня, за ета пряма б мятлою с хаты гнала.*

ЖВЯГАННІК *м. неадабр.* Балбатун. *Ну баба дык іна баба, а штоб мушчына еткій жвя́гыньнік быў — ажно слухыць гідка.* ЖВЯГАННІЦА *ж. Па цёткі жвя́гыньніца ўдылася, у тае тожа быў язык нізыбарсывыный.*

ЖВЯГАЦЬ *незак. неадабр.* Балбатаць. *Не каб спакойна прайціць, будзіць жвя́гыць і жвя́гыць, як зы язык пачэпліный.* ЖВЯГАЦЦА *незак.* 1. Балбатаць. *Дай толька ім сыйціцца ўместа, пычануць жвягыцца.* 2. *Зал.-бессуб'ект. ад* жвягаць. *Узноў ім жвя́гыіцца, ні мінуты ні сядзіцца спакойна.*

ЖВЯГЛЫЙ *прым.* 1. Звяглівы. *Жвя́глый сыбачонка, як уваліцца за кім, хуць палкыю ат яго адбівайся. Памянш.* ЖВЯГЛЕНЬКІЙ. *Дужа жвяглінькыя сучычка бы-*

*ла ў Айдакімывых.* 2 *перан.* Крыклівы. *Такога жвяглыга чылавека ні часта увідзіш.*

ЖГАННЕ *н.* Абпяканне крапівой. *Ні дурачціся вы зь естым жгáньнім, нікрасіва так балывыцца.*

ЖГАЦЬ *незак.* Пячы (крапівой). *Злавіў яго Пуўлючок у мідунічкых ды як дывай жгаць крапівыю.* ЖГАЦЦА *незак.* Пячыся (крапівой). *Ну што йта вы прідумылі крапівыю жгацца!*

ЖЛУКЦЕННЕ, ЖЛУКЧАННЕ *н.* Піццё без меры. *Во жлýкціньня, пряма з гырлыча набгом. Пыдзівіся ты ны яго жлýкчыньня, ніяк ні нап'ецца.*

ЖМАННЁ *н.* 1. Цісканне. *Я табе січас дам жманьнё, што ўнімісься і другому зыкажыш.* 2. Цісканіна. *Сыбяруцца кучыю ны скамейкі, жманьнё, піск ды раньня.* 3 *перан.* Сквапнасць. *Нагледзілыся я ны яе жманьнё, іна кружку сыўрыдкі пыжалеіць наліць.*

ЖМОТКА *ж.* Малакаштоўная рэч. *Тама ну вугле Хрісьцініна жмотка ліжала, іна к Сярёжку пабегла пымыгаць. Памянш.* ЖМОТАЧКА. *Пыкладзі жмотычкі ны ліжáнку, посьлі зыбяреш.*

ЖМОЦІНА *м.* і *ж. узмацн.* Жмінда. *Ні зышчышчайця, ні зышчышчайця, ваш старэй ня меншый быў жмоціна ўсігда. К старысьці нешта і ты ладныя жмоціна стала. Павеліч.* ЖМОЦІШЧА. *Во хто быў жмоцішча — ваш старік.*

ЖМУРАННЕ *н.* Затулянне пры гульні ў хованкі. *Я знаю, якоя ў яе жмýріньня: рукамі закрыіцца, а скрозь пальцы глядзіць.*

ЖМУРАННІК *м.* Той, хто жмурыцца пры гульні ў хованкі. *Ваш жмýріньнік усё ўремя пыдглядывыіць.* ЖМУРАННІЦА *ж. Знаю, знаю тую жмýріньніцу: збоку іна ўсё відзіць.*

ЖОНКІН *прым.* Жончын. *Ета ён жонкіны словы пухтыряіць, сам ба ды такога ні дадумыўся. Памянш.* ЖОНАЧКІН. *Жонычкіна навука: тая прівыкла усё пыдбряхывыць ну людзей.*

ЖУДРАЧКА *ж. жарт.* Сяброўка. *Ты ж і жудря́чку сваю заві ны вічарінку, можа, якей хлопіц паччэпіць.*

ЖУЛЯБІЯ *ж. зб. эмац.* Жулікі. *Тады жуля́бія была крепка рызьвілася, усяго вытвырялі, пакуля ні пірішарсьцілі іх.*

ЖЫВОТНЫЙ *прым.* Такі, які мае адносіны да жывата. *Мой так цяжола ліжаў ж жывотным ціхым, чуць выкырыбкыўся. Жывотныя мікстура.*

ЖЫВУШЧЫЙ *прым.* Жывучы. *Усякія гадзюкі жывўшчыя, ты яе бі, а йна круціцца.*

ЖЫДЧЭЦЬ, ЖЫДЧЭЦЦА, ЖЫДЗЕЦЦА *незак.* Рабіцца больш вадкім. *Само ня будзіць жыччэць, ты вады бяс толку нубухторіла. Гарбуз як стаіць, жыччэіцца, яго нада хырашо разьмешывыць. Вымішый кулеш як нада, тады ня будзіць жыдзецца.*

ЖЫРНЮШЧЫЙ *прым.* Надзвычай тлусты. *Якывіны хлопцы былі тут — жырнюшчыя, рузгудуваныя.*

ЖЫРІКІ *мн. гумар.* Турботы. *Нейкія жырікі ў табе зывяліся, ні даюць спакою. Нада, каб хто найшоўся жырікі сь цябе выгныць.*

ЖЫСЦЬ *ж.* Жыццё. *Ты ны сваю жысьць ні біджайся. У жысьці ўсяго ныжывеш, і Кузьму бацькым ныза-веш.*

ЖЫТЫЙ *дзеепрым.* Такі, у якім жылі, жылы. *Ён сабе зутургуваў зы Сажом хату, хата жытыя, ну нямнога, гады два, ішчэ новыя.*

ЖЫЎЧЫК *м. жарт.* Хлапчук-гарэза. *Ну й жыўчык жа Гыпанёнкыў меншый, у кажнінькыю дзірьку яму нада ўлезьць.*

ЖЫЦЕЙСКАСЦЬ *ж.* Практычнасць. *Крысыта як крысыта, а глядзі, каб у чылавека жыцейскысьць была, каб ня ўзьвей-вецір.*

ЖЫЦІНКА, ЖЫЦІНАЧКА *ж. памянш.* Адно сцябло, адно зерне жыта. *Пы ячменю кой-айдзе жыцінкі растуць. Ячмень курям, а жыцінкі ў рот. Што ў айсе жыцінычкі, зь іх нічога ня будзіць.*

ЖЭБРЫ *мн.* Касцяк, які выступае па баках. *Высых, выпітрій, адны жэбры асталіся, дзень прі дні носіцца, у хату ні загоніш пад'есьць. Памянш.* ЖЭБРАЧКІ. *Іна ўжо ні жылец, настолька высыхла зы пасьледнія ўремя, у чым тэя жэбрычкі дзіржацца.*

ЖЭМПЕР *м.* Джэмпер. *Я тама бульбу накрыла ірьмяком і старінькыю кухваічкыю, і жэмпір нейкій быў. Памянш.* ЖАМПЯРОК, ЖЭМПЕРАК, ЖАМПЯРОЧАК. *Падзьдзень жымпярок, сяньня дужа халодна. Мне Арініна дычка зьвізала жэмпірік, дужа цёплінькій. Хуць старінькій жымпярочык, а трошку греіць.*

# З

ЗААБРЭМЕНЕЦЬ, ЗААБРЭМЕНЕЦЦА *зац.* Зацяжарыць. *Пітрачыха шостый раз зыабремініла, ужо з лад-*

*ным жыватом ходзіць. Зірні-ка, ета краля ці ні зыабреміналыся.*

ЗАБАБУХЫВАЦЬ *незак. перан.* Глыбока закопваць, забіваць. *Дужа глыбока сохі зыбабу́хывылі, думылі, навешна строюцца.* ЗАБАБУХЫВАЦЦА *незак.* Глыбока закопвацца, забівацца. *У цябе крепка кольля зыбабу́хывыіцца.*

ЗАБАЛДЗЕЦЬ *зак. эмац.* Ачмурэць. *Накуріна хут тапор вешый, пысядзі пуу́чыса — зыбалдзеіш, ніхай ба вокны рышчынілі.* ЗАБАЛДЗЕЛЫЙ *дзеепрым. Сямён стыяў кылы ўгла нейкій зыбалдзелый, я яму нічога ні гыварій.*

ЗАБАЛОЦІСТЫЙ *прым.* Забалочаны. *Тама зыбалоцістый луг, машына ня йдзець, уручную касілі, пуд узвалык сушэй.*

ЗАБАЛЬШАК *м.* Поле за бальшаком. *Ідзець із зыбыльшыка́ і нешта нясець у пале, я пыглядзела — а тама ёжык.*

ЗАБАЛЬШАЧЧА *н.* Прастора за бальшаком. *Во што ат нас зы быльшаком — ета зыбыльша́чча, і зы адным быльшаком, і зу другім.*

ЗАБАРАБАНІЦЦА *зак. перан.* 1. Стаміцца ляпаючы. *Сядзіць на печы, глухувата, я зыбырыба́нілыся, пакуля іна пачула ды спуу́зла на мост.* 2. Забалбатацца. *Яны як сойдуцца, як зыбырыба́нюцца, дык ніхай гаріць-смыліць — пра ўсё забудуць.*

ЗАБАРАНІЦЦА *зак.* Абараніцца (ад прыродных з'яў). *Я ні прідумыю, як ат етыга сьнегу зыбыраніцца: і прець, і нясець, і круціць ува ўсе дзірькі, ніякыга спасу ат яго німа сёліта.*

ЗАБАРАХЛЕЦЬ *зак. метаф.* Загаварыць шпарка і невыразна. *Пра што яны зыбырахлелі, што ім такоя аньціресныя пупала ны язык?*

ЗАБАРАХЛІЦЬ *зак. метаф.* 1. Пачаць гаварыць пустое. *Я думыю, чаго йта Хвядосыў так зыбырахліў, а ета ён пыч чаркыю.* 2. Загрувасціць. *Зыбырахліш ты двор, што ні пралезьць будзіць, прібірай зразу к месту.* 3. Пачаць працаваць з перабоямі. *Столька я езьдзіў, і толька во цяперя зыбырахліў матор.* ЗАБАРАХЛІЦЦА *зак.* 1. Загаварыцца. *Пустухі зыбырахліліся, а табун у шкоду.* 2. Загрувасціцца. *Жаднысьць заела, ужо так зыбырахліліся, што самі ні знаюць, куды ш чым дзівацца.* ЗАБАРАХЛЁМШЫ *дзеепрысл.* 1. Загаварыўшы пустое. *Як сядуць зыбырахлёмшы, рызыйціцца ня могуць.* 2. За-

грувасціўшы. *Уся клець зыбырахлёмшы усякім хламым.*

ЗАБАРОНА *ж.* Абарона (ад прыродных з'яў). *Хадзіця, бабы, сюда, тута хуць нейкыя зыбарона ат ветру, ну буі пыкалець можна.*

ЗАБАЎТЫВАЦЬ, ЗАБОЎТЫВАЦЬ *незак.* Разводзіць, расчыняць. *Зыба́йтывый-ка сяньня якея-небудзь бліны, дайно ўжо нічога сьвежыга ні пяклі. А во забоўтывыю ладкі, дайно ні пікла, сьмітана ёсьць, с ахоткі зьядуць.* ЗАБАЎТАЦЬ *зак. перан.* Забалбатаць. *Як зубуўта́іць, яго ні астановіш, слухый — ні піряслухыіш.* ЗАБАЎТАЦЦА *зак.* 1. Пачаць боўтацца. *Ны балькі сядзіць, а ня відна, палкыю торкнуў, карзінка зубуўта́лыся, а мне здалося, тама нівісь што.* 2. Развесціся, расчыніцца. *Пысядзі, пасьпеюць твае бліны зубуўта́цца, мушчыны ішчэ няскора пад'едуць.* 3. Забалбатацца. *Як зубуўта́юцца, ім ні ды скыта, увесь табун у ячмень уваліцца, а сторыж наскочыць.*

ЗАБІВАЦЬ *незак. перан.* Затузваць. *Ён ціхій, пуслухмяный, яго ўсе зыбіва́юць, гыняюць, куды пупала, пысылаюць усюдых.* ЗАБІВАЦЦА *незак.* Моцна ўдарацца, падаючы. *Сколька разоў ён зьлітаў атаўсюль, сколька зыбіва́ўся, пыякочыць і ўзноў дзярецца ны ўсьпяцень якей.*

ЗАБІДЖЫВАННЕ, ЗАБІЖЫВАННЕ *н.* Крыўджанне, крыўда. *Ня столька тога забіджывыньня, сколька сьлёз. Ён дужа мсьлівый, ніякыга забіжывыньня ня просьціць.*

ЗАБІДЖЫВАЦЦА *незак.* Моцна крыўдзіцца. *Нечыга яму забіджывыцца, Мырьянка праўду скызала, нілізя етык дзелыць.*

ЗАБЛІЗКА *прысл.* Занадта блізка. *Ні стынавіся заблізка, мала якей случый, тапор саскочыць ці куўзанецца, усё можыць быць.*

ЗАБРУДНІЧЫЦЬ *зак.* 1. Забрудзіць. *Ты сваю рубашку дужа забру́днічыў, яе некуды ныдзівацъ, мыць нада.* 2. Забрудзіцца. *Усё тряп'ё забру́днічыла, трошку з бульбыю убярёмся, шчолык буду дзелыць.* ЗАБРУДНІЧЫЦЦА *зак.* Забрудзіцца. *Хочыш ты, каб ма́лыя ні забру́днічыліся, тута сам то там то там цірнесься і гразный.*

ЗАБРУХАЦЕЦЬ *зак. груб.* 1. Распаўнець. *Разьеўся, зубрюхацеў, як ваперь кормный.* 2. Zацяжарыць. *Як зубрюхацела, тады ўжо гатова і зы Івана іціць, а нашто йна каму тыкая.* ЗАБРУХАЦЕЛЫЙ *дзеепрым.* Распаўнелы.

*Ідуць зубрюхацелыя — ня спышуцца, аж сапуць, салачуць ні капыіць зь іх.* ЗАБРУХАЦЕЛАЯ *дзеепрым.* Цяжарная. *Ты мне толька явіся зубрюхацелыя, ны парогнагою ні пушчу.*

ЗАБУЗОВЫВАННЕ *н.* Заношванне, забруджванне. *К чаму такоя зубузовывыньня варта, за дзьве нядзелі новыю куртычку сплюгавіў.*

ЗАБЯГАННЕ *н.* Паддобрыванне. *Мы табе гыварілі, што цяпера ніякыя зыбіга́ньня ні паможыць, ныбарот, можыця хужы зьдзелыць: Антон угаворый дужа ня любіць.*

ЗАБЯРЭЖЧ *зак.* Зберагчы. *Дзядзька тады зыбярёг етых дзяцей, ато б яны пагінулі.* ЗАБЯРЭЖЦА *зак.* Зберагчыся. *Сімяно ў мяне тады троху зыбіряглося, я гарод пасеіла і Ганьні дыла.*

ЗАБЯССІЛІВАЦЬ, ЗАБЯССІЛІВАЦЦА *незак.* Заставацца без сілы. *Старысьць нікога ні красіць, у старысьці чылавек зыбясьсілівыіць. Пычанеш зыбясьсілівыцца, тады пызнаіш, як аднаму ў хаці астывацца.* ЗАБЯССІЛЕЦЬ, ЗАБЯССІЛЕЦЦА *зак.* Застацца без сілы. *Так зыбясьсіліла, ні магу хадзіць, дайжа устываць ураньні ня хочыцца. Пынкрацёнык доўга дзіржайся, толька ў пасьледнія ўремя зыбясьсіліўся.* ЗАБЯССІЛЕНЫЙ *дзеепрым. Зыбясьсіліный чылавек ня дужа каму нада, ты харош, як ны ныгах крепка стаіш і рукі служуць.*

ЗАВАДЗІЦЬ *незак. метаф.* Узбуджаць, раздражняць. *Машка іх часта зывадзіла, яны як расходзюцца, ажно пыбялеюць.* ЗАВАДЗІЦЦА *незак.* Узбуджацца, раздражняцца. *Я ўжо віджу: заводзіцца, луччы кінь і ацступіся, ато бряхні ні адбяресься.*

ЗАВАДНЫЙ *прым. перан.* Такі, які хутка ўзбуджаецца. *Атрашонык дужа зывадны́й, буваіць, слова ні пы яго скажыш, як сьпічка успыхніць.*

ЗАВАДЭВУШАК *м. памянш.* Завадатар, ініцыятар. *Гады ціріз два-трі і зь естыга хлапчыны ладный зывадэвушык вырысьціць.*

ЗАВАДЭВУШНІК *м.* Завадатар, ініцыятар. *Ці ты ні знаіш, хто ў іх галоўный зывадэвушнік.* *Памянш.* ЗАВАДЭВУШНІЧАК. *Ты й сам быў ладный зывадэвушнічык.* ЗАВАДЭВУШНІЦА *ж. Глядзі-ка ты, у іх Піліпёнкыва дычка ужо зывадэвушніца.*

ЗАВАЖДЖЫВАННІК, ЗАВОЖДЖЫВАННІК *м.* Той, хто прывязвае лейцы да аброці. *Во зыва́жджывыньнік, я пыцягнуў за вожку, іна й атвізалыся. Чаго ты, за-*

*вожджывыньнік, пуўчыса кыпаісься, вожку прівізаць ня ўмеіш ці што.* ЗАВАЖДЖЫВАННІЦА, ЗАВОЖДЖЫВАННІЦА *ж. Удзьвюх зыважджывыньніцы вожкі чыплялі. Наша завожджывыньніца чуць справілыся.*

ЗАВАЛАВОДЖАНЫЙ *дзеепрым.* Замучаны цяганінай. *У Трыхімёнка нейкій від зывылаводжыный, ён, кажыцца, ніізьвесна пра што думыіць.*

ЗАВАЛІВАЦЬ *незак.* 1. Валіць. *Каго яны думыюць зывáлівыць, Пітрыка?— ён іх адною рукою рызмыхаіць.* 2 *метаф.* Пры вастрэнні загінаць джала. *Ты ці ні зывáлівыіш жала?* ЗАВАЛІЦЬ *зак.* 1. Паваліць. *Выбухыўся хлопіц як дуб, айдзе ты яго зывáліш, і брацца ня думый.* 2. Пры вастрэнні загнуць джала. *Во майсьцір дык майсьцір, зываліў лязо, цяперя тыпаром нічога ні аціьсякеш.* ЗАВАЛЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Павалены. *Яны яго зывáліныга нымякшылі троху.* 2. Загнуты пры вастрэнні (пра джала). *Жала ў цясьле зывáліна, як ёю карыцца выдзіўбіш.* ЗАВАЛЁМШЫ *дзеепрысл.* 1. Паваліўшы. *Зывалёмшы, нытаўкуць бакі, тады пызыдаесься.* 2. Загнуўшы, загнуўшыся пры вастрэнні (пра джала). *Лязо ў тыпаре зывалёмшы.*

ЗАВАЛНОВАНЫЙ, ЗАВАЛНАВАНЫЙ *дзеепрым.* Усхваляваны. *Ходзюць Мікіпырывы зывалновыныя, быяцца, што сянцо ім так ні абойдзіцца. Нейкіх у аборкых зашчучылі, так яны былі зувулнувáны.*

ЗАВАЛЬ *ж. метаф.* Нікуды нявартыя людзі. *Сыбярецца зáвыль і пычалі піріліваць с пустога ў парожнія, апсуждаць кажныга.*

ЗАВАЛЬНЯННЕ, ЗАВАЛЬНЕННЕ *н.* Забарона. *Што маё зывыльня́ньня, кылі яны неслухі зь неслухый. Ні пыглядзеў ны маё зывальненьня, склаў тряпкі і паехый.*

ЗАВАЛЬНЯЦЦА *незак.* Забараняцца. *Пыдыйшоў і пычынаіць крічаць: табе тута касіць зывыльня́іцца!*

ЗАВАЛЯШЧЫЙ *прым. эмац.* Нікчэмны. *Ёй ладзін будзіць і зывыля́шчый мужык, нашто ёй луччый. Памянш.* ЗАВАЛЯШЧАНЬКІЙ. *Худзь ба якога зывыля́шчынькыга кынька запрежч, абы бырану троху пыцігаў.*

ЗАВЕСІШЧА *ж. павеліч.* Завеса. *У Стыхвана во такенныя завесішчы ў пуні былі, іх ба дайжа каб хацеў, ні пірiпіліў ба.*

ЗАВІДЗЕЦЦА *зак.* Набачыцца звыш меры (у сне). *Ні знаю, к чаму б ета: завідзілыся сяньня матку ува сьне, іна мне к харошыму ні разу ня сьніцца, ґ горю якому-небудзь.*

ЗАВІНАЦЦА *незак.* Пачынаць з ахвотай, вельмі шчыра. *Зывіна́юцца многа чаго дзелыць, ды нічога ды кынца ні даводзюць.*

ЗАВОЖДЖЫВАЦЬ *незак.* Прывязваць лейцы да аброці. *Кыня завожджывыць бальшэя навукі ні нада.* ЗАВОЖДЖЫВАЦЦА, ЗАВАЖДЖЫВАЦЦА *незак.* Прывязвацца да аброці (пра лейцы). *Пыдажджы, у яго ўжо завожджывыіцца. Што там у цябе ні зыва́жджывыіцца, зы банькі прівязывый вожкі і ўсё.* ЗАВАЖДЖАЦЦА *зак.* Прывязацца да аброці (пра лейцы). *Калі там у цябе зывыжджа́іцца, хваціць кулупацца.*

ЗАВУГОЛЬНІК *м. асудж.* Пляткар. *Прідумыць ба ні прідумыў, каб мушчыну зьдзелыцца еткім зувугольнікым.* ЗАВУГОЛЬНІЦА *ж. Ці сучка, ці зувугольніца — ета ўсё адно.*

ЗАВУГОЛЬНЫЙ *прым. асудж.* Пляткарскі. *Табе дужа ныравіцца слухыць усякія зувугольныя рызгаворы.*

ЗАВЯРШЫЦЦА *зак.* Скончыцца вяршэннем (пра складанне стога). *На етый раз у цябе красіва зывяршы́лыся, стог як лялька стаіць.* ЗАВЯРШОМШЫ *дзеепрысл. Зывяршомшы стог, можна і пірідыхнуць, канец рабоці.*

ЗАВЯШЧАЦЕЛЬНЫЙ *прым. жарт.* Прызначаны для нарады, дамоўленасці. *У нас ну бульварі прызвалі дзьве лавычкі зывішча́цільныя, у самый вугалок пыт касьцёл,— хлопіц бярець дзеўку і ўгыварівыіць там.*

ЗАГАВАЛІНА *ж.*, ЗАГАВАЛЬНІК *м.* Прызба. *Ны зімў зугува́ліну мы, бувала, усігда бульбоўнікым апклыдалі па вокны, і цяплей було ў хаці. Нада уціпляць за́гывыльнік, зімы цяперіцька дужа злэя. Я ўжо свой зугува́льнік апклаў бульбоўнікым. Памянш.* ЗАГАВАЛІНКА, ЗАГАВАЛЬНІЧАК. *Зугува́лінка чысьцінька апкладжына, акуратна зьдзелына. За́гывыльнічык усігда ґ зіме уціпляіцца. Ні кідай зугува́льнічык ніапкладжыным, усё меншы холыду будзіць ныхадзіць.*

ЗАГАІВАННЕ *н.* Зажыўленне. *Глубока прабіў нагу, німа зыга́івыньня, усё гнаіцца і гнаіцца.*

ЗАГАІВАЦЬ *незак.* Зажыўляць. *Ладна сярпом різанула пы пальцых і цяперя некылі зыга́івыць.* ЗАГАІВАЦЦА *незак.* Зажыўляцца. *Парезыныю руку бірягі, ніхай рана зыга́івыіцца, ні мачы дужа і ні рызьвярчывый.*

ЗАГАНЯТЫЙ *дзеепрым.* 1. Загнаны. *Ці зыгыня́тыя нашы сьвіньні, нешта пацы сьценкыю стукыіць, каб яны ня вылізьлі ды ні ўваліліся ў гарод. 2 перан.* Затузаны,

змучаны. *Коні зыгыня́тыя саўсім, ні знаю, калі ім якую аддышку даць.*

ЗАГЛАМАЗДЫВАННЕ, ЗАГЛАМАЗДАЧЫВАННЕ, ЗАГЛАМАЗДЗЯЧЫВАННЕ *н. эмац.* 1. Загрувашчванне. *Зразу прібірай усё к месту, ні дупускай зыглыма́здывыньня. Калі ета зыглымызда́чывыньня ны дваре прібярецца троху? Ні ныравіцца мне зыглымызьдзя́чывыньня ў клеці, ні пыкызацца туды.* 2. Няўмелае заплятанне, заштукоўванне. *Якоя ні зыглыма́здывыньня, бульба ня будзіць сыпыцца і то ладна. Каму ж пыныравіцца такоя зыглымызда́чывыньня, можна акуратней зьдзелыць. Толька што зыглымызьдзя́чывыньня, а ні зыплітаньня, так дзелыць, дык луччы саўсім ні брацца.*

ЗАГЛАМАЗДЫВАЦЬ, ЗАГЛАМАЗДАЧЫВАЦЬ, ЗАГЛАМАЗДЗЯЧЫВАЦЬ *незак. эмац.* 1. Загрувашчваць. *Ныпрасна ты двор зыглыма́здывыіш, сена ні пыдвязеш к пуні. Ні люблю я, што пуню ўсякім хламым зыглымызда́чывыюць. Каб ты ні зыглымызьдзя́чывыў праход, куды б луччы було.* 2. Няўмела заплятаць, заштукоўваць. *Старік пыт паветкыю, карзінку зыглыма́здывыіць. Я сыма ат курей троху зыглымызда́чывыла пляцень, ні так будуць лезьць. Ету карзінку некуды зыглымызьдзя́чывыць, яе толька ў печ пасеч.* ЗАГЛАМАЗДЫВАЦЦА, ЗАГЛАМАЗДАЧЫВАЦЦА, ЗАГЛАМАЗДЗЯЧЫВАЦЦА *незак.* 1. Загрувашчвацца. *Нічога дужа ні кідаіш, а само пы сабе зыглыма́здывыіцца. Узноў у цябе пытпавецьця зыглымызда́чывыіцца. Ні само ж тут зыглымызьдзя́чывыіцца, нехта кідыіць хлуз.* 2. Няўмела заплятацца, заштукоўвацца. *Толька што зыглыма́здывыіцца, ні пляцень, а роіла. Як зыглымызда́чывыіцца, так і ладна, будзіш ты ішчэ красу нывадзіць. Нешта ў цябе ніяк ні зыглымызьдзя́чывыіцца, як ні сваімі рукамі дзелыіш.* ЗАГЛАМАЗДАЧЫЦЬ, ЗАГЛАМАЗДЗЯЧЫЦЬ *зак.* 1. Загрувасціць. *Сяніцу зыглымызда́чыў, што туды ні пыкызацца. Як зыглымызьдзя́чыш, дык сам рызьбіраць будзіш, я дайжа ні вазьмуся.* 2. Няўмела заплесці, заштукаваць. *Нада затул троху зыглымызда́чыць, ато сьнегу нынясець у дзірькі. Во як табе карзінку зыглымызьдзя́чыў, бульба ня высыпліцца.* ЗАГЛАМАЗДАЧЫЦЦА, ЗАГЛАМАЗДЗЯЧЫЦЦА *зак.* 1. Загрувасціцца. *Зыглымызда́чыцца — яно скора будзіць, ета рашчысьціць ціжалей. То тоя, то другоя кідаіця ні ўпыряччыўшы, узноў двор зыглымызьдзя́чыцца.* 2. Няўмела заплесціся, заштукавацца. *Ня дужа ладна зыглымызда́чылысь, ну пірядзе-*

*лывыць некылі. Пыдажджы, троху зыглымызьдзя́чыцца зь естыга боку, тады пойдзім.* ЗАГЛАМАЗДАЧАНЫЙ, ЗАГЛАМАЗДЗЯЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Загрувашчаны. *Я ціріс парог глянула — хата заднія зыглымызда́чына, усякыга бырыхла кучыю нываліна. Павець зыглымызьдзя́чына, там ня то што калёсы ні пыставіш, а пывярнуцца нейдзі.* 2. Няўмела заплецены, заштукаваны. *Ай, як ні зыглымызда́чына, ладна ўжо, уремя саўсім німа. Вакенцы зыглымызьдзя́чыны дужа нікуратна.*

ЗАГНАТЫЙ *дзеепрым.* 1. Загнаны. *Ці зыгна́т ета наш цялёнык? Карова даўно зыгна́та.* 2. Убіты. *Крепка гвозд зыгна́т, ня вырьвіш, толька рыскалоць палку.* 3 *перан.* Змораны. *Пріехыў пад вечыр, конь быў зыгна́т ды пасьледніга.*

ЗАГРАЖАННЕ, ЗАГРАЖЫВАННЕ *н.* Паграржанне. *А чулі мы яго зыгрыжа́ньня, ізыком трепліцца, як сыбака хвастом. Ніхто яго зыгра́жывыньня ні быяўся і ні баіцца, ніхай свайму бацьку загрозіць.*

ЗАГРАЖАННІК, ЗАГРАЖЫВАННІК *м.* Той, хто пагражае. *Я б так турнула етыга загрыжа́ньніка, што ён ні знаў ба, як ляцець. Ходзіць зыгра́жывыньнік і пыглідаіць, усё дно як нехта яго грозьбыў баіцца.* ЗАГРАЖАННІЦА, ЗАГРАЖЫВАННІЦА *ж. Ета Сызанёнкыва зыгрыжа́ньніца усякыю трілюду прець. Устреціў Ільля зыгра́жывыньніцу, нылаіў, нылаіў і пашоў дальшы.*

ЗАГРАЖАЦЬ, ЗАГРАЖЫВАЦЬ *незак.* Пагражаць. *Ні таму ён узяўся зыгрыжа́ць, сам можыць пулучыць луччы некуды. Ты каму-небудзь другому зыгра́жывый, а ня мне, гражэньнік саплівый.* ЗАГРАЗІЦЬ *зак.* Прыгразіць. *Зыгразілі яму: толька папробый пікнуць,— дык муўчаў як вады ў рот ныбраўшы.* ЗАГРОЖАНЫЙ *дзеепрым. Ета мы посьлі пынялі, што яму було крепка загрожына.* ЗАГРАЗЁМШЫ *дзеепрысл. Ні зыгразёмшы ім, ня ўнімуцца, нада, каб дайжа думыць быяліся пры садок.*

ЗАГРАНІЦКІЙ *прым.* Заграні́чны. *Што ты думыіш, ета зыграні́цкыя якоя мылако?*

ЗАГРОБАК, ЗАГРОБЫШ *м. жарт.* Апошняе дзіця ў сям'і (хлапчук). *Ета ў мяне ўжо загрёбык, дос, хваціць, большы ні нада. Прікажы свайму загрёбышу, каб пірістаў зь дзяўчонкымі дражніцца, іўш ты яго, нійдзе места сабе ні найдзіць. Памянш.* ЗАГРОБАЧАК, ЗАГРОБЫШАК. *Ды чаго ж балыўный Якывін загрёбычык, шкура на ім гаріць. Ну каб мне злавіць вун тога загрёбышка, вот ба ён у мяне пукруціўся.*

ЗАГРОБКІ *мн.* Загрэбеныя рэшткі. *Вун загрёбкі тваё кылы карыта ліжаць. Памянш.* ЗАГРОБАЧКІ. *Тута загрёбычык адна горсьць, пірякінь у пуньку к пырысятым.*

ЗАГРУБЕЦЦА *зак. метаф.* 1. Патаўсцець. *Нешта паліц зугрубеўся, знаць, нарыў абразуіцца.* 2. Зацяжарыць. *Манічка ішчэ ды свадзьбы зугрубелыся, хадзіла кыралевыю, ёй ужо скора радзіць.*

ЗАГРУДКІ *прысл.* За каўнер. *Як тріханулі зáгрудкі, зразу асеўся. Хваціў зáгрудкі, дык тэй і ня пікнуў.*

ЗАГУДЗЕЦЬ, ЗАГУСЦЬ *зак. метаф.* Пачаць выразна праяўляцца. *Кургузёнык як возьміцца, ураз дзела зугудзіць,— ён жа гультай самый пасьледній. Летыся позна восінь дзіржала, а тады разым зугуло, сьнегу нываліла пат крышы.*

ЗАГУЛЯЦЬ *зак. метаф.* Пачаць бурна праяўляць сябе ў росце. *Трі бабы ў хаці цалюткімі днямі сідзяць, а трыва пы грідах зугуля́ла,— што яны самі сабе думыюць.*

ЗАГУНА *ж.* Загана. *Ну ёй загу́на ёсьць: бегыіць, нічога ня зьдзелыіш, а ны мылако нічога кароўка.*

ЗАГУННІК *м.* Той, хто ганіць. *Кіріёнык, канешня, ніплахей загу́ньнік, ніхай сам ны сябе пыглядзіць. Памянш.* ЗАГУННІЧАК. *Во ты, мой загу́ньнічык, усё ўгледзіш.* ЗАГУННІЦА *ж. Што йна, тая загу́ньніца, вірзла ны Гыўрілёнка, што там ёй ні пы насу?*

ЗАГУРТОВЫВАЦЬ *незак. эмац.* Закладаць. *Вы зугуртовывыіця дарогу, скот некуды будзіць прыгнаць.* ЗАГУРТОВЫВАЦЦА *незак.* Закладацца. *Што ж у вас праход зугуртовывыіцца, нілізя так дзелыць.* ЗАГУРТАВАЦЬ *зак.* Закласці. *Зугуртува́лі пуўусядзьбы лесым, многа нывазілі, ны піцісьценку рызмахнуліся.* ЗАГУРТАВАЦЦА *зак.* Закласціся. *Зугуртува́лыся Аўгінка бульбыю, ні прідумыіць, куды дзівацца зь ёю.* ЗАГУРТАВАНЫЙ, ЗАГУРТОВАНЫЙ *дзеепрым. Палкымі пуня зугуртува́на, многа ныкладжына. Зугуртовына пыгребка бульбыю, ссыпалі і ссыпалі, цяперя нада пірібіраць ды ў погріб спрыва́джывыць.*

ЗАГУРЧЭЦЬ *зак.* 1. Пачаць працаваць (пра машыну, матор). *Саўсім раніцька іхныя машына зугурчэла, Паўлюк зывадзіў.* 2. Забурчаць. *Сыбака зугурчэў, а з будкі ні палез. Чуць што ні так зьеў, і зугурчэла ў жываце. Ну ніхай, кылі ён зугурчы́ць, троху пугурчыць, а ты пымаўчы, і ўспакоіцца.*

ЗАДАВАСТАСЦЬ *ж.* Задавацтва. *Зыдыва́стысьці ў яго дужа многа, мог ба каму троху і пазычыць.*

ЗАДАВАЦЬ *незак. перан.* Закладаць у меру. *Гурочыкый трошку, солі многа зыдываць ні нада, яны скора разойдуцца. У мароз скату нада большы корму зыдываць.* ЗАДАЦЬ *зак.* Закласці ў меру. *Солі як зыдасі, мяса ня спорціцца. Карові зыдаў струшынкі і палез на печ.*

ЗАДАЎЖАЦЦА *незак. перан.* Затрымліваціда на працяглы час. *Некылі мне зудуўжаацца, адны сьвіньні сквіл справюць на ўсю дзярэйню.* ЗАДАЎЖЫЦЦА I *зак.* Зацягнуцца на працяглы час. *Другей раз мелыч якую аткладзеш, іна зыдаўжыцца і зыдаўжыцца.*

ЗАДАЎЖЫЦЬ, ЗАДАЛЖЫЦЬ, ЗАДАЎЖЫЦЦА II, ЗАДАЛЖЫЦЦА *зак.* Стаць даўжніком. *Ён, знаць, пырядышна зыдаўжыў Іпатывым. Сколька ні зыдалжылі, дык аддываць нада. Я ўжо ўзноў зыдаўжыўся, кругом нідыстаткі. Каб ні зыдалжыўся ны пацьцёлка, на мне б ужо нічога ні вісела.*

ЗАДАЎЛІВАЦЦА *незак. перан. асудж.* Прагнуць. *Ён жа ныд гарелкыю зыдаўлівыіцца, так і віхліць, каб айдзе чарка пупала.*

ЗАДЗЕРВЯНЕЦЦА *зак. перан.* Анямець, страціць адчувальнасць. *Буваіць, рука як зыдзірьвянеіцца, пальцымі ні шывяльнеш. Ці вы тама зыдзірьвянеліся, што заўтрікыць ні дызавесься!*

ЗАДЗЁЎБЫВАННЕ *н. перан.* Зачосванне няўмела або тупой сякерай. *Якей масьцір, такоя й задзёўбывыньня, ніхай дзяўбець, можа, якей кол і ўваб'ецца.*

ЗАДЗЁЎБЫВАЦЬ *незак. перан.* Зачэсваць няўмела або тупой сякерай. *Стыхван толька што быў ны дваре, кольля тупіцыю задзёўбывыў.* ЗАДЗЁЎБЫВАЦЦА *незак.* Зачэсвацца няўмела або тупой сякерай. *Ніхай стукыіць, нешта ж і ў яго задзёўбывыіцца.*

ЗАДЗІЎЛЯЦЦА *незак.* Моцна дзівіцца. *Што ты зыдзіўляісься, ты ны яго месьці луччыга нічога ні прідумыў ба.*

ЗАДЗЯДЗЕЛЫЙ *дзеепрым. жарт.* Пасталелы. *Зыдзядзелыя хлопцы, ім пат тріццыць абоім, цігаюцца як бугаі.*

ЗАДЗЯЎБУЛІВАЦЬ *незак.* 1. Убіваць. *Зімля сухая, крепкій кол нада зыдзяўбулівыць.* 2. Зачэсваць. *Гнілую палку ні зыдзяўбулівый, якоя зь яе дзіржаньня.* 3 *перан.* Затузваць. *Што вы хлыпца зыдзяўбулівыіця, ён жа нічога мульчуган.* ЗАДЗЯЎБУЛІВАЦЦА *незак.* 1. Убівацца. *Крепка скабы зыдзяўбулівыюцца, сьціна ні пышатнецца.* 2. Зачэсвацца. *У цябе такей тапор, што і сасновый кылячок ні зыдзяўбулівыіцца.* 3 *перан.* Ачмурацца. *Я зыдзяў-*

*бýлівыюся з мáлымі, буваіць, што-нібудзь пыкладу, а тады шукаю пуýдня.* ЗАДЗЯЎБУЛІЦЬ *зак.* 1. Убіць. *Ну, кажыцца, крепка кольля зыдзяўбýліў, кыбан ня должын падрыцца.* 2. Зачасаць. *Якей ні масьцір, алі ж кылячкоў троху зыдзяўбуліў.* 3. Затузаць. *А буваіць і чылавек ладный, а яго зыдзяўбýлюць, зьдзелыюць хужы хужшыга.* ЗАДЗЯЎБУЛІЦЦА *зак.* 1. Убіцца. *Другей кол рядым зыдзяўбýліцца, і ладна будзіць.* 2. Зачасацца. *Як зыдзяўбýлілыся, і бі, у зямлю палезіць.* 3. Ачмурыцца. *Зыдзяўбýліўся сы сваімі дзіламі, ні знаіць, за што хвытацца.* ЗАДЗЯЎБУЛЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Убіты. *Зыдзяўбýліна крепка, ломым нада пыдбіваць, каб вырвыць.* 2. Зачасаны. *Як зыдзяўбýліна, так і ладна, у зямле рызглідаць ніхто ня будзіць.* 3. Затузаны. *Нейкыя іна ў іх зыдзяўбýліныя, глідзяць як ну глумачку.* 4. Ачмураны. *Ні хыця будзіш зыдзяўбýліныя с такім хызяйствым, пірідыхнуць мінутычкі німа.*

ЗАДЗЯЎБЫВАЦЬ *незак. перан.* Затузваць. *Ён ціхій, ніўдзе ня быў, нічога ня відзіў, сталі яго ўсе зыдзяўбывыць.*

ЗАДОРГАЦЬ *зак.* 1. Пачаць балець, торгаючы. *Скабку дыстала, кажыцца, лоўка, а ўноччы паліц як задоргыў, дзівацца некуды, відна, грязь пупала.* 2. Пачаць ванітаваць.

ЗАДОЎЧЫНА *ж. зніж.* Моцная вяроўка для ўвязвання вазоў з сенам. *Каб ікая задоўчына, кряпчэй ба увізаў воз. Памянш.* ЗАДОЎЧЫНКА. *Зы дзьвірямі ў сенцых задоўчынка ліжала, вазьмі, кылі хочыш.*

ЗАДРАБЯЗКАТАЦЬ, ЗАДРАБЯЗКАТАЦЦА *зак.* Забрынчэць. *Ета мáлыя чым-то зыдрібізкытáлі, яны балыюцца. Нешта зыдрібізкытáлыся усё дно як ны хаці, ды там уродзі нечым брізкытаць.*

ЗАДРЫЖЧЭЦЬ, ЗАДРЫЖЧЭЦЦА *зак.* 1. Задрыжаць. *Так стала халодна, я ўся зыдрыжчэла. Нада ж етык зыдрыжчэцца.* 2 *перан.* Ускалыхнуцца, узбударажыцца. *Уся дзярэўня зыдрыжчэла, як яны схваціліся резыцца, чаго толька ні дытвырялі адна на дну. Акруга зыдрыжчыцца ат іхных песін, так пяюць.*

ЗАДУБІЧЫЦЬ *зак. метаф.* Пайсці, зайсці. *Мае ўзноў зудубічылі ў горыд. Яму пыкызалі на Ходысы, а ён нівісь куды зудубічыў.*

ЗАДУМКА *ж.* План, задума. *Канешня, задýмка ў іх харошыя, толька ныўряд, каб што вы́пыліла зь естыга.*

ЗАЁМШЧЫК *м.* 1. Той, хто даваў пазыку. *Помню, ся-*

*дзеў заёмшчык у чорный гурі, ён дываў грошы мужукам, яны купялялі зямлю.* 2. Зборшчык запазычанасці па дзяржаўнай пазыцы. *Хадзіў учора заёмшчык пы дзярейні, требывыў грошы.* ЗАЁМШЧЫЦА *ж.* Зборшчыца запазычанасці па дзяржаўнай пазыцы. *Нейкыя бойкыя заёмшчыца ходзіць і пы займу, і па ўсіх налогых.*

ЗАІРЗАЦЬ *зак. перан.* Выразіць нецярплівае жаданне. *Узноў зыірзáлі ў горыд, тама зь нейкімі дзейкымі устрічаюцца.*

ЗАЙСТРЫВАННЕ *н.* Заточванне. *Якоя ні зáйстрівыньня, а трошку луччы тапор сякець.*

ЗАЙСТРЫВАННІК *м.* Той, хто заточвае. *Так зубузуваў зáйстрівыньнік новый нож, што саўсім нічога ні атрежыш.* ЗАЙСТРЫВАННІЦА *ж. Ікая зь мяне зáйстрівыньніца, лупатку во трошку бруском пацёрла.*

ЗАЙСТРЫВАЦЬ, ЗАІСТРЫВАЦЬ *незак.* 1. Завастраць. *Зáйстрівыў ножык і руку парезыў, во масьціp. Табе пыра ўжо умець заістрівыць.* 2. Пры вастрэнні загінаць джала. *Ты ні нытáчывыіш, а зáйстрівыіш етый тыпарок. Так толька заістрівыюць нажы, у цябе жала заверніцца.* ЗАЙСТРЫВАЦЦА, ЗАІСТРЫВАЦЦА *незак.* 1. Завастрацца. *Дужа сухея нажніцы, ня хочуць зáйстрівыцца. Трі яшчэ, долыта трошку заістрівыіцца.* 2. Пры вастрэнні загінацца (пра джала). *Калі патпілык ніправільна дзяржыш, тады жала зáйстрівыіцца. Усё ат рук завісіць, у адных руках нажы вайстреюць, а ў другіх заістрівыюцца.* ЗАЙСТРЫЦЬ, ЗАІСТРЫЦЬ *зак.* 1. Завастрыць. *Зайстріў ножык, як агонь стаў. Патрі асялком ці патпілкым, хут троху заістріш.* 2. Пры вастрэнні загнуць джала. *Во тваё вайстреньня: жала г боку зайстріў, і цяперя нічога ні атрежыш. Зыістріў ты цяслу, у дзеріва лезьць ня хочыць.* ЗАЙСТРЫЦЦА, ЗАІСТРЫЦЦА *зак.* 1. Завастрыцца. *Ну папробуй тачыць, можа хуць капільку зáйстріцца, саўсім жа ня режыць. Аць сьцёртыга патпілка нісколька ні заістріцца.* 2. Пры вастрэнні загнуцца (пра джала). *Ат твайго тачэньня тапор саўсім зайстріўся. Нажнічкі зыістріліся, яшчэ больша пулупелі.* ЗАЙСТРАНЫЙ, ЗАЙСТРОНЫЙ, ЗАІСТРАНЫЙ, ЗАІСТРОНЫЙ *дзеепрым.* 1. Завостраны. *Ня дужа ён зáйстрін, етый кырначык, бульбіну і тую ня хочыць резыць. Зайстрёнымю цяслою скора выдзіўбіш, а с тупою будзіш дзень вазіцца. Бяріця заістріныя нажы, тупымі якоя резыньня. Долыцца трошку зыістрёна, ды мулувата.* 2. Загнуты пры вастрэнні (пра джала). *Тапор зáйстрін як тупіца, ныва-*

*рівыць нада. Зайстрёныю скоблію чысьціць ня будзіш, нада наныва тачыць. Жала сьцёрта, зайстрін тапор, цяперя зь ім ідзі ў кузьню. Зыістрёныя твыя лупатка, зразу відна, во ж яно, жала сьцёрта ў бок.* ЗАЙСТРОМШЫ, ЗАІСТРОМШЫ *дзеепрысл.* 1. Завастрыўшы. *Зайстрёмшы, етый ба ножык ішчэ резыў. Ладна тапорік зыістрёмшы, бяз горя сякець.* 2. Загнуўшы пры вастрэнні (пра джала). *Твае нажніцы саўсім зайстрёмшы, нічога ня режуць. Ня думыў, што піла будзіць так зыістрёмшы, у дзеріва ня лезіць.*

ЗАЙШОЧЧЫ *дзеепрысл.* Зайшоўшы. *Зайшоччы к Хрісьціні, можна було б рыспрасіць пра тую кыравёнку.*

ЗАКАДРЫЛІЦЬ *зак. жарт.* Узяць, павесці. *Вод ба табе Нюшку зыкадріліць, ета была б пара.* ЗАКАДРЫЛЕНЫЙ *дзеепрым. К Варычкіный ты клінкі ні пыдаб'еш, іна даўно зыкадріліна.*

ЗАКАКЛЮКА *ж. эмац.* Невялікая палачка для запірання дзвярэй. *Відзіш, што зыкаклюка ў чэпі, некуды нідалёка выйшла, можа ў гародзі поріцца. Памянш.* ЗАКАКЛЮЧКА. *Ны прабой ускладзі чэп ды зыкаключкыю заторні, хто сюда палезіць пы тваё быгаства.*

ЗАКАЛАМСАЦЬ, ЗАКАЛАМСІЦЬ *зак.* 1. Пайсці па гразі. *Зыкылымсáлі к лесу, нагу вынюць, нагу ўсодзюць. Зыкыламсілі туды, пыч Чарнілывы, як яны тама пройдуць.* 2 *перан.* Пачаць вычвараць. *Січас етыя воѓірі зыкылымсáюць, ім троху піріпала ў Нісьцярёнка. Яму каб толька ў чарку нюхнуць, зразу зыкыламсіць.* 3. Затузаць. *Зыкылымсáлі малыга, а ён усё к ім лезіць, дужа яму ныравіцца балывыцца. Ты саўсім Аліка зыкыламсіў, ён і двору ні дайдзіць, пынясеш ны плічах.* ЗАКАЛАМСАЦЦА, ЗАКАЛАМСІЦЦА *зак.* 1. Стаміцца, ідучы гразкай дарогай. *Чаго вам біз дарогі выбірацца, зыкылымсáіціся. Ніхай ба яны у хаці сядзелі, ета ж ні гаріць, ато зыкылымсяцца, пакуля дойдуць.* 2. Стаміцца вычвараючы. *Яны ўжо зыкылымсáліся кылы Хвядонывых, ніхай ідуць спаць. Пятрок іш Шаўчонкым зыкыламсіліся посьлі свадзьбы, чаго зь іх ні тварілыся.* 3. Затузацца. *Ідзі-ка ты двору пад'еж, ато саўсім зыкылымсáўся з мальчыкымі. Як возьмуцца боріцца — і езьдзіюць адзін на дном, і цігаюць адзін другога,— зыкылымсяцца за дзень.* ЗАКАЛАМСАНЫЙ, ЗАКАЛАМШОНЫЙ *дзеепрым.* 1. Стомлены. *Прівылакуцца зыкылымсáныя, хуць гырячыя бульбы увальлю ім. Чаму ж ня будуць зыкыламшоныя,*

*кылі дарогі саўсім німа.* 2. Затузаны. *Відзіш, якей ён зыкылымса́ный, дужа яму ныравіцца тута. Ці вы абоя зыкыламшоныя ды кынца, ці Коля адзін такей?*

ЗАКАЛАЧЫВАЦЬ *незак.* Закрываць, забіваючы. *Зыкыла́чывыіць вокны наглуха, да лета іна тута ні пыявіцца.* ЗАКАЛАЧЫВАЦЦА *незак.* Закрывацца, забіваючы, забіваючыся. *Сьціпанёнык пычаў зыкыла́чывыцца, тут ён зімуваць ня думыіць, паедзіць у Мугулёў. На́ зіму ў яго вакенцы зыкыла́чывыюцца.* ЗАКАЛАЦІЦЬ *зак.* Закрыць, забіўшы. *Хрантоны яны крепка зыкылацілі, ніякыя буря ні ўзарьвець.* ЗАКАЛАЦІЦЦА *зак.* Закрыцца, забіўшы. *Кідай тэя шчэлкі, заўтря яны зыкалоцюцца, нада бежч.* ЗАКАЛАЧЫВАНЫЙ, ЗАКАЛОЧЫВАНЫЙ, ЗАКАЛОЧАНЫЙ *дзеепрым. Ці ў Клімывый хаці вокны зыкыла́чывыны? У іх дзьвері ні зыкалочывыны. То там, то там хаты зыкалочыныя стыяць пы дзіріўнях.* ЗАКАЛАЦЁМШЫ *дзеепрысл. Пупусьцелі дзярейні, столька хат усюдых зыкылацёмшы.*

ЗАКАЛБАСІЦЬ *зак. метаф.* Пайсці хістаючыся. *Абняліся і зыкылбасілі пыць Сьвітазерья, можа айдзе-небудзь пыт капою зыначуюць.*

ЗАКАЛЕННЕ *н.* Загартоўка. *Зыкаленьня ні ўсігда ідзець на пользу, луччы бярешча.*

ЗАКАЛЁНЫЙ *прым.* Загартаваны (фізічна або духоўна). *Ён усякія жызьні пыспытаў, зыкалёный, проста яго ня возьміш.*

ЗАКАЛІВАННІК, ЗАКАЛЯННІК *м.* Той, хто загартоўваецца. *Як пыпрастудзюцца тває зыка́лівыньнікі на вуліцы, будзіць ім зыкалівыньня. Выляюцца на сонцы зыкыля́ньнікі, аж пычарнелі.* ЗАКАЛІВАННІЦА, ЗАКАЛЯННІЦА *ж. Нясі-ка ты, зыка́лівыньніца, малыю ў хату, іна ў цябе прастудзіцца як піць даць. Што ты, зыкыля́ньніца, кэрхыіш, цябе ж сонца прыжаріла наскрозь.*

ЗАКАЛОТ *м.* Закутак. *Пынастроілі зыкалотыў, што ні знаіш, куды выйціць. Памянш.* ЗАКАЛОЦІК. *Во тута яшчэ нейкій зыкалоцік, ды акуратнінька зьдзелына і намшона крепка.*

ЗАКАЛОТАК *м.* Пэўнае зямельнае валоданне ў дарэвалюцыйны час. *Быў тут нейкій ніважный шляхцю́к, во ета пы быльшак быў яго зыкалотык.*

ЗАКАЛУПЫВАННЕ, ЗАКАЛУПЛІВАННЕ *н. перан.* 1. Зашыванне ў спешцы. *Не, с такімі дзірькымі зыкалу́пывыньня ні паможыць, тута кругом нада лапіць. Ні дзяржыцца тваё зыкалу́плівыньня, паўзуць ніткі ува ўсе бакі.*

2. Закрананне за жывое. *Барісыва зыкалу́пывыньня дынімаіць Пітрачонкыў, яны ажно сь сябе выходзюць. Яму ўжо ныдаела тваё зыкалу́плівыньня.* 3. Набыццё не зусім сумленным шляхам. *З зыкалу́пывыньнім будзіць удывацца, удывацца, а тады і саўсім прыгаріш. Зыкалу́плівыньня — ета ня дзела, нада пыстыянную работу ныхадзіць ды работыць.*

ЗАҚАЛУПЫВАННІҚ *м. перан.* Той, хто зашывае ў спешцы. *Якей зь яго зыкалу́пывыньнік, пыхрістаў троху, пыхрістаў і кінуў, гатова.* ЗАҚАЛУПЫВАННІЦА *ж. Скарей вурушыся, зыкалу́пывыньніца, Шыряёнык ждаць ні станіць, заверніцца і паедзіць.*

ЗАҚАЛУПЫВАЦЬ *незак. перан.* Зашываць у спешцы. *Ета я доўга сядзела, дзірькі зыкалу́пывыла, ну мульчуганых усё як гаріць.* ЗАҚАЛУПЫВАЦЦА *незак.* Зашывацца ў спешцы. *Што тут будзіць зыкалу́пывыцца, калі нада бальшэй лапік прілаплівыць.* ЗАҚАЛУПАЦЬ *зак.* Зашыць у спешцы. *Зукулупа́ла дзірічку ў мяшку с аднаго боку, а з другога яшчэ большыя.* ЗАҚАЛУПАЦЦА *зак.* Зашыцца ў спешцы. *Як зукулупа́іцца, так і ладна, шый скарей, ждаць некылі.* ЗАҚАЛУПЫВАНЫЙ, ЗАҚАЛУПАНЫЙ *дзеепрым. Трошку зыкалу́пывына, тольна дзіржацца тута нечыму, усыпіш бульбу — і разьедзіцца ўсё. Зукулупа́ныя мяшкі ны скамеічкі, зыбірай, тама шэсьць штук, далжно хваціць.*

ЗАҚАМЯНЕЦЦА *зак. метаф.* 1. Моцна зацвярдзець. *Зыкымянелыся соль, хут ты яе тыпаром усікай.* 2. Змоўкнуць, знямець. *Як пымянула я пра грошы, зыкымянеўся, дайжа слова ні прыраніў.*

ЗАҚАПАРЫЦЦА *зак.* Закешкацца, запоркацца. *Зыкыпарілыся Мархва с хызяйствым, ны якога чорта ёй дзіржаць столька скыта, кыравёнкі хваціла б зь яе.*

ЗАҚАРАГОДЖЫВАЦЬ *незак. жарт.* 1. Весці з сабой. *Віджу, віджу, што цябе ўжо зыкырагоджывыюць у Бяліщчына.* 2 *метаф.* Выражаць неадольнае жаданне. *Я пыняў, што ён зыкырагоджывыіць ны шахты паехыць, Лявончыкыў падбіў.* ЗАҚАРАГОДЗІЦЬ *зак.* Выразіць неадольнае жаданне. *Тады ён пабыў трошку, зыкырагодзіў жаніцца.* ЗАҚАРАГОДЖАНЫЙ *дзеепрым. Яны зыкырагоджыныя, што ні стріпянуцца, пойдуць з намі.*

ЗАҚАРУЗНУЦЦА *зак.* Пакрыцца брудам і абсохнуць. *Нада так зыкарю́знуцца лупаткі, што ў зямлю ня лезіць.*

ЗАҚАСЦЯНЕЦЦА *зак. метаф.* Зацвярдзець. *Кусок*

*хлеба астаўся, зыкысьцянеўся — нажом ня ўрежыш, хуць рысьсікай.*

ЗАКАТЫВАЦЬ *незак. метаф.* Заносіць, замятаць снегам. *Двор сёліта зыка́тыіць сьнегым, дурноя надворья, кажный дзень чысьці і чысьці.* ЗАКАТЫВАЦЦА *незак.* Заносіцца, замятацца снегам. *Вуліца зыка́тывыіцца сьнегым, машыны ня могуць прабіцца.* ЗАКАЧЫВАЦЬ, ЗАКОЧЫВАЦЬ *незак.* 1. Загружаць, напаўняць (людзямі). *А ці помніш, як школу зыка́чывылі, думылі, худзь ба вугалок быў пірінучуваць. Сколька туды людзей закочывыюць, айдзе яны тамыцька месьцюцца.* 2. Шмат укладаць (звыч. гною). *Пад бульбу мы ўсігда крепка гною зыка́чывылі. Столька б гною ужо і закочывыць ні нада.* ЗАКАЧЫВАЦЦА, ЗАКОЧЫВАЦЦА *незак.* Загружацца, запаўняцца. *Столь зыка́чывыіцца сеным ны зіму́, тады дыстаём патрошку кажный дзень. У яго двор усігда хворысьцім закочывыіцца.* ЗАКАЦІЦЬ *зак.* 1. Занесці, замесці снегам. *Як зыкаціла летыся двор, мой цэлыю нядзелю буйтуваўся, пакуля рашчысьціў.* 2. Загрузіць, запоўніць. *Лі Ярцыва бярезьнічык быў, мыладзенькімі мульчуганымі зыкацілі тэй бярезьнічык.* 3. Шмат укласці (звыч. гною). *Помню, зу Глубокыю кынавыю зыкацілі гною чуць ня ў чэцьвірць, дык жыта було як трысьнік.* 4. Ударыць, аплявушыць. *Ніхай ба паспробывыў палез, я б яму так зыкаціў, што ён пра ўсё на сьвеці забыў ба.* ЗАКАЦІЦЦА *зак.* 1. Занесціся, замесціся снегам. *Проход к калодзіжу як закоціцца, чысьціш, чысьціш, рукі зыбыляць.* 2. Шмат укласціся (звыч. гною). *Гною як закоціцца, дык і ны плахой зямле сыбяреш хлеба.* ЗАКОЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Занесены, замецены снегам. *Дарога сугробымі закочына, калі яе цяперя рызатруць.* 2. Загружаны, закладзены. *Пыбыла я тама, пыглядзела: мыладымі бальніца закочына, дайжа ў кылідорых сьпяць.* 3. Шмат укладзены (звыч. гною). *Столька гною було закочына і пасьці нічога ні сыбралі, ўсё выгырыла.* ЗАКАЦЁМШЫ *дзеепрысл.* 1. Закаціўшы, закаціўшыся. *Крічыць, зыкацёмшы вочы, чаго ты, спрашывыю,— крічыць і ўсё. Зайшлі мы, а кабыла ляжыць зыкацёмшы, каб трошку, і гатова была б.* 2. Засыпаўшы (снегам). *Усё ўсюдых сьнегым зыкацёмшы.* 3. Загрузіўшы, заклаўшы. *Усё балеюць і балеюць, бальніца людзямі зыкацёмшы.* 4. Шмат уклаўшы (звыч. гною). *Столька гною зыкацёмшы, дылжна быць бульба.* 5. Ударыўшы. *Пашлі, зыкацёмшы дураку плявуху.*

ЗАКАЮЦІНА *ж.* Куток, зацішная мясціна. *Во тут ладныя зыкаюціна, можна сена скласьць. Памяниш.* ЗАКАЮЦІНКА, ЗАКАЮЦІНАЧКА. *Каб ахота была, найшоў ба зыкаюцінку і дровы прібраў ба, пыд ныгамі ні выляліся б. Ну йдзі, пушукай зыкаюцінычку.*

ЗАКІДУШЧЫЙ *прым.* Нехлямяжы, закінуты. *Ён жа ні ўсігда быў такей зыкідушчый, хлопцым ён саўсім нічога быў.*

ЗАКІДЫВАНЫЙ *дзеепрым.* Закладзены (пра сценкі ў хляве паміж шуламі). *Дзьве сьценкі ад быльшыка закінута, нарожнік стаіць, астатнія нічога ні закідывына.*

ЗАКЛАДАЦЬ, ЗАКЛАДЫВАЦЬ *незак. перан.* 1. Траціць (сілу). *Зыклыдаў сілу і чорту лоньськыму дысталося, нашто було так ірвацца. Ны каго путніга ён зыклáдывыў сілу, яму дайжа ніхто спасіба ні скызаў.* 2. Распачынацца (звыч. пра дождж). *Дождж зыклыдáіць, відна, надоўга, усё кругом апцягнула. Ці ні ну другую нядзелю дажджы зыклáдывыюць, пыгніецъ усё чыста.* ЗАКЛАСЦЬ *зак.* 1. Растраціць (сілу). *Сілу зыклáў і спасіба ні пулучыў.* 2. У зламоўных пажаданнях, кленічах. *Ніхай ім зыкладзець зь іх крікым! Каб вам зыклáла і ні атпусьціла!* ЗАКЛАДЖАНЫЙ, ЗАКЛАТЫЙ *дзеепрым.* 1. Закладжаны, запоўнены. *Многа людзей стала хвырацъ, пышла я Польку атведыць, глянула: уся бальніца зыклáджына. Усе пунькі дрывамі зыклáты, ніізьвесна на сколька хваціць.* 2. Растрачаны (пра сілу). *Сколька ў етых пнях сілухны зыклáджына! Зыклáтыю сілу нызад ні зыбяреш.*

ЗАКЛЮЧЭНЕЦ, ЗАКЛЮЧОНЕЦ *м.* Арыштант. *Гыварілі, некуды пірігынялі, дык адзін зуключэніц уцёк. Зуключоніц аббіваў іхныю хату, гываріў: мне трі рублі — і чылавека зугублю.* ЗАКЛЮЧЭНКА, ЗАКЛЮЧОНКА *ж. Ні баба, а нейкыя зуключэнка, дайжа глядзіць ні пы-чылавечыску. Вярнулыся Напреіва зуключонка, ці ня трі гады ацьседзіла,— во нутургувалыся.*

ЗАКОС *м.* Закошванне. *У чужоя закос дзелыць ні нада, луччы ты клок свае травы кінь.*

ЗАКРАМЯНЕЦЬ, ЗАКРАМЯНЕЦЦА *зак.* Зацвярдзець. *Творг цёплый, ён каб зыкрімянеў, тады смашней. Сьцюдзінь хырашо зыкрімянеўся, пареж ны тарелкі.*

ЗАКРЫВЯНІЦЬ *зак.* Замазаць крывёй. *Ты пытквсай рукавы, зыкрывяніш — яно ня дужа атмуваіцца.* ЗАКРЫВЯНІЦЦА *зак.* Замазацца крывёй. *Пыглядзі-ка, як ты зыкрывяніўся, увесь перід рубашкі вымызын і штаны зыкáпыны.* ЗАКРЫВЯНЕНЫЙ, ЗАКРЫВЯНЕ-

ЛЫЙ *дзеепрым. Як жа ты пойдзіш зыкрывяніный, пірядзенься, а тады йдзі. Во айдзе лісіца куріцу ела, тут і трыва зыкрывянелыя, і перья выляіцца.*

ЗАКРЫЎЛЯЦЬ *зак. метаф.* Пайсці, пабегчы (пра крываногага). *Як зыкріўляў пы таку і пабег зу гумно, пытпірязыный як кулёк, тама вы бульбу кыпалі.* ЗАКРЫЎЛЯЦЦА *зак.* Пачаць хныкаць, хліпаць. *Зыкріўляўся, што ня тую цацку прівязьлі з горыда, якую ён хацеў.*

ЗАКУБРЫВАЦЬ *незак.* 1. Закупорваць. *Ты закўбрівыіш бутылку, што я нізаштычка ні ччыню.* 2 *перан.* Пачынаць капрызіць. *Ужо закўбрівыіць, губкі нудумаюцца, яе зразу пызнаіш, такую цацу.* 3 *перан. жарт.* Лавіць, сустракаць. *Чаго йта сялецкія хлопцы цябе закўбрівылі?* 4 *перан. жарт.* Браць з сабой, уцягваць у якую-н. справу. *Вас ні ныпрасна каўшоўскія дзеўкі закўбрівыюць.* ЗАКУБРЫВАЦЦА *незак.* 1. Закупорвацца. *Нешта ў цябе глячок слаба закўбрівыіцца, у дарогі расплешчыцца малако.* 2. Пачынаць капрызіць. *Узноў твыя дырыгая закўбрівыіцца, ідзі угыварівый, лашч.* ЗАКУБРЫЦЬ *зак.* Закупорыць. *Я кылі закўбрю бутылку, ты ня выцігніш пробку.* ЗАКУБРЫЦЦА *зак.* 1. Закупорыцца. *Квас твой крепка закўбріўся, можна хуцьды Масквы везьць.* 2. Закапрызіць. *Ты ні знаіш, чаго ён закўбріўся, што ні пы яго зьдзелына?* ЗАКУБРАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Закупораны. *Глядзі, глядзі, каб бутылкі былі хырашо закўбріны.* 2. Надзьмуты. *Твыя Кацька узноў закўбріныя ходзіць, нешта вы ёй ні ўладзілі.*

ЗАКУМЕЧЫВАННЕ *н. экспр.* Затлумліванне. *Ня бойся ты, ня бойся, яны ны Пітракова зукумечывыньня і ўніманія ні брышчаюць.*

ЗАКУМЕЧЫВАЦЬ *незак. экспр.* Затлумліваць. *Сахрон зукумечываіць Хрісьцінка сваімі руссуждзеніімі.* ЗАКУМЕЧЫВАЦЦА *незак.* Затлумлівацца. *Ні пайду я туды зукумечывыцца, ніхай яны адны дурюцца.* ЗАКУМЕЧЫЦЬ *зак.* Затлуміць. *Сьціпанёнык як зукумечыць сваімі басьнімі, дык у мяне аж гылыва рыськяплііцца.* ЗАКУМЕЧЫЦЦА *зак.* Затлуміцца. *Я мінутычку пыбыла і пышла, пысядзіш там большы — зукумечыўся у той гылдымірі.* ЗАКУМЕЧАНЫЙ *дзеепрым. Яны абоя зукумечыныя, ніяк ні рызьбяруцца, пра што ім талкуіш.*

ЗАКУТЫВАЦЬ *незак.* Надзейна закрываць. *У марозы комін нада закўтывыць раншы, ну нада глядзець, каб угар ні пашоў, угаріш — тады дренна.* ЗАКУТЫВАЦ-

ЦА *незак.* Надзейна закрывацца. *У вас вароты ні разу ні закýтывыліся, пасьцю стыялі, ны адной завесі, знаць, буўталіся.* ЗАКУТАЦЬ *зак.* Надзейна закрыць. *Закýтый комін ды праверь, каб юшка шчытна лігла, ато ўвесь дух сойдзіць.* ЗАКУТАЦЦА *зак.* Надзейна закрыцца. *Дзьвері як шчытна закýтыюцца, сюда мароз ня ўлезіць, тута ціплыта дзяржыцца.* ЗАКУТЫВАНЫЙ, ЗАКУТАНЫЙ *дзеепрым.* *Па-мойму, комін ішчэ ні закýтывын, неік ня цёпла, аччыні-ка дзьверцы, шчупні. Нада, каб вокны наныч былі закýтыны, можыць буря усхадзіцца ці веціp дайжа пыччыняіць, паб'ець.*

ЗАКЫЛІЦЬ *зак. жарт. дзіц.* Паказытаць. *Ай, січас закы́лю, закы́лю маліунькыга. Во, во, дыгыняю, закы́лію.*

ЗАЛАВІЦЬ *зак. перан. экспр.* Атрымаць (удар). *Грячышкін доўга с табою рузмунды́кывыць ні станіць, ат яго ты скора заловіш.*

ЗАЛАІВАЦЬ *незак.* Моцна лаяць, бэсціць. *Зылáівыць зы такоя нада, ета ж прідумыць усякыю трілюду ны чылавека перць.* ЗАЛАІВАЦЦА *незак.* Моцна лаяцца, сварыцца. *Раншы яны зылáівыліся.* ЗАЛАЯЦЬ *зак.* Моцна аблаяць, збэсціць. *Я іх за сплёткі зылаіў ба.* ЗАЛАЯЦЦА *зак.* Моцна палаяцца, пасварыцца. *Схлясны́ліся ны жніве Пёкла с Кацію, былі зылáіліся.* ЗАЛАЯНЫЙ *дзеепрым.* *Пашоў Мыксімёнык зылáіный, будзіць знаць, як з Домныю трогыцца.*

ЗАЛАПЛІВАННЕ *н.* Латанне. *Якоя ета зылáплівыньня — як ні сваімі рукамі, ня хочыш дзелыць — ні нада брацца.*

ЗАЛАПЛІВАЦЦА *незак.* Накладвацца (пра латку). *Нешта ў цябе нікрасіва зылáплівыіцца, мяшком будзіць лапік вісець.* ЗАЛАПІЦЦА *зак.* Накласціся (пра латку). *Як зылáпіцца, так і ладна, абы голым целым ні сьвяціць.*

ЗАЛАТАНІВАННЕ *н.* Латанне, рамонт. *Ніякыя зылытáнівыньня у етым гнільле ні паможыць, нада новыя сьценку зыкідаць.*

ЗАЛАТАНІВАННІК *м.* Той, хто латае, рамантуе. *Дренна твой зылытáнівыньнік стыряіцца, ніяк лапік на мех ні пріщыіць.* ЗАЛАТАНІВАННІЦА *ж.* *Каб удзьвюх зылытáнівыньніцы узяліся, работа б у іх зыкіпела ух як.*

ЗАЛАТАНІВАЦЬ *незак.* Латаць, рамантаваць. *Нада зылытáнівыць крышу, усходзіцца дождж, дык у хаці сухой мясьціны ні найдзіш.* ЗАЛАТАНІВАЦЦА *незак.* Латацца, рамантавацца. *Патроху зылытáнівыіцца, на*

*етым пінжаку ужо лапік ны лапіку.* ЗАЛАТАНІЦЬ *зак.* Залатаць, падрамантаваць. *Пынясу валінкі, каб як-небудзь зылыта́ніць іх троху.* ЗАЛАТАНІЦЦА *зак.* Залатацца, падрамантавацца. *Як зылыта́нілыся, так і ладна, абы куры ня лезьлі скрозь хвырасьціны.* ЗАЛАТАНЕНЫЙ *дзеепрым.* *Вун тваe зылыта́ніныя штаны вісяць ны шастку кыла печы.*

ЗАЛЕЖ *ж. метаф. іран.*. Нехлямяжая асоба. *Ідзе ікая за́ліж, усе ў нашу дзярейню зьбіраюцца.*

ЗАЛЕЖАЦЬ, ЗАЛЯЖАЦЬ, ЗАЛЕЖАЦЦА *зак.* Паляжаць, пазахоўвацца. *У яго ня дужа залежыць, ён такей: усяму жыва дасьць ряд. Як ета у Бырысёнка зылiжа́лi яблыкi ды такiх пор i ён нi рыспырядзiўся iмi. Не, Пiлiп нi дасьць залежыцца капейкым, жыва у расход пусьцiць.*

ЗАЛЕСКАТАЦЬ *зак.* 1. Пачаць ляскаць, грукаць. *Выйдзі-ка ты зірні, чым яны тама узноў зыліскыта́лі, каб ні пыкалечыліся.* 2 *перан. неадабр.* Пачаць балбатаць. *Сыбраліся і зыліскыта́лі, во ізыкі у баб доўгія, падрезыць некыму.* ЗАЛЕСКАТАЦЦА *зак.* 1. Настукацца, нагрукацца да стомы. *Іна троху глухувата, ляжыць на печы і ня чуіць, ці ёй стукый, ці ня стукый, я тама зыліскыта́лыся.* 2. Забалбатацца. *Сыбяруцца кучыю, то ўжо зыляскочуцца, усё пірямелюць, скора ні разойдуцца.*

ЗАЛІВА *ж.* Заліўка, рамонт гумавых рэчаў. *Трі дні заліва пыдзіржалыся і атляцела.*

ЗАЛІВАЦЦА *незак. перан. іран.* Прыгожа, красамоўна гаварыць. *Зылівацца ён умеіць, толька слухый вушы разьвесіўшы.* ЗАЛІЦЦА *зак.* Пачаць прыгожа, красамоўна гаварыць. *Пірід Ільлёвыю дачкою як зыліліся, адзін хырашо, а другей яшчэ луччы.*

ЗАЛІЦА *ж. памянш.* Попел. *Я сваю капусту заліцыю як пасыплю, ні днаго чырьвіка ні стаецца.*

ЗАЛОЗАВАЦЬ *незак.* 1. Залазаваць. *Кыня зразу пызнаіш, як пычынаіць залозывыць, ён тады хмурый стаіць, нічога ня есьць.* 2 *перан. гумар.* Быць не ў стане. *Сяньня мой Іван залозыіць, учора ладна хвацілі на ксьціных.*

ЗАЛУПІЦЬ *зак. перан.* Адлупцаваць да страты пачуцця. *Ну зулупіць нада хлыпца, ета ж толька падумыць: хату аччыніныю кінуў і кытануў у лес.*

ЗАЛУПЛЯ *м. і ж. абразл.* Непрыгожая асоба з вылупленымі вачамі. *Бегыіць к ёй нейкій зулупля́, у неба*

*глядзіць. Прівёз сабе са сьвету зулуплю, вочы пы яблыку рыстапыріныя.*

ЗАЛУЧАННЕ *н.* Захопліванне. *Ня дужа яны быяцца твайго зулуча́ньня: пырьхнуць і рассыпыліся куды каторый.*

ЗАЛУЧАЦЬ *незак.* Лавіць, захопліваць. *Іх Шуркін сын ні раз у садку зулуча́ў.* ЗАЛУЧЫЦЬ *зак.* Злавіць, захапіць. *Ну каб я зулучы́ў каторыга ў гародзі, доўга б ён помніў гурочыкі.* ЗАЛУЧАНЫЙ *дзеепрым. Сяньня ужо удваіх залу́чыныя.*

ЗАЛЯГАЦЬ *незак. метаф.* Займаць (месца). *Ня бойся ты, ня бойся, я тваю ямку зылíга́ць ні сыбіраюся, мне выкыпыюць.* ЗАЛЕЖЧ *зак.* Заняць (месца). *Ні біспакойся, там усім места хваціць, чужэя ямкі ніхто ні зыля́жыць.*

ЗАЛЯНЫЙ *прым.* Попельны, забруджаны попелам. *Зыля́ный тазік стаіць пыд ґанкымі. Ета зыля́ныя тряпкі, астарожна нясі, ні апсыпся.*

ЗАЛЯСЕЦЬ, ЗАЛЯСЕЦЦА *зак.* Зарасці лесам. *Былі ладный кусок узыдралі, сеілі гады трі, а тады зупусьцілі і яно ўзноў зылясела. Ды вайны харошыя було поля, жыта радзіла як трысьнік, а цяперя зыляселыся.* ЗАЛЯСЕЛЫЙ *дзеепрым. Многа кругом зыляселых кускоў.*

ЗАЛЯСКАЦЦА *зак. перан.* 1. Забалбатацца. *Як сыбяруцца кучыю, адна адно, другая другоя, як зыляскочуцца — пра ўсё забудуць.* 2. Пачаць моцна біцца, хлястацца. *Сьпірва сваріліся, а тады як зыхліста́ліся, Аўдзей рысьцягывыў.*

ЗАЛЯТАЦЬ *незак. метаф.* Заступацца, абараняць. *Ну што ж ты зылітаіш зы яго, усе відзілі, як ён запрёг Ворліка і паехыў к лугу.*

ЗАМАЗЫВАЦЬ *незак. перан.* Чарніць, кампраметаваць. *Любіць людзей зыма́зывыць.* ЗАМАЗЫВАЦЦА *незак.* Чарніць, кампраметаваць сябе. *Ні нада б вам зыма́зывыцца з бырыкамі.* ЗАМАЗАЦЬ *зак.* Ачарніць, скампраметаваць. *Сваё яго і зыма́зылі, хто там чужэй тріпаў.* ЗАМАЗАЦЦА *зак.* Ачарніць, скампраметаваць сябе. *Зыма́зыўся з бульбычкыю, цяперя цябе усе пальцымі затыкыюць.* ЗАМАЗАНЫЙ *дзеепрым. Сымаму, як чорту, зыма́зыныму стыдна.*

ЗАМАЛАЧЫВАЦЬ *незак.* 1. Пачынаць малаціць. *Наш старэй усігда первым у дзярэўні зымыла́чывыў.* 2. Зарабляць на малацьбе. *Зямлі ў яго ні було, пымыгаў каму што, зімою патроху зымыла́чывыў.* 3 *перан.*

Даводзіць да знямогі (пра кашаль). *Выйду, дыхну ны марозі, кашыль зымылáчывыіць.* 4 *перан.* Біць да знямогі. *Вясною пітухі зымылáчывыюць адзін другога. Етый усё лезіць, а большый маліц яго зымылáчывыіць.* ЗАМАЛАЧЫВАЦЦА *незак.* 1. Стамляцца на малацьбе. *Ці ета работа цяперішнія, мы чуць ня ў поўныч устывалі, ішлі ну гумно, зымылáчывыліся.* 2. Зарабляцца на малацьбе. *Я раз у яго спрашывыю: ці многа ў цябе зымылáчывыіцца?* 3. Біцца да знямогі. *Такея малыя, а настырныя, як возьмуцца хлістацца, зымылáчывыюцца.* ЗАМАЛАЦІЦЬ *зак.* 1. Зарабіць на малацьбе. *Сярьгей, бувала, пріходзіць, хваліцца: я трі пуды жыта зымылаціў.* 2. Давесці да знямогі (пра кашаль). *Кашыль мяне забіў, зымылаціў, усю ноч хаджу.* 3. Збіць да знямогі, забіць. *Пашоў Аніс, пашоў Грішка, пашоў Хведзька, ён каб ня ўцёк, яго б там зымылацілі.* ЗАМАЛАЦІЦЦА *зак.* 1. Стаміцца на малацьбе. *Мы як пойдзім ну гумно, зымалоцімся, куды там ды вічаріных.* 2. Зарабіцца на малацьбе. *Бувала, і зымалоціцца троху, і так айдзе капейку урьвеш.* 3. Пабіцца да знямогі. *Сьпірва сваріліся, а тады дывай біцца, былі зымылаціліся.* ЗАМАЛОЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Запрацаваны на малацьбе. *Як прівязеш зымалочыный хлеб, дужа, дужа рад, што ты заробіў сам.* 2. Збіты да знямогі. *Сядзіць зымалочыныя, плачыць,— во табе й пляменьнікі родніькія.* ЗАМАЛАЦЁМШЫ *дзеепрысл.* 1. Зарабіўшы на малацьбе. *Усяк выкручывыліся, летым ягыды, грібы, а зімою зымылацёмшы кусок хлеба імелі.* 2. Збіўшы да знямогі. *Ну даждэжцца ў мяне етый распусьнік, я яго зымылацёмшы пушчу.*

ЗАМАСЛЕНЫЙ *дзеепрым. перан.* Задобраны. *Брігадзір выйшыў аць Сьціпанёнка зымасьліный, толька аблізывыўся як кот.*

ЗАМАСЦІЦЦА *зак.* Пакласціся (пра падлогу, мост). *Січас нада сь сеным сьпяшыць, а хата кылі пыстаіць нізамошчыныя нядзелю, цэла будзіць, замосьціцца, у цябе зы кайнерь ні цякець.*

ЗАМЕЖКА *ж.* Паездка за мяжу. *Я ні знаю, калі йта було, Трахімыў дзед хваліўся, што ў замежку хадзіў.*

ЗАМЛЕЦЬ *зак. метаф.* Моцна захацець. *Ну ці ты ні знаіш, чаго ён замлеў у горыд.* ЗАМЛЕЦЦА *зак.* Моцна захацецца. *Замлелыся яму зьезьдзіць к цёткым у Рыгачоў, ну я дыла грошы ны дарогу, ніхай зьезьдзіць, пабудзіць.*

ЗАМОРЫШ *м.* Мёртвае кураня ў яйку. *Ціплёнычык яйцо ні праб'ець, і заморыш пулучаіцца. Памяніш.* ЗАМОРЫШАК. *Разьбіла яйцо, пыглядзела — дык у ём заморышык.*

ЗАМУЖНІЦА *ж.* Маладая замужняя жанчына. *Сыбраліся адны заму́жніцы, пра нешта сваё талкуюць.*

ЗАМУЗДЫВАННІК *м.* Той, хто закілзоўвае. *Удваіх узяліся заму́здывыньнікі, а конь гылаву зыдзярець і яны ні дыстаюць.* ЗАМУЗДЫВАННІЦА *ж. Відзіш, ікая заму́здывыньніца, раз і грузьдзіла ў зубы.*

ЗАМУРАВАЦЬ *зак. метаф.* Адняць мову. *Ці яму зумурува́ла, што слова як чылавек ня можыць прыгыварiць. Ніхай табе зумуру́іць с такім рызгаворым!*

ЗАМУШКАРЫВАННЕ, ЗАМУШКАРДЖЫВАННЕ *н.* Выбіванне з сіл, стамленне бесперапыннай тузанінай. *Зумушка́рівыньня ці не, алі ж работа ня дужа лёхкыя. Ні баіцца ён ніякыга зумушка́рджывыньня, у яго сіла зьвярінья.*

ЗАМУШКАРЫВАЦЬ, ЗАМУШКАРДЖЫВАЦЬ *незак.* Выбіваць з сіл, стамляць бесперапыннай тузанінай. *Жонка цябе зумушка́рівыіць, ні даець аддыхнуць нісколька. Ні нада коні так зумушка́рджывыць, на іх ні ўспашыш нічога.* ЗАМУШКАРЫВАЦЦА, ЗАМУШКАРДЖЫВАЦЦА *незак.* Выбівацца з сіл, стамляцца ад бесперапыннай тузаніны. *А ну іх і грошы, і быгаства, каб етык зумушка́рівыцца. Сам зумушка́рджывыіцца, ну й другім пытачкі ні даець.*

ЗАМШЫЦЦА *зак. перан.* Узяцца верхам (пра малако). *Харошыя мылако, пыстыяла трошку ў стыкане і замшы́лыся верьхым.*

ЗАМЯСІЦЬ *зак. перан.* Затаптаць. *Такей быў харошый ягнёнычык, ну там цісныта, зымясілі яго.* ЗАМЯСІЦЦА *зак.* 1. Затаптацца. *Прібярі достычкі, пакуля ні зымясіліся ў грязішчы.* 2. Засовацца да знямогі па гразі. *Замесюцца яны на той греблі, раськісла посьлі дажджу, грязі пы калена будзіць.*

ЗАМЯТАЦЬ *незак. перан.* Арыштоўваць, захопліваць. *Я помню, як зымітáлі: уноччы прідуць і сыбірайся,— хто-небудзь пыдбряхнець, а немцым што, ці ім жалка чылавека.* ЗАМЕСЦЬ *зак.* Арыштаваць, захапіць. *Быў тут адзін пыліцэйскій, прыбывыў хувацца, яго зразу зымялі.* ЗАМЕЦЕНЫЙ *дзеепрым. І хырашо, што замеціны, ат іх жа ні було жызьні прі немцых.*

ЗАМЯТЛЯЦЬ *зак.* Абкідаць, абшыць. *Зымітляй яму*

*рукайкі, толька доўга ні сядзі, бульбу нада выбрыць, на ныч у барозных нілізя кідаць.* ЗАМЯТЛЯЦЦА *зак.* Абкідацца, абшыцца. *Трошку зымітля́лыся і ладна, якея тута крысаты будзіш глядзець.* ЗАМЯТЛЯНЫЙ *дзеепрым. Крайкі хырашо зымітля́ны, зьдзелына і крепінька, і акуратнінька, чаго табе ні ныравіцца.*

ЗАМЯШАЦЬ *зак.* Пачаць перашкаджаць. *Во табе і дзежычка зымішáла, іна ж стаіць і нікога ня трогыіць.*

ЗАНІМАЦЬ *незак. перан.* Паварочваць, адварочваць (жывёлу). *Зынімáй табун к паріиіні, яны ныжраліся, пыліжаць лі аборка.* ЗАНЯЦЬ *зак.* Павярнуць, адвярнуць (жывёлу). *Займі кароў аты ўса, ато яны кучыю увалюцца, патопчуць, сьлядоў надзелыюць.*

ЗАНУДЖОНЫЙ *дзеепрым.* Хілы, слабы. *Не, па віду ні скажыш, што ён зунуджоный, глядзіць гогылім.*

ЗАНУРАННЕ, ЗАНУРЫВАННЕ *н.* Заняпад, стомленасць. *Ні трілюдзьця вы пустога, ніякыга тама зунуря́ньня ні було і ў паміні. А ета ж іна тыкая адз занýрівыньня стала.*

ЗАНУРАЦЬ, ЗАНУРЫВАЦЬ *незак.* Рабіць заняпалым, стомленым. *Ні так яны зунуря́лі вашу Аўдотку, як вам здаецца. І скаціну нілізя занýрівыць, каню пірядышка нада.* ЗАНУРАЦЦА, ЗАНУРЫВАЦЦА *незак.* Рабіцца заняпалым, стомленым. *А ты так ні зунуря́йся, усяго ні пірядзелыіш. Ні нада занýрівыцца, пыработыў, а тады пысядзі, аддыхні.*

ЗАПАДНЯ *ж.* Акенца ў лазні, праз якое выходзіць дым. *Я забыў аччыніць зыпадню́, дужа дымна ў лазьні стала, ужо ў дыму аччыняў.*

ЗАПАРКА *ж.* Няхватка часу. *У нас іс пастройкыю зыпáрка, нічога ні пысьпіваім зьдзелыць. Памянш.* ЗАПАРАЧКА. *Цяперя і Хліманок пачуствыіць, ікая буваіць зыпáрычка, калі хвытаіш ротым і носым.*

ЗАПАСВЕНЫЙ *дзеепрым.* Атрыманы за пасьбу. *Зыпáсьвіныя жыта ў бочку ўсыпыў, а тваё, ну трудадні, стаіць у мішках.*

ЗАПАХЫВАЦЦА *незак.* Стамляцца да знямогі пры ворыве. *Мáлый зыпахывыіцца, ён ішчэ плуг чуць варочыіць.* ЗАПАХАЦЦА *зак.* Стаміцца да знямогі пры ворыве. *Зыпыхáліся мы сяньня, хацелі увесь кусочык пад лесым дакончыць.*

ЗАПІКОВЫВАННЕ *н.* Затыканне. *Дай-ка мне, ато с тваім зыпіковывыньнім і вечыра даждэсься — ні ўпыряччысься.*

ЗАПІКОВЫВАННІК *м.* Той, хто затыкае. *Во пыстыряўся зыпіковывыньнік, ажно бутылка треснула,— пірістыряўся.* ЗАПІКОВЫВАННІЦА *ж.* *Ты ж, зыпіковывыньніца, бутылкі ні ўпусьці, ато бізь яды ў дарогу выпрывісься.*

ЗАПІКОВЫВАЦЬ *незак.* Затыкаць. *Нечыга сядзець, нада бутылкі зыпіковывыць, скора машына падойдзіць.* ЗАПІКОВЫВАЦЦА *незак.* Затыкацца. *Вілікувата пробка, ні зыпіковывыіцца бутылка.* ЗАПІКАВАЦЬ *зак.* Заткнуць. *Ці крепка ты бутылкі зыпікувáў, каб мылако ні пырызьлілося.* ЗАПІКАВАЦЦА *зак.* Заткнуцца. *Адна бутылка зыпікувáлыся як нада, а ў другой слубкуватыя пробка.* ЗАПІКОВЫВАНЫЙ, ЗАПІКАВАНЫЙ *дзеепрым.* *Не, бутылкі ішчэ ні зыпіковывыны. Нясі зыпікувáный глячок і стаў у сена ны калёсых.*

ЗАПІСЫВАННЕ *н. перан.* Рэгістрацыя шлюбу. *Вот і запісывыньня ні пымагло, памучыліся два гады і рызыйшліся, а Матруніна і біз запісывыньня жывець.*

ЗАПІСЫВАЦЬ *незак. перан.* Рэгістраваць шлюб. *Сікрітыря ні було, а нейкыя дзяўчонка сядзела і ні стала запісывыць.* ЗАПІСАЦЬ *зак.* Зарэгістраваць шлюб. *Раншы ніякіх зыяў ня требывылі, нічога, мы пашлі ў сільсавет, і нас зразу зыпісáлі.*

ЗАПІХНУТЫЙ *дзеепрым.* Засунуты, запханы, закладзены. *Во куды твае вязёнкі зыпіхнýты — зу чугункі! Усё зыпіхнýта дрывамі, ны пяць гадоў хваціць.*

ЗАПЛАДЖАННЕ, ЗАПЛАДЖЫВАННЕ, ЗАПЛОДЖЫВАННЕ *н.* Абсемяненне, размнажэнне. *Буваіць жа многа мух, ну такога зыплыджáньня я зроду ня відзіла: вокны аж чорны, роім гудуць. Ні дупускай зыплáджывыньня ны ўсядзьбі усякія дураты, ат яе тады ні адбяресься. Ат аднае асінкі бальшоя заплоджывыньня буваіць, с кыряськоў новыя асінкі растуць і растуць.*

ЗАПЛАДЖАЦЬ, ЗАПЛАДЖЫВАЦЬ, ЗАПЛОДЖЫВАЦЬ *незак.* Абсемяняць, размнажаць. *Ніхай адна мýшына ў хаці пыявіцца, іна табе зыплыджáіць цэлый рой. Лібіда як пычынаіць зыплáджывыць пасевы, ат яе ні адбяресься. Бярёза быйстра заплоджывыіць зямлю, гады два-тры ня сей — і пашлі бярёзычкі росьць.* ЗАПЛАДЖАЦЦА, ЗАПЛАДЖЫВАЦЦА, ЗАПЛОДЖЫВАЦЦА *незак.* Абсемяняцца, размнажацца. *Бярёзка дужа скора зыплыджáіцца, ат яе збавіцца трудна. Асот ні ны ўсякый зямле зыплáджывыіцца, буваіць, айдзе дужа густ, а рядым саўсім німа. Кымары вясною скора запло-*

*джывыюцца.* ЗАПЛАДЗІЦЬ *зак.* Абсемяніць, размножыць. *Зялёныя чырьвякі зыпладзілі ны капусьці, усё лісьця пытачылі.* ЗАПЛАДЗІЦЦА *зак.* Абсеміцца, размножыцца. *Пырнік як зыпладзіцца, яго нічым ня вывідзіш, нада кажный кырянёк вырывяць.* ЗАПЛАДЖОНЫЙ, ЗАПЛОДЖАНЫЙ *дзеепрым.* *Дзядоўнікым вуліца зыпладжоныя, ніхто ні пывысікаіць. Ікая хызяйка, такея і гряды, як ета дупусьціцца, штоб гарод етык травою быў заплоджын.*

ЗАПЛАКАЦЦА *зак.* Наплакацца да знямогі. *Што жалысныя пісьмо ныпісаў, зыплáкыцца нада: столька вады ні ўцякло ў моря, сколька мы піріняcьлі горя.*

ЗАПОРА *ж.* Запор. *Нінадзёжныя твыя запора, карова рогым таўкнець — і пыліцяць етыя вароццы.*

ЗАПРАДАНЫЙ *дзеепрым.* Запрададзены. *Ці ён вам зыпрыдáный, ці што, каб кажный дзень пысылаць і пысылаць.*

ЗАПРАЖОНЫЙ *дзеепрым.* Запрэжаны. *Ніхай коні мінутычку зыпряжоныя пыстыяць, мы расьседжывыцца ня будзім, толька вады нап'ёмся.*

ЗАПРАКІДАЦЦА, ЗАПРАКІДЫВАЦЦА *незак.* 1. Перакульвацца. *Я ўсігда гляджу, каб ні разьліць чугун, ён зыпрыкідáіцца на вілкых. Гаршчонычык акуратнінька бяpі, ато ны сяредніх вілычкых зыпракідывыіцца.* 2 *перан.* Залягаць пры хваробе. *Як жа зыпрыкідáцца, кылі зьляжыш — і ўся работа станіць, баліць ні баліць, а шываліцца нада. Пуўлючыха часта зыпракідывыіцца, балеіць серцым.* ЗАПРАКІНУЦЦА *зак.* Залегчы пры хваробе. *Кылі зыпракінуўся, Мыкарёнка ні на шутку пріжала, прітвыряцца, як ты, ён ні станіць.*

ЗАПРАСЦІЦЬ *зак.* Забараніць. *Я свайму зыпрясьціла вылачыцца нычамі, ніхай у кніжку глядзіць, школу кынчаіць.* ЗАПРАСЦІЦЦА *зак.* Забараніцца. *Сьпірва гналі, а як строга зыпрясьцілыся, куды меншы сталі етыя гарі ціснуць.* ЗАПРАСЦЁМШЫ *дзеепрысл.* *І зыпрясьцёмшы, нічога вы ні дыб'іцёся.*

ЗАПРАШЧАННЕ *н.* Забарона. *Ня дужа яны цяперіцька слухыюць зыпрішчáньня, я скажу свайму, а ён пысьміхаіцца.*

ЗАПУГ *м.* Запалохванне. *Ім нада запýг даць ладный, каб пы сыдках пірісталі лазіць ды суччa лумаць.*

ЗАПУХАЦЬ *незак.* Знікаць у выніку набракання (пра шчыліны). *Буваіць, што новыя шаічка трошку ваду прапусьціць, а тады пыстаіць з вадою і зупухáіць.* ЗА-

ПУХНУЦЬ *зак.* Знікнуць у выніку набракання (пра шчыліны). *Налі ў бочычку вады на́ ныч, можа запу́хніць.*

ЗАПЫШКА *ж.* Задышка. *У Аўдзяёнка запы́шка усё дно як у старыга-старыга чалавека. Памянш.* ЗАПЫШАЧКА. *На від ішчэ нічога дзяржыцца, ну запышычка ужо ёсьць.*

ЗАПЯКОЛАК *м.* Вузкі карніз печы. *Як ударіла, кусок печы атваліла і зыпяколык,— ікая сіла, дужа страшна, я ўсігда гразы баюся. Памянш.* ЗАПЯКОЛАЧАК. *Ны зыпяколычык сьпічкі кладуць, абмылык можна пылажыць, а большы што ты паложыш.*

ЗАРАБОТАВАЦЬ *незак.* 1. Зарабляць. *Ні гряшы богу, твае сыны ладна зыработывыюць.* 2 *перан.* Заслугоўваць, атрымліваць за свавольства. *Ты ўжо маўчы, ты ремня часьценька зыработывыў.*

ЗАРАБОТАШНА *прысл.* Даходна, выгодна. *Ён такей, абы-куды ня хочыць, глядзіць, айдзе зыработышна, каб туды ўмазыцца.*

ЗАРАБОТАШНАСЦЬ *ж.* Даходнасць, выгода. *Ікая будзіць зыработышнысьць, кылі тама ніякыга пырядку німа.*

ЗАРАБОТАШНЫЙ *прым.* Даходны, выгодны. *Було зыработышныя места, ды сплуло, Трыхімёнык свайго швыгря устроіў.*

ЗАРАГАТАЦЬ *зак.* Заіржаць (пра каня). *Айдзе-то пыд Лырьяныва зырігыта́ў конь, можа, ета наш Бабок туды пабег.*

ЗАРАЗАЦЬ *незак. перан.* Замучваць (пра боль). *Нічога ні пыдбяру у рот узяць, што ня зьем — зырізаіць пуд грудзямі.* ЗАРЭЗАЦЬ *зак.* Замучыць (пра боль). *Хвытаіш усякыю гадысьць, ета уліяіць ны жалудык, ён цябе зарежыць.*

ЗАРАМАНЦІРАВАЦЬ *зак.* Давесці да разбурэння ў выніку рамонту. *Як зыріманьці́рывыў калёсы, дык яны саўсім рассыпыліся, ліжаць пыд вакном.* ЗАРАМАНЦІРАВАЦЦА *зак.* Стаміцца да знямогі, рамантуючы. *Ідзіця пірікусіця троху, вы тама ладна зыріманьціры-выліся.* ЗАРАМАНЦІРАВАНЫЙ *дзеепрым.* *Я віджу, што твае боты зыріманьці́рывыны, іх толька выкрысіць ды выбрысіць.*

ЗАРАСЯНІВАННЕ *н.* Намочванне пры хаджэнні па роснай траве. *Ні люблю я зырыся́нівыньня, луччы пыдажду, пакуля рыса спадзець, кусты апсохнуць.*

ЗАРАСЯНІВАЦЬ *незак.* Абмочваць пры расе, пад

даждҗом. *Ні нада табе зырысянівыць новыя бацінкі, пысядзі ў дваре. Дожджык і нібальшэй зырысянівыіць, пыкапыў — і ўжо гресьць ня будзіш.* ЗАРАСЯНІВАЦЦА *зак.* Абмочвацца пры расе, пад дажджом. *Ні палезу я зырысянівыцца, трошку абветріець, тады ачшчыпну гуркоў.* ЗАРАСЯНІЦЬ *зак.* Абмачыць пры расе, пад дажджом. *Я як зырысяню ногі, саўсім ні ўстану, дужа яны і холыду, і мыкраты быяцца. Тута ні було, дайжа ні капнуў, а ну лугу зырысяніў сухоя сена.* ЗАРАСЯНІЦЦА *зак.* Абмачыцца пры расе, пад дажджом. *На досьвітку прібеглі зь вічарінкі, зырысяніліся крепка.* ЗАРАСЯНЕНЫЙ *дзеепрым. Трыва дужа зырысяніныя, пойдзіш — ногі у мінуту прамочыш.*

ЗАРВЫВАЦЬ *незак. перан.* Набываць, ухопліваць. *Стыряіцца то там, то там руб зарвывыць, многа ён нійдзе ні пулучаіць.*

ЗАРЖАЦЬ, ЗАІРЖАЦЬ *зак. метаф. груб.* Пачаць выказваць неадольнае жаданне. *Ціріс Стыхвана с Пынасым пашлі на хутыр, яны зыржалі ну хутары. Ды арміі зыіржаў жаніцца, ладна бацька тукнуў хырашэнька.*

ЗАРЗАЦЬ *зак. перан.* 1. Пачаць сваволіць. *Як я ў хаці, ціхінька гуляюць, выйду ны мінутку — зырзалі.* 2. Пачаць выказваць неадольнае жаданне. *Як зырзала у сьвет, сьветніца, а ціряз год прёць, прёць дзіцёнка.*

ЗАРЫЖЭЦЬ *зак.* 1. Зрабіцца рыжым. *За лета пінжачок зырыжэў, дайжа ні пызнаіш, якей у яго цьвет быў.* 2 *перан. жарт.* Пабагацець. *Астах зырыжэў, што к яму ні пуцступайся.* ЗАРЫЖЭЛЫЙ *дзеепрым.* Парыжэлы. *Ськінь ты ету зырыжэлыю шапку, у ёй стыдна на людзі пыказывыцца.*

ЗАРЭЗ *м.* 1. Зарэзка. *Зьдзелылі зарез ціряшчур глубокій. Памянш.* ЗАРЭЗІК. *Ня бойціся, дзелыйця зарезік глубачэй.* 2 *метаф.* Вялікі ахвотнік. *Ну й зарезы пы свадзьбых вылачыцца, як толька ня стыдна.*

ЗАСАДЗІЦЦА *зак.* Пасадзіцца (пра дрэвы). *Дзірівамі тута як засодзіцца, яны рызрастуцца, красівыя места будзіць.*

ЗАСВАДЗЬБІЦЬ, ЗАСВАДЗЬБІЦЦА *зак.* Намеціцца вяселлю. *У Мысяёнка, знаць, зысвадзьбіла, учора езьдзілі у горыд, гарелкі многа ныбралі, бычка зьбіраюцца резыць. Було зысвадзьбілыся, вот-вот расьпісывыньня, а тады разым усё рыспалыся.*

ЗАСВЯРБЕЦЬ *зак. метаф.* Пачаць няспынна турба-

ваць. *Як увідзіў, што зіма ны насу, і яму зысьвярбела пра сена, а пра што летым думыў.*

ЗАСЕЎ, ЗАСЕВАК *м.* Пасяўное насенне. *Посьлі вайны і засіву ні було, у другіх калхозых бралі. Ны засівык ацсыпаюць луччыя зірняты, брыжжачок.*

ЗАСЁРБЫВАННЕ *н.* Запіванне з сёрбаннем. *Тваё засёрбывыньня, верна, Сумусёнык чуіць ціріз дарогу, на печы лежычы.*

ЗАСІЛІЦЬ *зак.* Зачэрпнуць. *У іх калодзіж такей, што нагніся хырашэнька і засіліш рукою вядро вады.* ЗАСІЛІЦЦА *зак.* Зачэрпнуцца. *Ны каромісьліку вядро засіліцца, ну яно можыць сырвацца.*

ЗАСІПНУЦЬ *зак.* Зрабіцца сіплым. *Прастуда ні праходзіць, засіпла саўсім, гыварiць ні магу.* ЗАСІПЛЫЙ *дзеепрым. Хвіччанок засіплый, чуць прыгаворіць, зылажыла горла.*

ЗАСКАБЛЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Застрэмлены. *Зыскабліный паліц нырываіць, уноччы доргыў, спаць ні дывай.* 2 *перан.* Заплямлены (пры набыцці несумленным шляхам). *У яго тожа рукі зыскабліны, мяшочык пышаніцы і яму піріпаў.*

ЗАСКАКЫВАННЕ *н. перан.* 1. Наведванне на кароткі час. *Што тваё зыскакывыньня дасьць, ёй нада паможч хату памыць, гарод прырваць, дровы скласьць нада, а ны мінутку забежч — ёй ні паможыш.* 2. Абарона. *Нічога ні паможыць тваё зыскакывыньня, сымаму ні нада було лезьць у пятлю.*

ЗАСКАКЫВАЦЬ *незак.* 1. Выскокваць наперад. *Скажы што-нібудзь проця Навума, січас Ганна зыскакывыіць.* 2 *перан.* Заспяваць, спраўляцца захапіць. *Каго ты сьцірягеш ай зьбіраісься зыскакывыць Цімашонка?* 3 *перан.* Абараняць. *Сваіх яны ўсюдых зыскакывыюць, ны кажным шагу.* ЗАСКАЧЫЦЬ *зак.* 1. Выскачыць наперад. *Толька Самусь хацеў нешта гыварiць, Прося зыскачыла.* 2. Абараніць. *Як Дзёма пымянуў Лёніка, етыя зразу зыскачылі: ён ні ў чом ні вінуват.*

ЗАСКРОБАК, ЗАСКРОБЫШ *м. іран.* Апошняе дзіця ў сям'і. *Ну й балыўный жа етый заскрёбык Андреіхін, хочыш, на двор залезіць, усё пірярыіць. Ну каб пупала таго заскрёбыша у гародзі, я б яму укаціла дык укаціла.* *Памянш.* ЗАСКРОБАЧАК, ЗАСКРОБЫШАК. *І Мікіціхін заскрёбычык сыбіраіцца ў сваты. Во сыбраліся два заскрёбушкі, сілыю меріюцца, каторый кряпчэй.*

ЗАСКРОБКІ *мн.* 1. Рэшткі, сагрэбеныя граблямі. *Заскрёбкі пірякінь цірізь бірнушкі сьвіньням, яны зоймуцца, уціхнуць. Памяниш.* ЗАСКРОБАЧКІ. *Згарні заскрёбычкі у вугалок ды прістаў мятлою, каб куры ня рылі.* 2 *жарт.* Свята з выпадку ўборкі. *У цябе сяньня ныстыяшчыя заскрёбкі: увесь двор ачысьціў і лі двыра падгрёб.*

ЗАСКРОБЫШАЎ *прым. іран.* Такі, які адносіцца да апошняга дзіця ў сям'і. *Ета заскрёбышыва работа, большы тут нікога ні було.*

ЗАСКРЭСЦЬ *зак. перан.* 1. Забраць, захапіць, арыштаваць. *Думыў, вывірніцца, дайжа нейкія бумажкі дыстаў, а рыскыпаліся — зыскряблі, пулучыў сваё.* 2. Пачаць турбаваць. *Як пачуў пры Мыксімёнка, зыскрябло троху.*

ЗАСЛУГОВЫВАННЕ *н.* Заслуга. *Стыхванок ны вісокіх дылжнысьцях быў, у яго бальшоя зуслуговывыньня пірід уласьцю.*

ЗАСОДЖАНЫЙ *дзеепрым.* Пасаджаны. *Матка скызала: Полічка, ні плач, у мяне трі гряды засоджына, цыбуля як репа.*

ЗАСПАЦЬ *зак.* Прыспаць, прыдушыць у сне. *Мне рысказывылі у горыдзі, што ні так даўно на том баку матка зыспáла дзіцёнка.*

ЗАСТАЎЛЯННЕ *н.* Закладванне, продаж у часовае карыстанне (звыч. зямлі ў дарэвалюцыйны час). *Гультай быў твой дзядзічка, ні хацеў рук пріклыдаць ні к чому, а што яму дывала зыстыўляньня? — трі разы у горыд зьезьдзіць.*

ЗАСТАЎЛЯЦЬ *незак.* Закладваць, прадаваць у часовае карыстанне (у дарэвалюцыйны час). *Іван усігда зыстыўля́ў луг, я купляла, на сходзі плаціла яму грошы, а хлопцы касілі.* ЗАСТАЎЛЯЦЦА *незак.* Закладвацца, прадавацца ў часовае карыстанне. *Я ўсігда пытхадзіла і спрашывыла: «Дзядзька Іван, ці ваш луг сёліта будзіць зыстыўля́цца?»* ЗАСТАВІЦЬ *зак.* Закласці, прадаць у часовае карыстанне. *Напрей гультуюват быў, многа зямлі, ён возьміць, зыстáвіць.* ЗАСТАВІЦЦА *зак.* Закласціся, прадацца ў часовае карыстанне. *Мы зналі, што луг у яго зыстáвіцца.* ЗАСТАЎЛЕНЫЙ *дзеепрым.* *Раз я спрашыю: «Лявон Іванывіч, ці ваш луг зыстáўлін?» — «Не, ні зыстáўлін»,— атвічаіць.*

ЗАСТРАШАНЫЙ *дзеепрым.* Запалоханы. *Каб ні былі зыстрáшыныя, дык ба прішлі, а так пыбыяліся.*

ЗАСТРАШКА *ж.* Запалохванне. *Я свайму крепкыю зыстра́шку даў, большы ён гароды выцірац́ь ні палезіць.*

ЗАСТРОМА *ж. экспр.* Замена. *Ні пасьпеў Пылагею схувац́ь, у яго ўжо застрёма у хаці. Не, я застрёмыю ні к кому ні пайду.*

ЗАСТУКЫВАЦЬ *незак. перан.* 1. Брац́ь на месцы злачынства. *Яго ўжо два разы засту́кывылі зь мяшочыкымі, на етый раз ня просьцюць.* 2. Пры гульні ў хованкі пэўным сігналам паказвац́ь выяўленне партнёра. *Ціхона я ўсігда самым первым засту́кывыю, ён ня ўмеіць хувацца.* ЗАСТУКЫВАЦЦА *незак.* Пры гульні ў хованкі пэўным сігналам паказвац́ь перамогу. *Ай, ня ўмеіш засту́кывыцца, ты няшыбка бегыіш і ўсе цябе пірігыняюць.* ЗАСТУКАЦЦА *зак.* 1. Нагрукацца да знямогі. *Яны заснулі, ты засту́кыісься, пакуля пачуюць, ідзі пысядзі ў мяне троху.* 2. Пры гульні ў хованкі пэўным сігналам паказац́ь перамогу. *Блізка стану, а Пецька пыбягіць шукац́ь іх пы кынавых, і я зразу засту́кыюся.*

ЗАСТУПАННІК, ЗАСТУПЛЯННІК *м.* Абаронца. *Ета швагрёў зуступа́ньнік ідзець, ён усігда зы сваіх устряець грудзьдзю. У цябе тута зуступля́ньнікыў ні пірішчытац́ь, бігац́ь са ўсіх бакоў. Памянш.* ЗАСТУПАННІЧАК, ЗАСТУПЛЯННІЧАК. *Віджу, якей зуступа́ньнічык пыдрыстаіць, уся твыя апора. Нешта Сьвірідыў зуступля́ньнічык дренна зы цябе стаіць.* ЗАСТУПАННІЦА, ЗАСТУПЛЯННІЦА *ж. Ікая ні зуступа́ньніца, а слова закінула, другія падзьдзержылі і апстоілі чылавека. Ты была б харошыю зуступля́ньніцыю, ды дзела плоха знаіш.*

ЗАСТУПЛЯННЕ *н.* Заступніцтва. *Гыўрілёнку нічыё зуступля́ньня ні нада, ён усігда сам зы сябе заступіцца.*

ЗАСТУПЛЯЦЦА *незак.* Заступацца. *Я ні зы каго ні хачу зуступля́цца, ну нечыга ны чылавека прідумляць усякыю чуш.*

ЗАСУНУВАННЕ *н.* Засоўванне. *Нічога зь яго засу́нувыньня ні пулучаіцца, вазьмі ты сам засунь як нада.*

ЗАСУНУВАЦЬ *незак.* Засоўвац́ь. *Засу́нувый яблыкі к самыму жарку, яны луччы сьпякуцца.* ЗАСУНУВАЦЦА *незак.* Засоўвацца. *Неік у цябе снапы дренна засу́нувыюцца, ты кымлямі піхай, а ні макушкымі.*

ЗАСУПОНІВАННЕ *н. перан. жарт.* Падпарадкоўванне. *Угар хлопіц, ніякыя зусупонівыньня яго ні пужаіць.*

ЗАСУПОНІВАЦЬ *незак. перан. жарт.* Падпарадкоўваць. *Ці відзіш, як мылыдая свайго мужука зусупонівыйць?* ЗАСУПОНІЦЬ *зак.* Падпарадкаваць. *Яны цябе скора зусупонюць, у іх доўга ні пакруцісься.* ЗАСУПОНЕНЫЙ *дзеепрым. Думыў, будзіць вылынгацца, як у маткі,— не, тута пойдзіш зусупоніный.*

ЗАСЦЕНЧАТА *прысл.* Сарамліва і ціха. *Ён усігда засьценчыта рызгываріць, усё дно як нечыга стыдзіцца.*

ЗАСЦЕНЧАТАСЦЬ *ж.* Сарамлівасць, ціхмянасць. *Якую ты ў Сашкі засьценчытысьць увідзіла, ён ныхальный ува ўсём.*

ЗАСЦЕНЧАТЫЙ *прым.* Сарамлівы і ціхі. *Яе дзеўкі і ня грубыя, і ні засьценчытыя, усігда рызгаворчыстыя.*

ЗАСЦЁБАЦЬ *зак.* 1. Пачаць сцябаць. *Нарошня засьцёбыў па дзеріўцых: што я скажу.* 2. Моцна насцябаць. *Злаўлю, яй-богу спыймаю і засьцёбыю, большы дурачыцца пірістаніць.* ЗАСЦЁБАНЫЙ *дзеепрым.* Моцна насцябаны. *Ну хто ж ба тута быў, увесь пыдыдзіяльнік засьцёбын нечым грязным, полысымі узяўся.*

ЗАСЦІГАННЕ *н.* Захоп. *Яны б даўно да тых копык дыбраліся, ды іх троху пужаіць зысьцігáньня, як з Грячышкіным пулучылыся.*

ЗАСЦЯБАЦЬ *зак. перан.* Зашыць наспех. *На скорыю руку зысьцібáй мяшок, нада яго браць, неўвышта будзіць сыпыць.*

ЗАСЫПШЧЫК *м. метаф.* Здраднік. *Буўтаіш што зря, ны засыпшчыка нарьвесься, будзіш тады кусаць сабе локці.* ЗАСЫПШЧЫЦА *ж. Андреіха — первыя засыпшчыца была, што пачуіць пра іх, то й бягіць, пірідаець слова ў слова.*

ЗАСЫПЫВАННЕ *н.* Засыпанне. *Дужа ў цябе медлінныя засыпывыньня, так ты ня меншы нядзелі правозісься.*

ЗАСЫПЫВАННІК *м.* Той, хто засыпае. *Стыряюцца засыпывыньнікі, хочуць скарей кончыць і бежч у горыд.* ЗАСЫПЫВАННІЦА *ж. Відна, вашый засыпывыньніцы работы там хваціць нядзелі на дзьве, а то й з гакым.*

ЗАСЫПЫВАЦЬ *незак.* Засыпаць. *Гліну на печ бралі, дык я засыпывыў ямку, каб скаціна ні ўвалілыся.* ЗАСЫПЫВАЦЦА *незак.* Засыпацца. *Старый калодзіж патроху засыпывыіцца, скора ямка саўсім зуруўняіцца.*

ЗАСЯКАЦЬ *незак. перан.* Сцябаць звыш меры, да страты адчування. *Сколька разоў бацька яго зысікáў ремнім,— ныплачыцца, ныряевецца і ўзноў зы сваё.* ЗА-

СЕЧ *зак.* Насцябаць звыш меры, да страты адчування. *Яго б нада було засеч ремнім, а наверьх яшчэ солі пасыпыць.*

ЗАТАПЛІВАЦЬ *незак. метаф.* Прадаваць, тапіць. *Як жа я стану гывäріць, чаго ні знаю, нашто мне чылавека зытáплівыць.* ЗАТАПЛІВАЦЦА *незак.* Ублытвацца ў пагібельныя справы. *Сам пятлю на шыю чыпляіць, зытáплівыіцца, хто яго выцігніць.*

ЗАТАРАТОРЫЦЦА *зак. неадабр.* Забалбатацца. *Зытыраторіліся і ні паглядзілі, як каровы прібеглі, а мыя ня ў пуню, а ґ бульбі.*

ЗАТАРКЫВАЦЬ, ЗАТОРКЫВАЦЬ *незак. метаф.* Закусваць, заядаць. *Яны любілі выпіць, закускі дужа ні було, якою скарінкыю зытáркывылі. Я так ні люблю, каб ны хаду чым-зря заторкывыць.* ЗАТОРНУЦЬ *зак.* Закусіць, заесці. *Ета ня выпіўка, калі глядзіш, чым заторнуць.*

ЗАТАЎКАНКА *ж.* Запраўленая тлушчам або мясам страва. *Як ні пріхадзілыся выкручывыцца, ну зутуўкáнка ны сталe усігда была. Памяниш.* ЗАТАЎКАНАЧКА. *Ці наліць табе зутуўкáнычкі місычку, па-мойму, крупеня ладныя.*

ЗАТАЎКАННЕ *н.* Мясныя прадукты. *У іх і зутуўкáньня хвытаіць, і мылако ёсьць, а маліц высых і выпітріў, верна, нешта ны сярёдку нідылігаіць.*

ЗАТАЎКАЦЬ *зак.* Заштурхаць. *Усе некуды бігаць, сьпішаць адзін пріда дным, лезуць, мяне чуць ні зутуўкáлі.* ЗАТАЎКАЦЦА *зак.* Заштурхацца. *Машынсяньня многа було і тывару ўсякыга, ну людзей тожа многа, я зутуўкáлыся, пакуль троху пылазіла.* ЗАТАЎКАНЫЙ *дзеепрым. Нічога ні було дужа харошыга, зы платочыкымі усе лезьлі, я выскріблыся аттуля бізь нічога, зутуўкáныя.*

ЗАТАЎМОРЫВАННЕ *н.* Затлумліванне. *Мне ат вашыга зытаўморівыньня аж гылыва кругым ідзець.*

ЗАТАЎПОРЫВАННЕ *н.* Запіхванне, засоўванне. *Посьлі твайго зытаўпорівыньня ня то што рубашку, а дайжа ступы ні найдзіш.*

ЗАТАЎСЦЕЦЬ, ЗАТАЎСЦЕЦЦА *зак.* 1. Патаўсцець. *За два гады зытаўсьцеў, што ні пызнаць, калі ні прігледзісься, і ні скажыш, што ета Антанок. Рука зытаўсьцелыся, разбрюзла, рукыва ні надзець.* 2 *перан.* Зацяжарыць. *Іна ды свадзьбы зытаўсьцела, ны свадзьбі сядзела кругліанькыя як бочычка. Мы пынялі, што зытаўсьце-*

*лыся, а Гапка ўсё скрывала: мыя дзевычка ціхінькыя.* ЗАТАЎСЦЕЛЫЙ *дзеепрым.* Патаўсцелы. *Стаў зытаўсьцелый, дайжа ні падумыіш, каб Сямён так зьмяніўся.*

ЗАТВАРАЦЦА *незак.* Зачыняцца. *Вечыр як пріходзіць, яны выкяніцы зычыняюць, зытвыряюцца і сыдзяцца чаеўнічыць.* ЗАТВАРЫЦЦА *зак.* Зачыніцца. *Утрёх зытваріліся, рузмундыкыюць, як яны хлопцыў за нос вадзілі.* ЗАТВАРАНЫЙ, ЗАТВОРАНЫЙ *дзеепрым. Авеччыя пуня асталыся ні зытвыряна, туды столька сьнегу нынясець — ня выскрібіш за дзінь. У затворіный печы дух луччы дзяржыцца.* ЗАТВАРОМШЫ *дзеепрысл. Ня йдзі, ні зытварёмшы дзьвері. Сядзіць зытварёмшы цэлый дзень, як ёй бакі ні зыбыляць ат лежні.*

ЗАТОПТЫВАЦЬ *незак. метаф.* Хаваць (нябожчыка). *Ай, затоптывыць найдуцца хлопцы, вун сьлёзкыўцыў пызывіцё — паслухыюць, прідуць.*

ЗАТРАЎЛЯЦЬ *незак. метаф.* Пашкоджваць лекамі. *Мала што выпісывыюць, ты сябе дужа ні зытрыўляй.* ЗАТРАЎЛЯЦЦА *незак.* Пашкоджвацца лекамі. *Ні нада дужа зытрыўляцца, таблеткі дзьве выпіў і хваціць.*

ЗАТРОПА, ЗАТРОПКА *м.* і *ж.*, ЗАТРОПАК, ЗАТРОПЫШ *м. экспр.* Абадранец. *Апусьціўся Мільлянёнкыў саўсім, такей затрёпа стаў, што ні прівядзі бог. І ты тыкая самыя затрёпа, як твыя матка была. Што ты, затрёпка, места сабе ні найдзіш іс сваім тряхольлім. Ета ізьвесный затрёпык, акуратна ў яго нічога ні пабудзіць. Ну й затрёпыш, ішчэ ладный касьцюм, а збузуван як тряпка. Памянш.* ЗАТРОПАЧКА, ЗАТРОПЫШАК. *Была ў яго нейкыя затрёпычка, а тады й тая зьбегла. Ай, затрёпышык якей-то, мне ён саўсім ні ныравіцца.*

ЗАТРОПЫВАЦЬ *незак.* Заношваць. *Ён дужа нікуратный, адзёжу затрёпывыіць, што ні спруўляісься чыніць.* ЗАТРОПЫВАЦЦА *незак.* 1. Заношвацца. *У рабоці ўсё затрёпывыіцца, якей ты акуратный ня будзь.* 2. Абношвацца. *Прівык затрёпывыцца, нічога ні бірягець пры празьнік.*

ЗАТРЫВОЖЫВАЦЬ *незак. перан.* Зрушваць (унутраныя органы). *Будзіш так прыгыць, будзіш зытрівожывыць жывоцік, ён узноў рызбаліцца.*

ЗАТУЖЫЦЦА *зак.* Моцна заклапаціцца. *Крепка Аріна зутужылыся, чаго яе мальцы ня пішуць, як паехылі, нібыццым у ваду канулі.*

ЗАТУЖЫЦЬ *зак.* Зрабіць тужэй. *Ён так затўжыць, што ні падзьвініш. Па-мойму, нырмальна зутужыў за-*

*доўку, нікуды ня зьедзіць.* ЗАТУЖОМШЫ *дзеепрысл. Пыглядзі, каб увязкі былі хырашо зутужомшы.*

ЗАТУЛЛЕ *н. перан.* Прыпынак, ціхі куток. *Ён ужо наезьдзіўся па белыму сьвету, нышылаўся, хочыць найціць сабе затульля айдзе-небудзь.*

ЗАТУМКАНЫЙ *дзеепрым.* Затузаны. *Хваліліся, што дужа харошый зяць, нічога пўтныга, затўмкыный нейкій стыяў с Сонічкыю кулу вугла.*

ЗАТУХЛЕЦЬ, ЗАТУХЛЕЦЦА *зак.* Засмярдзець. *Веціp аттуля пыцягнуў, нешта зутухлела, ажно стыяць нілізя. Нада клець чысьціць, усё прібраць, тама нешта зутухлелыся.* ЗАТУХЛЕЛЫЙ *дзеепрым. Выкінь ты, ні насіся з зутухлелымі косткымі.*

ЗАТУШЫВАЦЬ *незак.* 1. Задушваць. *Ёсьць маткі, што дзяцей затўшывыюць, ета зьвярьё, а ні маткі,— чаго толька на сьвеці ні буваіць.* 2 *перан.* Рабіць смурод. *Тухліцьця нынясець затўшывыць хату.* 3 *перан.* Дрэнна карміць. *Варычка ні разгоніцца ны смашныя, будзіць бульбыю затўшывыць.* ЗАТУШЫВАЦЦА *незак.* 1. Задушвацца. *Самі пырысяткі ні затўшывыюцца, сьвіньня можыць пацерць.* 2. Напаўняцца смуродам. *Нанёс мыкрыцьця, клець затўшывыіцца.* 3. Дрэнна харчавацца. *Чаго вам затўшывыцца нішчымніцыю, ёсьць жа за што купіць.* ЗАТУШЫЦЬ *зак.* 1. Задушыць. *Такея махыpi і зутушыць ні пыбыяцца, падушку ны гылаву і сядуць.* 2. Нарабіць смуроду. *Зутушылі двор, зайціць нільга, усё дно як прібраць некыму.* 3. Пачаць дрэнна карміць. *Затўшыць такою кармлётыю: бульба і бульба кажный дзень.* ЗАТУШЫЦЦА *зак.* 1. Задушыцца. *Крепка п'яный можыць сам пы сабе зутушыцца.* 2. Напоўніцца смуродам. *У цябе і сёліта хата затўшыцца, як летыся.* 3. Пачаць дрэнна харчавацца. *Вы ўжо зутушыліся етым кісьляцьцём, капустыю етыю.* ЗАТУШАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Задушаны. *Рысказывылі, нейдзі за горыдым найшлі бабу ў хаці затўшыныю.* 2. Напоўнены смуродам. *Такей двор затўшыный, нілізя мінуты выстыіць.* ЗАТУШОМШЫ *дзеепрысл.* 1. Задыхнуўшыся. *Пакуля набеглі людзі, ён ужо быў зутушомшы.* 2. Напоўніўшыся смуродам. *Етык хата зутушомшы, яе нада вычысьціць, а тады ўжо мыць с тряпкыю.*

ЗАТЫРХЫВАЦЬ *незак. груб.* Дрэнна карміць. *Скнáріца была баба, затырхывыла сваіх чым пупала.* ЗАТЫРХЫВАЦЦА *незак.* Дрэнна харчавацца. *Як ба білысь ня білысь, ну чым-зря я б ні затырхывылыся.* ЗА-

ТЫРХНУЦЬ *зак.* Заткнуць. *Зытырхні ты сваё горла і етымі мішкамі, кылі ніяк ня можыш ныжадыцца.*

ЗАТЫХАЦЦА, ЗАТЫХКАЦЦА *зак.* Пачаць моцна біцца (пра сэрца). *А во знаю, серца затыхылыся, як увідзіла Пітрыка зь дзеўкыю. Другей раз серца як затыхкыіцца, я хвытаю скарей якіх-небудзь капіль.*

ЗАХАКЫВАЦЦА *незак.* Задыхвацца. *Нешта зыпіраіць дыханьня, трошку прайду і зыхакывыюся, хвытаю воздух.*

ЗАХАМУТАНЫЙ *дзеепрым. перан.* Такі, які ўсклаў на сябе клапатлівыя абавязкі. *Во пупайся у пятлю, ніяк ня выкруціцца, усё зухумутаный ходзіць.*

ЗАХВАТАМ *прысл.* Краем (пра дождж, туман). *Дождж прайшоў зыхватым, у нас пырядышный быў, а на тым канцы толька пыкапыў.*

ЗАХВАТЫВАЦЬ *незак. перан.* Прыхопліваць спякотай. *Парою, буваіць, зыхватывыіць пасевы, тады пустэй колыс пулучаіцца.* ЗАХВАЦІЦЦА *зак.* Прыхапіцца спякотай. *Бульбоўнік нечым зыхваціўся як-то, дык ужо сохніць.*

ЗАХЛЁПА *м.* і *ж. эмац.* Неахайная асоба. *Ходзіць захлёпа, як белый сьвет пыціряўшы.*

ЗАХЛЁПІСТА *прысл.* Шпарка і невыразна (гаварыць). *Яе дзяўчонкі неік захлёпіста гаворюць, я што пайму, а што й ні рызьбяру.*

ЗАХЛЁПІСТАСЦЬ *ж.* Шпаркасць і невыразнасць у гаворцы. *Вот ач чаго тыкая захлёпістысьць пулучаіцца, турлычыць нешта і турлычыць, як язык пыдвязыный.*

ЗАХЛЁПІСТЫЙ *прым.* Такі, які гаворыць шпарка і неразборліва. *Захлёпістыя дзяўчонка, як зытыраторіць, нічагенічка ні рызьбяру.*

ЗАХЛІПКАЦЦА *зак.* Пачаць хліпаць. *Чаго ён захліпкыўся, хто яго абідзіў, верна, узялі нешта ці скызалі ні так.*

ЗАХЛУДЖЫВАННЕ *н.* Засмечванне, загрувашчванне. *Ні любіў мой старік захлуджывыньня, у яго ўсігда чыстыта была ны дваре.*

ЗАХЛЮПКА *ж.* Неакуратная дзяўчынка. *Пырядышныя дзяўчонка, а ходзіць захлюпка, увесь перід мокрый.*

ЗАХЛЯБАЦЦА *незак. перан.* Траціць магчымасць гаварыць. *Сядзіць малый адзін цэлый дзень, к вечыру зыхлібаіцца ац страху.*

ЗАХЛЯБІСТА *прысл.* Захлёбіста. *Гаворіць маліц зыхлябіста, усё дно як язык у яго за што чыпляіцца.*

ЗАХЛЯБІСТАСЦЬ *ж.* Захлёбістасць. *Я зразу пачула, што ў дзяўчонкі нейкыя зыхлябістысьць, калі йна гаворіць.*

ЗАХЛЯБІСТЫЙ *прым.* Захлёбісты. *К Лыўрінковым атнекуль з далёкыга пріхадзіла тыкая зыхля́бістыя дзяўчонка, на від красівыя была.*

ЗАХЛЯБЫВАННЕ *н.* Захлюпванне. *Ні люблю я зыхля́бывыньня, тады чысьціся, аcьціpaйся, а яно ня дужа аччышча́іцца.*

ЗАХЛЯБЫВАЦЬ *незак.* Захлюпваць. *Ні нада штаны зыхля́бывыць, пыткысай вышы.* ЗАХЛЯБЫВАЦЦА *незак.* Захлюпвацца. *Луччы ня лезь туды зыхля́бывыцца, вылізіш, што цябе ні пызнаць будзіць.* ЗАХЛЯБАЦЬ *зак.* Захлюпаць. *Айдзе йта ты лазіў, вышы кален штаны зыхля́быў, пыглядзі ны сябе.* ЗАХЛЯБАЦЦА *зак.* Захлюпацца. *Як жа ні зыхля́быіська, кылі грязь кругом, стаць ні прідумыіш айдзе.* ЗАХЛЯБАНЫЙ *дзеепрым.* *Ат макушкі ды пят зыхля́быный, харош, нечыга скызаць.*

ЗАХЛЯСТЫВАЦЬ *незак. перан.* Даваць плескачоў без меры. *Цябе матка, знаць, зыхля́стывыіць чуць ні кажный дзень.* ЗАХЛЯСТЫВАЦЦА *незак.* Парыцца да знямогі. *Каменьня на печкі аж красныя, біс пары цярьпець нілізя, а яны зыхля́стывыюцца і яшчэ просюць паткінуць.* ЗАХЛЯСТАЦЬ *зак.* Напарыць да знямогі. *Ну хваціць яго паріць, ты яго захлешчыш.* ЗАХЛЯСТАЦЦА *зак.* Напарыцца да знямогі. *Так паріўшыся, захлешчысься, ні ўсякій еткій дух выдзіржыць.* ЗАХЛЯСТАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Налупцаваны. *Ты ўжо ні раз быў зыхліста́ный, і ўсё табе ня ймецца, скора ўзноў дыбярууся.* 2. Заліты дажджом. *Твае снапкі зыхліста́ны стыяць мокрыя, сушыў, сушыў і ўсё сушэньня дырма.*

ЗАХРЫПАЦЬ *зак.* Пачаць хрыпець. *Кашыль б'ець і б'ець каторый дзень, ажно захріпыў.*

ЗАХРЫПНУЦЬ *зак.* Зрабіцца хрыплым. *Я б засіпла і захріпла, каб ны таком буі пыстыяла, а яны нічога.* ЗАХРЫПЛЫЙ *дзеепрым.* *У майго тожа захріплый голыс, я ўжо лячыла: паіла маліныю.*

ЗАЦЁПЫВАЦЬ, ЗАЦЁПКЫВАЦЬ *незак. перан.* Затузваць. *Раз пычалі зацёпывыць, то зь іх лап ня вырьвісься, яны дужа ўедлівыя. Зацёпкывыюць мальца, зы анучку яго вядуць.* ЗАЦЁПЫВАЦЦА, ЗАЦЁПКЫВАЦЦА *незак.* Стамляцца тупаючы. *Уродзі нічога ня дзелыю і зацёпывыюся як авеччый хвост. Хваціць табе зацёпкы-*

*выцца, усяго ні пірядзелыіш.* ЗАЦЁПАЦЬ, ЗАЦЁПКАЦЬ *зак.* 1. Пайсці павольна. *К Шапыріхі зацёпыла пы грязі, тама яе дужа ждуць. Дарогі німа, ну зацёпкыў, гаворіць, нада абізацільна к празьніку схадзіць у Пірядніна.* 2. Пачаць парыцца. *Доўга вазіўся с тазікымі, а тады зацёпыў ны палку, чую. Зацёпкыў ны палку паціху.* 3. Напарыць да знямогі. *Ты яго і паціхіньку зацёпыіш, ніхай ужо зьлізаіць. Можна зацёпкыць любога.* 4. Затузаць. *Мікілай разумный мушчына, ета яго неік зацёпылі і зацёпылі. Мыкырінят ня дужа зацёпкыіш, яны самі каго хочыш у быраньній рог скруцюць.* ЗАЦЁПАЦЦА, ЗАЦЁПКАЦЦА *зак.* 1. Стаміцца ў хадзе. *Зацёпыліся, пакуля дыпляліся ды Бірязуік. Зацёпкыісься ты сяньня, саўсім руспусьціла, пыдажджы пару дней, пакуля сьцякець.* 2. Стаміцца тупаючы. *Пілініха зацёпылыся лі свайго хызяйства. Кажныя раньня кажыцца і ня дзелыіш дужа нічога, а зацёпкыісься — худзь ба пірідыхнуць трошку.* 3. Напарыцца да знямогі. *Ты там зацёпыісься, ні зьлізаўшы столька ўремя. Што, ішчэ ні зацёпкыўся? — я магу большы паткінуць.* ЗАЦЁПАНЫЙ, ЗАЦЁПКАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Стомлены. *Прішлі зацёпыныя, што ты хочыш, тыкая дарога ды ўсю ноч ні спаўшы. Чаму ня будзіш зацёпкыный, кылі столька работы.* 2. Напараны да знямогі. *Відзіш, зацёпыный, ідзець, часы два с пылка ні злазіў. Сядзіць зацёпкыный, аддыхаіць.* 3. Затузаны, неразвіты, неахайны. *Пракоп твой усігда быў зацёпыный. На від зацёпыныя, а так разумныя баба, іна ува ўсім ня хужы любога мушчыны пынімаіць. Пріваdзілі ёй нейкыга зацёпкыныга зяця із-зы Вяхры, ні знаю, ці пыныравіўся ён ёй. Стыдна такім зацёпкыным хадзіць, можна трошку акуратней надзецца.*

ЗАЦІЛІКАЦЬ *зак.* Зашчабятаць. *Вот і ўзноў цёпла стала, зыцілікылі птушычкі разнымі гылысамі.*

ЗАЦІНЕЦЬ, ЗАЦІНЕЦЦА *зак.* Зарасці травой, цінай. *Раншы ўсё лета ў аборку выда дзіржалыся, а цяперя зыцінеў і зыцінеў. Зыцінелыся сажылка, яе каб пачысьціў хырашэнька, у ёй ба выда стыяла.*

ЗАЦІНЦІЦЬ *зак.* Пачаць нудную размову. *Пра нешта сваё заціньцілі, я ня слухыў.* ЗАЦІНЦІЦЦА *зак.* Правесці час у нуднай размове. *Як заціньціліся, дык і цямнець пычало, а яны ні маглі рызыйціцца.*

ЗАЦУХМОЛІВАННЕ *н.* 1. Заношванне, завэдзгванне. *Ні ныравіцца мне тваё зуцухмолівыньня.* 2 *перан.*

Затузванне. *Пычалося зуцухмолівыньня, зь іхных лап трудна вырвыцца.*

ЗАЦУХМОЛІВАЦЬ *незак. перан.* Затузваць. *Што ж вы такога хлопца зуцухмолівыіця.* ЗАЦУХМОЛІЦЬ *зак.* Затузаць. *Зуцухмолілі чылавека як пасьледнію тряпку.* ЗАЦУХМОЛЕНЫЙ *дзеепрым. Ён усігда быў зуцухмоліный.*

ЗАЦЫРКАЦЦА *зак. метаф.* Завазіцца з вадкасцю. *Зацыркыўся с кружкыю лі вады, чырпак вазьмі, скарей будзіць дзела.*

ЗАЦЫРОВЫВАЦЬ *незак.* Абшываць (пасылку). *Пасылык я зуцуровывыць дужа ня ўмею, троху зымітляю, алі даходзюць.* ЗАЦЫРАВАЦЬ *зак.* Абшыць (пасылку). *Калі пысылаць адзёжу, нада хырашэнька пасылку зуцурувáць.* ЗАЦЫРАВАНЫЙ *дзеепрым. Зуцурувáныя пасылка, відна, што сьпіцыяліст дзелыў.*

ЗАЦЭЛІВАЦЬ *незак.* Зберагацца, захоўвацца. *Два разы пуня зыгáрівылыся, а во хату бог бярёг — усігда зацэлівыла.*

ЗАЦЮКЫВАЦЬ *незак.* Засякаць, зачосваць. *Большы кылячкоў ні зацюкывый, хваціць.* ЗАЦЮКЫВАЦЦА *незак.* Засякацца, зачосвацца. *Нешта ў цябе дужа медлінна зацюкывыіцца.*

ЗАЦЮПКЫВАННЕ *н.* 1. Заплюхванне. *Будзь акуратнейшым, ня буду я каждый раз тваё зацюпкывыньня вычышчаць.* 2 *перан.* Затузванне. *Лявоніхін сын ні станіць цярьпець зацюпкывыньня.*

ЗАЦЮПКЫВАЦЬ *незак.* 1. Заплюхваць. *Ты ўсігда зацюпкывыіш калошы чуць ні ды кален.* 2 *перан.* Затузваць. *Зацюпкывыюць свайго зяця, зы чылавека ні вядуць, во ўляцеў у шчасьця.* ЗАЦЮПКЫВАЦЦА *незак.* Заплюхвацца. *Глядзі пад ногі, выбірай, айдзе сушэй, меншы зацюпкывыйся.* ЗАЦЮПКАЦЬ *зак.* 1. Заплюхаць. *Ты сабе ўвесь хвост зацюпкыла, грязь чуць ні капыіць.* 2. Затузаць. *Яны каго хочыш зацюпкыюць, нікога зы чылавека ні шчытаюць.* ЗАЦЮПКАЦЦА *зак.* Заплюхацца. *Пыглядзі ны сябе, як ты зацюпкыўся.* ЗАЦЮПКАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Заплюханы. *Дарога дренныя, грязныя, прішлі зацюпкыныя.* 2. Затузаны. *Нейкій зацюпкыный хлапчына трошку пажыў у іх.*

ЗАЦЯЛЕЦЬ, ЗАЦЯЛЕЦЦА *зак.* Пакрыцца (пра карову). *Я ўсігда адзін раз ваджу ґ быку, як зваджу, так і зыцялеіць. Сёліта позна карова зыцялелыся, пызьнячок будзіць цялёнычык.*

ЗАЦЯСНЕННЕ *н.* Уціск. *Як стаў нычальнікым, якога толька зыцясьненьня майму ні прідумывыў.*

ЗАЦЯСНЯЦЬ *незак.* Ствараць цеснату. *Я вас зыцісьняю троху, ну пыцярьпіця ўжо дні два, як-небудзь выбіруся.* ЗАЦЯСНІЦЬ *зак.* Стварыць цеснату. *Канешня, пріедуць, дык зыцісьняць, ну нада як-то міріцца ета ўремя.*

ЗАЧАПЛІВАННЕ *н.* 1. Чаплянне. *Ці доўга ты будзіш з зычаплівыньнім вазіцца?* 2 *перан.* Закрананне. *Мы доўга дзікуваліся ны яго зычаплівыньня, ён і так піряд Верычкыю, і етык, а йна глядзець ня хочыць.*

ЗАЧАПЛІВАЦЬ, ЗАЧАПЛЯЦЬ *незак.* 1. Чапляць. *Крепка зычаплівый вярёўку, каб ні сырвалыся. Не, тута нада што-небудзь кряпчэй зычыпляць, ета ірунда парьвецца.* 2 *перан.* Закранаць. *Ня дужа яго рызгаворы мяне зычаплівыюць, я знаю, што яны пустэя. Я сыма ні разычку чужога ні зычаплівыла і дзіцям пріказывыла ня трогыцца ні ш чым. Ён усігда зычыпляіць Надзю, а йна атвырачыіцца. Ні дуріця вы гылавы, ні станіць Пашка зычыпляць нічыйго сена.* ЗАЧАПЛІВАЦЦА, ЗАЧАПЛЯЦЦА *незак.* 1. Чапляцца. *Паліц баліць і ўсё зычапліецца і зычапліецца. Дзяржы трошку ў бок, каб ні зычыпляцца восьсю за вугыл.* 2. Закранаць, звязвацца. *Ні станіць Шурік зычаплівыцца з Мыцьвяёнкывымі. Ну калі йта я ш чым зычаплівылыся, што ты вярзеш пустоя ні падумыўшы. Думыў, станунь зычыпляцца, не, прайшлі міма маўчком. Ні захочыць Лукашонык зычыпляцца ш чужым, ета яны нешта прідумывыюць нарошня.* ЗАЧАПІЦЬ, ЗАЧАПІЦЦА *зак.* Крануць, прысвоіць. *Як ты зачэпіш чужоя, ета і стыдна, і нікрасіва. Ш чужым зычапіцца — ета нада совісьць саўсім пыцірянь.* ЗАЧЭПЛЕНЫЙ *дзеепрым.* *Не, я віджу, тута нічога ні зачэпліна.*

ЗАЧАЎРЫВАЦЬ *незак.* 1. Падсыхаць. *Дождж ык прайшоў, а цяперя сонца зь віцярком, зімля стала зычаўрівыць.* 2 *перан.* Худнець, мізарнець. *Хрымянкоў пычаў зычаўрівыць, яму ў лесі нешта ў сярёдку пыўрядзілыся.* ЗАЧАЎРЫВАЦЦА *незак.* Падсыхаць. *Во рыспагодзілыся, грязь зычаўрівыіцца.* ЗАЧАЎРЫЦЬ *зак.* Падсохнуць. *Хырашо, што хуць ны дваре троху зычаўріла.* ЗАЧАЎРЫЦЦА *зак.* 1. Падсохнуць. *Ішчэ нікуды дужа ня пройдзіш, чуць-чуць зычаўрілыся.* 2. Схуднець, змізарнець. *А так во, зычаўрійся, унімания зразу ні абрасьцілі, а тады кінуліся лячыць, у яго ў лёхкіх ну лучах*

*дзірькі відзюць.* ЗАЧАЎРАНЫЙ, ЗАЧАЎРАЎШЫЙ, ЗАЧАЎРАЛЫЙ *дзеепрым.* 1. Падсохлы. *Бугорчыкі зычаўрініыя, а трошку ніжы грязь ня ўлезьць. Калі трошку зычаўріўшыя зімля, можна і ўскыпаць, а то дык пыдажджы дзень-два. Во тута сьнег зь зямлёю пірімішан, зычаўрілый, дзяржыцца, можна стыяць.* 2. Схуднелы, змізарнелы. *Ёй ба хуць зычаўріный якей, ці путному каму іна нада. У яго даўно сы здароўім дренна, сколька тут жывець, усё зычаўріўшый. У яе дзеці зычаўрілыя і сыма захлюпа, хочыш, каб зь Ляксеівыя дачкі пуць быў.*

ЗАЧУХЫВАЦЬ *незак.* Затузваць. *Глядзі, глядзі, мяне ты зачухывыць ня будзіш.* ЗАЧУХЫВАЦЦА *незак.* Забруджвацца, апускацца. *Гультайка, во хто йна, ні за чым ні глядзіць, зачухывыіцца.* ЗАЧУХАЦЬ *зак.* Затузаць. *Лянід ні такей, яго ні зачухыюць, ён ім крыльля абарьвець.* ЗАЧУХАЦЦА *зак.* Забрудзіцца, апусціцца. *Сьпірва троху глядзела зы пырядкым, дык жа ны адны плечы такоя хызяйства, іна й зачухылыся.*

ЗАЧХАНЫЙ *дзеепрым. перан.* Хваравіты, прастуджаны. *Як с табою жонка сьпіць, с такім зычханым. Сядзіць ны ліжанкі зычханый, бухікыіць.*

ЗАЧЫКРЫЖЫВАННЕ *н. жарт.* Заразанне. *Я чую, чую, што вы пра нейкыя зычыкрыжывыньня згыварівыіціся.*

ЗАЧЫКРЫЖЫВАЦЬ *незак. жарт.* Заразаць. *Дык каго вы тута зычыкрыжывыць зьбіраіціся?*

ЗАЧЫНЕТЫЙ I *дзеепрым.* Зачынены. *І вароты зачынітыя, і коўрыццы патпёртыя, і тута нехта быў, во ён, сьлед дайжа відзін.*

ЗАЧЫНЕТЫЙ II *дзеепрым.* Завостраны (пра аловак). *Кырындаш дужа цьвёрдый і войстра зачыніт, бумагу режыць наскрозь.*

ЗАШАВАЛІЦЬ *зак.* 1. Зашавяліць. *Рука замлела, што пальцымі чуць зышываліў.* 2 *перан.* Пачаць катурхаць, падганяць. *Пакуля ні зышаволіш, самі ні парупюцца. Як зышаволіш, пыбягіць, вожкі апусьціш — ныга цiрiз нагу пляцецца.* 3 *перан. гумар.* Пайсці бадзёра дробнымі крокамі. *Так зышываліў старэй к аўтобусу, што мыладэя астаюцца, у яго сіла ішчэ тая.* 4 *перан. эмац.* Пачацца (пра дождж). *Калі ён успакоіцца, етый дождж, узноў зышываліў, ды спорный, спорный.* ЗАШАВАЛІЦЦА *зак.* 1. Зашавяліцца, заварушыцца. *С аднаго боку ў кусьце зышывалілыся нешта, тады з*

*другога, мы зірнулі, а тама зыйчанёык хуваіцца.* 2 *перан.* Пачаць турбавацца, непакоіцца. *Ня дужа такея гультаі зышаволюцца, іх нада палкыю хырашэнька пышываліць, каб к чаму-небудзь прітуркыць.*

ЗАШАМАЦЬ *зак.* Зашамацець. *Ета ты тут ляжыш?— а я думыю: што йта зышамыла ў сені.* ЗАШАМАЦЦА *зак.* Зашамацецца. *Хто тамыцька большы будзіць,— мышы зышамыліся.*

ЗАШПАНДОРЫВАННЕ *н.* Моцнае ўбіванне. *Я гляджу ны тваё зышпандорівыньня: ты каб бірна ні рыскалоў.*

ЗАШПАНДОРЫВАЦЬ *незак.* Моцна забіваць. *Зышпандорівый рядым другей гвозд, кряпчэй будзіць дзіржацца.* ЗАШПАНДОРЫЦЬ *зак.* Моцна ўбіць. *Як зышпандорю рог ат вілык, ён век будзіць сядзець, ні дасьць вурухнуцца.* ЗАШПАНДОРАНЫЙ *дзеепрым. Пірясечыныя скаба рызагнута і зышпандоріна.*

ЗАШТАПАРЫВАННЕ, ЗАШТОПАРЫВАННЕ *н.* 1. Затрымка ў справах. *На етый раз у яго зыштыпáрівыньня пулучылыся. Ні люблю я заштопырівыньня, па-моййму, што ня дзелыць, дык дзелый ды кынца.* 2. Затрымка на месцы злачынства. *Нічыйго ён зыштыпáрівыньня ні баіцца, што яму хто зьдзелыіць за ношку саломы. Ён дужа спужаўся заштопырівыньня.*

ЗАШТАПАРЫВАЦЬ, ЗАШТОПАРЫВАЦЬ *незак.* 1. Затрымлівацца (пра справы). *Ні пыдмазына, дык і зыштыпáрівыіць. Яго дзела заштопырівыіць, нехта бумаг яму ні пытпісаў.* 2. Лавіць на месцы злачынства. *А ці ты сыма ні зыштыпáрівыла етыга балыўніка ў гурочыкых, а цяперя зуступаісься. Я ўжо іх другей раз заштопырівыю ў садку.* ЗАШТАПАРЫВАЦЦА, ЗАШТОПАРЫВАЦЦА *незак.* Затрымлівацца (пра справы). *Гыварілі, што ў іх зыштыпáрівыіцца дзела, відна, саўсім ні паедуць. Сьпірва ўсё хырашо йшло, а тады стала заштопырівыцца.* ЗАШТАПАРЫЦЬ, ЗАШТОПАРЫЦЬ, *зак.* 1. Затрымацца (пра справы). *Нешта Сыйчанок тріпануў, і ў іх зыштыпаріла. Сы спраўкымі ў яго заштопыріла дзела, ніяк ні сыбярець.* 2. Злавіць на месцы злачынства. *Іх сь сеным зыштыпарілі: аткуля візіцё, чыё сянцо,— а ім і гываріць нечыга. Цябе як заштопырюць з бульбыю, тады пачэшыш патыліцу.* ЗАШТАПАРЫЦЦА, ЗАШТОПАРЫЦЦА *зак.* Затрымацца (пра справы). *Усё ўремя йшло гладка, а тады разам зыштыпарілыся. Думыў ехыць у Лінінград, а тады неік зашто-*

*пырілыся і ні паехый.* ЗАШТАПАРОНЫЙ, ЗАШТОПАРАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Затрыманы (пра справы). *Цяперя ў іх крепка зыштыпарёна, ныўряд, ці яны куды выбіруцца. Усё ў яго заштопыріна, нікуды ён ня дзьвініцца.* 2. Злоўлены на месцы злачынства. *А што, тут вы зыштыпарёны, ладна, Ільлюшчыха з вамі рышшчытаіцца. Каб вы відзілі, як ён круціўся заштопыріный лі стыга.* ЗАШТАПАРОМШЫ *дзеепрысл.* 1. Затрымаўшыся (пра справы). *Іхныя дзела зыштыпарёмшы крепка.* 2. Злавіўшы на месцы злачынства. *А знаіш, што зьдзелыюць?— зыштыпарёмшы ў суд пірідадуць.*

ЗАШЧАКАТАНЫЙ *дзеепрым.* Заказытаны. *У яго ў зышчыкытáныга атыбралі цацкі, яго як шчыкатнеш, ён і паехый.*

ЗАШЧАПЛІВАННЕ *н.* Зашчаплянне. *Праверь дзіцёнкыва зышчáплівыньня, ато ён можыць забыць і дзьверí будуць пасьцю ноч стыяць.*

ЗАШЧАПЛІВАННІК *м.* Той, хто зашчапляе. *Твой зышчáплівыньнік ду крючка ці дыстаніць.* ЗАШЧАПЛІВАННІЦА *ж. Нешта поріцца зышчáплівыньніца ў сенцых, знаць, крючка ні найдзіць.*

ЗАШЧАПЛІВАЦЬ *незак.* Зашчапляць. *Ні разу ні зубувай, усігда ну крючок дзьверí зышчáплівый.* ЗАШЧАПЛІВАЦЦА *незак.* Зашчапляцца. *Як пычынаіць цямнець, я зышчáплівыюся і лезу на печ.*

ЗАШЧУПЫВАЦЬ *незак.* Намацваць. *Нічога я тут ні зашчýпывыю, ты ўспомні, можа ні сюда клаў вязёнкі.* ЗАШЧУПЫВАЦЦА *незак.* Намацвацца. *Падумый хырашэнька, можа ты ня тут відзіў, нешта нічога ні зашчýпывыіцца.* ЗАШЧУПАЦЬ *зак.* Намацаць. *Айдзе, думыю, капейкі дзіваюцца, ажно во, зы пыткладкыю зашчýпыў, у дзірічку прываліюцца, рыспрарешылыся трошку.* ЗАШЧУПАЦЦА *зак.* Намацацца. *Ніпраўда, зашчýпыіцца айдзе-небудзь рашчоска, ня можыць быць, каб ні найшоў.* ЗАШЧУПАНЫЙ *дзеепрым. Пастой-ка, пастой, нешта зашчýпына, січас дыстаніць!*

ЗАШЧУЧАНЫЙ *дзеепрым.* Злоўлены, заспеты. *Зашчýчыныму ў пуні яму трошку було нялоўка ў вочы глядзець.*

ЗАШЧУЧЫВАННЕ *н.* Заспяванне. *Ну й што вы зьдзелылі посьлі зашчýчывыньня, пысьміяўся ён і пашоў.*

ЗАШЧЫЧАЦЬ, ЗАШЧЫЧЫВАЦЬ *незак.* 1. Абараняць. *Ты ня ўмеіш зышчычáць, ніхай ён сам ідзець. Сам*

*ты ўсюдых лезіш, як дурак, ніхто цябе зашчы́чывыць ня будзіць.* 2. Заштукоўваць. *Кузьма нывярьху, затул зышчыча́іць. Нада як-то лезьць ды зашчы́чывыць увярьху, дуйка падніміцца — поўныя сенцы напрець сьнегу.* ЗАШЧЫЧАЦЦА, ЗАШЧЫЧЫВАЦЦА *незак.* 1. Абараняцца. *Храсіньня гразіла цябе злавіць, прідзіцца табе зышчыча́цца. Ты ім ні цярьпі, зашчы́чывыйся, дывай здачы.* 2. Заштукоўвацца. *А цэл ён будзіць, твой гарод, німа там ат каго зышчыча́цца. Тыкая восінь стыяла зылытая, ні ветру, ні дажджынычкі — шлындыў, цігаўся, а як хлоп'імі пываліла, хваціўся зашчы́чывыцца.* ЗАШЧЫЧАНЫЙ, ЗАШЧЫЧОНЫЙ *дзеепрым.* 1. Абаронены. *Бутылку расьпіў зь імі, цяперя думыіць, што ён ужо зашчы́чын. Як жа, яны зышчычоныя, нікога ні быяцца.* 2. Заштукаваны. *Айдзе було зашчы́чына, тама ні прудуло, а кылы сьцяны шчэлычкі асталіся, нукруціла сьнегу. Пуні хырашо зышчычоны, апторкыны крепка, нійдзе ні прадмець.*

ЗАШЧЫШЧАЦЬ *незак.* Заштукоўваць. *На́ зіму усё зышчышча́й як можна луччы, ні прыгыдаіш.* ЗАШЧЫШЧАЦЦА *незак.* Заштукоўвацца. *Зышчышча́йся, пакуля ўремя ёсьць, а як запрець, задмець, тады позна хвытацца.* ЗАШЧЫЦІЦЬ *зак.* Заштукаваць. *Пуньку мы няплоха зышчыцілі, ні далжно быць халодна.* ЗАШЧЫЦІЦЦА *зак.* Заштукавацца. *Як пяреднія сьціна зышчыціцца, тады можна сьмела зімуваць.* ЗАШЧЫШЧАНЫЙ, ЗАШЧЫШЧОНЫЙ *дзеепрым. Тама хата была с трёх бакоў зашчы́шчына. Заднія сьціна крепка зышчышчона, зьнізу бульбоўнікым, вышы саломыю апкладжына, а ат Пісырівых хулуднувата будзіць.*

ЗАШЫТЫЙ *дзеепрым. перан.* Забіты (дошкамі). *Наць сенцымі у мяне хрантон доскымі зашы́т, а з другога боку, ад гряд,— затул.*

ЗАЯДЛІВА *прысл.* Заядла. *Яны зыя́дліва работылі, бувала, як возьмуцца касіць, дык ні ддыхаючы косюць ды абеда.*

ЗАЯДЛІВАСЦЬ *ж.* Заядласць. *Нашто зуступацца, зыя́длівысьці ў яго хвытаіць, можыць пазычыць каму-небудзь.*

ЗАЯЛАВЕЦЬ, ЗАЯЛАВЕЦЦА *зак.* Стаць ялаўкай. *Іна, відна, зыя́лывіла ў цябе, ялыўка будзіць, пабіў яе дужа крепка Антон. Сёліта ў мяне зыя́лывілыся карова, будуць сьмігувацца дзеці біз мылыка.*

ЗБАСІЦЬ, ЗБАСЦІЦЬ *зак. эмац.* Звесці, зжыць.

*Яны зьбіраліся Лупўдзенку збáсіць, ды тэй іх ня дужа быяўся. Думыіця, мяне са сьвету збáсьціця, дык вам пыляхчэіць, не, ня думыйця так.*

ЗБАСЫВАННЕ *н.* Марнаванне. *Калі пычалося збáсывыньня, ня жджы пуця, нырмальныя жызьні ні палучыцца.*

ЗБАСЫВАЦЬ *незак.* Марнаваць. *Ня будзіць у яго ніякія жысьці, збáсывыіць хызяйства.* ЗБАСЫВАЦЦА *незак.* Марнавацца. *Пычало збáсывыцца, дык яно ідзець к канцу.* ЗБАСАЦЬ *зак.* Змарнаваць. *Жалілыся, што ніпутнэй маліц, быў касьцюм харошый, пальто справілі — усё збáсыў.* ЗБАСАЦЦА *зак.* Змарнавацца. *Стольска дыбра былі нуспруўлялі, і ўсё збáсылыся, пашло прахым.* ЗБАСАНЫЙ *дзеепрым. Многа чаго збáсына, дык што ж ты зьдзелыіш, ныззад ня верніш.*

ЗБАХЫВАННЕ *н. перан. неадабр.* Складванне абы-як. *Я дзіўлюся ны тваё збáхывыньня, нілізя ж так гамзіць як пупала.*

ЗБАХЫВАЦЬ *незак. перан. неадабр.* Складваць абы-як. *Мокрыю адзёжу ні збáхывый кучыю, яе нада ны шасту разьвесіць.* ЗБАХЫВАЦЦА *незак.* Складвацца абы-як. *Ікая будзіць сушка, калі збáхывыіцца ўсё як зря.* ЗБАХАЦЬ *зак.* Скласці абы-як. *Мы хворысьця збáхылі, нада акуратна пірілажыць.* ЗБАХАЦЦА *зак.* Скласціся абы-як. *Пыдажджы, снапы збáхыюцца ў пуню, тута пырыскашнеіць.* ЗБАХАНЫЙ *дзеепрым. Тряп'ё збáхына кылы дзьвярей, нада вынісьць праветріць.*

ЗБЕЖЧ *зак.* Абабегчы. *Кывалёвіч усю дзяреўню зьбег абосый, голый, бягіць і крічыць: зарежуць мяне,— ета ён з гырячкі сь ціху так зімою бегыў і жыў астаўся.*

ЗБЛУТУНЯЦЬ, ЗБЛУТУНЯЦЦА *зак. эмац.* Збадзяжнічацца. *Ні палучыцца з гультуя чылавека, зблутуняіць, улезіць у якую шайку, што прідушуць айдзе. Нейдзі зблутуняўся, пры яго даўно нічога ня чутна.*

ЗБЛЯКАЦЬ *незак. перан.* Выцвітаць, бляднець. *Я знаю ету мацерію: січас іна яркыя, ну дужа быйстра зблікáіць, як тряпка дзелыіцца.* ЗБЛЯКНУЦЬ *зак.* Пачаць грэць слабей (пра сонца). *Сонца трошку збляк-ніць і пойдзім, січас іціць — зыпарісься.*

ЗБОЙ *м.* Выбіты ўчастак, паласа. *На збоі многа ні накосіш, скот пасьці ўсё с таго боку вытыптыў.*

ЗБОЙНАСЦЬ *ж.* Цесната. *Тыкая збойнысьць была ў лаўкых, нікуды я дайжа ні прістýпалыся.*

ЗБОЙНЫЙ *прым.* Вытаптаны, вытраўлены жывёлай.

*Збойный етый кусочык, сюда каровы часта зыбігаюць, то адна, то другая скубанець.*

ЗБОК 1 *прысл.* Збоку. *Мы жылі кылы дарогі ны Пірядніна, а яго хата стыяла збок.* 2 *прыназ.* Збоку. *Збок яблыны пысадзіў дзьве сьліўкі. Кірей пастроіўся збок Ягора.*

ЗБРАДЗЯЖНІЧАЦЬ, ЗБРАДЗЯЖНІЧАЦЦА *зак.* Збадзяжнічаць. *Сьпірва харошый быў кот, мышэй лавіў, а троху-патроху збрыдзя́жнічыў. Калі ня возьміш у рукі цяперя, яны збрыдзя́жнічыюцца, хочыш, у цюрьму сядуць.*

ЗБРОДА *м.* і *ж.* Збродлівая жывёліна. *Етый конь зброда, наўчыўся пута пірігрызаць і тады ляціць, куды захочыць. Тыкая зброда рябінькыя карова, так і цыляіць, каб куды ў шкоду ускачыць.*

ЗБРЫДЗЕЛЫЙ *прым.* Апрыкры. *Мне ён стаў такім збрыдзелым, што дайжа глядзець ні магу.*

ЗБРЫЖЭЦЬ, ЗБРЫЖЭЦЦА *зак.* Пачаць кіснуць. *Паспробый-ка ны язык, ета мылако, кажыцца, збрыжэла. Калі збрыжэлыся, ня трогый, ніхай кісьніць ны сырыквашу.* ЗБРЫЖЭЛЫЙ *дзеепрым. У лыханку збрыжэлыя мылако, кылі любіш такоя, налі сабе ў чашку.*

ЗБРЫЗНУТЫЙ *дзеепрым.* Пабрызганы. *Каб було трошку збры́знута, пыль ба ні так пыднімалыся.*

ЗБРЫНКАЦЦА *зак.* Скасіцца абы-як. *Ніхай пакуль расьцець етый біряжок, пасьпеіць, і пазьней збры́нкыіцца.*

ЗБУГОРЫВАННЕ *н. эмац.* Узвядзенне, будаванне з цяжкасцю. *Якоя ні збугорівыньня, пірямучыліся, дык свой кут — ні чужэя вуглы.*

ЗБУГОРЫВАЦЬ *незак. эмац.* Узводзіць, будаваць з цяжкасцю. *Нада якую-небудзь хаччыну збугорівыць, ня будзіш жа увесь век пу чужых цігацца.* ЗБУГОРЫВАЦЦА *незак.* Узводзіцца, будавацца з цяжкасцю. *С трудом, ну ў Піліпёнка хата збугорівыіцца.* ЗБУГОРЫЦЬ *зак.* Узвесці, пабудаваць з цяжкасцю. *Як біліся ня біліся, а хату сабе зы два гады збугорілі, цяперя у сваёй сідзяць.* ЗБУГОРЫЦЦА *зак.* Узвесціся, пабудавацца з цяжкасцю. *Троху-патроху нейкыя пастройчына збугорілыся, свой вугыл к старысьці.* ЗБУГОРАНЫЙ *дзеепрым. Дайно я ў Жыріціне быў, нідайна відзіў Ірямёнка, гыварыў ён, што ў сватоў нібальшэнькыя хатка збугоріна.*

ЗБУЗОВЫВАЦЦА *незак.* Зношвацца. *Калі ні гля-*

*дзіш, ні біягеш, любая адзежына скора збузовывыіцца.*

ЗБУТАРАННЕ, ЗБУТАРЫВАННЕ *н. перан.* Сунімание (болю). *Якоя збутуря́ньня на дзесіць мінут, нада лячыцца, каб саўсім ні балела. Адно ў мяне збута́рівыньня — гырячый канпрес, як прікладу — патроху атпускаіць.*

ЗБУТАРАЦЬ, ЗБУТАРЫВАЦЬ *незак. перан.* Сунімаць (боль). *Замучывыіць гылыва, саўсім ні даець спакою, адно што збутуря́ю яе троху таблеткымі. Ногі як возьмуцца ламіць, німа спасеньня, тады тру іх, тру, етым і збута́рівыю.* ЗБУТАРАЦЦА, ЗБУТАРЫВАЦЦА *незак.* Сунімацца (пра боль). *Як прікладу хало́дный кампрес, во трошку збутуря́іцца боль, ато дыханьня зыхватыіць. Адно, чым збута́рівыўся — дзелыў гырячыя ванны, Прося грела ваду і ён рукі торкыў.* ЗБУТАРЫЦЬ *зак.* Суняць (боль). *Як чым-небудзь збутуріш, тады трошку луччы, нылажыла кампрес.* ЗБУТАРЫЦЦА *зак.* Суняцца (пра боль). *Я ўжо ні прідумыю, ці збутуріцца калі ета боль, замучывыіць.* ЗБУТАРОНЫЙ *дзеепрым.* 1. Сагнаны ў адно месца (пра жывёлу). *Збутурёный скот удваіх як-небудзь удзержым, ато б маглі каровы разьбежца.* 2. Суняты (пра боль). *Пуд грудзямі каторый год зырізаіць, во хвачу івірьянкі — кажыцца, збутурён боль, а ціряс сколька ўремя узноў пычынаіцца тоя самыя.* ЗБУТАРОМШЫ *дзеепрысл.* 1. Сагнаўшы ў адно месца (пра жывёлу). *Збутурёмшы ў ваду, пыстыяць, там іх вадні ні так режуць.* 2. Суняўшы (боль). *Збутурёмшы боль, цярьпець можна.*

ЗБЫВАННЕ *н.* Продаж, збаўленне. *Збуваць нятрудна, а што ж посьлі збува́ньня, рук не к чыму прічаліць.*

ЗБЫВАЦЬ *незак.* Праводзіць пэўны час. *Трудна доўга збува́ць у такім тлумі.*

ЗБЫТ *м.* Спакой. *Якей ты хочыш збыт найціць з малымі, яны і пішчаць, і крічаць, і б'юцца, і чаго тольска ні вытвыряюць.*

ЗБЯГАЦЦА *незак. перан.* Зморшчвацца ад цяпла (пра скураны выраб). *Кожынный вобуў у гырячым зьбіга́іцца.*

ЗБЯНТЭЖЫВАННЕ, ЗБЯНЦЕЖЫВАННЕ *н.* Пялегаванне, песты. *Зьбянтэжывыньня ды дыбра ні разу ні дывадзіла, тады яны вырыстаюць балыўнікі, неслухі. Пыглядзіш, што такоя зьбяньцежывыньня бокым табе самой вылізіць.*

ЗБЯНТЭЖЫВАЦЬ, ЗБЯНЦЕЖЫВАЦЬ *незак.* Пялегаваць, песціць. *Зьбянтэжывыіця вы малых, яй-богу зьбянтэжывыіця, неслухымі вырыстуць. Цьвёрда запомні і зурубі сабе ны насу: нілізя дзіцёнка зьбяньцежывыць, к пырядку прівучай.* ЗБЯНТЭЖЫВАЦЦА, ЗБЯНЦЕЖЫВАЦЦА *незак.* Спешчвацца. *Чаму ж ня будзіць зьбянтэжывыцца, кылі нянік кругом ні піріщчытаць. Кылі змалку зьбяньцежыіцца, то пыдрасьцець — толку ні дыжыдай.* ЗБЯНТЭЖЫЦЬ, ЗБЯНЦЕЖЫЦЬ *зак.* Спесціць. *Зьбянтэжыла свайго мальца, ліжаць мінуткі ня хочыць, цігай яго ну руках, з рук ні спускай. Во так зьбяньцежыш і будзіш гурюваць, ён цябе разу слухыць ні станіць.* ЗБЯНТЭЖЫЦЦА, ЗБЯНЦЕЖЫЦЦА *зак.* Спесціцца. *З ма́льства зьбянтэжыліся, цяперя пыдрасьлі — і толку німа ніякыга. Айдзе ж ні зьбяньцежыцца, калі вы трісіцёся над ім: каб ня піснуў, каб ні каўкнуў, каб ні раскрыўся.* ЗБЯНТЭЖАНЫЙ, ЗБЯНЦЕЖАНЫЙ *дзеепрым. Я зразу віджу, што зьбянтэжыныя дзеці, рызбалывыныя. Зьбяньцежыных трудна пірідукуваць, луччы зразу дзяржы у руках.*

ЗВАЦЦА *незак.* Клікацца, запрашацца. *Яны зва́ліся ў госьці, ды йиіць ні зыхацелі, ай, гаворюць, пойдзіш, а тады паўзі нызад упацёмкых.*

ЗВЕЗЦЬ *зак. перан.* 1. Ударыць. *Як зьвязець Аўдзяёнык палкыю, тады ты паадурюваіш.* 2. Прыняць адказнасць. *Глядзі, ны цябе ускладуць, і ты зьвязеш. Кралі ўмесьці, а зьвёз адзін.*

ЗВЕРАВІТЫЙ *прым.* Жорсткі, звераваты. *Пустушонык быў зьвірявітый чылавек, надж жонкыю пряма зьдзіваўся.*

ЗВОДЖЫВАННЕ, ЗВАДЖЫВАННЕ *н.* 1. Звядзенне (у адно месца). *Многія дужа гурювалі посьлі зводжывыньня скыта: як ета біш шарсьціны астацца, пустэй двор. Я нібальшэй быў, ну зва́джывыньня хырашо помню.* 2 *перан.* Вывядзенне (барадавак). *Зводжывыньня каму пымыгаіць, а каму не, буваіць, зводзюць, зводзюць, а бырыдаўкі астаюцца. Посьлі зва́джывыньня як рузбрюсянелыся ліцо, лячыў ён, лячыў, ды лячыць большы некуды.* 3 *перан.* Давядзенне да сваркі. *Нікрасівыя ета дзела — зводжывыньня, каб грызьліся. Такей пастылый чылавек, зва́джывыньня яму дужа ныравіцца.*

ЗВОДЖЫВАЦЬ, ЗВАДЖЫВАЦЬ *незак.* 1. Зводзіць (у адно месца). *У нас тожа зводжывылі скот уместа,*

*ну ні так доўга стыяў, скора рызыбралі. Ета ны нашый паміці було, як кароў зва́джывылі у адну пуню к Высілёвым.* 2 *перан.* Выводзіць (барадаўкі). *Некытырыя умеюць бырыдаўкі зводжывыць. Ці помніш, як табе бырыдаўкі зва́джывылі.* 3 *перан.* Даводзіць да сваркі. *Нашто вам зводжывыць людзей ды ніпріятнысьці. Ахотычка зва́джывыць людзей ну дурноя дзела, Ганна с Просію сварюцца нізавошта.* 4 *перан.* Красці (жывёлу). *У нас і посьлі вайны зводжывылі кароў пы нычах. Німала дураты і ў тоя ўремя тварілыся, коні с тубуна зва́джывылі ўноччы, дайжа жалезы пірірізалі.* ЗВОДЖЫВАЦЦА, ЗВАДЖЫВАЦЦА *незак.* 1. Зводзіць (у адно месца). *Былі пычалі зводжывыцца у Яхімыву пуню, а тады пірісталі. Ці помніш, як у тріццатым гаду зва́джывыліся сы скатом?* 2. Выводзіцца (пра барадаўкі). *Зь якога цела бырыдаўкі лёхка зводжывыюцца, а зь якога саўсім не. Як чым мажыш, былячкі скарей зва́джывыюцца.* ЗВАДЗІЦЬ *незак. перан.* Падводзіць. *Сколька раз ён мяне звадзіў: ізыком лах, лах і ня зьдзелыіць.* ЗВАДЗІЦЦА *незак. перан.* Сходзіцца разам. *Ножкі у тубуреціку зводзюцца, ны яго нілізя садзіцца.* ЗВЕСЦЬ *зак.* Падвесці. *Мутруноўна мяне зьвіла сёліта: скызала, што возьміць цёлычку, а тады нызад.* ЗВЕСЦА *зак.* Сысціся разам. *Вун як ножкі ў скамеічкі зьвялісь, іна дужа старінькыя.*

ЗВЫКАННЕ *н.* Прывыканне. *Атвучывый адз звыка́ньня с тубуна прібігаць, іначы места зь ёю ні найдзіш.*

ЗВЯГЛЫЙ *прым.* 1. Звяглівы. *Зьвя́глый сыбачка, як уесца, зы дзярэўню будзіць усьлед бежч.* 2 *перан.* Галасісты. *Іхный сыбачонка быў такей харошый, зьвя́глый,— пупаў пыд машыну.* 3 *перан. неадабр.* Крыклівы. *Такея зьвяглыя бабы пыіскаць ды пыіскаць нада. Памянш.* ЗВЯГЛЕНЬКІЙ. 1. Звяглівы. *Ета ў Міронывых была дужа зьвя́глінькыя сучычка, бувала, на ўсю дзярэўню іна адна чутна.* 2. Галасісты. *Ого, зьвя́глінькій шчанок!* 3. Крыклівы. *Канешня, іна харошыя, луччы некуды, трошку зьвя́глінькыя, дык што ты зьдзелыіш.*

ЗВЯЗДЖЭННЕ, ЗВЯЗДЗЯЧАННЕ *н. метаф.* Біццё без жалю. *Не, ніхай ня грозіць зьвяжджэньнім, ніхай луччы свае зубы пыбірягець. Ня дужа хто баіцца іхныга зьвізьдзя́чыньня, ня дужа каму яны страшны.*

ЗВЯЗДЗІЦЬ, ЗВЯЗДЗЯЧЫЦЬ *незак. метаф.* Біць без жалю. *Айдзе яго толька ні зьвязьдзілі,— ну што ты хочыш, кылі гылавы ны плічах німа. Іду я, чую нейкій*

*крік, а ета вашы мальцы зьвізьдзячуць Пытапёнычка, ён аддуваіцца.* ЗВЕЗДАНУЦЬ *зак.* Ударыць без жалю. *Пацскочыць другей раз іс сваім нізыбарсывыным ізыком, дык яго зьвізданўць хырашэнька.* ЗВЕЗДАНУЦЦА *зак.* Ударыцца моцна. *Ні замеціў стыўбічка, як зьвізданецца, чуць ны ныгах устоіў.* ЗВЯЗДЖОНЫЙ, ЗВЯЗДЗЯЧАНЫЙ, ЗВЕЗДАНУТЫЙ *дзеепрым. Што пры яго тулкуваць, ці ён адзін раз зьвяжджоный. Пойдзіць і сяньня зьвізьдзячыный, так ні абойдзіцца. Улез ні ў сваё дзела і ацскачыў зьвізданўтый.*

ЗВЯРГАННЕ *н.* Дачаснае пазбаўленне ад цяжарнасці (пра жывёлу). *Маёй карові зьвірьгáньня дужа пыўліяла, пычыла балець, сохнуць, і мы яе здалі.*

ЗВЯРГАЦЬ *незак. перан.* Абарціраваць (пра жывёлу). *Наша гнядзенькыя кабылка, помню, два разы зьвірьгáла.* ЗВЕРГНУЦЬ *зак.* Абарціраваць (пра жывёлу). *Жаребныю кабылу зыпрігай, ды бойся, каб ні ўзлажыць цяжола, каб ня зьвергла.* ЗВЯРГНУЦЬ *зак.* 1. Звергнуць. *А ён усё-тыкі зьвярьгнўў етых хвыбрікантыў, яны ж сваіх грошы ні знали.* 2. Абарціраваць (пра жывёлу). *Етый дурукуватый пабіў карову, іна й зьвярьгнўла.*

ЗГАЛДАМАЧЫВАННЕ *н.* Марнатраўства. *Прі таком згылдымáчывыньні на сьвеці ні прыжывеш, будзіш цігацца як старіц і голым задым сьвяціць.*

ЗГАЛДАМАЧЫВАЦЬ *незак.* Марнатравіць. *Відзіш, як новый хызяін згылдымáчывыіць, што бацька з маткыю гыдамі ныжывалі.* ЗГАЛДАМАЧЫВАЦЦА *незак.* Марнатравіцца. *Як пойдзіць згылдымáчывыцца, дык яно адно зу другоя чыпляіцца і чыпляіцца.* ЗГАЛДАМАЧЫЦЬ *зак.* Змарнатравіць. *Каб ны разумныга чылавека, тут ба жыць ды жыць, а етый ветріньнік згылдымáчыў бацькыва быгаства зы паўгода.* ЗГАЛДАМАЧЫЦЦА *зак.* Змарнатравіцца. *Ня ўмелі жыць як нада, усяго було ныvalым і ўсё прахым пашло, згылдымáчылыся.* ЗГАЛДАМАЧАНЫЙ *дзеепрым. Мы думылі, у іх хуць што-небудзь зацэліла, дык айдзе там, усё згылдымáчына.*

ЗГАРАВАЦЦА *зак.* Дайсці ў горы да апошняй мяжы. *Ні хыця згарюіцца, як адна ў хаці астáніцца.*

ЗГАРЖАМЫЗДЗІЦЬ *зак. іран.* Навучыць. *Як ты яго згыржамызьдзіш, кылі ў гылаве веціp веіць.* ЗГАРЖАМЫЗДЗІЦЦА *зак.* Навучыцца. *Каб чаму добрыму, а ґ бутылычкі пріклaдывыцца згыржамызьдзіўся.* ЗГАР-

ЖАМЫЗДЖАНЫЙ *дзеепрым. Згыржамы́жджыный явіўся, рузбурчэўся на Верычку.*

ЗГАРНІЗОВЫВАННЕ *н.* Арганізаванасць. *У Лешчынкі гырнізовыный народ, а ў нас ніякыга згырнізовывыньня ні було.*

ЗГАРНІЗОВЫВАЦЬ *незак.* Арганізоўваць. *Міхалка ўмеў згырнізовывыць людзей, бувала, на што хочыш скалоціць кынпанію.* ЗГАРНІЗОВЫВАЦЦА *незак.* Арганізоўвацца. *Ці помніш, як нашы шлэпырі сталі згырнізовывыцца у камуну, Высілёвы вокыркі паелі, а тады: дывайця есьць кажный сваё.* ЗГАРНІЗАВАЦЬ *зак.* Арганізаваць. *Ны ўсякыю вудычку пыддаюцца, іх на што хочыш згырнізува́ць — плёвыя дзела.* ЗГАРНІЗАВАЦЦА *зак.* Арганізавацца. *Згырнізу́йціся удзьвюх, утрёх і выткіця пы пасьцілкі.* ЗГАРНІЗАВАНЫЙ, ЗГАРНІЗОВАНЫЙ *дзеепрым. Айдзе згырнізува́ныя людзі, там усігда пырядку большы, кучыю скарей што хочыш ацстоюць. У іх дзяреўні згырнізовыный народ, а ў нас кажный у сваё балота цягніць.*

ЗГАРНЫВАННЕ, ЗГОРНЫВАННЕ *н.* Згортванне. *Мне такоя зга́рнывыньня ні ныравіцца, гарні як нада. Посьлі згорнывыньня пыдмітаюць чысьцінька мяцёлкыю.*

ЗГАРЧЭЛЫЙ *прым.* Прагорклы. *Згарчэлыя масла ніхто есьць ня будзіць, выкідай у шаічку.*

ЗГАРЫВАЦЬ *незак.* Згараць. *У печы ўсё зга́рівыіць, што ня ўкініш, і косьці рыссыпаюцца.*

ЗГЛАМАЗДАЧЫВАННЕ, ЗГЛАМАЗДЗЯЧЫВАННЕ *н. эмац.* Няўмелая работа, звыч. пляценне. *Якей масьцір, такоя й зглымызда́чывыньня, шчэпкі ў карзінкі трошку дзіржацца. Ты, верна, есьць зыхацеў посьлі зглымызьдзя́чывыньня.*

ЗГЛАМАЗДАЧЫВАЦЬ, ЗГЛАМАЗДЗЯЧЫВАЦЬ *незак. эмац.* Няўмела рабіць, звыч. плесці. *Ён быў масьцір, зглымызда́чывыў карзінкі, што ў рукі нілізя було ўзяць. Ня ўмеіш дзелыць, дык саўсім ні бяріся, а ірунду нечыга зглымызьдзя́чывыць.* ЗГЛАМАЗДАЧЫВАЦЦА, ЗГЛАМАЗДЗЯЧЫВАЦЦА *незак.* Няўмела рабіцца, звыч. плесціся. *Што ў цябе тута зглымызда́чывыіцца, пыкажы. Сядзіць, кулупаіцца, нешта ў яго зглымызьдзя́чывыіцца.* ЗГЛАМАЗДАЧЫЦЬ, ЗГЛАМАЗДЗЯЧЫЦЬ *зак.* Няўмела зрабіць, звыч. сплесці. *Умеіць ці ня ўмеіць, а пару карзінык зглымызда́чыў, бульба ні высыпаіцца. Можа ты і мне карзінку зглымызьдзя́чыш,—*

*я дырма ні хачу, я б табе зыплаціла.* ЗГЛАМАЗДАЧЫЦЦА, ЗГЛАМАЗДЗЯЧЫЦЦА *зак.* Няўмела зрабіцца, звыч. сплесціся. *А глянь-ка ты, і ў Лыўрінка нейкыя кашолка зглымыздáчылыся. Ці зглымызьдзя́чыцца ў цябе тута што-небудзь?* ЗГЛАМАЗДАЧАНЫЙ, ЗГЛАМАЗДЗЯЧАНЫЙ *дзеепрым. Ета ж у Івана такей задок зглымыздáчын, ны яго абапресься, ён і рызваліцца. Толька што зглымызьдзя́чына, ні карзіна, а ніізьвесна што.*

ЗГЛЕДЖАНЫЙ *дзеепрым.* Заўважаны. *Хвалілыся: ні прупушчу, згледжу,— зудурілыся, ён прайшоў, во табе й згледжыный, лаві цяперь ветра ў полі.*

ЗГРОХАЦЬ *зак. перан.* Узвесці вялікі будынак. *Згрохылі дамюгу, што і сынам будзіць, і ўнукым астаніцца.* ЗГРОХАЦЦА *зак.* Узвесціся (пра вялікі будынак). *Віджу, што ў вас такей дом згрохыіцца, як ні ў кога німа.* ЗГРОХАНЫЙ *дзеепрым. Тама столька згрохына, што зублудзіцца можна.*

ЗГРЫБІЦЬ *зак. метаф.* Сагнуць, скурчыць. *Антона скруціла, згрібіла, крюкым чуць ходзіць.* ЗГРЫБІЦЦА *зак.* Сагнуцца, скурчыцца. *Ужо і Аўгінка згрібілыся, а ці даўно гогылім хадзіла.* ЗГРЫБЛЕНЫЙ *дзеепрым. Ні хыця будзіш згрібліный, пражыўшы такей век.*

ЗГУНІВАЦЬ *незак.* Ганьбіць. *Што ты ўсіх згýнівыіш, няўжэлі ні днаго чылавека пытхыдзяшчыга німа ува ўсёй дзяреўні.* ЗГУНІВАЦЦА *незак.* Ганьбіцца. *У вас усе згýнівыюцца, усе дренныя, адны толька вы хырашы із вашыю раднёю.* ЗГУНІЦЦА *зак.* Зганьбіцца. *Ну ніхай ён яшчэ згýніцца ў Шаўцовых ці айдзе, я ні пайду плакыць па ём.*

ЗДАВАННЕ *н.* Здань. *Што вы трілюдзіця: здаецца, здаецца,— дзіцёнка толька пужаіця етым здывáньнім.*

ЗДАЛІ *прысл.* Здалёк. *Здалі ня відна було, хто тама кыпаіцца, ета як пыдыйшлі, пызналі Лявончыка. Памянш.-ласк.* ЗДАЛЯЧКА. *Анька здылічкá пыглядывыла ны гасьцей.*

ЗДАРАВІЛІШЧА *м. павеліч.* Здаравяка. *Полькіна дычка прівазіла зяця: здыравілішча мужык і ны пыгляд нічога.*

ЗДАРАЎЧУК *м. эмац.* Фізічна здаровы чалавек. *Усё ўремя быў хýдзінічкій, дробнінькій, а цяперя вун якей здыраўчýк зьдзелыўся.*

ЗДАСАДЫВАЦЦА, ЗДАСАДЗІЦЦА *зак.* Згаравацца. *Дужа Ксеньня здысáдывылыся, сыма ні прідумыіць,*

*куды кінуцца. Чаго ты етык здысáдзілыся, можа ўсё ішчэ хырашо абойдзіцца.*

ЗДЗЕЛЬНА *прысл. перан.* Умела. *Луччы яе ніхто ня ўмеў кросны нырядзіць, так зьдзельна ў яе пулучалыся, што куды там.*

ЗДЗЕЛЬНАСЦЬ *ж. перан.* Уменне. *Каб ім тыкая зьдзельнысьць, як Антончыкывых мальцыў, на што ні ўзглянуць, січас поймуць і зьдзелыюць.*

ЗДЗЕЛЬНЫЙ *прым. перан.* Умелы. *Анталена была зьдзельныя, харошыя, яе ніхто ня гуніў. Памяниш.* ЗДЗЕЛЬНЕНЬКІЙ. *У Алены зьдзельнінькія дзяўчонкі пыдрыстаюць, ужо січас ёй помышч пырядышныя.*

ЗДЗЕРЖЫВАЦЬ, ЗДЗЕРЖЫВАЦЦА *незак.* Стрымліваць, стрымліваццa (пра надвор'е). *Як дальшы будзіць, хто яго знаіць, а пакуля што пагода зьдзержывыіць. Хырашо, што надворья зьдзержывылыся, пасьпелі людзі ўсё пріпырядзіць, а каб ні пагода, многа пыгніло б.* ЗДЗЯРЖАЦЬ, ЗДЗЯРЖАЦЦА *зак.* Стрымаць, стрымацца (пра надвор'е). *Ету нядзелю зьдзіржáла, і людзі ладна пудуправіліся, а як дальшы будзіць, ніізьвесна. Калі етыя дні зьдзяржы́цца, мы пасьпеім усё сена зустугуваць.*

ЗДЗЯВАННЕ *н.* Здзек. *Ні знаю, чаго іна цярьпіць такоя зьдзівáньня, я б нізашто ні цярьпела.*

ЗДЗЯВАННІК I *м.* Той, хто знімае адзенне. *Пымагі яму, ато етый зьдзівáньнік парьвець рубашку.* ЗДЗЯВАННІЦА I *ж. Запутылыся зьдзівáньніца у рукáвых, ніяк ня выпутыіцца.*

ЗДЗЯВАННІК II, ЗДЗЯВАЦЕЛЬ, ЗДЗЯВАЦЕЛЬНІК, ЗДЗЯКАЦЕЛЬНІК *м.* Той, хто здзекуецца. *Пастылый чылавек быў, зьдзівáньнік, што ныцярьпелыся ат яго Мыланка. Хвытала зьдзівáцілію усігда, пу людзях езьдзілі. Ляксей зьдзівáцільнік быў, кучыю гыняў дзірявенцыў у паліцыю. Каб мы зналі, што ён такей зьдзікáцільнік, мы б зь ім дайжа рызгыварівыць ні сталі.* ЗДЗЯВАННІЦА II, ЗДЗЯВАЦЕЛЬКА, ЗДЗЯВАЦЕЛЬНІЦА, ЗДЗЯКАЦЕЛЬНІЦА *ж. Мы знаім, ікая іна зьдзівáньніца, матка ат яе горькімі сьлізамі плакыла. Ты ныстыяшчыя зьдзівáцілька, сястру усю абыбрала, галым галюткыю кінула. Ні хачу я ізь зьдзівáцільніцыю і рызгыварівыць, іна матку голыдым зымаріла. Дауно людзі гыварілі, што іна зь нявесткыю дзелыіць,— во зьдзікáцільніца!*

ЗДЗЯЎБУЛІВАННЕ *н. эмац.* Няўмелае збіванне,

ссяканне. *Ці станіць тапор сеч посьлі твайго зьдзяўбўлівыньня?*

ЗДЗЯЎБУЛІВАЦЬ *незак. эмац.* Няўмела збіваць, ссякаць. *Трошку зьдзяўбўлівыіць лёд, ніхай пыдзяўбець, луччы прайціць будзіць.* ЗДЗЯЎБУЛІВАЦЦА *незак.* Няўмела збівацца, ссякацца. *Нешта ня дужа лоўка суччa ў цябе зьдзяўбўлівыіцца.* ЗДЗЯЎБУЛІЦЬ *зак.* Няўмела збіць, ссячы. *Зьдзяўбўль етый лёд, тут сані ня ўзьедуць.* ЗДЗЯЎБУЛІЦЦА *зак.* Няўмела збіцца, ссячыся. *Як зьдзяўбўліцца, так і ладна, некылі крысату ныvадзіць.* ЗДЗЯЎБУЛЕНЫЙ *дзеепрым.* *Усё зьдзяўбўліныя адгарні ґ боку, каб пыд ныгамі ні мішала.*

ЗДОР *м.* Супярэчнасць, раздор, разлад. *У іх пашло здор на здор, цяперя ні рызгыварівыюць, дайжа ны дарогі апходзюць адзін аднаго.*

ЗДРЭНЧЫЦЬ *зак. груб.* Штурхнуць на неспакойныя паводзіны. *Вот нешта ж здрэнчыла, нійдзе места сабе ні находзіць.* ЗДРЭНЧЫЦЦА *зак.* Пачаць весці сябе неспакойна. *Цьвёрда ні знаю, ну прітпылыгаю, што здрэнчыўся ён із-за Юстынывыя дачкі.*

ЗДЫХАЦІНА *м.* і *ж.* Хілая, слабая асоба, жывёліна. *Ходзіць здыхаціна, усё ў яго нешта нідылігаіць. Якей зь естыя здыхаціны работнік, яе сымаю карміць нада. Павеліч.* ЗДЫХАЦІНІШЧА. *Раз удаўся здыхацінішча, нічога яму ні паможыць, ні лікарствы, ні дыктары. Я б такую здыхацінішчу ні дзіржала, можа ў яе зыраза ікая, з мылаком і к чылавеку пярёйдзіць.*

ЗДЫХАЧ *м.* Хілы, слабы чалавек. *Якея работы адз здыхычá хацець, ён чуць ногі пы зямле пірістыўляіць.* ЗДЫХАЧКА *ж.* *Во ўсё гыварілі: здыхáчка, здыхáчка, а йна мужука вун на сколька піріжыла і ўсё пірьхаючы ходзіць.*

ЗЕЛЛІКА *н. памянш.* Зелле. *Зельліка сыбярі і ўкінь пырысятым, яны пычануць пароцца і ўспакоюцца.*

ЗЕЛЯНЕННЫЙ, ЗЕЛЯНЮШЧЫЙ *прым.* Вельмі зялёны. *Ліцо ня жоўтыя, а нейкыя зіляненныя, сам чуць стаіць,— во зяць, два гады пажыў. У немцыў быў такей зілянюшчый цьвет нікрысівенный, як гляніць ны цябе — як зьверь.*

З-З-З *выкл.* Выгук для заахвочвання кароў, цялят да зыку. *Ета кароў у жару пыдрыжняюць, каб яны зыкылі: з-з-з...*

ЗЗЯБШЫЙ *дзеепрым.* Ззяблы. *Ніхай ныдзіваіцца*

*як людзі, кылі зьзябшый ляціць, ці яго угыварівыць нада.*

ЗІМАВЭЙ *прым.* Зімовы, прызначаны для зімы. *Адна яблына ў мяне ёсьць — зімавэя яблыкі. Скырасьпелка — ні зімывая бульба.*

ЗІМІШЧА *ж. павеліч.* Зіма. *Зімішча як ныстаніць, і прець, і нясець, і гудзець, сьнегу аччышчаць сілы ні ныбяресься.*

ЗІМНАСЦЬ *ж.* Халадэча. *Ета табе ні вісна, зімнысьць зразу чуствыіцца ны дваре.*

ЗІМНІНА *ж.* Сабранае ў пост малако. *Кароў — табун, піліпыўкі — посныя, пост — посныя, мылыка зьбіраюць, у погріб у бочкі зьліваюць,— зімніна звалыся.* *Памянш.* ЗІМНІНКА. *У пост мылыка ні даюць есьць, а нам так хочыцца зімнінкі папробывыць.*

ЗЛАБІЦЕЛЬ, ЗЛАБІЦЕЛЬНІК *м.* Злосны, злы чалавек. *Мы зналі, што ў яго паршывый хракцір, ну што ён такей злабіціль, падумыць дайжа ні маглі. Другога такога злабіцільніка я ні знаю, як Васіль, ён ба, кажыцца, увесь сьвет паеў.* ЗЛАБІЦЕЛЬКА, ЗЛАБІЦЕЛЬНІЦА *ж. Ікая ж іна злабіцілька, гатова паесьць етых дзяцей жыўцом. Ціряж жызьню злабіцільніцыю стала, дужа ёй ува ўсім увы ўсякім ні вязло.*

ЗЛАД *м.* Лад, разуменне. *Трудна з дураком злад іскаць. Каб злад, яны б жылі нічога.*

ЗЛАДЗЮГАНКА *ж.* Зладзейка. *Злудзюга́нка ты, я ж цябе жывую у пуні злавіла, а цяперя ты атнекыісься.*

ЗЛАЎЛІВАЦЬ, ЗЛОЎЛІВАЦЬ *незак.* Лавіць. *Мыя кошка дужа дыбрячыя, лоўка зла́ўлівыіць мышэй. Ты ніплахей масьцір злоўлівыць ціплят.* ЗЛАЎЛІВАЦЦА, ЗЛОЎЛІВАЦЦА *незак.* Лавіцца. *Ня хочыць конь табе зла́ўлівыцца, знаіць, што у плуг зыпрягеш. У нас карзінкыю гулубцы злоўлівыліся: сыпылі зірнят, наснуджывылі карзінку ны палычкі і цягнулі зы вярёўку.* ЗЛАВІЦЬ *зак. перан.* Атрымаць удар. *З намі ты дурачысься, дык ладна, а ў таго скора зловіш.*

ЗЛАХМАЦІЦЦА *зак.* Зрабіцца лахматым. *Злыхма́цілыся твыя куртычка, сплюгавілыся, яе дайжа нялоўка ныдзівацць на людзі.*

ЗЛЕННЫЙ *прым.* Вельмі злы. *Такея зьленныя абоя, як зойдуцца, самі сябе ня помнюць.*

ЗЛЕЧЫВАЦЦА *незак.* Крыху саграваццa, станавіцца летняй (пра ваду). *Прінясі вядро, ніхай стаіць на сонцы, зьлечывыіцца, аппыласнуцца будзіць.*

ЗЛІТОВЫВАЦЦА *незак.* Злежвацца ў адно цэлае. *Ляжыць соль у сырым, дык зьлітовывыіцца, нада тыпаром усьсікаць.*

ЗЛО *прысл. перан.* Энергічна. *Каб так зло ні работыў, ён ба сто гадоў жыў.*

ЗЛОМ *м. метаф.* Гібель, напасць. *Во нада злом ны чылавека, адурей саўсім. Яй-богу, мальцы, на злом вас носіць, ні ґ дабру.*

ЗЛОМАК *м. асудж.* Гультай. *Разьві такей зломык захочыць паможч, яго нічога ні зыставіш зьдзелыць.*

ЗЛУПАШЫВАННЕ *н.* Лупцоўка. *Ня дужа яны быяцца твайго злупа́шывыньня, ці ты іх зловіш, ці што.*

ЗЛУПАШЫВАЦЬ *незак.* Хвастаць. *Што ты сьмяесься, ці мы ні знаім, як раншы матка цябе злупа́шывыла.*

ЗЛУПЕЧЫЦЬ *зак. эмац.* 1. Адхвастаць. *Ну каб пупаў каторыга ны стажку, я б яго злупечыў чышчы некуды.* 2. Узяць вельмі дорага. *Ны пыгляд і пацьцёлычык німудренькій, а зь Ніканёнка злупечылі як зы карову.* ЗЛУПЕЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Адхвастаны. *Злупечыный вырвыўся, нягож якей.* 2. Узяты вельмі дорага. *Ня можыць быць, штоб столька злупечына зы старыю кыравёнку.*

ЗЛЫДНОТА, ЗЛЫДОТА *ж.* Беднякі. *Уся злыднота жыла ў том канцы. Злыдота права пулучыла, вірядуіць дзяреўнію.*

ЗЛЮБІЦЬ *зак.* Упадабаць. *Крепка ён майго зьлюбіў, гаворіць: такей спрывядлівый чылавек.*

ЗМАТАЛЫЖЫЦЬ, ЗМАТАЛЫЖНІЧАЦЬ *зак. неадабр.* Збіць з дарогі. *Змыталы́жыў дзяўчонку, іна думыла ґ дзядзьку паехыць, а цяперя ні туды ні сюды. Я павёў ба карову ны бызар і прыдаў, а Мітрыхванёнык мяне змыталы́жнічыў.* ЗМАТАЛЫЖАНЫЙ *дзеепрым.* *Ён змыталы́жыный, ні знаіць, куды кінуцца.*

ЗМУЛІЦЦА *зак.* Нацерціся, сцерціся. *Суконычка пыдвярнулыся, дык ныга змýлілыся, ступіць больна.* ЗМУЛЕНЫЙ *дзеепрым.* *Я ж віджу, што ў цябе пальцы змýліныя.*

ЗМЫЛІНЫ *мн.* Мыльная вада. *Змы́ліны пад ногі ня лі, атнясі дальшы ды пыт пляцень выль.*

ЗМЫЦЕЛ *м., часц. мн.* змытлы. Намер. *Даўно мы пра іхныя змы́тлы чулі. Ніхай яны іс сваімі змы́тлымі схуваюцца.*

ЗМЯЖДЖУРЫВАННЕ *н.* Расцісканне. *Кылі раншы*

*табе ні пупала зы зьмяжджу́рівыньня, дык ладна можыць уляцець.*

ЗМЯЖДЖУРЫВАЦЬ *незак.* Расціскаць, мясіць. *Пірістань пріснок зьмяжджу́рівыць, хто яго посьлі будзіць есьць.* ЗМЯЖДЖУРЫВАЦЦА *незак.* Расціскацца, мясіцца. *Я шчупнула: нешта ў тваёй кашолычкі зьмяжджу́рівыіцца.* ЗМЯЖДЖУРЫЦЬ *зак.* Расціснуць, змясіць. *Ны пымідоры лёг ны калёсых, зьмяжджу́ріў іх, аж пыцяклі ны зямлю.* ЗМЯЖДЖУРЫЦЦА *зак.* Расціснуцца, змясіцца. *У тваім вузялку усё зьмяжджу́рілыся.* ЗМЯЖДЖУРАНЫЙ *дзеепрым. Такоя зьмяжджу́ріныя ніхто есьць ні станіць, нясі усё ў шайку.*

ЗМЯЗДРАЧЫВАННЕ *н.* Расцісканне. *Ну я табе дам зы такоя зьміздря́чывыньня, нашто йта етык балывыцца с прісныкамі.*

ЗМЯЗДРАЧЫВАЦЬ *незак.* Мясіць, расціскаць. *Ні зьміздря́чывый батоны, яны ішчэ цёплыя, ты зь іх ніізьвесна што зьдзелыіш.* ЗМЯЗДРАЧЫВАЦЦА *незак.* Мясіцца, расціскацца. *Нашто ты пхнеш у карзінку, там жа бліны, яны зьміздря́чывыюцца.* ЗМЯЗДРАЧЫЦЬ *зак.* Змясіць, расціснуць. *Ны тарелкі галычкі ліжалі, а ён бах булку хлеба, тарелка тыкі цэла, а бульбу зьміздря́чыў.* ЗМЯЗДРАЧЫЦЦА *зак.* Змясіцца, расціснуцца. *Ніхто іх есьць ня будзіць, етыя ладкі, яны зьміздря́чыліся у адзін камок.* ЗМЯЗДРАЧАНЫЙ *дзеепрым. Усе булкі цэлы, а адна рыздаўлініыя, зьміздря́чыныя, яе пырысятым толька пыкрышыць.*

ЗМЯНЯЦЦА *незак. перан.* Абыходзіцца. *А во ні хвытаіць гаршчонычка ці чугунка, я ўжо і так, і етык зьміня́юся.* ЗМЯНІЦЦА *зак.* Абысціся. *Нада було б пашыць пару мяшочыкаў, тады луччы було б зьмяніцца і на мельніцу звазіць.*

ЗМЯШЫВАЦЬ *незак.* Мясіць, вымешваць. *Гліну нада хырашо зьмя́шывыць, тады іна будзіць дзіржацца.* ЗМЯШЫВАЦЦА *незак.* Мясіцца, вымешвацца. *Як гліна зьмя́шывыіцца зь мякінью, тады луччы дзяржыцца ны сьцяне.*

ЗНАХАРЫХА *ж.* Знахарка. *Хадзіла ґ зна́хыріхі, вады прінасіла, ай, нічога ні пымыгаіць, калі халера ўелыся ў косьці, яе тады нічым ня выгыніш.*

ЗНАШЫВАННЕ, ЗНОШЫВАННЕ *н.* Прыношванне ў адно месца. *Полька доўга глядзела на іхныя зна́шывыньня, усё дзівілыся. Во кончуць зношывыньня, тады яны сюда падойдуць.*

ЗНАШЫВАЦЬ, ЗНОШЫВАЦЬ *незак.* 1. Зносіць у адно месца. *Выбіралі арешнік пы ўсяму лесу, а тады дывай у кучу зна́шывыць. Лён да цёмныга зношывылі, хацелі кончыць, каб заўтря ня йціць.* 2 *перан.* Выносіць выкраданнем (звыч. агарод, сад). *Ні прідумыіш, ікая балыўныя бысытва́, усё з гарода зна́шывыюць. Ладныя жэўжыкі, садок Арьхіпёнкыў зношывылі.* ЗНАШЫВАЦЦА, ЗНОШЫВАЦЦА *незак.* Зносіцца ў адно месца. *Машка ліжала дзьве нядзелі, дык зна́шывыліся і кармілі. Зношывыюцца ў кучу і ўмесьці сыдзяцца абедыць.* ЗНАСІЦЬ *незак.* Выносіць выкраданнем (звыч. агарод, сад). *Сколька гадоў пыдряд знасілі гароды, дужа былі гадкія мальцы.* ЗНАШЫВАНЫЙ, ЗНОШЫВАНЫЙ *дзеепрым.* Знесены ў адно месца. *Ці ета зна́шывына пышаніца, каб снапкі ні зунучвалі пыд дажджом. Зношывыныя скорінька ўськініш на воз.*

ЗНЕЛЮДЗЕЛЫЙ, ЗНЕЛЮДЗЕЎШЫЙ *дзеепрым.* Нелюдзімы. *С такою, як ты, пажыўшы, ні хыця зьнілюдзелым станіш, ты дывядзеш. Ты б сам папробывыў с такім зьнілюдзеўшым пыгывaріць.*

ЗНІБКА *м.* і *ж. памянш.* Хныкала, ныцік. *Ай, зьнібкі дзяўчонычкі, усё ім нешта нідылігаіць.*

ЗНІСТОЖЫВАННЕ *н.* Знішчэнне. *Як пычало йціць зьністожывыньня, так яно йдзець і йдзець.*

ЗНІСТОЖЫВАЦЬ *незак.* Знішчаць. *Як ні зьністожывыю асот, ён усё дно лезіць і лезіць.* ЗНІСТОЖЫВАЦЦА *незак.* Знішчацца. *Зьністожывыюцца дзярейні, пусьцеюць, работыць некыму.*

ЗНОСАЧАК *м. памянш.* Зносак (яйка). *Два зносычкі ліжала ў гнязьдзе, адзін рябінькія курычкі, а другей хто яго знаіць, аткуля ўзяўся.*

ЗНЯХАІЦЬ *зак.* Затузаць, забіць. *Тыкая злаўредныя баба, каго хочыш зьніха́іць.* ЗНЯХАЕНЫЙ *дзеепрым.* *Ёй адзін раз ні ўладзь ступіць, як іна хочыць, і будзіш зьніха́іный.*

ЗНЯЦЯЙ, ЗНЯЦЯЙКУ *прысл.* Знячэўку. *Ён ны мяне зьніця́й наткнуўся, дык ажно спужайся. Зьніця́йку прыг із-зу куста, Ліксандра во так здріганyўся.*

ЗРАДЗІЦЬ *зак.* Урадзіць. *Бульба зрадзіла як каменьня, толька спруўляйся карзінкі атнасі.* ЗРАДЗІЦЦА *зак.* Урадзіцца. *Не, сёліта ні нада богу гряшыць, капуста зрадзілыся харошыя.*

ЗРУГЫВАЦЕЛЬ, ЗРУГЫВАЦЕЛЬНІК *м.* Той, хто здзекуецца. *Дужа быў гадкій чылавек, такей зру́гывы-*

*ціль, такей нінавісьнік, што ні прівядзі гасподзь. Яны браты і абоя зрýгывыцільнікі, што ўжо церьпіць ат іх Аксіньня, цярьпець большы некуды.* ЗРУГЫВАЦЕЛЬКА, ЗРУГЫВАЦЕЛЬНІЦА *ж. Як цябе толька зімля носіць, ты пасьледнія зрýгывыцілька на сьвеці. Як пыглядзіш, дык уродзі і на зрýгывыцільніцу ні пахожа.*

ЗРЫВАЦЬ *незак.* Выкопваць. *Мы ўсігда ды марозыў бульбу зрывáлі, як ета дупускацца, каб бульба пагінула.* ЗРЫЦЬ *зак.* Выкапаць. *Як бульбу зрыíш, тады ўремя пыслыбаднеіць, гарод убраць — ета ўжо мелыч.* ЗРЫЦЦА *зак.* Выкапацца. *Етый кусочык зрыíцца, тута ны пяць карзінык асталыся.* ЗРЫТЫЙ *дзеепрым. Зрытыю бульбу высушыць нада, мокрыю ў погріб ні ўбавіш.*

ЗУБЛЕННЕ *н.* Назубліванне (сярпа). *Зубленьня як у каго пулучаіцца, адзін назубіць, што серп сам режыць, а посьлі другога будзіш мучыцца.*

ЗУБРЫЦЬ *незак. метаф.* Накіроўваць, настойваць. *Яго ўсё зýбріць к ваенныму дзелу матка: пуступай, сынок, ны хвіцэра ўчыцца.*

ЗЫЧАННЕ *н.* Пажаданне. *Ні нада мне яе зы́чыньня і йна сыма тута ня дужа нада, абойдзімся як-небудзь бізь яе.*

ЗЭЛІК *м.* Неразвіты чалавек. *Нешта мне зэлік Трахімыў вёрз, я ні пыняў, што ён хацеў скызаць. Памяниш.* ЗЭЛІЧАК. *Яны, знаць, ныпраўду сыбіраюцца свайго зэлічка жаніць.*

ЗЮЗЮКАННЕ *н.*, ЗЮЗЮКІ *мн.* Ціхая, павольная размова. *Я нямножка пысядзела, паслухыла іхныя зюзю́кыньня ды пышла двору спруўляцца. Як зывядуць зюзю́кі, пуўдня рызыйціцца ня могуць.*

ЗЮЗЮКАННІК *м.* Той, хто размаўляе паціху, не спяшаючыся. *Як бабы, зюзю́кыньнікі стыяць, Мікілай Лявону чуць ні на вуха нешта дыказыіць.* ЗЮЗЮКАННІЦА *ж. Пыра б зюзю́кыньніцым і рызыйціцца, каровы скора прідуць, пырысят пыкарміць нада.*

ЗЯМЕЛЮШКА *ж. узнёсл.* Зямля. *Зямелюшка чылавека і корміць, і поіць, і спакой даець.*

ЗЯПІШЧА *ж. павеліч.* Зяпа. *Як рыспастрець сваю зя́пішчу, як рыскрічыцца, куды там каму справіцца зь ім.*

ЗЯТНІЙ *прым.* Зяцеў. *Пакушыў хлеба зя́тніга, цяперь ідзі нызад, на свой садзіся, ато думыў ны шырмычка пражыць.*

# І

ІВАВЫЙ *прым.* Такі, які мае адносіны да івы. *Ну сьсек іву дык і сьсек, івывыя дровы хырашо гыряць, хуць ныгар ат іх ня дужа бальшэй.*

ІВЕРЭНЬ *м.* Сугроб. *Ні знаю, як вам удасца што прівезьць, івірні сьнегу ны дарогі.*

ІВІНА *ж.* Асобная іва. *У нас ны кынаві кылы бані івіна сядзела, ужо была пырядышныя. Памянш.* ІВІН-КА. *Івінкі вясною красіва цьвітуць: жоўцінькія авечычкі на іх.*

ІДЗЕ *прысл.* Дзе. *Ідзе ты столька ўремя ходзіш? Ідзе ім дзецца, етым шчыпцям, учора ліжалі ны палічкі.*

ІЗВЁСТКА, ЗВЁСТКА *ж.* Вапна. *Не, у насізьвёсткыю неік нічога ні мазылі, ні було яе. У мяне трошку зьвёсткі ёсьць, кылі хочыш, магу даць нямножка.*

ІЗВІНСТВА *н.* Прабачэнне. *Ня слухый ты яго ізьвінства, сяньня ізьвіняіцца, а ызаўтріга тоя самыя тваріць.*

ІЗГІБ *м.* Разгінанне. *Травішча зугула па бульбі, я палола бізь ізьгібу, кріцыю стыяла трі дні.*

ІЗДЗЯВАЦЕЛЬНА *прысл.* Здзекліва. *Кажыцца б, самый злэй ураг так ізьдзіва́цільна ня дзелыў, як ты дзелыйш.*

ІЗДЗЯВАЦЕЛЬНАСЦЬ *ж.*, ІЗДЗЯКАЦЕЛЬСТВА *н.* Здзек. *Дура ты, што церьпіш такую ізьдзіва́цільнысьць, ды ат каго путніга церьпіш. Усякыга я ізьдзіка́цільства ныцярьпелыся, старік мой дужа нісызнацільный чылавек быў.*

ІЗДЗЯВАЦЕЛЬНЫЙ *прым.* Здзеклівы. *Сколька я помню, ён ізмалку ўсігда быў ізьдзіва́цільный.*

ІЗЛЕЧАНЫЙ *дзеепрым.* Вылечаны. *Ай, ні гывbooрі ты, якей ён ізьлечыный, так, трошку ногі пірідзьвігаіць і ўсё.*

ІЗМАЛКУ *прысл.* З маленства. *Ізма́лку к рабоці ні прівучын, дык і цяперь як ламіна якей.*

ІЗРАЗУ *прысл.* Адразу. *Мы тожа ізра́зу ня думылі, што так можыць пулучыцца. Памянш.* ІЗРАЗАЧКУ. *Ня лезь к сыбаку, ён цябе кылі хваціць, ізра́зычку пірякусіць пыпылам.*

ІЗРОДУ *прысл.* Здаўна, зроду. *Ізроду мы ні бралі чужога і цяперя яно нам ні нада. Памянш.* ІЗРОДАЧКУ.

*Адзін можыць бряхнуць то тоя, то другоя, а мой ізродычку ніпрайды ні гыварій і ні скажыць.*

ІКНУЦЬ *зак. перан.* Падаць голас. *Раншы було песін, песін, і пелі, будуць з работы іціць — дзяреўня хыдаром ходзіць, а цяперя ці ікніць хто.*

ІМБАР, ІНБАР *м.* Амбар. *Стаіць нізамкнутый імба́р, пыныбралі, сколька хацелі, сколька панесьць маглі. Ён крепкій-крепкій хлопіц быў, возьміць дзевіць пудоў мех, нясець ны калёсы, а с калёс нясець у інба́р. Памянш.* ІМБАРЫК, ІНБАРЫК, ІМБАРЧЫК, ІНБАРЧЫК, ІМБАРЧЫЧАК, ІНБАРЧЫЧАК. *Збоку ат хаты стыяў імба́рік, Аўхім яго ўсігда зымыкаў. Я хацеў быў ставіць інба́рік адзьдзельна, а тады раздумыў. У імба́рчыку ў яго ўсякыя бырахло складжына. Нашто мне інба́рчык, што ў яго класьць цяперя. Быў у яго плахенькій імба́рчычык. Етый інба́рчычык харошый мушчына плячом піряверніць. Павеліч.* ІМБАРЫШЧА, ІНБАРЫШЧА. *Во ў іхным калхозі імба́рішча! Строіўся, думыў ны вякі, інба́рішча пыставіў на тысічу пудоў.*

ІМБАРНІК, ІНБАРНІК *м. эмац.* Злодзей, які крадзе ў клеці, свіране. *Усякія гадысьці і раншы хвытала, цігаліся нычамі імба́рнікі, чысьцілі клеці. Ну каб мае мушчыны пупалі тады інба́рнікыў, ні знаю, што б яны зь імі сытварілі. Памянш.* ІМБАРНІЧАК, ІНБАРНІЧАК. *Дажджэць пуця, кылі ён цяперя ладный імба́рнічык. Чаго ня выйдзіць, а інба́рнічык палучыцца.* ІМБАРНІЦА, ІНБАРНІЦА *ж. Імба́рніца ці ні імба́рніца, а ўскочыць і што хочыш схваціць, пыцалуй яе тады. Ціряс крышу інба́рніца ні палезіць, а во зайдзіць у сенцы, задуріць і што-небудзь пынясець.*

ІМБАРНЫЙ, ІНБАРНЫЙ *прым.* Свірнавы. *У-у, імба́рныя завесы дзелылі, тоўстыя, крепкія, каб ні маглі узлумаць. Інба́рныя замкі бальшэя былі, цяжолыя.*

ІМШЫЦЬ *незак. метаф.* Рабіць шурпатым дрэва (пры часанні тупым тапаром). *Якей ета тапор, што ня цешыць, а імшы́ць.*

ІНКУБАТАРКА *ж.* Курыца з інкубатарных пісклят. *У мяне куры сымысадкі ды інкуба́тыркі, большы с сымысад.*

ІРЖАВІЦЬ, ІРЖАВІЦЦА *незак.* Ржавець. *Іржа́віць, тады ня хочыць аччыняцца кыцялок етый. Куча жылізячча іржа́віцца і прібраць некыму.*

ІРЗАННІК *м.* Свавольнік. *Ну, ірза́ньнікі, нада ны вас бацька с харошым ремнім. Памянш.* ІРЗАННІЧАК.

*Як ба ета мне паццэліцца злавіць таго ірзáньнічка.* ІРЗАННІЦА *ж. Во рызыйшліся ірзáньніцы, места сабе ні найдуць.*

ІСПУГАННЕ, ІСПУГАНІЕ *н.* Спалох. *А можа, ета ён ат іспугáньня так зыбалеў? Нечыга мяне брацъ ны іспугáнія, ня дужа ты страшын.*

ІСТРЫЦЦА *незак. метаф.* Намервацца. *Ці вы чулі, куды сяньня істрáцца нашы вічарінышнікі?*

ІСТРЭННЕ *н. метаф.* Намер. *Ета ў іх істреньня зы Вяхру кытануць. Мы яго істреньня загыдзя знаім.*

ІСТРЭННІК *м.* 1. Той, хто вострыць. *Якей ні істреньнік, а піла стала луччы резыць.* 2 *метаф.* Той, хто намерваецца. *Куды сяньня нашы істреньнікі лыжы нупруўляюць.* ІСТРЭННІЦА *ж.* 1. Тая, што вострыць. *Ніхай сабе я дренныя істреньніца, алі ж лупатка луччы ў зямлю лезіць.* 2. Тая, што намерваецца. *Етыя істреньніцы разым з мальцымі кытануць ны вічарінку.*

ІШОЧЧЫ *дзеепрысл.* Ідучы. *Ці ня відзілі вы, тама ішоччы, майго старога, паплёўся с касою, гываріў, можа якей аборычык выб'ю.*

# К

КАБЛУЧЫЦЬ *незак. жарт.* Танцаваць з выкрутасамі. *Ны работу ні падгоніш, а як возьмуцца каблýчыць, чаго зь іх ні вытвыряіцца.*

КАБЫЛЁНАЧКА *ж. памянш.-зніж.* Кабыла. *У Грычынка два надзелы було зямлі, а сядзеў бяс хлеба, кыбылёнычку дзіржаў, а кыравёнку ня мог прыкарміць.*

КАБЫЛКІН *прым.* Такі, які мае адносіны да кабылкі. *Раншы ны кажныга кыня дзелылі хамут, у мяне была нібыльшая кабылка і кабы́лкіны хумуткі — і вызавэй, і ралейный.*

КАБЫЛЯЦІНА *ж.* Мяса кабылы. *Пріехылі пыліцэйскія зь немцым, зыбралі ўсё пыд мяцёлку, есьць було нечыга, тут кабылу старыю зарезылі і елі тую кыбыля́ціну. Памянш.* КАБЫЛЯЦІНКА. *Табе, відна, кыбыля́цінкі зыхацелыся.*

КАБЫРДЖАННЕ, КАБЫРДЖЭННЕ *н. іран.* Злаванне. *Бальшэй мне аньцірес глядзець ны яго кабы́рджыньня. Ці ўнялося Кулькова кыбырджэньня?*

КАБЫРДЗІЦЦА *незак. іран.* Злавацца. *А чаго ён*

*кабырдзіцца, нічога мне Хвенька ні рысказывыла. Каб ён меншы кыбырдзіўся, куды луччы було б.*

КАВА *ж.* Кошка (у размове з дзецьмі). *Халодна нашый каві, каўкыіць пыдзь дзьвірямі, просіцца ў хату, нада пусьціць.*

КАВЕРЧАННЕ *н.* Перакручванне. *Гляджу я ны тваё каверчыньня: нашто табе ета дроцьця пірякручывыць, гадзіць.*

КАВЕРЧАНЫЙ *дзеепрым.* Перакручаны, пакручаны. *Каверчыныя дзеріва ні цісаць, ні стругаць рубанкам, зыдзіраіцца і больш нічога.*

КАВЫР *выкл.* Пра нязграбную хаду. *Віджу, нехта йдзець, кавырь, кывырь, усё дно як мой Мішка.*

КАВЯРАННЕ *н. перан.* Няўмелае аранне. *Каму ж ба пыныравілыся такоя кывіряньня, тута нада нанызва піріпахывыць.*

КАВЯРАЦЬ *незак. перан.* Няўмела араць. *Пыслалі мульчуганыў на поля, зь іх такея пахырі, троху кывірялі.* КАВЯРАЦЦА *незак.* Няўмела арацца. *Толька што кывірялыся, ікая ета пахыта.* КАВЯРАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Калупаны. *Пыставіла нейкій кывіряный кулеш — есьця, а яго есьць ніпріятна.* 2. Няўмела араны. *Кывіряный кусочык нанызва піріпахывылі.*

КАЖАН *м. перан. эмац.* Закарэлы, маларослы чалавек. *Сколька мужука таго, кыжан нейкій, толька што зыдаецца. Памянш.* КАЖАНОК, КАЖАНЧЫК, КАЖАНОЧАК. *Двоя кыжанкоў бегыіць кылы хаты, гадоў пяць і гадоў шэсьць кырапузьлічкі. Етыму кыжанчыку ўжо гадоў дзесіць, а ён трі чэцьвірці ростым. Куды ты кыжаночыка пыцсаджывыіш, ён ня ўдзержыцца.* КАЖАНКА *ж. Айт, дзяўчонка, кыжанка нейкыя.*

КАЖНЫЙ *займ.* Кожны. *Кажный дзень во так во мучыюся зь етымі дзьвірямі, некыму пычыніць. Памянш.* КАЖНЕНЬКІЙ, КАЖНЕНЕЧКІЙ. *Кажнінькій ба пыняў, што ета нарошня гаворіна. Кажнінічкій дзень адно й тоя, адно й тоя — грызьня і грызьня.*

КАЖУРЫНКА *ж. памянш.* Кавалак скуры, аўчына. *Большыя кужурінкі сыбярі, аткладзі, а дрыбязу пыўкідай у печ, крошкі нікому ні нада.*

КАЗЕЛЕЦ *м.* Казялец. *Казеліц скот ня есьць, яго патопчуць, патопчуць і ўсё. Памянш.* КАЗЕЛЬЧЫК. *Пы таму аборку казельчык рос, Пытапіха яго зьбірала, длі чаго-то сушыла.*

КАЗЁНЕЦ *м.* Селянін, які раней жыў на казённай

зямлі. *Нейкія былі казёнцы, а чаго іх так звалі, я, яйбогу, ні скажу.*

ҚАЗЁНШЧЫНА *ж.* Тое, што належыць дзяржаве. *Қазёншчына будзіць прі любой уласьці. Қазёншчыну ня трогый.*

ҚАЗЛІХА *ж. гумар.* 1. Қаза. *Такей хызяін ныгыспыдáріць, рызьвядзець і казлоў, і казьліх, абішчаць усё ўмеіць.* 2 *перан.* Упартая жанчына. *Ну й казьліхі ж яе дзеўкі, звала я, звала, упёрліся: ня пойдзім і ўсё.*

ҚАЗЛЯҚІ *мн.* Қозлы для пілавання дроў. *Нада хуць якея кызьлякі зьбіць, палкі піряреэыць не ны чым. Памянш.* ҚАЗЛЯЧҚІ. *Пірістаў кызьлячкі сюда, бярі адзін, яны лёгінькія.*

ҚАҚАЦІСТЫЙ *прым. метаф.* З багатай каранёвай сістэмай. *Ета трыва такая кыкацістыя, яе ня вырьвіш — места ні найдзіш. Памянш.* ҚАҚАЦІСЦЕНЬҚІЙ. *Відзіш, часнок якей кыкацісьцінькій.*

ҚАЛАБРОДЗІЦЬ *незак.* Вычвараць. *Ніхай у чарку нюхнець, і пашоў кылабродзіць, натура ў чылавека тыкая.*

ҚАЛАМСА *ж. жарт.* Хамса. *Тама будзіць самыя луччыя угашчэнія кылымсá ды кіслыя капуста, яны ня с тых, што рыскашырюцца.*

ҚАЛАМСАЦЬ, ҚАЛАМСІЦЬ *незак.* 1. Мясіць. *Ніхай тут трошку выда ўбярецца, як жа лезьць грязь кылымсáць. Ня хочыцца мне сяньня гліну кыламсíць.* 2 *перан.* Вычвараць. *Ні гывbooрі: ціхінькія, як возьмуцца кылымсáць, пыдзікуісься на іх. Яму толька дайця нюхнуць у чарку, січас пычанець кыламсíць.* 3 *перан.* Тузаць, трэсці, біць. *Што яны дзелыюць,— кылымсáюць адзін другога. Мы думылі, яны балыюцца, а тады відзім, што Цыганкоў дывай кыламсíць етыга ныпраўду.* ҚАЛАМСАЦЦА, ҚАЛАМСІЦЦА *незак.* 1. Мясіцца. *Ідзі, калі цябе дужа ахота рызьбіраіць, а я ні хачу пы грязі кылымсáцца. Қыламсіліся па полю, што, кылі ніўдзе разу нілізя стаць.* 2. Вычвараць. *Любіць кылымсáцца, асобінна, калі людзей многа. Другея глядзелі, як яны кыламсíліся адзін пірід другім, а Дзяніс плюнуў і пашоў.* 3. Тузацца, біцца. *Қынчайця кылымсáцца, ныдаела глядзець ны вас. Ці доўга ж яны кыламсíліся ны Падгародзьдзі?* ҚАЛАМШОНЫЙ *дзеепрым.* 1. Мяшаны. *Тута і кыламшоныя грязь, і нікыламшоныя, ніўдзе ня ступіш.* 2. Тузаны, пабіты. *Яно й відна, што сяньня ты ўзноў кыламшоный.* ҚАЛАМСЁМШЫ *дзеепрысл.* 1.

Месячы, месячыся. *І грязішчу кыламсёмшы, заморісься большы некуды. Дайшлі, кыламсёмшы чуць ні пы калені.* 2. Тузаючы, б'ючы. *Кыламсёмшы, пырвалі яму куртычку.*

ҚАЛАМСОЛЕННЕ *н. эмац.* 1. Мяшэнне. *Як табе ні ныдаесьць кыламсоліньня, у цябе ногі прымякнуць і застынуць.* 2 *перан.* Вычваранне. *Мы тожа троху пыглядзелі ны Анішчонкыва кыламсоліньня.*

ҚАЛАМСОЛІЦЬ *незак. эмац.* 1. Мясіць. *Ня дужа яму хочыцца лезьць грязь кыламсоліць.* 2 *перан.* Вычвараць. *Ён адзін кыламсоліў пірідзь зіцічанімі.* ҚАЛАМСОЛІЦЦА *незак.* 1. Мясіцца. *Зьбегый пызаві бацьку, хваціць яму кыламсоліцца ны дажджы.* 2. Вычвараць. *Кыламсоліцца ён любіў, ды каб ны яго дзікуваліся.*

ҚАЛАМШЭННЕ *н.* 1. Мяшанне. *Знаіш, як ныдыідаіць кыламшэньня ў твані.* 2 *перан.* Вычваранне. *Яны думыюць, што іхныя кыламшэньня некыму дужа аньціресна.* 3 *перан.* Тузанне, біццё. *Глядзіця, каб вы самі скарей кыламшэньня ні пулучылі.*

ҚАЛАМШЭННІҚ *м.* 1. Той, хто месіць гразь пры хадзе. *Дасца кыламшэньнікым, пакуля яны дыцягнуцца да Қолтыва.* 2 *перан.* Той, хто вычварае. *Ета тамыцька пірянінскія кыламшэньнікі усё пыказывылі сябе.* ҚАЛАМШЭННІЦА *ж.* 1. Тая, што месіць гразь пры хадзе. *Зыцігаліся кыламшэньніцы, грязішча нівылазныя.* 2. Тая, што вычварае. *Яны кыламшэньніцы, вытвыряюць ня хужы мушчын.*

ҚАЛАНІЦА *ж. груб.* Атрута. *Ты ўжо сам ні прідумыіш, што твайму горлу нада, кыланіцы б хваціў.*

ҚАЛАТЫРАННЕ *н.* Мітуслівая беганіна. *Ныдыідаіць кылатыріньня, то туды бягіш, то аттуля ляціш, усё німа прадухі.*

ҚАЛАТЫРЫЦЬ *незак.* Бегаць, насіцца. *Як пойдзіць зраньня кылатыріць пы дзярейні, к вечыру чуць ня ўсе хаты аббягіць.*

ҚАЛАЦІЦЬ *незак. метаф.* Гаварыць. *Пы дзярейні ужо цэлыю нядзелю калоцюць, што Пітрачонык іс сваёю расходзіцца.*

ҚАЛБАСНІҚ, ҚІЛБАСНІҚ *м. жарт.* Ахвотнік да қаўбас. *Қылбасьнік ты харошый, толька сьвіньней ня хочыш пасьвіць. Қілбасьнікі твае ці ні сьпяць ужо, яны ладна выбігыліся. Памянш.* ҚАЛБАСНІЧАҚ, ҚІЛБАСНІЧАҚ. *Хадзі, кылбасьнічык, хадзі, пыкармлю цябе. Заві кілбасьнічкыў у хату, я ім атрежу па крошкі.* ҚАЛ-

БАСНІЦА, КІЛБАСНІЦА *ж. Зь дзевычкымі ны дваре забегылыся кылбáсьніца і ны яду забыла. Ах, ікая ты кілбáсьніца, любіш смашінькыя.*

КАЛБАСНЯ *ж. метаф.* Выкрутасы, вычваранне. *Хто ны яго кылбасьню глядзіць, пакруціцца і аціхніць.*

КАЛДУНСТВА *н.* Чараўніцтва. *Нешта було пыткладжына пад етым вуглом, Сонька прінісла калдýнства.*

КАЛДЫБАСІЦЬ *незак.* Ісці няўклюдна. *Некуды кылдыбáсіць твыя сьвякрова, ці ні Грішчанковых пышла атведывыць.* КАЛДЫБАСІЦЦА *незак.* 1. Таўчыся. *Старыя ны дваре кылдыбáсіцца, сьвіньней упыряччывыіць.* 2. Няўклюдна соўгацца. *Як табе кылдыбáсіцца па белыму сьвету?*

КАЛДЫБАШАННЕ *н.* Няўклюдная хада. *Яе кылдыбáшыньня ізьвесна: шаг ступіць, а тады пуўчыса аддыхаіць, каб другей ступіць.*

КАЛДЫКАННЕ *н.* Нязграбная хада з кульганнем. *Пыглядзі ны яе калдыкыньня, іна саўсім іціць ня можыць.*

КАЛДЫКАЦЬ *незак.* Ісці нязграбна, кульгаючы. *У погріб калдыкыла, калдыкыла, шаг ступіць трудна, чуць дыйшла, прінісла пыўвядзерца бульбы.* КАЛДЫКАЦЦА *незак.* 1. Ісці нязграбна, кульгаючы. *Цэлый час ды таго быльшыка калдыкыліся.* 2. *Зал.-бессуб'ект. ад* калдыкаць. *Як табе калдыкыіцца посьлі гасьцей, ці паедзіш другей раз?*

КАЛЕННЕ *н. зб.* Каленкі. *Што хочыцця грейця, ці каленьня, ці шмаленьня, а кылі кроў ня греіць, нічога ні паможыць.*

КАЛОДЗІШЧА *ж.* Вялікая калода. *С такея калодзішчы харошыя штындаріна пад вугыл выцішыцца.*

КАЛОМ *прысл. метаф.* Камяком, каменем. *Яе угашчэнія калом зыстряніць у горлі, іна угасьціць, а тады прыклянець. Калом яму зімля, такому пыразіту.*

КАЛПАЧАННЕ *н.* Затлумліванне, падман. *Ты сваё кылпáчыньня длі сябе пыбірягі, яно табе можыць луччы зныдабіцца.*

КАЛПАЧАННІК *м.* Той, хто затлумлівае, падманвае. *Глядзі, каб етый кылпáчыньнік сам біш штанёнык ні пабег ат'етуля.* КАЛПАЧАННІЦА *ж. Во кылі хочыш, і Аксюткіна дычка зьдзелылыся кылпáчыньніцыю, так зыліваіць дзейкым, што задзівісься.*

КАЛПАЧЫЦЬ *незак.* Затлумліваць, падманваць. *Ты думыіш, ніхто ні знаіць, длі чаго ты Просіныга сына*

*кылпáчыш.* ҚАЛПАЧАНЫЙ *дзеепрым. Якея ж вы кылпáчыныя людзі, разьві вы ні пынімаіця, што Сашка вас на пушку бярець.*

ҚАЛУПАННІҚ *м. перан.* 1. Маруда. *Қаму тута ны час работы, а кулупáньнікі да беда ня кончуць.* 2. Той, хто не зусім сумленна здабывае сродкі. *Ета ішчэ тэй кулупáньнік, ён ш чаго хочыш капейку зукулупнець.* ҚАЛУПАННІЦА *ж.* 1. Маруда. *Скарей вы, кулупáньніцы, вурушыціся, січас плуг падгонюць, бульба нада.* 2. Тая, што не зусім сумленна здабывае сродкі. *С Проські абычайныя кулупáньніца, нічога йна нійдзе ні зыхваціць.*

ҚАЛУПАНЫЙ, ҚАЛУПАТЫЙ *дзеепрым.* Такі, які калупалі. *Водз зу кулупáный хлеб палучыш пу руках. Хто йта так дзелыіць: ны стале ліжаць кулупáтыя пряснушкі.*

ҚАЛЫГЛУЗ *м. эмац.* Распуснік. *Ну й калыглузы Ганьніны мальцы, на іх ажно шкура гаріць.* ҚАЛЫГЛУЗҚА *ж. А разьві дзяўчонкі калыглýзкі ні буваюць,— сколька хочыш.*

ҚАЛЬЖЭННЕ *н. неадабр.* Халадэча. *Посьлі такога кальжэньня можыш успаленія пытхваціць, тады будзіш кычацца.*

ҚАЛЯҚОМ, ҚАЛЯЧЫНАЮ *прысл. метаф. груб.* Без руху. *Ні натуркый, ні ныгрызі, і пралежыць кыляком увесь дзень. Қаб ты ўжо лёг кыляком і ні пыдняўся. Выляіцца дзень кылячы́ныю, карові паткінуць ні падыміцца.*

ҚАЛЯСЁНҚІ *мн. зніж.* Қалёсы. *Верь ты, што ён трепліцца, якея дрожкі,— кылясёнкі былі луманыя ў яго бацькі і кабыла здохлінькыя, чуць ногі пірістыўляла. Памянш.* ҚАЛЯСЁНАЧҚІ. *Худзь ба якея кылясёнычкі зыкласьць, каб тэй хвырасток прівезьць ґ двару.*

ҚАЛЯЧОҚ, ҚАЛЯЧОЧАҚ *м. памянш.* Невялікі кол. *Нада було б забіць кылячок і гвозьдзік загнуць, вароццы б прічыняліся і зашчэплівыліся. Я прігатовіў кылячочыкі прівязывыць пымідоры.*

ҚАЛЯШЭННЕ *н. эмац.* Шматлікія паездкі. *Ну й што, кылі ён пайсьвета выкылісіў, што яму дало ета кыляшэньня.*

ҚАЛЯШЭННІҚ *м. эмац.* Той, хто шмат ездзіць. *Учора явіўся двору Айдоткін кыляшэньнік, у адной куртычкі прібег.* ҚАЛЯШЭННІЦА *ж. Ну што, ваша кыляшэньніца узноў сядзіць ны маткіный шыі?*

ҚАМАНДЗЁР *м. жарт.* Қамандзір, кіраўнік, галава.

*Зы адну нядзелю такей кыманьдзёр узяўся, што чышчы некуды.* ҚАМАНДЗЁРКА, ҚАМАНДЗЁРША, ҚАМАНДЗЁРШАЯ *ж. Аўгінка стала тыкая кымандзёрка, што Ліксандра так ні кымандывыў. Во яшчэ адна кыманьдзёрша ныйшлася, укажчыц хуць адбуўляй. Ваша кыманьдзёршыя нешта пычыла с самыга раньня рызыряцца.*

ҚАМІСАРАННЕ, ҚАМІСАРНІЧАННЕ, ҚАМІСАРСТВАВАННЕ *н.* Праца ў якасці камісара, кіраўніка, начальніка. *Яго кымісáріньня усім у косьці ўелыся. Дужа ні хваліся кымісáрнічыньнім, сяньня ты кымісаріш, а заўтря можыш зьляцець. Ня дужа смашна яму посьлі кымісáрствывыньня зы рідавую работу брацца.*

ҚАМІСАРЫЦЬ, ҚАМІСАРНІЧАЦЬ, ҚАМІСАРСТВАВАЦЬ *незак.* Працаваць камісарам, кіраўніком, начальнікам. *Навумчыку дужа ныравілыся кымісáріць. Тады Міхалка стаў як барін, яму жонка няроўна стала, зы ныстаўніцымі пычаў бегыць, кымісáрнічыў, кымісáрнічыў, а тут найшліся большы грамытныя. Ім абаім дужа ныравілысь кымісáрствывыць.* ҚАМІСАРЫЦЦА, ҚАМІСАРНІЧАЦЦА, ҚАМІСАРСТВАВАЦЦА *незак.* Працавацца камісарам, кіраўніком, начальнікам. *Кымісáрілыся яму ладна, толька нядоўга. Ну як табе кымісáрнічыіцца на новый должнысьці? Пыглядзім, як яму тут будзіць кымісáрствывыцца.*

ҚАМЛАЙ *м.* Прычэп. *Яе сын машыну сабе купіў, цяперя нейкій кымлáй шукаіць. Памянш.* ҚАМЛАЙЧЫҚ. *Нейкыя машына стыяла зь нібальшэнькім кымлáйчыкым.*

ҚАМЛАЙҚА *ж.* Невялікія калёсы. *Каб ён быў іс кымлáйкыю, дык ба зьезьдзіў у Зяціцкій лес ды прівёз арешніку. Памянш.* ҚАМЛАЕЧҚА. *Ён сам кымлáічку субугорію, бярема хворысьця можна прівезьць ці ношку травы.*

ҚАМЛЫЖҚА *ж.* Невялікая камлыга, цвёрды камяк. *Зімля сырая, мяккыя, камлы́жык дужа німа. Памянш.* ҚАМЛЫЖАЧКА. *Нібальшэнькыю камлы́жычку пусьціў, і шыбка рызьляцелыся. Павеліч.* ҚАМЛЫЖЫШЧА. *Камлы́жышчы пызысыхалі, палкыю рызьбіваў іх, борыны ні бяруць.*

ҚАМСОЛЕННЕ *н. эмац.* 1. Яда пры адсутнасці зубоў. *У мяне ўсігда такоя камсоліньня, зубоў німа ні аднаго зуба.* 2. Прагная яда. *Пыглядзі ны яго камсо-*

*ліньня: пряма з булкі кусаіць і прець.* 3. Біццё, штурханне. *Ні баюся я бабіныга камсоліньня, іна мяне ня зловіць.*

ҚАМСОЛІЦЬ *незак. эмац.* 1. Есці пры адсутнасці зубоў. *Айдзе я скарінку рызгрызу, во мякуш вазьму і тэй камсолю-камсолю.* 2. Прагна есці. *Ён будзіць камсоліць, толька пыдывай большы, іпіціт нямерный.* 3. Біць, штурхаць, таўчы. *Удзьвюх як возьмуцца цябе камсоліць, што ты зьдзелыіш.* ҚАМСОЛІЦЦА *незак.* 1. Есціся. *Қалі хлеб камсоліцца, дык ішчэ ня горя.* 2. Барукацца, валтузіцца. *Як возьмуцца камсоліцца, то адзін нывярьху, то другей.* ҚАМСОЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Пабіты, натоўчаны. *Чаго там гывaріць, трошку камсоліный.*

ҚАМУШАҚ, ҚАМУШОҚ *м.* Қаменьчык. *Ніякыя ета ні квасоліна, ета ка́мушык. На печку ў баню я сабе прівёз кумушкоў. Памянш.* ҚАМУШОЧАҚ. *Куры рызгрібаюць пясок, кумушочыкі выбіраюць. Крепінькій як кумушочык.*

ҚАМЯНЕЛЫЙ *прым.* 1. Цвёрды. *Во кымянелыя скарінка, нож ні бярець, а маліц такей хлеб любіць.* 2 *перан.* Бессардэчны. *І стырікі ўсякія былі, былі дужа жалысьлівыя, сярдзешныя, а былі кымянелыя.*

ҚАНАВІШЧА *ж.* Вялікая канава. *Разбэхылі кына́вішчу, што ні пярёйдзіш, ні піряедзіш, усё рыўна як танкывый роў.*

• ҚАНАВОД, ҚАНАВОДНІҚ *м. перан.* Злодзей, які крадзе коней. *Знаіш, ну хутурах сколька кынаводыў рызьвялося, глядзі було ды глядзі, ато с-пад носа кыня ўхвацюць. Етый твой харошынькій первый кынаводнік быў, цірізь яго коні ішлі за Сож. Узмацн.* ҚАНАВОДЗІНА. *Ніхай яму зімля колым, кынаводзіна быў, сколька людзей ат яго горькімі сьлізамі плакыла. Павеліч.* ҚАНАВОДЗІШЧА. *Кынаводзішча проклітый, наш буланінькій яго рук ні мінуў.*

ҚАНАПАЦІНА *ж.* Вяснушка. *Усё ліцо кыныпа́цінымі усыпына. Памянш.* ҚАНА́ПАЦІНҚА. *Ніяк ны Сярёжкіны кыныпа́цінкі ні нулюбуіцца.*

ҚАНДЗІБОБЕР *м. іран.* Задавака. *Ці нагледзіліся, якей ета кыньдзібобір — Вуліткін зяць.* ҚАНДЗІБОБЕРҚА *ж.* *Ладныя кыньдзібобірка і Кындрацёнкыва дычка.*

ҚАНДЗІБОБЕРЫ *мн.* Вычваранне. *Ці ня дос-ка яму пыказывыць сваe кыньдзібобіры.*

ҚАНЕЎНІҚ *м.* Злодзей, які крадзе коней. *Знаіш, як*

*ну хутурах канеўнікі хадзілі, бірягі ды бірягі було, уміг маглі кыня зьвесьць.*

ҚАНЁЧАҚ *м. памянш.-ласк.* Қонь. *Қанёчык мой, канёчык, пастой, я цябе зыбрытаю, нада хворысьціка прівезьць як-небудзь.*

ҚАНІНЫЙ *прым.* Қонскі. *Тама каніныя сена, ні чыпай, посьлі бульбы паткіну. Қаніныя здароўя у чылавека.*

ҚАНТАВАННЕ *н. жарг. эмац.* Гультаяванне. *Мінецца ім кунтува́ньня, нада будзіць думыць сваім мызалём кусок хлеба зыработыць.*

ҚАНТАВАЦЦА *незак. жарг. эмац.* Гультаяваць. *Прівыклі нічога ня дзелыць, з года ў год канту́юцца, глідзяць, каб айдзе чарку зылавіць.*

ҚАНУЦЬ *зак. перан.* 1. Працячы. *Харошый масьцір бочычку дзелыў, уліў вады — каб ка́нула айдзе.* 2. Адазваццa. *Пы ўсяму лясу хадзілі, гукалі, і доўга гукалі,— ні ка́нуў ніхто нійдзе.*

ҚАНХВЕЦІНА *ж.* Цукерка. *Дыла малым пы канхвеціні, пабеглі на вуліцу, ці іх вясною ў хаці удзержыш.* *Памянш.* ҚАНХВЕЦІНҚА. *Қалі сахыр выйдзіць, я канхвецінку вазьму, чаю нап'юся.*

ҚАНЦЫЛЯРАЦ, ҚАНЦЫЛЯРШЧЫҚ *м.* Работнік канцыляры. *Ета нейкій канцыля́ріц ехыў і гывары́ў, што заўтря будзіць сход, я таго мальца дренна знаю. Цяперя многа кынцыля́ршчыкыў, усё ціснуцца, каб рук ні зымырацы.* ҚАНЦЫЛЯРҚА, ҚАНЦЫЛЯРШЧЫЦА *ж.* *Устроілыся кынцыля́ркыю і праседзіла тама ўсю жызьню, аттуля і на пеньсію пышла. Вун твыя кынцыля́ршчыца, ны абед сьпяшыць.*

ҚАНЦЫЛЯРЫЦЬ, ҚАНЦЫЛЯРНІЧАЦЬ, ҚАНЦЫЛЯРСТВАВАЦЬ *незак.* Працаваць канцылярскім служачым. *Қынцыля́ріць ім ныравіцца, а на поля йціць с карзінкымі ня дужа хочуць. Трошку б кынцыля́рнічыў, с кніжычкыю прыхаджывыўся і есьць ба смашна хацеў. Пыглядзім, як новый рухункавод будзіць кынцыля́рствывыць, можа, меншы с трудуднямі круціць станіць.* ҚАНЦЫЛЯРЫЦЦА, ҚАНЦЫЛЯРНІЧАЦЦА, ҚАНЦЫЛЯРСТВАВАЦЦА *незак.* Працавацца канцылярскім служачым. *Як табе кынцыля́ріцца на новым месьці? Яму ладна кынцыля́рнічылыся ў горыдзі. Не, ня думый, большы так кынцыля́рствывыцца ня будзіць.*

ҚАНЧАТҚОВАЕ *н.* Апошні разлік натурай на пра-

цадні. *У нас кынчатковыга яшчэ ні дывалі, нешта цягнуць і цягнуць.*

КАНЬКАННІК *м. неадабр.* Канькала. *Ды чаго ж ныдыядлыя ка́нькыньнікі, як луманецца чаго — душу ім вынь і аддай.* КАНЬКАННІЦА *ж. Ні прідумыю, што ета ка́нькыньніца хочыць, можа, мыхрыча.*

КАНЮШОЧАК *м. памянш.-зніж.* Слабы, маларослы конь. *Якоя ў яго було хызяйства, старінькыя хатка, кунюшочык ат ветру хітаўся, у сенцых біз мыста стыяў.*

КАПАРЫЦЦА *незак.* Поркацца. *Некылі кыпаріцца, бярі свае вузялкі ды паедзім скарей, дарога вун ікая далёкыя.*

КАПАРЭННЕ *н.* Порканне. *Як куды іціць ці ехыць, у цябе первым дзелым пычынаіцца кыпареньня,— во ныдаела яно!*

КАПЛІ *прысл.* Крышку. *Ні забудзь купі, ка́плі сахыру ні асталыся. Ка́плі спакою ат іх німа.*

КАПЛЮ *прысл.* Вельмі мала. *Ка́плю баліць, а ён рысьпішчэўся нііззьвесна як.*

КАПТУШКА, КАПЦЁЛКА *ж.* Капцілка. *Ні було чаго ў лампу наліць, капту́шкымі прісьвячывыліся, а што було дзелыць. Раншы капцёлкі у лаўкых прыдывалі, унізу шурокінькыя, а ўвярьху вузінька, кнот уцягывыць. Памянш.* КАПТУШАЧКА, КАПЦЁЛАЧКА. *У етых гаріць нейкыя капту́шычка, дренна бізы гня, дужа дренна. У нас у дзяреўні гарелі лампы, а ўсюдых капцёлычкі, дык гыварілі на Кудрічы: ета Мысква.*

КАПЦІЦЬ *незак. перан.* Жыць бяздзейна, не маючы моцы і здароўя. *Ікая жызьня біз здаро́ўя, во капціць ішчэ, дыжыдаіць сьмерці, а тая ні пріходзіць.*

КАПЧЭННЕ *н. перан.* Бяздзейнае жыццё пры адсутнасці моцы і здароўя. *Такоя капчэньня — ня жысьцць, кылі чылавек сам сябе ні дагледзіць.*

КАПЫЛЛЕ *н. зб. перан. груб.* Ногі. *Прібярі капы́льля, рысьцягнуўся на ўсе сенцы.*

КАПЯК *м. перан.* Груд. *Ладный кыпя́к быракоў насыпылі, нада лыцнаць пірявезьць біз дажджу. Памянш.* КАПЯЧОК, КАПЯЧОЧАК. *Ну як жа так зьдзелыць, тут кыпячок сухенічкія бульбы, дажджу ні було, а збоку выда наліта. Астаўся кыпячочык капусты, можа паццэлюсь, атвечыра прівязу.*

КАПЯЛІНКУ *прысл.* Вельмі мала. *Ліні кыпілі́нку крупені, а мяса дайжа ні пыказывый, ні стану есьць.*

КАРАБКАННЕ *н. перан.* Пераадоленне вялікіх цяж-

касцей у жыцці. *Ты пыглядзі ны Антончыкыва кыра́бкыньня: як туга ні пріхадзілыся, а ні здываўся.*

ҚАРАВАШНІҚ *м. асудж.* Брудны, неахайны чалавек. *Жывець кыря́вышнік, худзь ба пыстыдзіўся у таком відзі на людзі пыказывыцца.* ҚАРАВАШНІЦА *ж. Што ты хочыш, каб кыря́вышніца пырядык нывіла ці дзяцей дагледзіла, ета ні ў яе прівычкі.*

ҚАРАВІЦЦА *незак. перан.* Бэсціцца, зневажацца. *У цябе ўсе кыря́вюцца, усе нікчомныя, адзін ты дужа харош, ты ды Қаця твыя.*

ҚАРАВЯТНІЦА *ж.* Даглядчыца кароў. *Қырывя́тніцым прівязьлі торху, яны спакойна будуць зімуваць, а ты ташнуй, думый, чым прыпаліцца.*

ҚАРАНДЫШАҚ *м. памянш.* Қарантыш. *Два мальчонкі-кыра́ндышыкі бегыюць кылы хаты, гуляюць, ны бацьку пахожы і ўхватка тыкая самыя.*

ҚАРАНЕННЕ *н.* 1. Ачыстка ад кары, акорванне. *Нада брацца зы кыря́ніньня, пазьней урема ня будзіць.* 2. Ачыстка ствалоў дрэў. *Яблынкі посьлі кыря́ніньня пыкрысівелі.*

ҚАРАНІЦЬ *незак.* 1. Акорваць. *Пайду кыря́ніць паплеціны.* 2. Ачышчаць ствалы дрэў. *Нада патроху кыря́ніць дзерівы і суччa падрезыць нада.* ҚАРАНІЦЦА *незак.* 1. Акорвацца. *Як тута ў цябе кыря́ніцца, ці ўвесь у смале?* 2. Ачышчацца (пра ствалы дрэў). *Трошку ў цябе кыря́ніцца, астарожна чысьць, каб жывоя ня тронуць.* ҚАРАНЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Акораны. *Цяперя кыря́ніныя жэрдкі будуць сохнуць.* 2. Ачышчаны (пра ствалы дрэў). *Ны кыря́ніныя яблынкі і глядзець пріятна.*

ҚАРАТҚАВЫЙ *прым.* Қараткаваты. *Жарёбка мылыдая, пужлівыя, а аглоблі кырыткáвыя, з горкі яе туўханула, іна як пынісла, хворыст зьехыў, мы с хворыстым на́ бык, калёсы сь пірідка сыскачылі,— во було нам! Памянш.* ҚАРАТҚАВЕНЬҚІЙ. *Қырыткáвінькія вожычкі, як ты на іх удзержыш кыня.*

ҚАРДЫМЯҚА, ҚАРДЫМЯЧЫНА *ж. эмац.* Сукаваты кавалак дрэва, калода. *Паспробый рыскалоць такую кырдымя́ку, нымардуісься, большы некуды. Нада б пацэліцца разьбіць ету кырдымя́чыну, ніхай ба ні вылялыся. Памянш.* ҚАРДЫМЯЧҚА, ҚАРДЫМЯЧЫНҚА. *Там, ны дрыватоньні, кырдымя́чкі ёсьць ны твую сілу. Не ўжо, я ныд кырдымя́чынкымі буйтувацца ня буду, ніхай яны пыгыряць.* ҚАРДЫМЯЧЧА *н. зб. Куча кыр-*

*дымя́чча, ны яго сіла ды сіла нада.* КАРДЫМЯЧЫШЧА 1 *ж. Павеліч.* ад кардымяка. *Сучча пыбрізалі. асталыся кырдымя́чышча, зросткі, зь ёю нічога ня зьдзелыіш, гнёт ба быў, каб пяньку мачылі.* 2 *н. Павеліч.* ад кардымячча. *Нывылачылі кырдымя́чышча, калі яго упыряччыш.*

КАРЖАМЯКА, КАРЖАМЯЧЫНА *ж. эмац.* Корч. *Пріцягнулі кыржымя́ку ґ двару, нубуйтуісься кылы яе, пакуля упыряччысься. Во паспробый разьбіць еткыю кыржымячыну, кылі іна пукруцілыся, пірівілася, нікуды трешчыны ні даець. Памянш.* КАРЖАМЯЧКА, КАРЖАМЯЧЫНКА. *Глянь-ка, як лёхка кыржымя́чка рыскалолыся. Ладныя кыржымя́чынка, сілы пыкладзеш над ёю дай божа.* КАРЖАМЯЧЧА *н. зб. Мой кыржымя́чча троху нывазіў, калі прівядзецца ў пырядык, у марозы-пікуны ладна будзіць уськінуць. Памянш.* КАРЖАМЯЧЧЫКА. *Пырядышна сабе кыржымя́ччыка нывазіў.* КАРЖАМЯЧЫШЧА 1 *ж. Павеліч. ад каржамяка. Во айдзе кыржымя́чышча, як яе тольки зь зямлі було выкыціць!* 2 *н. Павеліч. ад* каржамячча. *Чаго ж ты ні бяресься зы сваё кыржымя́чышча?*

КАРЖАЧОК *м. памянш.* Высахлы кавалак, корж. *Бягі ў горыд, хлеба німа, адны кыржачкі, бяс хлеба прідзіцца вячэріць.*

КАРЗІНІШЧА *ж.* Вялікі кошык. *Быў сплёў карзінішчу па поіс ростым, нічога ў яе ня ўсыпіш, аторю тольки насіць.*

КАРКАННЕ *н. перан. іран.* Пустая гаворка. *Ніхай што хочыць вярзець, мне яго каркыньня нііньціресна слухыць.*

КАРОБКА *ж. метаф. груб.* Галава. *А длі чаго табе каробка ны плічах? Каробкыю думый, а ня чым-нібудзь другім.*

КАРТЭЎНІК *м.* Аматар гульні ў карты. *Картэўнікі яе зысядуць, ноч могуць праседзіць. Памянш.* КАРТЭЎНІЧАК. *Ладный бярецца картэўнічык, ужо большых абгулівыіць.* КАРТЭЎНІЦА *ж. Дзяўчонкі бываюць чышчы хлопцыў картэўніцы, пірягулівыюць іх.*

КАРТЭЎНЫЙ *прым.* Картачны. *Мой, бувала, картэўныю гульню нійдзе ні прупускаў, у Мікіты да поўнычы сядзелі.*

КАРУЗА *м.* і *ж.* Малая, але задзірлівая асоба. *Якей карю́за, чыпляіцца і чыпляіцца к чылавеку ніізьвесна чаго. Карюза баба, зы саломінку будзіць зыдзірацца.*

ҚАРУЗЛЫЙ *прым.* 1. Нізкі, недарослы. *Ніхай, што карю́злый, ён рыбыцяшчый, у касе зь ім папробый спраўся.* 2 *перан.* Сквапны. *У іх уся парода карю́злыя, кружкі вады ні пыдадуць чылавеку.*

ҚАРЧАВЕШҚА *ж. эмац.* Қартавая жанчына. *Як станіць ета кырчавешка турлычыць, я ціряс слова трошку рызьбіраю. Памянш.* ҚАРЧАВЕШАЧҚА. *Қырчавешычка Высілёва нешта цэлый дзень сыма сабе гаворіць.*

ҚАРЧАНУЦЬ *зак.* 1. Моцна ўдарыць. *Ты б яго кырчанӯў аць сябе, каб ён як сноп атляцеў.* 2 *перан.* Запрасіць вельмі дорага. *Ты пыхадзі пы бызару, пыпріцыняйся, ато кырчанеш цану, што ны твайго пацьцёлка і ні глянуць.* ҚАРЧАНУЦЦА *зак.* Моцна ўдарыцца. *Ішоў, ныга паехыла, я так кырчанӯўся ап каменьня, чуць пыдняўся.* ҚАРЧАНУТЫЙ *дзеепрым. Дапрыгыісься, што кырчанӯтый ацскочыш і пыбягіш.*

ҚАРЧЭННЕ *н.* Қаленне на холадзе. *Посьлі такога карчэньня як раз ды два можна зьлежч с успаленіім.*

ҚАРЫНА *ж.* Қарына. *Пыдлажы бярёзывых карін, яны ўміг зушумяць. Памянш.* ҚАРЫНҚА, ҚАРЫНАЧҚА. *Дзеці карінык сасновых ныбяруць і стругаюць, лотычкі вырізаюць. Дроў ні карінычкі ні асталыся, а ён сабе ні пра што ня думыіць.*

ҚАРЭННІҚА, ҚАРЭННІЦА *н. памянш.* Қарэнне. *Тама ў вядре адно кареньніка с травы, нада высыпыць у гной. Қареньніца пысыбіраіш ды ў ямку, яно нікуды ні нада.*

ҚАСА *ж. звыч. мн.* косы. Атожылак. *Гурбузы косы пускаюць, чыпляюцца, могуць вісока ны пляцень узьлезьць.*

ҚАСАМОРДЫЙ *прым. абразл.* Қрыватвары. *Прівадзілі якога-то друга свайго, кысамордый лабрэціна, неік бокым глядзіць.*

ҚАСАСТЫЙ *прым.* 1. З доўгімі косамі. *Тріхонывы красівыя дзеўкі былі, кысáстыя, за імі хлопцы гужом віліся.* 2. Даўгагрывы. *Наш гнядэй кысáстый быў конь і крепкій як зьверь, любэй воз брау, якей, бувала, ні ўскладзеш. Памянш.* ҚАСАСЦЕНЬҚІЙ. *Пріглідаіцца, каб кысáсьцінькыю сабе выбрыць.*

ҚАСЕНЬҚА, ҚАСЕНЕЧҚА *прысл. памянш.* Қоса. *Вочы хуваіць, а як прігледзісься, дык заметна, што касенька глядзіць. Вочы ў яго касенічка пыстаўліны.*

ҚАСЁНҚА *ж. зніж.* Қаса. *Сыма я ня ўмею, насіла Мікітывыму хлупчугану пыкліпаць касёнку. Памянш.*

ҚАСЁНАЧКА. *Ікая ні касёнычка, хуць кругом хаты траву збрынкыіш.*

ҚАСІЛА *н. жарт.* Қаса. *Што, тваё касіла ня хочыць само ў траву лезьць? Памянш.* ҚАСІЛЬЦА. *Во каб мне такоя касільца рыздабыць!*

ҚАСМАЦІЦА *ж. метаф.* Лахматая рэч, звыч. нешта з адзення. *Хто табе такую кохту кысмáціцу візаў?*

ҚАСМАЧЧА *н. эмац.* Непрыбраныя валасы. *Қысмáчча тарчыць ува ўсе бакі, ці ты рышчысацца ня можыш.*

ҚАСЦЁР *м.* Пустазелле ў жыце, каласоўнік. *Ёсьць такоя пустазельля, у жыці расьцець, дробнінькія зірняткі, у нас яго касьцёр завуць.*

ҚАСЦЯНІШНІҚ *м.* Расліна касцяніцы. *У нас была Бязручыха, ішчэ ды вайны памёрла, усё сушыла кысьцянішнік, ета ў яе було первыя лікарства ат любой балезьні. Памянш.* ҚАСЦЯНІШНІЧАҚ. *У мяне айдзе-то ў вузялку быў кысьцянішнічык, можна зываріць, кылі хочыш.*

ҚАТУШЫНКА, ҚАТУШЫНАЧҚА *ж. памянш.* Қут, куток. *У пуні зы саломыю чмáрка ныйшла сабе кутушы́нку і нясецца. Айдзе ты там што пыставіш, тама кутушы́нычка мулюпасінькыя, ні пывярнуцца.*

ҚАЎЗНУЦЦА *зак.* Слізгануцца. *Астарожнінька нісла гырлачык, а ныга каўзнýлыся, я брязь пысярёд дарогі, мылако пылілося.*

ҚАЎҚАННІҚ *м.* Той, хто мяўкае, падае тонкі голас (кот, дзіця). *Рысьпішчэліся кáўкыньнікі: пускай іх у хату, карміі іх. І ў цябе такей самый кáўкыньнік, як у мае нявесткі.* ҚАЎҚАННІЦА *ж. Пачула кáўкыньніца, што мылако цаджу, просіць. Ну чаго вам, кáўкыньніцы, яшчэ даць, каб ні пішчэлі.*

ҚАЎНЯРОҚ, ҚАЎНЕРЧЫҚ *м.* Маленькі каўнер. *Нада б памыць рубашычку, кыўнярёк грізнуват. Хто табе пpішыў такея красівыя каўнерьчыкі к рукуўкам? Памянш.* ҚАЎНЯРОЧАҚ. *Мне б ішчэ нада пpішыць кыўнярёчык, яго ж проста ніткыю ні прісьцябнеш.*

ҚАХАЛЬ *м.* Қафля. *Раншы етыга кáхылю і ў паміні ні знали, а цяперя пашлі і кáхылі, і шмахылі, і чаго тольқа ні ныпрідумывыюць.*

ҚАХНУТЫЙ *дзеепрым.* Моцна ўдараны. *Ажно зыікытаў кáхнутый,— во як пыдлізаць, куды ня просюць.*

ҚАЦЕЛКА *ж.* Қацёлка. *Цяперя сыныпрядык ня дзелыюць, а раншы кацелкі сьпецна вырізалі. Памянш.* ҚАЦЕЛАЧКА. *Воць сюда б нада було кацелычку ні-*

*бальшэнькыю прідзелыць, удобній ба круціць було.*

ҚАЦЮГА *м.* Вялізны кот. *Во кацю́га ў Кулагіных быў, з ладныга пырасёнка, ніякыга сыбакі ні быяўся.*

ҚАЦЯНЁНҚАЎ *прым.* Қацянячы. *Прінясі кыцянёнкыву місычку, нальлём яму сырадойчыку. Памянш.* ҚАЦЯНЁНАЧҚАЎ. *Што, і ты хочыш у кыцянёнычкыву пасьцельку лежч?*

ҚАЦЯНІЦЦА 1 *незак.* і *зак.* Прыводзіць (прывесці) кацянят (пра кошку). *Нашый кошкі скора кыцяніцца. Айдзе-то ны хаці кыцянілыся, пат крышыю, там сена, ніяк ды кыцінят ні далезіш.* 2 *зак.* Нарадзіцца (пра кацянят). *У нас бальшэя кыцініяты, рана вясною кыцяніліся.*

ҚАЧАННЕ *н.* Зграбанне ў кучкі (пра пакосы грэчкі, вікі). *Грячыху касілі касою з лучком, іна сохла, яе кычалі, а посьлі кыча́ньня на воз, на воз і мылаціць ну гумно.*

ҚАЧАНОҚ, ҚАЧАНЧЫҚ, ҚАЧАНОЧАҚ *м. памянш.* Қачан. *Сходзі зреж кычанок капусты, я пыкрышу на́ дзінь. Нібальшэя кыча́нчыкі, ну дужа тугея, можна браць. Кычаночыкі толька зывязывыюцца, ішчэ нечыга варіць.*

ҚАЧАНУЦЬ *зак.* 1. Хістануць, калыхнуць (дрэва). *Вун як малый аньцірісуіцца: кычанець бярёзку і глядзіць, што іна хітаіцца.* 2. Павесці (вачамі). *Бырчанкова толька вычамі кычану́ла і зразу атвярнулыся.* ҚАЧАНУЦЦА *зак.* 1. Хістануцца, калыхнуцца (пра дрэва). *Уродзі і ветру німа, а глянь-ка, як дзерівы кычану́ліся.* 2. Павесціся (пра вочы). *У яго толька вочы у адзін бок кычану́ліся — і ня жыў.* ҚАЧАНУТЫЙ *дзеепрым.* Хістануты, калыхнуты (пра дрэва). *Во і січас ліпка кычану́та.*

ҚАЧАРЭЖҚА *ж.* 1. Қачарга. *Кычарежкыю варочыла чугуны, пакуля пулумала.* 2 *перан.* Пень, бясформенны кавалак дрэва. *Асталіся адны кычарежкі, іх ні разьбіць, ні расьсеч, зімою цыліком спалюцца.* 3 *перан. груб.* Нага. *Прібярі свае кычарежкі,— піріступай цірязь іх. Памянш.* ҚАЧАРЭЖАЧҚА. Невялікі бясформенны кавалак дрэва. *Унясі кычарежычык ды паткінь, ато чугуны могуць ні зыкіпець. Павеліч.* ҚАЧАРЭЖЫШЧА. Вялікі бясформенны кавалак дрэва. *На ету кычарежышчу нада печ як у асеці.*

ҚАЧАЧҚА *ж.* Тачка. *Нада пыпрасіць у іх ка́чычкі ды завезьць мяшкі ґ Гапкі, ніхай у яе ліжаць.*

КАЧЭННЕ *н.* Прывядзенне кацянят (пра кошку). *Ну яе к чорту зь яе качэньнім, ёй нада каціцца, каровы німа, іх ніхто ні бярець.*

КАШЛІК, КАШЛІЧАК *м. памянш.* Кашаль. *Наверна, пацстыў малый, уноччы быў ладный кашлік. Ці чуіш, якей кашлічык у дзіцёнка, пызаві хверчылку, ніхай паслухыіць, можа, банкі нада.*

КАШНЫЙ *прым.* З-пад кашы, ад кашы. *Тама стаіць чугуночык кашный, а другога нешта ня відна.*

КАШУК *м.* Катух, загародка для закладкі сена жывёле. *Карові як ні пыныравіцца сена, усё с кушука мордыю выкініць.*

КАШЭТНІК *м.* Вельмі злосны на катоў сабака. *Во кашэтнік, ны кыта брешыць, а тэй з бруса глядзіць спакойна.* КАШЭТНІЦА *ж. Твыя кашэтніца каб дырвалыся да кошкі, зразу пушкумутала б яе.*

КВАСОЛІНА *ж.* Адно зерне або расліна фасолі. *Квасоля рассыпылыся, вун зу сунoжкыю квасоліны ліжаць. Во яшчэ адна квасоліна узыйшла. Памянш.* КВАСОЛІНКА. *Я люблю, каб квасолінык у крупеню ўкінуць.*

КВАСОЛЬКА, КВАСОЛЕЧКА *ж. памянш.* Фасоля. *Квасолькі можна у цугунчыку атваріць. Ты глядзі, квасолічкі і на семя кідай, усю ні расходывый.*

КВАСОЛЬНЫЙ *прым.* Фасолевы. *Мае дужа любюць квасольныю крупеню, мальцы аж прягнуць за ёю.*

КВАТЭРАЧКА *ж. памянш.* Частка столі паміж двума падстольнікамі або падстольнікам і сцяной. *Скора кончым століньня, адна кватэрычка астаецца, тады будзіць пірядых.*

КВІЛ *м.* Бязладны крык, лямант. *Ці ты ні знаіш, чаго ў іх еткій квіл стыяў?*

КЕЛЬНЯ *ж. перан.* Маленькая хатка. *Ікая там хата — кельня, у ёй ні пывярнуцца, ня стоіць такую брацъ. Памянш.* КЕЛЕНКА. *Жылі ўдваіх сы старухыю, была ў іх келінка трухлявінькыя.*

КЕЎКАННЕ *н.* 1. Мяўканне. *Я чую: нейдзі кеўкыньня, а ета кыцянёнык на вербу залез, а зьлезьць баіцца.* 2 *перан.* Ціхі слабы голас. *Ці тваё кеўкыньня яшчэ трохху чутна, дышыцца пынямножку?*

КЕЎКАННІК *м. гумар.* 1. Кот. *Пачулі кеўкыньнікі сырадой, нылівай ім, дужа ныравіцца.* 2 *перан.* Той, хто падае слабы голас. *Як табе, кеўкыньнік, там на печы сядзіцца?* КЕЎКАННІЦА *ж.* 1. Кошка. *Толька пыдаю,*

*бягіць мыя кеўкыньніца скарей пад'есьць.* 2. Тая, што падае слабы голас. *Чую, чую цябе, кеўкыньніца, можа, ты і ны свадзьбу прідзіш?*

ҚЕЎҚАЦЬ *незак.* 1. Мяўкаць. *Қошычка кеўкыіць, замёрзла, пагрецца просіцца.* 2 *перан.* Жыць, падаваць голас. *Ці ішчэ кеўкыіш троху на печы?* ҚЕЎҚАЦЦА *незак.* 1. *Зал.-бессуб'ект.* *ад* кеўкаць 1. *На печы выліжыйшысь, хырашо кату кеўкыіцца, кілбасы хочыць.* 2. *Зал.-бессуб'ект. ад* кеўкаць 2. *Ёй пакуль што нядренна кеўкыіцца ны нявесткіный ліжанкі.* ҚЕЎҚНУЦЬ *зак.* 1. Мяўкнуць. *Ці ета мне пыкызалысь, ці кот айдзе кеўкнуў?* 2. Падаць голас. *Будзіш лазіць, дылазісься: бярьвеньня пакоціцца, дыўлянець, што ня кеўкніш.*

ҚІВУШЧЫЙ *прым.* Хісткі. *Стала ў аўтобусі і ківаіцца, баба ківўшчыя.*

ҚІДЗЮХ *выкл.* Пра кіданне. *Тута гулялі малыя, балывыліся, тэй у таго кідзю́х палкыю, тэй у таго і разьбілі вакно.*

ҚІЁЎҚА *ж.* Рагоз. *Дзеці пад восінь кіёвык нарежуць у балоці і балыюцца. Памянш.* ҚІЁВАЧҚА. *Схадзі ты ўжо, атарьві сабе кіёвычык, толька ні зытапіся.*

ҚІЛАВАТЫЙ *прым.* Хворы на грыжу. *Ныйшла сабе кілувáтыга жыніха і хваліцца: вот мы якея! Памянш.* ҚІЛАВАЦЕНЬҚІЙ. *Рысказывылі, што радзіўся кілувáцінькій, зразу апірацыю дзелылі.*

ҚІЛУН *м.* Чалавек або жывёла з грыжай. *Кілунá ў армію ня возьмуць, зыставюць апірацыю зьдзелыць.*

ҚІПУЧЫЙ *прым.* Ҡіпячоны. *Ну што ты гаворіш, ні кіпеў,— усё кіпу́чыя; як ета, кылі ні кіпу́чыя, я буду гывáріць кіпучыя.*

ҚІРПА *м.* і *ж.*, ҚІРПАЧ *м.* Ҡірпаносы чалавек. *Любуіцца ны свайго кірпу, наглядзіцца ня можыць. Ты луччы сваю кірпу бірягі, а зы мяне ні біспакойся. Ого, сколька зыдываньня у Просіныга кірпычá, ён луччы ўсіх шчытаіць сябе.* ҚІРПАЧҚА *ж.* *Зыхарёнкыва кірпáчка дужа вісока сябе нясець. Памянш.* ҚІРПАЧАЧҚА. *Тама Сірьгяёнкыва кірпáчычка бегыіць.*

ҚІРПІЧОНЫЙ *прым.* Цагляны. *Быгатыю хату пыставіў: піцісьценка, кірьпічоный пыдвал, пуня харошыя, цёплыя.*

ҚІРПІЧЫНІНА *ж.* Цагліна. *Сюда нада ладныя кірьпічы́ніна. Памянш.* ҚІРПІЧЫНІНҚА. *Вакенцы ў хундаміньці зыклаў кірьпічы́нінкымі.*

ҚІСЛЕННЫЙ, ҚІСЛЮШЧЫЙ *прым.* Празмерна

кіслы. *Січас ігрушкі кісьленныя, у рот ня возьміш, а як пыліжаць, пымякчэюць, тады нічога становюцца, дзеці поўныя кырманы ныкладуць і пабеглі. Нысадзіў пырядышный садок, ды летніх адно дзеріва, нескылька антонывык, а то нейкія кісьлю́шчыя, к вясьне толька вылежывыюцца.*

КЛАД *м. экспр.* Магіла, смерць. *Дагоніць, ён цябе дыўлянець, тут табе і клад будзіць.*

КЛАДЗЕНЫЙ, КЛАТЫЙ *дзеепрым.* Кастрыраваны. *Зы кла́дзіных пырысят многа дыражэй плоцюць. У аднаго мужука былі кла́тыя сыбака і кот.*

КЛАДКА I, КЛАДАЧКА *ж. памянш.* Бэлька ў пограбе. *Кла́дкі ў погрібі пыдгнілі, нада міняць, ато можыць увесь верьх прасесьць. Харошыя кла́дычкі дубовінькія прівёз, будзім погріб кыпаць.*

КЛАДКА II, КЛАДУШКА *ж.* Месца ў гумне паміж сохамі. *Дзядзька дужа ўредный быў, даў нам адну кла́дку ў гумне, а ну гумно пусьціў суседзіў. Кладу́шкі ў гумне ац сахі ды сахі і тады ды сьцяны, і жжатыя ўсігда клалі кладу́шкымі, а посьлі сушылі і мылацілі. Памянш.* КЛАДУШАЧКА. *Мы ўжо рады, рады былі, што сваю кладу́шычку жыта ныклалі, ета ж нада: свыя кладу́шычка!*

КЛАСЦЬ *незак. перан.* Збіваць, выталоўваць пасевы. *Ладна кладу́ць куры ячмень, ужо пырядышный кусок атлупілі ад дарогі, надзелыіць стыршына кріку.*

КЛЕВЯРЫНА *ж.* 1. Адна расліна канюшыны. *Во ікая клівяріна вырысла,— што значыць спагноіныя зімля.* 2. Канюшына наогул. *Якую й клівяріну збрынкыіць, ці ён дагледзіць, тыкая аторва, а клевір у пагоду прібраць — ета зылатэй корм. Памянш.* КЛЕВЯРЫНКА. *Нескылька клівяріньік тарчыць, а так макріца ўсё забіла.*

КЛЕТНІЙ *прым.* З клеці, ад клеці. *Былі ныстаноўліны трі вядры кылы дзьвярей кыла клетніх.*

КЛЕТЧЫНА *ж. зніж.* Клець. *Пуні ўжо німа, а клеччына пакуля што ліпіць. Памянш.* КЛЕТЧЫНКА. *Была німудренькыя клеччынка, яны яе пусьцілі на дровы яшчэ летыся.*

КЛІБЕННЕ, КЛІБЛЕННЕ, КЛЮБЕННЕ, КЛЮБЛЕННЕ, КЛЯБЕННЕ, КЛЯБЛЕННЕ *н.* Настойлівае ўтлумачванне, пераконванне. *Ат іхныга клібіньня гылыва тряшчыць, як ім ні ныдаесьць адно й тоя пухтыряць. А наслухыліся мы яе кліблііньня, ніхай яе. Ты думыіш,*

*яны табе верюць? — ныт тваім клю́біньнім толька сьмяюцца. Ні пымыгаіць Віктыріхіна клю́бліньня, ня хочыць Іван Марчыхіну дачку браць. Ой, ныдыядлыя ста́рыя зь яе кля́біньнім. Не, дренныя тваё кля́бліньня, ня слухыюць цябе Кычанкі.*

КЛІБІЦЬ, КЛЮБІЦЬ, КЛЯБІЦЬ *незак.* Настойліва ўтлумачваць, пераконваць. *Кажный дзень клі́бюць яму адно й тоя, ці надоўга ў яго хваціць цярьпення слухыць. Доўга нешта клю́біла Хрісьцянку твыя кума, ён слухыў і пысьміхаўся. Як возьмуцца кля́біць са ўсіх бакоў, паспробый іх піряслухыць.*

КЛЮШНЯ *ж.* Курынае сцягно. *Ні глядзі, што кырапуз, цыляіць, каб скарей ухваціць клюшню́. Памянш.* КЛЮШЭНЬКА. *Зьясі посьлі клюшэньку, я табе атлажыла у шкапчык ны тарелычку.*

КЛЯЦЦЁ, КЛЯЦІЕ *н.* Праклён. *Ныўряд, ці піряслухыіця вы Матруніна кляцьцё, іна як зыкладзець — ні ны адзін час. Бог ныклаў ім імя бясы і кля́ція зыклаў.*

КЛЯЦЬБЁНЫ *мн.* Праклёны. *Ай, сумашэччыя баба, што-небудзь пыкажыцца ні па ёй і пычынаіць клядзьбёны.*

КОГАТ *м.* Скогат, галас. *Мы тожа чулі когыт, ну ні пынялі нічога. Што кріку було, што когыту із-зы ірунды.*

КОЖКА *ж. памянш.* Скурка. *Раншы кожкі здывалі у Янкілівый лавычкі, за іх пулучалі піряды, падмёткі.*

КОЙ-НІЯК *прысл.* Сяк-так. *Пуню кой-ні́як пірясыпылі, ну печ дужа слаба, ні прідумыю, калі яе пірікласьць.*

КОМНАТЫ *мн.* Панскі дом. *Комныты даўно пыстаўліны, мой дзед рысказывыў, што ён малый быў, як іх строілі.*

КОНТ *м.* Канец. *Пупаду другей раз у яблыках — ні пыздаровіцца, вот я табе скызаў і на етым конт.*

КОРАНЬ *м.* Ножка грыба. *У бырывіку часта корінь паточын, а шляпка чыстыя. Памянш.* КАРАНЁК, КАРАНЁЧАК. *Кырянькі ў апенкых атрізаюць саўсім, ета ў пыдасіныві́кых крышуць. У казлоў кырянёчыкі малінькія, яны нізінькія грібы.* КАРЭННЕ *н. зб. Цэлыю лубку кареньня ныбрізалі, высып у сьмяцьцё.*

КОЦЬМА *прысл.* Коцячы. *Я ім дам несьць усякыю чуш, ніхай толька паткнуцца: коцьма выкычу с хаты.*

КОЦЯ *м.* Кот, коцік (у размове з дзецьмі). *Коця спаткі лёг і нам пыра ў люлю. Рятуй мяне, коця-браця,*

*нясець мяне лісіца за сінія моря, зы вісокія горы, за цёмный лес* (З казкі).

КРАДКАЛА, КРАДСТВА *н.* Крадзеж. *Мы хыраша яго помнім: крáдкылым зынімаўся, нягож што ён дзелыў. Якей жа чэсный чылавек станіць адыбряць крáдзтва.*

КРАКТАННЕ *н. перан. іран.* Скваплічанне. *Нагледзіліся мы ны яго кріктáньня: сам сабе жалеіць зьесьць купіць.*

КРАКТАЦЦА *незак. Зал.-бессуб'ект. ад* крактаць. *Як табе крекчыцца посьлі ўчырашніга, пыбалівыіць гылыва?*

КРАНУЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць аб зямлю. *Схваціў зу руку, рускруціў, як кряніць яго аб зямлю, тэй і русплутухаўся.* КРАНУЦЦА *зак.* Моцна ўдарыцца. *С самыга вільчыка ап ток крянуўся і ні ўстаў, пылажылі ны калёсы і пывязьлі ў бальніцу.* КРАНУТЫЙ *дзеепрым. Я знаю, за што ён крянутый.*

КРАПЧУН *м.* Фізічна моцны чалавек. *Мой бацька такей быў кряпчýн, воз сена ны пірядок лёхка ставіў. Памянш.* КРАПЧУНОК, КРАПЧУНЧЫК. *Кріпчункі растуць мальчыкі, абоя ў дзеда пашлі. Ніхай расьцець кряпчýнчык, будзіць табе ны старысьць падмога.*

КРАПЧЭННЕ *н.* Выздараўленне, папраўка. *Не, яму ны кряпчэньня нісколька ні пыказывыіць.*

КРАПЧЭЦЬ *незак.* 1. Мацнець. *Ты с кажным годым кряпчэіш, табе старысьць ні страшна.* 2. Папраўляцца. *Дужа цяжола ліжаў, а цяперя кряпчэіць патроху.*

КРАСІВЕННЫЙ *прым.* Надзвычай прыгожы. *Помніш Дзім'інка большыга, крысівенный мушчынішча быў, кажыцца, Пітраком звалі.*

КРАСНЕННЫЙ, КРАСНЮШЧЫЙ *прым.* Вельмі чырвоны. *Пріналокся пыд раньня, вочы красьненныя, язык ні варочыіцца, сьпіць у пуні ны саломі. Калена красьнюшчыя, нарыў абразуіцца.*

КРАСНЫЙ *прым. перан.* Хросны. *Мыя крáсныя матка куды-то даўно зьехыла ат'етуля.*

КРАСЬ *м.* Металічная падкладка ў драўлянай восі. *Восі ўсігда з дуба дзелылі і зьнізу крась прібівалі, каб ні піріціраліся.*

КРАХНУЦЦА *зак.* Упасці і ўдарыцца. *С самыга вільчыка крáхнуўся ап ток, ну што, пыдбіваў усё ў сярёдку, зывязьлі ў бальніцу, там і памёр.*

КРАХЦЕННІК *м.* Той, хто крэкча. *Ну, кряхценьнік,*

*як твыя работа, ці дзьвігыцца ўпярёд?* КРАХЦЕННІЦА *ж. Абея мы адзінакывыя кряхценьніцы: сь печы за стол і нызад.*

КРАЦІХА, КРОЦІХА *ж.* Самка крата. *Крот схуваўся у норку, а два крыцянёнычкі асталіся нывярьху, ні пасьпелі схувацца, відна, с крацíхыю вылазілі. Бізь зялезыў нічога ня зьдзелыіш, нада ставіць, улезуць і крот, і кроціха, іх усіх нада уністыжаць.*

КРАЧ *м.* Асілак. *Мой бацька кряч быў, зь ім ніхто ў рабоці ні спруўляўся. Памянш.* КРАЧЫК. *Пыдрыстаюць кря́чыкі хлопцы, ужо січас работыюць як бальшэя. Павеліч.* КРАЧЫШЧА. *Кря́чышча мушчына, скажыць ны каторыга: уніміся,— мігым асядзіцца.*

КРАШЫНАЧКА *ж.* 1. Маленькі кавалачак. *Атламіла крашы́начку пряснушкі, зьела з мылаком, большы нічога у рот ні хачу.* 2 *перан.* Маленькае дзіця. *Мыя крашы́нычка, мыя маліནькыя, я ні прідумыю, чым цябе пыкарміць.*

КРАЮШЫНА *ж.* Край, бераг. *Крyюшы́ну ячменю крепка куры зьбілі. Памянш.* КРАЮШЫНКА, КРАЮШЫНАЧКА. *Сядзіць ма́лый ны самый крyюшы́нкі, зваліцца і крепка гнітанецца. Крyюшы́нычка аборка адж жыта скошына, а ўвесь аборык цэл.*

КРОСЕНКІ *мн. памянш.* Кросны. *Цяперя кросінык ні ў кога ня ўвідзіш, мыладзейшыя дайжа ня ўмеюць іх ставіць. Памянш.-зніж.* КРАСЁНКІ. *Такея там былі красёнкі, на трі губычкі, дык і тэя зіму рысьпяўшы стыялі.*

КРОХНУЦЬ *зак. перан.* 1. Зламаць. *Крохнуў яблынку ныпыпылам, дзелый яму што хочыш.* 2. Зламацца. *Ліпа як крохніць, каб ударіла па пунькі, рызваліла б.* 3. Ударыць. *Ня лезь, крохніць аб землю, што русплутуха́ісься.* КРОХНУЦЦА *зак.* Моцна ўдарыцца. *С такея вісычыны крохнуцца — як ён толька ні акалечыўся,— не, устаў, пабег.*

КРОШКІ *мн. перан.* Сала, мяса (у абмежаванай колькасці). *Пудблюдаю крошкі к лету, і зьесьць нада сытней, і с сабою ўзяць на луг, на поля. Памянш.* КРОШАЧКІ. *Пыдбіраюцца крошычкі, сала пуўтыра рядочыка астаецца.*

КРУГА *прысл.* Вакол. *Можна було ныпрямкі прабежч, а яны кру́га пывылакліся.*

КРУЖОК *м.* Накрыўка круглай формы. *Нылажы ны лыхан кружок, каб ні сыпнулыся чаго са столі. Памянш.*

КРУЖОЧАК. *Акуратнінькія кружочыкі, імі хырашо посыд ныкрываць.*

КРУТКАСЦЬ *ж.* Рухавасць, спрытнасць. *Ні глядзі ны гады, у яе крýткысьці ішчэ дай божа сколька.*

КРУТЧЭЙШЫЙ *прым.* Спрытнейшы. *Сабе ён круччэйшый, а разым са ўсімі іціць ня дужа разгоніцца.*

КРУЦЕЛЬ *м.* Скручаны жмут травы, веццяя. *Ета дровы мае такея: круцялі кручу і ў печ піхаю,— адно вецьця. Памянш.* КРУЦЯЛЁК, КРУЦЯЛЁЧАК. *Круцялёк с травы зыпіхнула ў прабой, відна, нікога німа ў хаці. Нашто табе такея круцялёчыкі?*

КРУЦЕННЫЙ *прым.* Вельмі круты. *Горы крученныя, а мы як разгонімся, быстрей ветра ляцім.*

КРУЦІЦЬ *незак. перан.* Вырабляць (скуру). *Я помню, як нам прішлося круціць шкуру, каб на выпріж трошку узьбіцца.* КРУЦЁМШЫ *дзеепрысл. Нікуратна круцёмшы, можна пырваць шкуру.*

КРУЦЯГА 1 *м.* і *ж.* Круцель, ашуканец. *Пупадзесься круцягым у рукі, яны цябе як ліпку аббяруць. Ішчэ ж саўсім мылыдая, а тыкая круцяга, глядзі ды глядзі кажныя мінуту, ато ў міг абдуріць.* 2 *ж.* Распусная жанчына. *Тыкая круцяга была: с адным паедзіць, з другім верніцца, ухадору ні було і маткі страм.*

КРУЧ *ж.* Круцізна. *Вусьцінка Пынкратыва атработыла: хызяйства бальшоя, адна пакуль ныцігаіць вады пад круч пат тую.*

КРУЧАНЫЙ *прым. метаф.* Распусны. *Чаго ня будуць крýчыныя, кылі за імі ніхто ні глядзіць, што ўздумыюць, то й твыряць.*

КРЫВАГУБЫЙ *прым.* 1. З крывым ротам. *Узноў Антоніхін крівагýбый атвырачыіцца: нешта ні пы яго скызалі пра Полічку.* 2 *перан. іран.* Капрызны. *Раншы ты такім крівагýбым ня быў, што с табою?*

КРЫВАЗАДЫЙ *прым. абразл.* З пакрыўленым станам. *Што таму крівызáдыму нада, чаго ён смалою лезіць ґ дзяўчонкым?*

КРЫВАЛЫ *мн. метаф. груб.* Ногі. *Ні глядзі, што крівáлы, як распусьціць, зь ім ні кажный справіцца йіціць. Павеліч.* КРЫВАЛІШЧЫ. *Накручывыіць па дзесіць ануч ны свае крівáлішчы.*

КРЫВАМОРДЫЙ *прым. абразл.* Крыватвары. *Я таго крівамордыга тольна пупаду, з грязьзю зьмішаю. Памянш.* КРЫВАМОРДЗЕНЬКІЙ. *Такея самыя крівамордзінькія, як бацька, можа і зладзея такея станўць.*

КРЫВАНДЖА *звыч. ж. абразл.* Скрыўленая, недалужная асоба. *Нашто каму іхныя крівынджа́, ніхто яе ні ўзяў і ня возьміць.*

КРЫВАПІЎНІК *м.* Крывапівец. *Ні пасьледній крывапіўнік быў і твой дзядзя, ці мала ён крыві зь людзей папіў.* КРЫВАПІЎНІЦА *ж.* *Нягож ні крывапіўніца, аднаму богу ізьвесна, сколька чужбіны людзкея спыжыла.*

КРЫВАПІЎСТВА *н.* Здзек. *Што ты мне рысказывыіш пры крывапіўства, ці я ні знаю, сколька чаго тварілыся тоя ўремя ува ўсёй акрузі.*

КРЫВАПУЗЫЙ *прым. абразл.* З адметным жыватом. *Ты луччы сваю крівапу́зыю глядзі, каб ня зьбегла.* *Памянш.* КРЫВАПУЗЕНЬКІЙ. *Ну ніхай крівапу́зінькій, ёй ладзін і мне будзіць харош.*

КРЫВІЗНА *ж. перан.* Капрыз. *Яе крівізна́ ўсім ныдаела хужы горькія редзькі.*

КРЫВОЦЦЕ, КРЫВАЦЦЁ 1 *н.* Крывое паленне. *Крівоцьця пыпірісікай, у печы пыгаріць. Пару вазоў крівыцьця́ прівёз, яшчэ ні ўпыряччывыў.* 2 *м.* і *ж. перан.* Капрызная асоба. *Крівоцьця як зыдасца, дык яго ні пірявучыш ніякім спосыбым. Січас губы сашчэпіць тая крівоцьця, хочыш, рызрявецца. Ну й крівацьцё ўрадзілыся, уся чысьцінька як мама.*

КРЫДЗІС *м.* Нястача, крызіс. *Сёліта ісь сеным будзіць крідзіс, нада кажный клачок з вумом расходывыць.*

КРЫМЗАЗОЛЬСТВА *н.* Нязграбная работа. *Ны тваё крімзазольства я глядзець ні хачу, луччы ты ні бяріся і ня дзелый нічога.*

КРЫМІНАЛ *м.* і *ж. метаф.* Аснова, апора, гаспадар. *Якей сь Кірея кріміна́л, ён што вецір: ураньні адно, а ўвечырі другоя. У іх увесь кріміна́л была Вульляна.*

КРЫМЯЧ *м.* Мацак. *Бацька мой кримя́ч быў, зы траіх работыў і ўсё ў яго руках гарела.* КРЫМЯЧКА *ж.* *Кримя́чкі дзяўчонкі, ім пы высімнаццыць німа, а яны узрослым ні ў чым ні ўступаюць.*

КРЫНДЖАЛІНА *ж.* Спецыяльная палка ў распусках. *У мяне кріндже́ліна злумалыся, як я ў лес паеду.* *Памянш.* КРЫНДЖАЛІНКА. *Крінджалінкі зыцісаць і прабіць нада ўмець, цяп-ляп ні палучыцца.*

КРЫНДЖАЛЫ *мн. перан. груб.* Ногі. *Ні глядзі, што крінджа́лы, ён підзьдзісят вёрст пройдзіць і ні аддыхнець ні разу.* КРЫНДЖАЛЛЕ *н. зб.* 1. Спецыяльныя

палкі ў распусках. *Крінджа́льля далёка ні зыкідай, яшчэ ні раз прідзіцца ў лес ехыць.* 2 *перан. груб.* Ногі. *Ні выстыўляй крінджа́льля, ацсунься ў бок і ляжы ціха.*

КРЫНДЗЯДЗЮЛЬСТВА *н. неадабр.* Балбатня, пустаслоўе. *Рызьвядуць кріньдзядзю́льства — ні піряслухыіш: і тэй ні такей, і етый ня еткій — усе ні па іх.*

КРЫТНІК *м.* Страхар. *Крытнікі сьпішаць, хочуць сяньня пуню кончыць.* КРЫТНІЦА *ж.* *А сь цябе б ніплыхая крытніца выйшла, толька каб с крышы кулём ні скацілыся.*

КРЫЎЁ *н. метаф. груб.* Ногі. *Сыпагі ны кріўё ныцягнулі — зыдаюцца, толька чым зыдывацца, каб хуць самі справілі.*

КРЭМЗАННЕ *н.* Рэзанне тупым нажом або абы-як. *Я гляджу ны тваё кремзыньня, няўжэлі табе трудна у дзьве рукі ўзяць і як нада атрезыць.*

КРЭМЗАЦЬ *незак.* Рэзаць тупым нажом або абы-як. *Нечыга кремзыць такей кусок, войстрым нажом рэзані.* КРЭМЗАЦЦА *незак.* Рэзацца тупым нажом або абы-як. *Ня дужа яно режыцца, мяккыя, кремзыіцца, і нож вайстрілі, і ўсё дно ні пымыгаіць.* КРЭМЗАНЫЙ *дзеепрым.* *Куды такоя кремзыныя людзям несьць, стыдна, вазьмі цэлый кусочык і пареж акуратна тоніькімі скрылёчыкымі.*

КРЭМСАННЕ *н.* 1. Рэзанне тупым нажом або абы-як. *Посьлі вашыга кремсыньня ны пасьцілкі жывога места ні астаніцца.* 2. Тузанне. *Я ім дам кремсыньня, адзін другому пушкумутаюць рубашычкі, тады зышывай ці купляй новыя.*

КРЭМСАЦЬ *незак.* 1. Рэзаць тупым нажом або абы-як. *Узноў кремсыіць як пупала.* 2. Тузаць. *Як возьмуцца адзін другога кремсыць, чаго яны толька ні вытвыряюць.* КРЭМСАЦЦА *незак.* 1. Рэзацца тупым нажом або абы-як. *У цябе ня режыцца, а неік кремсыіцца.* 2. Тузацца. *Мы збоку стыялі, глядзелі, як яны кремсыліся.* КРЭМСАНЫЙ *дзеепрым.* *Ні стаў на стол еткыя кремсыныя.*

КРЭНДЗЕЛЕМ *прысл. метаф.* Сагнуўшыся, скурчыўшыся. *Прівык пірід нычальствым креньдзілім хадзіць. Кычаіцца креньдзілім, ня можыць рызагнуцца. Памяниш.* КРАНДЗЯЛЬКОМ. *Дужа ты гнесься піряд імі кріньдзяльком.*

КРЭПКА *прысл. перан.* Багата, у поўным дастатку. *Ну хутурах крепка ішчэ ні сталі жыць, ну троху абжы-*

*ліся. Памянш.* КРЭПЕНЬКА. *Крепінька аптрясьліся, пастроіліся ладна, надзеліся.*

КРЭЎНЫЙ *прым.* З вялікай колькасцю крыві. *Я дужа крэўныя была, бувала, чуць трошку цырапну руку, кроў сьвісьніць.*

КУДАКТАННЕ *н.* Кудахтанне. *Хто іх знаіць, айдзе яны нясуцца, нідаўна я ў просі нейкыя кудáктыньня чула.*

КУКА *ж.* Кулак, фіга (у размове з дзецьмі). *Ай, як ніхырашо, бабі кýку пыказывыіць.*

КУКШЫН *м.* Кукса з валасоў. *Ныстаўніцы ня режуць валосься, кукшыны́ круцюць. Памянш.* КУКШЫНОК, КУКШЫНОЧАК. *І йна кукшынок ны гылаве закручывыіць як быльшая. У абеіх кукшыночыкі ны галоўкых, лентычкымі пірівязыны.*

КУЛАЖАННЕ *н.* Крыўлянне (пра дзіця). *Кулáжыньня у дзіцёнка зразу увідзіш — ці спаць хочыць, ці яму што нідылігаіць.*

КУЛАЖЫЦЬ *незак.* Уводзіць у капрызны стан. *Ці ў малыга што баліць, ці што, нешта яго кулáжыць і кулáжыць.*

КУЛАЧАСТВА *н.* Раскулачванне. *Прайшло кулáчыства, яго ні зычапілі, а тады сам пыдыйшоў к сікрітарю: што йта будзіць,— а яго за хобыт і туды.*

КУЛДОБІСТЫЙ *прым.* Каляіністы. *Дарога кулдобістыя, глядзі ды глядзі, воз можыць кажныю мінуту кульнуцца.*

КУЛЬЦЯПІСТА *прысл.* Зграбна. *Ён ужо наўчыўся кульця́піста дзелыць, ні нада прідзірацца.*

КУЛЬЦЯПІСТАСЦЬ *ж.* Зграбнасць. *Ты нічога была б і баба, ды кульця́пістысьці троху табе ні хвытаіць.*

КУЛЯШОВЫЙ *прым.* Такі, які мае адносіны да куляшу. *Куляшовый цугунчык налі вадою, ніхай пыстаіць, пытмікаіць.*

КУЛЯШЭННЕ *н. метаф.* Таўкатня ў гразі. *Каб я яшчэ раз палезла ў такоя куляшэньня! — а ніхай ён рассыпліцца і бызар еткій.*

КУМАК *м.* Чырвоны матэрыял, кумач. *Тріхоніха дыла кумáк — красныю рубаху, во надзеў, ны чылавека стаў троху паходж.*

КУМАЎСТВО *н.* Частаванне кумоў. *У тую суботу Кірілывы спруўлялі кумаўство, кума с кумою гусьцювалі.*

КУМЕКАННЕ *н.* Разуменне. *Яго кумекыньня іzьвес-*

*ныя: скажыш купіць хлеба, а ён прінясець гуркоў,— ета ён так пойміць.*

КУМЕЧАННЕ *н. жарт.* Роздум. *Прідзіцца табе ждаць, пакуль у Зьмітрыка кончыцца кумечыньня.*

КУМЕЧЫЦЬ *незак. жарт.* Раздумваць. *Сколька ты будзіш кумечыць, ці прыдываць, ці ні прыдываць, рішыла раз — і ўсё.*

КУМКАННЕ *н.* Кваканне жаб. *Апусьцела дзяреўня, голысу ні пачуіш, толька во кýмкыньня з лужы наслухыісься.*

КУМКАЦЬ *незак.* Квакаць (пра жаб). *Лягушкі вясною цэлый дзень кýмкыюць, а ўвечырі аж ныдыядуць.*

КУНДАЛІНА *м.* і *ж. узмацн.*, КУНДАЛІШЧА *м.* і *ж. павеліч.* Нізкарослая асоба. *Ого, кýндыліна рызыйшоўся, некыму троху ўняць. Кундаліна ты, кундаліна, ты ж яму ны адзін шчаўчок, а лезіш біцца. Во ўжо кундаліна прыклятыя, ці ты меріла вянок, ці красіва ты ў ім. Вуювай кýндылішча, пакуля сымаму рогі скруцілі. Ня відзілі вы і ня ўвідзіця зь естыя кýндылішчы толку. Руспусьціла кундалíшча язык, ажно поля тряшчыць.*
КУНДАЛЛЕ, КУНДАЛЛЁ *н. зб. Ніхто на тоя кýндыльля і глядзець ня хочыць. Кундальлё сыбярецца і пычынаюць выкручывыцца — хто луччы.*

КУПАНЫЙ *дзеепрым.* Пакупаны. *Я ўсігда малыга клала спаць кýпыныга. Ці купáныя твыя дзяўчонка, нешта іна ікая-то мурзатыя.*

КУПЛЯННЕ *н.* Набытыя рэчы. *Я чуць ні пыціряў сваё куплянньня: карзінычка зьехыла с калёс, дык пачуў, як ударілыся.*

КУПЧЫЙ 1 *прым.* Куплены. *Цяперя ўся адзежа кýпчыя, нічога ня ткуць самі і ня шыюць.* 2 *м.* Аматар купляць. *Січас кýпчый зыявіцца ў горыд, усяго ныбярець.*

КУРАПЁНАК, КУРАЛЁНАК *м.* Жабяня. *Пыт капустыю многа курапёнкыў. Лі ґаньк віджу, курапа чорныя, вядзець пяць куралёнкыў. Памянш.* КУРАПЁНАЧАК, КУРАЛЁНАЧАК. *Многа курапёнычкыў ны гародзі, ну ніхай, курапы кымароў ловюць. Ён і ат куралёнычка пыбягіць уцікаць, храбрец такей.* КУРАПЯНЯТЫ, КУРАЛЯНЯТЫ *мн. Малыму і курыпіняты аньцівесны. Па бульбі курылінят як насыпына. Памянш.* КУРАПЯНЯТКІ, КУРАЛЯНЯТКІ. *Відзіш, курыпіняткі прыгыюць, іх ні нада трогыць. Многа курылінятык, аткуля яны ўзяліся, нейдзі вывіліся.*

КУРАПІСТА *прысл. метаф.* Нязграбна. *Ні люблю,*

*кылі хто курáпіста пычынаіць дзелыць, ніхай луччы саўсім ні бярецца.*

ҚУРАПІСТЫЙ *прым. метаф.* Нязграбны. *Яны абоя курáпістыя, усё дно як хто нарошня сыбіраў ды пáры.*

ҚУРАЧҚІН *прым. памянш.* Такі, які мае адносіны да курыцы. *Ня йдзі, тамá кýрычкіна гнязьдзечка, іна зьнясецца і яечка табе будзіць.*

ҚУРДУПЕНЬ *м.* Нізкарослы чалавек. *Пахомыў курдýпінь схваціў кабылу, зáцімна було, відна, за сеным паехылі.* ҚУРДУПЕНЬҚА, ҚУРДУПҚА *ж.* *Звала тая курдýпінька маю ў ягыды, а ёй некылі йіціць. Ого, зь естыю курдýпкыю ня дужа пыгаворіш, іна табе горла пірігрызець. Памянш.* ҚУРДУПАЧҚА. *Во табе й курдýпычка: атхваціла хлопца за ўсю дзярейню.*

ҚУРНАСАВАТЫЙ *прым.* Қрыху курносы. *Помніш, тыкая курнусувáтыя мыладзіца зыхадзіла ґ Бурсучонку, дык яе ўзяў Лукерын сын. Памянш.* ҚУРНАСАВАЦЕНЬҚІЙ. *У Гулубчонка трі дзевычкі, як адна курнусувáцінькія.*

ҚУРНОСІҚ *м.* Қурносы чалавек. *Ныталычкін курносік пыдбіваіць к тваёй дачке клінкі. Памянш.* ҚУРНОСІЧАҚ. *Што етыму курносічку нада у Рыдзівоныўкі?* ҚУРНОСҚА *ж.* *Некуды пабегла яго курноска, ці ні ў Жыріціно, іна часта там цётку атведывыіць. Памянш.* ҚУРНОСАЧҚА. *Тая курносычка нешта аць цябе атвырачывыіцца, лідыгышчанскія хлопцы ёй гылаву закруцілі.*

ҚУРЧ *м.* Қорч. *Ці тхорь у Лаўрініхі у етых курчáх сядзіць, ці айдзе ён жывець.*

ҚУРЧЫЖҚА, ҚУРЧЫЖЫНА 1 *ж.* Невялікі корч. *Қурчы́жкі ны дваре выляюцца, іх пабіць нада. Ні знаю, ці рызаб'ецца ета курчы́жына, іна дужа крепкыя.* 2 *м.* і *ж. перан.* Старая, скурчаная асоба. *Рымацізма скруціла, ляжыць курчы́жка ны палу, чуць паверніцца. Во каму я, тыкая курчы́жына, нада, гывbooкі і ны дачку, і зы дачку. Памянш.* ҚУРЧЫЖАЧҚА, ҚУРЧЫЖЫНҚА, ҚУРЧЫЖЫНАЧҚА. *Хвырастку увапхну, а наверьх уськіву курчы́жычык, ладна гыряць. Хуць вазок курчы́жынык прівязьлі, і то добря, у печы усё пыгаріць. Асталіся малінькія курчы́жынычкі, іх і калоць ні нада.* ҚУРЧЫЖҚА *н. зб. перан.* Старыя, скурчаныя асобы. *Асталыся ў дзярейні адно курчы́жжа, кыня запрежч некыму.*

ҚУРЫЦЬ *незак.* Паліць у пограбе расліны з едкім пахам (звыч. палын), каб выгнаць грызуноў. *А што, і*

*погріб куріць нада ўмець, ато й сам астанісься тама.* КУРЫЦЦА *незак.* Дыміць. *Адна гылавешка куріцца ў печы, а ўсё пыгарела.*

КУРЭННЕ *н.* Спальванне ў пограбе раслін з едкім пахам (звыч. палыну), каб выгнаць грызуноў. *Ікая польза с твайго куреньня, калі ўвесь дым с погріба выходзіць.*

КУРЭЦ *м.* Пятля ў лапці. *Сьпірва аборы ў курцы́ ўцягывылі, а тады і лапці нубувалі. Памянш.* КУРЧЫК. *У малінькіх лапцікых былі малінькія ку́рчыкі, толька цяперь лапцей ніхто ні знаіць.*

КУСАВАЛ *м.* Вялікі кавалак. *Кусува́л сала атваліў, на хлеб і кытануў на вуліцу. Памянш.* КУСАВАЛІК, КУСАВАЛЬЧЫК, КУСМАНОК, КУСМАНІК, КУСМАНЧЫК. *Ні сьцісьняюцца, бяруць пу кусува́ліку пы ладныму. Яно б і ты ат кусува́льчыка ні аткызаўся. Во табе кусманок выжыріный. Мой кусма́нік смашнейшый. Вазьміця пу кусма́нчыку пірыга зь мёдым. Павеліч.* КУСАВАЛІШЧА, КУСМАНІШЧА. *Атрезыў во такей кусува́лішча хлеба і пабег, айдзе ён столька зьесьць, сыбакым пырыскідаіць. Сідзяць ны палу, пу кусма́нішчу пірыга ў руках дзіржаць.*

КУСТОЎКА *ж. жарт.* Самагон. *Ета ты нарошня гылавою круціш, ты б і ат кустоўкі ні аткызалыся. Памянш.* КУСТОВАЧКА. *Ты яму луччы кустовычкі бутылку прінясі, яму будзіць большы па ўкусу.*

КУСЦЮГА *м.* Вялікі куст. *Ты пыглядзела б, ікая бульба, сядзіць кусьцю́га во зь ету шайку.*

КУСЮГАН, КУСУГАН *м.* Вялікі кавалак, участак. *Во такей кусюга́н булкі зьеў. Адбілі ім кусюга́н зямлі, бяры, хызяйнічый. Тут якій кусуга́н кідаім і там ня сеім. Павеліч.* КУСЮГАНІШЧА. *Бягіць с кусюга́нішчым хлеба, некылі пад'есьць у дваре.*

КУХАВАРНІЧАННЕ *н. жарт.* Кухарства. *Пыглідай, што яны тама с агнём твыряць, ато будзіць кухува́рнічыньня, як пыжару надзелыюць.*

КУХАВАРНІЧАЦЬ, КУХАВАРНІЧАЦЦА *незак. жарт.* Кухарыць. *Кухува́рнічыў ён тама сам, як хацеў. А Коля наўчыўся кухува́рнічыцца, як баба стаіць кыла печы.*

КУХВА *ж. эмац.* Распаўнелая жанчына. *Пашлі дзьве ку́хвы, адна ня спышыцца і другая ні зашпіліцца.*

КУЦОБАЧКА *ж. памянш.* Кукса. *Рука была вісока*

*ацьсечына, шашкыю сіканулі, куцобычка кылы пліча асталыся.*

КУЦЫНЬКІЙ, КУЦЫНЕЧКІЙ *прым. памянш.* Кароценькі. *Жала я тую восінь кыла Дукывыга аборка авёс, візала кýцынькія снапкі. Наресьця вы мне малёсінькій венічык, кýцынічкій-кýцынічкій такей, малінькій венік.*

КУЧОМКА *ж.* Непрычасаныя валасы. *Твыя кучомка, відна, ат роду нячэсыныя, валосься ажно пылямчылыся.*

КУЧЫШЧА *ж.* Вялізная куча. *Як Стахоўшчыну рыспахывылі, нугуртувалі кýчышчы кареньня зь зямлёю.*

КЫЦЬКА *ж.* Кошка (у размове з дзецьмі). *Твыя кыцька дужа рузмудрела: толька я с хаты, іна пы скамейкых, пы дзіванчыку, пы стылах і пышла, і пышла мушурувацца. Памянш.* КЫЦІЧКА, КЫЦІНЬКА, КЫЦЯ. *Замёрзла кыцічка, курняўкыіць пыдзь дзьвірямі, пагрецца просіцца. Што б ты дзелыў, каб ня ета кыцінька зубуўляцца. Ні мані, твыя кыця пышла ны работу: мышэй лавіць.*

КЭМСАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Скамячаны, збузаваны. *Кэмсыныя тряхольля выляіцца кучыю.* 2. Пабіты, натоўчаны. *Можа, трошку і кэмсыный, я ні знаю, сам ён ні пыхваліцца.*

# Л

ЛАБАВЭЙ, ЛАБАВЫЙ *прым.* Вуглавы на страсе (пра лату). *Лыбавэй крюк усігда выбіраіцца кряпчэйшый, на ім большыя цяжысьць. Лыбавыя крюкі апкоріны.*

ЛАБІНА *ж.* 1. Вялікі лоб. *Ух, лабіна, хуць аршыным мерій!* 2 *перан.* Пагорак. *Ны самый лабіні нічога росьць ня хочыць, яе ні ўсігда й пыхалі.* 3 *перан.* Тарцовы схіл страхі. *Лабіну аттуль, ат поля, вецір ўзыдраў, нада лезьць пупруўляць. Памянш.* ЛАБІНКА. 1. Пагорачак. *Лабінка ня дужа крутая, ну бальшэй дождж яе змуваў.* 2. Тарцовы схіл страхі. *Абея лабінкі слубуватыя, нада пірікрывацьусё пыдряд.*

ЛАБУДЗІШЧА *ж. павеліч.* 1. Хлам. *У сенцых куча лубудзішчы, ніхто ня возьміцца прібрацьу.* 2. Пустазелле, быллё. *Пы гароду лубудзішча пырысла, некыму ні палоць, ні прібіраць.*

ЛАБУЗ *м. гумар.* Гультай. *Ай, што зь яго возьміш,*

*лабу́з ні піріработыцца. Памянш.* ЛАБУЗІК, ЛАБУЗОК. *Такей самый лабу́зік пыдрыстаіць. Ну што, лубузок, сам хворыст ня хочыць сецца. Узмацн.* ЛАБУЗІНА, ЛАБУЗЮГА. *Во расьцець лубузіна, работы ат яго бацька ні дажджэцца. Будзіць лубузю́га, калі жонка накорміць, дык пад'есьць, сам ны сябе ні заробіць. Павеліч.* ЛАБУЗІШЧА. *Такога лубузішчу пыіскаць толька па сьвету, і то ня дужа найдзіш.* ЛАБУЗЗЕ, ЛАБУЗЗЁ *н. зб. Што гываріць, лабу́зьзя, нажруцца і кычаюцца дзень пут кустамі. Лубузьзё нішчасныя, хто зь імі ужывець калі.*

ЛАБЯК *м.* Тарцовы схіл страхі. *У мяне тэй лыбя́к, ат вербыў, стаў прыцікаць, ріманьцірывыць нада. Памянш.* ЛАБЯЧОК. *Лыбячкі вузкія, іх трудней крыць.*

ЛАВАШНЫЙ *прым.* Магазінны. *Цяперя ўсе носюць ла́вышныя, сымытканыга ужо ні знаюць.*

ЛАГАВІНА, ЛОГАВІНА *ж.* Сухадольны луг. *Раншы зу Шумянічымі, пат Хроімыву гару, была быльшая лыгаві́на, а цяперя нічога ні асталыся, рыспыхалі. Тута пырядышныя логывіна, яны многа сена ныкашывыюць кажный год. Памянш.* ЛАГАВІНКА, ЛОГАВІНКА. *У іх вузінькыя лыгаві́нка зы дзяреўнію, ну трыва на ёй дужа расьцець, кажный год коп пітнаццыць ныгрібаюць. Малінькыя логывінка, раншы сьвіньней пасьвілі, пірярыта ўсігда была.*

ЛАДНАВАТА *прысл.* 1. Значна. *Хлеба атваліў луднува́та, ны траіх хваціць.* 2. Нядрэнна. *Луднува́та зьдзелыў: у пятлю ўлез, цяперя выцягывый яго, як хочыш. Памянш.* ЛАДНАВАЦЕНЬКА. *Луднува́цінька просіць зы карову, іна столька ня стоіць.*

ЛАЗБЕННЕ, ЛАЗБЯННЁ *н. зб. груб.* Лбы, галовы. *Лазьбеньня ны плічах носюць, а думыць ні пра што ня хочуць. Бугаі цігаюцца с кынца ў канец, толька лызьбяньнё бліщчыць.*

ЛАЗОБАЧКА *ж. памянш.* Невялікая цэласная бочачка для захоўвання мёду. *Раншы якея толька трясцы ні було ны бызарі — і шаічкі, і лазобычкі, і сыныпря́тку можна було купіць, і мытавіла, і сукала, а січас німа нічога.*

ЛАМАННЕ *н.* Праезд па ворыву баранной адзін раз. *Якоя ж лума́ньня, кылі дайжа ня відна, ці была тут бырына, ці ні було.*

ЛАМАННІК *м.* 1. Той, хто ламае. *На вербу узьлезьлі і абламывыюць сучкі, дам я етым лума́ньнікым.* 2. Той,

хто займаецца ламаннем ворыва. *Луманьнікым дыстаецца, як находзюцца пы каўріжжу, ногі зыбыляць.* З перан. Капрызнік. *Етыга луманьніка усе знаюць, яму ні ўсігда слова уладзіш скызаць.* ЛАМАННІЦА *ж.* 1. Тая, што ламае. *Во яшчэ луманьніцы, гатовы ны цяремушыну лезьць.* 2. Тая, што займаецца ламаннем ворыва. *Ці твыя луманьніца праехыла быраною, ці кот у ваду плюнуў,— ета усё роўна, сьледу ніякыга німа.* 3. Капрызніца. *А што кылі луманьніца, маліцца я ны яе луманьня должын ці што.*

ЛАМАЦЦА *незак. перан. іран.* Капрызнічаць. *Во ўсе, сколька ёсьць іхніга прірodзьдзя, усе так прівыклі лумацца.*

ЛАНКІН *прым.* Такі, які належыць ланцы (мажной жанчыне) або мае да яе адносіны. *Усе ланкіны ўборы пыразьвешыны, іна німала чаго нуспруўляла зы пасьледнія ўремя.*

ЛАНПА *ж.* Лямпа. *І цяперя біз ланпы нільзя, буваіць, лектра патухніць, дык нада чым прісьвяціцца. Памянш.* ЛАНПАЧКА. *У Зьмітраковых была нібальшэнькыя ланпычка з ручкыю, дужа удобная. Павеліч.* ЛАНПІШЧА. *Я тожа тую ланпішчу помню.*

ЛАНТУШШЫКА *н. памянш.* Вантробы. *Пастой-ка ты, пакуля лантушшыка ні прібрана, нікуды мне іціць нілізя.*

ЛАПАТКА *ж.* 1. Прылада для перакідкі зерня пры ручным веянні. *Веілі усігда лупаткымі, некытырыя былі сьпяцы іх дзелыць.* 2. Мянташка. *Касу войстрюць лупаткыю, а можна і брусочыкым вайстріць.*

ЛАПАТУНОК, ЛАПАТУНЧЫК *м. памянш.* Балбатун. *Лупутунок мальчык, усё ўремя нешта лапочыць, толька ні рызыбраць што. Увесь чыста лыпатунчык па дзеду, дайжа выхыдка таго.* ЛАПАТУШКА, ЛАПАТУШАЧКА *ж.* *Ах ты, маліцькыя лыпатушка, сколька новысьціў пырысказывыла дзеду. Вот табе другая лыпатушычка, слухый яе, іна табе і казык рыскажыць, і песін ныпяець.*

ЛАПАТУШОК *м.* Сытая істота. *Ладный мальчык лупутушок. Кыціняты як лупутушкі, яе ссуць, такея поўныя, то-то маткіна мылако.*

ЛАПІЦЦА *незак.* Латацца. *Як тута ў цябе лапіцца, ты ж акуратней прішывай, каб роілым ні стыяла.*

ЛАПКА *ж.* Галінкі бярозы з лісцем (для веніка). *Для дзеда іціць у лапку быў цэлый празьнік. Памянш.*

ЛАПАЧКА. *Як харошыя ла́пычкі нарежыш, і венікі акуратныя пулучаюцца.*

ЛАПУН *м.* Той, хто хапае, лапае. *Ах ты, лапу́н нішчасный, а пу руках ці хочыш? Памянш.* ЛАПУНОК, ЛАПУНЧЫК. *Во табе й на, якей сь цябе лупунок пулучаіцца. Не, лапу́нчык, глядзі, у мяне ты жыва пы лапкых схваціш.*

ЛАПЦЁНАК *м. зніж.* Лапаць. *Знаіш, як мы жылі,— найдзіш ны сьмяцьціішчы лапцёнкі, зыкывірза́іш, прібу́ісься і пабег на вуліцу. Памянш.* ЛАПЦЁНАЧАК. *У іх некыму було лапцёнычка сплесьць.*

ЛАСКУТОК, ЛАСКУТОЧАК *м. памянш.* Ласкут, латка. *Ці ня выбіріш ты шубёнку з лускуткоу́, нада було б мальца цяплей надзець. Адзін лускуточык найшоу́, ды ён малінік, а дзірька вілікуватыя, каб большый найціць.*

ЛАХМАНІНКА *ж.* Рызман. *Якую-небудзь лыхманінку накінь на плечы, каб ні так прымякнуць.*

ЛАХМОЦЦІКА *н. зб. памянш.* Рызманы. *Лахмоцьціка пыд ныгамі ні нада кідыць, учыся прібірацъ зы сабою.*

ЛАШЧЫННЕ *н. зб.* Лагчыны. *Етый кусок ніважный, далі адно лашчы́ньня, як мокрый год, дык жалься божа, што сеілі.*

ЛЕБЯДА *ж.* Лебяда. *Памянш.* ЛЯБЁДКА. *Нарву бяремца лябёдкі, укіну пырысятым, яны й спакойны. Павеліч.* ЛЕБЯДЗІШЧА. *Пыніла у́сё лібядзі́шча, спасу німа яе ірвацъ, усё дно як пасеіна, гоніць яе і гоніць.*

ЛЕБЯДЗІНІНА *ж.* Адна расліна лебяды. *Відзіш, ікая лібядзі́ніна вырысла, ужо семя зывізалыся, рьві, пакуля ні пасьпела. Памянш.* ЛЕБЯДЗІНІНКА. *Пы краю ны грядзе прыбіваюцца лібядзінінкі, іна, халера, пладлівыя.*

ЛЕБЯДОВЫЙ *прым.* Зарослы лебядой. *Ад дуччыцкія дарогі усё поля лібядовыя, каб ні знау́, што ета, падумыу́ ба: нешта пасеіна.*

ЛЕГКАВІЧОК, ЛЕГКАВІЧОЧАК *м. памянш.* Легкавая аўтамашына. *Учора мае коцюць, коцюць ны ліхкывічку́, ета іх Сярьгеіу́ маліц падвёз. У яго мулюпасінькій ліхкывічочык.*

ЛЕДНЯ *ж.* Лядоўня. *Мы многа секлі лёд, пакуля навозіш ледні у́ горыдзі, з духу выб'ісься.*

ЛЕЗЦА *незак. Зал.-бессуб'ект. ад* лезць (лезці).

*Лёхка табе лезлыся ны бярёзку, а цяперя пыглядзі на штонікі, на што яны паходжы.*

ЛЕІ *мн. перан.* Бакенбарды. *Нейкій пріїжджаў к Сахроныввым як пан: леі пы быках ат віскоў, як раншы було.*

ЛЕПЛЯНУЦЬ *зак.* 1. Заляпіць. *У кычарежніку высыпылыся, ліпляні гліныю, тады забеліцца.* 2 *перан.* Ударыць. *Ніхай ба ліплянýла каромісьлікым, знаў ба, як кідыцца.* ЛЕПЛЯНУЦЦА *зак.* 1. Заляпіцца. *Каб во тут ліплянýлыся трошку, і ладна було б.* 2. Упасці, ударыцца. *Астарожна, тама коўзка, ліплянесься — увесь задзелыісься.* ЛЕПЛЯНУТЫЙ *дзеепрым.* 1. Залеплены. *Кыла коміна на столі слаба ліплянýта, нада злазіць луччы зыляпіць.* 2. Ударамы. *Ніхай ужо змоўкніць, ліплянýта і зьнёс.*

ЛЕПЯЦЕНЬ *м.* Балбатун. *Ліпяцень твой ніяк ні ныбалмочыцца, нешта Мікілыінятым зыліваіць.*

ЛЕСКАТАННІК, ЛЕСКАЦЕННІК *м.* 1. Той, хто ляскоча. *Што тэя ліскытáньнікі дзелыюць, каб ні пулумалі чаго. Крікні ны ліскаценьнікыў, ніхай успакоюцца троху.* 2 *перан. неадабр.* Балбатун. *Узноў сыйшліся ліскытáньнікі, у іх ужо, верна, мызалі ны ізыках ад былбатні. А якея ж яны ліскаценьнікі, ізыкі буўтаюцца у абоіх як ніпыдвязыныя.* ЛЕСКАТАННІЦА, ЛЕСКАЦЕННІЦА *ж.* 1. Тая, што ляскоча. *Ета малыя ліскытáньніца нешта мысьцяріць. Ці ты ня чуіш, узноў твыя ліскаценьніца ваюіцца.* 2. Балбатуха. *Цягніцца Ступачонкыва ліскытáньніца, нясець новысьці. Пастой, пыдажджы, можа піряслухыіш етых ліскаценьніц.*

ЛЕСКАТУХА *ж. неадабр.* Балбатуха. *Кылі хочыш, схадзі паслухый Дзім'янёнкыву ліскатýху, іна там ат пуўдня зыліваіцца.*

ЛЕТАЧКА *н.* Лецейка. *Пасьці ўсё летычка прывылялыся с папечынымі ныгамі, такоя горя мне выпыла.*

ЛЕТЫ *мн. эмац.* Гады. *Трахімывы дужа бальшыя леты, яму пырядышна зы дзівяноста.*

ЛЁГЛЫЙ *прым.* Палеглы. *Пасьці ўвесь ячмень лёглый, дажджы прібілі ґ зямле, як яго будзіць жаць.*

ЛЁЖМА *прысл.* Лежачы. *Што яму атходзіць, кычаіцца лёжма дзень пры дні.*

ЛЁЗКА *н. памянш.* Лязо. *Ныточый лёзка ў ножыку, хуць брыйся, такоя войстрыя.*

ЛЁМЦЯ *м.* і *ж. эмац.* Няўмека. *Ныўряд, каб тэй лёмця памог што-небудзь, яго нада сымаго дзіржаць,*

*каб ні зваліўся. Павеліч.* ЛЁМЦІШЧА. *Відзіш, як лёмцішча зьдзелыла, усё нада пірядзелывыць.*

ЛЁЦЬМА *прысл.* Лётам. *Толька пыркні, куры лёцьма ліцяць, знаюць, што чаго-то сыпнеш.*

ЛІНУЦЬ *зак.* Наліць крыху. *Ліні мне ложкі дзьве крупені, куляшу я ў рот ні хачу, мне ат яго дренна.*

ЛІПЕННЕ *н. метаф.* Нетрываласць. *Яго такоя ліпеньня: толька што дышыць, хату чуць пярёйдзіць.*

ЛІПУЧЫЙ *прым. перан.* Заразны. *Ета хвароба ліпýчыя, пысядзіш кыла хворыга, пыгаворіш і можыш зыразіцца.*

ЛІСАВА *прысл.* Рахмана, ветліва, абыходліва. *Ён сы ўсякім умеіць лісáва абыйціцца. Памянш.* ЛІСАВЕНЬКА. *Дужа лісáвінька ходзіць кылы сваіх зяцёў.*

ЛІСАПЕТ *м.*, ЛІСАПЕТА, ЛІСАПЕЦІНА *ж.* Веласіпед. *Калі-то і лісапет быў чуда, пірянінскій хлопіц пыд'іжджаў ны лісапеці пуд узгорычык, дык мы дзівіліся. Помніш, у Кывалёнка была лісапета, ён дываў пыкытацца. Купіў сабе лісапеціну нейкыю, уся пывыкручывыныя, рузукрашыныя, ня езьдзіць, а толька любувацца. Памянш.* ЛІСАПЕЦІК, ЛІСАПЕТКА, ЛІСАПЕЦІНКА. *Каб ты ні балывыўся, і ў цябе б харошый лісапецік быў. Цяперя ў многіх лісапеткі ёсьць, дзеці дык у школу езьдзіюць. Дабіў сваю лісапецінку да ручкі, некуды на ёй ехыць. Павеліч.* ЛІСАПЕЦІШЧА. *Нейкій у яго ні такей лісапецішча, як усе, здыравушчый і адззаду як быгажнік прідзелын.*

ЛІСОРА, ЛІСОРЫНА *ж.* Рысора; рысоры. *Ня відзіў я твае лісоры, нашто іна мне. Мы яго помнім: у лісорі усё рызыіжджаў. Нічога ты зь лісоріны ні скуеш. Памянш.* ЛІСОРКА, ЛІСОРЫНКА. *Ета лісорка ач чаго-то, цяперя іна ні нада, у лом дзеці здадуць. Любіў ён рыскатывыцца ны лісоркі, бувала, ляціць як віхырь. У вуглу кылы саломы ліжалі ці ні лісорінкі, пыглядзі тама.*

ЛІСОРНЫЙ *прым.* Рысорны. *Ны лісорным хаду кыляска была, то адзін коціць, то другей.*

ЛІТРУХА *ж.* Літровая бутэлька. *У мяне была літрýха, усігда у луг мылыка нылівалі. Памянш.* ЛІТРУШКА. *І мне каб такую літрýшку, няплоха було б.*

ЛІХАТА *ж.* Нягоды, няшчасце, ліха. *Ліхытá як нываліцца, дык атмучыіська уволю.*

ЛІШНАСЦЬ *ж.* Лішак. *Мырчанок быў акуратный шчытавод, ні нідыстачы, ні лішнысьці ў яго ні було, усё цюцілька ў цюцільку схадзілыся.*

ЛОБ *м. перан.* Здаравяка. *Такей лоб мог ба ны два гады сена ныгатовіць, а ён і зы касу ні ўзяўся. Узмацн.* ІЛБІНА. *Рузгудуваўся ілбіна, зьдзелыць нічога ні прітуркыіш, а есьць смашна пыдывай. Павеліч.* ІЛБІШЧА. *Вылежывыюцца дзень ілбішчы, а тады на́ ныч ідуць мурцувацца.*

ЛОДАРСТВА *н.* Лодарнічанне, гультайства. *Чаго мой ні любіў — дык ета лодырьства, ну гультаёў пряма глядзець ня мог.*

ЛОМ *м. метаф.* Нязграбы, недарэкі. *Якея там дзеўкі, лом астаўся, не ш чыга выбіраць.*

ЛОМКІЙ *прым. перан. іран.* Капрызны. *Ён ломкій, як дзяўчонка, дайжа губы так зыкапылівыіць.*

ЛОПАННЕ *н. перан. груб.* 1. Яда (як працэс). *Я відзіла яго лопыньня: хвытаіць, аж давіцца.* 2. Ежа. *Пакуля ныгатовіш лопыньня, ат рук ацстаніш.*

ЛОТРЫНА, ЛОТРЫШЧА *м* і *ж.* Гультай, абібок. *Ну й лотріна чылавек, як толька ён на сьвеці жыць будзіць. Ні трілюдзьця вы пры замуж, хто такую лотріну возьміць. Жджыця, сыты будзіця, накорміць лотрішча і сыма пад'есьць.*

ЛОШЧАНЫЙ *дзеепрым.* Глянцаваны. *Мае простых ня хочуць, зыгыдалі лошчыныя цітрадзі ім купляць.*

ЛУК *м.* Дугападобнае прыстасаванне ў пярэдняй частцы драўлянай бараны. *Помню, дзед ґ дзірівянный быране прікручывыў лазінью лук такей сагнутый, пулукругым.*

ЛУПАШАННЕ *н.* Лупцоўка. *Ні баіцца ён твайго лупа́шыньня, пабег і ўсё, ці ты яго дагоніш.*

ЛУПАШАНЫЙ *дзеепрым.* Лупцаваны. *Ці лупа́шыныя, ці нілупа́шыныя, яны ўсё рыўна ня слухыюць, ці ім скажыш, ці вецір вяйнець.*

ЛУПІЦЬ *незак. перан.* Рваць, шкуматаць. *Ны малых ні спруўляісься купляць нічога, лу́пюць адзежу, як гаріць на іх.* ЛУПІЦЦА *незак.* Рвацца, шкуматацца. *Чаму ж ня будзіць лупіцца, калі ён і ны яблыну, і ны прясла, і ны ўсякій усьпяцень лезіць.*

ЛУЧЫЦА *ж.* Мясцовы гатунак віна «Прамяністае» («Лучистое»). *Некытырыя лучы́цу хвалюць, а мне іна ні ныравіцца.*

ЛЫБ *выкл.* Пра хуткі погляд. *У адзін бок лыб, лыб, а тады у другей бок.*

ЛЫБЛЕННЕ *н. асудж.* 1. Нахабны погляд. *Якоя праціўныя лы́бліньня ў яго, ныхальныя нейкыя.* 2. Здзек-

лівая ўсмешка. *Усігда ходзіць так, з лыбліньнім, каб толька путкусіць каго.*

ЛЫК-МЫК *выкл.* Пра няўмелае выказванне. *Стаў, лык-мык і гыварíць большы нечыга.*

ЛЫНДЗІЦЬ *незак.* Швэндацца. *Сколька ён сыбіраіцца лы́ндзіць, няўжэлі ў яго нісколічка совісьці ні асталыся?*

ЛЫШНЫЙ *прым.* З лыка. *Малый едзіць і прíказыіць: баба, бірягі лы́шнюю пугу, а бізь яе табе будзіць хужы. Памянш.* ЛЫШНЕНЬКІЙ. *Дзед як сплящець лы́шнінькія лапцікі, во ўжо я рада.*

ЛЮБАПЫТНІК *м.* Цікаўны чалавек. *Ні нада быць такім любапы́тнікым, ета ня дужа красіва. Памянш.* ЛЮБАПЫТНІЧАК. *Ах, якей ты любапы́тнічык, усё табе дужа аньціресна.* ЛЮБАПЫТНІЦА *ж.* *Ну любапы́тніца ж, лезіць усюдых іс сваім носым, што ты зьдзелыіш.*

ЛЮХТ *м.* Адтуліна, акенца. *У хундаміньці вакенца прарезына, во табе й люхт.*

ЛЯБЕРТ *м.* Сыты, поўны хлапчук. *Крысначыхін ляберт такей. У яго пара дзяцей, дзяўчонка і хлопіц, здаровый, як ляберт якей. Памянш.* ЛЯБЕРЦІК. *Бегыіць лі двыра, нічога ляберцік, мурзатый-мурзатый. Узмацн.* ЛЯБЕРЦІНА. *Глянь, якей ляберціна ўзяўся Цімашонкыў меншый унук, як пуцук бегыіць. Павеліч.* ЛЯБЕРЦІШЧА. *Мальчынка ладный ляберцішча, гадоў ці ня сем ужо, можа і ў школу ходзіць.*

ЛЯГЕНІНА *ж.* Частка вантробаў. *Кінь якую-небудзь лягеніну кошкі, ніхай ні крічыць. Памянш.* ЛЯГЕНІНКА. *Вун ны скамейкі нейкыя лягенінка асталыся.*

ЛЯГЧАНЫЙ *дзеепрым.* Кастрыраваны. *Мае быранкі ліхча́ныя, нідаўна кынывал хадзіў, выклыў.*

ЛЯГЧЫЦЦА *незак. перан.* Цяліцца. *Карова ішчэ ні ляхчы́лыся, рана, ёй урем'я у нычалі марта будзіць.*

ЛЯДАЕК *м.* Лядачы чалавек. *Якей ні ліда́ік, усё мушчына, самой за ўсім-усякім ні нада глядзець.* ЛЯДАЙКА *ж.* *Нашто б яму тая дзяўчонка, іна ліда́йка, ікая зь яе жонка, січас ні выходзіць з бальніцы. Памянш.* ЛЯДАЕЧКА. *Во ўсё гыварілі: ліда́ічка, ліда́ічка,— ён даўно ў магілі згніў, а йна ліпіць і ліпіць.*

ЛЯДАЦЬ *незак. эмац.* Быць слабым, ледзь жыць. *Відзіў учора ў Каробчыні Марью, ішчэ ліда́іць чуцьчуць.* ЛЯДАЦЦА *незак.* 1. Быць слабым, ледзь жыць. *Ціхон ужо слаб, толька што ліда́іцца на сьвеці. 2. Зал.-бессуб'ект.* ад лядаць. *Як табе на новым месьці ліда́іцца?*

ЛЯДЦА *н. памянш.* Ляда. *Зу кустамі ат аборка харошыя ляцца, можна б скасіць, лядныя трыва ядомыя.*

ЛЯНЦЁШКА *ж.* Пшанічны хлеб. *Бобыріха умела смашныя ляньцёшкі печ, дзеці ажно аб'ідаліся.*

ЛЯПІЦЬ *незак. перан.* Даваць, абкладаць, прысуджаць. *Крута ўзяўся новый стыршына, лепіць штрах налева і ныправа.*

ЛЯПНУЦЬ *зак. эмац.* Знікнуць, згінуць. *Ікая ні была кыравёнка, прыдаў, напіўся у горыдзі, сь кім ён там піў, ну грошыкі ляпнулі ды капейкі.*

ЛЯРВІНА, ЛЯРВІШЧА 1 *м.* і *ж.* Гультай, абібок. *Ох, ля́рвіна чылавек, паліц ап паліц ударіць ня хочыць. Кычаіцца ля́рвіна днямі ны пасьцелі, матка яе корміць. Ікая ля́рвішча зыдылася, тады ўчыцца ні хацела, цяперя ні к я́кыму дзелу ні прітуркыіш.* 2 *ж.* Распусная жанчына. *Пы маткі пышла ля́рвіна, тую вылачылі пы рывах ды пу буграх. Пріiжджала ж ля́рвішча зь нейкім ухажорым, іх у яе ужо ці ні зь дзісятык пірібуло.*

ЛЯСКАННІК *м.* Той, хто ляскае, стукоча. *Чуіш, па нейкыму жалезьзю малоцюць ля́скыньнікі.* ЛЯСКАННІЦА *ж.* *Як возьміцца ля́скыньніца, дык у яе ўсё гудзіць.*

ЛЯЧЭБНІК *м.* Лекар. *Што табе лячэбнікі скызалі сяньня? Іван у Клімывічых учыўся, цяперя лі скыта лячэбнік.*

# М

МАДЗЕЦЦА *незак.* Цяжка жыцца ў неспрыяльных умовах. *Ці чулі, як тама Іваніхіный сьвякрові мадзеіцца на новым месьці.*

МАЗДАЧАННЕ *н. эмац.* Няўмелае аранне. *Крікні, каб кынчаў мызда́чыньня, сам вазьмі плуг ды ўспашы.*

МАЗДАЧЫЦЬ, МАЗДАЧЫЦЦА *незак. эмац.* Няўмела араць. *Паедзіць мызда́чыць кругом яблын, пыбдзіраіць вальком кару. Мызда́чыўся часы трі, троху ускывіряў, зь яго такей пыханьнік.*

МАЙСТРАВАННІК, МАЙСТРЭННІК *м.* Той, хто майструе. *Глядзіця, муйструва́ньнікі, зломіця бацькыву пілку, дык будзіць вам лупка. Майстреньнік ні на шутку узяўся зу тубуретку. Памянш.* МАЙСТРАВАННІЧАК, МАЙСТРЭННІЧАК. *Пылажы-ка ты, муйструва́ньнічык, тыпарок, ні пасек ногі, дык пысякеш. Во яшчэ адзін май-*

*стреньнічык на помышч ідзець.* МАЙСТРАВАННІЦА, МАЙСТРЭННІЦА *ж. Відзіш, ікая зь мяне муйструвáньніца, зьніла палічку, а ызад іна ні лажыцца. Каб сюда другая тыкая майстреньніца, і толк ба быў.*

МАЙСТРЫЦЬ *незак.* Майстраваць. *Што тама ўзяліся майстріць малыя, каб яны пальцы сабе ні пыдбівалі.*

МАЙСТРЭННЕ *н.* Майстраванне. *Ні знаю, ці палучыцца што зь яго майстреньня, сьпіцыяліст ён халодный.*

МАҚАВЕІ, МАҚАВІНЫ *мн.,* МАҚАЎЕ *н.* Праваслаўнае рэлігійнае свята 1 жніўня. *Самыя ўборка была, мой большый радзіўся ікраз ны мыкавеі. Баба гываріла, што Зьмітрок ны мáкывіны радзіўся, я ні знаю, калі яны. Ета старыя людзі празьнікі помнюць, яны і мáкыўя знаюць.*

МАҚАНУЦЦА *зак.* Макнуцца. *У краску мыканесься локцім, тады нічым яе ні ататреш.*

МАҚАЦЁРЫҚ, МАҚАЦЁРЧЫҚ *м. памянш.* Макацёр. *Мыкацёрік астарожнінька нясі, ні ўпусьці, ён дужа удобный пірімяніцца ш чым. Я мыкацёрчык квасолі нулузкала, ніхай пры зіму стаіць, зваріцца калі.*

МАҚУНЬ *выкл.* Пра мачанне. *Макýнь рукою ў цугунчык, а тама кіпяток, кожа с пальцыў зьлезла.*

МАЛАВУМНЫЙ *прым.* Неразумны, безразважлівы, са слабым розумам. *Паспробый з мылавýмным чылавекым дыгываріцца, ён цябе сысквярніць і большы нічога.*

МАЛАВУМСТВЕННА *прысл.* Безразважна, па-дурному. *Каб падумыў, так ба мылавýмствінна ня зьдзелыў, ні сьмяшыў людзей.*

МАЛАДЗЁНЫ *мн.* Другі дзень каляд. *Тама я ні знаю, а ў нас другей дзень кыляд зваліся мыладзёны.*

МАЛАҚАВОЗЧЫҚ *м.* Малакавоз. *Летым мылыкавожчыку нічога, а раньнію вясною па бездырыжы крепка намучыіцца.* МАЛАҚАВОЗЧЫЦА *ж. Мылыкавожчыца гываріла, што зымясьціціля усе дужа ня хочуць, ніхто ні пругулусуваў зы яго.*

МАЛАЛЕЦЦЕ *н.* Маленства. *Нам мылалецьця рана кончылыся, у пытпаскі з васьмі гадоў пашлі.*

МАЛАХОЛЬНІЧАННЕ, МАЛАХОЛЬСТВАВАННЕ *н.* Безразважнасць, дзівацтва, дурнота. *Сядзь-ка ты і ўспакойся, ато тваё мылахольнічыньня дужа ныдаела. Ны мылахольствывыньня сколька ні глядзі, дык яно мыла-*

*хольствывыньня, праўду гаворюць: з дурука дурноя плувецъ.*

МАЛАХОЛЬНІЧАЦЬ, МАЛАХОЛЬСТВАВАЦЬ *незак.* Паступаць, рабіць безразважна, па-дурному. *Іна ўсю жысьць мылахольнічыіць, ікая ў яе рызвага. Ні мылахольствый ты як старыя варона, ні пляці пустога.*

МАЛАЦІЛКА *м.* і *ж. перан.* Балбатлівая асоба. *Штоб мушчыні такою мылацілкыю быць! Пычынаіць мылацілка свае трілюды, слухый яе, кылі хочыш.*

МАЛАЦЬБІК *м.* Малацьбіт. *Мылыдзьбікі стыялі ґ боку ат машыны, і я зь імі трошку прістоіла. Памяниш.* МАЛАЦЬБІЧОК. *Во якей мылыдзьбічок вырыс, ладна цэпым круціць.* МАЛАЦЬБІЧКА *ж. Запыхыліся мыладзьбічкі, аддыхаюць кучыю, ета вам ні вічарінка.*

МАЛАЧЭННЕ *н.* 1. Малацьба. *Мы ўсігда стыряліся мылачэньня раншы кончыць, а тады лёд вазілі.* 2 *перан.* Грукат. *Чую: нейкыя мылачэньня ны дваре, выскычыў — а ета малыя лупюць кірьпічыныю пы бляхі.* 3 *перан. эмац.* Разбіванне, біццё. *Ні ырваўся на тэй случый Хведзька, даў ба ён Шуріку мылачэньня, так ба ўспакоіў, што зарёкся б мылаціць посыд.* 4 *перан. неадабр.* Балбатня. *Піряслухыць Полькіна мылачэньня дужа трудна.*

МАЛОШНАЕ *субст. прым.* Прыгатаванае на малацэ. *Мне доктыр гыварії, каб большы малошныя ела. Пасьці адным малошным пітаіцца.*

МАЛЬЧОНАК, МАЛЬЧОНКА *м.* Хлапчук. *У яе, знаць, адзін мальчоных, ат первыга мужука. Яе мальчонка пырядышный, гадоў дзьвінаццыць, калі ня большы.*

МАЛЮПАНЬКІЙ, МАЛЮПАНЕЧКІЙ *прым.* Вельмі маленькі. *Ідзець тыкая малю́пынькыя дзяўчонычка, спрашыю, чыя ты, пішчыць: «Мамкіна». Ні купляй малю́пынічкія тухількі, іх і дзіцёнку ні надзеніш.*

МАЛЮТАЧКА *м.* і *ж. іран.* Дарослая асоба, якая паводзіць сябе па-дзіцячы. *Скора ў сваты пывядуць, а ён усё малю́тычка.*

МАМУЛЯ *ж. іран.* Маці. *Што ж вы хочыця, іна для ўсіх маму́ля, пакуля зь ёю ні пысаветыюцца, нічога ня дзелыюць. Памяниш.* МАМУЛЬКА, МАМУЛЕЧКА. *Яго маму́лька ўзілася вухріць, наўчыць жыць на сьвеці. Маму́лічка Дырашонкыва нешта доўга ім дукувала.*

МАМЫР *м.* Надзьмуты, капрызны чалавек. *Ліксандрёнкый мамы́рь рысхаджыіцца, слова па-людзку ні прыгаворіць. Памяниш.* МАМЫРОК. *Як бальшэй, мымырёк*

*дуіцца, дажджэсься ат такога пуця. Павеліч.* МАМЫРЫШЧА. *С тваім мамы́рішчым ня дужа пысаветы́ісься.* МАМЫРКА *ж. Ат мамы́рькі слова ні даб'есься. Памянш.* МАМЫРАЧКА. *Рана стала мамы́річкыю.*

➾ МАНЕННІК *м.* Той, хто падзывае (жывёлу, птушку). *Ці так жа монюць, такога маненьніка куры ні паслухыюць. Памянш.* МАНЕННІЧАК. *Ах ты, маненьнічык, ціпляты цябе быяцца.* МАНЕННІЦА *ж. Як возьмуцца утрёх маненьніцы, як распырькыюцца, яны пыўдзяреўні змонюць.*

МАНТУЛ *м. эмац.* Непаважаны чалавек. *Якея манту́лы, як сыбяруцца, дык госпыдзі, госпыдзі, як ты іх ны зямле дзержыш.* МАНТУЛЛЕ *н. зб. Каму ваша манту́льля нада, пры якея вы сваты трілюдзіця.*

МАРАЗЯКА *м.* Вялікі мароз. *Мырызя́ка бярецца на ноч, пайду курей браць у хату, памерзнуць у пунькі.*

МАРДЗЯГА *ж. павеліч. эмац.* Твар, морда. *Сьціпаніхін сын пріехыў са сьвету: рызадзет як кымісар, мырдзя́га — во, я чуць пызнаў.*

МАРЗАННЕ *н.* Запэцкванне, вымазванне. *Пулюбуісься на іхныя мырза́ньня, якімі яны зыявюцца січас у хату.*

МАРЗАЦЬ *незак.* 1. Запэцкваць, вымазваць. *Відзіш, што твыряць,— ужо грязь пычалі мырза́ць ны сьцяне.* 2 *перан.* Біць далонню па твары. *Не, ня думый, ня будзіш ты мырза́ць, каго ні пупадзеш.* МАРЗАЦЦА *незак.* Запэцквацца, вымазвацца. *Астарожна кыла печы, тама ўсё зыкапцелыя, мырза́іцца.* МАРЗАНУЦЬ, МАРЗЯНУЦЬ *зак.* Запэцкаць, вымазаць. *Нейдзі мырзану́ў рукаў, ці ні сальныя нешта, ні аць ціраіцца. Ты айдзе-то свой пінжак мырзяну́ў адззаду.* МАРЗАНУЦЦА, МАРЗЯНУЦЦА *зак.* Запэцкацца, вымазацца. *Як мырзанесься полымі, стануць грязныя, нікчомныя. Глядзі, каб ні мырзяну́цца, дзёгыць ні аччысьціш нічым.* МАРЗАНУТЫЙ, МАРЗЯНУТЫЙ *дзеепрым.* 1. Запэцканы, вымазаны. *Як ты ні пынімаіш, што ета мырзану́та аб нешта сальныя. Штаны тваe у якую-то грязь мырзяну́ты.* 2. Ударaны далонню па твары. *Троху па мордзі мырзану́та, ніхай ні пыцскакыіць. Стаіць, лыпыіць мырзяну́тый.*

МАРКАТАННІК *м.* Мармытун. *Айт, нейкій мыркыта́ньнік, адно слова рызьбяреш, а пяць ня пойміш. Памянш.* МАРКАТАННІЧАК. *Сыбраліся два мыркыта́ньнічкі, паймі, што яны турлычуць.* МАРКАТАННІЦА *ж.*

*Паслухый, што мыркытáньніца рысказыіць, нешта дужа аньцірэсныя.*

МАРКОЎНІК *м.* 1. Піражок з морквай. *Мыя матка усігда смашныя маркоўнікі пікла.* 2 *гумар.* Ахвотнік да морквы. *Я сваім маркоўнікым сьпіцыяльна сею моркву, яны любюць і йна палезна. Памяниш.* МАРКОЎНІЧАК. 1. Піражок з морквай. *Вот каб ты сьпікла ны дарогу маркоўнічкыў, хырашо було б зьесьць.* 2. Ахвотнік да морквы. *Ах вы, мае маркоўнічкі, я вам січас апчышчу па морквінкі.* МАРКОЎНІЦА *ж.* Ахвотніца да морквы. *Яе маркоўніца морквыю аж зытыхаіцца.*

МАРЦАВАННЕ *н.* Гуллівыя паводзіны. *Ета возрыст такей, ім адно мурцувáньня на ўме.*

МАРЦАВАЦЬ, МАРЦАВАЦЦА *незак.* Паводзіць сябе гулліва. *На што другоя не, а мурцувáць яны ахотнікі. Я іх січас атаўчу мурцувáцца, я іх!*

МАСКОВЕЦ *м.* Жыхар Масквы або чалавек, які пабываў у Маскве. *Сядзіць мушчына і дзяўчонычка стаіць, ці ета маскоўцы, ці другея пріехылі к Пытапёнкывым.* МАСКОЎКА *ж. Куды к ёй пытыкацца, іна маскоўкыю стала, знацца с табою ні захочыць.*

МАСЛЕННЕ *н. перан.* Падлізванне. *Як яму ні ныдаесьць мáсьліньня кылы нычальства, кылы кажныга кошкыю трецца.*

МАСЛІЦЦА *незак. перан.* Падлізвацца. *Такей падліза, хто яму нада будзіць, лі таго мáсьліцца, ны задніх лапкых ходзіць.*

МАСЛЯНЫЙ *прым.* 1. Масляністы. *Бярі бліны, яны хырашо мáсьліныя і яшчэ сахырым сыпнуты.* 2. Запэцканы ў тлустае рэчыва. *Ні хвытай мáсьлінымі рукамі рушнік, вымыйся як нада.* 3 *перан.* Ветлівы, падыходлівы. *Якей мáсьліный Высілёнык, к кажныму паткоціцца, пыгаворіць.*

МАСЛЯНЭЙ *прым.* Запэцканы ў тлустае рэчыва. *Астарожна бяріся, шморін мысьлянэй, можыш адзежу вымызыць.*

МАСЦЯВАННЕ *н. перан.* Дараванне. *Не, ны Сьвірідыва мусьцювáньня ні надзейся.*

МАСЦЯВАЦЬ *незак.* 1. Даваць у масць (пры гульні ў карты). *Ты харошый гулец, усігда мне масьцю́іш пад віні.* 2 *перан.* Дараваць. *Доўга табе мусьцювáлі, ну глядзі, на етый раз пачэшуць бакі.* МАСЦЯВАЦЦА *незак.* 1. Ісці ў масць (пры гульні ў карты). *Усё ўремя табе мусьцювáцца ня будзіць, во й зьнімаіш.* 2. Даравацца.

*Дойга ім мусьцювáлыся, ды хваціць, штрах заплóцюць.*

МАСЦЯРЭННІК *м.* Той, хто майструе. *Мысьцяреньнік с Купацёнка ніважный, што грубыя можа зьляпыў ба. Памянш.* МАСЦЯРЭННІЧАК. *Нешта клепіць ваш мысьцяреньнічык.* МАСЦЯРЭННІЦА *ж. Ета мысьцяреньніца ні знаіць, як зы тапор узяцца, а ня то пачыніць скамейку.*

МАТАЛЫЖНІК, МАТАЛЫЖАННІК *м.* Круцель, падманшчык. *Каб я знаў, што Кісялёнык такей мыталы́жнік, я б зь ім ні зьвязывыўся. Твой друг, верна, такей самый мыталы́жыньнік, як Хадоскін зяць.* МАТАЛЫЖНІЦА, МАТАЛЫЖАННІЦА *ж. Дайжа нікрасіва бабі быць такою мыталы́жніцыю. Якога ты хочыш дыждацца толку ат мыталы́жыньніцы.*

МАТКІН *прым.* Матчын. *Мáткін пінжачок на гвозьдзіку. Мáткіна дачушка, ні ны шаг ат хвыста ні астаецца.*

МАЎЧАЛІВЫЙ *прым.* Маўклівы. *Ён усігда такей муўчалíвый, слова зь яго ня выцігніш. Памянш.* МАЎЧАЛІВЕНЬКІЙ. *Не, Патапёнык ні ўсігда муўчалівінькій.*

МАЎЧУНОК, МАЎЧУНЧЫК, МАЎЧУНОЧАК *м. памянш.* Маўчун. *Зь ім дужа ні пырызгыварівыіш, муўчунок. Сьцісьняіцца маўчýнчык зь дзеўкымі бяседывыць, ніхай пыдрасьцець трошку. А муўчуночык мой, ну рыскажы бабі, айдзе ты быў, што відзіў.*

МАЎЧУХА, МАЎЧУННЯ *ж.* Маўклівая дзяўчына, жанчына. *Ні знаю, па ком іна зыдылася тыкая маўчýха. Яны ўсе маўчýньні як матка, а хлопіц будзіць гываріць ні сьціхаючы.*

МАХАЦЦА *незак. перан.* Бегаць, насіцца. *Ночычку, як астаніцца ў хаці, іна мыхáіцца, іна і на стол, і ны дзіван — тыкая збродлівыя кошка.* МАХНУЦЦА *зак.* Укінуцца. *Ны біряжку гулялі, а тады малый неік махнуўся ў сажылку, хырашо, Пынаськоў увідзіў — выцігнуў.*

МАХЛАВІТЫЙ *прым. метаф.* Бяздумны, ветраны. *Іна дужа мыхлавíтыя, зь ёю дутулкувацца ні кажныму ўдасца. Памянш.* МАХЛАВІЦЕНЬКІЙ. *Нявеста б іна нічога была, ну што ж ты зьдзелыіш, трошку мыхлавíціцькыя.*

МАХЛАК, МАХЛЯК *м. метаф.* Ветраны чалавек. *Мыхлáк што хочыш ляпніць ні падумыўшы. Мішка па ём, дужа ціхій, а тэй мыхляк, увесь мама. Памянш.*

МАХЛАЧОК, МАХЛЯЧОК, МАХЛАЧОЧАК, МАХЛЯЧОЧАК. *І сын такей самый мыхлачок, як бацька. Што ж ты зьдзелыіш, раз мыхлячок урадзіўся. Будзіць гурювáць з мыхлачочыкым. Думыюць жаніць свайго мыхлячочыка.* МАХЛАЧКА, МАХЛЯЧКА *ж. Закрый гасподзь, каб с такою мыхлáчкыю другей раз я зьвязывыўся. Усігда іна была мыхлячка, зь дзявоства сквызьняк у гылаве сьвістаў.* МАХЛАЧЧА, МАХЛАЧЧО *н. зб. Мыхлáчча хвытаіць усюдых, ты думыіш, твае Быбріняты луччыя. Адно мыхлаччо асталыся, німа путніга чылавека слова скызаць.*

МАХЛЯ *ж.* Дурніца. *Што з мáхлію пыгаворіш, кылі іна слухыць нічога ня хочыць. Павеліч.* МАХЛІШЧА. *Мáхлішча ўрадзілыся, вецір у гылаве ні пірістаець гуляць.*

МАХЛЯРАННЕ, МАХЛЯРНІЧАННЕ, МАХЛЯРСТВАВАННЕ *н.* Жульнічанне, ашуканства. *Яго нада крепка нылаіць зы мыхлярíньня, каб большы ні дурачыўся. Кідай-ка ты мыхлярнічыньня, дуратою век ні прыжывеш. Мы быйстра рускусілі яго мыхлярствывыньня.*

МАХЛЯРЫНА *м. узмацн.* Махляр. *Ну і мыхлярíна Клімасёў большый, так апкруціў Івана, што зьдзівіцца нада.*

МАХЛЯРЫЦЬ, МАХЛЯРНІЧАЦЬ, МАХЛЯРСТВАВАЦЬ *незак.* Жульнічаць, ашукваць. *Чаму ні наўчуцца, а мыхлярíць — етыга у іх ні пытаць. Якей зь яго толк, усю жысьць мыхлярнічыў і к старысьці ні адумыўся. Так наўчыўся мыхлярствывыць, у яго дайжа вочы бегыюць.*

МАХЛЯЎКА *ж.* Махлярка. *Думыіш, мыхлявык меншы стала, іх яшчэ большы рызьвялося. Памянш.* МАХЛЯВАЧКА. *Відзіш, ікая мыхлявычка твыя суседка.*

МАХРАЧЫК *м. памянш.* Трапкач. *Мыхрáчыкыў цяперя ніхто ня шыіць, ні пляцець, яны цяперя ні нада.*

МАЦЮГАННЕ *н.* Лаянка матам. *Схадзі, кылі хочыш, і ты, паслухый Андреіва муцюгáньня.*

МАЦЮГАННІК *м.* Той, хто лаецца матам. *Сымаго каб ладна атмуцюгаў етыга муцюгáньніка, ато ні знаіць, пы якому сьвету ходзіць.* МАЦЮГАННІЦА *ж. Ладныя муцюгáньніца, паслухый яе, умеіць пы-сыбаччы.*

МАЦЮГАЦЬ *незак.* Лаяць матам. *Ні пыніла, за што, ну крепка муцюгáў Пынасёнык Гыраську.* МАЦЮГАЦЦА *незак.* Лаяцца матам. *Як табе ня стыдна муцюгáцца пры людзях, совісьць у цябе пацеріныя.* МАЦЮГНУЦЬ

*зак.* Аблаяць матам. *Тэй пычаў трілюду несьць, а Напрей як муцюгнець яго!* МАЦЮГНУЦЦА *зак.* Вылаяцца матам. *Паслухыў іх лухту, муцюгнўўся і пашоў двору.* МАЦЮГАНЫЙ, МАЦЮГНУТЫЙ *дзеепрым.* *Муцюганый ат'етуля пойдзіш, яй-богу, муцюганый. Ну я муцюгнўтый, а ты не, ты добрінькій.*

МАЦЮКНУЦЬ *зак.* Аблаяць матам. *Нашто ўжо Кусьцючонык ня любіць лаінкі, а тут ня выдзіржыў, муцюкнўў свата.* МАЦЮКНУЦЦА *зак.* Вылаяцца матам. *Еткій гармідыр пыдняўся, слова ні рызыбраць, ён муцюкнўўся і пашоў с хаты.* МАЦЮКНУТЫЙ *дзеепрым.* *Муцюкнўтыму нялоўка стала, пыкрасьнеў.*

МАЧА *ж.* Макрота. *Вазьму цэмінту, рызьвяду з глінью, зымажу, тады комін ні баіцца ні мачы, нічога.*

МАЧОНАЧКА *ж. памянш.* Скарынка хлеба, размочаная ў страве. *Ты малінькім любіў мачонычкі зь дзедым есьць, ён табе рызмачывыў.*

МАЧЫНА *ж.* Асобная расліна маку. *Нескылька мачын асталыся ны пасьледній грядзе, ніхай сідзяць збоку.* *Памянш.* МАЧЫНКА. *Кідай ны грідах мачынкі, лі бызён яны ня будуць цубулі мішаць.*

МАШЧЭННЕ *н.* Патрапленне ў масць (пры гульні ў карты). *Большы ны машчэньня ні надзейся, сядзі іс сваімі хрісьцямі.*

МЕКАЦЬ *незак.* Мычаць. *Цёлычка мекыіць, піць просіць.* МЕКАЦЦА *незак.* Мычацца. *Астаўся бычок адзін, мекыіцца яму.*

МЕЛЬКАВАННЕ *н.* Меркаванне. *Ці палучыцца што з вашыга мількуваньня, усё можыць пайціць хіньню.*

МЕЛЬКАВАННІК *м.* Той, хто мяркуе. *Мількуваньнік ён харошый, толька думыць ня дужа хочыць.* МЕЛЬКАВАННІЦА *ж.* *Во ікая сь цябе мількуваньніца: паехыў Кустусёнык і ні ўзяў нікога ны калёсы.*

МЕЛЬКАВАЦЬ, МЕЛЬКАВАЦЦА *незак.* Меркаваць. *Мількуюць, мількуюць і мне купюць вахлі, знаюць, што я есьць ня буду, ім аддам. Мы мількуімся на той нядзелі атвярнуцца ў ягыды.* МЕЛЬКАВАНЫЙ *дзеепрым.* *Ня слухый ты, нічога ў іх ні мількувана, ета абы тріпацца.*

МЕЛЬКАНУЦЬ, МЕЛЬКАНУЦЦА *зак.* Мільгнуць. *Нехта мільканўў зы дарогыю, я ні пызнаў, хто там. Мільканўўся зу дубамі чылавек, уродзі б Кымшачонык, а можа й ня ён.*

МЕСЦІНА *ж.* Месца. *Во тут яны кычаліся, і месьці-*

*на відна, ладна вытыптына. Памянш.* МЕСЦІНКА. *Рябінькыя бегыіць, сакочыць, ніяк ні пыдбярець месьцінку зьнесца.*

МЕТНА *прысл.* Прыкметна, заметна. *Воць цяпера метна зьдзелына, дайжа я сваімі сьліпыкамі віджу. Памянш.* МЕТНЕНЬКА. *Ныдзяўбывый, каб було метнінька.*

МЕШАНКА *ж.* Прыплод свойскай жывёлы, атрыманы ад скрыжавання розных парод. *Ета цёлка мешынка, бык зь нейкія нямецкія пароды, а карова зь ірыславык.*

МЕШАНУЦЬ *зак.* Памяшаць крыху. *Мішані палычкыю, унізу мусыр, ніхай ба ён пыгарэў. Ці мішанўла ты крупеню?* МЕШАНУЦЦА *зак.* Памяшацца крыху, замяшацца. *Ніхай пысідзяць пырысяты, пазьней мішанецца, яны нідаўна елі, ні галодны.* МЕШАНУТЫЙ *дзеепрым. Айдзе мішанўта, там ні заплесьнівыла, а пысярёд плёнкыю узялося.*

МІРСКІЙ, МІРСКЕЙ *прым. перан.* Выдатны. *Ён мірскій чылавек, ну зь ім нада умець ладзіць. Мірскея хлопцы былі калі-то у нашый дзярэўні, зь імі можна було куды хочыш.*

МІРЭННІК *м.* Той, хто мірыць. *Січас падойдзіць Тачылін міреньнік, ён вас паміріць.* МІРЭННІЦА *ж. Каб узяў мятлу ды мятлою усіх міреньніц с хаты, во ладна б зьдзелыў.*

МІСІШЧА *ж.* Вялікая міса. *Далі чаго такую місішчу було дзелыць, ета ны сям'ю чылавек ны пітнаццыць.*

МІТУЛЬГА *м.* і *ж.* Спрытная, рухавая асоба. *Такей мітульгá яе хлопіц, шустрей, кажыцца, німа. Бувала, прібягіць ны Мшару, як мітульгá карову падоіць.*

МІТУШЫЦЦА *незак.* Мітусіцца. *У мяне калі нічога, а другей раз у вычах пычынаіць мітушыцца, усё рыўна як буўтаіцца нешта.*

МЛАДЗЕНЕЦ *м.* Запаленне мозгу ў дзіцяці. *У нашыга мальчыка младзеніц быў, яму толька трі нядзелькі споўнілыся. Памянш.* МЛАДЗЕНЧЫК. *Ат младзенчыка дзеці ні жывуць, а калі й астаніцца, ён ужо ні чылавек.*

МЛЯВА *прысл.* 1. Млосна. *Усё клыпачу пы дзіцях, ну душэ мляве і млява.* 2 *перан.* Слаба, невыразна. *Нешта лі кустоў мітаіцца, ды млява відна.*

МОЗАК *м.* Мозг. *Любіць дыстываць мозык с касьцей, увесь як вымыжыцца, хуць з мылым яго атмувай.*

МОК *выкл.* Пра мачанне. *У мылако хлебым мок і ў рот. Схваціла і мок яго рукою ў вареньня.*

МОРКВІНА *ж.* Адна расліна морквы. *Быльшая морквіна вырысла міс цыбулі.* *Паманш.* МОРКВІНКА. *Вырьві ны грядзе морквінку, апчысць і зьеж, сьвежыя морква палезна.*

МУДРАНЕЦЬ *незак.* Мудрэць, разумнець. *Каб ён мудрянеў ны харошыя дзела, а ну дурноя нечыга мудрянець.*

МУДРЫЦЦА *незак. эмац.* 1. Намервацца. *Мудрі́ўся устроіцца ў кантору, ды нешта ні пулучылыся ў яго.* 2. Ладкавацца. *Ні знаю, як яно мудрілыся, ну піріiжджаць у горыд Сызанок ня думыў.*

МУЖЧЫНІШЧА *м. павеліч.* Мужчына. *Разьдзелыўся мушчы́нішча, морда красныя, лысіна блішчыць, плечышчы хуць аршыным мерь.*

МУЗДА́ННІК *м.* Той, хто кілзае. *Вазьмі сам дай каню грузьдзіла, етый музда́ньнік будзіць да беда вазіцца.* МУЗДАННІЦА *ж. Сядзь, музда́ньніца, конь крутнецца ды кыпытом дасьць.*

МУЗДАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Закілзаны. *Дужа дурнэй конь, яго музда́ныга дзяржы — ня ўдзержыш, а бяз грузьдзіла і ні зыпрігай.* 2 *перан.* Пабіты. *Ці раз яму пупыдала, хочыш, і сяньня музда́ный явіцца.*

МУЗДЫЧАННЕ *н. эмац.* 1. Размова ў непаразуменні. *С твайго муздычыньня ікраз еткій самый толк будзіць,— нічога ты ні даб'есься.* 2. Бойка. *Яшчэ б ні такоя було музды́чыньня, каб мушчыны ні рызьвялі.*

МУЗДЫЧАННІК *м. эмац.* 1. Той, хто гаворыць у непаразуменні. *Схадзі сам паслухый гляішчынскыга музды́чыньніка, пляцець — ні знаіць што.* 2. Той, хто б'е або пагражае пабіць. *Уніміцца етый музды́чыньнік, нашы хлопцы толька пыглідзяць — і ён зумуруіцца.* МУЗДЫЧАННІЦА *ж.* 1. Тая, што гаворыць у непаразуменні. *Адна глухувата і другая нідачуіць, сойдуцца дзьве музды́чыньніцы, адна пры сваё, другая пры сваё, слухыць іх — жывая указэя.* 2. Тая, што б'е або пагражае пабіць. *Ну канешня, ты самыя гіройскыя музды́чыньніца, луччы цябе німа.*

МУЗДЫЧЫЦЬ *незак.* 1. Гаварыць у непаразуменні. *Пыдыйшлі зысыжані, дывай зь ім музды́чыць, што там і як було.* 2. Моцна біць. *Як узяліся яго музды́чыць, ён толька вярцеўся як уюн.* МУЗДЫЧЫЦЦА *незак.* 1. Гаварыць у непаразуменні. *Музды́чыліся, музды́чыліся, чуць дыгывaріліся, ніяк ні маглі да толку дайціць.*

2. Моцна біцца. *Сяньня яны ўзноў ці ні муздычыліся, нешта крік быў у тым канцы.*

МУРАЎЁ *н.* Мурашнік. *У бочку мураўё і вару туды, сталі дзелыць ванны, і ванны вылічылі яго, ато саўсім ні стынавіўся.*

МУРЗАЦЦА *незак. перан.* Псавацца (пра надвор'е). *Нешта надворья му́рзыцца, каб дождж ні пашоў, сухенькыя сена нымякніць.*

МУТАРНА *прысл.* Непрыемна. *Столька адгуляўшы, мутырна брацца зы касу ды за вілкі.*

МУТАРНАСЦЬ *ж.* Непрыемнасць. *Што ты ніяк ня можыш ат му́тырнысьці збавіцца.*

МУТАРНЫЙ *прым.* Непрыемны. *Нейкыя му́тырныя ўремя стала, ніййдзе нічога ні дыстаніш, ні дакупісься.*

МУЧАНІЦЬ *незак.* Абсыпаць мукой. *Ні нада муча́ніць рукі, тады зы пінжачок возьмісься.* МУЧАНІЦЦА *незак.* Абсыпацца мукой. *Нашто табе муча́ніцца, тады будзіш аптрісацца, шчоткыю нада чысьціцца.*

МЫРКАННЕ *н.* Мармытанне. *Думыў, якей-небудзь кот сюда залез, а ета тваё мы́ркыньня такоя.*

МЫРКАЦЬ *незак.* Мармытаць. *Чаго вы тама мы́ркыіця, ляглі спаць, дык сьпіця.* МЫРКАЦЦА *незак.* 1. Мармытаць. *Ляжы ціха, мы́ркыісься ты як кыцянок якей.* 2. *Зал.-бессуб'ект. ад* мыркаць. *Нешта сяньня табе дужа доўга мы́ркыіцца.*

МЫСЛІЦЬ *незак. перан.* Жадаць у думках. *У Мары зылатэй хракцір, іна ўсім дыбра мы́сьліць.*

МЫТАРАННЕ *н.* Нягоды, пакуты. *Хваціла яму мыта́ріньня, пакуля ету хаччыну пріпяў.*

МЫШ *м.* Мыш. *Я палкыю пы мышу́, дык айдзе ты па ём пупадзеш. Мыш пабег у норку.*

МЫШАТЫЙ *прым.* Шэры. *Мы зыпряглі тады кыня, быў мыша́тый харошый конік, шустрый. Памянш.* МЫШАЦЕНЬКІЙ. *Ні бярі мыша́цінькыю жарёбычку, іна можыць рыстріпаць.*

МЯЖДЖУРАННЕ *н.* 1. Раздрабненне шляхам расціскання. *Глянь-ка ны мальцыва мяжджу́ріньня.* 2. Расціснутае рэчыва. *Вытрісь мяжджу́ріньня ў шайку.* 3 *перан.* Прагная яда. *Пыглядзі ны яго мяжджу́ріньня: па ськібкі зразу прецъ у горла.* 4 *перан.* Біццё. *Ні пашло яму ў навуку Гырдзяёнкыва мяжджу́ріньня, узноў лезіць ну кулакі.*

МЯЖДЖУРЫЦЬ *незак.* 1. Раздрабняць шляхам расціскання. *Што вы тамыцька мяжджу́ріця, ета ж бульба*

*парінья.* 2 *перан.* Прагна есці. *Мяжджуріць як ні ў сябе, яму гатовіць — нада адзьдзельныю кухарку прістыўляць.* 3 *перан.* Біць, таўчы. *Як сталі мяжджўріць етыга кывалера, дык ён чуць выкруціўся.* МЯЖДЖУРЫЦЦА *незак.* 1. Раздрабняцца шляхам расціскання. *Саўсім сырыя зірняты, яны ня мелюцца, а мяжджўрюцца, жорны ні пукруціць.* 2. Прагна есціся. *Вун як у яго мяжджўріцца.* МЯЖДЖУРАНЫЙ *дзеепрым. Нешта мяжджўріныя, ні рызыбраць што.*

МЯКУШ *м.* Мякіш. *Я скарінкі ні ўкушу, а мае мальцы, ныбарот, мя́куш ня любюць. Памянш.* МЯКУШАК. *Можа табе мя́кушку даць, кылі зуб зыбалеў.*

МЯКЮСЕНЬКІЙ, МЯКЮСЕНЕЧКІЙ *прым. памянш.* Вельмі мяккі. *Хлеб мякю́сінькій, толька сь печы выніт і ні пыдгарелый. Мякю́сінічкія пряснушкі, дайжа маімі зубамі і то есьць можна.*

МЯЛІЧКА *ж. памянш.* Церніца. *Дзед зьдзелыў акуратнінькыю мя́лічку, дуб выкапывыў, каб ножкымі кыряні былі.*

МЯЛЛЕ *н.* Кастрыца. *Мя́льля пробывылі скату слаць, у печы палілі, яно нікуды ні нада. Памянш.* МЯЛЛІКА. *Мя́льліка сколька ня ёсьць, пыдгрябі ў кучку.*

МЯНЯЛЬНІК *м.* Мяняла, мянялышчык. *Пірімяніў быка ны індыка, міня́льнік замурзыный.* МЯНЯЛЬНІЦА *ж. Ета міня́льніца як возьміцца, бобу ны гарох нымі-няіць.*

МЯТКА *ж. памянш.* Мята. *Яны многа далі мя́ткі, кызаў, пряма кучыю сыпылі.*

МЯТЛЯННЕ *н.* Абкідванне, метляванне. *А то гляджу, што тваё мітля́ньня можыць і ґ заўтріму ня кончыцца.*

МЯТЛЯННІК *м.* Той, хто абкідвае, абмятлёўвае. *Сь цябе можыць пулучыцца луччый мітля́ньнік, як з бабы.* МЯТЛЯННІЦА *ж. Зь яе тыкая мітля́ньніца, іна іголку ў руках ці дзіржала зы маткіныю шыію.*

МЯТЛЯЦЬ *незак.* Абкідваць, метляваць. *Я рукаўкі мітля́ю, січас кончу і можыш ныдзіваць, ета рубашка многа цяплейшыя.*

МЯШУЛКА 1 *ж.* Мяшалка. *Што туўкачом разьмешывыць, скажы стыріку, ніхай мяшу́лку апцешыць.* 2 *м.* і *ж. перан. гумар.* Непаваротлівая асоба. *Во мяшу́лка ходзіць, такому пывярнуцца нада падумыць ды падумыць. Пывылыклася некуды Сахроныва мяшулка. Памянш.* МЯШУЛАЧКА. *Апкаріў палку бярёзывыю — во табе й мяшулычка.*

# Н

НААБІДЖЫВАЦЬ, НААБІДЖАЦЬ *зак.* Пакрыўдзіць шмат, многіх. *Цімка многа ныабіджывыў дзевык, ніхай яму лёгінька ікнецца. Ныабіджаіш ты мальца, што бацька цябе атлупіць.* НААБІДЖЫВАЦЦА, НААБІДЖАЦЦА *зак.* Выразіць моцную крыўду. *Ну што ты ныабіджывыісься, кылі сыма большы ўсіх вінувата. Што ўжо ныабіджаўся Хліманок ны дзядзьку свайго.* НААБІДЖАНЫЙ *дзеепрым. Ну як жа ня будуць ныабіджыныя, кылі тэй кінуў іх галым галюсінькімі. Ня бойся ты, Краўцовы дочкі ныабіджаными ні астануцца.*

НААПЕЧЫЦЬ *зак.* 1. Паапекаваць. *Ныапечыць ён чужога дзіцёнка, калі сваіх ня дужа хочыць глядзець.* 2 *перан.* Пабіць. *Яго ладна ныапечылі, дурь з гылавы троху выгнулі.* НААПЕЧЫЦЦА *зак.* Паапекаваць. *Што ён ныапечыцца, есьлі як глумак нейкій, ні ў чом ні рызьбіраіцца.* НААПЕЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Паапекаваны. *Гывари ты, ныапечыный, кылі дзядзька ня дужа хочыць глядзець.* 2. Пабіты. *Сяньня ў іх так ні абойдзіцца, ныапечыныя пыбігаць ат'етуліцька.*

НААХМУРАЦЬ, НААХМУРЫВАЦЬ *зак.* Нападманваць. *Ныхмуряіця, што голінькія прібігіцё. Так вы ўсіх пыдряд і ныахмурівылі, лыўкачы такея.* НААХМУРАЦЦА, НААХМУРЫВАЦЦА *зак.* Нападманвацца. *Веріш ты, ныахмуряўся ён, можа сымаго ахмурялі, як пасьледніга рытазея. Пыглядзіш, як яны ныахмурівыюцца с колтыўскімі хлопцымі.*

НАБАГАВАЦЬ, НАБАГАВАЦЦА *зак.* Пажыць прывольна. *Ня дужа і Вуліта нубугувала, с Кыралёнкым жыць було нялёхка. А што ты думыіш, Ракусывы дзеўкі нубугуваліся? — усякія жызьні яны пыспыталі.*

НАБАГАЧЫВАЦЬ *незак.* Рабіць багатым. *Ці нас Мікілаёнык мала ныбыгачывыў: прішоў, карові вярёўку на рогі і павёў.* НАБАГАЧЫВАЦЦА *незак.* Рабіцца багатым. *Мне ныбыгачывыцца ні нада, сколька ёсьць, зь мяне хваціць, а дзеці самі сабе зыработыюць.* НАБАГАЦІЦЬ *зак.* Зрабіць багатым. *Ныбыгаціў цесьць зу курносычку, можна цяперя жыць.* НАБАГАЦІЦЦА *зак.* Зрабіцца багатым. *Біз Антанёнка ты б ныбыгаціўся,— можа біш штаноў ба хадзіў.* НАБАГАЧАНЫЙ, НАБАГАЧОНЫЙ *дзеепрым. Кылі ныбыгачыный, ніхай спыжываіць, нам яго быгаства ні нада. А ні тряпліця вы пустаты, якей*

*ён ныбыгачоный.* НАБАГАЦЁМШЫ *дзеепрысл. Ныбыгацёмшы паехылі ат'етуля.*

НАБАЛАВАНЫЙ *дзеепрым.* Распусны. *Такей ныба́лывыный маліц, мінуткі пысядзець ня хочыць, вылачы яго ну руках і ўсё.*

НАБАЛАКАЦЬ *зак.* Нагаварыць (паціху, паволі). *Табе маскоўцы нечыга аньцiресныга ныбыла́кылі, ці ні пры Сірьпіёнкывых рысказывылі.* НАБАЛАКАНЫЙ *дзеепрым. Нечыга у дыдатык большы ныбыла́кына.*

НАБАРАХОЛІЦЦА *зак. эмац.* 1. Набыць розных рэчаў. *Яе дзеўкі нічога зы пасьледнія ўремя ныбырахолілі-ся.* 2 *перан.* Набалбатацца. *Ці вы тута ні ныбырахолілі-ся, можа пыра кынчаць.*

НАБАЎЛІВАННЕ *н.* Набаўлянне, дадаванне (у размовах). *Я чую, шэпчуцца: шу-шу-шу, Коля едзіць,— тут біз ныба́ўлівыньня ні абыйшлося.*

НАБАЎЛІВАННІК *м.* Той, хто набаўляе, дадае (у размовах). *Ну ніхай ужо баба тріпанець лухту, дык і ён ныба́ўлівыньнік харошый.* НАБАЎЛІВАННІЦА *ж. Біз ныба́ўлівыньніцы ні абыйшлося, ясна, чые словы.*

НАБАЎЛІВАЦЬ *незак.* Набаўляць, дадаваць (у размовах). *Іна ныба́ўлівыіць усякыю лухту, чаго дайжа на сьвеці ні було.* НАБАЎЛІВАЦЦА *незак.* 1. Набаўляць, дадаваць (у размовах). *Абея дужа любюць ныба́ўлівыцца, слова пачуюць, а дзесіць прідумыюць.* 2. Набаўляцца, дадавацца (у размовах). *Можа троху і праўды, а яшчэ большы ныба́ўлівыіцца.*

НАБЕГАЦЬ *зак. перан.* Зацяжарыць, нарадзіць без шлюбу. *Усё круцілыся, вярцелыся, места ні було, пакуля ляльку сабе набегыла.* НАБЕГАНЫЙ *дзеепрым. Айдзе тэй бацька, якей тэй бацька, нейдзі ў кустах, набегыный дзіцёнык, сядзіць, нянчыцца.*

НАБІБАЦЦА, НАБІБКАЦЦА *зак.* Натупацца. *Ці ты ні набі́былыся зы раньня? — сядзь, я рыскажу табе пры Мяцёлкіныга. Як набі́бкыюся за дзень, дык мне ўжо ні да кіныў.*

НАБІЦЬ *зак. перан.* Накасіць няўмела або тупой касой. *Умеіць — ня ўмеіць, а ручкі травы набіў, ні на голых доскых паехылі.* НАБІЦЦА *зак.* 1. Накасіцца няўмела або тупой касой. *Кыса няклёпыныя, ну ношка набі́лыся.* 2. Пабіць шмат разоў. *Яго ўжо сколька і людзі набіліся, і бог ат яго атрёкся, жывець як мыхлак на бе́лым сьвеці.* НАБІТЫЙ *дзеепрым.* 1. Накошаны няўмела або тупой касой. *Трошку травы набіта, сыбярі рукамі і ўськінь сю-*

*да.* 2. Пабіты шмат разоў. *Ты і сяньня, знаць, набітый прішоў, відна, узноў к мальчыкым лез.*

НАБОЕМ *прысл.* Настойліва напрасіўшыся. *Ікая совісьць была іціць набоім к Кузьме жыць.*

НАБОЙ *м.* Настойлівае прапаноўванне. *Ну яе і яе набой, я б сырок узіла, дык іна нікуратна дзелыіць.*

НАБРОДЗІНА, НАБРОДЗІШЧА *м.* і *ж.* Шкадлівая, памаўзлівая асоба. *Кажыцца, быў чылавек як чылавек, а цяперь такей набродзіна стаў, што ні скызаць. Набродзіна дзяўчонка, усё ныпірякор і ныпірякор. І Сенька набродзішча ні пасьледній, нечыга пытхвалівыць.*

НАБРОХ *м. метаф.* Хлусня. *Ня верь ты нічому, ета набрёх, усё сьпіцыяльна прідумына.*

НАБРЫДЗЕЦЬ, НАБРЫДЗІЦЦА *зак.* Абрыднуць. *Набрыдзілі яны мне як горькыя редзька, дужа ныдыядлыя бабы. Ацстань, ныбрыдзеў ты! Другей зы нядзелю набрыдзіцца, што ны яго глядзець ня хочыцца.*

НАБРЫЛЯЦЬ *зак.* Накасіць няўмела, абы-як. *Хуць пыдыслаць сесьць ныбрыляй трошку травы, як жа на голых калёсых ехыць.* НАБРЫЛЯЦЦА *зак.* 1. Накасіцца няўмела, абы-як. *Схадзі пызьбівай кынавы, сколька ныбрыляіцца, столька й ладна.* 2. Стаміцца, косячы няўмела. *Ныбрыляўся зу пуўдня, пысяджу мінутку.* НАБРЫЛЯНЫЙ *дзеепрым.* *Нада сагресьць ныбрыляныю травіцу, высыхніць — ня лішній клок сена будзіць.*

НАБУБНІЦЬ *зак.* 1. Пабарабаніць. *Многа вам етый бубненьнік ні нубубніць, хочыця — засьнець з бубным.* 2 *перан.* Набурчацца. *Нубубніць іна ўмеіць, дужа любіць усіх пувучаць і каб пы-яе усё було.* НАБУБНІЦЦА *зак.* Стаміцца барабанячы. *Абоя нубубніліся ў ахоту, пашлі спаць.* 2. Набурчацца. *А ня трогый, можа набубніцца ды сьціхніць, ато ўзноў зывядзець сваё.* НАБУБНЁМШЫ *дзеепрысл.* Набурчаўшыся. *Ні нубубнёмшы, спаць ні ляжыць.*

НАБУЗІЦЬ *зак.* Пашумець, павычвараць. *Так яны нічога мужукі, а як вып'юць, могуць набузіць.* НАБУЗІЦЦА *зак.* Нашумецца, навычварацца. *Учора яны кылы Шмыярёнка нубузіліся ўволю.*

НАБУРХЫВАННЕ *н.* 1. Збіранне вялікай колькасці людзей у памяшканне. *Мае мушчыны ні любілі набурхывыньня і самі дужа нікуды ні цігаліся.* 2. Накладанне вялікай колькасці. *Нашто еткыя набурхывыньня, увесь воз можыць разьехыцца.*

НАБУРХЫВАЦЦА *незак.* Заходзіць у вялікай коль-

касці ў памяшканне (пра людзей). *Кажын раз набўрхывыіцца людзей у баню, што ні памыцца.*

НАБУХЦІЦЬ *зак.* Наплявузгаць. *Ці знала, ці ні знала, ці чула, ці ня чула — чаго хочыш нубухціць.* НАБУХЦЕЦЦА *зак.* Наплявузгацца. *Ёй нубухцецца нада каб судык двоя, а два часы — што ета, мала.*

НАБУЦЦА *зак. перан.* Набыць абутак. *Я гляджу, каб ґ зіме троху набўцца, каб бысяком ні астацца.*

НАБУШАВАЦЬ, НАБУШАВАЦЦА *зак.* Шмат пабушаваць (пра буру). *Ну й нубушувáла буря, цэлыя судкі рійла ні сьціхаючы. Калі етый вецір нубушўіцца, ні даець сянец аччыніць.*

НАБЯНТЭЖЫЦЬ, НАБЯНЦЕЖЫЦЬ *зак.* Напялегаваць, напесціць. *Ладна вашыга пуцуна ныбянтэжылі, збалывын крепка. Матка ныбяньцежыць, а етыя ня дужа глядзець хочуць, ён тады рявець.* НАБЯНТЭЖЫЦЦА, НАБЯНЦЕЖЫЦЦА *зак.* Напялегавацца, напесціцца. *Ныбянтэжыліся вы зь ім большы некуды. Калі ты ўжо ныбяньцежысься, стыдна такому бальшому.* НАБЯНТЭЖАНЫЙ, НАБЯНЦЕЖАНЫЙ *дзеепрым.* *Відна, што ныбянтэжыный, мінуты ні пысядзіць, пайзець на рукі. Пачом ты знаіш, што етый маліц ныбяньцежыный.*

НАВАДЖЫВАЦЬ, НАВОДЖЫВАЦЬ *незак.* Пачынаць засноўваць. *Іду, гляджу: ён нывáджывыіць сьценкі як бальшэй. Яны пуню будуць дні трі наводжывыць.* НАВАДЖЫВАЦЦА, НАВОДЖЫВАЦЦА *незак.* 1. Пачынаць засноўваць. *Думыюць ськідывыць хату, пычынаюць нывáджывыцца, штындары зыкапывыюць. Кузьмовы наводжывыюцца з нарожнічкым.* 2 *перан.* Намервацца. *Нывáджывыліся у сваты ґ Гыварушкіным, ні знаю, ці пойдуць, ці не. Наводжывыіцца ехыць некуды у Сібірь ґ дзядзьку.* НАВАДЗІЦЦА *незак.* 1. Пачынаць засноўваць. *Мыкар с пунію каторый дзень наводзіцца.* 2 *перан.* Намервацца. *Нывадзіліся купіць Мылашонкыву хату, а тады разым атхацелі.* 3 *перан.* Набываць. *Не, мне ня хочыцца нывадзіцца на ету бульбу, іна нісмашныя.* 4 *перан.* Рыхтавацца, збірацца. *Вічарінка ж будзіць сяньня, дзейкі наводзюцца.* 5 *зак.* Павадзіць доўгі час. *Луччы січас вядзі, ато пустухі далёка загонюць, дык наводзісься.* НАВЕСЦЬ *зак.* Пачаць засноўваць. *Зьмітрок ужо навёй хату, алі ўсё рызьміряіць.* НАВЕСЦА *зак.* 1. Пачаць засноўваць. *Былі нывяліся, ды ўсё ў іх ні пулучаіцца, усё коса выходзіць.* 2. Набыць. *Мы ўжо гады два як нывяліся на етых курей, яны дужа нясушчыя.* 3. Намерыцца. *Ны-*

*вяліся паехьıць у нейкія Сланцы, пыд Лінінград, а што ў іх палучыцца — ні знаю.* 4. Падрыхтавацца, сабрацца. *Абея нывяліся, што хуць січас пыд вянец станоў.*

НАВАДЗІЦЬ, НАВАДЗІЦЦА *зак.* Намуляць. *Нейкія асьцюлькі пупалі зы каўнерь, столька яны нывáдзілі. Буваіць, ікая мелыч нывáдзіцца большы некуды, сучок ці камушык.*

НАВАЙСТРАЦЦА, НАВАСТРАЦЦА *незак. метаф.* Намервацца. *Пірiц свадзьбыю будзіць вечыр у Колтыві, нашы воѓірі нывыйстрáюцца пабежч. Я думыю, што ён жаніцца нывыстрáіцца.* НАВАЙСТРЫЦЦА, НАВАСТРЫЦЦА *зак.* Намерыцца. *Ці ты ня чула, куды яны сяньня нывайстріліся мытануць? Нывастріўся у горыд зьбегыць, а тута усё сырвалыся.* НАВАЙСТРОНЫЙ, НАВАСТРОНЫЙ *дзеепрым. Нашы ходзюць нывайстрёныя. Як нывастрёный, яго пы вычах пызнаіш.* НАВАЙСТРОМШЫ, НАВАСТРОМШЫ *дзеепрысл. Ну куды ж яны, ны вічарінку нывайстрёмшы. Відна, што нывастрёмшы пысваріцца.*

НАВАЛАКІЦІЦЬ *зак.* Памарнаваць. *Яго нывылакíцілі, пакуля усе бумажкі пыпатпісывылі.* НАВАЛАКІЦІЦЦА *зак.* Памарнавацца. *А я, думыіш, меншы нывылакіціўся, зь мяне тожа вылакічыньня хваціла.* НАВАЛАКІЧАНЫЙ *дзеепрым. Кургузёнык тожа ладна нывылакíчыный, стыршына за нос пывадзіў.*

НАВАЛАКЫВАННЕ *н.* 1. Нацягванне, нагрувашчванне. *Нашто ета нывылáкывыньня ўсякыга бырыхла, куды зь ім дзівацца.* 2. Насоўванне (хмары). *Якоя було страшныя нывылáкывыньня, а дождж толька брызнуў.*

НАВАЛАКЫВАЦЬ *незак.* 1. Находзіць у вялікай колькасці. *Чаго іх сюда нывылáкывыіць пыстыянна!* 2. Насоўваць (хмары). *Із-зы Вяхры нывылáкывыіць бальшую тучу, над Лешчынкыю стаіць.* НАВАЛАКЫВАЦЦА *незак.* 1. Находзіць у вялікай колькасці. *Ні пляціся ты, Уласіха ня дужа любіць, што кажный дзень столька нывылáкывыіцца.* 2. Насоўвацца (пра хмары). *Дужа тучы нывылáкывыюцца, халодна стала, глядзі, каб дождж ні пашоў ісь сьнегым.* НАВАЛОЧ *зак.* 1. Найсці ў вялікай колькасці. *Узноў іх нывылакло нівісь сколька.* 2. Насунуць (хмары). *Тучу нывылакло сінію-сінію, хляніць дождж.* НАВАЛОЧЦА *зак.* 1. Найсці ў вялікай колькасці. *Як нывылакецца поўныя хата старых, цэлый дзень бяс толку дурюцца.* 2. Насунуцца (пра хмары). *С таго боку, ат Ходыс, быльшая туча нывылаклáся.*

НАВАЛЯЦЬ *зак. перан.* Пабіць без жалю. *Калі ня ўнімісься іс сваімі дурамі, цябе яшчэ ні так нывыляюць.*

НАВАР *м. перан.* Даход, прыбытак. *Яго зяць — прыспалітный мушчына, глядзіць, каб у любом дзелі нывар быў.*

НАВАРАЧЫВАЦЬ *незак.* 1. Паварочваць, круціць. *Не, ні так ты нывырачывыіш, мы нічога ня дзелыім, а мы вучымся скыкаць.* 2 *перан.* Пачынаць, схіляцца. *Малыя нывырачывыіць гываріць усё рыўна як старыя Хрісьцянчыха.* НАВАРАЧЫВАЦЦА *незак.* Пачынаць, схіляцца. *Мульчуган доўга ні гываріў, а цяперя стаў нывырачывыцца, ладна ляпечыць.* НАВЯРНУЦЬ *зак.* Павярнуць, пакруціць. *Як ты яе скорінька наверніш, кылі іна як тоўба.*

НАВАШАПРУДЗІЦЬ, НАВАШАПРУДНІЧАЦЬ, НАВАШАПРУДСТВАВАЦЬ, НАВАШАПРУДЗІЦЦА, НАВАШАПРУДНІЧАЦЦА, НАВАШАПРУДСТВАВАЦЦА *зак. іран.* Павычвараць, навычварацца. *Як возьмуць мальцы за шкырку, нывышапрўдзіш ты. Ну што, многа нывышапрўднічыў? — во так усігда унімаць нада. Многа ён ні нывышапрўдствыіць, пы шапкі палучыць і ўніміцца. Ну дайця вы яму нывышапрўдзіцца, ніхай пыкажыць, якей ён. Адзін за ўсіх нывышапрўднічыўся, ніяк уняць ні маглі. Ныўряд ці нывышапрўдствывыўся Хвідасёнык, ух, якей ён кастрівый.*

НАВІХЛЕЦЦА *зак.* Папрагнуць. *Ты б відзіў, сколька ён нывіхлеўся кылы стыршыны, думыў, брігадзірым будзіць, а тэй ні пыставіў.*

НАВОДКА *ж.* Навядзенне са злачыннымі намерамі. *Наводка была, цьвёрдыя наводка, усё ім було рысказына, куды лезьць.*

НАВОЗ *м.* Прывоз. *Дужа бальшэй навоз быў, дзёшыва аддывалі, многа ўсяго нывязьлі.*

НАВЫКАБЛУЧЫВАЦЬ, НАВЫКАБЛУЧЫВАЦЦА *зак.* Наскакацца спрытна, з выкрутасамі. *Столька нывыкаблўчывылі, усё выстыўляліся: во як мы ўмеім. Трошку ў чарку нюхнулі, ды ні прішлося нывыкаблўчывыцца.*

НАВЫСКАКЫВАЦЬ *зак.* 1. Выскокваючы, дасягнуць пэўных вынікаў. *Я вас нывыскакывыю голых, еткыя хыладзіна узьнілася.* 2. З'явіцца ў вялікай колькасці. *Нывыскакывыла нейкіх болік пы ўсяму ліцу.*

НАВЫСКАЛЯЦЦА *зак.* Атрымаць здачы за здзеклівы смех. *Нывыскыляўся, пулучыў атвет,— так табе й нада, будзіш знаць, як прысьміхаць.*

НАВЫТВАРАЦЦА *зак.* Нарабіць недарэчнасцей. *Столька ўжо нывытвыря́ліся, што на іх ні глядзіць ніхто, а цёткым ац стыда ні атыбраццa.*

НАВЯЗЧЫВАТЫЙ *прым.* Навязлівы. *Бryндзянок дужа нывя́жчывытый, як смыла прічэпіцца, хуць махылым ат яго мыхайся.*

НАВЯЗЫВАННІК *м.* Той, хто навязвае, прывязвае. *Якей жа ты нывя́зывыньнік, што конь смыргануў клец і пашоў пы пасевых зь вярёўкыю.* НАВЯЗЫВАННІЦА *ж.* *Глядзі, нывязывыньніца, айдзе твой цялёнык разгулііць.*

НАВЯЗЫВАЦЦА *незак.* Прывязвацца для пасьбы. *У абед далёка ні пывядзеш, коні ну лужку нывя́зывыюцца.* НАВЯЗАЦЦА *зак.* Прывязацца для пасьбы. *Нывя́жыцца конь пазьней, ніхай пыстаіць, ён ні галодзін.*

НАВЯРСТЫВАННЕ *н. перан.* Навязванне, прыставанне. *Такоя нывя́рстывыньня ня дужа красіва, путнэй чылавек аць цябе атверніцца.*

НАВЯРСТЫВАЦЬ *незак. перан.* Навязваць. *Што яго нывя́рстывыіць к етый дзяўчонкі, лезіць — ні знаіць чаго.* НАВЯРСТЫВАЦЦА *незак.* Навязвацца, прыставаць. *Стасік доўга нывя́рстывыўся к Аўхімывый унучкі, а тады Нісьцярёнкыву дзяўчонку пыныравіў.* НАВЯРСТАЦЬ *зак.* Навязаць. *Нывірста́ла ны маю гылаву Міцю, горька ён нада мне.* НАВЯРСТАЦЦА *зак.* Навязацца, прыстаць. *Сьпірва як шуця рызгываріывыў, а тады і ладна нывірста́ўся к Каці.* НАВЯРСТАНЫЙ *дзеепрым.* *Я ня думыла, што ён такей нывя́рстыный. А думыіш, твой хлюст меншы нывірста́ный?*

НАВЯЧАЦЬ *незак.* 1. Наведваць. *Алёна сваіх унукыў часта нывіча́іць, дыражыць імі.* 2 *перан.* Намервацца. *Ня чулі, айдзе ён січас? — нывіча́ў паехыць ґ большыму сыну.* НАВЯЧАЦЦА *незак.* 1. Наведвацца. *Ці нывіча́іцца Матрунiна дычка к маткі?* 2. Намервацца. *Нывіча́ўся і Аніс пыдыйціць, а ці падойдзіць, хто яго знаіць.*

НАГАВАРЫВАННЕ, НАГАВОРЫВАННЕ *н. перан.* Шэпты, чараўніцтва. *Могуць паднесьць ныгыва́рівыньня і паткінуць, яны злаўредныя людзі. Каб я здарова была, я б даўно ныйшла ныгаворівыньня.*

НАГАЛАГАЛЕЦЦА *зак. неадабр.* Накрычацца. *Ні прідумыць, калі яны ныгылыгыля́цца, нада пруціныю пызгыняць у хату.* НАГАЛАГАЛЁМШЫ *дзеепрысл.* *Худзь ба троху пысядзелі ціха ныгылыгалёмшы.*

НАГАЛДАМАЧЫЦЬ *зак. асудж.* Пратранжырыць. *Так бацькыва добрыя ныгылдыма́чуць, што біс куска хле-*

*ба астануцца, будуць глядзець цёткі ў вочы, каб чаго гырячыга лінула душу атвесьць.* НАГАЛДАМАЧЫЦЦА *зак.* Натранжырыцца. *Я гываріла, што многа ні ныгылдымачуцца, скора ні ш чым астануцца.*

НАГАЛО *прысл. перан.* Цалкам, поўнасцю. *Чэрьві зьелі сьцены ныгало, вецір зімою будзіць сьвістаць, худзь ба гліныю пыабмазывыць.*

НАГАНДЛЯЧЫЦЬ *зак.* Нагандляванца. *Ён ныгындлячыць, етый гындляр, што за быка ня купіць індыка.* НАГАНДЛЯЧЫЦЦА *зак.* Здаволіцца гандляваннем. *Стах ныгындлячыўся, хочыць служыць, шукаіць пытхыдзяшчыя места.*

НАГАНЯННЕ *н.* Узбіванне. *Ты сваім ныгыняньнім саўсім бочычку рузлумаіш, клёпкі павысыплюцца.*

НАГАНЯЦЦА *зак. перан.* Выарацца. *Пашыця, скольска ныгыняіцца, будзім стыряцца выбіраць.* НАГАНЯТЫЙ *дзеепрым. Пыдбяріця вы хуць ныгынятыя быразёнкі, хваціць з вас.*

НАГАР *ж.* Нагар. *Нагырь на кноці нада апчышчывыць. Не, нагырі нямнога сыбралыся.*

НАГАР *м.* Цяпло, дух. *Ныгар зь бярёзывых дроў, з дубовых, зь вербы ныгару німа.*

НАГАРАВАЦЬ *зак.* Пагараваць. *Ня столька іна нугурювала, як ты рысказыіш, іна як сыр у масьлі прыкычалыся зы Сямёным.*

НАГАРАДЗІЦЦА *зак.* 1. Шмат нагрувасціцца. *У цябе пыт паветкыю ныгырадзілыся, што нікуды ні пуцступіцца.* 2. Стаміцца гародзячы. *Ну й ныгырадзіўся я сяньня, аж рукі зыбалелі кольля зыбіваючы.*

НАГАРЖАМЫЗДЗІЦЬ *зак. эмац.* Навучыць. *Узяліся Куліна с Хадоскыю, етыя січас ныгыржамызьдзюць унука.* НАГАРЖАМЫЗДЗІЦЦА *зак.* Навучыцца. *Ніхай ездзіць, ныгыржамызьдзіцца на пень бріхаць.*

НАГАРНУЦЬ *зак. перан.* Нанесці. *Буваіць, бяду нагорніць, сам ні прідумыіш, аткуля іна прідзіць.* НАГАРНУЦЦА *зак.* Наваліцца. *Горя ныгарнулыся ні ш чаго ні зь якыга, як зь яго выкруціцца.*

НАГАРЫВАННЕ *н.* 1. Нагар. *Кнот у лампі нада шчышчаць, ныгарівыньня мішаіць, сьвеціць дренна.* 2 *перан.* Пакаранне. *Дужа ён спужаўся нейкыга ныгарівыньня.*

НАГАРЫВАЦЬ *незак.* 1. Даваць нагар. *Кнот усё ўремя ныгарівыіць, яго абрізаць нада.* 2 *перан.* Шмат выдаткоўвацца ў выніку гарэння. *У яго ўсюдых лампычкі, дайжа ў пуню пыправеў, дык за месіц многа ныгаріць.* 3 *пе-*

*ран.* Атрымліваць у якасці пакарання. *Сколька раз яму крепка ныгáрівыла, а ўсё дно ні каіцца, сваё тваріць.*

НАГАСЦІЦЬ *зак.* 1. Набыцца ў гасцях. *Многа яны ні нагосьцюць, дзень-два павернуцца і нызад паедуць.* 2. Пачаставаць. *Мыланкіна дычка умеіць пріняць, ныгасьціць, так іна с хаты ня выпусьціць.*

НАГВАЗДЗЯЧЫЦЬ *зак.* Моцна пабіць. *Падлез к нейкім хлюстам зы Сажом, яго ладна ныгвызьдзя́чылі.* НАГВАЗДЗЯЧЫЦЦА *зак.* Здаволіцца, моцна б'ючы. *Хто яго толька ні ныгвызьдзя́чыўся.* НАГВАЗДЗЯЧАНЫЙ *дзеепрым. Ці ні ныгвызьдзя́чыный ты сяньня ходзіш?*

НАГІЙ *прым.* Дрэнна або лёгка апрануты. *Такей хыладзіна, а яны голыя, нáгія зьбіраюцца ны вічарінку.*

НАГІМОРНІЧАЦЬ, НАГІМОРНІЧАЦЦА *зак.* Пакапрызіць. *Ныґіморнічыіць, як ремня вазьму, тады нысытаіцца і ўніміцца. Ці ты ныґіморнічыўся ай ґіморы сь цябе выгыняць нада?*

НАГІШЭХТАВАЦЬ *зак.* Пасябраваць пэўны час. *Многа яны ні ныґішэхтыюць, зь іх ґішэхтывыньня бальшэя дружбы ні палучыцца.* НАГІШЭХТАВАЦЦА *зак.* Здаволіцца ў сяброўстве. *Кузьмянкі ныґішэхтывыліся з Барісым, большы к яму ні патходзюць.*

НАГЛАМАЗДАЧЫВАННЕ *н. эмац.* Нагрувашчванне. *Водз зы ныглымыздáчывыньня цябе зылаіць нада.*

НАГЛАМАЗДАЧЫВАЦЬ *незак. эмац.* Нагрувашчваць. *Ты жэрдзя ныглымыздáчывыіш, яно можыць усё пыляцець уніз.* НАГЛАМАЗДАЧЫВАЦЦА *незак.* Нагрувашчвацца. *Усё ў цябе біс пырядку ныглымыздáчывыіцца, акуратней кладзі.* НАГЛАМАЗДАЧЫЦЬ *зак.* Нагрувасціць. *Хворысьця ныглымыздáчылі, на двор ні пыкызацца, карова ня пройдзіць.* НАГЛАМАЗДАЧЫЦЦА *зак.* Нагрувасціцца. *Каб рукамі складывыў, так ба ні ныглымыздáчылыся, вочы пывыпарывыць можна.* НАГЛАМАЗДАЧАНЫЙ *дзеепрым. Чаго ў сенцых толька ні ныглымыздáчына, няўжэлі пріпыряччыць нільзя.*

НАГЛУЗДЗІЦЬ *зак.* Нагаварыць бязглуздзіцы. *Ішоў тута старік, ён ны Малый Слыбадзе жывець, дык нуглузьдзіў етыя лухты.* НАГЛУЗДЗІЦЦА *зак.* Здаволіцца гаварыць бязглуздзіцу. *Можа вы ўжо нуглузьдзіліся, дык пашлі б двору.* НАГЛУЗДЖАНЫЙ, НАГЛУЗДЖОНЫЙ *дзеепрым. Аткуля ты знаіш, калі ета наглýжджына. Ій-права, учора ім нуглужджона.* НАГЛУЗДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Ня можыць быць, каб іна пышла, ні нуглузьдзёмшы чаго-нібудзь.*

НАГЛУЗДЗЯЧЫЦЬ *зак. эмац.* Нагаварыць пустога. *Ён чаго хочыш нуглузьдзя́чыць, ты толька верь большы.* НАГЛУЗДЗЯЧЫЦЦА *зак.* Набалбатацца. *Самі ні прідумыюць, калі яны нуглузьдзя́чуцца.* НАГЛУЗДЗЯЧАНЫЙ *дзеепрым. Ні прідумыю, к чаму ім нуглузьдзя́чына пры Красёвыга.*

НАГЛЫБІЦЬ *зак.* Паглыбіць. *Во як яны наглы́білі сажылку: цэлый дзень у кустах прыкычаліся.*

НАГРУЖАННЕ, НАГРУЖЫВАННЕ *н.* Пагрузка. *Во нам далося нугружа́ньня, работылі — сьвету белыга ня відзілі. Посьлі нагру́жывыньня ныіць сьпіна, мы многа дроў пірякідылі.*

НАГРУЖЫВАЦЬ *незак.* Нагружаць. *Мне некылі стыяць, нада скарей нагру́жывыць ды ехыць, каб к цёмныму давезьць.* НАГРУЖЫВАЦЦА *незак.* Нагружацца. *Роілым у вас нагру́жывыіцца, худзь ба ныввярьху раўней складывылі.*

НАГРУКАТАЦЬ *зак.* Дасягнуць мяжы ў стуканні. *Ну й нугрюкута́лі сяньня малыя ны дваре, аж у вушах гудзіць.* НАГРУКАТАЦЦА *зак.* Здаволіцца стуканнем. *Калі вы нугрюкочыціся, ці вам німа другога зыняція нійдзе.*

НАГРЫБІЦЬ *зак.* Накапрызнічаць. *Каб залоўка была, тая б мігым яго нагрібіла.* НАГРЫБІЦЦА *зак.* Надзьмуцца. *Нешта ні так Машычка скызала, узноў етый кывалер нагрібіўся.* НАГРЫБЛЕНЫЙ *дзеепрым. Ты ні знаіш, чаго йта Астраўцоў ходзіць нагрібліный.*

НАГРЭЦЬ *зак. перан.* Пакараць. *Нада, каб хто найшоўся нагрець яго зы зладзейства.* НАГРЭТЫЙ *дзеепрым. Січас ты сьмяесься, а як рёў учора нагретый.*

НАГУДЗЕЦЦА, НАГУСЦА *зак.* 1. Шмат пагусці, здаволіцца, падаючы сігналы гудком. *Хваціць ужо, нугудзеўся, вылізай з машыны. Ён цябе пыдгыняў, каб скарей зьбіралыся, нагу́ўся ў машыні.* 2 *перан.* Наплакацца. *Што нугудзеўся із-за лыжыны: куўзаліся і неік яго лыжа злумалыся. Прі ўсіх ня рёў, а выскычыў, схуваўся і там нагу́ўся.*

НАГУРКНУЦЬ, НАГУРКНУЦЦА *зак. метаф.* Зайсці раптоўна натоўпам. *Нагу́ркнуць — поўныя хата, лавык ні хваціць садзіць іх. Гырыччані як нагу́ркнуцца, ты ат іх азелісься.*

НАГУСЦІЦЬ *зак.* Зрабіць густым. *Ты толька ні нугусьці крупеню, ато я ціряз ложку ні люблю.* НАГУСЦІЦЦА *зак.* Зрабіцца густым. *Быракі ў цябе ціряшчур ну-*

*гусьціліся.* НАГУШЧАНЫЙ *дзеепрым. Тыкая нагушчыныя бульба, ложкыю ні пывярнуць.*

НАГЫРЧЭЦЬ *зак. перан.* Злосна пабурчаць. *Ны мяне, бувала, старыя ныгырчы́ць, ныгырчы́ць, я прымаўчу, што ты зьдзелыіш.* НАГЫРЧЭЦЦА *зак.* Злосна набурчацца. *Табе каб судык троя ныгырчэцца, ато што — усяго пуўдня.*

НАДАБНЫЙ *прым.* Патрэбны. *Ці ета на́дыбныя вярёвычкі ліжаць, ці іх выкідаць можна?*

НАДАВАЦЦА *зак.* Шмат аддаць. *А многа чаго табе сваты ныдыва́ліся?*

НАДАЕДДЗЕ *н.* 1. Дакучанне. *Ён сваім ныдаедзьдзім духі выніць.* 2 *перан.* Дакучлівая асоба. *Ну й ныдаедзьдзя чылавек, усё жвянькыіць і жвянькыіць пустоя.*

НАДАІЦЬ, НАДАІЦЦА *зак. перан.* Наабіраць. *Пляменьнікі яго ладна ныдаілі, ён ім пырядышна пымыгаў. Ныда́іўся ста́рых, пасьледнія капейкі выцягывыў.*

НАДАКУЧАЦЦА *незак.* Дакучаць. *Нада, каб ты меншы нудукуча́ўся, бацька зымаріўся, ніхай мінутку аддыхнець.*

НАДАЛДОНІЦЬ *зак. эмац.* Набалбатаць. *Я ні прідумыю, хто мог такую чуш ныдалдоніць, нехта нарошня пыстыряўся.* НАДАЛДОНІЦЦА *зак.* Набалбатацца. *Пыдажджы, яны ні саўсім яшчэ ныдалдоніліся.* НАДАЛДОНЕНЫЙ *дзеепрым. Ні паверіць ён лухце, мала што яму ныдалдоніна.*

НАДАЦЬ *зак.* Паддаць (пару). *Як ныда́ў духу, мы чуць жывэя с пылка пыскачывыліся, а плотнікі паріліся худзь ба што.*

НАДАЯДЛА *прысл.* Надакучліва. *Будзь ты дальшы ат Мыксімёнка, ён усігда ныдыя́дла прістаець.*

НАДАЯДЛАСЦЬ *ж.* Дакучлівасць. *Ты б сваю ныдыя́длысьць у дваре кідаў, на людзі ня нёс.*

НАДБЫВАЦЬ *незак.* Абыходзіцца. *Ня ем нічога, нудбува́ю чаім, а як зьем чаго крошку, зырізаіць пуд грудзямі.* НАДБЫЦЬ *зак.* Абысціся. *Калі людзей гукаць, голымі вычамі ні надбу́дзіш, нада прігатовіцца.*

НАДВОР'ІКА *н. памянш.* Надвор'е. *Во надворыіка, слава богу, дзяржыць, людзі і прібяруцца, і ўправюцца.*

НАДЖГАЦЦА *зак. перан.* Напарыцца. *Во плотнікі ныджгаліся ў бані, кажыцца, ўсё гаріць, а яны парюцца худзь ба што.*

НАДЖЫВАННЕ *н.* Старэнне, падыход да апошняй

мяжы. *Наша знаіш якоя ныджжываньня: дзень прайшоў, крошку хлеба зьеў і ладна.*

НАДЖЫВАЦЬ *незак.* Старэць, падыходзіць да апошняй мяжы. *Мы ныджжываім свой век, асталыся старыя косьці упіхнуць у яшчык.* НАДЖЫЦЬ *зак.* Пастарэць, падысці да апошняй мяжы. *Семдзісят гадоў — троху ныджжылі, во як у дваццыць гадоў бог веку укырацiць, тады жалка.*

НАДЗВІГАЦЬ *незак. перан.* Насоўвацца (пра хмару). *Дывай скарей хвытаць сянцо, як увідзілі, што еткыя туча ныдзьвігаіць.* НАДЗВІНУЦЬ *зак.* Насунуцца (пра хмару). *Нікрасівыя туча надзьвінула з-зы Вяхры, каб град ні ўдарiў.*

НАДЗЕНЬКАЦЬ, НАДЗЯНЬКАЦЬ *зак. неадабр.* Нагаварыць пустога паціху, паволі. *Ат іх усяго можна ждаць, што хочыш надзенькыюць. Кісялёўна ныдзянькыла, што відзілі іх у Дуброві.* НАДЗЕНЬКАЦЦА, НАДЗЯНЬКАЦЦА *зак.* Нагаварыцца попусту паціху, паволі. *Ці будзіць калі такоя ўремя, што вы надзенькыіціся? Во твыя кума ныдзяньkылыся, давольныя ідзець.* НАДЗЕНЬКАНЫЙ, НАДЗЯНЬКАНЫЙ *дзеепрым. Можа й надзенькына якея лухты, нечыга ж ірьвець яго духі. Я пыніла, што ім узноў ныдзяньkына.*

НАДЗЯЎБУЛІВАННЕ *н.* Надзёўбванне. *Слабыя твaё ныдзяўбулівыньня, рубяжкі чуць заметны.*

НАДЗЯЎБУЛІВАЦЬ *незак.* Надзёўбваць. *Нашто табе ныдзяўбулівыць роўныю достку?* НАДЗЯЎБУЛІВАЦЦА *незак.* 1. Надзёўбвацца. *Не, нічога, ладныя меткі ны бярне ныдзяўбулівыюцца.* 2 *перан. гумар.* Наядацца. *Кажный раз ладна ныдзяўбулівыюцца, толька гутувацъ пысьпівай.* НАДЗЯЎБУЛІЦЬ *зак.* 1. Надзяўбці. *Лі ґаньк троху ныдзяўбуліў, ні так скользка стала.* 2 *эмац.* Няўмела насячы. *Сxадзі-ка ты зы быльшак, можа троху лазы ныдзяўбуліш.* НАДЗЯЎБУЛІЦЦА *зак.* 1. Няўмела насячыся. *Ай, ношкі дзьве ныдзяўбулілыся, дождж ні даў сеч.* 2. Стаміцца секучы. *Ну я ныдзяўбуліўся, бярі тапор, пысікай троху.* 3. Наесціся. *Малыя дужа ні рызьбіраюцца, ныдзяўбулюцца, ныдзяўбулюцца і пабеглі.* НАДЗЯЎБУЛЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Надзяўбаны. *Дзірькі ныдзяўбуліны, ды кріва, козлы ні ўставіш.* 2. Няўмела насечаны. *Зыпрягі кылясёнкі ды зьезьдзі, сколька ныдзяўбуліна, прівязеш, ні звыляіцца.* 3. Сыты. *Ныдзяўбуліныя пабеглі на вуліцу.*

НАДЗЯЎБЫВАННЕ *н. перан.* Нагавор, плявузган-

не. *Думыіш, ніхто ні знаіць, чыё ета ныдзяўбывыньня?*

НАДЗЯЎБЫВАЦЬ, НАДЗЕЎБЫВАЦЬ *незак.* 1. Наклёўваць. *Глянь-ка, тама куры мяшкі ці ні ныдзяўбывыюць. Накрый мяхі пылаткыю, каб куры ні надзёўбывылі.* 2 *перан.* Дзяўбаць, рабіць меты. *Як замёрзьніць, сьцёжку нада ныдзяўбывыць. Ты пы ўсяму бярну ні надзёўбывый, ато меткі ні найдзіш, айдзе резыць.* 3 *метаф.* Нагаворваць. *Хрузычка ныдзяўбывыіць кажын раз, ёй дужа завідна, што Іван такую бабу прівёз. Чаго яму толька ні надзёўбывылі.* НАДЗЯЎБЫВАЦЦА, НАДЗЕЎБЫВАЦЦА *незак.* 1. Наядацца (пра птушак). *Ціпляты лі курей ныдзяўбывыюцца. Куры знаюць, айдзе надзёўбывыцца, у іх мазкі ні ацсохлі.* 2. Дзяўбацца, рабіцца (пра меты). *Нямножка лёд ныдзяўбывыіцца, ні так скользка будзіць. Во тута надзёўбывылыся, ішчэ відна трошку.* 3 *перан. гумар.* Намячацца. *Ці ні ныдзяўбывыіцца у Высіліхі свадзьба? Бутылычка надзёўбывыіцца, дык відзіш, як стыряюцца.* НАДЗЯЎБАЦЬ, НАДЗЕЎБАЦЬ, НАДЗЁЎБЦЬ *зак.* 1. Накляваць. *Усе мяшкі куры нудзюўбалі, чаго ты ня кышнуў на іх. Ні кідай, усе гуркі куры надзёўбыюць. Во, доўга курям мяхі надзёўбць!* 2. Зрабіць ямкі, меты, дзеўбучы. *Нудзюўбалі лёд кылы парога, ні так будуць ногі езьдзіць. Я надзёўбыў, хырашо відна, там і піліця. Зьмёрзься пясок, нада надзёўбць і каб пыстыяў у цёплым, аттаў.* 3 *перан.* Накляпаць. *Твой масьцір як нудзюўбаіць касу, дык саўсім ні разу ні кышанеш. Трошку надзёўбыў скосык, ці будзіць ён резыць, ці не. Нада касу надзёўбць, так касіць ня будзіш.* 4. Наесціся (пра птушак). *Многа куры цеста ні нудзюўбаюць. Ня столька надзёўбыюць, сколька пы хаці рызволочуць. Дай ім волі надзёўбць, тады лезьць ня будуць.* 5 *перан.* Нагаварыць, наплявузгаць. *Як нудзюўбала сялецкім бабым, а тэя прішоччы ёй, дос іна йціць. Такім ізыкастым нядоўга надзёўбыць. Яны і пры Грішчынка ныдзяўблі.* 6 *перан.* Пабіць адчувальна. *Удваіх можа ні справюцца, а кучыю пупадуць і ныдзяўбуць. Як заловюць, яны с табою ні пачыкыюцца, надзёўбыюць. Ні глядзі, што такея няґеґлыя, могуць надзёўбць.* НАДЗЯЎБАЦЦА, НАДЗЕЎБАЦЦА, НАДЗЁЎБЦЦА *зак.* 1. Зрабіцца пры дзяўбанні (пра ямкі, меты). *Як нудзюўбаіцца, тута можна будзіць прайціць. Ладна надзёўбылыся, увідзіця, айдзе атрезыць. Ломым можыць ладна надзёўбцца.* 2. Стаміцца пры дзяўбанні. *Ты ўжо ныдзіўбаўся, аддыхні, я тута чырту выбіру. А тыкі надзёўбыўся за дзень, аж рукі гудуць. Ці ты*

*ішчэ ні надзёўбся тута?* 3. Здаволіцца б'ючы. *Сяньня ты Міцю нудзюўба́йся. Ты ўсіх надзёўбся, усе аць цябе уцікалі,— ці можа ты ат усіх.* НАДЗЯЎБАНЫЙ, НАДЗЁЎБАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Зроблены пры дзяўбанні (пра ямкі, меты). *Лёд ны прістулкых троху нудзюўба́н. Нямножка надзёўбына, луччы сікані, каб хырашо відна було.* 2. Нагавораны, наплявузганы. *Скора сам дыгыдаісься, із-зы чаго було нудзюўба́на. Ім столька надзёўбына, што ні піряслухыць.*

НАДРУГА *ж.*, НАДРУГАННЕ, НАДРУГАЦЕЛЬСТВА *н.* Здзек. *Пызнала Храсіньня надру́гі, хваціла зь яе. Аўхім'іным дычкам дысталыся нудруга́ньня, усяго яны пыспыталі, і белыга, і серыга. Чаго іна церьпіць еткыя нудруга́цільства, чаго ні пагоніць палкыю такога зяця.*

НАДРУГАННІК, НАДРУГАЦЕЛЬ, НАДРУГАЦЕЛЬНІК *м.* Той, хто здзекуецца. *Цярьпіць іна і цярьпіць нудруга́ньніка, яго нада було даўно прутуріць з двыра. Ні хачу я брацъ нудруга́ціля сабе ў хату. Нудруга́цільнік ты нісызнацільный, за што цябе Аріна корміць хлебым!* НАДРУГАННІЦА, НАДРУГАЦЕЛЬКА, НАДРУГАЦЕЛЬНІЦА *ж. Ці відзіў сьвет такую нудруга́ньніцу, штоб над родныю маткыю зьдзекывыцца. Во носіць жа зімля такіх нудруга́цілік. Іна ня меншыя нудруга́цільніца, чым Антон, адзін другога ні пірявесюць.*

НАДТАПЛІВАННЕ *н.* Завяршэнне таплення (печы). *Два часы нызад гываріла: ныттаплію,— яе ныттаплівыньня можыць пуўдня цягнуцца.*

НАДУДОЛЕНЫЙ *дзеепрым. эмац.* Накормлены грудзямі. *Ладный мальчык, сядзіць у люлькі нудудоліный і сьмяецца.*

НАДУКОВЫВАЦЬ *незак.* Старанна і многа вучыць. *Каго ты надумыўся нудуковывыць, да іх ніякія дукуваньні ня дойдуць.* НАДУКОВЫВАЦЦА *незак.* Старанна і многа вучыцца. *У Лузканоў сядзеў, нудуковывыўся, доўга сядзеў, с пуўдня.* НАДУКАВАЦЬ *зак.* Навучыць. *Пыдажджы, пупадзесься ў іхныя лапы, яны цябе нудуку́юць.* НАДУКАВАЦЦА *зак.* Навучыцца. *Наш нудукува́йся луччы некуды, знаіш, што ён мне запеў?* НАДУКАВАНЫЙ, НАДУКОВАНЫЙ *дзеепрым. Каб яны к чаму харошыму былі нудукува́ны, а дурі ў іх і свае хвытаіць. Прібег нудуковыный, увесь аж кіпіць, кажыцца, рызырваць гатоў.*

НАДУМАННІК *м.* Падманшчык. *Якей зь яго нудума́ньнік, так, ізыком ні падумыўшы тріпануць можыць.*

НАДУМАННІЦА *ж. Ета хырашо, што ты ні пупала ны якую-небудзь нудума́ньніцу.*

НАДУМАЦЬ *незак.* 1. Надзімаць. *Пычаў нудума́ць малыму шарік, а ён тресь.* 2 *перан.* Падманваць. *Ты стаў нудума́ць як бальшэй, ці ні рунувата ўзяўся за ета дзела?* НАДУМАЦЦА *незак.* Дзьмуцца. *Каціны трошку нудума́ліся, думылі, мы іхный свадзьбі мішаім.*

НАДУШЫЦЬ, НАДУШЫЦЦА *зак. перан.* Наздзекавацца. *Што цяпнула горя Адарка ат Пуўлючонкывых, што нудушы́лі яны яе! Хто ні знаіць такую сволыч, нудушы́ўся ён людзей, ні адзін прыклінаў сыбаку.*

НАДЧЫТЫВАЦЬ *незак. перан.* Прыгаворваць. *Што йта Пыраска наччы́тывыла ныд вамі, відна, вы здорыва прывініліся.* НАДЧЫТАЦЬ *зак.* Прыгаварыць. *Дзед ныда мною ныччыта́іць, ныччыта́іць: сіротычка мыя!*

НАДЫБАЦЬ *зак.* Найсці (на што). *Я і ня думыў што-небудзь прінесьць, а во нады́быў кылы краю ны апенкі.*

НАДЫБЫ *прысл. перан.* Супраць. *Мы думылі, разым паедзім, а Пынасіха узьвілася на́дыбы, ну едзь адна.*

НАЕД *м.*, НАЕДЗЬ *ж.* Наедак. *На́ід, кажу, з мыргаріну, ты во луччы кусок сала атреж. Нешта с тваіх заўтрікыў мала на́ідзі.*

НАЁЧЫЦЦА *зак.* 1. Напакутавацца. *Наёчыцца, як адна астаніцца, ёй пымыгаць некыму.* 2. Наскардзіцца. *Аўдзеіха наёчылыся ны яго, відзіла, як с сыдка бег.*

НАЖАЛКАВАЦЦА *зак.* 1. Нашкадавацца. *Што нужулкува́лыся я свае Сіўкі, тыкая малошныя была, а прішлося весьць ны бызар.* 2. Наскардзіцца. *Іна як устреціцца, усігда ныжалку́іцца.*

НАЖГАЦЬ *зак.* Напячы (крапівой). *Толька дыганю, ныжга́ю крапівыю.* НАЖГАЦЦА *зак.* Напячыся (крапівой). *Во ныжга́лыся я, пакуля маліну шчыпала, крапіва у рост чылавека.* НАЖГАНЫЙ *дзеепрым. Пупадзесься мне ў рукі — пыбягіш ныжга́ный ат'етуля.*

НАЖНІЧКІ *мн.* Невялікія ножніцы. *Тупуваты нажнічкі, нада, каб хто ытачыў, хто ўмеіць.*

НАЖЫШЧА I, НОЖЫШЧА *ж. павеліч.* Нага. *Відна, рожа прікінулыся, уся нажы́шча рузбрюсянела. Во разьелыся, ножышчы як калодзьдзя.*

НАЖЫШЧА II *м. павеліч.* Нож. *Была атпетыя шайка, во с такімі нажы́шчымі хадзілі, пакуля аднаго па дном угумувалі.*

НАЗАЗВАЦЬ *зак.* Запрасіць усіх, шмат. *Нызызва́лі*

*чуць ня ўсю акругу, быгатыя свадзьба была, яны і гатовіліся доўга.*

НАЗАКАЛІВАЦЬ *зак.* Загартоўваючы, дасягнуць пэўных вынікаў. *Нызыкáлівыіця, што малыга саўсім прастудзіця.* НАЗАКАЛІВАЦЦА *зак.* Загартоўваючыся, дасягнуць пэўных вынікаў. *Нызыкáлівыўся, пірьхаіць як у бочку етый зыкáлівыньнік.* НАЗАКАЛІВАНЫЙ *дзеепрым. Во табе нызыкáлівыный: ляжыць у бальніцы з двухстароньнім успаленіім.*

НАЗАКУБРЫВАЦЬ *зак.* Шмат закупорыць. *Я грібоў нызакýбрівыю банкі, зімою так смашны з бульбыю атваріныю.* НАЗАКУБРЫВАНЫЙ *дзеепрым. У цябе гуркоў, я знаю, нызакýбрівына, да новых хваціць.*

НАЗВЯЗДЗІЦЬ, НАЗВЯЗДЗЯЧЫЦЬ *зак. метаф.* Пабіць без жалю. *Ніхай сходзіць, паткнецца, ні нызьвязьдзілі, дык нызьвізьдзяць, тама атлётыў хвытаіць. Так нызьвізьдзячуць, што аглянуцца ні пасьпеіш.* НАЗВЯЗДЗІЦЦА, НАЗВЯЗДЗЯЧЫЦЦА *зак.* Здаволіцца, б'ючы без жалю. *Нызьвязьдзіцца, што сам палучыць, сколька ўлезіць. Нызьвізьдзячыўся тэй зьверь Домну, ай-я-яй, сколька іна ацьцерьпіла.* НАЗВЯЗДЖОНЫЙ, НАЗВЯЗДЗЯЧАНЫЙ *дзеепрым. Прібягіць нызьвяжджоный, тады будзіць знаць, як туды зыіўляцца. Знаім, што пабег нызьвізьдзячыный.* НАЗВЯЗДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Нызьвязьдзёмшы Праскоўіныга, гналіся за Колію.*

НАЗДЗЁВЫВАЦЬ *зак.* Шмат зняць з сябе. *Сколька на ім було надзета, назьдзёвывыў цэлыю кучышчу тріп'я.* НАЗДЗЁВЫВАНЫЙ *дзеепрым. У той хаці назьдзёвывына цэлыя лаўка.*

НАЗНАНКУ *прысл.* Навыварат. *Ён дужа ні глядзіць, пойдзіць і нызнáнку надзеўшы. Памянш.* НАЗНАНАЧКУ. *Ты хуць нызнáнычку ні надзень рубашку, пірід людзямі нікрасіва.*

НАЗЫВАЦЬ *незак.* Ззываць. *Ні нада столька нызывáць людзей, айдзе ты зь імі дзівацца будзіш.*

НАЗЫКАЦЬ *зак.* Нагізавацца. *У Дыбінка многа ні назыкыюць, тэй любую карову дагоніць.*

НАЗЫН *м.* Навала, напасць. *Ці ета ны цябе аднаго такей назын, ны каго уздурюцца, ны таго й нывалюцца.*

НАІСТРЫЦЦА *зак.* 1. Навастрыцца. *На етый раз піла дылжна резыць, ладна ныістрілыся.* 2 *перан.* Намерыцца. *Сяньня мальцы ныістріліся у Рожыва, тама, гываріілі, будзіць вічарінка.*

НАЙПАЧЫ *прысл.* Тым больш. *Зь яго і так бальшо-*

*га толку німа, а ныйпа́чы калі сьпяецца с тымі распусьнікымі.*

НАКАБЫРДЗІЦЬ *зак. іран.* Пазлаваць, раззлаваць. *Ты яго ныкабы́рдзіш, дык і відра вады ні прінясець. Нешта яго ныкыбырдзіла, ходзіць надутый.* НАКАБЫРДЗІЦЦА *зак.* Пазлавацца, раззлавацца. *Зы ўсякыю мелыч ныкабы́рдзіцца. Ці ты ныкыбырдзіўся за ступу ай зу туўкач?* НАКАБЫРДЖАНЫЙ, НАКАБЫРДЖОНЫЙ. *Ішоў некуды ныкабы́рджыный, пыхцеў. Сядзіць ныкыбырджоный, духу к яму ні патпусьціш.*

НАКАВЕРКАЦЬ *зак. перан.* Напісаць няўмела. *Худзьба дзяўчонка ныкаверкыла пяць слоў, што ў іх тамыцька.* НАКАВЕРКАЦЦА *зак.* Напісацца няўмела. *Як ныкаверкыіцца, пісаць нільзя, пішы акуратна.* НАКАВЕРКАНЫЙ *дзеепрым. Нешта ныкаверкына, я ні аднаго слова ні пайму.*

НАКАЗІЯ *ж.* Пакаранне. *Ныка́зія ім была крепкыя, толька яны скора забылі.*

НАКАЛАМСАЦЬ, НАКАЛАМСІЦЬ, НАКАЛАМСОЛІЦЬ *зак.* 1. Памясіць. *Посьлі дыжджа ныкылымса́іш грязі. Ікая польза, што ты ныкыламсíш, толька у твані увесь будзіш. Ныкыламсолілі цеста с альляным семім.* 2 *перан.* Павычвараць. *Посьлі свадзьбы яны ладна ныкылымса́лі. Вам, знаць, і сяньня ныкыламсíць хочыцца. Ныкыламсоліць ім урemя ні далі.* 3 *перан.* Натузаць. *Яны мальца і ныпраўду крепка ныкылымса́лі. Ні пупаўся ты мне ўчора, я б цябе хырашэнька ныкыламсíў. Меншый большыга ныкыламсоліў, ныкыламсоліў, ішчэ хацеў вадою абліць.* НАКАЛАМСАЦЦА, НАКАЛАМСІЦЦА, НАКАЛАМСОЛІЦЦА *зак.* 1. Памясіцца. *Сядзі ты луччы ў дваре, пойдзіш, дарогі німа, ныкылымса́ісься, толька заморісься. Каб знаў, што столька ныкыламшу́ся, саўсім ба ні пашоў. А ныкыламсоліліся, пакуля пріцягнуліся зь лесу біз дарогі.* 2. Павычварацца. *Учора яны ныкылымса́ліся адзін пірід другім, ныпыказывылі сябе. Дайця вы ім ныкыламсíцца, ні цягніця ў хату. Ныкыламсоліліся ў ахоту, усяго зь іх вытвырялыся.* 3. Натузацца. *Сьпірва як сьмехым ныкылымса́ліся, а тады чуць ні пабіліся. Ці вы ішчэ ні ныкыламсíліся, ні дырвалі пасьледнія рубацёнкі? Во быльшая біда, кылі шлэпырі ныкыламсоліліся.* НАКАЛАМСАНЫЙ, НАКАЛАМШОНЫЙ, НАКАЛАМСОЛЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Намешаны. *Ні прідумыіш, чаго ў ета цеста ныкылымса́на. Сюда ці ні мякіны ныкыламшона. Нечыга ныкыламсоліна, ні рызьбяру чаго.* 2. На-

тузаны. *Кылі троху і ныкылымса́ныя, ім стоіць. Ну як ты, ці ладна ныкыламшон? Пыхціць ныкыламсоліный як выранёнык.*

НАКАЛЕЧЫВАЦЬ *незак.* 1. Падкалечваць. *Ён сябе другей раз ныкалечывыіць.* 2. Акалечваць многіх. *Ты гірой лучшы ўсех, німала каго ныкалечывыў.* НАКАЛЕЧЫВАЦЦА *незак.* Падкалечвацца. *Ня лезь у етый лом ныкалечывыцца, тама гылаву можна зьвярнуць.* НАКАЛЕЧЫЦЬ *зак.* 1. Падкалечыць. *Сам руку ныкалечыў, свыя ністарожнысьць: зыгываріўся і тыпаром цісануў.* 2. Акалечыць многіх. *Ты німала каго ныкылечыў, можа лягушку ў балоці.* НАКАЛЕЧЫЦЦА *зак.* 1. Падкалечыцца. *Балывыўся с тыпаром і ныкалечыўся, ладна нагу рыскаціў.* 2. Акалечыць многіх. *Каго ён тольки ні ныкалечыўся, бягіць с паленым і, глядзі, луманець.* НАКАЛЕЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Падкалечаны. *Ну што ён цяперя, астаўся на ўсю жызьню ныкалечыный.* 2. Акалечаны (пра многіх). *Столька народухну ныкалечына!*

НАКАЛЯКАЦЦА *зак.* Нагаварыцца паціху, паволі. *Прідзіць залоўка, тады вы уволю ныкыля́кыіціся, учора абішчала забежч.*

НАКАМАНДЫВАЦЬ *зак.* Пакамандаваць з пэўнымі вынікамі. *З новым стыршыною многа ні ныкыма́ндыюць, у яго свыя гылыва ны плічах.*

НАКАМІСАРЫЦЬ, НАКАМІСАРНІЧАЦЬ, НАКАМІСАРСТВАВАЦЬ *зак.* Папрацаваць на кіруючай пасадзе. *Ён у нас нямнога ныкымісáріў, некуды пыслалі, ці ні зы Чавусы. Помнім, як ён ныкымісáрнічыў: чужую жонку пыччапіў і зьбег. Ці многа ныкымісáрствывыў твой брат?* НАКАМІСАРЫЦЦА, НАКАМІСАРНІЧАЦЦА, НАКАМІСАРСТВАВАЦЦА *зак.* Здаволіцца працай на кіруючай пасадзе. *Ён тыкі ныкымісáріўся тута, яго троху быяліся, троху увыжалі. Во ныкымісáрнічыўся, што кылгасьнікі кучыю прыгналі. Хочыш, і етыму ні дадуць ныкымісáрствывыцца.*

НАКАМСІЦЦА *зак. эмац.* Апрануцца празмерна цёпла. *Ты ныкамсіўся, усё дно як у ізвоз едзіш, сяньня ў шубі жжарісься.*

НАКАПАРЫЦЬ *зак.* Папоркацца. *Скажы, ніхай скарей ныдзіваіцца, ато я яго ныкыпарю́.* НАКАПАРЫЦЦА *зак.* Напоркацца. *Пакуля ныкыпыря́цца, некылі будзіць у лес ііціць.* НАКАПАРОМШЫ *дзеепрысл. Ня дужа многа сажнеш, ныкыпарёмшы у дваре ду пуўдня.*

НАКАПАЦЬ *зак.* Накідаць на воз (пра гной). *Сколь-*

*ка вы ныкыпáлі, два вазкі, і ўжо зымаріліся.* НАКАПАЦЦА *зак.* 1. Выкапацца. *Бульба ныкыпáіцца, ні гаріць, бягі коні атвярні, ато січас ачынуцца ў выку.* 2. Накідацца на воз (пра гной). *Тута пырядышна гною, вазы трі ныкыпáіцца.* 3 *перан.* Напоркацца. *Ныкыпáісься, што яны сядуць і паедуць адны.* НАКАПЫВАНЫЙ, НАКАПАНЫЙ *дзеепрым. Айдзе ты відзіў ныкáпывыныя вазы? Ныкыпáный воз ны дваре стаіць, ідзі зыпрігай.*

НАКАРЧЭЦЦА *зак.* Намерзнуцца. *Столька ныкарчэцца, як яны толька вытрывылі цэлый дзень пpастоіць біз ныпрятык.*

НАКАТАНЫЙ *дзеепрым.* Пракладзены, утрамбаваны (пра дарогу). *Пат Крічыў ныкáтына дарога, а лі нас не. Пайду па Шыіні, тут ныкытáна да лешчынскыга, а дальшы пахыта, пакуль па ёй дыпаўзеш.*

НАКАШАЛЯЦЦА, НАКАШАЛІЦЦА *зак. эмац.* **1. Найсці, зрабіць цеснату.** *Ныкышылялыся молыдзіжы, што пывярнуцца нейдзі було. Нілізя було пралезьць, столька людзей у мыгазіні ныкышалілыся.* 2. Накласціся абы-як. *У цябе ўсігда ражном ныкышыляіцца, што глядзець нілізя. Во ныкышалілыся куча, веціp дунець і ўвесь хворыст рызваліць.* НАКАШАЛЁМШЫ *дзеепрысл.* 1. Зрабіўшы цеснату, стоўпіўшыся. *Поўныя хата ныкышалёмшы, туды ня ўбіцца.* 2. Наклаўшы абы-як. *Ні рызьбяру, што тута ныкышалёмшы.*

НАКАЯЦЦА *зак.* Параскайвацца. *Жджы, яны табе ныкáюцца: як тварілі дурату, так і тваріць будуць.*

НАКІМАРЫЦЦА *зак. гумар.* Падрамаць уволю. *Ну й любіць пыспаць, учора на сходзі ладна ў вугалку ныкімáріўся.*

НАКІПЕЦЦА *зак. перан.* Пазлаваць працяглы час. *Мой старік так ныкіпеўся зы бярёзкі.*

НАКІПЯЦІЦЦА *зак.* 1 *перан.* Пазлавацца. *Што ныкіпяціўся Крупнік, як яму рыскызалі пры Аксюціны выдзілкі.* 2 *метаф.* Нарыхтавацца. *Немцы пряма ныкіпяцiліся к вайне, хто аттуля пріiжджаў, гыварілі: вот-вот выйна ўспыхніць.*

НАКЛАДЖАНЫЙ, НАКЛАТЫЙ *дзеепрым.* Накладзены, прызначаны (пра падатак). *Мы ні любілі, каб к нам агінты бегылі, мы ўсё ныклáджыныя зразу выплачывылі. Ці выплыцiліся ета мы з ныклáтым сымаблажэньнім?*

НАКЛІБЛІВАЦЬ, НАКЛЮБЛІВАЦЬ, НАКЛЯБЛІВАЦЬ *незак.* Нагаворваць, плявузгаць. *Ніхто ні знаіць,*

*калі яны пірістануць накліблівыць і ці пірістануць калі. Нашто ты ўсякыю лухту наклю́блівыіш ны чылавека? Я знаю, хто ны Пырхвінка нықля́блівый усё ўремя.* НАКЛІБЛІВАЦЦА, НАКЛЮБЛІВАЦЦА, НАКЛЯБЛЯВАЦЦА *незак.* Нагаворвацца, плявузгацца. *Ці ты ўсё піряслухыіш, што будзіць накліблівыцца. А ны мяне, думыіш, мала чаго наклю́блівылыся? Ай, чаго толька ны яе ні нықля́блівылыся.* НАКЛІБІЦЬ, НАКЛЮБІЦЬ, НАКЛЯБІЦЬ *зак.* Нагаварыць, наплявузгаць. *Хто ёй наклібіў пры Навума, мы ні знаім, ну нехта ладна пыстыряўся. Нарошня наклю́білі, каб іх пысваріць. Хто ні нықля́біць, дык яно дойдзіцца, ня тэй дык тэй тріпанець.* НАКЛІБІЦЦА, НАКЛЮБІЦЦА, НАКЛЯБІЦЦА *зак.* Наплявузгацца. *Ці яны тама наклібіліся, ці йшчэ не? Ты ўжо ўволю наклю́біўся, можна б трошку пыдзіржаць язык зу зубамі. Нықля́біліся, што і дзіцям іхным хваціць.* НАКЛІБЛЕНЫЙ, НАКЛЮБЛЕНЫЙ, НАКЛЯБЛЕНЫЙ *дзеепрым. Ім такога наклібліна, што і прідумыць нілізя. Яно було наклю́бліна ня ўчора, а яшчэ на той нядзелі. Сьпіцыяльна нықля́бліна, хацелі прашчупыць, ці паверіш ты, ці не.*

НАКЛЫЧЫВАЦЬ *незак.* Церці, мяць, блытаць. *Нашто вам саломы наклы́чывыць, палучыця ад бацькі зы такоя балыўства.* НАКЛЫЧЫВАЦЦА *незак.* Церціся, мяцца, блытацца. *Як ходзіш усё ўремя, топчысься, салома наклы́чывыіцца.* НАКЛЫЧЫЦЬ *зак.* Пацерці, памяць, паблытаць. *Пырысяты пыт павець забеглі і лёну наклы́чылі.* НАКЛЫЧЫЦЦА *зак.* Пацерціся, памяцца, паблытацца. *Як нікуратна дзелыіш, яно само наклы́чыцца.* НАКЛЫЧАНЫЙ *дзеепрым. Усяго ўсякыга наклы́чына, пряма сувылка пыд ныгамі.*

НАКЛЯПАЦЬ *зак. перан.* Пабіць. *Дабегыўся хлюст, у Шыркых ладна нықліпа́лі, а тады, гыварілі, тута дыбавілі.* НАКЛЯПАНЫЙ *дзеепрым. Ці яму первый раз нықліпа́на, у яго ўсігда бакі чэшуцца.*

НАКРАТАНЫЙ *дзеепрым.* Накладзены звыш меры. *Ніхай ён сы сваім скатом паесьць нықря́тыныя сена, тама ны два гады хваціць.*

НАКРЫВАЛЬНІК *м.*, НАКРЫВАЛКА *ж.* Накрыўка. *Нықрыва́льнік ну чугун ліжаў за меншыю шаічкыю. Толька што была пуд рукамі нықрыва́лка, айдзе йна дзелыся. Памянш.* НАКРЫВАЛЬНІЧАК, НАКРЫВАЛАЧКА. *Лоўкінькій нықрыва́льнічык, на што хочыш можна ныкласьць. Каму іна нада, твыя нықрыва́лычка.*

НАКУКАВАЦЦА *зак. перан.* Горка ўголас наплакацца. *Што нукукуваліся іна ныд бацькым, ды так жалысна прігыварівыла, як ён пымыгаў ёй учыцца і дзіцёнка гудуваць.*

НАКУМЕКАЦЬ, НАКУМЕКАЦЦА *зак.* Паразважаць. *Ты нукумекыіш, што Мірянок паедзіць і ўсё, ці ён цябе шукаць будзіць. Вы хырашо нукумекыліся, толька дзесіць вёрст прідзіцца пяшочыкым тупыць.*

НАКУМЕЧЫЦЬ *зак. жарт.* Прыдумаць. *Даўно сыйшліся, сідзяць, нешта аньцікресныя нукумечуць.* НАКУМЕЧЫЦЦА *зак.* Прыдумацца. *Можа ў вас пры сваты што-нібудзь нукумечыцца?* НАКУМЕЧАНЫЙ *дзеепрым. Ні знаім, што ў іх нукумечына, доўга нешта сывішчаліся.*

НАКУПЛЯННЕ, НАКУПЛІВАННЕ *н.* Набыццё. *Бісталковыя нукупляньня нікому ні нада. Нашто мне накуплівыньня, тряхоліна пірякінуць ёсьць і ладна.*

НАКУПЛІВАЦЦА *незак.* Набывацца. *Мала-пымалу то адно, то другоя накуплівыіцца.*

НАКУПРЫВАННЕ *н.* Пакаванне. *У мяне накупрівыньня многа ўремя ня зойміць, я ня ў белый сьвет зьбіраюся.*

НАКУПРЫВАЦЬ *незак.* Загортваць, пакаваць. *Накупрівый-ка ты яйцы ў бумажычкі, мне яны яшчэ нынясуць.* НАКУПРЫВАЦЦА *незак.* Загортвацца, пакавацца. *Што ў цябе тута накупрівыіцца, вазьмі яшчэ кілбаску.* НАКУПРЫЦЬ *зак.* Загарнуць, запакаваць. *Ладныю кашолычку накупріла у Вульляны, пынісла, аж руку аццягывыла.* НАКУПРЫЦЦА *зак.* Загарнуцца, запакавацца. *Сколька ўжо ні накупрілыся, нясі, хваціць сь цябе.* НАКУПРАНЫЙ *дзеепрым. Ладныя торбычка была накупріна, панёс у левый руке ґ быльшаку.*

НАКЫШКАЦЬ *зак.* Пазганяць курэй воклічам «кыш». *Многа твой старэй накышкыіць, зываліцца спаць, а куры хуць зьнясіця гарод.* НАКЫШКАЦЦА *зак.* Стаміцца, адганяючы курэй воклічам «кыш». *Якея ныдыядлыя куры, толька атвярнуся, яны ны засіў, во накышкылыся.*

НАЛАЖЫВАЦЬ І, НАЛОЖЫВАЦЬ *незак.* Накладваць. *Старік умеў вазы нылажывыць, бувала, зьдзелыіць, што кукылка. Як ні наложывыў, дык копы стыялі, ні адна ні рызвалілыся.* НАЛАЖЫВАЦЦА, НАЛОЖЫВАЦЦА *незак.* Накладвацца. *Я гляджу, як у цябе красіва хворыст нылажывыіцца. Як ні наложывыіцца, дык будзіць ліжаць, ня йдзе дзеніцца.*

НАЛАЖЫВАЦЬ II, НАЛЯЗАЦЬ *незак. перан.* Прыставаць, чапляцца. *Воч жа лезіць, сам ылáжывыіць, каб зубы пірішчыталі. Доўга нылізáлі, думылі, іх многа, ніхто ні справіцца, а Коля рыськідаў як мышэй.*

НАЛАЛАХАЦЬ, НАЛАЛАХКАЦЬ *зак. неадабр.* Набалбатаць. *Нылылáхыць яны ўмеюць, учыць ні нада. Хрузычкіна тут была і нылылáхкыла, большы некыму.* НАЛАЛАХАЦЦА, НАЛАЛАХКАЦЦА *зак.* Набалбатацца. *Сяньня яны нылылáхыліся, усё посьлібедзьдзя кучыю прыстыялі. Самі ні прідумыюць, калі уволю нылылáхкыюцца.* НАЛАЛАХАНЫЙ, НАЛАЛАХКАНЫЙ *дзеепрым. Дайно було нылылáхына, яны ішчэ ў том месіцы выбуркывыліся паціху. Нешта нылылáхкына, я па іх пывядзенію віджу.*

НАЛАМЛІВАЦЦА *незак.* Надломвацца. *Ці відзіш, у тваім ножыку мысік нылáмлівыіцца.*

НАЛАМЫВАЦЦА *незак.* 1. Надломвацца. *Іголкі пупаліся слабыя, як сеў шыць, кончыкі нылáмывыюцца.* 2 *перан.* Пачынаць, схіляцца. *Мае дзеці рана нылáмывыліся гывaріць, дужа ня ўчылі, а яны турлычуць.* НАЛАМАЦЦА *зак. перан.* 1. Накапрызнічацца. *Піріц свытамі здорыва нулумáўся, усё хацеў пыкызаць сябе.* 2. Пачаць, схіліцца. *Буваіць, доўга ні гаворіць, а тады быйстра нулумáіцца, ета як каторый.*

НАЛАПАЧЫВАЦЬ *незак.* 1. Вастрыць (касу). *Што вы зы касцы, што кос нулупáчывыць ня ўмеіця.* 2 *метаф.* Навейваць уручную. *Знаіш, якея я кучышчы ў сваім гумне нулупáчывыў.* НАЛАПАЧЫВАЦЦА *незак.* Вастрыцца (пра касу). *Айдзе ж будзіць нулупáчывыцца, калі ты бруска дзіржаць ня ўмеіш.* НАЛАПАЦІЦЬ *зак.* 1. Навастрыць (касу). *Ужо ў армію йціць зьбіраіцца, а касу нулупáціць ня ўмеіць.* 2. Навеяць уручную. *Нулупáціў зу пуўдня кучу пышаніцы, будзіць пірагі зіму есьць.* НАЛАПАЦІЦЦА *зак.* Навастрыцца (пра касу). *Ці нулупáцілыся кыса ад бруска хут троху?* НАЛАПАЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Навостраны (пра касу). *Длі вас косы і наклёпыны, і нулупáчыны, толька бяріця ды касіця.* 2. Навеяны ўручную. *У цябе пырядышныя куча нулупáчына, пыдгрібаць у мяшкі нада.*

НАЛЕЖАЦЬ I, НАЛЯЖАЦЬ *зак.* Наляжацца. *Што належыла Пітрачыха пасьледнія гады ў бальніцых, пряма ні вылізала. Многа ён у цябе ныляжыць і ў пялёнкых, і бісь пялёнык, як пылажыў — ён вякыіць.*

НАЛЕЖАЦЬ II *зак.* Зрабіць лежанымі (пра яблыкі,

грушы). *Дзед, бувала, дулік належыць у сені, яны дужа смашныя.* НАЛЕЖАНЫЙ *дзеепрым. Ты мне прінясі належыных яблык, яны смашнейшыя, ні жалей.*

НАЛЕЦЦІКА *н. памянш.* Будучы год. *Прідзіць налецьціка, тады будзім думыць, як зысіваць і ацьсіваццa.*

НАЛІТЭЙ *дзеепрым. перан.* Поўны. *Глянь, якей нылітэй мальчык, чый-то ета.*

НАЛІЦЦА *зак. перан.* Здаволіцца ісці (пра дождж). *Калі ўжо нальлюцца етыя дажджы, столька ільлюць ні пірістываючы.*

НАЛОБНІК *м.* Папярочная частка страхі. *Налобнікі усігда кряпчэй увязывылі, іх вецір часьцей узáрвыіць. Памянш.* НАЛОБНІЧАК. *Нада узноў чыніць налобнічык, пацёк.*

НАЛУПЕЧЫЦЬ *зак. эмац.* Адлупцаваць. *Цябе каб нулупечыў хырашэнька, ты б сваё ірзаньня уняў.* НАЛУПЕЧЫЦЦА *зак. перан.* Наесціся. *Бліноў нулупечыліся ісь сьмітаныю, я ім многа рызьвіла.* НАЛУПЕЧАНЫЙ *дзеепрым. Учора ты нулупечыный рёў, будзіць табе і сяньня тоя самыя.*

НАЛУПЛЕНЫЙ *дзеепрым. перан.* Адлупцаваны. *Сяньня ты ні аткруцісься, нали́плiный спаць ляжыш, і ўнім табе найдзіцца.*

НАЛЫБІЦЦА *зак.* Здзекліва насмяяцца. *Палучыш харошыю узбучку аць Сярьгеіхі, тады налы́бісься.*

НАЛЯГАЦЬ *незак. перан.* Намервацца, ставіць за мэту. *Нылігáіць ехыць у Воршу, ну дужа хочыцца — едзь, табе там дзелыць нечыга.* НАЛЕЖЧ *зак.* Намерыцца, паставіць за мэту. *Раз нылягдлі шубку ўзяць, я надзела ету шубку і пышла, ета маткіна шубка.*

НАЛЯЗАННЕ *н. перан.* Прыставанне, чаплянне. *Я цябе атвучу ат такога нылізáньня, наўчысься ты весьць сябе як нада.*

НАЛЯЗАЦЬ *незак. перан.* Прыставаць, чапляцца. *Чаго табе нылізáць к чылавеку з рызгаворымі, можа яму ні ды цябе.*

НАЛЯЧЫЦЬ *зак.* Палячыць. *Тыкая доктырка налечыць ікраз, як я, думыіш, яе шыптаньня пымыгаіць?* НАЛЯЧЫЦЦА *зак.* Палячыцца значны час. *Нылячы́ўся, ён дык нылячы́ўся, куды толька ня кідыўся, і Мугулёвы, і Смаленскі аб'езьдзіў.*

НАМАДЗЕЦЬ *зак.* Пражыць пэўны час са слабым здароўем. *Сколька ні нымадзею, дык я ў сваёй хаці, ня то, што пу чужых вуглах цігацца.* НАМАДЗЕЦЦА *зак.*

Нажыцца са слабым здароўім. *Толька што нымадзелыся, жызьні яе ніхто ні пызавідыіць.*

НАМАЗАЦЦА *зак.* Стаміцца мажучы. *Ну я сяньня нымáзылыся, пылавіну хаты абмазыла, зымарілыся.*

НАМАЗДАЧЫЦЦА *зак. эмац.* Намучыцца, няўмела аручы. *Плуг туп, конь круціцца, столька я нымыздáчыўся с пыханьнім, ніхай яно згаріць.*

НАМАРДАВАНЫЙ, НАМАРДОВАНЫЙ *дзеепрым.* Намучаны, знясілены. *Коні пріишлі нумурдувáныя, ну што ж ты хочыш, пасьці ўсю ноч цягнулі. Карова нымардовыныя, іна цябе баіцца як ыгня.*

НАМАТУЗАЦЬ, НАМАТУЗІЦЬ *зак.* Адхвастаць матузамі. *Ні я твыя матка, я б цябе нумутузáла, што ныўсігда б зарёкся дражніцца. Нумутужý яшчэ раз, будзіш знаць, як зь дзевычкымі трогыцца.* НАМАТУЗАНЫЙ, НАМАТУЖОНЫЙ *дзеепрым. Ён і нумутузáный ні ўспакоіцца, будзіць адурюваць. Пыбягіш нумутужоный, тады пысьмяесься.* НАМАТУЗЁМШЫ *дзеепрысл. Ні нумутузёмшы, яго ня ўніміш.*

НАМАХЛЯВАЦЦА *зак.* Памахляваць значны час. *Піліп крепка нумухлювáўся, як у нас лаўка была, яго хацелі судзіць, а тады прасьцілі, што быў крыснызвардзейцым.*

НАМАЦЮГАЦЬ *зак.* Налаяць матам. *За нешта крепка Аксён нумуцюгáў таго зыдываку.* НАМАЦЮГАЦЦА *зак.* Налаяцца матам. *Пакуля ні нумуцюгáіцца, ня пойдзіць, тыкая акыянныя прівычка ў чылавека.* НАМАЦЮГАНЫЙ *дзеепрым. Я знаю, што будзіць: пойдзіць ат'етуля ладна нумуцюгáный.*

НАМЕЛЬКАВАЦЬ, НАМЕЛЬКАВАЦЦА *зак.* Намерыцца. *Ну што вы тута нымількувáлі, ці паедзіця заўтря ў Крічыў? Відна, у Сьвітазерья нымількувáліся сяньня кытануць.*

НАМНАГА *прысл.* Намнога. *Як вярнуўся с арміі, стаў нáмныга луччы, як саўсім другей хлопіц.*

НАМУЗДЫЧЫЦЬ *зак.* Няўмела зрабіць. *Што етыя мысьцяреньнікі нумузды́чылі, ні рызьбярі пойміш што.* НАМУЗДЫЧЫЦЦА *зак.* Стаміцца ад няўмелай работы. *Нумузды́чыліся ладна, пакуля пень вывірнулі, нада було зразу хырашо рыскыпаць.* НАМУЗДЫЧАНЫЙ *дзеепрым. Узноў зря-як нумузды́чына, бяріся ды нанывa пірядзелывый.*

НАМУЛІЦЦА *зак.* Пашкодзіцца трэннем. *Нада падушычку у хамут зьдзелыць, плячо ў кыня намýлілыся.*

НАМУЛЕНЫЙ *дзеепрым. Як намуліна, доўга можыць балець, муліньня ні так скора праходзіць.*

НАМУШКАРЫЦЬ *зак.* Стаміць. *Крепкія мушчыны, як пыставюць пысярёд, яны цябе нумушкáрюць, кысца такога.* НАМУШКАРЫЦЦА *зак.* Стаміцца. *Нумушкáрйўся с хворыстым, высікаў лазу зь зямлі, цяжола було.* НАМУШКАРАНЫЙ *дзеепрым. Пpішлі нумушкáріныя, пы стыкану мылыка зьелі і зываліліся спаць.*

НАМЫСЛІЦЬ *зак. перан.* Нажадаць, пажадаць. *Намысьліла іна мне ўсяго-ўсяго самыга харошыга.*

НАМЫЦЦА *зак.* 1. Памыцца. *Многа намыўся: нос пымачыў і бягіць.* 2. Справіцца мыць. *Нешта намыісься мосту етыга, кылі столька грязі носіцца зы ныгамі.*

НАМЯЖДЖУЛІЦЬ *зак.* 1. Намясіць, набрудзіць цестападобным рэчывам. *Нейкыга цеста ці клею нымяжджýлілі ны масту.* 2. Адчувальна пабіць. *Нымяжджýлюць, нымяжджýлюць і пойдзіш зарёўшы.* НАМЯЖДЖУЛЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Намешаны, набруджаны. *Я дык ні прідумыю, чаго тута нымяжджýліна.* 2. Адчувальна пабіты. *Ідзець нымяжджýліный, толька пыхціць, ну ні жаліцца.*

НАМЯЖДЖУРЫЦЬ *зак.* Адчувальна пабіць, натаўчы. *Матку у гылаву нымяжджýріць, іна сядзіць, плачыць,— во ета сын!* НАМЯЖДЖУРЫЦЦА *зак. перан.* Прагна наесціся. *Нымяжджýрійся, аж ня спышыцца, дзьве міскі капусты нылівала яму.* НАМЯЖДЖУРАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Адчувальна пабіты. *Абоя ладна нымяжджýріныя, зь імі ж пряма спасенія ні було.* 2. Сыты. *Нымяжджýріный, пузёнка як ня лопніць.*

НАНЫКАЦЦА *зак.* Пазгінацца ў пошуках. *Зы грібамі наныкыісься, зы кажным разым сыгінайся і сыгінайся.*

НАПАВЕДЖЫВАННЕ *н.* Накіроўванне са зламыснымі намерамі. *Адзін абрасьціць уніманія, а другей любым ныпаведжывыньнім паверіць.*

НАПАВЕДЖЫВАННІК *м.* Той, хто накіроўвае са зламыснымі намерамі. *Як троху нылаюць бакі, етыя ныпаведжывыньнікі успыкаівыюцца, пакуля забудуць.* НАПАВЕДЖЫВАННІЦА *ж. Я Аньціпіну ныпаведжывыньніцу з грязьзю сатру, ніхай мне толька пупадзецца.*

НАПАВЕДЖЫВАЦЬ *незак.* Накіроўваць са зламыснымі намерамі, падбухторваць. *Пірістань-ка ты ныпаведжывыць мальцыў ну дурноя дзела.* НАПАВЕДЖЫВАЦЦА *незак.* Накіроўвацца са зламыснымі намерамі. *Яго ні нада пыдбіваць, ён і сам няплоха ныпаведжывыіцца.*

НАПАВЕДЗІЦЬ *зак.* Накіраваць са зламыснымі намерамі, падбухторыць. *Няўжэлі ты думыіш, што Нісьцярёнка Пііп ныпаведзіў?— ныпрасна ты так думыіш.* НАПАВЕДЗІЦЦА *зак.* Накіравацца са зламыснымі намерамі. *Ліжаў, ліжаў на печы, дурь у гылаву ўскачыла, ныпаведзіўся сваріцца.* НАПАВЕДЖЫВАНЫЙ, НАПАВЕДЖАНЫЙ *дзеепрым. Знаім, што ныпаведжывыный прібігаў к Уліці. Кім ён ныпаведжын — ні знаю, аткуля мне знаць.*

НАПАВОДЖЫВАННЕ, НАПАВАДЖЫВАННЕ *н.* 1. Накіроўванне. *Нічога ні рызыбралі з вашыга ныпаводжываньня, хочыш — у другей бок пойдуць. У тваім ныпыва́джывыньні сам чорт ні рызьбярецца.* 2. Намер. *Усе знаюць яго ныпаводжывыньня: зьбіраіцца Полічку адбіць у Сярёжкі. Ты мне нічога ні гывbooарі, ета Цімкіна ныпыва́джывыньня і большы нічыё.*

НАПАВОДЖЫВАЦЬ *незак.* Накіроўваць. *Ныпаводжывый скот ґ балоту, жарою каровы у вадзе пыстыяць.* НАПАВОДЖЫВАЦЦА, НАПАВАДЖЫВАЦЦА *незак.* 1. Накіроўвацца. *Ета знаіш, куды ён ныпаводжывыіцца?— ґ Быгытырёвым у карты гуляць. Некуды ў бок Сьлёзык ныпыва́джывыюцца нашы хлюсты.* 2. Намервацца. *Ныпаводжывыўся купляць Рябцыву хату, а ці будзіць браць, ці не, хто яго знаіць. Яны даўно ныпыва́джывыліся етый садок аптресьць, ды тама сыбака дужа чуткей.* НАПАВАДЗІЦЦА *зак.* 1. Накіравацца. *Пачулі, што ў Жыгалкых вічарінка, туды ныпыва́дзіліся.* 2. Намерыцца. *Ныпава́дзіўся пыгыварiць ісь Сьпірідонывыю унучкыю, ці ня пойдзіць іна зы яго замуж.* НАПАВАДЖАНЫЙ, НАПАВОДЖАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Накіраваны. *Ніправільна ён ныпыва́джын. Яны ня ў тэй бок ныпаводжыны, куды нада.* 2. Намераны. *Хлопцы былі ныпыва́джыны зывірбувацца на лесанурухтоўкі. Етыя атряхі даўно ныпаводжывыныя Гурбузёнкыў сад апчысьціць.*

НАПАДДАВАЦЬ *зак.* Даць шмат (пары). *Тама ныпыддыва́лі, што ны масту ня ўседзіш, усё гаріць.* НАПАДДАВАЦЦА *зак.* 1. Даць шмат (пра пару). *Ныпыддыва́лыся там, што большы некуды, я ўнізу ня мог высідзіць.* 2. Стаміцца, даючы пару. *Вы ныпаріліся, аж сядзець ня можыця, а я ныпыддыва́ўся, што рукі быляць.*

НАПАДРАЖНЯЦЬ, НАПАДРАЖНЯЦЦА *зак.* Дражнячы, дасягнуць пэўных вынікаў. *Ныпыдрыжня́іш дзяцей, як Зьмітрок хлыбазіну ладныю возьміць. Ныпыдрыжня́ўся, большы ні станіць чыпацца, Яшка ад дуроў умеіць атвучывыць.*

НАПАЗЫЧАНЫЙ *дзеепрым.* Узяты ў доўг. *Піріхваціць к нуждзе буваіць хырашо, ды ныпызычаныя аддываць нада.*

НАПАКАЗЫВАЦЬ *зак.* 1. Шмат паказаць. *Чаго яны мне толька ні ныпыкáзывылі, хваліліся: глядзі, дзед, што ў нас ёсьць.* 2 *перан.* Пакараць. *Што ты мне ныпыкáзывыіш, думыіш, цябе нехта баіцца.* НАПАКАЗЫВАЦЦА *зак.* Шмат паказаць. *Ныхвалілыся, ныпыкáзывылыся: павесіла сушыць і нехта ўхваціў пасьцілычкі.* НАПАКАЗЫВАНЫЙ *дзеепрым.* Паказаны ў вялікай колькасці. *Ну што ўжо там яму ныпыкáзывына, што ён там увідзіў такоя?*

НАПАЛІВАЦЬ *зак.* Паліць усё ў пэўных межах. *Айдзе ж ты ныпылівáіш увесь гарод, духу дасіся, дождждождж нада.* НАПАЛІВАЦЦА *зак.* Стаміцца палівaючы. *Сяньня мы ныпылівáліся, судоў дваццыць прінясьлі, усё пылівалі.*

НАПАНАВАЦЦА *зак.* Нажыцца ў багацці, раскошы. *Іна зы сваю жызьню нупунувáлыся, ніхай якоя ўремя і хужы пажывець, карона ня зьедзіць.*

НАПАПЯРОК, НАПОПЕРАК *перан.* 1 *прысл.* Наперакор. *Сколька ніхай ні пыдбіваюць, Івыняты ныпыпярёк ня пойдуць. У цябе ўжо прівычка тыкая, каб напопірік скызаць.* 2 *прыназ.* Уперак. *Чаго цябе хвытаіць зы лантўшша, я ныпыпярёк дарогі табе ні стынаўлюся. Ні прідумывый, ніхто ў цябе напопірік пуці ні стаіць.*

НАПАРТАЧЫЦЦА *зак.* Напсаваць. *Ты ўжо німала ныпыртáчыўся, хваціць сь цябе.* НАПАРТАЧАНЫЙ *дзеепрым. Таго ныпыртáчына, што зь яго масьціp, як з мае кошкі швейка.*

НАПАРЫВАЦЬ *незак. перан.* Нагаворваць. *Ета ўсё твыя кума ны цябе ныпáрывыіць.* НАПАРОЦЬ *зак.* Нагаварыць. *Нехта ж найшоўся і ны Лыўрінка ныпароў усякія ірунды.*

НАПЕРАЖЫВАЦЦА *зак.* Шмат паперажываць. *Сьпірва па сыну ныпіріжывáлыся, а тады з дачкою так нізыдашна выйшла.*

НАПІТАЦЦА *зак.* Насыціцца. *І калі б яны наеліся, і калі б ныпітáліся, і бяруць, і вылакуць, і цягнуць — і ўсё зь іх ні хвытаіць.*

НАПЛЮШЧЫВАЦЬ *незак. метаф.* Наліваць, нацякаць. *Зымазка пытвáлівылыся, як дождж зь естыга боку, дык і наплюшчывыіць у дзірічкі лі балоныж.* НАПЛЮШЧЫЦЬ *зак.* 1. Плюскаючы, пашкодзіць. *Наплюшчыш во-*

*чы, ныбалыіська, што сьмяцьцём якім засыплюць зьверьху.* 2. Наліць, нацячы. *Што табе, дождж наплюшчыў троху?* НАПЛЮШЧЫЦЦА *зак.* Нацячы. *С-пыт каплёў наплюшчылыся, а ўсігда ж тута сухінька було.*

НАПРАСТУДЖЫВАЦЬ *зак.* Давесці да прастуднага захворвання. *Ныпрастуджывыіш малых, што яны ў цябе саўсім зьлягуць, і так кашыль зыбіваіць.* НАПРАСТУДЖЫВАЦЦА *зак.* Дайсці да прастуднага захворвання. *Вот і ныпрастуджывыўся, цяперя нівісь сколька прыкычаісься.*

НАПРАТАЧКА *ж. памянш.* Адзежына. *Ты ж думый, што пры зіму нада якую ныпрятычку нубуваць, у етый куртычкі ні прабегыіш.*

НАПРАЦЬ *зак.* 1. Наперыць. *Во ныпрала кучу плацьця, нада разьвешывыць сушыць.* 2 *перан.* Пабіць. *Падлезь, падлезь, яны ні пысьцісьняюцца такога хлюста ныпраць.* НАПРАЦЦА *зак.* 1. Наперыцца. *Во ікая куча ныпралыся, сушыся зь ім, айдзе хочыш.* 2. Стаміцца перучы. *А ныпралыся я сяньня, ажно рукі быляць, многа було мыцьця, ны каромісьліку чуць дынісла.* НАПРАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Наперany. *Я ныпраныя разьвешывыю ны дваре, каб вымірзла, тады яно беліњкыя-беліњкыя.* 2. Пабіты. *Знаім, што абоя ныпраныя прівылакліся ж Жыріціна.*

НАПРЫДУМЫВАЦЦА *зак.* Шмат папрыдумваць. *Сколька іна ўсякія лухты на іх ныпрідумывылыся, адзін бог ведыіць і знаіць.*

НАПРЫНІМАЦЦА *зак.* Шмат прыняцца (пра перасаджаныя дрэвы). *Многа бярёзык ныпрінімалыся, ну ён зь зямлёю насіў іх зь лесу.*

НАПСЕЦЬ, НАПСІНЕЦЬ *зак.* Прасякнуцца вадой, набрыняць. *Дровы напселі і саўсім ня хочуць гарець, ці што ў вадзе пыбылі, ці чаго. Палкі былі накрыты саломыю, напсінілі, ім паўлета сохнуць нада.* НАПСІНЕТЫЙ *дзеепрым. Айдзе табе напсінітыя гнятоўя будзіць гарець.*

НАПСІНЬ *ж.* Набрынялая вадой драўніна. *Напсінь ета гарець ня хочыць, ёй сохнуць нада нівісь сколька, ды яшчэ каб жаркыя лета.*

НАПЫРСКАЦЦА *зак.* Шмат папырскаць. *Уніму с пырскыньнім, я цябе січас напырскыюся, як хлыбазіну вазьму.* НАПЫРСКАНЫЙ *дзеепрым. Сатрі сухім вехцім усё напырскыныя, куды ты людзей содзіш.*

НАПЯЛЕТАВАЦЬ, НАПЯЛЕТАЦЬ *зак. эмац.* Насы-

ціць. *Ніяк яго ні ныпялетывыіць. Калі цябе ныпялетыіць, я ж табе чацьвёртыю місішчу ныліваю.* НАПЯЛЕТАВАЦЦА, НАПЯЛЕТАЦЦА *зак.* Наесціся. *Прішоў, каб ныпялетывыцца, чаго ён яшчэ пойдзіць. Сеў, ныпялетыўся, тады дывай руссуждаць, як ета аднаму няўдобна жыць.* НАПЯЛЕТАВАНЫЙ, НАПЯЛЕТАНЫЙ *дзеепрым. Чаго ім пра што думыць, пашлі ад Ганны ныпялетывыныя. Ныпялетыный ці не, алі ж ні галодный.*

НАРАЗВАРЗЁҚЫВАЦЬ, НАРАЗВАРЗЁПЫВАЦЬ, НАРАЗВАРЗЁПҚЫВАЦЬ *зак. эмац.* Наквэцаць, напэцкаць. *Дзеці тута елі, ныpызварзёқывылі, пыдажджы, прібяру трошку. Ні пускай сюда пырысят, яны столька ныpызварзёпывыюць, што ат усяго атрякесься. Лі ґанык грязі ныpызварзёпкывылі, што ступіць нейдзі.* НАРАЗВАРЗЁҚЫВАЦЦА, НАРАЗВАРЗЁПЫВАЦЦА, НАРАЗВАРЗЁПҚЫВАЦЦА *зак.* Наквэцацца, напэцкацца. *Қылы шаік цеста ныpызварзёқывылыся, пацскресьць нада. Чаго ў цябе так ныpызварзёпывылыся усюдых? Қылй ныpызварзёпкывылыся, дык самой нада прібраць, а ні надзеіцца ны каго-то.* НАРАЗВАРЗЁҚЫВАНЫЙ, НАРАЗВАРЗЁПЫВАНЫЙ, НАРАЗВАРЗЁПҚЫВАНЫЙ *дзеепрым. Нейкыга цеста ныpызварзёқывына і ні прібрана. Нешта хызяйка тута дзелыла, ны загнеці нечыга ныpызварзёпывына, што пыставіць нічога нілізя. У акуратныя хызяйкі столька ныpызварзёпкывына ня будзіць, іна знайдзіць уремя прібраць.*

НАРАЗМУНДЫҚЫВАЦЬ, НАРАЗМУНДЫҚЫВАЦЦА *зак. іран.* Дабалбатацца. *Нурузмундыкывыіця, што дождж хляніць і ўсё сена змочыць. Нада ж так нурузмундыкывыцца, каровы еткій кусок выку стравілі.*

НАРАЗМЯЖДЖУРЫВАЦЬ *зак.* Шмат расціснуць, растаўчы. *Хто йта столька бульбы ныpызьмяжджўрівыў ны стале?* НАРАЗМЯЖДЖУРЫВАЦЦА *зак.* Шмат расціснуцца, растаўчыся. *Ні само ж яно ныpызьмяжджўрівылыся, хто-то пыстыряўся.* НАРАЗМЯЖДЖУРЫВАНЫЙ *дзеепрым. Вазьмі вехыць ды пысьцірай усё ныpызьмяжджўрівыныя.*

НАРАЗУРАЦЬ *зак.* Паразбураць. *Я вас січас нурузуряю гнязьдзечкі, я вас, ета ж нада такімі балыўнікымі быць.*

НАРАМАНЦІРАВАЦЬ *зак.* Парамантаваць. *Ня дужа такей гультай ныріманьцірыіць, ён увесь дзень паць сьлівычкымі прывыляіцца.* НАРАМАНЦІРАВАЦЦА *зак.* Стаміцца рамантуючы. *Сяньня Хведзя ныріманьцірывыў-*

*ся, хваціць зь яго.* НАРАМАНЦІРАВАНЫЙ *дзеепрым. Відзіш, сколька ныріманцірывына: кáчычка як стыяла пулуманыя, так і стаіць.*

НАРАПТАВАЦЬ *зак. эмац.* Нагрузіць. *Адзін раз як пасеілі нямецкія бульбы, дык мы к абеду кучу нурупту-вáлі.* НАРАПТАВАЦЦА *зак.* Нагрузіцца. *Дынілёнык нуруптувáўся і сеным, і дрывамі, кажныя дзірька зыпірьх-нута.* НАРАПТАВАНЫЙ *дзеепрым. Қылы яго нурупту-вáна куча бярьвеньня, на дзьве хаты хваціць і астаніцца.*

НАРАСҚУРОЧЫВАЦЬ *зак. эмац.* Шмат пакарчаваць, разбурыць. *Многа нурускурочывылі ў Стахоўшчыні, кустоў нугуртувалі.* НАРАСҚУРОЧЫВАЦЦА *зак.* Стаміцца, шмат пакарчаваўшы, разбурыўшы. *Сяньня яны нурускурочывыліся, уволю пыработылі.* НАРАСҚУ-РОЧЫВАНЫЙ *дзеепрым. Многа нурускурочывына, як дывядуць ды кынца, ладныя поля будзіць.*

НАРВЫВАЦЦА *незак.* Натрапляць. *Я два разы ны ваўкоў нáрвывыўся, ну неік апхадзілыся, яны ня кіды-ліся.*

НАРОДЗІШЧА *м. павеліч.* Народ. *Народзішчу було ў горыдзі, нійдзе ні прытаўхнуцца.*

НАРОЖНІЧАҚ *м. памянш.* Дзве сценкі хлява, зрубленыя ў вугал. *Ны трісьцен лес кырыткаў, прідзіцца два нарожнічкі зрубіць.*

НАРУБ *м.* Зруб (над чым-н). *Райчонык зьдзелыў нáруб ны крынічку, усе хадзілі туды брацъ ваду, іна харошыя, смашныя.*

НАРУГАЦЕЛЬНА *прысл.* Здзекліва. *Штоб свайму дзірявенскыму дзелыць так нуругáцільна!*

НАРУГАЦЕЛЬНАСЦЬ *ж.* Здзек. *Аднае нуругáцільнысьці ат іх даждэжэсься, большы нічога.*

НАРУГАЦЕЛЬНІҚ *м.* Той, хто здзекуецца. *Қурбачо-нык быў нуругáцільнік, адзін бог ведыіць, што Полька ат яго піріцярьпела.*

НАРУМЗАЦЬ *зак.* 1. Наплакаць. *Сядзіць, вочы нарю́мзыў, увесь праступджыный і пускай ты яго на вуліцу, ніхай большы прастудзіцца.* 2. Атрымаць пакаранне за плач. *Ты ў мяне нарю́мзыіш, што ныпраўду зыряведш.* НАРУМЗАЦЦА *зак.* Наплакацца. *Ці ты нарю́мзылыся ай табе яшчэ троху ўремя даць?* НАРУМЗАНЫЙ *дзее-прым.* Наплаканы. *Ідзі, вочы нарю́мзыныя прамый ды ў зеркыла пыглядзі, ны каго ты паходж.*

НАРУХАЦЦА *зак.* 1. Нарохкацца. *Нарю́хыліся пацьсьвінкі, пакуля мы з горыда пріехылі, зыхацелі есьць.* 2

*перан. груб.* Набурчацца. *Ніхай толька пыкажыцца штонібудзь ні па ём, уго сколька нарюхыіцца.*

НАСАВЕТАЦЬ *зак.* Нараіць. *Нысаветый ты мне айдзе-небудзь пытхыдзяшчыга ведымныга пацьцёлка.* НАСАВЕТАЦЦА *зак.* Параіцца з многімі. *Сь кім ты толька ні нысаветыўся, усё ні пы табе.* НАСАВЕТАНЫЙ, НАСАВЕТЫВАНЫЙ *дзеепрым. Я пынадзеіўся, што нысаветыныя кароўка будзіць нічога, а іна во ікая. Мала што яму було нысаветывына, ён нічога ў рязон ня хочыць брацьь.*

НАСАСТАНАЎЛІВАЦЬ *зак.* Пабудаваць, вывесці ў сцены ўсё, шмат. *Многа яны нысыстынаўлівылі, атряхі етыя, дзень прыкычаліся пыд яблынымі.* НАСАСТАНАЎЛІВАЦЦА *зак.* 1. Пабудавацца (пра ўсё, шмат). *Сколька ні хадзіця кружка́, само ні нысыстына́ўлівыіцца, нада сваімі рукамі брацца.* 2. Стаміцца будуючы. *Нысыстына́ўлівыліся мы за лета, амяглі.*

НАСАСТЫЙ *прым.* Насаты. *У іх уся пріpода нысáстыя, ішчэ прадзід, помню, хадзіў во с такім насюгыю. Памянш.* НАСАСЦЕНЬКІЙ. *Так яны нічога дзяўчонкі, і прыцаўнэя, і уважыцільныя, трошку нысáсьцінькія.*

НАСАЎСЕМ *прысл.* Назусім. *Гыварíў, што едзіць нысаўсем, а ціріс паўгода іўляіцца: сустрюкайця, сёстры.*

НАСАЦІК *м. гумар.* Насаты чалавек. *Ніхай ён будзіць нысáцік ці яшчэ хто, каб толька сям'ю глядзеў ды ні тапіўся ў гарелішчы. Памянш.* НАСАЦІЧАК. *Пыдрыстаіць нысáцічык, і рохтычкі бацькіны пыдыбраў.* НАСАТКА *ж. Бірягі сваю нысáтку, ато сьлёзкыўскія хлопцы ны яе даўно зыглідаюцца, аж аблізывыюцца. Памянш.* НАСАТАЧКА. *Вачэй з Домніныя нысáтычкі ні спускаіць, баіцца, каб ні ўцікла к мазылыўцым.*

НАСВАДЗЬБІЦЦА *зак.* Намеціцца (пра вяселле). *У Пырхімёнка нысвáдзьбілыся: учора ґ дачке сваты пріjжджалі іж Жыріціна.*

НАСІЛАЧКУ *прысл. памянш.* Насілу. *Хадора насілычку мяне дывіла, мы ці ні пыдгарелі: жарок быў.*

НАСКАЧЫВАЦЬ *зак.* Скаціць шмат. *Узяў граблі, ныскáчывыў, ныскáчывыў каню сена,— еж.* НАСКАЧЫВАЦЦА *зак.* Скаціцца шмат. *Глянула я зы саломыю, а тама дзісяткі два яец ныскáчывылыся, куры нясьліся на пунькі, а каты лазілі і яйцы каціліся.* НАСКАЧЫВАНЫЙ *дзеепрым. Ладныя куча бярьвеньня ныскáчывына, рубіць толька некыму.*

НАСКОБЛІВАЦЬ *незак.* Скабліць звыш патрэбы.

*Нашто табе столька бульбы наскоблівыць, хто яе есьць будзіць.* НАСКОБЛІВАЦЦА *незак.* Скабліцца звыш патрэбы. *У іх усігда многа бульбы наскоблівылыся.*

НАСЛЫШКІ *звыч. мн.* Чуткі. *Былі наслы́шкі, што Пайка пріїжджаў у горыд, угыварівыў жонку, каб іна прініла яго.*

НАСОХНУЦЦА *зак.* 1. Доўгі час сохнуць. *Тоя сена насохлыся, сколька само хацела,— штоб быць такімі гультуямі, ношкі травы ні прібраць.* 2 *перан.* Наперажывацца. *Насохлыся Юлька пы дзіцях, як паехылі, паўгода ні слуху ні духу.*

НАСПІРАЦЦА *зак.* Паўпарціцца. *Нысьпіра́іцца, што рімушок вазьму і аччашў бакі, айдзе й сьпіраньня дзеніцца.*

НАСПІРТАВАЦЦА *зак. перан.* Насыціцца. *Зімля нысьпіртува́лыся вадою, а дождж ільлець і ільлець.*

НАСПРАЎЛЯЦЦА *зак.* Мець магчымасць спраўляцца. *Айдзе йна адна нуспруўля́іцца і мыць, і пыдывваць, і яшчэ ў калхоз бежч ны работу,*

НАСТАНАЎЛІВАЦЬ, НАСТАНОЎЛІВАЦЬ *незак.* Ставіць у вялікай колькасці. *Ні ныстына́ўлівый зразу столька на стол, луччы посьлі пыднясеш і пыставіш. Нашто сюда усякыга бырыхла ныстаноўлівыць, тута прібіраць нада.* НАСТАНАЎЛІВАЦЦА, НАСТАНОЎЛІВАЦЦА *незак.* Ставіцца ў вялікай колькасці. *Чаго тольки сюда ні ныстына́ўлівыіцца! Што ні нада, усё ў клеці ныстаноўлівыіцца.* НАСТАНАВІЦЬ *зак.* Паставіць у вялікай колькасці. *Ныстынавілі кучу бутылык, зь імі нейдзі дзівацца, пыздываць ба ці што.* НАСТАНАВІЦЦА *зак.* Паставіцца ў вялікай колькасці. *А во патрошку, патрошку і ныстынавілыся ірунды, нада рызыбраць і лішнія пывыкідывыць.* НАСТАНОЎЛЕНЫЙ *дзеепрым. Усе ныстаноўлиныя пыляцела с палічкі.*

НАСТАРАСТВАВАЦЬ *зак.* Пабыць на пасадзе старасты. *Многа ён тама ныста́рыстввывый, дзьве нядзелі пабыў.* НАСТАРАСТВАВАЦЦА *зак.* Набыцца на пасадзе старасты. *Якый ныста́рыстввывыўся уволю, ета служба яму нырвавілыся.*

НАСТОЛІВАННЕ *н.* Насціланне столі. *Як тута ваша настолівыньня, ці дзьвігыіцца трошку ўпярёд?*

НАСТОЛІВАЦЬ *незак.* Насцілаць столь. *Заўтря мы пычанём настолівыць, некуды цягнуць дальшы.* НАСТОЛІВАЦЦА *незак.* Насцілацца (пра столь). *Ня дужа быйстра настолівыіцца, пакуля пустругаіш, падгоніш,*

*урея йдзець.* НАСТОЛІЦЬ *зак.* Наслаць столь. *Зы чатырі дні настолілі столь, крепка работылі.* НАСТОЛІЦЦА *зак.* Наслацца (пра столь). *Як настоліцца хата, тады у мяне трошку пысвыбаднеіць с уремім.* НАСТОЛЕНЫЙ *дзеепрым. Трі кватэркі настоліна, а ны чацьвёртыю трошку достык ні хвытаіць.*

НАСТРАГАВАЦЦА *незак.* Крыху берагчыся. *У яго была язва, цяперя яму нада нустругува́цца, есьць толька малошныя.*

НАСТРАПАЛІВАННЕ, НАСТРАПАЛЯННЕ *н.* Падбухторванне. *Ніхай яны ня дурюць гылаву, нічога зь іхныга ныстрыпа́лівыньня ні палучыцца. Ета ныстрыпыляньня другей год цягніцца, ізыкамі треплюцца і ўсё.*

НАСТРУГАЦЬ *зак. перан.* 1. Паўшчуваць. *Што, кылі ты яго нуструга́іш, ён сваё як тваріў, так і тваріць будзіць.* 2 *іран.* Нарабіць (дзяцей). *Я знаю, якей зь яго будзіць хызяін: дзяцей нуструга́іць і паедзіць, а ты, баба, адна гадуй.* НУСТРУГАНЫЙ *дзеепрым.* Паўшчуваны. *Ну хуць жа тройку нуструганый гылаву павесіў, можа думыць станіць.*

НАСТУКАЦЬ *зак.* Нагрукаць. *Малый насту́кыіць у сенцых, што посыд паб'ець, тады ўкусі яго.* НАСТУКАЦЦА *зак.* Нагрукацца. *Ну, ці ты ўжо насту́кыўся ай ішчэ мала пугрюкута́ў.*

НАСТУПАЦЬ *незак.* Мець магчымасць станавіцца. *Глубока нагу пасек, доўга ліжаў, цяперя чуць нуступа́іць.*

НАСТЫРНА *прысл.* Настойліва, напорыста. *Мы толька посьлі пынялі, чаго яны так настырна лезьлі к Сумусінятым.*

НАСУКАВАЦЦА *зак.* Здаволіцца замаўляннем словам «сук» пры гульні ў мяч. *Січас ты нусуку́ісься: захныкыіш і пойдзіш.* НАСУКАВАНЫЙ *дзеепрым. Ета табе нусукава́на, што ты зьбіўся.*

НАСУНУВАЦЬ, НАСОВЫВАЦЬ *незак.* Закрываць хмарамі. *Скарей грябіця, пычынаіць насунувыць аттуля, с-пат Ходыс. Учора атліў, а сяньня узноў насовыыіць.* НАСУНУВАЦЦА, НАСОВЫВАЦЦА *незак.* Закрывацца хмарамі. *Увідзілі, што пычало насу́нувыцца, скарей, скарей сена ны вазы, чуць пасьпелі ды дажджу. Глядзіця, калі пычанець насовывыцца, знасіця снапы ў бабкі.* НАСУНУТЫЙ *дзеепрым. Було дужа насу́нута, думылі, вот-вот хляніць дождж, а тады рызыгнала.*

НАСУПЯРЭК *прысл.* Наперакор. *Ты нусупярек нічога ні гывары, і ён пыціішэіць.*

НАСЦЕРАГАЦЬ *незак.* Берагчы. *Дзіцёнка нада нысьцірігáць, ні дывай адною зеліньню зытыхацца.*

НАСЦІГАННЕ *н.* Настойванне, прымушэнне. *Нам ізьвесна яе нысьцігáньня: як прістаніць — ні атвяжысься, хут ты махылым мыхайся.*

НАСЦІГНУЦЬ *зак.* Настояць. *Як насьцігла баню тапіць і яго паріць, у баню і ў два венікі паріць.*

НАСЮГА, НАСІШЧА *м. павеліч.* Нос. *Пріїжджай с Танькыю нейкій мушчына, вушы тырчаць, насюга во еткій, як дуга. У яго насішча рос наверна ны піцярых.*

НАСЯРБАЦЦА *зак.* Насёрбацца. *Доўга ім нысірбáцца, па дзьве ложкі зьелі і гатовы, сыты.*

НАТАЛДОНІЦЬ, НАТАЛДЫЧЫЦЬ *зак. эмац.* Нагаварыць пустога. *Яны ныталдонюць чаго хочыш, прідумыюць, чаго ў сьвеці ні було. Мала што мыхалей ныталды́чыць, я ні аднаму яго слову ня верю.* НАТАЛДОНІЦЦА, НАТАЛДЫЧЫЦЦА *зак.* Нагаварыцца попусту. *Пакуля ныталдонюцца, ты іх ні піряжджэш. Іх толька ні рызьвядзі, яны за судкі ні ныталды́чуцца.* НАТАЛДОНЕНЫЙ, НАТАЛДЫЧАНЫЙ *дзеепрым. Ні прідумыць, чаго ім ныталдоніна, яны самі ні знаюць, ці веріць, ці не. Ні знаю, што ім ныталды́чына, ну чуствыю, што здорыва напета.*

НАТАП *ж.* Месіва, дрыгва. *Што ў цябе ны дваре нáтып, прівёз ба пяску ды насыпый.*

НАТАПТОРЫВАННЕ *н. эмац.* Накладанне звыш меры. *Ні нада ета ныталторівыньня, куды я што вазьму, у руках многа ні пынясеш.*

НАТАРКЫВАЦЬ, НАТОРКЫВАЦЬ *незак.* 1. Уторквацы. *Нашто вы пад ногі усякыга лымачча нытáркывыіця? Паўлік січас ны гародзі быў, пыт квасолю пруткоў наторкывыў.* 2. Насаджваць. *Грібы харошыя, а брацы некуды, дывай мы нытáркывыць кыріньками ны лазіну, так і нясьлі. Яблыкі наторкывыюць ны лазіны і зымахывыюць.* 3. Насейваць. *Я б ні нытáркывыла столька быракоў, яны ўсё дно астаюцца. Многа бруквы ня стоіць наторкывыць, зь яе німа ніякыга толку.* 4 *перан.* Апранаць, абуваць. *Ні нада такую тряпку нытáркывыць, чысьцейшую рубашку надзень. Лі хаты я во етыя валінкі наторкывыю і топкыюся.* НАТАРКЫВАЦЦА, НАТОРКЫВАЦЦА *незак.* 1. Насаджвацца. *Неік у цябе саўсім*

*дренна лупатка нытáркывыіцца. Пыкажы, як у цябе наторкывыіцца?* 2. Узбівацца. *Я ўжо ні раз нытаркывыўся ны тваё украшэнія, ну я яго пріпучу, як у печ укіну. Ты сам кажын раз будзіш наторкывыцца на ета ражэньня, луччы прібярі.* 3. Натыкацца. *Ён мне два разы нытáркывыўся у горыдзі. Я ні хацеў ба ны Стыхвана наторкывыцца.* 4. Надзявацца, набувацца. *Етый старёнык толька пад дождж нытáркывыіцца. Нешта тваe чобыты мне ні наторкывыюцца.* НАТОРНУЦЬ, НАТОРКНУЦЬ *зак.* 1. Наторкаць. *Нашто вы пруцін тута наторнулі? С аднаго боку пруцьця пыд гарох наторкнулі.* 2. Насадзіць. *Наторкні вілкі ны якую палку, трошку пыкідаіш салому. Ета ж ён гырлач наторкнуў у кустах, усё дно як нехта стаіць.* 3. Адзець, абуць. *У грязныю работу кылі што й старейшыя наторніш, пызнаюць цябе. Наторкні боты на босыю нагу ды выйдзі глянь, хто там ляскыіць.* НАТОРНУЦЦА, НАТОРКНУЦЦА *зак.* 1. Насадзіцца. *Нада чыряна зайстріць большы, так лупатка ні наторніцца. А ладна будзіць, трошку наторкніцца і ўсё.* 2. Узбіцца. *Упацёмку можна ны якую прытырчаку наторнуцца. Глядзі, вілкі ліжаць, ішчэ наторкнісься.* 3. Наткнуцца. *Мы ны яго случайна наторнуліся, і ён ня думыў нас тут увідзіць. Глядзі, каб ні наторкнуцца ны Гапку, іна ўсім рызбрязкочыць.* 4. Надзецца, набуцца. *Старінькій пінжачок наторніцца, усё цяплей будзіць. Што наторкніцца, то й ладна, ліж ба ні бысяком.* НАТОРНУТЫЙ, НАТОРКНУТЫЙ *дзеепрым.* 1. Насоджаны. *Тапор чуць наторнут, во глядзі, звалііцца. Кашолычка наторкнута ны граблі, відна, аборык айдзе-то выкысіў, гресьць пашоў.* 2. Надзеты, набуты. *Мы сядзелі ны лавычкі, а посьлі старік выйшыў, разьбітыя боты на ногі наторнуты. Ірваныя куртка наторкнута, пашоў змыгарь с Просію.*

НАТАСОВЫВАЦЬ *незак.* Падтасоўваць. *Ці відзіш, як ён сваім нытасовывыіць чылавекыў, а нам адных малодык.* НАТАСОВЫВАЦЦА *незак.* Падтасоўвацца. *У цябе ладна нытасовывыіцца: усе козырі сабе.* НАТАСАВАЦЬ *зак.* Падтасаваць. *Ты тэй раз нутусувáў сабе луччых карт, а етый раз ні дадзім так дзелыць.* НАТАСАВАЦЦА *зак.* 1. Перамяшацца (пра карты). *Табе, знаць, нутусувáліся харошыя карты, а ў мяне толька малодкі.* 2. Падтасавацца. *Пыглядзім, што ў яго на етый раз нутусувáлыся.* 3. Стаміцца тасуючы. *Сяньня вы нутусувáліся ў ахоту, усё ўремя прыйгрывалі.* НАТАСА-

